# УСТУПНАЕ СЛОВА

*Вядома, загаловак гэтай кнігі не можа не выклікаць пэўнага здзіўлення ў чытачоў. І сапраўды, дзяржава беларуская, а назву мае літоўскую. Тым больш што ў гістарычнай навуцы ўмацавалася сцвярджанне, што Вялікае княства Літоўскае (ВКЛ) было літоўскай дзяржавай у сучасным значэнні гэтага слова, што яго ўтварэнне пачалося з заваявання літоўскім князем Міндоўгам у сярэдзіне XIII ст. шэрагу беларускіх земляў, і ў першую чаргу так званай Чорнай Русі з гарадамі Наваградкам, Ваўкавыскам, Слонімам, Гародняй і інш.*[1] *Здавалася б, што такое рэдкае ў навуцы адзінадушша трымаецца на бясспрэчных гістарычных сведчаннях. Але яшчэ ў свой час было зазначана, што «у верагодных крыніцах не дайшло да нас ніякіх звестак аб пакарэнні Літвой гэтага ўчастка»*[2]*. З таго часу прайшло звыш 100 гадоў, але ў даследчыкаў не з'явілася ніводнай крыніцы, якая б пацвярджала літоўскае заваяванне якой-небудзь беларускай зямлі*[3]*.*

*Нават У. Пашута ў сваёй вялізнай працы аб утварэнні Літоўскай дзяржавы, дзе можна было б чакаць дэталёвага разгляду гэтага гістарычнага факта, гаворыць аб ім як бы мімаходзь: «У Чорнай Русі, якой Міндоўг ава-*

*лодаў у 40-х гадах XIII ст., выкарыстаўшы для рускай зямлі вынікі мангольскага нашэсця, княжыў яго сын Войшалк»*[4] *. І ўсё ж... гэты даследчык, кніга якога садзейнічала яшчэ большаму ўмацаванню ў нашай гістарыяграфіі сцверджання аб літоўскім заваяванні Беларусі, відаць, не быў упэўненым у правільнасці гэтага і іншых сваіх тэзісаў, звязаных з утварэннем і далейшай гісторыяй ВКЛ, калі палічыў патрэбным адзначыць: «Далейшыя поспехі нашай навукі, магчыма, прывядуць да перагляду прапанаваных тут аргументаў і высадаў. Чым хутчэй гэта адбудзецца, тым лепш»*[5]*. Так, перагляд патрэбны. Сучасная гістарычная навука не можа мірыцца з бяздоказнымі сцверджаннямі, таму пытанне аб утварэнні ВКЛ і яго далейшай гісторыі павінна быць прыведзена ў адпаведнасць з гістарычнымі сведчаннямі.*

**Мікола Ермаловіч**

# ГІСТОРЫЯ ПЫТАННЯ

Часцей за ўсё тэндэнцыйна скажаецца пачатковая гісторыя той ці іншай дзяржавы. Так здарылася і з гісторыяй ВКЛ, першыя старонкі якой да непазнавальнасці зацемнены міфам аб літоўскім заваяванні Беларусі. Ён мае даўнюю гісторыю. Яго ўзнікненне адносіцца да XVI ст., калі ішла абвостраная барацьба Маскоўскай дзяржавы за беларускія і ўкраінскія землі, якія знаходзіліся ў той час у складзе ВКЛ. Тады была выкарыстана не толькі вайсковая сіла, але і ідэалагічныя сродкі барацьбы. Патрэбна было абгрунтаваць законныя правы Рускай дзяржавы на Беларусь і Украіну. Гэта і было адной з мэт літаратурна-публіцыстычнага твора «Сказание о князьях владимирских», які з'явіўся ў першай трэці XVI ст. Дзеля гэтага ў яго і быў уключаны раздзел «Родословие литовских князей», змест якога коратка зводзіцца да наступнага.

Ратуючыся ад татарскага пагрому Батыя, нейкі Віцянец, які нібыта быў родам са смаленскіх князёў, уцёк у Жамойць (так тут называецца Літва), пасяліўся там і ажаніўся з дачкой бортніка. Праз трыццаць гадоў ён быў забіты перуном. Пасля гэтага жонку Віцянца забраў ягоны раб конюх Гегіменік. І вось у хуткім часе маскоўскі князь Юрый Данілавіч паслаў гэтага Гегіменіка «на Волоскую землю и на Киевьскую (г.зн. на Украіну) и на обь сю страну Меньска (г.зн. Беларусь)» браць з іх царскія даніны. Гегіменік, «мужь храбр зело и велика разума», беручы даніну, назбіраў шмат багацця, пачаў валодаць многімі землямі і дзякуючы нязгодам і міжусобіцам паміж рускімі князямі стаў першым вялікім літоўскім князем[6]. Палітычная мэта гэтай выдуманай гісторыі пра літоўскіх князёў Віценя і Гедзіміна была ясная: літоўскія князі, выкарыстаўшы цяжкі для Русі час, самаўпраўна прысвоілі сабе беларускія і ўкраінскія землі і

цяпер павінны вярнуць іх законным гаспадарам — маскоўскім князям.

Зразумела, што ў ВКЛ усё гэта не магло застацца без адказу. Тым больш што ў 1561 г. гэта дзяржава ўступіла ў Лівонскую вайну, і пагроза страты беларускіх земляў стала рэальнасцю: у пачатку 1563 г. войскі Івана Грознага занялі Полацк. У гэты крытычны момант і з'явіліся летапісы, якія ў сучаснай навуцы прынята называць беларуска-літоўскімі, бо ў іх, як лічыў М.М. Улашчык, выкладаецца гісторыя ВКЛ і напісаны яны на беларускай мове. Менавіта яны і пазней створаная ў значнай меры на іх аснове «Хроніка» польскага гісторыка М. Стрыйкоўскага побач з іншым павінны былі даказаць гістарычныя правы ВКЛ на беларускія землі, у тым ліку і на Полацк, заняты ў той час рускімі войскамі. Захоп літоўскімі князямі беларускіх земляў гэтыя летапісы і «Хроніка» Стрыйкоўскага, як і «Сказание о князьях владимирских», таксама адносяць да часу нашэсця Батыя, толькі прыпісваюць гэта іншым асобам, а менавіта жамойцкім князям. Чаму гэта так, стане зразумелым, калі прыгадаць, што апошнія ў той час апынуліся ў больш выгадным становішчы. У выніку Грунвальдскай перамогі (1410) спыніліся напады нямецкіх крыжакоў на Жамойць (заходняя частка сучаснай Літвы). У той жа час шматлікія войны, якія вяліся ў XV — XVI стст. паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, адбываліся на беларускіх землях, што аслабляла ў дзяржаве пазіцыі іх феадалаў. Жамойцкія магнаты, адчуўшы сваю сілу, сталі прэтэндаваць на першынство ў дзяржаве і таму імкнуліся прыпісаць сабе і заслугу ў яе стварэнні. Вялікую ролю ў падрыхтоўцы «Хронікі» Стрыйкоўскага адыграў біскуп Гедройц — ідэолаг жамойцкай нацыянальнай партыі ў другой палове XVI ст. Ён забяспечыў Стрыйкоўскага шматлікімі і, відаць, тэндэнцыйна адрэдагаванымі ім летапісамі. Гедройц і фінансаваў выданне «Хронікі» ў Кёнігсбергу ў 1582 г.

Таму не дзіўна, што, паводле некаторых летапісаў і «Хронікі» Стрыйкоўскага, менавіта вялікі князь жамойцкі Мантвіл, убачыўшы, што ў выніку нашэсця Батыя рускія землі спустошаны і князі рускія разагнаны, даў войска свайму сыну Ердзвілу, і той, перайшоўшы Вяллю, а пасля і Нёман, знайшоў гару прыгожую і заснаваў на ёй горад, назваўшы яго Но-

вагародкам і зрабіўшы яго сваёй сталіцаю (ужо адно тое, што жамойцкі князь даў створанаму ім гораду славянскую назву, сведчыць аб выдуманасці гэтай падзеі). Пасля гэтак жа сама ўзнавіў іншыя гарады, разбураныя Батыем[7].

Аўтары летапісаў і Стрыйкоўскі да непазнавальнасці заблыталі гісторыю, паперастаўлялі падзеі, перайменавалі гістарычных асоб, а то і проста рабілі падлог. У гэтых адносінах характэрная перадача падзей, якія нібыта прывялі да заваявання Літвой Полацка. Тут засталіся некаторыя дэталі, якія даюць магчымасць аднавіць гістарычную праўду. У Іпацьеўскім летапісе пад 1162 і 1167 гг. апавядаецца пра міжусобную барацьбу полацкіх і менскіх князёў. У 1162 г. полацкі князь Рагвалод пайшоў на аднаго з менскіх князёў Валадара Глебавіча. Апошні, ухіліўшыся ад бою днём, ноччу наступіў са сваім войскам, набраным з «літвы», на палачан і разбіў іх пад Гарадком. Паражэнне было страшэнным, і Рагвалод пабаяўся варочацца назад у Полацк. Палачане ўзялі сабе новага князя Усяслава Васількавіча. У 1167 г. ужо сам Валадар Глебавіч пайшоў на Полацк і перамог палачан. Усяслаў Васількавіч уцёк з Полацка ў Віцебск, а Валадар Глебавіч стаў на кароткі час полацкім князем, пакуль не быў разбіты на Дзвіне[8].

Для аўтараў летапісаў гэтыя падзеі і з'явіліся вельмі зручнымі для апрацоўкі іх у патрэбным кірунку. У іх падзеі 1162 і 1167 гг. аб'яднаны ў адно, Валадар Глебавіч, названы Мінгайлам — сынам жамойцкага князя Ердзвіла, які быццам бы княжыў у Новагародку. Дык вось нібыта пасля смерці бацькі Мінгайла, разбіўшы палачан пад Гарадком, захапіў Полацк і стаў адначасова вялікім князем полацкім і новагародскім. Пасля яго смерці засталіся два сыны, адзін з якіх, Гінгвіл, стаў быццам бы княжыць у Полацку. Ён, ажаніўшыся з цвярской князёўнай Марыяй, прыняў хрысціянства. Пасля яго смерці ў Полацку княжыў яго сын Барыс, які заснаваў горад Барысаў і пабудаваў у Полацку царкву святой Сафіі[9]. Каб зрабіць гэтыя звесткі яшчэ больш пераканаўчымі, Стрыйкоўскі ў сваёй «Хроніцы» сцвярджаў, што на свае вочы бачыў недалёка ад Полацка Барысаў камень, на якім было напісана: «Помоги Господи рабу твоему Борису, сыну Гингвилову»[10]. Няма чаго казаць, што ўсё гэта выдумка. Барысавага каменя з такім надпісам ніколі не існавала і не магло існаваць, бо полацкі князь Барыс

быў сынам славутага Усяслава Чарадзея. І наогул, полацкія князі не маглі паходзіць ад жамойцкіх, бо княжылі задоўга да апошніх. Гаворка тут можа ісці пра адваротнае — пра паходжанне князёў Літвы ад полацкіх, што мае пад сабой, як мы ўбачым далей, рэальныя падставы.

Пра тое, як фальсіфікаваў Стрыйкоўскі гісторыю ў кірунку перабольшвання літоўскай сілы і небяспекі, яскрава сведчыць такі факт, прыведзены ў свой час М. Дашкевічам. Рускі летапіс пад 1089 і 1103 гг. паведамляў, што на рускую зямлю напалі «прузи», г.зн. саранча. Пад пяром польскага храніста XV ст. Я. Длугаша «прузи» ператварыліся ў прусаў, адно з балцкіх плямёнаў. Стрыйкоўскі ж, беручы гэта месца ў Длугаша, да прусаў дадаў яшчэ літоўцаў і яцвягаў. Так былі ўнесены ў «Хроніку» прыдуманыя напады прусаў, літоўцаў і яцвягаў на рускую зямлю[11].

Такім чынам, у XVI ст. у Маскоўскай дзяржаве і ў ВКЛ узнікла версія пра заваяванне Беларусі Літвой. Толькі ў «Сказании о князьях владимирских» даводзілася, што літоўскі князь Гегіменік прысвоіў беларускія і ўкраінскія землі пасля даручэння яму маскоўскім князем сабраць з іх даніну для сябе, а беларуска-літоўскія летапісы і «Хроніка» Стрыйкоўскага сцвярджалі, што жамойцкія князі па сваёй ініцыятыве ўзялі пад апеку беларускія землі, спустошаныя татарамі. Кожны з гэтых варыянтаў, як мы бачылі, адпавядаў палітычным мэтам варагуючых дзяржаў. У далейшым гістарычная навука высветліла, што не існавала ніякіх ні Мантвіла, ні Ердзвіла, ні Мінгайлы, ні Гінгвіла. Аднак міф пра заваяванне Беларусі Літвой застаўся. На месца іх былі знойдзены іншыя кандыдаты на ролю заваёўнікаў, у прыватнасці Міндоўг, які па сённяшні дзень фігуруе ў гэтай ролі.

Жывучасць версіі пра літоўскае заваяванне Беларусі тлумачыцца тым, што яна была выкарыстана рускай дакастрычніцкай гістарыяграфіяй з мэтай пацвярджэння рэакцыйнага тэзіса пра выратавальнае значэнне для Расійскай імперыі самадзяржаўя. Афіцыйныя гісторыкі і сканструявалі схему, паводле якой Расія ў выніку заняпаду самадзяржаўя слабела, а Літва нібыта ў выніку зараджэння ў ёй моцнай манархічнай улады Міндоўга мацнела і таму яна стала для Рускай дзяржавы такім жа страшным ворагам з захаду, як татары з усходу



*Барысаў камень*

В. Тацішчаў казаў: «Тогда татары, нашед, всем обладали, литовцы бывшую под властию многую часть государства отторгнули»[12]. Тое ж самае паўтарыў і С. Салаўёў: «Русь находилась между двумя страшными врагами: татарами с востока и Литвой с запада»[13]. Гэта сцвярджалі і іншыя гісторыкі XIX ст. Не дзіўна таму, што ў дакастрычніцкай гістарыяграфіі тэзіс пра літоўскае заваяванне стаў догмай.

І ў савецкай гістарыяграфіі пытанне ўтварэння ВКЛ таксама не атрымала дэталёвага асвятлення. Таму ў падручніках і працах па гісторыі літоўскае заваяванне Беларусі прымалася безагаворачна як нешта добра вядомае. Пра гэта сведчыць і кніга У. Пашуты «Образование Литовского государства» (1959), а таксама адпаведныя артыкулы «Советской исторической энциклопедии» і іншыя выданні. Вось характэрнае для гістрычнай навукі тлумачэнне прычын літоўскага заваявання Беларусі і ўтварэння Літоўскай дзяржавы: «Літоўскія князі са сваімі дружынамі, карыстаючыся феадальнай раздробленасцю заходніх земляў Русі і Польшчы, часта ўрываліся ў іх прасторы. Уварванне літоўцаў у заходнія землі Русі стала асабліва частым з другой паловы XII ст. У 20-х гадах XIII ст. дружыны літоўскіх князёў гаспадарылі ў Полацкай зямлі, нападаючы адсюль на паўднёвыя ўскраіны Смаленскага княства і Чарнігаўшчыну. Літоўскія князі, скарыстаўшы цяжкую барацьбу рускага народа з татара-манголамі на ўсходзе і нямецкімі агрэсарамі на захадзе, сталі падначальваць сваёй уладзе землі заходняй Русі. Адзін з літоўскіх князёў, Міндоўг, падначаліў сабе другіх князёў Літвы і захапіў землі па верхнім цячэнні Нёмана. Гэтым быў пакладзены пачатак стварэнню Літоўскай дзяржавы. Утварэнне яе вызначалася інтарэсамі

літоўскіх феадалаў, якія хацелі ўмацаваць сваё панаванне над літоўскім сялянствам і ўсталяваць сваю ўладу ў суседніх землях Русі»[14].

Такім чынам, тут вызначаны наступныя моманты захопу літоўскімі феадаламі беларускіх земляў: раздробленасць беларускіх земляў і, як вынік гэтага, іх слабасць; частыя літоўскія набегі на беларускія і суседнія рускія землі; барацьба рускіх земляў з татара-манголамі і нямецкімі агрэсарамі як фактар, які аблегчыў заваяванне беларускіх земляў літоўскімі феадаламі; захоп Міндоўгам беларускіх земляў па верхнім Нёмане як пачатак утварэння Літоўскай дзяржавы; утварэнне яе вызначалася інтарэсамі літоўскіх феадалаў.

## ЦІ ТОЛЬКІ РАЗДРОБЛЕНАСЦЬ І СЛАБАСЦЬ?

Раздробленымі, загразлымі ў міжусобіцах і слабымі паказаны ў даследаваннях і падручніках па гісторыі беларускія землі XII—XIII стст. Яны быццам бы спыніліся ў сваім развіцці і толькі чакалі, калі хто-небудзь іх заваюе і збярэ ў адзінае цэлае, што нібыта і зрабіла Літва, дзе ў выніку развіцця феадалізму ўтварылася дзяржаўная ўлада, абапіраючыся на якую літоўскія феадалы прыгняталі сваіх сялян і заваёўвалі чужыя землі. Чаму не магла ўтварыцца дзяржава на беларускіх землях, дзе феадалізм узнік на некалькі стагоддзяў раней, чым у Літве, і як абыходзіліся беларускія феадалы без дзяржаўнай улады, на гэтыя, як і на іншыя падобныя, пытанні гісторыкі чамусьці адказу не давалі.

Такі погляд на беларускія землі таго часу вынікае з пашыранай у гістарычнай навуцы догмы, паводле якой аб'яднанне Беларусі і ўтварэнне беларускай народнасці і культуры адбывалася ў XIV—XVI стст. пасля так званага літоўскага заваявання Беларусі[15]. У сапраўднасці ж усё было інакш. Працэс збірання паасобных гістарычных абласцей Беларусі ў адзінае цэлае і ўтварэнне беларускай народнасці і культуры пачаўся раней XIV ст. Як адзначыў акадэмік Б.Д. Грэкаў, распад Кіеўскай дзяржавы — перш за ўсё вынік росту асобных яго састаўных частак, кожная з якіх стала праводзіць сваю ўласную палітыку, маючы на ўвазе ўласныя мэты.[16]

Першапачатковым ядром фарміравання тэрыторыі Беларусі была Полацкая зямля. Як сведчаць навуковыя даследаванні, Полацкае княства, якое жыло «сваім асобным жыццём з першага свайго з'яўлення на гістарычнай сцэне»[17], было «найбольш самастойнай палітычнай адзінкай Старажытнай Русі»[18]. Размешчаная на скрыжаванні важнейшых гандлёвых шляхоў і аб'яднаная імі, Полаччына эканамічна ўмацавалася і абагнала ў сваім развіцці некаторыя іншыя землі Кіеўскай Русі[19]. У адрозненне ад усіх іх яна мела сваю княскую дынастыю Ізяславічаў. У ёй склалася багатая арыгінальная культура[20].

Як адзначыў Л. Аляксееў, феадальны клас Полаччыны «раней за феадалаў іншых земляў пачаў пашыраць сваю абласную тэрыторыю»[21]. Вось чаму Полацкае княства, якое ўзнікла ў IX—X стст. на невялікай тэрыторыі па Заходняй Дзвіне ў раёне ракі Палаты[22], ужо к канцу XI ст. «ахоплівала большую частку сучаснай Беларусі. Яно ляжала ў асноўным па Заходняй Дзвіне, Нёмане і Бярэзіне з яе прытокамі»[23]. Хоць у пачатку XII ст. княства падзялілася на асобныя ўдзелы, пашырэнне яго тэрыторыі працягвалася. Найбольш моцны з полацкіх удзелаў — Менскі — выступаў сапернікам Полацка ў далейшым збіранні беларускіх земляў. Менскі князь Глеб Усяславіч выкарыстоўваў зручнае геаграфічнае становішча свайго княства, якое, знаходзячыся на мяжы Нёманскага і Дняпроўскага водападзелаў, займала ключавыя пазіцыі на важнейшых гандлёвых шляхах. Ён імкнуўся далучыць да сваіх уладанняў паўднёвыя (прыпяцкія), заходнія (нёманскія) і ўсходнія (дняпроўскія) землі. Дзеля дасягнення гэтых мэт ён ажыццявіў паходы на Слуцк (1116) і разам з палачанамі — на Новагародскую і Смаленскую вобласці (1119)[24]. Такім чынам, ужо ў намерах Глеба Менскага акрэсліваюцца ў асноўным контуры будучай Беларусі і цэнтральнае становішча ў ёй Менска.

Аднак пашырэнне Полацкай зямлі «не магло не прывесці да сутычкі з інтарэсамі феадалаў суседніх земляў»[25]. Полацкія князі рабілі напады на Ноўгарад, Пскоў, Смаленск. Кааліцыйныя сілы рускіх князёў у сваю чаргу спусташалі Полацкую зямлю, разбуралі яе гарады, нават на некаторы час пазбаўлялі яе самастойнасці і далучалі да Кіева, як, напрыклад, Полацк у 980 і 1129 гг., Менск у 1119 г. Аднак раздробленасць, якая была вынікам феадальнага спосабу вытворчасці, з'яўлялася на той

*Евангелле XII—XIV стст. з полацкага манастыра Іаана Прадцечы*

час заканамерным і прагрэсіўным этапам гістарычнага развіцця. Таму яе нішто не магло спыніць. Вось чаму ніякія рашучыя захады кіеўскіх князёў не маглі стрымаць далейшага палітычна-эканамічнага развіцця Полацкай зямлі. Феадальная раздробленасць, як слушна адзначаюць даследчыкі, перш за ўсё праявілася ў Полацкай зямлі, што сведчыла пра яе больш высокае сацыяльна-эканамічнае развіццё ў параўнанні з нека-

торымі іншымі землямі[26]. Гэта і было прычынай таго, што яна, першай вылучыўшыся з Кіеўскай дзяржавы, у сваю чаргу сама стала дзяліцца на ўдзелы. У кожным з іх замацаваўся той ці іншы род полацкіх князёў. Аднак па-ранейшаму для ўсіх іх быў прывабны полацкі пасад, які меў значэнне велікакняскага і за які пачалася паміж імі барацьба. Яна дасягнула найбольшай вастрыні ў 50—60-х гадах XII ст.

Але феадальная раздробленасць і звязаная з ёю палітычная дэцэнтралізацыя і міжусобная барацьба не маглі цягнуцца без канца. Справа ў тым, што ў нетрах самой феадальнай раздробленасці выспявалі ўмовы для яе адмірання. Ствараючы лепшыя магчымасці для асваення новых земляў і прыродных рэсурсаў, росту гарадоў, развіцця земляробства і рамёстваў, феадальная раздробленасць гэтым самым садзейнічала таварнай вытворчасці, г. зн. вытворчасці непасрэдна для абмену, для гандлю. А гэта ў сваю чаргу вяло да эканамічнага і палітычнага збліжэння паасобных земляў. Менавіта ў Полацкай зямлі, дзе раней пачаўся працэс феадальнай раздробленасці, ён раней і закончыўся. У выніку гэтага і міжусобная барацьба полацкіх князёў паступова заціхла значна раней, чым у іншых старажытнарускіх землях. Ва ўсякім разе яна цягнулася не пазней 1180 г., калі з выключнай яркасцю выявілася адзінства Полацкай зямлі. У паходзе на Друцк, які падпаў пад уплыў Смаленска, удзельнічала шэсць полацкіх князёў, г. зн. уся зямля. Праўда, Л. Аляксееў зазначае, што сярод іх не было менскіх князёў. Аднак катэгарычна сцвярджаць гэта нельга. Калі не было менскіх князёў, дык якія ж былі? У летапісе, дзе перадаюцца гэтыя падзеі, толькі адносна трох князёў пазначаны месцы іх княжання (Полацк, Віцебск, Лагойск)[27]. Чацвёрты князь Васілька Брачыслававіч, як слушна лічыць Л. Аляксееў, быў ізяслаўскім князем[28]. Але калі ў гэтым паходзе былі лагойскі і ізяслаўскі князі, то ці можна лічыць, што там не было менскага князя? Ім мог быць Андрэй Валодшыч, сын таго Валодшы, якога ў 1159 г. Глебавічы пасадзілі ў поруб. Чаму ж паход на Друцк выклікаў такое адзінства полацкіх князёў? Бо тут справа ішла пра абарону эканамічна-гандлёвых інтарэсаў усёй Полаччыны, у прыватнасці пра валоданне важнейшым для Полацкай зямлі Друцка-Ушацкім волакам[29]. Без агульнасці эканамічных інтарэсаў полацкіх земляў не магло быць такога

ратнага адзінства, якое выявілася ў 1180 г. Праўда, у 1186 г. лагойскі князь Васілька Валадаравіч і друцкі князь Усяслаў, відаць, пад націскам Смаленска, які не мог прымірыцца са сваім паражэннем у 1180 г., разам з ім і Ноўгарадам выступілі супраць Полацка. Аднак гэты паход закончыўся мірна[30], і ўдзел у ім лагойскага і друцкага князёў не перашкодзіў усталяванню згоды між полацкімі ўдзеламі. Гэта пацвярджаюць падзеі 1195 г., калі полацкія князі ўдзельнічалі ў паходзе на Смаленск і адыгралі вырашальную ролю ў перамозе над ім[31]. Тое, што ў летапісе ўжыты выраз «полацкія князі», гаворыць нам, што іх было некалькі, а можа і ўсе. Л. Аляксееў чамусьці сцвярджае, што Друцк і цяпер знаходзіўся пад эгідай смалянаў, на баку якіх змагаўся супраць чарнігаўскіх Ольгавічаў[32]. Аднак гэта яўна супярэчыць летапісу, у якім сказана, што друцкі князь Барыс захапіў у палон смаленскага князя Мсціслава Раманавіча і аддаў яго чарнігаўцам[33]. Удзел у гэтым паходзе друцкага князя сведчыць, што ваенныя падзеі 1180 г. не прайшлі марна: Друцк па-ранейшаму знаходзіўся ў шчыльным саюзе з Полацкам і ў сферы яго ўплыву.

З прычыны далейшага развіцця прадукцыйных сіл феадальнага грамадства і пашырэння гандлю пачаўся працэс феадальнай канцэнтрацыі, на аснове якога ішло збліжэнне асобных тэрыторый Полацкай зямлі. І хаця ўдзелы працягвалі існаваць яшчэ доўгі час, аднак міжусобная барацьба паміж імі не адзначана ў крыніцах, як, напрыклад, у сярэдзіне XII ст. Эканамічныя інтарэсы бралі верх і прымушалі падначальвацца ім. Характэрная ў гэтых адносінах грамата полацкага князя Ізяслава (1205), у якой ён піша: «Полотеск Видьбеск одно есть»[34]. Гэта грамата выяўляе і прычыну такога адзінства — гандаль па Заходняй Дзвіне: «Полочаном Видьбляном вольное торгованье в Ризе, на Готьском березе и в Любце». Тут зноў выяўляецца яскравая карціна таго, як эканамічныя інтарэсы бяруць верх над княскімі адносінамі. Палітычна Полацк і Віцебск — два княствы, у эканамічных жа адносінах — «одно есть». Такім чынам, няма падстаў гаварыць пра міжусобіцы князёў у канцы XII і ў першай палове XIII ст. Пра палітычную ўстойлівасць унутры Полацкай зямлі сведчыць і тое, што на полацкім пасадзе на працягу 30 гадоў (1186—1216) княжыў адзін князь — Уладзімір Полацкі. Цяжка знайсці ў іншых ста-



*Мінская брама XII ст.*

*Рэканструкцыя Ю. Зайца. Мастак В. П. Сташчанюк.*

ражытнарускіх землях такі фенаменальны для часоў удзельшчыны факт. Згуртаванню Полацкай зямлі спрыяла і яе барацьба з крыжацкай агрэсіяй, пра што будзе гаворка далей. Усё адзначанае сведчыць, што напярэдадні і ў час утварэння ВКЛ Полацкая зямля ўяўляла сабой больш-менш адзінае цэлае і пра міжусобную барацьбу ў ёй не можа быць гаворкі.

У Турава-Пінскім княстве таксама назіралася тэндэнцыя да збліжэння з іншымі беларускімі землямі, якая праявілася ўжо ў пачатку XII ст. Нездарма ж Глеб Менскі хацеў сілай паскорыць гэты працэс, імкнучыся далучыць да сваіх уладанняў прыпяцкія землі, чым наклікаў на сябе вялікі гнеў і жорсткую помсту кіеўскага князя. У сувязі з гэтым нам хочацца звярнуць увагу на наступны факт. Далучыўшы часова да сваіх уладанняў у 1119 г. Менск, кіеўскі князь у 1131 г. аддаў менскаму князю Ізяславу Тураў і Пінск[35], якія былі ў сферы ўплыву Кіева. І справа, вядома, не толькі ў тым, што Ізяслаў быў іх стаўленікам (у часы ўдзельшчыны ўсе князі лёгка пранікаліся мясцовымі інтарэсамі). Галоўнае ў тым, што ўжо тады, відаць, пачалі вызначацца эканамічныя сувязі Турава-Пінскай зямлі з Менскам і, як паказала гісторыя, гэтыя сувязі былі невыпадковымі. Яны увесь час мацнелі, што і прывяло ў будучым да з'яднання Турава-Пінскай зямлі з усёй Беларуссю.

У 1158 г. Тураў выйшаў з-пад улады Кіева, і ў ім асела самастойная княская дынастыя. І хоць на тэрыторыі Турава-Пінскай зямлі ўзнік шэраг асобных удзелаў (Тураўскі, Пінскі,

Дубровіцкі, Слуцкі, Клецкі і інш.), аднак князі іх дзейнічалі згуртавана. У пачатку XIII ст. Турава-Пінская зямля, перадольваючы імкненне галіцка-валынскіх князёў падначаліць яе сабе, усё больш і больш звязвае свой лёс з Новагародскай зямлёй. Нездарма ж у 1228 г. новагародцы ўдзельнічалі на баку Расціслава Пінскага ў барацьбе з Данілам Галіцкім, а ў 1263 г. іх князь Войшалк пры дапамозе пінянаў заваёўваў Літву[36]. І гэтыя сувязі былі невыпадковыя.

Менавіта ў канцы XII і пачатку XIII ст. па сваім эканамічна-палітычным развіцці на першае месца сярод іншых беларускіх земляў выйшла Новагародская зямля, якую многія даследчыкі неправамерна называюць Чорнай Руссю (у той час яна не мела такой назвы). На вялікі жаль, гістарычная навука вельмі мала надавала ёй увагі і разглядала яе не як суб'ект гісторыі, а толькі як аб'ект заваёўніцкіх дзеянняў суседзяў. Так, У. Пашута характарызаваў яе «як вельмі істотны фактар гісторыі Літвы»[37]. Пытанне аб ролі Новагародскай зямлі ў гісторыі Беларусі, у аб'яднанні беларускіх земляў навукай не было распрацавана.

Летапісныя паведамленні і асабліва археалагічныя даследаванні, праведзеныя ў апошнія дзесяцігоддзі, даюць магчымасць па-новаму зірнуць на гэтую гістарычную вобласць Беларусі. На долю Новагародскай зямлі выпала гістарычная роля стаць у другой палове XIII г. ядром аб'яднання беларускіх і балцка-літоўскіх земляў у адзіную дзяржаву. У адрозненне ад Полацкай і Тураўскай земляў яна была параўнальна новай гістарычнай вобласцю Беларусі, якая ўзнікла на левым беразе верхняга Нёмана. Яе фарміраванне пачалося з часу заснавання Новагародка (сучасны Навагрудак), наконт чаго выказана некалькі меркаванняў. М. Дзмітрыеў у 1858 г. сцвярджаў, што Новагародак быў заснаваны ў 1116 г. сынам Уладзіміра Манамаха Яраполкам[38]. Аднак гэта не пацвярджаецца верагоднымі крыніцамі. М. Ціхаміраў лічыў, што Новагародак упершыню ўпамінаецца ў 1212 г.[39] Ён спасылаўся на наступнае месца Іпацьеўскага летапісу: «В лето 6720. Король отья Перемышль от Лесьтька Любачев. Лесько же зжалися о срамоте своей и после к Новогороду по Мстислава и реки братьми еси поиди и сяди в Галиче»[40]. Але тут, як бачым, гаворка ідзе аб нейкім Новагорадзе ў Галіцкай зямлі.



*Вакольны горад Новагародка ў XII ст.*

*Рэканструкцыя В. Сташчанюка паводле матэрыялаў Ф. Гурэвіч. 1990 г.*

Аднак найбольш верагодна, што да Новагародка адносіцца запіс у Сафійскім I летапісе, дзе пад 1044 г. сказана: «Ходи Ярослав на Литву, а на весну заложил Новогород и сделал и». Такі ж запіс і пад гэтым жа годам маецца ў Наўгародскім IV летапісе[41] і ў В. Тацішчава[42]. Гэты гісторык быў першым, хто выказаў думку, што ўпомнены тут Ноўгарад і ёсць Новагародак Літоўскі[43], г. зн. сучасны Навагрудак. Аднак яна засталася незаўважанай і забытай. На карысць яе гаворыць наступнае. Ва ўсіх указаных вышэй летапісах заснаванне Новагародка звязваецца з паходам Яраслава Мудрага на Літву. А ў той час, як убачым, пад Літвой разумелася не сучасная Літва, а тэрыторыя Верхняга Панямоння. Менавіта паход Яраслава Мудрага і меў за мэту заваяванне гэтай Літвы. А. Ельскі адзначаў, што Новагародак узнік на мяжы Старажытнай Літвы і яцвягаў[44] , што і слушна, бо пацвярджаецца летапісам, у якім сказана, што паход на Літву Яраслаў Мудры зрабіў пасля паходу на яцвягаў у 1038 г.[45] Аб населенасці Новагародскай зямлі ў мінулым яцвягамі сведчыць тапаніміка[46]. Тое, што яцвягі складалі значную частку насельніцтва ў Новагародскай зямлі, гаворыць за іх важкі ўклад, які яны ўнеслі ў справу ўтварэння ВКЛ. Праўда, Ф. Гурэвіч аспрэчвае ўказаную дату заснавання Новагародка. Аднак яе довады вельмі няпэўныя, бо ў ад-

ной працы яна сцвярджае, што гэты горад заснаваны ў першай палове XI ст.[47], у другой сказана, што ў другой палове XI ст.[48], пры гэтым не тлумачыць, чаму яна змяніла сваю думку. Пабудова Новагародка павінна была забяспечыць панаванне Кіева над яцвягамі і Літвой, аб чым і сведчыць хуткая пабудова горада, якая, паводле В. Тацішчава, працягвалася толькі вясну і лета. Горад адначасова стаў і важным цэнтрам славянскай каланізацыі, аб чым сведчыць наступнае паведамленне Тацішчава. На падставе летапісу, які меўся ў яго распараджэнні, ён пісаў, што ў 1119 г. менскі князь Глеб ваяваў Новагародскую (Навагрудскую) вобласць,[49] што належала аднаму з сыноў Уладзіміра Манамаха. Гэта паведамленне, якое сведчыць пра незалежнасць Новагародка ад Кіева, у той жа час паказвае рост яго, які быў вынікам каланізацыі і сцягвання вакол сябе пэўнай тэрыторыі, што і прывяло да ўтварэння Новагародскай вобласці. Каштоўнай з'яўляецца наступная вестка пра Новагародак, якую знаходзім зноў-такі ў В. Тацішчава. У ёй паведамляецца, што ў 1130 г. кіеўскі князь Мсціслаў пасля паходу ў Літву вярнуўся ў Новагародак, дзе заклаў царкву (відаць, яе рэшткі выявіў М.К. Каргер у 1961 г.[50]), і адтуль пайшоў у Кіеў[51]. Гэта паведамленне пацвярджае значэнне Новагародка як апорнага пункта кіеўскіх князёў для сваіх паходаў на Літву.

Амаль праз стагоддзе зноў з'яўляецца вестка аб Новагародку на старонках Іпацьеўскага летапісу. У ім пад 1228 г. паведамляецца аб удзеле новагародцаў разам з тураўцамі і пінянамі ў кааліцыі з іншымі князямі ў паходзе на Камянец супраць Данілы Галіцкага[52]. На падставе гэтага можна меркаваць, што барацьба паміж Кіевам і Галічам у той час ішла ў значнай меры з-за Турава-Пінскай і Новагародскай земляў. Гэта тым больш верагодна, што наступнае паведамленне Іпацьеўскага летапісу пад 1235 г. ясна гаворыць аб залежнасці Новагародка і Літвы ад Данілы Галіцкага: «Даниил возведе на Конрада Литву Мандога Изяслава Новогородьского»[53]. Самае каштоўнае ў гэтай вестцы тое, што, паводле яе, Новагародак меў свайго князя. Аднак Новагародак не быў толькі цэнтрам асобнага княства. Летапісныя звесткі 50—60-х гадоў XIII ст. гавораць аб наяўнасці цэлай гістарычнай вобласці — Новагародскай зямлі[54].



*Шкляны посуд з вакольнага горада старажытнага Новагародка XII ст.*

*Малюнак В. Сташчанюка па матэрыялах публікацый Ф. Гурэвіч і М. Яніцкай*

Да сярэдзіны XIII ст. Новагародская зямля дасягнула высокага эканамічнага і культурнага развіцця. Гэтаму садзейнічаў шэраг прычын. Тут было добра развітое земляробства, якому спрыяла ўрадлівая глеба, што не патрабавала вельмі цяжкай апрацоўкі (чаго не было ў Падзвінні). Новагародская зямля была краінай развітых рамёстваў. Тут выплаўлялася жалеза і была наладжана вытворчасць разнастайных вырабаў з яго, апрацоўваліся каляровыя і каштоўныя металы. Існавала ганчарнае, кастарэзнае і іншыя рамёствы[55].

Усё гэта ў першую чаргу адносіцца да Новагародка. Так, па насычанасці жалезнымі знаходкамі ён адзін з самых багатых у гэтых адносінах гарадоў[56]. Можна меркаваць, што адной з прычын хуткага эканамічнага росту Новагародка з'яўлялася тое, што ён быў размешчаны побач з багатымі пакладамі балотнай руды, пра што можа сведчыць назва блізкага пасёлка Руда. Аднак вядучай галіной у Новагародку была апрацоўка каляровых і каштоўных металаў. Праца кавалёў па золату і ювеліраў к XII ст. набыла асаблівае значэнне. Яна ператварыла іх у досыць заможных гарадскіх жыхароў[57].

Адначасова археалагічныя матэрыялы сведчаць, што Новагародак вызначаўся не толькі інтэнсіўным унутраным жыццём, але і меў шырокія знешнія сувязі. У гэтых адносінах асабліва паказальны такі факт. Новагародак, які па памерах сваёй умацаванай часткі (2,5 га) належыць да невялікіх гарадоў, па знаходках імпартных прадметаў раскошы сапернічае з усімі старажытнарускімі гарадамі, мае унікальныя рэчы. Новагародскі імпарт з поўнай падставай дазваляе лічыць, што ў XII—XIII стст. горад вёў інтэнсіўны гандаль рускімі і заморскімі таварамі. Новагародак вёў ажыўлены гандаль з паўднёварускімі гарадамі, з Полацкам, з Прыбалтыкай і Польшчай, з Візантыяй і Блізкім Усходам[58].

У выніку развіцця рамёстваў і гандлю і наяўнасці густога сельскага насельніцтва на параўнаўча невялікай тэрыторыі Новагародскай зямлі было шмат гарадоў: апроч сталічнага — Слонім, Ваўкавыск, Гарадзен (Гродна), Здзітаў, Зэльва, Свіслач і інш. Хоць летапіс упершыню называе іх толькі ў XIII ст., але яны, як паказвае археалогія, узніклі значна раней — у канцы X — пачатку XI ст. Як сведчыць Іпацьеўскі летапіс, у Новагародку (1235)[59], Гародні (1128 г. і інш.)[60], Ваўкавыску (1256)[61] і Свіслачы (1256)[62] былі свае князі. Можна думаць, што яны былі і ў іншых гарадах, як, напрыклад, у Слоніме (пад 1281 г. у Іпацьеўскім летапісе ўпамінаецца Васілька Слонімскі, магчыма, князь). Значыць, гэтыя гарады з'яўляліся цэнтрамі асобных удзелаў. Аднак усе яны шчыльна гуртаваліся вакол Новагародка, князь якога, магчыма, меў для ўсіх іх значэнне вялікага князя. Цэнтральнае становішча Новагародка і вызначыла назву гэтай зямлі. Летапісы не зарэгістравалі ніводнага выпадку міжусобнай барацьбы яе князёў. Новагародская зямля была краінай развітога феадальнага грамадства. Ужо ў XI ст. тут панаваў феадалізм і вылучылася сацыяльная верхавіна грамадства, быт якой вызначаўся выключнай раскошай[63]. Наяўнасць багатых магіл побач з мноствам безынвентарных сведчыць пра рэзкую класавую дыферэнцыяцыю грамадства Новагародскай зямлі[64]. Аб высокім сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці Новагародскай зямлі сведчаць і археалагічныя даследаванні Ваўкавыска[65], Слоніма[66], Здзітава[67]. Асабліва ў гэтых адносінах вызначаўся Гарадзен. Археалогія сведчыць аб высокім і markt разнабаковым развіцці яго культуры. Тут, як і ў По-



*Царква Барыса і Глеба ў старажытнай Гародні XII ст. (рэканструкцыя). Унікальны помнік старажытнага беларускага дойлідства. Фасады бажніцы аздоблены шліфаванымі валунамі і маёлікавымі пліткамі*

лацку, у XII ст. склалася свая самабытная архітэктура, найбольш выдатным помнікам якой з'яўляецца Каложская царква[68].

Новагародская зямля мела выгаднае геаграфічнае становішча, і гэта асабліва праявілася ў сярэдзіне XIII ст.: «У перыяд двух вялікіх бедстваў, якія абрушыліся на Кіеўскую Русь, Польшчу і Прыбалтыку, — мангольскага заваявання і крыжовых паходаў — Беларускае Панямонне было адносна бяспечнай тэрыторыяй»[69]. І таму яно з сярэдзіны XIII ст. стала прытулкам для прадстаўнікоў насельніцтва многіх абласцей Усходняй Еўропы, якія ратаваліся ад жорсткіх заваёўнікаў з усходу і захаду[70]. Прыліў новага насельніцтва, зразумела, не мог не выклікаць яшчэ большага развіцця прадукцыйных сіл Новагародскай зямлі, што ў першую чаргу выкарысталі для свайго ўзбагачэння яе феадалы. Маючы ў сваіх руках вялікія багацці, яны былі зацікаўлены ва ўстанаўленні больш моцнай дзяржаўнай улады, з дапамогай якой можна было б трымаць у пакорнасці сялян і рамеснікаў, захопліваць новыя землі.

Адначасова тут ва ўмовах этнічна разнастайнага насельніцтва фарміравалася новая арыгінальная культура. Даныя археалогіі паказваюць, што ў ёй «дзівосна перапляталіся мясцо-

выя, паўднёвыя і заходнія рысы, але дамінавала ўсходнеславянская культура. Вельмі магчыма, што менавіта ў гэтых умовах былі закладзены першыя асновы беларускай народнасці»[71]. Як бачым, найноўшыя навуковыя даныя адхіляюць укаранелую ў навуцы думку, паводле якой фарміраванне беларускай народнасці і культуры пачалося пасля ўваходжання Беларусі ў склад Вялікага княства Літоўскага, дзесьці ў XIV—XVI стст.

Усё разам узятае — высокае эканамічнае развіццё, прыліў новага насельніцтва, што абумовіла далейшы рост прадукцыйных сіл, канцэнтрацыя вялікіх багаццяў у руках новагародскіх феадалаў і далейшае ўмацаванне іх улады — павялічвала палітычную вагу Новагародскай зямлі сярод іншых гістарычных абласцей Беларусі і дало ёй магчымасць стаць новым дзяржаваарганізуючым цэнтрам беларускіх і размешчаных сярод іх балцка-літоўскіх земляў.

Наяўнасць мяшанага дрыгавіцка-крывіцкага насельніцтва і інвентар могільнікаў[72], тып жыллёвых збудаванняў[73] пераканаўча сведчаць пра шчыльныя эканамічныя і культурныя сувязі Новагародскай зямлі з Полаччынай. Новагародскі храм XII ст. носіць на сабе яскравыя сляды ўплыву полацка-віцебскага дойлідства[74]. Нездарма ж некаторыя даследчыкі лічылі, што Новагародская зямля належала Полацкаму княству[75]. Ва ўсякім разе бясспрэчна тое, што працэс узаемнага эканамічнага і культурнага збліжэння паміж беларускімі землямі ў XII—XIII стст. не толькі не абмінуў Новагародскую зямлю, але і выразней за ўсё тут праявіўся. Эканамічна магутныя новагародскія феадалы і ўзялі ў свае рукі збіранне ў адзінае цэлае беларускіх земляў, эканамічнае і культурна-этнічнае збліжэнне якіх пачалося раней.

Значэнне Новагародскай зямлі як цэнтра новай дзяржавы добра разумелі галіцка-валынскія князі, якія самі прэтэндавалі на ролю збіральнікаў паўднёва-заходніх і заходніх старажытнарускіх земляў. І таму аслабленне і захоп яе былі іх мэтай. Аднак мангола-татарскае нашэсце аслабіла Галіцка-Валынскую зямлю, і яе князі павінны былі саступіць ролю збіральнікаў гэтых земляў Новагародку.

Такім чынам, у сярэдзіне XIII ст. цэнтр палітычнага жыцця Беларусі перайшоў з Полацка ў Новагародак, які стаў асяродкам зараджэння новай дзяржаўнасці. Вядома, гэта не гаворыць

аб страце Полацкам свайго значэння ў далейшай гісторыі Беларусі. Ён яшчэ доўгі час быў цэнтрам сваёй зямлі і адыгрываў вялікую ролю ў эканамічным, палітычным і культурным жыцці ўсёй дзяржавы. Такім чынам, не ўтварэнне ВКЛ было перадумовай фарміравання тэрыторыі Беларусі і беларускай народнасці і культуры, а, наадварот, працэс фарміравання тэрыторыі Беларусі, беларускай народнасці і культуры, які праходзіў на грунце эканамічнага і культурнага збліжэння беларускіх земляў, і зараджэння новай дзяржаўнасці ў Новагародку быў перадумовай утварэння ВКЛ.

## СТАРАЖЫТНАЯ ЛІТВА – ГІСТАРЫЧНАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСІ

Пытанне аб месцазнаходжанні летапіснай Літвы — адно з найважнейшых у нашым даследаванні. Сапраўды, дзе была тая зямля, імя якой пасля дало назву адной з буйнейшых дзяржаў у Еўропе? Гэта праблема патрабуе дэталёвага разгляду, бо з яе заблытвання найперш і пачынаецца заблытванне гісторыі ўтварэння ВКЛ.

У розныя гістрычныя перыяды пад Літвой разумелі не адну і тую ж тэрыторыю, не адзін і той жа народ. Яшчэ ў канцы XIX ст. А. Качубінскі аспрэчваў тых вучоных, якія «сучаснае этнаграфічнае становішча Літвы ўзводзілі ў становішча дагістарычнае, ад веку непарушнае»[76]. На жаль, гэта слушная думка была пакінута ў навуцы па-за ўвагай, і па-ранейшаму ў даследаваннях і падручніках па гісторыі Старажытная Літва атаясамліваецца з іншай гістарычнай вобласцю — Аўкштайціяй, якая займала ўсходнюю частку сучаснай Літвы[77].

Адной з прычын атаясамлівання летапіснай Літвы і Аўкштайціі з'яўляецца тое, што апошняя ў старажытнарускіх летапісах не згадваецца. Таму быў зроблены вывад, што яна выступае тут пад назвай Літвы[78]. Гэта стала агульнапрынятым, што і стрымлівала далейшае высвятленне пытання, дзе была летапісная Літва XI—XIII стст. Даследчыкі, замест таго каб уважліва прачытаць і прааналізаваць адпаведныя месцы летапісаў з мэтай даць адказ на гэта пытанне, бяздоказна паўтаралі: Літва — гэта Аўкштайція. Аднак Літва XI—XII стст. —

гэта зусім не Аўкштайція, і знаходзілася яна не там, дзе яе змяшчаюць даследчыкі.

Адказ на пытанне, дзе была летапісная Літва, даюць галоўным чынам некаторыя запісы нашых летапісцаў. Паведамленні гэтыя, як убачым, пацвярджаюцца тапанімікай і іншымі матэрыяламі.

Іпацьеўскі летапіс пад 1159 г. паведамляе пра тое, што менскі князь Валадар Глебавіч «ходяше под Литвой в лесех»[79], а пад 1162 г., што ён жа выступіў на свайго праціўніка «с Литьвою»[80]. Адсюль бачна, што Літва знаходзілася па суседству з Менскім княствам. Да такой самай высновы, грунтуючыся на тых жа самых летапісных звестках, прыйшоў і А.Насонаў[81]. І гэта добра пацвярджае тапаніміка. На правым беразе Усы (прыток верхняга Нёмана), па якой ішоў заходні рубеж Менскага княства, мы знаходзім у Стаўбцоўскім і Уздзенскім раёнах Менскай вобласці тапонімы «Літва», якія, бясспрэчна, з'яўляюцца аўтографамі, што пакінула тут Старажытная Літва.

Тэрыторыю, якая ляжала на захад ад Менска, як Літву паказвае, але ўжо з боку Новагародка (і гэта асабліва каштоўна), запіс Іпацьеўскага летапісу пад 1262 г. Паведамляецца, што князь Войшалк «учини собе манастырь на реце на Немне, межи Литвою и Новымгородком»[82]. Як вядома, Войшалк заснаваў манастыр пры ўпадзенні ракі Валаўкі ў Нёман, там, дзе цяпер знаходзіцца в. Лаўрышава[83] (на паўночны ўсход ад Навагрудка). Такім чынам, згодна з летапісам, на паўночны ўсход ад Лаўрышава, за Нёманам, у кірунку Менска знаходзілася Літва, што цалкам адпавядае летапісным звесткам 1159 і 1162 гг. Гэта ж пацвярджаюць і ўказаныя ўжо нам тапонімы «Літва». Калі б пад Літвой тут разумелася Аўкштайція, то летапісец ніяк не сказаў бы, што заснаваны Войшалкам манастыр быў паміж Літвою і Новагародкам, бо Аўкштайція знаходзілася ад Новагародка не ў паўночна-ўсходнім, а ў паўночна-заходнім кірунку.

Летапісная Літва была не толькі на правым, але і на левым беразе Нёмана. У 1190 г. князь Рурык Расціславіч вырашыў дапамагчы сваім родзічам — пінскім князям у барацьбе з Літвой і сабраўся ў паход на яе, але не здолеў дайсці туды, бо зрабілася цёпла і снег растаў, а ў гэтай балоцістай краіне толькі і можна ваяваць у моцныя халады[84]. З гэтага можна зрабіць

вывад, што Літва была недалёка ад Пінскай зямлі, за яе балотамі. Тое, што нейкая частка Літвы знаходзілася недалёка ад Прыпяці, адзначыў І. Бяляеў у сваёй кнізе «Очерки истории Северо-Западного края» (1867 г., с. 19). Пра гэта таксама сведчыць Іпацьеўскі летапіс пад 1246 г. Ён паведамляе пра літву, якая, зрабіўшы набег на Перасопніцу (на Валыні), вярталася праз Пінскую зямлю назад, дзе і была разбіта галіцка-валынскімі князямі[85]. У наступным годзе літва напала на Мельніцу і Лякоўню (таксама на Валыні) і зноў вярталася праз Пінскую зямлю, дзе таксама была разбіта[86]. У 1262 г. атрады літвы, пасланыя Міндоўгам на валынскія гарады, адступалі: адзін — у кірунку Ясельды[87], а другі — да Небля[88], г. зн. у бок Пінскай зямлі, як і ў папярэдніх выпадках. Паколькі кожны раз зваротны шлях літвы праходзіў праз Пінскую зямлю, то можна зрабіць вывад, што Літва знаходзілася дзесьці па суседству з ёй. Так яно і было, што непасрэдна пацвердзіў Іпацьеўскі летапіс. Пад 1253 г. у ім гаворыцца, як галіцка-валынскія князі, ідучы праз Пінск на Новагародак, сустрэлі на сваім шляху літву: «И послаша сторожу Литва на озеро Зьяте (у сярэдзіне XVI ст. пры перапісе пінскіх пушчаў яно ўжо называлася балотам[89]) и гнаше через болото до реки Щарье»[90]. «Сторожа» звычайна высылалася для аховы межаў краіны. З гэтага вынікае, што Літва знаходзілася дзесьці ў вярхоўі левага прытока Нёмана — Шчары. Дарэчы, назва гэта балцкага паходжання азначае «вузкая»[91]. Але А. Краўцэвіч аспрэчвае гэта, сцвярджаючы, што па р. Шчары ішла мяжа паміж Новагародскай і Пінскай землямі (с. 115). Аднак ён, гаворачы аб з'яўленні ліцвінскай «сторожы», не ставіць пытання: «Адкуль і з якога боку яна магла з'явіцца?» Улічваючы тое, што галіцка-валынскія войскі ішлі з Пінска на Новагародак, г.зн. з паўднёвага ўсходу на паўночны захад, то ліцвінская «сторожа» магла перарэзаць ім шлях толькі з паўночнага ўсходу, г.зн. з боку Шчары. Менавіта яна і гнала варожае войска да гэтай ракі, бо там была Літва са сваім галоўным войскам. Што па гэтай рацэ ішла мяжа Старажытнай Літвы з Пінскай зямлёй, зноў-такі пацвярджае і тапонім «Літва» на ёй (Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобласці).

Гэта Літва прыкрывала сабою Новагародскую зямлю з паўднёвага ўсходу, бо галіцка-валынскія войскі, перамогшы яе,

«наутрея же плениша всю землю Новогородскую»[92]. Пра такое ж месцазнаходжанне Літвы гаворыць і запіс Іпацьеўскага летапісу пад 1256 г.: «Данилови ж (Даніла Галіцкі) пошедшу на войну на Литву, на Новогородок»[93]. Гэта значыць, што галіцкія войскі ішлі на Навагародак той жа дарогай, што і ў 1253 г., а менавіта праз Літву. Гэтыя факты, відаць, і мела на ўвазе Ф. Гурэвіч, калі зазначыла, што ў летапісных звестках пра Навагрудак у 50—70-х гадах XIII ст. «апавядаецца аб пранікненні галіцка-валынскіх князёў з Літвы ў гэты горад»[94]. У Т. Нарбута мы чытаем аб тым, што ў 1405 г. тураўскі біскуп Антоній са згоды Вітаўта хрысціў у Літве народ у праваслаўную веру[95]. Было незразумела, чаму менавіта тураўскі біскуп хрысціў Літву, якая, калі яе атаясамліваць з Аўкштайціяй, знаходзілася далёка ад Турава. Але ў святле папярэдне сказанага ўсё становіцца ясным. Літва была ў суседстве з Турава-Пінскай зямлёй. І таму зусім натуральна, што яе хрысціў тураўскі біскуп. Не зразумела, чаму прыведзеныя намі шматлікія і яскравыя сведчанні аб сумежжы Старажытнай Літвы з Пінскай зямлёй некаторымі даследчыкамі лічацца ўскоснымі і таму непераканаўчымі.

У свой час А. Качубінскі меркаваў, што назва «Літва», звязваючыся з коранем «лі» ў нашым «ліць», у літоўскім «ліетус» (дождж), азначае жыхароў вільготнай мясцовасці. Ён сцвярджае таксама, што назва «дрыгавічы» таксама літоўскага паходжання («дрэгнас» — па-літоўску «вільготны»)[96]. Тое, што летапісная Літва ў старажытнасці знаходзілася па суседству з балоцістай Турава-Пінскай зямлёй, населенай дрыгавічамі, пацвярджае гэтыя меркаванні даследчыка. Пра такое суседства сведчаць і археалагічныя даследаванні. В. Сядоў на іх падставе лічыць, што дрыгавічы далей на поўнач ад Выганаўскага балота не жылі нават у адносна позні час[97]. Менавіта Выганаўскае балота было прыроднай мяжой паміж Пінскай зямлёй і летапіснай Літвой. Яно ж было прычынай і таго, што дрыгавіцкая каланізацыя летапіснай Літвы значна замарудзілася і таму гэта апошняя магла так доўга праіснаваць. У згодзе з прыведзенымі фактамі знаходзіцца і паведамленне М. Стрыйкоўскага пра літву над Нёманам, «якая жыла ў пушчах і здаўна прыслужвала Навагрудскаму княству»[98].




*Месцазнаходжанне Старажытнай Літвы:*
*1 — прыблізныя межы Старажытнай Літвы,*
*2 — тапонім «Літва»*

Характэрна, што на тэрыторыі, якая ў летапісах выступае пад назвай Літвы, да сённяшняга дня захаваўся тапонім «Літва». Населеныя пункты з такой назвай мы сустракаем у Слонімскім (Гродзенская вобл.), Ляхавіцкім (Брэсцкая вобл.), Уздзенскім, Стаўбцоўскім, Маладзечанскім (Мінская вобл.) раёнах. Гэта карэнныя назвы, якія супадаюць з летапіснай назвай «Літва» і якія маюцца толькі ва ўказаным рэгіёне. Іх трэба адрозніваць ад тапонімаў тыпу «Літвінава», «Літвінавічы», «Ліцвякі» і ім падобных, якія маюцца ў іншых рэгіёнах Беларусі, Расіі, Украіны. З'яўленне іх там звязана з высяленцамі з Літвы ў тыя мясцовасці. Адзін з такіх тапонімаў — «Ліцвілішкі» — выяўлены намі на тэрыторыі Аўкштайціі (былая Мукснікаўская вол. Віленскага пав.). І побач з ім — тапонім «Мінчукі»[99]. Зразумела, што яны былі заснаваны выхадцамі з летапіснай Літвы і суседняй з ёй Міншчыны.

Летапісныя даныя і тапаніміка даюць магчымасць арыенціровачна вызначыць тэрыторыю Старажытнай Літвы. На поў-

начы яна межавала з Полацкім княствам па нёманскай Бярэзіне. Пазней яна была зблытана з дняпроўскай Бярэзінай, якую і лічылі мяжой Літвы з Руссю. Так, маскоўскія паслы, прад'яўляючы прэтэнзіі на беларускія гарады, гаварылі паслам Вялікага княства Літоўскага: «...а рубеже был тем городам с Литовской землею по Березыню»[100]. Пра літоўска-полацкае сумежжа тут сведчаць і размешчаныя побач тапонімы «Літва» і «Палачаны» (Маладзечанскі р-н). Па гэтай жа Бярэзіне ішла паўночна-заходняя мяжа Літвы з Нальшчанамі. На ўсходзе Літва межавалася з Менскім княствам, заходні рубеж якога не ішоў далей ракі Усы (прыток Нёмана)[101]. На ўсходзе левабярэжжа верхняга Нёмана Літва ў глыбокай старажытнасці суседнічала з другім балцкім племем — лотвай, пра што сведчаць аднайменны гідронім (Капыльскі р-н) і тапонімы «Вялікая Лотва» і «Малая Лотва» (Ляхавіцкі р-н)[102]. Не выключана, што менавіта адсюль і пачалося рассяленне літвы і лотвы: першай — на паўночны захад, другой — на поўнач і паўночны ўсход[103]. Далей мяжа Літвы пераходзіла на р.Шчару, вялікі паўднёвы выгіб якой і з'яўляўся прыродным рубяжом Літвы на паўднёвым усходзе, поўдні і паўднёвым захадзе. Прыкладна па вярхоўі р.Мышанкі і па ніжнім цячэнні р.Валаўкі ішоў заходні рубеж Літвы, які ў больш старажытныя часы аддзяляў яе ад яцвягаў (гл. карту).

Для навукі мае прынцыповае значэнне высвятленне пытання, дзе была «Літва Міндоўга». У. Пашута паказваў яе ў Аўкштайціі, на тэрыторыі, якая ўключала гарады Вільню, Трокі, Дзялтуву, Укмерге[104] . Але на гэтай самай карце ён змяшчаў (праўда, з пытальнікам) г. Варуту, дзе, як адзначана ў летапісе пад 1252 г., бараніўся Міндоўг ад сваіх супрацiўнікаў[105], на месцы сучаснага пасёлка Гарадзішча (Баранавіцкі р-н), што вельмі далёка ад Аўкштайціі. У сувязі з гэтым узнікае пытанне, чаму Міндоўг бараніўся ад ворагаў не ў «Літве Міндоўга», а ў Навагародскай зямлі, чаму ён кінуў «сваю» Літву і прыйшоў шукаць абарону ў чужой зямлі. У. Пашута не ставіў гэтых пытанняў і, натуральна, не даў на іх адказу, як і не тлумачыў, чаму ён меркаваў, што Варута знаходзілася на месцы сучаснага Гарадзішча.

Але ўся справа ў тым, што «Літва Міндоўга», як і ўся Літва, знаходзілася не ў Аўкштайціі, а ў Верхнім Панямонні, дзе і

Варута. Ужо летапіснае паведамленне, што «Даниил возведе на Кондрата Литву Миндовга Изяслава Новогородского»[106], дае зразумець, што «Літва Міндоўга» і Новагародак знаходзіліся блізка адна ад другога. Відаць, гэта блізкасць была прычынай таго, што Э. Гудавічус, які прысвяціў «Літве Міндоўга» спецыяльнае даследаванне і які лічыць, што яна знаходзілася на поўдні сучаснай Літвы, нават не ўказаў, дзе і ў якім кантэксце яна ўпамінаецца[107]. Блізкасць «Літвы Міндоўга» ад Новагародка дае магчымасць вызначыць (хоць прыблізна) месцазнаходжанне Варуты. Хаця яе атаясамліванне з сучасным Гарадзішчам не можа з'яўляцца бясспрэчным, аднак яно можа быць блізкім да ісціны. Мы са свайго боку пра месцазнаходжанне і назву Варуты выказваем такое меркаванне. Між рэкамі Сэрвеччу і Валоўкай ёсць невялічкая рэчка Рута і некалькі населеных пунктаў з такой назвай. Магчыма, на месцы аднаго з іх і знаходзілася Варута. У першапачатковай рэдакцыі летапісу, створанай, як меркаваў У. Пашута[108], у Новагародку, магло быць напісана, што Міндоўг «вниде во град во Руту». Паўтарэнне прыназоўнікаў характэрна для Новагародскага летапісу: «на реце на Немне», «за Домонтом за Нильшанскім», «На Романа на Брянского»[109]. Пазнейшы рэдактар, устаўляючы Новагародскі летапіс у Галіцка-Валынскі, мог, не разабраўшыся, «во Руту» прыняць за адно слова і, зрабіўшы іншыя рэдакцыйныя змены, напісаць «вниде во град именем Ворута». Магчыма, што Варута знаходзілася на месцы сучасных Карэлічаў, якія размешчаны на р.Руце і дзе ёсць гарадзішча[110].

Менавіта «Літву Міндоўга» разам з правабярэжнай Літвой і Нальшчанамі ваяваў у 1258 г. татарскі ваявода Бурундай[111]. Але Р. Батура мяркуе, што пад «зямлёй Літоўскай» у летапісе трэба разумець Новагародскае княства, якое нібыта ўжо належала Літве[112]. Аднак ён не ўлічыў таго, што ў гэты час Новагародак не атаясамліваўся з Літвой, пра што сведчыць згаданае вышэй летапіснае паведамленне аб заснаванні Войшалкам манастыра паміж Літвой і Новагародкам. У 1262 г. Міндоўг помсціў валынскаму князю Васільку за яго ўдзел у паходзе Бурундая нападам на валынскія гарады. Паказальна, што атрады літвы і ў гэты раз адступалі праз Пінскую зямлю[113], што яшчэ раз сведчыць аб знаходжанні «Літвы Міндоўга» паміж Пінскай і Новагародскай землямі. З гэтага вынікае, што Бу-

рундай не мог ваяваць адзіную ў той час Літву, якая знаходзілася ў Верхнім Панямонні і з якой ён перайшоў у Нальшчанскую зямлю. Хоць апошняя пакуль што даследчыкамі дакладна не лакалізавана, аднак бясспрэчна, што яна, мяжуючыся з Літвой, знаходзілася на паўночным захадзе сучаснай Беларусі. І калі Бурундай, рухаючыся з паўднёвага ўсходу, прайшоў праз Літву ў Нальшчаны, то лівонцы і рыжане, якія рухаліся з паўночнага захаду, праз Нальшчаны (durch Nalsen)[114] праніклі ў Літву. Гэта яскравае супадзенне ў паказаннях Іпацьеўскага летапісу і Лівонскай Рыфмаванай хронікі — яшчэ адно відавочнае сведчанне, дзе была Старажытная Літва. Суседствам Новагародка і «Літвы Міндоўга» тлумачыцца факт з'яўлення апошняга ў гэтым горадзе.

Гэты вывад зроблены намі, як бачна, на падставе пісьмовых сведчанняў X—XIII стст., якія не заўважаліся ранейшымі даследчыкамі і якія пацвярджаюцца тапанімікай. І толькі яны могуць пацвердзіць сапраўднае месцазнаходжанне пачатковай Літвы. Таму трэба адкінуць спробы некаторых ранейшых і сучасных даследчыкаў рабіць гэта на падставе пісьмовых звестак пазнейшага часу (XV—XVI стст.), бо тады ўжо назва Літвы пашырылася, у тым ліку і на ўсход сучаснай Летувы ў сувязі з пераходам сталіцы ў Вільню. Так, А. Краўцэвіч у сваёй кнізе «Стварэнне ВКЛ» (Мн., 1998. С. 114) называе прыведзеныя намі сведчанні ўскоснымі і таму непераканаўчымі. Гаворачы аб тапонімах «Літва», прыведзеных намі пры лакалізацыі Старажытнай Літвы, ён заўважыў, што яны не з'яўляюцца дастатковым аргументам у такім дэталёвым раяніраванні. Але ён чамусьці не заўважыў, што ўсе ўказаныя тапонімы супадаюць з прыведзенымі намі пісьмовымі звесткамі і што нідзе ў наяўнасці такіх тапонімаў няма. А. Краўцэвіч, напрыклад, гаворыць, што тапонімы «Літва» маглі ўзнікнуць на мяжы з Пінскай зямлёй як перыферыйныя айконімы на мяжы гістарычных раёнаў ВКЛ «Літва» і «Палессе». Але гэтыя тапонімы ўзніклі не толькі на мяжы з Палессем, а і на мяжы з Менскай і Полацкай землямі, і ўсе яны, як было бачна, знаходзяцца ў згодзе з пісьмовымі дадзенымі XI—XIII стст. Хаця наша лакалізацыя Літвы абапіраецца на шматлікія факты, тым не менш А. Краўцэвіч лічыць яе самым слабым месцам нашага даследавання. Аднак гэты папрок трэба аднесці да самога А. Краў-

цэвіча. Ён лакалізуе Літву на тэрыторыі ад правых прытокаў Нёмана да Віліі. З усходу на захад яна размешчана ад Крэва (крыху на ўсход ад яго) і да Вільні (крыху на захад ад яе). Але гэта бачна толькі на карце, бо дэталёвага абгрунтавання гэтага ў кнізе няма. Праўда, зроблена спасылка на М. Любаўскага, але той абапіраўся на звесткі XV—XVII стст., якія не могуць быць прызнаны верагоднымі ў гэтым пытанні, бо ў той час назва Літвы значна пашырылася. Паўтараем, толькі на падставе звестак XI—XIII стст. можна лакалізаваць пачатковую Літву.

Зараз, калі больш дэталёва пачало разглядацца пытанне ўтварэння ВКЛ, шэраг даследчыкаў, асабліва летувіскіх, пачалі з асаблівай настойлівасцю даказваць, што пачатковая Літва і знаходзілася на тэрыторыі сучаснай Летувы. Пры адсутнасці на гэта пісьмовых доказаў упор робіцца на археалагічныя матэрыялы. Так, у Вільні знойдзены рэшткі каталіцкага храма, і сцвярджаецца, што ён быў пабудаваны Міндоўгам у сваёй сталіцы, калі ён прыняў каталіцкую веру. Або сцвярджаецца Т. Баранаускасам і Г. Забелам, што дваром Міндоўга з'яўлялася Латва (Анікшчанскі р-н, Летува). Аднак археалагічныя дадзеныя могуць толькі сведчыць аб характары культуры, ступені яе развіцця, але яны не могуць устанавіць тагачасную назву той ці іншай тэрыторыі, бо на гэта могуць указваць толькі пісьмовыя звесткі.

Было зроблена пярэчанне, што тэрыторыю, паказаную намі як Літву, з IX ст. займалі славяне і што тут з X ст. існаваў старажытнарускі горад Ізяслаўль[115]. Аднак славяне на гэтым месцы, як і на ўсёй тэрыторыі Беларусі, не былі аўтахтонамі, бо да іх, як зазначае Ф. Гурэвіч, «тут жылі балцкія плямёны культуры штрыхаванай керамікі»[116]. На гэта ўказваюць і археалагічныя помнікі, такія, як Гарадзішча (Баранавіцкі р-н), Бяздоннае, Кабакі, Ніз (Слонімскі р-н), Валожын (Валожынскі р-н), Дзяржынск, Навасады, Старая Рудзіца (Маладзечанскі р-н) і інш.[117]

Трэба зазначыць, што першапачаткова ў канцы X ст. падпадала хрысціянізацыі толькі славянскае насельніцтва, а іншапляменнае заставалася ў язычніцтве[118]. Вось чаму астравы балцкага насельніцтва яшчэ доўгі час існавалі на Беларусі, як, напрыклад, у раёне Абольцаў (Талачынскі р-н), Гайны (Ла-

гойскі р-н) і інш.[119] Насельніцтва іх было ахрышчана ў каталіцкую веру па ўмове Крэўскай уніі 1385 г. Між іншым, гэтым і тлумачыцца, чаму ў Абольцах і Гайне былі пабудаваныя першыя касцёлы на тэрыторыі Беларусі. Не выключана, што насельніцтва гэта, у тым ліку і Старажытнай Літвы, акружанае славянамі, у значнай ступені асімілявалася і было не столькі балцкім, колькі язычніцкім. Як убачым, Міндоўг і Войшалк спачатку былі язычнікамі. Нездарма ж пазнейшы Хлебнікаўскі летапіс у адрозненне ад «Аповесці мінулых часоў»[120] Літву змяшчае сярод славянскіх плямёнаў[121].

У святле прыведзеных намі фактаў цяжка пагадзіцца з думкай, што найбольш раннія ўпамінанні Літвы адносяцца да ўсходняй, цэнтральнай і занямонскай частак сучаснай Літвы[122]. Гэта адхіляецца першым жа ўпамінаннем Літвы пад 1009 г. у Кведлінбургскіх аналах. Ужо тое, што ў гэтай лацінамоўнай крыніцы назва «Літва» выступае ў славянскай форме і што тут гаворыцца аб яе сумежжы з Руссю (in confinio Rusciae et Lituae)[123], сведчыць аб тым, што гаворка тут можа ісці аб Літве ў Верхнім Панямонні, бо толькі ў такім выпадку яна магла межаваць з Руссю, ад якой тэрыторыя сучаснай Літвы была адгароджана яцвягамі[124]. Між іншым, у Летуве ўжо зараз пачалася шырокая падрыхтоўка да святкавання ў 2009 г. 1000-годдзя з часу ўпамінання Літвы ў пісьмовых крыніцах, прычым лічыцца, што яно адносіцца да тэрыторыі су ій Літвы. А гэта раўназначна таму, калі б 4 ліпеня 1957 г. бе сы адзначылі 800-годдзе першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах Белай Русі, паколькі ў адной з іх пад 1157 г. гаворыцца: «По смерти Юриеве (Даўгарукага) ростовцы, суздальцы и владимирцы со всеми городы здумавше пояше Андрея (Багалюбскага), старейшаго Юриева сына, и посадиша его на отчим столе во всей Белой Руси иуля 4 дня»[124а]. З гэтага асабліва відавочна, што як Андрэй Багалюбскі не можа лічыцца беларускім князем у сучасным значэнні гэтага слова, бо ў той час пад Белай Руссю разумелася іншая тэрыторыя (цэнтр сучаснай Расіі), так і Міндоўга і іншых так званых літоўскіх князёў нельга лічыць за такіх у сучасным значэнні гэтага слова, бо ў той час пад Літвой разумелася іншая тэрыторыя (Верхняе Панямонне).

Сапраўднае месцазнаходжанне Старажытнай Літвы пацвярджаюць і наступныя паведамленні аб Літве, звязаныя са згада-

нымі вышэй паходамі на яе Яраслава Мудрага ў 1040 і 1044 гг. У Я. Длугаша знаходзім дадатковыя звесткі аб гэтым, а менавіта тое, што кіеўскі князь «разбіў на палях слонімскіх (прыгадаем, што тут ёсць таксама тапонім «Літва» — М. Е.) і завалодаў ёй да Нёмана»[125], г. зн. захапіў яе левабярэжную частку. Прыведзеныя факты абвяргаюць і думку, што тапонімы «Літва» ва ўказаным намі рэгіёне з'явіліся ў выніку прасоўвання сюды пазней (калі менавіта, не ўказваецца) літоўскіх насельнічаў[126]. Аднак падзеі 1009, 1040 і 1044 гг. паказваюць, што ўжо ў XI ст. гэта мясцовасць называлася Літвой.

Некаторыя даследчыкі, каб даказаць знаходжанне Старажытнай Літвы на поўдні сучаснай, з назвы рэчкі «Летаўка» (правы прыток Віліі ў раёне г.Кернаў) выводзяць назвы «Летува—Летава—Літва»[127]. Аднак гэта вельмі праблематычна, бо ў самых ранніх пісьмовых звестках, як і ў тапаніміцы, адлюстравалася назва «Літва», а не «Летува» і не «Летава». Ва ўсякім выпадку нельга бачыць толькі ўказаны спрэчны гідронім і не заўважаць цэлае гняздо адзначаных вышэй красамоўных тапонімаў «Літва» ў Верхнім Панямонні. Нельга прызнаць удалай і спробу лакалізаваць на тэрыторыі сучаснай Літвы ўладанні літоўскіх князёў XIII ст., згаданых у пісьмовых крыніцах[128]. Справа ў тым, што тапонімы, падобныя на імёны названых князёў, ёсць не толькі на тэрыторыі Літвы, але і ў іншых мясцовасцях, у прыватнасці на Беларусі, як, напрыклад, Таўтвілы (Пружанскі р-н), Юткі (Мядзельскі р-н), Даўяты (Браслаўскі р-н), Руклі (Аршанскі р-н) і інш. Спасылка Р. Батуры на грамату Міндоўга ад 1253 г.[129] нічога не дае для высвятлення месцазнаходжання Старажытнай Літвы ў Аўкштайціі, паколькі ў гэтым дакуменце пералічаны землі, якія нібыта належалі Літве, але што разумелася пад ёй, тут не відаць. Тое і ў адносінах дагавора Гедзіміна ад 2 кастрычніка 1323 г.[130] Ужо тое, што гэты князь, называючы сябе каралём Літвы, палічыў патрэбным у ліку іншых земляў, ад імя якіх ён заключыў дагавор, назваць Аўкштайцію і Жамойцію, гаворыць аб іх такім агульнавядомым найменні ў той час і што тытул караля Літвы, такім чынам, паходзіў не адсюль. Гэта ж пацвярджае і П. Дузбург, у якога Аўкштайція паказана ў сувязі з падзеямі 1291—1300 гг. як «уладанне караля Літвы» (terra regis Litowia)[131], з чаго відаць, што Літва і Аўкштайція — розныя ў

той час геаграфічныя паняцці. Як доўга яшчэ трымалася назва «Аўкштайція» ўжо ў час існавання ВКЛ, сведчыць упамінанне яе Вітаўтам у пісьме ад 11 сакавіка 1420 г.[132] Тое, што ў 1268 г. Нальшчаны названы «правінцыяй Літвы»[133], не гаворыць аб пашырэнні назвы апошняй на гэту зямлю, а толькі аб прыналежнасці яе да Літвы, што і адпавядала сапраўднасці, паколькі Войшалк заваяваў яе разам з Дзяволтай у 1264 г. Калі Вартберг паказаў Кернау ў Літве[134], то гэта зразумела, бо ён пісаў сваю хроніку пасля 1378 г.[135], калі назва «Літва» ўжо замацоўвалася ў іншым месцы. Выказана яшчэ думка, што з тэрыторыі, якая нібыта з'яўлялася цэнтрам утварэння феадальнай літоўскай дзяржавы (г. зн. усходу і цэнтра сучаснай Літвы), у пачатку XIV ст. знікла назва «Літва» і заменена там назвай «Аўкштайція»[136]. У такім разе незразумела, чаму гэта назва адтуль знікла і калі і чаму яна там зноў з'явілася і замацавалася.

Аднак усё адбывалася інакш: спачатку ўсходняя частка сучаснай Літвы называлася Аўкштайціяй, пра што могуць сведчыць і такія тапонімы, як «Аўкштайцы», «Аўкштыня», «Гаўкштаны», «Аўкштадворы», «Аўкштэлі», і ім падобныя ў былых Быстрыцкай, Міляцкай, Міцкунскай, Няменчынскай, Рашанскай, Шырвінскай і Янішскай валасцях Віленскага пав., у Жосельскай, Алькенішскай і Суміліпіскай валасцях Троцкага пав., у Аляксандраўскай воласці Лідскага пав. і ў Лынгмянскай воласці Свянцянскага пав.[137] І толькі пазней у сувязі з перанясеннем сталіцы ў Вільню ў пачатку XIV ст. назва «Літва» з Верхняга Панямоння паступова пачала пераходзіць на ўсход сучаснай Літвы і замацоўвацца там. Але адначасова яна прадаўжала захоўвацца і на ранейшым месцы яшчэ цэлыя стагоддзі. У Магілёўскай хроніцы пад 1695 г. гаворыцца, што літоўскае пагранічча праходзіла недалёка ад Менска і Слуцка[138]. Наколькі гэта назва ў Верхнім Панямонні мела ўсеагульнае прызнанне і нават афіцыйнае, можа служыць той факт, што дзекабрыст А. Бястужаў, жывучы ў 1821 г. на тэрыторыі сучаснага Валожынскага р-на, даў у Пецярбург такі свой адрас: «Литва, д. Выгоничи, в 40 верстах от Минска»[139]. Дзе знаходзілася ўласна Літва ў старажытнасці, добра ведаў і рускі гісторык М. Надзеждзін: «Уласна ў Літве ёй (літоўскай мовай.-- *М .Е.)* гавораць ужо вельмі нямногія, і менавіта: адно пасслі-

шча ў павеце Вілейскім, некалькі сёл у паветах Навагрудскім і Слонімскім»[140]. Слушна адзначалася, што ў часы А. Міцкевіча Літвою называлі не толькі сучасную Літву, але і пэўную частку славянскай тэрыторыі. Аднак апошняя насіла такую назву не таму, што яна калісьці ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага[141], а таму, што менавіта тут і была ў далёкія часы ўласна Літва.

Са знаходжаннем летапіснай Літвы ў Беларускім Панямонні звязана і тое, што насельніцтва яго, асіміляваўшыся ў беларусаў, называла сябе па-ранейшаму ліцвінамі. Пісьмовыя крыніцы адзначаюць гэта ўжо з канца XIII — пачатку XIV ст. Так, П. Дузбург, напрыклад, у сваёй хроніцы два разы (пад 1296 і 1305 гг.) піша пра змаганне нямецкіх рыцараў з літоўскімі і абодва разы заўважае, што апошнія былі рускімі [142], г. зн. толькі па назве былі ліцвінамі, а па сутнасці з'яўляліся славянамі. У «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай» пад 1405 г. гаворыцца пра Андрэя Літвіна, які раіў Вітаўту не ісці на згоду з непрыяцелем, крыкнуўшы пры гэтым: «Не мири, Витавте, не мири»[143]. З прычыны гэтага Вітаўт празваў яго Нямірам, ад якога і род такі пайшоў. Як бачым, ні гэты ліцвін, ні вялікі літоўскі князь не гаварылі па-літоўску. У інтэрмедыі драмы Георгія Каніскага «Воскресение мертвых» (1746) пад імем Літвіна выведзены беларускі селянін[144]. А. Міцкевіч (1798—1855), які нарадзіўся пад Навагрудкам, сваю айчыну называў Літвой[145]. Нават беларускі пісьменнік XIX ст. В. Дунін-Марцінкевіч (1807—1884), якога таксама нельга западозрыць у адсутнасці беларускай нацыянальнай свядомасці, лічыў, што ён вырас сярод ліцвінаў[146]. Гэтак жа ўраджэнец Гродзеншчыны К. Каліноўскі, рэвалюцыйная дзейнасць якога прыпадае на 60-я гады XIX ст. і які заўсёды звяртаўся да свайго народа на беларускай мове, як правіла, называў родны край Літвой. Называе сябе ліцвінам і адзін з герояў трылогіі Я. Коласа «На ростанях» (у ёй паказваюцца падзеі пачатку XX ст.) Баранкевіч, хаця ён і беларус[147]. Мы не будзем больш прыводзіць аналагічныя прыклады, бо Я. Юхо пераканаўча паказаў, што назва «Літва» на працягу многіх стагоддзяў адносілася да Беларусі і была, па сутнасці, яе гістарычным найменнем[148]. Толькі на пачатку XX ст., калі завяршыўся працэс утварэння беларускай нацыі, назва «Беларусь» замацавалася і за Беларускім Панямоннем, выцесніўшы

адтуль назву «Літва», якая з таго часу стала адносіцца толькі да сучаснай Літвы.

Цяпер коратка спынімся на некаторых іншых гістарычных абласцях і княскіх родах, якія ў крыніцах упамінаюцца побач з Літвой. У дагаворы 1219 г. названы князі Булевічы і Рушкавічы. Адносна іх месцазнаходжання былі выказаны меркаванні. Так, І. Бяляеў паказваў без размежавання першых і другіх на тэрыторыі ад Віліі да Нёмана і Свіслачы і на ўсход да Бярэзіны дняпроўскай[149]. На жаль, ён не ўказаў ні крыніцы, ні меркаванняў, якія яму далі падставу для гэтай высновы. У апошні час Э. С. Гудавічус на падставе тапанімікі, якая супадае з імёнамі булевіцкіх і рушкавіцкіх князёў, лічыць, што Булевічы валодалі Шаўляйскай зямлёй, а Рушкавічы — зямлёй Упітэ[150]. Аднак такія тапонімы ёсць і на Беларусі (Булеўскас балота і інш.)[151]. Намі было выказана меркаванне, што Булевічы знаходзіліся на тэрыторыі Стаўбцоўскага р-на, таму там меліся тапонімы Балевічы[152]. Гэта, як бачым, супадае са сцверджаннямі І. Бяляева. Булевічы толькі аднойчы ўпамінаюцца ў летапісах, і таму магчыма, што летапісец не зусім дакладна перадаў іх прозвішча. На гэту думку наводзіць тое, што ў Нягневічах (Навагрудскі р-н) ёсць рэчка з крыху незвычайнай назвай «Буловіч»[153]. Гэта не так далёка ад Стаўбцоўскага р-на і таму можа быць пэўным арыенцірам для лакалізацыі Булевічаў. Таму стане зразумелым, чаму Міндоўг так жорстка абышоўся з булевіцкімі князямі, усіх іх знішчыўшы[154]. Падначаленне Булевічаў, якія знаходзіліся на яго шляху ад Новагародка ў Літву, адчыніла яму шлях да заваявання апошняй. Адзначым яшчэ, што ў Памераніі ёсць населеныя пункты Bulitz, Bullen[155]. А гэта можа ўказваць на заходнеславянскае паходжанне Булевічаў, тым больш што імёны іх князёў, як, напрыклад, Вішымут, адносяцца да славянскіх[156]. Магчыма, што Булевічы з усім сваім родам і князямі ўцяклі з заходнеславянскіх земляў, ратуючыся ад анямечвання і хрысціянізацыі, на тэрыторыі, дзе было яшчэ нямала язычніцкага насельніцтва.

Што да Рушкавічаў, то гэта прозвішча празрыста славянскае. На карце Памераніі мы знаходзім Ruskewitz[157], што таксама можа ўказваць на месца, адкуль яны прыйшлі. Імёны іх князёў — Кінцібут, Ванібут, Бутавіт, Віжэнік, Вішлій, Кінцэній, Плікасова, Хвал, Сірвіт—носяць славянскі характар[158]. Па-

ранейшаму ў нас адсутнічаюць даныя, якія б далі магчымасць больш-менш дакладна вызначыць месца іх княжання. Толькі па тапанімічных даных, як гэта робіць Э. Гудавічус, вызначыць гэта нельга. Паколькі ў XIII ст. Рушкавічы рабілі напады на Валынь, то мы схільны лічыць, што іх уладанні былі па суседству з Пінскай зямлёй. Відаць, язычніцтва Булевічаў і Рушкавічаў найперш і звязвала іх з балцка-літоўскімі князямі.

У свой час Э. Вальтэр зрабіў спробу вызначыць месцазнаходжанне Нальшчанскай зямлі, якую ён паказваў па паўночным захадзе сучаснай Літвы[159]. Адным з крытэрыяў для такой высновы была наяўнасць там тапонімаў тыпу «Налішкі». Аднак, адшукаўшы такі ў Жамойціі, даследчык зазначыў, што ён нічога агульнага з Нальшчанамі не мае. А гэта азначала, што і іншыя падобныя тапонімы нельга было ўпэўнена адносіць да Нальшчанаў. Прычынай няўдачы Э. Вальтэра было і тое, што ён, атаясамліваючы Старажытную Літву з сучаснай, не звярнуў увагу на сведчанні, якія супярэчылі гэтаму. Так, адзначыўшы, што ў нямецкіх крыніцах «Нальсен» і «Наліске» знаходзяцца ў сувязі з пагранічнай вобласцю, як бы спрэчнай, не жмудскай і не літоўскай, не заўважыў, што тут вельмі выразна паказана становішча Нальшчанаў як тэрыторыі, што раздзяляла Літву і Жамойцію. Прыведзенае Вальтэрам паведамленне Рыфмаванай хронікі, што шлях лівонцаў у Літву на Міндоўга пралягаў праз Нальшчаны і што яны знаходзіліся на дарозе ад Дзвінска да Літвы, таксама пацвярджала месцазнаходжанне і Старажытнай Літвы і Нальшчанаў. Але гэтыя сведчанні засталіся без уважлівага аналізу Э. Вальтэра. А. Кіркор атаясамліваў Нальшчаны з Гальшанамі[160]. Паводле У. Пашуты, Нальшчанская зямля займала ўвесь крайні паўночны захад сучаснай Беларусі і крайні паўднёвы ўсход сучаснай Літвы (ад Нёмана ніжэй Гродна і да Заходняй Дзвіны ў раёне Даўгаўпілса і ад Крэва да Вільні)[161]. Гэта ў некаторых адносінах слушна, аднак яму не дадзена тлумачэнне. Нальшчаны непасрэдна межавалі са Старажытнай Літвой, як мы бачылі вышэй, і гэта дае падставу іх лакалізаваць на паўночным захадзе Беларусі. У некаторых месцах Рыфмаванай хронікі Нальшчаны маюць назву «Альсен». Яна, магчыма, нямецкага (гоцкага?) паходжання, бо магла ўтварыцца ад слоў Aal (вугор) і Seen (азёры), што значыць «азёры, населеныя вуграмі».

Калі так, то гэта вобласць, відаць, займала тэрыторыю паўночна-заходняй часткі Беларускага Паазер'я, багатага вуграмі. Бясспрэчна, што карэннымі насельнікамі Нальшчанаў былі балты. Але, як вядома, гэта раён найбольш ранняга пранікнення славян-крывічоў, на што ўказвае назва «Крэва» і падобныя ёй. І таму Нальшчаны трэба адносіць да найбольш аславяненых к гэтаму часу абласцей. Бадай, неправамерна залічаць Нальшчанскую зямлю да балцка-літоўскіх, асабліва калі ўлічыць, што яе князі адсутнічалі ў валынска-літоўскім дагаворы 1219 г. Нездарма і нальшчанскі князь Даўмонт з усім сваім родам уцёк у Пскоў і там быў абраны князем. Пасля XIII ст. назва «Нальшчаны» знікла, прынамсі ў пісьмовых дакументах. На іх тэрыторыі пазней утварылася Крэўскае княства.

Летапісная назва «Дзяволтва», мабыць, сцягнутая форма назвы «Дзевалотва», што можа гаварыць аб насельніках гэтай вобласці як адгалінаванні балцкага племя лотвы, што ў старажытны час насяляла цэнтральную і паўночна-заходнюю частку Беларусі[162], тым больш што ў Хлебнікаўскім летапісе Дзяволтва і названа Лотвай[163]. «Хроніка Быхаўца», створаная ў XVI ст., указвае на існаванне Дзевалтоўскага княства[164], якое знаходзілася ў раёне Вількаміра. Няпэўнасць крыніц спарадзіла неразбярыху ў навуковай літаратуры.Так, на карце, прыкладзенай да кнігі У. Пашуты «Героическая борьба русского народа за независимость» (1956), Дзяволтва паказана ў міжрэччы Нявежы і Швентойі. А на карце «Земли и населенные пункты Древней Литвы» ў кнізе У. Пашуты «Образование Литовского государства» на месцы Дзяволтвы паказана вобласць Упітэ, а асноўная частка тэрыторыі Дзяволтвы аднесена на ўсход ад ракі Швентойі, туды, дзе звычайна паказваецца Аўкштайція.

Праблема месцазнаходжання Аўкштайціі таксама заблытаная. Нават нельга ўпэўнена сказаць, ці на тэрыторыі яе была Вільня, бо некаторыя даследчыкі лічаць, што гэта гістарычная вобласць знаходзілася на захад ад Вільні. Тапаніміка сведчыць, што на тэрыторыі сучаснай Літвы аўкштайты займалі прастору ў міжрэччы Меркіс і Стравы і міжрэччы Жаймяны і Швентойі. Але наўрад ці жылі аўкштайты за правым берагам Швентойі аж да р. Нявежыс, як гэта паказвае У. Пашута. У адной з нямецкіх хронік гаворыцца, што ў 1332 г. лівонцы

зрабілі набег на Жмудзь і дайшлі да Швентойі. У наступным годзе яны зноў хадзілі на Жмудзь і дайшлі да Вількенберга[165]. З гэтага відаць, што заходні рубеж Аўкштайціі не ішоў далей Швентойі.

Гаворачы аб месцазнаходжанні Жамойціі, тэрыторыя якой цягнулася да Балтыйскага мора, мы хочам звярнуць увагу на наяўнасць значнай колькасці тапонімаў тыпу «Жамойцішкі», «Жамайтэлі» і ім падобных у былых Бутрымонскай і Язненскай валасцях Троцкага, у Падбярэзскай, Рукойненскай, Янішскай валасцях Віленскага, у Аляксандраўскай, Беняконскай, Ганчарскай і Эйшышскай валасцях Лідскага, у Дубатоўскай воласці Свянцянскага, у Забрэскай і Суботнікаўскай валасцях Ашмянскага паветаў і інш.[166] Гэтыя тапонімы досыць сканцэнтраваны і лакалізаваны і ўшчыльную ахопліваюць усходнія і паўднёва-ўсходнія межы сучаснай Літвы. Е. Ахманьскі заўважыў неадпаведнасць назвы «Жамойція» (нізкая зямля) таму геаграфічнаму становішчу, якое займае гэта вобласць, размешчаная на высокім месцы. І ён выказвае меркаванне, што гэта назва паўстала тады, калі жамойты сядзелі на нізінным месцы над р. Нявежай. Але адсюль іх нібыта выцеснілі аўкштайты, якія прыйшлі з ашмянскіх высотаў (адсюль і Аўкштайція— высокая зямля). У выніку гэтага жамойты і засялілі сваю сучасную мясцовасць, выцесніўшы адтуль куронаў[167]. Наяўнасць у адных і тых жа мясцінах жамойцкіх і аўкштайцкіх тапонімаў можа ў некаторай меры пацвярджаць гэту думку. Адначасова адсюль можна зрабіць выснову аб магчымасці таго, што ў нашых летапісах Аўкштайція выступае пад старой назвай. І гэта найбольш верагодна, бо яшчэ ў канцы XIX і пачатку XX ст. жыхары ўсходняй Літвы нярэдка называліся жамойтамі, а літоўская мова — жамойцкай[168].

З разгледжанага бачна, што балцка-літоўскія землі некампактна цягнуліся з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход ад Балтыйскага мора да вярхоўя Шчары. У даследаваннях сцвярджаецца аб наяўнасці ў літоўскіх землях ужо ў пачатку XIII ст. адносна адзінай дзяржавы[169], сведчаннем чаго нібыта з'яўляецца дагавор 1219 г. Аднак з гэтым цяжка згадзіцца. У ім упамінаецца звыш 20 старэйшых князёў, што яскрава сведчыць аб выключнай раз'яднанасці гэтых земляў. Выраз «старэйшыя князі» адносіцца ў гэтым дагаворы не толькі да князёў Літвы,

як гэта звычайна сцвярджаецца даследчыкамі, але і да князёў усіх пералічаных тут земляў. Тое, што князі Літвы названы першымі, яшчэ раз паказвае яе месцазнаходжанне ў Верхнім Панямонні. Яна была найбліжэй да Валыні і таму названа першай. Апроч таго, не звярталася ўвага на адсутнасць у гэтым дагаворы нальшчанскіх князёў. А гэта таксама не дае права гаварыць аб наяўнасці нават адносна адзінай дзяржавы ў балцка-літоўскіх землях. Але самае галоўнае — гэта так званае адзінства было вынікам не ўнутранага развіцця, а знешняга фактару: балцка-літоўскія князі былі пакліканы валынскімі князямі для барацьбы з палякамі і тым самым паказалі сябе ў якасці наёмнікаў.

На заканчэнне гаворкі аб літоўска-балцкіх землях зноў вернемся да Старажытнай Літвы. Найбольш важна тут будзе падкрэсліць, што яна ўрэзвалася клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі і побач з імі з'яўлялася адной з гістарычных абласцей Беларусі. Зразумела, што пры аб'яднанні гэтых земляў яна не магла не ўвайсці ў склад тэрыторыі Беларусі як адна з яе састаўных частак. Не бачачы такога геапалітычнага становішча Старажытнай Літвы, нельга зразумець, чаму яна ў сярэдзіне XIII ст. апынулася ў фокусе палітычнага саперніцтва суседніх з ёю земляў, якія імкнуліся заваяваць яе, што было першым звяном у пашырэнні іх улады на іншыя землі. У гэтым саперніцтве і атрымаў перамогу Навагародак, які і стаў цэнтрам утварэння новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Толькі зараз у сувязі з аб'яднаннем беларускіх земляў, як убачым далей, пачалося аб'яднанне ў гэтай дзяржаве і балцка-літоўскіх земляў. Вось чаму няма ніякіх падстаў гаварыць аб існаванні да гэтага часу Літоўскай дзяржавы.

## ЛІТОЎСКІЯ НАБЕГІ І СЛАВЯНСКАЯ КАЛАНІЗАЦЫЯ

«Літоўскія набегі» гістарычная навука разглядае як фактар, які нібыта падрыхтаваў заваяванне літоўскімі феадаламі беларускіх земляў. Даследчыкі звычайна спасылаюцца для пацвярджэння гэтага на «Слова аб палку Ігаравым». Так зрабіў і

У. Пашута. Зазначыўшы, што гэты твор паведамляе пра страту полацкімі князямі былых пазіцый у Літве і Падзвінні, ён прыводзіць у якасці пацвярджэння наступныя радкі: «И Двина болотом течет оным грозным полочаном под клики поганых. Един же Изяслав, сын Васильков, позвони своими острыми мечи о шеломы литовськыя, притрепа славу деду своему Всеславу, а сам под чрьлёными щиты на кроваве траве притрепан литовськими мечи... Не бысть ту брата Брячислава, ни другаго Всеслава...»[170] Як вядома, «Слова» не летапіс, а мастацкі твор. Таму перад даследчыкам стаіць задача высветліць, якія гістарычныя падзеі знайшлі адлюстраванне ў гэтым творы. Хутчэй за ўсё аўтар яго, гаворачы пра з'яўленне «паганых» на Дзвіне, меў на ўвазе падзеі 1167 г., калі вядомы нам менскі князь Валадар Глебавіч пайшоў са сваім войскам, у складзе якога, як і ў 1162 г., магла быць і літва, на Полацк, захапіў яго і пайшоў далей уздоўж Дзвіны на Віцебск, дзе яго напаткала няўдача[171]. Выкарыстанне полацкімі князямі літвы і ліваў як вайсковай сілы ў паходзе на Друцк мела месца і ў 1180 г.[172], незадоўга да напісання «Слова». Вось гэтыя і ім падобныя факты і далі падставу аўтару «Слова» гаварыць пра з'яўленне «паганых» на Дзвіне. Але гэтыя факты сведчаць, што не сама літва прыйшла на Полаччыну, як звычайна сцвярджаецца, а была прыведзена полацкімі князямі для барацьбы паміж сабой. Такія дзеянні былі характэрны не толькі для полацкіх князёў. Кіеўскія князі ў міжусобнай барацьбе часта выкарыстоўвалі полаўцаў. За гэта аўтар «Слова» асуджае і кіеўскіх, і полацкіх князёў: «Ярославли (г. зн. кіеўскія князі) и вси внуци Всеславли (г. зн. полацкія князі)!.. Вы бо своими крамолами начасте наводити поганыя полкы на землю Рускую, на жизнь Всеславлю...» Вось гэтых слоў і не прыводзяць даследчыкі, а ў іх якраз і паказана праўдзівая прычына з'яўлення «паганых» на Дзвіне.

Што датычыць князя Ізяслава Васількавіча, які загінуў у барацьбе з літоўцамі, то трэба найперш адзначыць, што гэта адзіны герой у «Слове», якога не ведаюць летапісы, і таму цяжка сказаць, дзе ён княжыў. Выраз «трубяць трубы гарадзенскія» яшчэ не дае падставы гаварыць, што ён быў князем у Гарадзені (сучаснае Гродна), бо ў той час гарадоў з такой назвай было шмат. Але, як паказвае «Слова», полацкі і віцебскі князі

Брачыслаў і Усяслаў Васількавічы не падтрымалі свайго брата Ізяслава ў барацьбе з літоўцамі. Гэтым яно таксама пацвердзіла, што полацкія князі не былі ў варожых адносінах з Літвой нават і тады, калі з ёю ваяваў іх брат. Такім чынам, «Слова» дае праўдзівую гістарычную карціну адносін паміж Полацкам і Літвой. І таму не маюць рацыі тыя даследчыкі, якія вырываюць з тэксту «Слова» паасобныя месцы, каб пацвердзіць штучную канцэпцыю пра падначаленне Літве беларускіх земляў.

І ўсё ж у першыя тры дзесяцігоддзі XIII ст. у розных крыніцах зарэгістраваны тры літоўска-полацкія канфлікты, на якіх заваструецца асаблівая ўвага ў даследаваннях. Таму яны патрабуюць уважлівага разгляду, каб высветліць іх характар.

Першы з іх знайшоў адлюстраванне ў «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага пад 1201 г. Тут сказана, што летоны, пасля таго як, прыйшоўшы ў Рыгу, заключылі мір з хрысціянамі, «наступнай зімой, спусціўшыся ўніз па Дзвіне, з вялікім войскам накіраваліся ў Семігалію. Пачуўшы, аднак, яшчэ да ўступлення туды, што кароль полацкі прыйшоў з войскам у Літву (Летонію), яны кінулі семігалаў і паспешліва адышлі назад»[173]. Найперш узнікае сумненне, ці былі гэта літоўцы з тэрыторыі сучаснай Літвы, як гэта прынята лічыць, бо ім у такім выпадку не было сэнсу плысці па Дзвіне ў Семігалію, паколькі апошняя знаходзілася на левабярэжжы Дзвіны і на поўдзень ад яе была Літва ў сучасным разуменні і таму да семігалаў прасцей і бліжэй было дабрацца па сушы. Калі ж гэта былі сапраўды літоўцы, то яны жылі не на тэрыторыі сучаснай Літвы, а дзесьці далей на ўсход, побач з Полацкай зямлёй, ім у такім разе зручней было дабірацца да семігалаў па Дзвіне. Незразумела, чаму В. Данілевіч сцвярджаў, што вынікі гэтага паходу полацкага князя ў Літву невядомыя і што, маўляў, такія адзінкавыя спробы ўціхамірыць Літву мала прыносілі карысці для Полацка[174]. Як мы ўжо ведаем з вышэйпрыведзенай вытрымкі, летоны, даведаўшыся, што полацкі князь пайшоў у іх зямлю, адмовіліся ісці ў Семігалію, бо менавіта за намер напасці на апошнюю як на яго ўладанне і помсціў Полацк паходам на Летонію. Такім чынам, тут яўна выявілася сіла Полацка і бяссілле Летоніі. Звяртаем увагу і на тое, што «Хроніка Лівоніі» засведчыла прыналежнасць Семігаліі Полацку.

Паводле Я. Длугаша, у 1216 г. літоўскія дружыны ўварваліся ў ваколіцы Полацка і сталі рабаваць іх. Яны нібыта былі разгромлены і выгнаны смаленскім князем Мсціславам Давыдавічам[175]. Такую магчымасць нельга адмаўляць. Якія б дружалюбныя адносіны паміж суседнімі землямі ні былі, яны тым не менш не перашкаджалі спробе пажывіцца пры нагодзе за кошт суседа. А такая нагода ў 1216 г. магла з'явіцца. Полацкі князь у гэты год сабраў войска, каб ісці на Рыгу, але раптоўна памёр. Таму літоўскія дружыны, якія былі ў складзе полацкага войска, маглі выкарыстаць замяшанне ў Полацку і пачаць рабаваць пры адыходзе менавіта яго ваколіцы. Можна таксама дапусціць, што з-за часовай адсутнасці князя ў Полацку палачане звярнуліся да смаленскага князя, які мог быць удзельнікам паходу на Рыгу і таму прысутнічаў тады ў Полацку, каб расправіцца з літоўцамі. І ўсё ж такога не было. Па-першае, наяўнасць літвы ў войску Уладзіміра гаворыць аб цесным саюзе Полацка з ёю ў гэты час. Па-другое, смаленскім князем быў тады не Мсціслаў Давыдавіч, а Уладзімір Рурыкавіч, які княжыў тут у 1214—1219 гг.[176] Па-трэцяе, гэты апошні таксама не мог бы прыйсці на дапамогу Полацку, бо ў той час удзельнічаў разам з іншымі князямі ў паходзе на Суздаль[177]. Усё гэта адмаўляе факт нападу на Полацк і разгром яго Мсціславам Давыдавічам у 1216 г.

Адзначаецца і яшчэ адзін факт, калі ў 1225 г. літва напала на Полацкую, Наўгародскую і Смаленскую землі. Сапраўды, у Лаўрэнцьеўскім летапісе чытаем: «Тою же зимы воеваша Литва Новгородскую волость, и поимаша множество много христиан и много зла сотвориша, воюя около Новгорода, и около Торопца и Смоленска, и до Полотьска, бе бо рать велика ака же не было от начала миру»[178]. Аднак у тым жа летапісе, паводле Акадэмічнага спіса, гаворыцца аб нашэсці літвы ў раён Тарапца і Таржка, а Полацк не называецца[179]. І гэты запіс больш праўдзівы, бо ён супадае з адпаведным запісам Наўгародскага І летапісу[180]. Як бачым, усе тры факты, якімі аперыруюць даследчыкі Наўгародскага І летапісу ў пацвярджэнне нападаў Літвы на Полацк, з'яўляюцца малаверагоднымі. А каму, як не наўгародцам, лепш было ведаць, на каго ў гэтым выпадку нападала Літва. І сапраўды, як і ў XII, так і ў XIII ст. Літва з'ўлялася зброяй у руках Полацка для барацьбы з суседнімі землямі. Больш за тое, каб кампенсаваць свае страты ў

Ніжнім Падзвінні, якім завалодалі крыжакі, Полацк усё больш умацоўваў сувязь з Літвой і свой уплыў на яе. Аб гэтым і сведчыць усё большая колькасць набегаў літвы на Пскоўскую, Наўгародскую і Смаленскую землі. Вось іх пералік паводле Пскоўскага, Наўгародскага і Суздальскага летапісаў: 1200 г. — на Ловаць і Налюця, 1210 г. — на Хаданічы, 1213 г. — на Пскоў, 1217 г. — на Шэлонь, 1223 г. — на Тарапец, 1224 г. — на Русу, 1225 г. — на Таржок і Тарапец, 1229 г. — на Любну, Марэву і Селігер, 1234 г. – на Русу, 1238 г. — на Пскоў, 1245 г. — на Таржок і Бежыцу, 1247 г. — на Пскоў, 1248 г. — на Зубцоў. Дарэчы, заўважым, што А. Сабалеўскі на падставе гэтых звестак зрабіў вывад, што Літва ў той час не была ля Вільні і Трокаў, а ў раёне Усвятаў, між Віцебскай і Смаленскай землямі[181]. Але ён не ўлічыў, што Усвяты, далей якіх не гналіся за літвой наўгародцы ў 1223, 1225 і 1245 гг., былі крайнім полацкім уладаннем, дзе яна і знаходзіла сабе надзейнае прыстанішча. Апроч таго, ён не ўзяў пад увагу, што ўказаныя ім словы літоўскага паходжання, як «твань», «нетра» і іншыя, сустракаюцца не толькі ва ўказаным ім месцы Смаленшчыны, але і на ўсёй тэрыторыі Беларусі і ўсюды там, дзе ў далёкія часы жылі балцкія плямёны.

Аднак вернемся да разгляду так званых літоўскіх нападаў. Найперш зробім заўвагу, што не заўсёды летапісцы адрознівалі літву ад суседніх народаў. Так, у Пскоўскім летапісе пад 1213 г. чытаем «Изгнаша от себя псковичи литовьского князя Владимира Торопецкого»[182]. Такім чынам, нават князь з Тарапца, сын вядомага Мсціслава Удалога, называецца літоўскім. На жаль, даследчыкі не звяртаюць увагі на такія дэталі. Калі ў той час у разрад літоўскіх залічваўся князь з Тарапца, то гэта яшчэ ў большай меры магло рабіцца ў адносінах полацкіх князёў. У свой час гісторык І. Бяляеў зазначыў, што ў летапісах літва і палачане прымаліся за адно і пад імем літоўскіх набегаў разумеліся полацкія[183]. І хаця літва і палачане не заўсёды прымаліся за адно, аб чым сведчаць запісы ў Наўгародскім І летапісе пад 1191, 1198, 1258 і 1262 гг., аднак у выснове І. Бяляева ёсць вялікая доля праўды. Усе гэтыя набегі былі перш за ўсё зброяй полацкай палітыкі незалежна ад таго, хто ў іх прымаў большы ўдзел — палачане ці літва. Як паказваюць летапісы, у пераважнай большасці выпадкаў літва скла-

дала галоўны кантынгент полацкага войска і таму гэтыя набегі ў летапісах і называліся набегамі літвы. Нельга згадзіцца з думкай, што яны прыносілі ўзбагачэнне князям Літвы, мэтай якіх было рабаванне, захоп палонных, жывёлы, што з'яўлялася адной з крыніц назапашвання багацця класа феадалаў, які ў той час там фарміраваўся[184]. Бясспрэчна, што ўдзел у гэтых набегах не мог быць бескарыслівым. Аднак у цэлым яны не толькі не ўзбагачалі і не ўзмацнялі Літву, але яшчэ больш яе знясільвалі, бо, як правіла, пераважная большасць з іх заканчвалася паражэннем, стратай палонных і нарабаванага, вялікай колькасцю забітых. На жаль, усё гэта замоўчваецца ў даследаваннях ва ўгоду штучнай схеме: Літва мацнела, Полацк слабеў. Такі сумны зыход мелі набегі 1200, 1210, 1225, 1229, 1234, 1245, 1248, 1253 гг., і толькі рэдкія з іх, як у 1217 і 1223 гг., заканчваліся больш-менш шчасліва. Некаторыя паражэнні насілі яўна катастрафічны характар. Так, у 1225 г. загінула 2 тыс. літвы з агульнай колькасці 7 тыс., а ў 1245 г. Аляксандр Неўскі пад Тарапцом знішчыў больш 8 князёў, а пад Жыжцом і ўсіх астатніх. А колькі ж тады загінула простых воінаў? Пры такім стане рэчаў будзе няправільна гаварыць, што гэтыя набегі прыносілі карысць Літве. Не, гэта магло быць толькі ў інтарэсах полацкіх феадалаў. У. Пашута лічыў, што пра падначаленае становішча палачан сведчыць Наўгародскі I летапіс, які пад 1258 г. паведамляе пра напад ужо не «полочан с литвой», як раней, а «литвы с полочаны» на Смаленск[185]. А крыху вышэй у сваёй кнізе гэты даследчык папракае той самы летапіс за тое, што ў ім пры паведамленні пра паход 1240 г. на Вендэн на першае месца ставіцца літва, тады як галоўную ролю там адыгралі немцы[186]. Гэтым самым аспрэчыў і свой уласны довад наконт адносін Полацка і Літвы. Не меў рацыі У. Пашута і тады, калі сцвярджаў, што гэты паход на Смаленск быў «справай рук Таўцівіла»[187], які княжыў у той час у Полацку. Вядома, што яшчэ задоўга да Таўцівіла палачане хадзілі на Смаленск, а цяпер прымусілі хадзіць і яго. Што набегі літвы на Ноўгарад залежалі ад полацкай палітыкі, сведчыць і такі факт. Як толькі Полацк і Ноўгарад у 1262 г. заключылі мір, літва не толькі спыніла набегі на наўгародскія землі, але і разам з палачанамі стала дапамагаць наўгародцам, як, напрыклад, пры паходзе на Юр'еў супраць немцаў у 1262[188].

Літву выкарыстоўвалі для аслаблення Галіцка-Валынскай зямлі і турава-пінскія князі. У канцы 20-х гадоў XIII ст. адносіны паміж Валынню і Пінскам настолькі абвастрыліся, што ўзнік канфлікт. Піняне ў 1227 г. захапілі г. Чартарыйск. У наступным годзе Даніла Галіцкі вярнуў яго назад. Пасля гэтага пінскі князь Расціслаў арганізаваў супраць яго кааліцыю князёў, у якой сярод іншых удзельнічалі тураўцы і навагародцы. Але яны пацярпелі паражэнне, і Пінск падпаў пад уплыў Валыні, князі якой прымушалі выяваць пінянаў з суседняй Літвой. Са свайго боку пінскія князі неаднаразова прапускалі літву праз свае землі для нападу на Галіцка-Валынскае княства. Пра сувязь пінскіх князёў з літвой сведчыць Іпацьеўскі летапіс пад 1247 г., калі апісвае набег літвы на Валынь пры садзейнічанні пінскага князя Міхаіла[189].

Як бачым, у навуцы непамерна перабольшана значэнне так званых літоўскіх набегаў. У даследаваннях скрупулёзна падлічваецца іх колькасць ды яшчэ без уліку іх вынікаў. І на падставе гэтага робяцца высновы пра літоўскае наступленне на славянскіх суседзяў. І ў той жа час замоўчваецца славянская, перш за ўсё крывіцкая і дрыгавіцкая, каланізацыя балцка-літоўскіх земляў. Што да літоўскіх набегаў на славянскія землі, то, калі яны і былі, усё адно не маглі спыніць шырокую плынь крывіцкай і дрыгавіцкай каланізацыі ў балцка-літоўскія землі.

Як паказваюць матэрыялы археалогіі, гідраніміі, тапанімікі, лінгвістыкі, балцкія плямёны (латыгола, лотва, літва, яцвягі і інш.) засялялі амаль усю тэрыторыю Беларусі[190] да прыходу сюды славян на мяжы VI—VII стст. н.э.[191] Славянскае засяленне ішло з некалькіх бакоў. Калі дрыгавічы рухаліся з поўдня на поўнач (ад Прыпяці да Дзвіны), то крывічы — па Бугска-Нёманскім міжрэччы з захаду на ўсход і на паўночны ўсход[192]. З захаду, як сведчыць летапіс, прыйшлі і радзімічы. Трэба зазначыць, што апроч гэтых галоўных славянскіх насельнікаў Беларусі тут аселі і часткі іншых плямёнаў, дарогі якіх ішлі праз Беларусь, — севяран, славенаў, дулебаў. Усё гэта спрыяла больш інтэнсіўнай славянскай каланізацыі і асіміляцыі ранейшага насельніцтва. Працэс гэты, пачаўшыся, ужо не мог спыніцца і ішоў на працягу стагоддзяў. Хаця не выключана, што напачатку (і гэта заканамерна) славянская каланізацыя сустракалася з варожасцю карэннага насельніцтва, аб чым

могуць сведчыць разбураныя і пагарэлыя балцкія гарадзішчы. Аднак у далейшым сужыццё славян і балтаў працякала мірна. Але славянская каланізацыя (і асіміляцыя) не ўсюды адбывалася раўнамерна. Як ужо гаварылася вышэй, асобныя астравы балцкага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі заставаліся аж да канца XIV ст. Вось гэта акалічнасць і дала ў апошні час Е. Ахманьскаму ў яго працы аб літоўскай этнічнай мяжы на ўсходзе падставу прапанаваць новую канцэпцыю ўтварэння ВКЛ. Паводле яе, цэнтральная Літва (усход сучаснай), абапіраючыся на гэтыя астравы балцкага насельніцтва, заваявала заходнерускія землі. Неабгрунтаванасць гэтага сцверджання відавочная. Па-першае, незразумела, чаму цэнтральная Літва не магла гэтага зрабіць значна раней, калі славянскае насельніцтва было астраўным у моры балцкага. Па-другое, адрэзаныя вялізнай адлегласцю і сотнямі гадоў адзін ад аднаго наўрад ці захавалі гэтыя балцкія рэшткі пачуццё адзінства паміж сабой, асабліва калі ўлічыць, што ва ўсходняй, паўночнай і цэнтральнай частках Беларусі былі балцка-латышскія плямёны, да якіх балцка-літоўскія плямёны не мелі асаблівай сімпатыі. Па-трэцяе, незразумела, чаму гэтыя літоўскія плямёны, як лічыў Е. Ахманьскі, стварылі славянскую дзяржаву, за пяць стагоддзяў існавання якой у афіцыйным жыцці не прагучала ніводнага літоўскага слова. І апошняе (можа, самае галоўнае), крыніцы ні разу не пацвярджаюць факта якой-небудзь падтрымкі цэнтральнай Літвы з боку якіх-небудзь балцкіх астравоў, як і наогул якога-небудзь заваявання ёю беларускіх земляў.

Найбольшым з балцкіх астравоў у Беларусі, відаць, і была Старажытная Літва. І хаця яна была акружана балотамі і пушчамі, аднак і яе не абмінула славянская каланізацыя (яна тут пачалася пазней і працякала павольней). Калі гэты працэс пачаўся, дакладна сказаць немагчыма, можна выказаць толькі некаторыя меркаванні. Вядома, што паўднёвая частка летапіснай Літвы была заваявана Яраславам Мудрым у 1040—1044 гг., у выніку чаго і быў заснаваны Новагародак. І з гэтага часу, верагодней за ўсё, пачалася славянская каланізацыя левабярэжнай Літвы. Аднак у правабярэжнай, можна думаць, яна пачалася раней.

Густынскі летапіс пад 1128 г. адзначыў, што кіеўскі князь Мсціслаў паслаў свае войскі ў Літву да Ізяслаўля. Такім чынам, гэты горад, які знаходзіцца ад Менска за 18 км на паўночны захад, быў зафіксаваны летапісцам на літоўскай тэрыторыі. З летапісу таксама вядома, што Ізяслаўль (Заслаўе) узнік у канцы X ст.[193], што пацверджана і археалогіяй[194]. Значыць, да гэтага часу крывічы і дрыгавічы, каланізаваўшы іншыя балцкія плямёны, назвы якіх засталіся невядомымі, падышлі да чарговага балцкага племя — літвы, усходняя мяжа рассялення якога, як мы высветлілі, праходзіла на захад ад Менска. Відаць, Ізяслаўль і быў адным з першых цэнтраў крывіцка-дрыгавіцкай каланізацыі Літвы. Можна меркаваць, што з канца X ст. пачынаецца сумеснае жыццё беларускіх плямёнаў з літвой.

Крывічы былі самымі блізкімі суседзямі балцка-літоўскіх плямёнаў, з якімі больш за ўсё сустракаліся, што знайшло сваё адлюстраванне ў называнні латышамі ўсяго славянскага імем сваіх спрадвечных суседзяў крывічоў — крэвамі (крээвс). Крээвс — рускі, Крээвсэме — руская зямля. Усё гэта сведчыць пра шматвяковыя сувязі балтаў і крывічоў[195].

Першапачатковы старажытнарускі летапіс называе літву ў ліку народаў, якія давалі даніну Русі. І як паказана Л. Аляксеевым, даніна літвы ішла Полацкаму княству, з'яўляючыся адной з асноў яго эканамічнай магутнасці[196]. Але гэта адносіцца толькі да правабярэжнай Літвы, бо левабярэжная была пад уладай Кіева.

Літва паступова стала адной з крыніц ваеннай магутнасці полацкіх князёў. Гісторык І. Бяляеў лічыў, што Усяславу Брачыслававічу ўдалося ў 1071 г. вярнуць сабе полацкі пасад з дапамогай Літвы. Але асабліва цесныя сувязі з ёй трымала Менскае княства, якое было ў непасрэдным суседстве з ёй. Глеб Менскі ў 1104 г. адбіў кааліцыю паўднёварускіх князёў таму, што выкарыстаў, відаць, літву. Саюз з ёй і быў асновай шырокіх палітычных планаў Глеба. Можна з упэўненасцю сказаць, што, прынамсі, з пачатку XII ст. летапісная Літва з'яўлялася пастаянным ваенным саюзнікам полацкіх князёў. Вось чаму пасля пераможнага паходу кіеўскіх князёў на Полаччыну ў 1128 г. і высылкі яе князёў у Візантыю ў 1129 г. адбыліся іх паходы на Літву (1130, 1132). А Густынскі летапіс паход кіеўскіх

князёў у 1128 г. называе паходам на Літву да Ізяслаўля і тым самым разрывае дужкі гэтай «Літвы». Магчыма, што і паходы 1130 і 1132 гг., якія ў рускіх летапісах паказваюцца як паходы на Літву, таксама былі паходамі на Ізяслаўль, які ў той час заняў месца Менска, далучанага часова да кіеўскіх уладанняў. Ізяслаўль, відаць, і абараняла войска, набранае з літвы, якая і жыла вакол гэтага горада.

Іпацьеўскі летапіс, гаворачы пра падзеі 50—60-х гг. XII ст., паказвае, адкуль менскія князі чэрпалі дадатковыя сілы для барацьбы з полацкімі князямі. Адзін з самых непакорных — Валадар Глебавіч — у 1159 г., адмовіўшыся мірыцца з полацкім князем Рагвалодам, «ходяше по литвою в лесах», г. зн. збіраў там сілы для барацьбы са сваім праціўнікам, а ў 1162 г. з літвою нанёс цяжкае паражэнне палачанам.

Але калі да 70-х гадоў XII ст. літва выкарыстоўваецца галоўным чынам менскімі князямі ў барацьбе з Полацкам, дык пачынаючы з 80-х гадоў яна служыць інтарэсам усёй Полацкай зямлі. Характэрна, што ў 1180 г. прывялі літву пад Друцк не суседнія з ёю менскі і ізяслаўскі князі, а палачане. Гэта і сведчыць пра ўмацаванне сувязі з Літвой усёй Полацкай зямлі, а не асобных яе ўдзелаў, як гэта было раней. Ноўгарад добра бачыў, што вайсковая сіла Полацка знаходзіцца ў Літве, і таму імкнуўся пасварыць іх паміж сабоі. Спроба гэта была зроблена яшчэ ў 1191 г. Тады наўгародцы вырашылі навязаць палачанам паход на Літву. Праўда, У. Пашута зазначыў, быццам гэта палачане хацелі ў асобе наўгародцаў знайсці сабе саюзнікаў супраць літвы і нават эстаў. Памылковасць гэтага меркавання відавочная: палачанам ніколі не было патрэбы ваяваць з літвой і тым больш з эстамі, якія былі суседзямі наўгародцаў, а не палачан. Апошнія разумелі, што ісці на Літву — усё адно, што секчы сук, на якім сядзіш. І таму не толькі адмовіліся ад паходу на яе, але ў 1198 г., як паведамляе Наўгародскі І летапіс, прыйшлі з ёю ваяваць Вялікія Лукі.

У сувязі са славянскай каланізацыяй балцка-літоўскіх земляў стаіць пытанне з'яўлення агульных полацка-літоўскіх князёў. Непасрэднае суседства, працяглае гістарычнае сумеснае жыццё беларускіх і балцка-літоўскіх плямёнаў не маглі не прывесці да сваяцкіх адносін паміж полацкімі князямі і літоўскімі кунігасамі. І. Бяляеў на падставе летапіснага паведамлення,

якое сведчыла, быццам пры нараджэнні славутага полацкага князя Усяслава Чарадзея прысутнічалі «валхвы», рабіў вывад, што маці гэтага князя была ліцвінкай і сам Усяслаў быў напаўліцвінам. Аднак справа не толькі ў сваяцкіх адносінах. Полацкія князі, якія ў адрозненне ад князёў іншых старажытнарускіх земляў маглі княжыць толькі ў Полацкай зямлі, страціўшы з той ці іншай прычыны свой пасад, уцякалі ў балцкалітоўскія землі. Вядома, што ў 1129 г. не ўсе полацкія князі былі ўзяты ў палон і адпраўлены ў Візантыю. Некаторыя з іх пазбеглі гэтага і, можна думаць, знайшлі сабе прыстанішча ў Літве. Відаць, адным з іх быў Васілька Святаславіч, які ў 1132 г. пасля выгнання з Полацка кіеўскага стаўленіка Святаполка адразу стаў тут князем. За такі кароткі час ён, вядома, не мог прыехаць з Візантыі. Полацка-літоўскім князем быў і Гердзень — сын полацкага князя Давіда Расціслававіча, чаго не адмаўляе сучасная навука[197]. Такім чынам, перш чым стаць «літоўскім» князем у Полацку каля 1265 г., Гердзень быў полацкім князем Нальшчанаў. Беларускія гісторыкі XIX ст. М. Без-Карніловіч[198] і А. Кіркор[199] даводзілі, што Гердзень быў бацькам вялікіх князёў Віценя і Гедзіміна.

З паходжаннем апошніх звязана пытанне ўтварэння Віленскага ўдзела Полацкага княства, што адбылося, відаць, на пачатку XII ст. Васкрасенскі летапіс паведамляе, што пасля 1129 г. «вильняне взяша ис Царяграда князя полотского Ростислава Рогволодовича детей: Давила князя, да брата его Мовколда князя»[200]. Давіл (магчыма, Давід) і быў першым віленскім князем, ад яго ў далейшым, як сведчыць гэты летапіс, паходзяць Гердзень (Ердзень), Віцень і Гедзімін. Гэта тым болей верагодна, што, як гаварылася вышэй, крывічы ішлі з захаду па Нёмане і Вільня магла быць адным з першых буйных крывіцкіх паселішчаў на новым месцы. Нездарма ж нямецкі храніст П. Дузбург у пачатку XIV ст. упамінаў Крывіцію[201], якая, на думку П. Шафарыка, знаходзілася на поўнач ад Навагародка, дзе ў значнай колькасці маюцца тапонімы накшталт «Крэва» і «Крывічы»[202]. Не выключана, што гэтыя крывічы былі язычнікамі. Сапраўды, у «Жыцці трох вялікіх мучанікаў» гаворыцца пра трох знатных ліцвінаў, якія ў першай палове XIV ст. паплаціліся жыццём за прынящце праваслаўя. Але прозвішчы іх: Круглец, Кумец і Няжыла — чыста славянскія.

Мы лічым, што зусім неправамерна ставіць Васкрасенскі летапіс у адзін шэраг з гісторыка-публіцыстычнымі творамі XVI ст., у якіх тэндэнцыйна скажалася гісторыя ВКЛ[203]. Вядома, як і кожная крыніца, запіс аб першых віленскіх князях патрабуе крытычнага падыходу, аднак, на нашу думку, у ім шмат праўдзівага. У. Пашута лічыў вартым увагі сведчанне гэтага летапісу пра сына Гердзеня цвярскога біскупа Андрэя і тым самым прызнаў праўдзівасць яго[204]. Навошта ж тады адмаўляць іншыя звесткі гэтага летапісу, якія не супярэчаць даным сучаснай гістарычнай навукі? Хіба ж не мог узнікнуць Віленскі ўдзел Полацкага княства і хіба не маглі вільняне ўзяць сабе полацкіх князёў, калі вядома, што Вільня заснавана крывічамі, існавала доўгі час як Крывы Горад, ці Крывічград, прынамсі, ужо ў XI ст., магчыма, была адной са сталіц крывічоў[205]? Чаму не маглі паходзіць вялікія літоўскія князі Віцень і Гедзімін ад віленскіх князёў? Чамусьці не звяртаецца ўвагі на тое, што браты Гедзіміна насілі славянскія імёны — Віцень і Воін. Таксама няма падстаў лічыць імя Гедзіміна літоўскім. У свой час В. Юргевіч назваў кур'ёзам паходжанне імёнаў літоўскіх князёў Ягайлы, Кейстута, Гедзіміна, Свідрыгайлы, Скіргайлы, Войшалка, Вітаўта і іншых шукаць у літоўскай мове. Ён шляхам філалагічнага аналізу паказаў славянскае паходжанне імёнаў літоўскіх князёў[206]. Нельга, як гэта назіраецца ў працах некаторых даследчыкаў, паказваць як першасныя імёны Міндаўгас, Войшвілкас, Гедзімінас і інш. У крыніцах існуе шмат формаў імёнаў літоўскіх князёў, за выключэннем гэтакіх. Яны з'явіліся ў працах гісторыкаў толькі ў XX ст.

Полацкія князі, апынуўшыся на балцка-літоўскіх землях, у паганскім асяроддзі, з палітычных меркаванняў прыкідваліся язычнікамі, пра што ў свой час слушна заўважыў А. Кіркор[207]. У сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі тое, што ў пераліку балцка-літоўскіх князёў у дагаворы 1219 г. самы першы і самы старэйшы з іх насіць славянскае імя Жывінбуд. Гэтак жа сама і літоўскія князі (Міндоўг, Войшалк, Даўмонт, Таўцівіл і інш.), апынуўшыся на княскіх пасадах у суседніх славян, прымалі праваслаўе. Відаць, ні полацкія, ні літоўскія князі не вызначаліся рэлігійным фанатызмам і таму па некалькі разоў мянялі сваю веру дзеля палітычных інтарэсаў (Міндоўг, Таўцівіл). Тое, што Воін стаў полацкім князем, таксама сведчыць пра ягоную прыналежнасць да роду полацкіх князёў (полацкае веча не прыма-

ла князёў чужых дынастый). А гэта ў сваю чаргу з'яўляецца пацвярджэннем таго, што яго браты Віцень і Гедзімін таксама паходзяць з роду полацкіх князёў. Такім чынам, можна з вялікай доляй упэўненасці сказаць, што з канца XIII ст. у ВКЛ запанавала полацкая княская дынастыя.

Гаворачы пра ўзаемаадносіны хрысціянства і язычніцтва, трэба ўлічваць яшчэ адну акалічнасць. Пашырэнне хрысціянства на беларускіх землях было далёка не мірным працэсам. Яно суправаджалася ўзмацненнем феадальнай эксплуатацыі. А гэта не магло не выклікаць супраціўлення шырокіх мас сялянства, што часам набывала форму барацьбы з хрысціянствам. Трэба думаць, што нямала было сялян, якія, ратуючыся ад феадальнага прыгнёту і звязанага з ім хрысціянства, уцякалі ў балцка-літоўскія землі і там доўгі час заставаліся язычнікамі. Таму пашырэнне хрысціянства на беларускіх землях некаторым чынам спрыяла славянскай каланізацыі ў балцка-літоўскіх землях. Доўгі час заставаліся язычнікамі і асіміляваныя балты. Усё гэта дае падставу меркаваць, што прыналежнасць да язычніцтва не была выключнай адзнакай балтаў не толькі ў XI—XII, але і ў XIII—XIV стст. і нават на пачатку XV ст. Гэтым, відаць, і тлумачыцца тое, што ў асяроддзі беларусаў аж да XX ст. у значна большай ступені, чым у іншых славянскіх народаў, захаваліся перажыткі паганства.

Полацкая каланізацыя, якая ішла галоўным чынам па р. Віліі ў глыб балцка-літоўскіх земляў, садзейнічала далейшаму росту Крывога Горада — Вільні, што ўзвышала значэнне віленскіх князёў. Навагародак мог быць цэнтрам ВКЛ да таго часу, пакуль яно не выходзіла за межы Нёманскага басейна. Па меры пашырэння дзяржавы ўсё больш акрэслівалася яго нявыгаднае становішча — ізаляванасць ад іншых земляў, асабліва тых, што ляжалі ў Дзвінскім басейне.

У гэтых адносінах Вільня была ў лепшым становішчы. Размешчаная на скрыжаванні важных гандлёвых шляхоў, у тым ліку і на Віліі, якая злучала яе з Полацкай зямлёй, яна ўсё больш набывала цэнтральнае значэнне ў дзяржаве. «Яшчэ да часу княжання Гедзіміна Крывы Горад развіўся ў такое значнае паселішча, што Гедзімін палічыў патрэбным перанесці ў яго сталіцу ВКЛ»[208]. Няма падставы сцвярджаць, што адной з прычын перанясення сталіцы ў Вільню з'яўлялася тое, што яна

была размешчана «ў цэнтры карэннай літоўскай зямлі, цэнтры народнасці»[209]. Па-першае, што разумець пад карэннай літоўскай зямлёй? Ёю была найперш зямля летапіснай Літвы, якая, як мы бачылі, знаходзілася ў Верхнім Панямонні, у акружэнні славянскіх земляў. Па-другое, Аўкштайція і Нальшчаны ўжо даўно былі аб'ектам крывіцкай каланізацыі, вынікам чаго і было ўзнікненне Крывога Горада — Вільні, які, паводле даных археалогіі, «быў заснаваны крывічамі ў час пашырэння тэрыторыі Полацкага княства ў раннюю феадальную эпоху на захад»[210]. Таму становішча Вільні вызначалася не тым, што яна была цэнтрам «карэннай літоўскай зямлі», а тым, што гэта быў адзін з даўніх і буйнейшых цэнтраў крывіцкай каланізацыі балцка-літоўскіх земляў. Праўда, там жыло разам з крывіцкім і карэннае насельніцтва, стаяла свяцілішча паганскага бога Пяркунаса, аднак усё гэта ўжо не было вырашальным фактарам. Тут, як і паўсюдна на балцка-літоўскай тэрыторыі, куды пранікла крывіцка-дрыгавіцкая каланізацыя, працягваўся інтэнсіўны працэс асіміляцыі. Наколькі ён быцў моцны, сведчыць і тое, што ў летапісе, дзе апавядаецца аб заснаванні Гедзімінам Вільні (як мог літовец даць ёй славянскую назву?), Вілія ўжо не называецца па-літоўску Нярысам[211]. А. Качубінскі памыляўся, калі лічыў, што беларуская мова пашыралася на захад ад Вільні толькі ў апошнія дзесяцігоддзі XIX ст.[212], бо ўжо ў кнізе, выдадзенай у 1861 г., гаворыцца, што ў прасторы паміж Вільняй і Трокамі просты народ, г. зн. карэннае насельніцтва, гаворыць па-беларуску[213]. Але А. Качубінскі зусім слушна адзначаў, што Віленская губерня ўваходзіць у тэрыторыю беларускага племя і сама Вільня ўжо за рубяжом літоўскім[214]. У свой час У. І. Ленін адзначаў, што ў Віленскай губерні літоўскім з'яўляецца толькі Троцкі павет[215]. Такі вынік быў прадвызначаны яшчэ ў XI—XIII стст. заснаваннем тут Вільні і іншых крывіцкіх калоній у Нальшчанах і Аўкштайціі.

Такім чынам, перанясенне сталіцы ВКЛ з Навагародка ў Крывы Горад — Вільню было вынікам далейшай крывіцка-дрыгавіцкай каланізацыі ў глыб балцка-літоўскіх земляў. Яно сведчыла таксама, што на першае месца ў гэтай дзяржаве выходзіла Полаччына. А гэта выклікала змену навагародскай дынастыі на полацкую. У святле прыведзеных фактаў нельга

пагадзіцца са сцверджаннем пра «паступовае пранікненне»[216] і «наступленне Літвы на Русь»[217]. Фактычна было паступовае адступленне літвы пад націскам славянскай каланізацыі. Прычым утварэнне ВКЛ не толькі не спыніла, а, наадварот, яшчэ больш паскорыла асіміляцыю балцка-літоўскага насельніцтва. Ф. Д. Гурэвіч лічыць, што прасоўванне межаў беларускай мовы ў зону пашырэння літоўскіх археалагічных помнікаў, відаць, адносіцца да XIV ст.[218], г. зн. да таго часу, калі ўжо ўтварылася ВКЛ. І ў гэтым нічога дзіўнага няма, бо ў новаўтворанай дзяржаве беларуская культура была пануючай, а беларуская мова — дзяржаўнай. На падставе гэтага нельга пагадзіцца з думкай, што Беларусь у ВКЛ была падначаленай[219] і займала ў ім нераўнапраўнае становішча[220]. У такім выпадку становіцца незразумелым, чаму падначаленая, эксплуатуемая і нераўнапраўная краіна ўвесь час пашырала сваю тэрыторыю, а пануючая, якой лічыцца Літва, траціла сваю тэрыторыю і насельніцтва. Усё гэта гаворыць за тое, што беларускі народ у складзе ВКЛ прадаўжаў тварыць сваю гісторыю, развіваў культуру, а не рабіў толькі ўклад у чужую гісторыю[221].

Тое, што ўтварэнне ВКЛ паспрыяла славянскай каланізацыі балцка-літоўскіх земляў і асіміляцыі іх насельніцтва і што пануючай культурай у ім стала беларуская культура і дзяржаўнай мовай беларуская, характарызуе гэту дзяржаву найперш як беларускую. Такім чынам, не так званыя літоўскія набегі на заходнерускія землі, а славянская каланізацыя балцка-літоўскіх земляў была значным фактарам ва ўтварэнні ВКЛ.

## ДЛЯ КАГО БЫЛА БОЛЬШАЯ ПАГРОЗА?

Татара-мангольскае нашэсце і нямецкая агрэсія ў навуковых даследаваннях паказваюцца як фактары, што нібыта паспрыялі захопу беларускіх земляў Літвой: «Барацьба Русі з татара-мангольскімі заваёўнікамі значна аблегчыла літоўскім князям ажыццяўленне іх захопніцкай палітыкі ў адносінах да рускіх земляў. Ва ўмовах татара-мангольскай няволі некаторыя феадалы Русі ў асобе Літоўскай дзяржавы бачылі сілу, якая не толькі можа даць адпор татарскім і нямецкім захопнікам, але і разам з тым будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню

іх панавання над сялянскімі масамі»[222]. Прыблізна тое ж самае сказана і ў другім даследаванні: «Феадалы, якія прыйшлі да ўлады ў Аўкштайціі, пайшлі на змову з феадаламі значна больш развітой Беларусі, напалоханымі Ардой і Ордэнам. Падзяліўшыся рэнтай з літоўскімі пануючымі класамі, беларускія феадалы ўвайшлі ў яго склад»[223]. Але ж гэта не што іншае, як перапеў казак XVI ст. Аўтарам такіх сцверджанняў добра вядома, што Беларусь, за выключэннем яе крайніх паўднёвых мясцін, не ведала татара-мангольскага нашэсця. Значыць, феадалам Беларусі не было ніякай патрэбы шукаць абароны ў Літоўскай дзяржавы ад татараў. Больш таго, паводле сведчання летапісаў, літоўскія князі ніколі не атрымлівалі ніякіх перамог над татара-манголамі.

Праўда, у вядомай «Хроніцы Быхаўца» апавядаецца пра дзве бітвы, у якіх нібыта былі разгромлены літоўскімі войскамі татары, — пад Магільнам і пад Койданавам. Аднак шэраг акалічнасцей прымушае сумнявацца ў тым, што яны ў сапраўднасці былі.

Вось што гаворыцца пра Магільнянскую бітву. Пасля таго як літоўскі князь Рынгальт немалы час пракняжыў у Навагародку, рускія князі Святаслаў Кіеўскі, Леў Уладзімірскі і Дзмітрый Друцкі рашылі выгнаць яго з Навагародка. Узяўшы сабе на дапамогу ад цара заволжскага некалькі тысяч татараў, яны рушылі на Навагародак. І вось Рынгальт сустрэў іх на Нёмане. ля Магільна (цяпер на тэрыторыі Уздзенскага р-на Менскай вобл., перайменавана ў Нёман), і ў лютым баі, які працягваўся цэлы дзень, разбіў сваіх праціўнікаў, атрымаў вялікую перамогу і з багатай здабычай вярнуўся ў Навагародак[224]. У «Хроніцы Быхаўца» не ўказана, калі адбылася гэта падзея. У ранейшай гістарычнай літаратуры яна адносілася да 1235 г.[225] Але прыняць гэтую дату нельга, бо тут упамінаюцца татары, якія з'явіліся на Русі толькі ў канцы 30-х гадоў XIII ст. Апроч таго, Рынгальт не мог княжыць у 1235 г. у Навагародку, бо ў гэты час тут княжыў Ізяслаў, як сведчыць Іпацьеўскі летапіс. Сярод князёў, што ішлі на Рынгальта, упамінаецца Леў Уладзімірскі. Гэта магло б дапамагчы ўстанавіць найбольш верагодную дату падзеі, калі б яна сапраўды была. У Іпацьеўскім летапісе пад 1274 г. сказана, што шэраг рускіх князёў, сярод якіх быў і галіцкі (а не ўладзімірскі) князь Леў, разам з

татарамі ішлі на Навагародак[226], які ў той час быў сталіцай ВКЛ. Паколькі рускія князі і татары рухаліся на Навагародак ад Слуцка[227], то іх шлях мог праходзіць і праз Магільна. Аднак летапіс, які падрабязна асвятляе гэты паход рускіх князёў і татараў, нічога не гаворыць пра бітву пад Магільнам. Як мы ведаем, у «Хроніцы Быхаўца» сказана, што гэта бітва была вялікай і што рускія і татары пацярпелі страшэннае паражэнне, і яны, вядома, пасля такой няўдачы не маглі б ісці далей да Навагародка. А між тым летапіс гаворыць, што яны, перайшоўшы р. Сэрвеч, падышлі да Навагародка і ўзялі яго вакольны горад. Выдуманым з'яўляецца і сам князь Рынгальт, бо нідзе ў іншых крыніцах ён не ўпамінаецца. Апроч таго, «Хроніка Быхаўца» называе яго вялікім князем, але ў 1274 г. ён не мог быць такім, бо ў гэты час у Навагародку княжыў Трайдзень. Не мог быць ён і бацькам Міндоўга, бо апошні загінуў у 1263 г., а ў «Хроніцы Быхаўца» сказана, што Міндоўг стаў княжыць пасля смерці Рынгальта. Усё сказанае не пацвярджае таго, што была бітва пад Магільнам, у прыватнасці, у 1274 г., найбольш верагодным для яе, асабліва калі ўлічыць, што ў «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай» яна значыцца пад 1284 г.[228] (у гэтай крыніцы многія падзеі зрушаны на 10—15 гадоў наперад). Тым не менш усё гэта не выключае таго, што гэтая бітва была. Магчыма, яна была калі-небудзь, але яе апісанне ў «Хроніцы Быхаўца» з'яўляецца скажоным да непазнавальнасці, як гэта адбылося і з бітвай пад Гарадцом у 1161 г., аб чым мы гаварылі раней. Не выключана, што і бітва пад Магільнам адбылася таксама ў полацкія часы, а пасля была прыпісана літоўскім князям.

Малаверагодная бітва пад Койданавам, бо звесткі пра яе яшчэ больш супярэчлівыя. У «Хроніцы Быхаўца» сказана, што заволжскі татарскі цар Балаклай сабраў вялікую раць і пайшоў на Русь. А вялікі князь Скірмант, сабраўшы сваё войска ў Койданаве, перамог усю раць татарскую і самога цара забіў[229]. У літаратуры гэта падзея адносілася да 1241 г.[230] Апроч таго, указваецца яшчэ адна бітва пад Койданавам, у якой нібыта Міндоўг у 1240 г. разбіў татараў, якіх узначальваў Кайдан, і яго саюзнікаў галіцка-валынскіх князёў Данілу і Васілька. Прычым сцвярджаецца, што Кайдан загінуў тут, і таму пайшла назва «Койданаў», які да гэтага называўся Кругагор'ем. Гэта



*Полацк у XII—XIII стст.*
*Рэканструкцыя В. Сташчанюка*

найбольш пашыраная версія, і яна нават увайшла ў сучасныя падручнікі па гісторыі Беларусі[231]. У «Запісках Кацярыны II» прыведзены звесткі аб бітве пад Койданавам у 1276 г., якія нагадваюць падзеі бойкі 1241 г.

Паколькі ўсе гэтыя бітвы звязаны з татарамі, то яны не маглі адбыцца ні ў 1241, ні ў 1249 гг., бо, як паказваюць даследаванні, першае ўварванне татараў на тэрыторыю Беларусі адбылося ў 1258 г.[232] Бітву 1241 г. мы наогул павінны адкінуць як выдуманую, бо ніколі не было ні вялікага літоўскага князя Скірманта, ні татарскага хана Балаклая. Нешта ёсць падобнае ў падзеях 1249 і 1258 гг. Сапраўды, князем літоўскім тады быў Міндоўг, разам з татарамі ішоў валынскі князь Васілька. Але татараў узначальваў не Кайдан, а Бурундай, і, што самае важнае, ніякай перамогі Міндоўг не атрымліваў: татары на чале з Бурундаем без супраціўлення занялі землі Літоўскую і Нальшчанскую. Гэта пацвярджае і Наўгародскі I летапіс, у якім сказана, што татары ўзялі ўсю зямлю Літоўскую, а саміх пабілі[233].

Трэба зазначыць, што ёсць яшчэ сумненні ў праўдзівасці існавання Кайдана. Сярод татарскіх ханаў, военачальнікаў і

ваяводаў ён не значыцца[234]. Праўда, у татарскага хана Менгу Цімура, які цараваў у Залатой Ардзе з 1266 па 1280 г., быў сын Кадан[235]. Менавіта ў Менгу Цімура галіцкі князь Леў Данілавіч прасіў дапамогі ў паходзе на Новагародак. У 1274 г. Менгу Цімур даў татарскае войска, але яго ўзначаліў не Кадан, а ваявода Ягурчын[236]. Паводле Галіцка-Валынскага летапісу, татары схадзілі на Новагародак і ў 1277 г. Таму можна меркаваць, што яны ішлі праз Койданаў. Але, па-першае, пацярпеўшы там паражэнне, яны б не пайшлі далей. Па-другое, узначальваў гэта войска татараў не Кайдан, а ваявода Мамшэй[237]. Усё адзначанае сведчыць, што Койданаўскай бітвы не магло быць ні ў 1274, ні ў 1276, ні ў 1277 гг. Апроч таго, тапонім «Койданаў» на Беларусі не адзін: населены пункт з такой назвай быў таксама недалёка ад г. Паставы[238], што таксама ставіць пад сумненне паходжанне гэтай назвы ад татарскага хана.

З вышэйсказанага вынікае, што Магільнянская і Койданаўская бітвы — гэта хутчэй за ўсё міфы, створаныя ў XVI ст. для ўзвелічэння літоўскіх князёў. якія быццам толькі адны маглі супрацьстаяць татара-мангольскім заваёўнікам, чаго ў сапраўднасці не было.

Вядома, нельга адмаўляць пагрозы татарскага нашэсця, якая вісела над беларускімі землямі, бо ўварванні татараў, як мы ўжо бачылі, сапраўды былі. Аднак і нельга справу паказваць так, нібы толькі Літва магла абараніць Беларусь ад татарскай заваёвы. Яна не магла абараніць і сваёй зямлі ад татараў, як гэта было ў 1258 г. Вось чаму беларускія феадалы не маглі бачыць у асобе літоўскіх князёў сілу, здольную абараніць іх ад татараў. Вось чаму беларускім феадалам не было патрэбы дзяліцца з літоўскімі феадаламі сваёй «рэнтай».

Тое, што Беларусь не ведала татара-мангольскага пагрому і панавання, мела для яе важнае значэнне, якое пакуль што яшчэ не ацэнена ў гістарычнай навуцы. Як вядома, мангола-татарскае панаванне перапыніла і замарудзіла працэс палітычнага аб'яднання рускіх і ўкраінскіх земляў, падарвала іх прадукцыйныя сілы. Усяго гэтага пазбегла Беларусь. Яе аб'яднанне не было спынена, а яе прадукцыйныя сілы ў выніку прытоку новага насельніцтва яшчэ больш узраслі. Усё гэта і было прычынай таго што фарміраванне тэрыторыі Беларусі і ўтва-

рэнне беларускай народнасці пайшлі хутчэй, чым аналагічныя працэсы ў іншых усходнеславянскіх землях. Так, калі ў першай палове XIV ст. пры Іване Каліце пачало толькі ўзвышацца Маскоўскае княства — ядро будучай Велікаросіі, то беларускія землі к гэтаму часу амаль усе былі сабраны і аб'яднаны ў Вялікім княстве Літоўскім. Беларускія феадалы выкарыстaлі ў сваіх інтарэсах выгадную для іх кан'юнктуру, у прыватнасці аслабленне рускіх і ўкраінскіх земляў у барацьбе з татарамі, і заваявалі значныя часткі іх тэрыторый.

Паколькі культурныя цэнтры Беларусі не былі разбураны, беларуская культура развівалася без перашкод, што было прычынай яе высокага ўзроўню. Таму яна і заняла пануючае месца ў ВКЛ, а беларуская мова стала ў ім дзяржаўнай.

Што да нямецкай агрэсіі, то яна сапраўды з'явілася цяжкім ударам для Полацка. У выніку яе Полацкае княства было адсечана ад Балтыйскага мора, што істотна паўплывала на далейшую гісторыю Беларусі. Аднак, гаворачы пра гэта, нельга справу паказваць так, нібы беларускія землі знаходзіліся ў бязвыхадным становішчы і іх магла выратаваць толькі Літва. Не меншую пагрозу нямецкая агрэсія несла і народам Прыбалтыкі, якія разам з Полаччынай сталі аб'ектам нападу «псоўрыцараў». Апошнім удалося, пакарыўшы балцкія плямёны прусаў, куршаў і земгалаў, з трох бакоў акружыць Жамойцію. Над ёй, як над іншымі балцкімі землямі, навісла смяротная пагроза. Са сказанага відаць, што нямецкай агрэсіяй былі запалоханы не толькі беларускія, але яшчэ ў большай ступені феадалы балцкіх земляў. Калі Полаччына страціла набытыя ёю ў Ніжнім Падзвінні землі, то балты трацілі свае карэнныя землі. Дык хіба маглі феадалы Літвы ў гэты час адважыцца на заваёву беларускіх земляў, хіба маглі беларускія феадалы ў іх асобе бачыць абаронцаў ад нямецкай агрэсіі?

У даследаваннях па гісторыі адзначаецца, што нямецкая агрэсія прымусіла балцка-літоўскія землі аб'яднацца і гэтым самым паскорыла працэс утварэння Літоўскай дзяржавы. Гэта, маўляў, і дало магчымасць літоўскім феадалам заваяваць беларускія землі, якія нібыта былі раз'яднаныя. Аднабаковасць гэтай схемы відавочная, бо застаецца незразумелым, чаму тая ж самая нямецкая агрэсія не прымусіла аб'яднацца беларускія землі. Мы ўжо гаварылі, што раз'яднанасць беларускіх, у пры-

ватнасці полацкіх, земляў у XIII ст. надзвычай перабольшана. На горкім вопыце пазнаўшы смяротную пагрозу нямецкай агрэсіі, Полаччына шчыльней згуртавалася для адпору ворага. Трэба сказаць, што Полацк не адразу разгледзеў сапраўдную сутнасць нямецкіх рыцараў. Полацкі князь Уладзімір у 1186 г. даў нямецкаму манаху Мейнарду, відаць, угледзеўшы ў яго дзейнасці толькі місіянерскі, а не захопніцкі характар, дазвол на права хрышчэння ліваў, якія залежалі ад Полацка. Яшчэ больш легкадумна паставіліся напачатку да рыцараў у іншых краінах Усходняй Еўропы. Літоўцы (летоны) у 1202 г. заключылі дагавор з біскупам Альбертам супраць земгалаў. Мазавецкі князь Конрад у 1225 г. запрасіў тэўтонаў для барацьбы з прусамі. Не раз сумесна з рыцарамі дзейнічалі пскоўскія і наўгародскія атрады. Гэтая бесклапотнасць і была адной з прычын першых поспехаў немцаў ва Усходняй Еўропе. Для Полацка яна абярнулася стратай Ніжняга Падзвіння.

Згуртаванасць Полаччыны ў барацьбе з крыжакамі вельмі добра выяўлена ў «Хроніцы Лівоніі». Так, паводле яе, для паходу на тэўтонаў «полацкі кароль Вальдэмар (Уладзімір) сабраў войска з усяго свайго каралеўства, а таксама ад суседніх каралёў (удзельных князёў Полаччыны), сваіх сяброў і з вялікай храбрасцю спусціўся ўніз па Дзвіне»[239]. Хіба ж магло быць такое пры міжусобнай барацьбе?

Смяротная пагроза нямецкай агрэсіі, якая навісла як над Полацкам, так і над балцка-літоўскімі землямі, патрабавала з'яднання іх сіл. Яскравым сведчаннем гэтаму можа быць тое, што войска Уладзіміра Полацкага, з якім ён у 1216 г. сабраўся ісці на Рыгу, напалову складалася з літоўцаў. Важным фактарам у арганізацыі адпору рыцарам было ўмацаванне сувязяў Полацкай зямлі з суседнімі рускімі землямі, у першую чаргу з Наўгародскай і Пскоўскай. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца жаніцьба наўгародскага князя Аляксандра Неўскага з дачкой полацкага князя Брачыслава ў 1239 г. Саюз Полацкай і Наўгародскай земляў быў важнай умовай перамогі над нямецкімі агрэсарамі на Чудскім возеры ў 1242 г., што ў далейшым палегчыла і абарону беларускіх земляў ад крыжакоў. Адзінства Полацкай, Наўгародскай і Пскоўскай земляў прывяло да перамогі над немцамі і ў 1262 г. пад г.Юр'евам.

## ШТО Ж ЗАВАЯВАЎ МІНДОЎГ ?

Раздробленасць беларускіх земляў, літоўскія набегі на іх, татара-мангольскае нашэсце і нямецкая агрэсія — усё тое, што ў гістарычнай навуцы прымаецца за фактары, якія нібыта абумовілі так званае літоўскае панаванне над Беларуссю, трымаецца, па сутнасці, на традыцыі, якая ідзе ад гісторыка-публіцыстычных твораў XVI ст. Аднак іх легендарнасць, як было паказана вышэй, не выклікае сумнення.

Немалаважную ролю ў жывучасці міфа аб літоўскай заваёве мела тое, што дзяржава называлася Літоўскай. Але мы ўжо паказалі, што ў час утварэння яе назва «Літва» адносілася не да сучаснай Літвы. Акрамя таго, не варта на ўсе выпадкі гісторыі пашыраць звыклае ўяўленне, што дзяржава атрымлівае назву ад той сваёй часткі, якая дамінавала падчас яе ўтварэння. Заходняя балцкая зямля Прусія была ў канцы XII ст. канчаткова заваявана немцамі і пасля анямечана. Аднак назвы сваёй яна не толькі не страціла, але і пашырыла яе на захад. У 1618 г. Прусія была далучана да Брандэнбурга[240], аднак і пасля гэтага захавала сваю назву, якая перайшла на Брандэнбург. Дык хіба на падставе яе назвы трэба лічыць Прусію дзяржавай не немцаў, а прусаў? Нешта падобнае адбылося і з Літвой. Заваяваная Новагародкам, яна таксама не страціла сваёй назвы і стала пашыраць яе на захад, у тым ліку і на сучасную Літву. І таму як нельга лічыць, што назва «Прусія» пашыралася з Берліна, так і нельга лічыць, што назва «Літва» пашыралася з Вільні. Цікава адзначыць яшчэ адну паралель. Як назва прусаў перайшла на ўсходніх немцаў і яны сталі называцца прусакамі, так і назва «літва» перайшла на панямонскіх беларусаў, якія доўгі час называліся ліцвінамі.

Прынята лічыць, што ў поўнай назве дзяржавы «Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае» другая ўключае ў сябе беларускія і ўкраінскія землі. Аднак ёсць падставы (на жаль, на іх не звяртаецца ўвага), якія могуць гаварыць пра тое, што паняцце «Рускае» стасавалася толькі да ўкраінскіх земляў, а паняцце «Літоўскае» — толькі да беларускіх земляў. Так, калі ў выніку Люблінскай уніі 1569 г. украінскія землі перайшлі да Кароны, г. зн. да Польшчы, і, такім чынам, больш не належалі

Вялікаму княству, то летапісы апошняга, створаныя ў гэты час (Красінскага, Рачынскага, Румянцаўскі, Яўрэінаўскі і інш.), называюць сваю дзяржаву княствам Літоўскім і Жамойцкім[241]. Таму можна зрабіць вывад, што пад Літоўскім тут разумеюцца беларускія землі, а пад Жамойцкім — літоўскія ў сучасным разуменні. Паказальна і тое, што беларуская мова тады часамі выступала пад імем літоўскай. Так, Л. Зізаній, тлумачачы значэнне загалоўка сваёй кнігі «Катэхізіс», гаворыць, што «политовски — это оглашение, русским же языком нарицается беседословие»[242]. Тут значэнне слова «літоўскі» тоеснае паняццю «беларускі», якое ў сваю чаргу адрозніваецца ад паняцця «рускі». Гэтак жа і Л. Бярында ў сваім «Лексіконе» (1627) беларускую мову таксама называе літоўскай. І ўжо ў XVIII ст. біскуп В. Садкоўскі пагражаў на слуцкім епархіяльным саборы мясцовым папам, якія ў сваёй практыцы ўжывалі беларускую мову: «Я вас скарэню, знішчу, што б і языка не было вашаго праклятаго літовского»[243]. Гэтыя і іншыя падобныя факты паказваюць, што паняцці «Літва» і «літоўскі» ў мінулым перш за ўсё адпавядалі сучасным паняццям «Беларусь» і «беларускі».

Застаецца яшчэ адзін довад на карысць версіі літоўскай заваёвы Беларусі, а менавіта тое, што ў канцы 40-х гадоў XIII ст. у Навагародскай зямлі стаў княжыць выхадзец з Літвы Міндоўг. Але ці з'яўлялася гэта толькі вынікам заваявання Навагародка Міндоўгам? Для высвятлення такога пытання трэба прыгадаць тое, што многія літоўскія князі і феадалы, пацярпеўшы паражэнне ў міжусобнай барацьбе, перабягалі ў суседнія краі (у Ордэн, Рыгу, рускія землі), дзе былі жаданымі людзьмі, там іх ахвотна прымалі, кампенсавалі страчаную маёмасць. Прыняўшы хрысціянства і атрымаўшы вайсковую сілу, яны нападалі на літоўска-балцкія землі, чынячы там пагром і разбурэнні[244]. Нямала прыкладаў такіх перабежчыкаў у Ордэн прывёў у сваёй кнізе У. Пашута.

Цікавы лёс двух нальшчанскіх перабежчыкаў Суксе і Даўмонта, якія, ратуючыся ад Трайдзеня і Войшалка, уцяклі з радзімы: першы — у Рыгу, другі — у Пскоў. Яны сталі вернымі служкамі сваіх новых айчын і заклятымі ворагамі сваёй зямлі. Вось што гаворыць пра Суксе нямецкая хроніка: «Суксе нарадзіўся ў Літве, прыняўшы хрысціянства, ён жыў сярод ор-

дэнскіх рыцараў, вызначаючыся храбрасцю і богабаяззю. Загінуў у час паходу на Літву»[245].

Гэтаксама вядзе сябе ў адносінах да Літвы і Даўмонт, абраны ў 1266 г. пасля прыняцця ім хрысціянства пскоўскім князем. Вось некалькі вытрымак з Наўгародскага I летапісу: «В лето 6774 (1266). Вложи бог в сердце Довмонту благодать свою... отомстити кровь крестьянскую, и поиде с пльсковичи на поганую Литву, и повосваша много... и пособи бог князю Довмонту с пльсковичи и множьство много их (літвы) побиша, а иние в реце истопиша... Того же лета на зиму ходиша паки пльсковичи на Литву с князем Довмонтом. В лето 6775 (1267)... ходиша новгородцы с Ельферьем Сбысловичем и с Доумонтом с пльсковичи на Литву, и много их повоеваша»[246].

Прыклад Даўмонта паказвае, што з'яўленне ў той ці іншай рускай зямлі князя з Літвы не можа быць доказам заваявання яе Літвой, бо ён мог быць там не як заваёўнік, а як перабежчык ці наёмнік. Адсюль вынікае, што абранне ў сярэдзіне XIII ст. у некаторых рускіх землях князёў літоўскага паходжання было сведчаннем не ўзмацнення Літвы, а, наадварот, яе распаду і аслаблення, бо яны былі там не яе стаўленікамі, а яе ворагамі.

Такім перабежчыкам, па ўсім відаць, быў і Міндоўг, бо паводзіны яго цалкам нагадваюць паводзіны іншых літоўскіх перабежчыкаў. Важна зазначыць, што ўсе папярэднія звесткі пра Міндоўга характарызуюць яго выключна як наёмніка. Першы раз ён упамінаецца ў дагаворы 1219 г., дзе разам з іншымі балцка-літоўскімі князямі абавязаўся перад галіцка-валынскімі князямі ваяваць супраць палякаў[247]. Гэтак жа сама і ў 1237 г. ён, паводле жадання Данілы Галіцкага, ваяваў з Конрадам Мазавецкім[248]. У 1245 г. Міндоўг зноў на баку Данілы Галіцкага ў яго барацьбе з чарнігаўскім князем Расціславам[249]. Дзесьці ў прамежку 1245—1246 гг. ён быў запрошаны куронамі на дапамогу ў змаганні з немцамі. Аднак пад крэпасцю Амботэн ён пацярпеў страшэннае паражэнне і вымушаны быў адступаць. Крыжакі напалі на яго ўладанні і хаця не ўзялі ўмацавання, аднак нанеслі вялікія спусташэнні і разбурэнні яго зямлі[250]. Гэта не магло не прывесці да аслаблення пазіцый Міндоўга ў Літве, што і выкарысталі яго праціўнікі. У міжусобнай барацьбе, якую яны развязалі супраць Міндоўга ён

пацярпеў паражэнне і быў вымушаны ўцякаць у суседні Навагародак. Яўны намёк на ўсё гэта ёсць у Іпацьеўскім летапісе, дзе гаворыцца, што Міндоўг пазней выгнаў літоўскіх князёў «за ворожьство с ними»[251]. Значыць, Міндоўг помсціў за варожыя адносіны да яго.

Для кожнага перабежчыка з Літвы было абавязковым прыняцце хрысціянства: у Ордэне — заходняга, каталіцкага абраду, у старажытнарускіх землях — усходняга, праваслаўнага. Тое ж самае зрабіў і Міндоўг. Густынскі летапіс пад 1246 г. паведамляе: «Миндовг принять веру христианскую от Востока со многими своими бояры... непомнозе же сын его Войшелк пострижеся во иночество». На жаль, гэта летапіснае паведамленне застаецца па-за ўвагай даследчыкаў. І гэта невыпадкова, бо факт прыняцця Міндоўгам храсціянства «от Востока» пацвярджае тое, што ён не завяяваў Навагародак, а быў абраны тут князем, як пазней Даўмонт у Пскове. Яму як заваёўніку не патрэбна было б прымаць праваслаўе. Характэрна, што як Даўмонт уцёк у Пскоў «с 300 литвы», так і Міндоўг у Навагародку з'явіўся з многімі баярамі, якія таксама прынялі хрысціянства. Гэта дадатковае сведчанне, што Міндоўг быў адным з перабежчыкаў, якія ўцякалі з Літвы з усім сваім родам і акружэннем.

Хаця Густынскі летапіс — і пазнейшая крыніца (XVII ст.), але адзначанае паведамленне, бясспрэчна, заслугоўвае поўнага даверу. Справа ў тым, што ўсе падзеі, пра якія гаворыцца тут, а менавіта гібель аўстрыйскага герцага Фрыдрыха, смерць князя Яраслава Усеваладавіча (бацькі Аляксандра Неўскага) і прыбыццё пасольства ад папы рымскага да татараў, сапраўды адбыліся ў 1246 г. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу строгае захоўванне летапісцам храналагічнай паслядоўнасці ў перадачы падзей: першая з іх адбылася 15 чэрвеня[252], другая — 30 верасня[253], трэцяя — увосень[254]. Паколькі паведамленне пра Міндоўга пастаўлена апошнім, то можна думаць, што яго хрышчэнне адбылося дзесьці позняй восенню ці ў пачатку зімы, г. зн. у канцы года (тады сакавіцкага, на пачатку 1247 г.). Менавіта ўказанне дакладнай даты з'яўлення Міндоўга ў Навагародку і складае важнейшую каштоўнасць гэтага паведамлення, якога няма ў іншых крыніцах. І таму ў адных даследаваннях гаварылася, што Міндоўг з'явіўся ў 30-я гады, у другіх — у



*Прыняцце Міндоўга на княжанне ў Навагародку*

*Графічны малюнак В. Сташчанюка. 1990 г.*

40-я, у трэціх — у 30—40-я гады XIII ст. Вось чаму нельга ігнараваць гэту крыніцу, тым больш што ўказаная ў ёй дата стасуецца з датамі далейшых падзей. Прыняцце Міндоўгам праваслаўя трэба лічыць пачаткам яго княжання ў Новагародку ў канцы 1246 г. ці пачатку 1247 г. Мы не ведаем, хто быў князем у Новагародку непасрэдна перад Міндоўгам. Як ужо адзначалася, у летапісе пад 1237 г. упамінаўся новагародскі князь Ізяслаў[255], але нічога невядома пра далейшы яго лёс: дакуль княжыў тут і чаму перастаў княжыць. Пазней, у 1256 г., упамінаўся нейкі князь Ізяслаў у Свіслачы. Магчыма, што гэта — былы новагародскі князь. Новагародскія феадалы добра ведалі Міндоўга як князя суседняй Літвы. Галоўнай мэтай выбрання Міндоўга новагародскім князем была задума выкарыстаць яго для заваявання Літвы, што ўваходзіла ў планы багатых новагародскіх феадалаў як першае звяно пашырэння сваёй улады на іншыя суседнія землі і аб'яднанне іх. У гэты час для Новагародка склаліся спрыяльныя ўмовы. Самая з іх важная тая, што Новагародскай зямлі ўдалося выйсці з-пад залежнасці ад галіцка-валынскіх князёў у першую чаргу таму, што іх зямля была аслаблена мангола-татарскім нашэсцем. І гэта адбылося недзе на пачатку 40-х гадоў XIII ст. Ва ўсякім выпадку ўсе да-

лейшыя дзеянні Новагародка выяўляюць у ім самастойную сілу, што, натуральна, і выклікала супраць яго адпаведную рэакцыю галіцка-валынскіх князёў. У той жа час Літва як наёмная сіла значна аслабела. Як адзначалася, у летапісе пад 1237 г. гаварылася аб тым, што Даніла Галіцкі «наведе Литву Миндовга Изяслава Новогородского на Конрада Мазоветского». І гэта паведамленне тлумачыцца так, што з Літвой Міндоўга ішоў і Ізяслаў Новагародскі, дзеля чаго паміж гэтымі асобамі ўстаўляецца злучнік «і», хаця яго ў тэксце няма. І таму гэты тэкст трэба разумець як тое, што «Літва Міндоўга» была ў залежнасці ад Новагародка, што, як мы ведаем, пацвярджаў і М. Стрыйкоўскі. Менавіта яна і выкарыстоўвалася Новагародкам для вайсковай дапамогі галіцкаму князю, гэтым самым зберагаючы свае сілы. Таму і страта Міндоўгам сваіх уладанняў азначала і для Новагародка страту Літвы Міндоўга. У такой сітуацыі Міндоўг для новагародцаў быў добрай знаходкай. Пакрыўджаны сваімі суайчыннікамі, ён лепш, чым хто-небудзь, з большай зацікаўленасцю і рашучасцю мог заваяваць сваю былую радзіму. Гэты вопыт Новагародка быў эфектыўным, таму яго пазней паспяхова выкарысталі полацкія і пскоўскія феадалы. Яны таксама далі прытулак выгнанцам з Літвы і выбралі іх сваімі князямі.

Неўзабаве Міндоўг і прыступіў да заваявання Літвы, г. зн. да выканання таго, дзеля чаго ўзялі яго новагародцы. Іпацьеўскі летапіс пад 1252 г. (фактычна пад 1248 г.) сведчыць: «В то же лето изгна Миндовг сыновца сваего Тевтевила и Едивида, пославшю ему на войну его со вуем своим со Выконтом, на Русь воевать ко Смоленьску и рече: «Што кто приемлеть собе держить», вражбою бо за ворожьство с ними Литву зане, поимана бе вся земля Литовьская и, ла на не вои свое хотя убити я»[256]. Тут, як і далей у летапісе, нібы ў люстэрку, адбілася гістарычная праўда. Як бачым, Міндоўг пайшоў на хітрасць. Падгаварыўшы сваіх пляменнікаў Таўцівіла і Едзівіда з іх дзядзькам Віконтам ісці пад Смаленск, ён паслаў наўздагон сваё войска, каб забіць іх. Відаць, Міндоўг паабяцаў ім дапамагчы, бо як інакш, не выклікаючы падазрэння, ён мог паслаць за імі сваё войска. У. Пашута гэты факт тлумачыць тым, што Міндоўг сапраўды паслаў іх ваяваць да Смаленска і нават абяцаў аддаць ім усё, што яны возьмуць. Больш таго, спасылаючыся на

Суздальскі і Наўгародскі летапісы, кожны з якіх называе розныя даты (1248, 1245), а таксама на папскага пасла Плана-Карпіні, які падарожнічаў па Русі ў 1245—1246 гг., гэты даследчык сцвярджаў, быццам паход жамойцкіх князёў сапраўды закрануў полацка-віцебскія землі і паўночную частку Смаленшчыны[257]. Але далей У. Пашута прызнаў, што фактычна Міндоўг «изгна» жамойцкіх князёў[258].

Значыць, Таўцівіл, Едзівід і Віконт (ці Вікінт) былі выгнаны з Літвы. Гэта адбылося ў выніку таго, што Міндоўг «Литву зане, паимана бе вся земля Литовьская». Прачытаеш гэтыя словы і здзіўляешся з-за таго, што бясконца гавораць і пішуць пра заваяванне Міндоўгам так званай Чорнай Русі, у той час як у сапраўднасці ён «Литву зане». Гэтыя словы з выключнай яскравасцю пацвярджаюць, што Міндоўг быў перабежчыкам у Новагародку, а не яго заваёўнікам. Бо калі б ён з Літвы заваяваў Новагародак, дык навошта яму было займаць Літву? Словы «паимана бе вся земля Литовьская» гавораць, што Міндоўг да гэтага не валодаў ніводнай часткай яе. Значыць, ён прыбыў у Новагародак, страціўшы Літву.

У свой час М. Дашкевіч заўважыў, што даследчыкі не растлумачылі словы «вражбою бо за ворожьство с ними Литву зане»[259]. І гэта зразумела, бо ў такіх словах заключалася абвяржэнне міфа пра заваяванне Міндоўгам Новагародскай зямлі, які быў узяты на ўзбраенне афіцыйнай гістарыяграфіяй. Сам М. Дашкевіч таксама не рызыкнуў парушыць казённае адзінадушша ў гэтым пытанні. У навуцы таксама не ставілася пытанне, чаму беларуска-літоўскія летапісы, перапоўненыя байкамі пра розных міфічных жамойцкіх князёў, якія нібыта княжылі ў Новагародку, ні слова не гавораць пра гістарычна праўдзівага князя Міндоўга, які сапраўды быў тут. І толькі «Хроніка Быхаўца» перадае звесткі Іпацьеўскага летапісу пра Міндоўга, аднак выкінуўшы адтуль словы пра заваяванне ім Літвы, бо яны закрэслілі б байкі гэтага летапісу пра заваяванне літоўскімі князямі Новагародка і Полацка. Характэрна, што і У. Пашута, пераказваючы гэта месца Іпацьеўскага летапісу, таксама апусціў словы «Литву зане» і ніяк не каменціруе словы «поимана бе вся земля Литовьская»[260].

Гэтыя словы летапісу ясна паказваюць, што ўтварэнне ВКЛ пачалося не з заваявання Новагародскай зямлі Літвой, а, на-

адварот, з заваявання Навагародскай зямлёй Літвы. Гэтую заваёву навагародскія феадалы ажыццявілі сваімі сіламі пры дапамозе перабежчыка з Літвы Міндоўга. Апошні, помсцячы князям Літвы за іх «ворожьство» да яго, адбіраючы ад іх «бесчисленое имение их», дзейнічаў у інтарэсах навагародскіх феадалаў. І таму не дзіўна, што феадалы Літвы аказалі ўпартае супраціўленне Міндоўгу. Адсюль яскрава бачна, што дзеянні Міндоўга вызначаліся інтарэсамі Навагародка, а не Літвы. Сапраўды, калі прыняць супрацьлеглы пункт погляду, дык становіцца незразумелым, чаму ўтварэнню Літоўскай дзяржавы ўвесь час перашкаджаюць не беларускія, а літоўскія феадалы.

У. Пашута не меў рацыі, калі гаварыў, што «ўсё ішло адносна гладка, пакуль Міндоўг дзейнічаў у межах Аўкштайціі, але яго наступленне на правы жамойцкіх князёў выклікала феадальную вайну»[261]. Гэта супярэчыць фактам. Мы ўжо не будзем казаць, што У. Пашута прымаў летапісную Літву за Аўкштайцію, да якой Міндоўг не меў ніякіх адносін. У летапісе нічога не гаворыцца пра Жамойцію. У ім сказана, што Міндоўг заняў Літву. Словы ж «поимана бе вся земля Литовьская» сведчаць пра захоп не толькі «Літвы Міндоўга», але і правабярэжнай Літвы. Аднак паняцце «вся земля Литовьская» ў той час не пашыралася на Жамойцію. Калі пасля забойства Міндоўга Транята стаў князем Літвы і Жамойціі, летапіс гэта і зафіксаваў: «Тренята нача княжити во всей земле Литовьской и в Жемоти»[262]. Пра Міндоўга ж там ні разу не сказана, і таму няма ніякіх падстаў сцвярджаць, быццам ён наступіў толькі на правы жамойцкіх князёў. Невядома таксама, чаму У. Пашута называў Таўцівіла і Едзівіда жамойцкімі князямі. Яны былі сынамі брата Міндоўга Даўспрунга[263], а той у дагаворы 1219 г. названы князем Літвы. Вікінт — жамойцкі князь, але ён быў выгнаны таму, што разам з пляменнікамі пайшоў у паход. Потым ён сапраўды быў у Жамойціі. Такім чынам, няма падстаў сцвярджаць, што толькі жамойцкія князі аказалі супраціўленне Міндоўгу. У першую чаргу і галоўным чынам яму супрацьстаялі князі Літвы, інтарэсы якіх перш за ўсё закрануў ён.

Таўцівіл, Едзівід і Вікінт, як і іншыя выгнаннікі з Літвы, страціўшы апору на сваёй зямлі, былі вымушаны звяртацца па дапамогу звонку. Даведаўшыся пра намер Міндоўга забіць іх,

яны ўцяклі да галіцка-валынскіх князёў Дынілы і Васілька, ведаючы, што прымуць іх там з радасцю. І не памыліліся.

Захоп Новагародкам Літвы не мог не выклікаць трывогі ў галіцка-валынскіх князёў. Узмацненне Новагародка ў выніку пашырэння яго ўлады на Літву давала яму магчымасць узяць першынство ў аб'яднанні заходнерускіх земляў. А на гэту ролю прэтэндавалі самі галіцка-валынскія князі. Даніла Галіцкі даўно добра разумеў геапалітычнае значэнне Літвы. Нездарма ён быў жанаты з сястрою Таўцівіла і Едзівіда[264]. І вось калі Міндоўг апынуўся ў Новагародку і заваяваў Літву, ён ператварыўся з ранейшага саюзніка галіцка-валынскіх князёў у іх заклятага ворага, і таму яны адразу ацанілі ўсю сур'ёзнасць становішча. У здзяйсненні іх далейшых намераў наступіў падыходзячы момант для ўмяшання ў справы Новагародскай дзяржавы. Даніла Галіцкі адразу адправіў паслоў да польскіх князёў са словамі: «Яко время есть хрестьяном на поганее, яко сами имеють рать межу собою»[265]. Гэты выраз тлумачыць, чаму ў Галіцка-Валынскім летапісе адсутнічае паведамленне аб прыняцці Міндоўгам праваслаўя ў 1246 г.: яно б супярэчыла прыведзеным словам Данілы Галіцкага і рабіла б бяссэнсавым яго заклік да барацьбы з паганымі. Але справа, вядома, была не ў паганстве, бо менавіта са збеглымі феадаламі-язычнікамі галіцка-валынскія князі ішлі на саюз.

Збеглыя князі Літвы накшталт іншых перабежчыкаў з яе з'яўляліся паслухмянымі служкамі новых гаспадароў. Тыя паслалі іх у Ордэн і Рыгу, у Жамойцію і да яцвягаў з мэтай стварэння кааліцыі супраць новай дзяржавы, што ўрэшце і ўдалося зрабіць шляхам подкупу. Аднак калі гэтым удзельнікам кааліцыі адводзілася другарадная роля, дык на сябе галіцка-валынскія князі ўзялі галоўную задачу — барацьбу з Новагародкам як цэнтрам новай дзяржавы. Гэтым самым яны зноў паказалі, што для іх галоўным ворагам было не паганства, а хрысціянская Новагародская зямля, і разгарнулі супраць яе шырокі наступ адразу ў трох кірунках — на Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў, у выніку чаго «паідоста к Новугороду»[266] і «поимаша грады многы», «возвратишеся в домы»[267]. З гэтага бачна, што галіцка-валынскія князі не ставілі сваёй задачай на той час заваяванне Новагародскай зямлі: яны яе разбуралі і рабавалі і гэтым самым знясільвалі.



*Позірк з глыбіні стагоддзяў. Выява св. Дзмітрыя з мячом і тарчаю на медальёне XII ст. з Ваўкавыска*

Даведаўшыся, што немцы збіраюцца дапамагчы Таўцівілу ў барацьбе з Міндоўгам, Даніла Галіцкі даў яму свае войска і полаўцаў. З гэтай сілай Таўцівіл пайшоў у Рыгу, дзе прыняў каталіцкае хрышчэнне. Міндоўг убачыў, што вакол яго сціскаецца варожае кола, і вырашыў таксама дзейнічаць подкупам у адносінах з Рыгай. Тут у яго была перавага над Вікінтам і Таўцівілам: казна навагародскіх феадалаў была багатая. Але адных раскошных дароў было мала. Рыжскім біскупам Андрэем была пастаўлена ўмова: прыняць хрышчэнне ад папы, і толькі тады Міндоўг адолее ворагаў, г. зн. яму будзе аказана патрэбная дапамога. Рымская курыя ўжо даўно ўважліва сачыла за падзеямі ва Усходняй Еўропе і выкарыстоўвала кожны момант для пашырэння там уплыву каталіцкай царквы. Асабліва прыдатнымі ў гэтых адносінах былі моманты варожасці і супернііцтва паміж асобнымі землямі, у прыватнасці Навагародскай і Галіцка-Валынскай. Папа рымскі Інакенцій XIV не прамінуў даць у гэтым выпадку згоду на хрышчэнне Міндоўга і ўручэнне яму каралеўскай кароны. Паводле Густынскага летапісу, гэта адбылося ў Навагародку ў 1252 г. (паводле некаторых іншых меркаванняў, у 1253 г.). Праз два гады такая ж самая карона была ўручана ад імя папы рымскага Данілу Галіцкаму.

Становішча Міндоўга крыху палепшылася. Рыга не ваявала з ім, у яго войску з'явіўся нямецкі атрад. Паміж войскамі Міндоўга і Таўцівіла адбыліся дзве бітвы і абедзве безвыніковa. У час першай Міндоўг знаходзіўся ў сваёй роднай Варуце, і яго праціўнікі абмежаваліся рыцарскім турнірам, падчас другой ужо сам Міндоўг абклаў горад Вікінта Твірымець, але, паранены, павярнуў назад. Ворагі Міндоўга добра разумелі,



*Медная пласціна алтарнай перагародкі з выявай святога Паўла. XII ст., Гродна*

што сіла яго ў Новагародскай зямлі і што без знясілення яе немагчыма перамога над ім. Вось чаму Таўцівіл паслаў нейкага Рэўбу да Данілы Галіцкага з просьбай: «Поиди к Новогородку»[268]. Просьба была выканана з задавальненнем. Даніла сабраў вялікую сілу: з ім былі яго брат Васілька, сын Леў і сват — палавецкі хан Цягак. Па дарозе яны ўзялі з сабой пінскіх князёў. Апошнія, як сведчыць летапіс, пайшлі неахвотна. І гэта зразумела. Паход арганізоўваўся не толькі супраць Новагародка, але і супраць Літвы, якая служыла заслонай Новагародскай зямлі з паўднёвага ўсходу. А пінскім князям не хацелася варагаваць са сваімі суседзямі, з якімі ў іх даўно ўжо вызначыліся агульныя эканамічныя інтарэсы. Літва аказала супраціўленне: паслаўшы старожу на воз. Зьяце, гналася за галіцка-валынскім войскам да р. Шчары. Даніла вымушаны быў зрабіць суровае ўнушэнне сваім войскам, асабліва тым, якія не хацелі ваяваць. Супраціўленне Літвы было зломлена, і «наутрее же плениша всю землю Новогородьскую, оттуда же возвратишеся в дом свой»[269]. Аднак гэтага было недастаткова. Даніла паслаў свайго брата Васілька і сына Рамана на заходнюю частку Новагародскай зямлі — Гарадзенскае княства (гэты факт і дае падставу лічыць, што яно ўваходзіла ў склад Новагародскай зямлі). Там быў захоплены Гарадзен, а пасля таго, як Даніла дадаткова «посласте многы своя пешьте и конникы», «плениша всю вотчину их и страны их»[270].

Як бачым, у выніку гэтага паходу была занята левабярэжная Літва і ўся Новагародская зямля. І хоць Міндоўг паслаў свайго сына пад Турыйск, хоць да гэтага часу яму ўдалося падкупіць яцвягаў, справа была прайграна, і ён папрасіў у Данілы міру. Аднак умовы, прапанаваныя Міндоўгам, былі, відаць, непрымальныя для Данілы Галіцкага. Мір быў заключаны

пасля яшчэ аднаго паходу Данілы «на Литву, на Новогородок»[271].

Чамусьці У. Пашута нічога не гаварыў пра гэты паход, магчыма, таму, што гэтае месца летапісу ясна ўказвае на знаходжанне летапіснай Літвы паміж Пінскай і Новагародскай землямі. А менавіта гэты паход і вырашыў зыход справы і прымусіў Новагародак заключыць мір на ўмовах, прадыктаваных Данілам Галіцкім. Вось чаму нельга паказваць заканчэнне вайны 1248—1254 гг. як трыумф палітыкі і дыпламатыі Міндоўга, як гэта сцвярджаў У. Пашута, зазначаючы, што за Міндоўгам засталася Чорная Русь[272]. Пры гэтым не растлумачыў, чаму ён змяніў свой ранейшы погляд, паводле якога гэты мір з'яўляўся перамогай Данілы[273], што больш адпавядае сапраўднасці. У. Пашута яшчэ пісаў: «Завяваць Літву нікому не ўдалося»[274]. Але Літву і Новагародак ніхто і не хацеў заваёўваць. Мы бачылі, што галіцка-валынскія князі тры разы займалі Новагародскую зямлю і два разы Літву і кожны раз пасля «возвратишеся в дом свой». Для заваявання і асабліва ўтрымання ў сваіх руках Новагародскай зямлі і Літвы ў іх проста не было сіл: Галіцка-Валынская зямля на той час была занята барацьбой з татара-манголамі і вайной за аўстрыйскую спадчыну. Вайна 1248—1254 гг. была выклікана заваяваннем Літвы Новагародкам, што прывяло да пашырэння тэрыторыі і ўзмацнення Новагародскай дзяржавы. Таму галіцка-валынскія князі, якія вялі вайну з Новагародкам, мелі на мэце прымусіць яго адмовіцца ад Літвы. Яны гэтага дасягнулі. Міндоўг павінен быў здаволіцца толькі роляй князя Літвы, у той час як Новагародак узяў сабе другога князя — Войшалка, старэйшага сына Міндоўга.

## ПАЛІТЫКА ВОЙШАЛКА І ДРУГОЕ ЗАВАЯВАННЕ ЛІТВЫ

Як бачым, першая спроба заваявання Літвы Новагародскай зямлёй закончылася няўдачай. Галоўнымі праціўнікамі гэтага былі: знутры — літоўскія феадалы, а звонку — галіцка-валынскія князі. Гэтыя дзве сілы найбольш паслядоўна змагаліся за раз'яднанне Новагародка і Літвы і давялі сваю справу да канца.

Аднак, нягледзячы на першую няўдачу і спусташэнне, якое прынеслі тры паходы галіцка-валынскага войска на Новагародскую зямлю, яе феадалы не адмовіліся ад свайго намеру заваяваць Літву. Але яны ўлічылі горкі вопыт першай сваёй спробы, выканаўца якой — Міндоўг — аказаўся дрэнным, няўмелым палітыкам. Яго дзеянні выклікалі міжнародны канфлікт, цэлая кааліцыя дзяржаў выступіла супраць Новагародскай дзяржавы. Асабліва няўдалым палітычным манеўрам Міндоўга быў саюз з Ордэнам. Па-першае, гэта вельмі пашкодзіла балцка-літоўскім землям. Паводле гэтага саюзу, Міндоўг рабіў за кошт іх зямельныя ахвяраванні Ордэну і адмаўляўся ў дапамозе Жамойціі ў час барацьбы яе з немцамі. Рыцары, развязаўшы сабе рукі ўмовай з Міндоўгам, разгарнулі шырокае наступленне супраць Прусіі і Жамойціі. З другога боку, манеўр Міндоўга нічога не даў і Новагародку — не спыніў галіцка-валынскага наступлення, што і было галоўнай прычынай няўдачы.

Улічваючы праваслаўны фанатызм будучага новагародскага князя Войшалка, можна думаць, што прыняцце Міндоўгам каталіцтва выклікала незадаволенасць новагародцаў і ў шэрагу з іншым з'явілася прычынай пазбаўлення яго княскага пасада ў Новагародку.

Такім чынам, роля Міндоўга ў гісторыі яўна перабольшваецца. Ён фактычна не быў стваральнікам ВКЛ, як гэта да апошняга часу тлумачыцца ў літаратуры[275]. Не ён зрабіў сваёй сталіцай Новагародак[276], а Новагародак выбраў яго сваім князем. Не літоўскую ўладу ажыццяўляў тут Міндоўг[277], а быў выканаўцам дзяржаўных імкненняў Новагародка. Таму, не апраўдаўшы надзей новагародскіх феадалаў, ён і страціў новагародскі пасад.

Праўда, апошнім часам сцвярджаецца, што сталіцай Міндоўга быў не Новагародак, а Вільня[278]. Аднак гэта супярэчыць пісьмовым крыніцам. Нельга ігнараваць і тапаніміку: у Навагрудку ёсць гара Міндоўга[279] і гай Міндоўга[280]. Вільня ж упершыню як сталіца ВКЛ упамінаецца толькі ў 1323 г.

Мы не ведаем дакладна, калі Міндоўг пакінуў Новагародак, гэта, відаць, адбылося ў 1254 г., калі быў заключаны мір з галіцка-валынскімі князямі. Але ад імя Новагародка ў гэтай акцыі ўдзельнічаў не Міндоўг, а Войшалк.



*Князь Войшалк.*
*Малюнак-выкантуроўка з выявы на абкладзе Лаўрышаўскага Евангелля*

Новагародскім феадалам, як і раней, патрэбны быў князь-ліцвін, які, захапіўшы Літву, мог бы з'явіцца там як наследны гаспадар. І гэта ў будучым спраўдзілася. Па-другое, ён меўся быць такім жа непераборлівым у сродках для дасягнення сваіх мэт, такім жа рашучым і вераломным, як Міндоўг. Будучыня паказала, што Войшалк у гэтых якасцях не толькі не ўступаў свайму бацьку, але і перасягаў яго. Па-трэцяе, патрэбны быў адначасова тонкі палітык і дыпламат, які б дзейнічаў больш дальнабачна і меў менш ворагаў, чаго не здолеў зрабіць Міндоўг. І тут новагародскія феадалы таксама не памыліліся. Нарэшце, князь гэты павінен быць больш прывязаны да Новагародка, больш дзейнічаць у яго інтарэсах. Міндоўг жа, як помнім, у асноўным помсціў за свае крыўды, ва ўсіх яго ўчынках бачна імкненне найперш задаволіць асабістыя інтарэсы. Ён больш прыстасоўваўся да адпаведных умоў, чым сам іх ствараў, сведчаннем чаго з'яўляецца яго пераход з язычніцтва ў праваслаўе, з праваслаўя ў каталіцтва, потым зноў у язычніцтва. Войшалк быў поўнай процілегласцю Міндоўга. Назаўсёды звязаўшы свой лёс з Новагародкам, ён быў праваслаўным фанатыкам. Сведчаннем апошняга асабліва з'яўляецца тое, што ён не пайшоў услед за Міндоўгам у прыняцці каталіцтва, а застаўся ў праваслаўі. Служэнне Новагародку і праваслаўю — вось тая спружына, якая рухала дзейнасць Войшалка. У гэтых адносінах ён нагадваў Даўмонта, які, нягледзячы

на літоўскае паходжанне, верна служыў Пскову і праваслаўю, за што быў абвешчаны пасля смерці святым.

Вось такі чалавек стаў новагародскім князем. У той час яму было 32 гады (паводле Тацішчава, ён нарадзіўся ў 1223 г.). Першай буйной дзяржаўна-дыпламатычнай справай Войшалка было заключэнне міру з галіцка-валынскімі князямі. У летапісе сказана: «Потым же Войшелк створи мир с Данилом и выда дщерь Миндовгову за Шварна, сестру свою»[281]. Прыйсці да згоды было нялёгкай справай. Ён выступаў ад імя перамоджанай і знясіленай краіны. У такім незайздросным становішчы трэба было заключыць выгадны для сябе мір. Войшалк добра разумеў галоўны пралік Міндоўга: захоп Літвы выклікаў варожасць галіцка-валынскіх князёў. Таму яго асноўнай задачай было перацягнуць былых праціўнікаў на свой бок і на пэўны час абапірацца на іх дапамогу. Гарантыяй гэтага стала выданне дачкі Міндоўга за сына Данілы Галіцкага. Трэба думаць, што на гэтым шлюбе настойваў і Даніла Галіцкі, каб у далейшым мець большыя магчымасці для ўмяшання ў справы Літвы. Дзеля гэтага ж і ён сам быў жанаты з сястрой Таўцівіла. Сама летапісная формула сведчыць, што ўсё было зроблена супраць волі Міндоўга. Праўда, апошні ў 1252 г. таксама разам з пытаннем пра мір ставіў і пытанне «о сватьстве», але, відаць, на іншых умовах, і таму зараз ужо не Міндоўг выдаваў «дщерь Миндовгову и свою сестру за Шварна». Аднак замацаванне міру ўступленнем у сваяцтва праз шлюб было звычайнай з'явай, якая ў большасці выпадкаў не гарантавала трываласці пагаднення. Таму Войшалк пайшоў на незвычайны ўчынак. Ён аддаў Новагародскую зямлю разам з Новагародкам, Слонімам, Ваўкавыскам і астатнімі гарадамі сыну Данілы — Раману. Такі дзіўны крок сучаснікі не маглі растлумачыць інакш як імкненнем Войшалка пастрыгчыся ў манахі. У сапраўднасці ж гэта быў вельмі тонкі і дальнабачны палітычны ход. Войшалк канчаткова ўваходзіў у давер да галіцка-валынскіх князёў. У.Пашута сцвярджаў, нібыта па ўмовах міру «Чорная Русь засталася за Літвой» і «што ў ёй правіў Войшалк»[282], не тлумачачы і не аналізуючы таго факта, чаму патрэбна было Міндоўгу аддаваць Войшалку Новагародскую зямлю. Мы ўжо ведаем, што яна ніколі не належала Літве, а ўсё было наадварот. Больш таго, У. Пашута гаварыў, што Міндоўг

пакінуў за сабой Навагародак, а Войшалк перадаў Раману Навагародак ад імя Міндоўга, а Ваўкавыск, Слонім і іншыя гарады — ад сябе. Гэта як быццам пацвярджаецца словамі летапісу: «...вдасть... Новогородок от Миндовга и от себе и Вослоним и Волковыеск и все городы». Але гэты тэкст летапісу дае падставы для розначытанняў у залежнасці ад таго, куды аднесці словы «и от себе» — да Навагародка ці да астатніх гарадоў. Затое летапісны запіс пад 1257 г. ясна гаворыць, што Войшалк ад сябе, а не ад Міндоўга перадаў Раману Навагародак: «Воишелк бе дал Новогородок Романови»[283]. Як бачым, тут летапіс не згадвае Міндоўга. Чаму ж ён фігуруе ў папярэднім тэксце? Войшалк мог прадбачыць, што ў яго адсутнасць Міндоўг мог прэтэндаваць на Навагародак і ўсю зямлю і пры зручным выпадку вярнуцца туды. Забягаючы крыху наперад, скажам, што пільнасць Войшалка не была лішняй. Хто-хто, а ён ведаў свайго бацьку. Сапраўды, апошні, выхваляючыся, неўзабаве паабяцаў Данілу Галіцкаму, падбіваючы яго ісці на татараў (ён не мог ім даравапь нападу Бурундая на яго зямлю ў 1258 г.): «Пришлю к тобе Романа с новогородце»[284]. Відаць, ён і хацеў, карыстаючыся адсутнасцю Рамана з войскам і занятасцю галіцка-валынскіх князёў барацьбой з татарамі, нейкім чынам вярнуцца ў Навагародак. Звычайна даследчыкі ўказваюць на прыведзеныя вышэй словы Міндоўга як на сведчанне залежнасці яго Навагародка і пры Рамане. Але яны не ўлічваюць, што навагародцы аказаліся непаслухмянымі, і Міндоўгу прыйшлося пасылаць свае войска, у той час як Раман прывёў «мало людий»[285].

Вось чаму Войшалк прымусіў Міндоўга пацвердзіць і ад сябе перадачу Навагародскай зямлі, таму ўпамінанне тут Міндоўга гаворыць не аб прыналежнасці яму гэтай тэрыторыі, а пра канчатковае і прымусовае адрачэнне ад яе, у той час як Войшалк аддаваў яе, як убачым, толькі да часу.

Тое, што Войшалк без хістанняў аддаваў Навагародскую зямлю галіцка-валынскім князям, сведчыць пра яго дальнабачнасць. Ён добра разумеў, што Навагародская зямля з'яўляецца для галіцка-валынскіх князёў адным з самых прывабных кавалкаў, валоданне якім адчыняе ім дарогу да літоўскіх і полацкіх земляў. Ён таксама бачыў тыя ўнутраныя і знешнія супярэчнасці, у якія нападала Галіцка-Валынская зямля, і таму

прадбачыў яе немінуючае аслабленне, у выніку якога яна не толькі не зможа ўтрымаць за сабой Новагародскую зямлю, але і сама стане аб'ектам захопу суседзяў. Вось чаму Войшалк пайшоў на такую смелую палітычную камбінацыю, як перадача Новагародскай зямлі галіцкаму князю. Апроч таго, гэта забяспечвала яго Новагародчыне мірнае жыццё на пэўны час.

Варта ўвагі і тое, што Войшалк перадаў Новагародскую зямлю не Шварну, а Раману. Шварн, жанаты з сястрою Войшалка, меў бы ў выпадку перадачы яму Новагародскай зямлі законныя правы на яе. Іншая справа з Раманам. Няўдалы прэтэндэнт на аўстрыйскую карону, ён мог быць задаволены становішчам новагародскага князя і не прад'яўляць ніякіх прэтэнзій на Новагародскую зямлю як яго законную спадчыну. Распальванне супярэчнасці паміж сынамі Данілы Галіцкага ў іх дамаганнях на Новагародскую зямлю, як мы пабачым далей, стане пастаянным элементам палітыкі Войшалка і з'явіцца нават прычынай яго смерці.

Аддаўшы Новагародскую зямлю пад надзейную ахову галіцка-валынскіх князёў, Войшалк пакінуў яе. Куды ён пайшоў і з якой мэтай? Летапіс так пра гэта гаворыць: «Иде Войшалк до Галича к Данилови князю и Васильковi, хотя прияти мниски чин»[286]. Прыкінуўшыся богабаязным манахам, Войшалк, аднак, настойліва ствараў умовы для дасягнення сваіх палітычных мэт. Ён бачыў яшчэ адну перашкоду ў аб'яднанні Новагародскай зямлі з суседняй Літвой, а менавіта язычніцтва насельніцтва апошняй. Дарэчы, зазначым, што ў Іпацьеўскім летапісе пад 1262 г. сказана, што Войшалк стаў княжыць у Новагародку, будучы язычнікам, і вызначаўся таму выключнай жорсткасцю. І толькі пасля, прыняўшы хрысціянскую веру, стаў іншым чалавекам. Густынскі летапіс пад 1246 г. і іншыя запісы Іпацьеўскага летапісу яскрава сведчаць, што Войшалк перайшоў у хрысціянства да таго, як стаў князем у Новагародку. Гэты запіс дае падставу меркаваць, што, магчыма, Войшалк за свае заслугі перад праваслаўем быў кананізаваны як святы. А звычайна ў апісанні жыцця такіх людзей гаварылася, што яны былі раней вялікімі грэшнікамі, але, прыняўшы святую веру, поўнасцю мяняліся і вызначаліся сваёй святасцю. Таму невыпадкова, што Войшалк таксама быў аб'яўлены святым. Нездарма ж яго партрэт быў змешчаны на вокладцы Лаў-

рышаўскага Евангелля. Сваё знаходжанне ў Галіцкай зямлі Войшалк выкарыстаў для падрыхтоўкі хрышчэння Літвы, для чаго патрэбны былі значныя рэлігійныя сілы. Іх, відаць, не хапала ў самога Новагародка, на землях якога не было тады яшчэ ніводнага манастыра. Таму Войшалк тры гады знаходзіўся ў Палонінскім манастыры, дзе збіраў манахаў для заснавання манастыра ў Новагародскай зямлі. Мала таго, ён пайшоў у Грэцыю, у Афонскі манастыр, зноў жа, відаць, з мэтай прывесці і адтуль манахаў. Аднак з прычыны вайсковых перашкод Войшалк вымушаны быў, дайшоўшы да Балгарыі, вярнуцца з дарогі. Ён цалкам увайшоў у давер да галіцка-валынскіх князёў. Выказвалася меркаванне, што Войшалк знаходзіўся ў Галіцкай зямлі ў якасці заложніка, што гэтым самым гарантавала бяспеку Раману ў Новагародку. Такая магчымасць не выключана. Але як бы там ні было, галіцкія князі паверылі ў яго намер аддацца выключна манаскаму жыццю, сведчаннем чаго былі манахі, якіх ён браў з сабою, і адпусцілі яго. Гэта была вялікая дыпламатычная перамога Войшалка. Яму толькі тое і патрэбна было. Летапіс не ўказвае дакладнай даты вяртання Войшалка ў Новагародскую зямлю. Апісанне ўсяго яго жыцця дадзена пад 1262 г. Аднак, беручы пад увагу, што Войшалк пакінуў Новагародак у 1254 г., прабыў у Палонінскім манастыры тры гады, ды яго падарожжа цягнулася не менш за паўгода, можна лічыць, што Войшалк вярнуўся дадому не пазней як на пачатку 1258 г. Пасля вяртання ён не раскрыў адразу сваіх палітычных намераў. Ён працягваў насіць маску богабаязнага манаха і заснаваў манастыр. Тое, што гэты манастыр знаходзіўся паміж Новагародкам і Літвой, сведчыць пра яго галоўнае прызначэнне — стаць у далейшым асяродкам хрышчэння апошняй.

Заснаваўшы манастыр і для прыліку пасяліўшыся ў ім, Войшалк перайшоў да ажыццяўлення галоўнай мэты — вызвалення ад галіцка-валынскай залежнасці. Але, каб зрабіць гэта, трэба было знайсці іншага саюзніка. Тут Войшалк звярнуў увагу на Полацк, дзе ў той час княжыў Таўцівіл.

Калі і як з'явіўся ён у Полацку? Адны лічаць, што Таўцівіл быў залежным ад Міндоўга і дзякуючы яму стаў княжыць у Полацку[287]. Другія сцвярджаюць, што Таўцівіл пашырыў сваю ўладу на Полацк у той час, калі пасля прыбыцця ў Рыгу яму

абяцалі дапамагаць «божии дворяне и бискуп и вся воя рижская»[288]. Аднак ніводнай з гэтых спрэчных думак нельга даць веры. Таўцівіл ніколі не мірыўся з Міндоўгам, ніколі не залежаў ад яго і ні з яго дапамогай, ні з дапамогай рыжан не пашыраў сваёй улады на Полацк. Верагодней за ўсё, што Таўцівіл (як і Едзівід) быў князем у правабярэжнай Літве, шчыльна звязанай з Полацкай зямлёй. Вось чаму ён больш за ўсё і быў незадаволены ўладай Міндоўга і адыграў у далейшым вядучую ролю ў перамозе над ім і выгнанні яго з Літвы. Не дзіўна, што Міндоўг, стаўшы новагародскім князем, вырашыў перш за ўсё з ім расправіцца. Таўцівіл, як вядома, у сваёй барацьбе з Міндоўгам уступіў у саюз з галіцка-валынскімі князямі. Але тыя, дасягнуўшы сваёй мэты — раз'яднання Новагародка і Літвы, страцілі ўсялякую цікавасць да Таўцівіла і не падумалі дапамагчы яму ўсталявацца ў Літве. Ды ў летапісе і сказана, што Даніла на Таўцівіла «гнев имеющу»[289]. Таму зразумела, што ён, затаіўшы гнеў на свайго былога саюзніка, вымушаны быў шукаць сабе іншых гаспадароў. І знайшоў іх у асобе полацкіх феадалаў. Яны не маглі не бачыць, што Літва дажывае апошнія дні свайго палітычнага існавання. Толькі было няясна, каму дастанецца яна. Правабярэжная Літва ўжо даўно была ў залежнасці ад Полацка, адкуль ён чэрпаў матэрыяльныя сродкі і вайсковую сілу. Але адкрыта далучыць яе да сябе Полацк не рашаўся. На Літву, апроч яго, было яшчэ некалькі прэтэндэнтаў: Новагародак, Валынь, Жамойція. Таму захоп яе мог выклікаць вялікія ўскладненні: прыклад Новагародка быў яшчэ свежы ў памяці. Заставалася чакаць зручнага моманту. А пакуль, каб умацаваць свае пазіцыі ў гэтым складаным саперніцтве, Полацк вырашыў па прыкладу Новагародка прыдбаць законнага спадкаемца Літвы. У гэтым галоўная прычына з'яўлення Таўцівіла на полацкім пасадзе. Немалое значэнне яго ў выбранні полацкім князем мела і тое, што Таўцівіл меў пэўны ўплыў у Літве, пра што сведчыць і летапіс: «Литовьская земля в руку бе их»[290]. А полацкім феадалам асабліва патрэбна была ў гэты час немалая вайсковая сіла, і, беручы да сябе Таўцівіла, яны разлічвалі на яго ўплыў у Літве, у чым і не памыліліся. У паходзе 1258 г. на Смаленск удзельнічалі аб'яднаныя сілы Полацка і Літвы. Абранне Таўцівіла полацкім князем пацвердзіла і тое, што ён быў з правабярэжнай

Літвы і меў цесныя сувязі з Полацкам і, магчыма, сваяцтва з яго князямі.

Войшалк быў упэўнены, што атрымае дапамогу ад Таўцівіла, бо той быў зацікаўлены ў аслабленні Галіцка-Валынскай зямлі, чаму садзейнічала вызваленне з-пад яе залежнасці Навагародка. Акрамя гэтага, Войшалк ведаў, што ён лёгка дамовіцца з Таўцівілам і таму, што той захаваў гнеў да галіцка-валынскіх князёў. Дзякуючы Таўцівілу і праз вераломства Войшалк схапіў Рамана Данілавіча (і, магчыма, забіў яго), стаўшы такім чынам паўнапраўным гаспадаром Новагародскай зямлі. Адбылося гэта ў 1258 г., незадоўга да паходу Бурундая і Васілька на Літву. Апошні ў час паходу шукаў Рамана па гарачых слядах.

Толькі зараз галіцка-валынскія князі ўбачылі далёкасяжныя планы Войшалка і зразумелі, якую яны зрабілі памылку, адпусціўшы яго. Вядома, дзеянні Войшалка яны не пакінулі без пакарання. Даніла Галіцкі пайшоў на Новагародскую зямлю, захапіў Ваўкавыск, марна шукаў ворагаў сваіх -- Войшалка і Таўцівіла. Пасля паслаў атрад на Зэльву, а сына Льва — на Гарадзен. Аднак галіцка-валынскія князі не мелі сіл, каб справіцца з Войшалкам і вярнуць сабе Новагародскую зямлю. Яны ўсё больш падпадалі пад уладу татара-манголаў, якія ў гэтым самым 1258 г. прымусілі іх удзельнічаць у паходзе на Літву, куды і пайшоў Васілька. Цікава, што Бурундай, ідучы на Літву і разграміўшы яе, пакінуў у спакоі Новагародскую зямлю. У гэтым таксама нельга не бачыць дыпламатычнага поспеху Войшалка, які, відаць, звярнуў увагу Бурундая на тое, што новагародцы, па сутнасці, сарвалі паход Данілы Галіцкага на Кіеў праз Вязвягль, накіраваны супраць татараў[291].

На гэты час прыпадае пачатак адкрытай варожасці паміж Войшалкам і Міндоўгам. Летапіс адзначае, што, пасля таго як Войшалк стаў княжыць у заснаваным ім манастыры, «отец же его Миндовг укоревашеться ему по его житью, он же на отца своего не любовашеть вельми»[292]. У. Пашута тлумачыў гэту варожасць тым, што Войшалк прыняў хрысціянства. Але, папершае, Войшалк быў хрысціянінам, прынамсі, ужо з 1246 г., а летапіс гаворыць пра псаванне адносін паміж імі пасля заснавання Войшалкам манастыра, г. зн. пасля 1258 г. Па-другое, трэба ўлічваць, што варожасць была ўзаемная. Вядома,

яе карані не ў рэлігійных разыходжаннях. Яе прычынай было нарастанне варожасці паміж Новагародкам і Літвой. Міндоўг не мог не бачыць, што манастыр, заснаваны Войшалкам на мяжы з Літвой, прызначаўся для яе хрышчэння, якое магло ажыццявіцца толькі пасля яе захопу.

З другога боку, тонкі палітык, Войшалк не мог не бачыць нетрывалага становішча Міндоўга, хоць знешне здавалася, што Міндоўг дасягнуў сваёй мэты — аб'яднання паасобных балцка-літоўскіх земляў. Сапраўды, пасля перамогі ля воз.Дурбе ў 1260 г. Жамойція ўзнялася на барацьбу з Ордэнам, звярнуўшыся да Міндоўга па дапамогу, пры гэтым згаджаючыся прызнаць яго ўладу. Зазначым, што Міндоўг заўсёды станавіўся зброяй тых, хто яму прапаноўваў уладу: яшчэ ў 1246 г. ён па волі новагародцаў стаў у іх князем, а ў 1251 г., апынуўшыся ў крытычным становішчы, прыняў каралеўскую карону і ўступіў у саюз з Ордэнам, які выкарыстаў гэта ў барацьбе з Жамойціяй. Цяпер Міндоўг таксама не адмовіўся ад прапановы жамойцкага князя Траняты прыняць уладу над Жамойціяй. Ён парывае з Ордэнам, адракаецца ад хрысціянства і зноў пераходзіць у язычніцтва. Пад яго ўладай апынуліся ўсе балцкалітоўскія землі. Вось гэты час і меў на ўвазе летапісец, гаворачы пра Міндоўга: «...И нача княжити один во всей земле Литовьской и нача гордети вельми и вознеся гордостью и славою великою и не творяшу противо себе никакого же»[293]. Гэтыя словы прыводзяцца заўсёды даследчыкамі як сведчанне вялікай дзяржаўнай сілы Міндоўга. Аднак гісторыя на гэтым не спынілася, і яе далейшы ход паказаў зусім адваротнае. Тут будзе дарэчы нагадаць словы Л. Любаўскага, што ў літоўскіх землях «абазначыўся ўжо сацыяльны падзел грамадства, з'явіліся зародкі дзяржаўнай улады, але ўсё гэта пакуль было простым фактам, не набыло цвёрдага юрыдычнага характару і таму было хісткім і зменлівым»[294]. Далейшыя падзеі яскрава пацвердзілі гэта. Сапраўды, Міндоўг стаў ахвярай палітычнай камбінацыі Траняты, якому была патрэбна не столькі ўлада Міндоўга, колькі дапамога Літвы ў барацьбе з Ордэнам. І калі гэта барацьба скончылася перамогай Жамойціі, адразу ж пачалося саперніцтва феадалаў Жамойціі і Літвы, знешняй праявай чаго была ўзаемная варожасць паміж Транятам і Міндоўгам.

Транята зрабіў усё, каб аслабіць Міндоўга. Так, ён падбіў апошняга на паход зімой 1261—1262 гг. у Лівонію, абяцаючы, што на дапамогу яму прыйдуць рускія, а лівы і латышы паўстануць супраць немцаў. Аднак нічога гэтага не адбылося. Міндоўг вымушаны быў ні з чым вярнуцца з Лівоніі[295]. Здрада Траняты была відавочнай, і Міндоўг павінен быў выслухаць дакоры нават сваёй жонкі за тое, што ён «дарэмна слухае такую малпу, як Транята», які прадае яго, што ён дарэмна адрокся ад каталіцтва і парваў сувязі з Ордэнам. Міндоўг мусіў прызнаць, што зрабіў неразумна, але вяртацца назад не можа[296].

Сапраўды, саюз з Ордэнам і быў галоўнай сілай, якая трымала Міндоўга, бо ён не меў цвёрдай унутранай апоры нават у сваёй Літве. Таму, парваўшы з Ордэнам, ён убачыў хісткасць свайго становішча і міжволі павінен быў, як ён сам сказаў, выконваць указанні Траняты і жмудзінаў[297], якія не маглі дараваць яму саюз з Ордэнам і не хацелі мірыцца з яго ўладай. У асяроддзі жамойцкіх феадалаў узнікла змова з мэтай забіць Міндоўга. На бок Траняты перайшоў і нальшчанскі князь Даўмонт, у якога Міндоўг забраў жонку. Без саюза з Нальшчанамі, якія знаходзіліся паміж Літвой і Жамойціяй, Транята, вядома, і не мог марыць пра авалоданне Літвой. Нальшчаны, як адзначала адна нямецкая хроніка, былі спрэчнай тэрыторыяй паміж Жамойціяй і Літвой[298] (гэта сведчанне, дарэчы, можа ўказваць на тое, што Аўкштайцію паглынала назва Жамойціі). Таму, згаварыўшыся з нальшчанскім князем Даўмонтам, Транята атрымаў вялікую перавагу над Міндоўгам.

Міндоўг бачыў усё гэта і вырашыў у барацьбе з жамойцкімі і нальшчанскімі феадаламі выкарыстаць такі ж прыём, што і ў 1248 г. у барацьбе з Таўцівілам, Едзівідам і Вікінтам. Ён паслаў многіх з іх, у тым ліку і Даўмонта, ваяваць за Дняпро, пад Бранск[299], мяркуючы расправіцца са сваімі ворагамі. Аднак змоўшчыкі перахітрылі яго. Даўмонт вярнуўся з дарогі назад, дагнаў Міндоўга, забіў яго і двух ягоных сыноў. Так бясслаўна закончылася жыццё Міндоўга. Яго значэнне ў гісторыі як стваральніка ВКЛ выключна перабольшана. Прыведзеныя намі гістарычныя сведчанні паказваюць, што ён быў толькі наёмнікам Навагародка, які выкарыстаў яго для заваявання пакінутай ім Літвы, з чым ён не справіўся. Жамойція выкары-

стала яго таксама як наёмніка для барацьбы з крыжакамі. Але калі Новагародак адпусціў яго жывым, то па жаданні Жамойціі ён быў забіты. Вось гэта толькі і звязвае Міндоўга з сучаснай Летувой. І таму ён беспадстаўна ўслаўляецца тут як яе выдатны гістарычны дзеяч. Забойства Міндоўга азначала крах справы аб'яднання ўсіх балцка-літоўскіх земляў вакол летапіснай Літвы.

Стаўшы князем «во всей земле Литовской и Жемоти»[300], Транята не мог адчуваць сябе ў бяспецы, ведаючы, што ў Полацку і Новагародку сядзяць такія ж самыя, як і ён, законныя спадкаемцы Літвы. Таму ён вырашыў расправіцца паасобку з Таўцівілам і Войшалкам. Першага ён выклікаў да сябе пад выглядам запрашэння дзяліць «землю и добыток Миндовгов»[301]. Намер быў просты: забіць Таўцівіла, захапіць полацкіх баяраў, якія прыехалі з ім, і, карыстаючыся гэтым, навязаць Полацку сваю волю і князя. Усім балцка-літоўскім землям, аб'яднаным пад уладай аднаго князя, гэта было цяпер пад сілу.

Таўцівіл паехаў да Траняты з такім самым контрнамерам: забіць Траняту, завалодаць яго княскім пасадам і далучыць Літву да Полацка. План гэты быў, бясспрэчна, прадыктаваны Таўцівілу полацкімі феадаламі. Дзеля гэтага яны ўзялі яго да сябе. Не дзіўна, што Таўцівіла суправаджала цэлая світа полацкіх баяраў, каб трымаць яго пад сваім кантролем і дапамагчы ў ажыццяўленні забойства Траняты. Аднак гэтаму плану не суджана было збыцца: Транята апярэдзіў. Намер Таўцівіла выдаў полацкі баярын Пракоп. Таўцівіл быў забіты, а полацкія баяры захоплены. Рабілася спроба захапіць і забіць сына Таўцівіла, які знаходзіўся ў Полацку, але палачане дапамаглі яму ўцячы ў Ноўгарад. Гэты факт пацвярджае меркаванне, што Таўцівіл у свой час не быў пастаўлены ў Полацку Міндоўгам, як сцвярджаюць некаторыя гісторыкі, а быў добраахвотна выбраны полацкім вечам, якое лічыла яго законным князем, і таму палачане не выдалі яго сына.

Палачане, апынуўшыся ў складаным становішчы, павінны былі пайсці на часовую ўступку Траняту і прыняць ад яго князя. Наўгародскі І летапіс, адзіная крыніца, якая паведамляе пра гэта, не называе імя стаўленіка Траняты ў Полацку. Выказвалася меркаванне, што гэтым князем быў Гердзень[302], сын полацкага князя Давыда Расціславіча[303]. Значыцца, Транята фак-

тычна пасадзіў у Полацку не літоўскага князя, а полацкага князя. Гэта магло б быць яшчэ адным сведчаннем на карысць таго, што палачане нават у цяжкі момант сваёй гісторыі не бралі да сябе князёў іншых дынастый. Аднак катэгарычна сцвярджаць, што гэтым князем быў Гердзень, нельга, бо ў крыніцы аб гэтым не сказана.

Забойства Таўцівіла вывела Полацк з далейшай барацьбы за літоўскую спадчыну. Цяпер была чарга Войшалка. Але той аказаўся больш хітрым і дальнабачным, каб за нішто ісці ў рукі Траняты. Прачуўшы аб забойстве Міндоўга, «Воишелк убоявся того же и бежа до Пинська и ту живяшеть»[304]. Гэтыя словы летапісу сведчаць, што Войшалк разгадаў намер Траняты. Але не адзін толькі страх і не ён перш за ўсё гоніць Войшалка ў Пінск, што і паказалі будучыя падзеі. Перацягнуўшы на бок Навагародка пінянаў, якія ўжо даўно адчувалі на сабе цяжар залежнасці ад галіцка-валынскіх князёў, Войшалк уважліва сачыў за падзеямі ў Літве, не спяшаючыся з адкрытым умяшаннем у яе справы. Ён добра разумеў, што феадалы Літвы не будуць мірыцца з жамойцкім панаваннем, і, можна думаць, раздзімаў гэтыя супярэчнасці, што і дало свае вынікі. Транята быў забіты конюхамі-парабкамі Міндоўга[305]. Смерць Траняты азначала крах намераў жамойцкіх феадалаў аб'яднаць балцка-літоўскія землі вакол Жамойціі.

Наўрад ці можна пагадзіцца з думкай, што падзеі пасля смерці Міндоўга «зноў пацвердзілі ўнутраную цвёрдасць Літоўскай дзяржавы»[306]. Наадварот, падзеі да і пасля смерці Міндоўга пацвердзілі ўнутраную слабасць Літвы. Галоўнай прычынай гэтай слабасці быў непераадольны антаганізм паміж Літвой і Жамойціяй. Менавіта ў кароткі перыяд 1260—1263 гг. канчаткова паказала сваю нежыццяздольнасць ідэя аб'яднання балцка-літоўскіх земляў як вакол Літвы, так і вакол Жамойціі.

Войшалк быў адным з тых людзей, якія разумелі ўсю марнасць асобнага аб'яднання балцка-літоўскіх земляў ад славянскіх. І таму назаўсёды звязаў свой лёс з Навагародкам. Паміж Жамойціяй і Літвой не было і не магло быць трывалых эканамічных сувязей. Апроч таго, летапісная Літва, акружаная амаль з усіх бакоў славянскімі землямі і ўсеяная славянскімі калоніямі, вядома, не магла быць прыцягальнай для Жамойціі

з яе кампактнай тэрыторыяй і аднародным язычніцкім насельніцтвам. Феадалы Літвы і Жамойціі не мелі дастатковых сіл, каб узяць верх адных над другімі. Усё гэта не пацвярджае меркавання, што Літва ў выніку ўсталявання ў ёй манархічнай улады Міндоўга мацнела. Наадварот, як мы бачылі, манархічная ўлада Міндоўга выклікала яшчэ большы антаганізм паміж Літвой і Жамойціяй. Дзеля аб'яднання іх і іншых балцка-літоўскіх земляў патрэбны быў іншы цэнтр, якім і стаў Навагародак.

З Навагародка і прыйшла сіла, якая стала аб'ядноўваць у адзінае цэлае Навагародскую, Пінскую, Літоўскую, Полацкую землі. Войшалк, даведаўшыся, што Транята забіты, а Літва і Жамойція ў стане разгубленасці і безначалля, вырашыў, што прыйшла пара дзейнічаць. Гэтага ён толькі і чакаў. Ён распачаў непасрэдную рэалізацыю той мэты, якую не ўдалося здзейсніць Міндоўгу, калі той быў навагародскім князем, — поўную і канчатковую заваёву Літвы. У. Пашута, грунтуючыся на паказаннях Наўгародскага І летапісу, сцвярджаў, што апорай Войшалка былі «вои отца и приятели»[307]. Аднак галіцка-валынскі летапісец, які, бясспрэчна, лепш ведаў сапраўднае становішча ў суседніх землях, сведчыў пра іншае: «Воишелк поиде с Пиняны к Новогороду и оттоле поя за собою Новогородце и поиде в Литву княжить»[308]. (Гэта яшчэ адно сведчанне, што тагачасная Літва адначасова межавалася з Навагародскай і Пінскай землямі, г. зн. знаходзілася ва ўказаным намі месцы.) Вядома ж, ні ў Пінску, ні ў Навагародку вояў Міндоўга не было. Войшалк у заваяванні Літвы абапіраўся толькі на сілы Навагародка і саюзнага з ім Пінска. Паказальна, што У.Пашута ў сваёй кнізе не прывёў гэтага летапіснага сведчання. Тое ж самае мы бачым і ў сучаснага даследчыка Э.Гудавічуса, які, робячы мантаж з летапісных звестак 1263 - 1265 гг., не ўключыў у яго ўпомненага паведамлення[309]. У дадзеным выпадку важна ўжо не тое, што паказваецца, а тое, што замоўчваецца. Замоўчваецца ж галоўнае: Войшалк заваёўваў Літву і іншыя балцкія землі з Навагародка сіламі пінянаў і навагародцаў. Такім чынам, тое, што было крыху зацемнена ў дачыненні заваёвы Міндоўгам Літвы з Навагародка, тут, у дачыненні Войшалка, ужо выступае адкрытым тэкстам. Тым не менш нельга адкідваць і прыведзенае вышэй сведчан-

не Наўгародскага I летапісу, бо яно можа высветліць тое, што і Міндоўг гэтак жа заваёўваў Літву, як і Войшалк. Сапраўды, воямі Міндоўга маглі быць толькі новагародцы, а яго прыяцелямі таксама піняне. Што Міндоўг меў дачыненне да Пінска, красамоўна сведчыць тое, што ў гэтым горадзе была вуліца Міндоўга, а недалёка ад яго курган Міндоўга (Поболь Л. Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Мн., 1979. С. 112). Як сведчыць далей летапіс, «Литва же вся прияше и с радостью своего господитича»[310], г. зн. прыхільна сустрэла Войшалка як свайго законнага гаспадара. На гэта і разлічвалі новагародскія феадалы, калі бралі Войшалка сваім князем. Але, відаць, прыязна ставіліся да Войшалка толькі ў «Літве Міндоўга», тым часам як астатняя Літва аказала супраціўленне Войшалку. У летапісе пад 1264 г. чытаем: «Воишелк же нача княжити во всей земле Литовской и поча вороги свои убивати, изби их бессчисленное множество, а друзии разбегошося камо кто видя»[311]. Характэрна, што і гэта месца апусціў Э. Гудавічус, а У. Пашута далучыў яго да заваявання Войшалкам Нальшчанаў і Дзяволтвы. Усё гэта сведчыць пра тое, што Войшалку супраціўляліся літоўскія феадалы, што яны былі галоўнымі ворагамі ўтварэння ВКЛ і што Войшалк, будучы праваднікам палітыкі новагародскіх феадалаў, жорстка расправіўся з літоўскімі феадаламі, большасць якіх была знішчана, а частка разбеглася.

Але моцы Новагародка і Пінска хапіла Войшалку толькі для заваявання Літвы. Бачачы гэта, ён зноў пайшоў на саюз з галіцка-валынскімі князямі. Магчыма, ён бярог уласныя сілы і хацеў грэбці жар чужымі рукамі. Войшалку нялёгка было ўвайсці зноў у давер да галіцка-валынскіх князёў, і ён сыграў на іх слабай струнцы — імкненні валодаць Новагародскай зямлёй і Літвой.

Войшалк прызнаў вярхоўную ўладу над сабой князя Васілька, якога «нарекл отцом себя и господина»[312]. Аддаўся менавіта пад уладу Васілька, а не галіцкага князя Льва Войшалк таму, што першы з іх быў ужо старым чалавекам і са смерцю яго траціў усялякую сілу заключаны з ім саюз. Пасля гэтага Войшалк атрымаў ад галіцка-валынскіх князёў вайсковую дапамогу для заваявання іншых балцка-літоўскіх земляў. Няма чаго казаць, што яны дзейнічалі недальнабачна, трацячы свае

сілы на заваяванне таго, што ім не магло належаць. Галіцка-Валынская зямля і без таго была аслаблена залежнасцю ад татараў, пасля смерці Данілы Галіцкага ўжо абазначыўся яе распад. Вось чаму так смела пайшоў Войшалк на знешняе падначаленне яе князям.

Атрымаўшы дапамогу Шварна і Васілька, Войшалк не менш жорстка расправіўся з феадаламі Дзяволтвы і Нальшчанаў і, далучыўшы гэтыя вобласці да сваіх уладанняў, вярнуўся «восвояси»[313], г. зн. у Навагародак. Такім чынам, утварэнне ВКЛ суправаджалася амаль пагалоўным вынішчэннем феадалаў балцка-літоўскіх земляў. Усё гэта лішні раз пярэчыць тым сцверджанням, што ўтварэнне гэтай дзяржавы вызначалася інтарэсамі літоўскіх феадалаў.

Усе гэтыя відавочныя факты поўнасцю адхіляюць канцэпцыю А. Краўцэвіча, выкладзеную ім у кнізе «Стварэнне ВКЛ» (Мн., 1998), паводле якой гэта дзяржава ўзнікла ў выніку мірнага саюзу славянскіх і балцкіх земляў.

Нельга пагадзіцца і з тым, што «Войшалк не рабіў замаху на язычніцтва ў Літве»[314]. Галоўнай мэтай пасля заваявання Літвы Войшалк лічыў хрышчэнне яе. Для таго і быў заснаваны ім Лаўрышаўскі манастыр. Але, відаць, магчымасцей гэтага апошняга дзеля хрышчэння Літвы было недастаткова. Таму Войшалк у 1265 г. увайшоў у зносіны з пскоўскім князем, які абяцаў яму прыслаць святароў з Пскова, бо яны больш за іншых знаёмыя з мовай і звычаямі Літвы[315]. Войшалк, вядома, не атрымаў іх, бо ў 1266 г. пскоўскім князем стаў Даўмонт, былы нальшчанскі князь, які ўцёк у Пскоў, ратуючыся ад Войшалка. Вось чаму хрышчэнне Літвы ці, магчыма, нейкай часткі яе зацягнулася да 1405 г., калі толькі верыць Т. Нарбуту, звесткі якога не заўсёды вызначаюцца праўдзівасцю.

Захоп Навагародкам Літвы, Нальшчанаў і Дзяволтвы быў адначасова і ўдарам па Полацку, які пасля страты Ніжняга Падзвіння страціў і сваю апору ў гэтых землях. Каб карыстацца і ў далейшым матэрыяльнымі рэсурсамі і вайсковай сілай літоўска-балцкіх земляў, Полацк павінен быў прызнаць волю Навагародка. У гэтым і заключаўся стратэгічны план Войшалка. Падначаленне Полацка Навагародку, відаць, адбылося ў 1265 г. Грамата полацкага князя Гердзеня, напісаная 22 снежня 1264 г.[316], не гаворыць пра залежнасць Полацка і Віцебска

*Грамата князя Гердзеня 1264 г. Пачатак граматы*

ад Войшалка. Затое грамата полацкага князя Ізяслава, напісаная крыху пазней, ужо сведчыць пра гэта. У ёй сказана, што гэты князь знаходзіўся «у волі боскай і Вайшэлгова»[317].

Летапісныя крыніцы нічога не гаворацць пра тое, ці заваяваў Войшалк Жамойцію. Магчыма, каб ажыццявіць гэту мэту, дзеля чаго патрэбна была новая дапамога галіцка-валынскіх князёў, ён аддаў сваё княства Шварну, а сам зноў пайшоў у Галіцкую зямлю. Цікава падкрэсліць, што ў 1254 г. Войшалк не пажадаў аддаць княства яму, бо асцерагаўся, што, жанаты з яго сястрой, той будзе мець законныя правы на яго ўладанне. Зараз жа ён не баяўся гэтага, бо Шварн не меў дзяцей, значыць, у выпадку яго смерці княства не пераходзіла ў спадчыну яго нашчадкам. Перадача гэта не спадабалася брату Шварна — галіцкаму князю Льву Данілавічу, які хацеў сам валодаць Новагародскай і Літоўскай землямі, злучанымі зараз у адзінае цэлае. Вось чаму гэты князь і забіў Войшалка, «завистью оже бяшеть дал землю Литовськую брату его Шварнови»[318]. Аднак, паводле іншых крыніц, што, магчыма, болей праўдзіва, Шварн памёр раней за Войшалка, і апошні зноў вярнуўся ў сваё княства. Пасля ён прыехаў на перагаворы з

Львом Данілавічам, які лічыў Літоўскае княства сваёй спадчынай пасля смерці брата Шварна. Войшалк не згадзіўся на прэтэнзіі Льва і за гэта быў забіты[319]. Але запозненая помста Льва не дала ніякіх вынікаў для яго. Вялікім князем літоўскім стаў Трайдзень, які працягваў палітыку Войшалка.

Аб'яднанне Войшалкам Навагародскай, Пінскай, Літоўскай, Нальшчанскай, Дзевалтоўскай і Полацка-Віцебскай земляў у адзіную дзяржаву было фактычна трывалым пачаткам утварэння ВКЛ. У гэтым і заключалася важнейшая гістарычная заслуга Войшалка. Але калі далучэнне балцкіх земляў Літвы, Нальшчанаў і Дзяволтвы да Навагародка было гвалтоўным, то далучэнне Пінска, Полацка і Віцебска праходзіла добраахвотна. Гэтаксама пазней да ВКЛ далучаліся і іншыя беларускія вобласці. Такое аб'яднанне было вынікам гістарычнага працэсу эканамічнага, палітычнага і культурнага збліжэння беларускіх земляў у басейнах рэк Дзвіны, Дняпра, Нёмана, на аснове чаго ішло фарміраванне тэрыторыі Беларусі. Вырашальную аб'яднаўчую ролю ў складванні і пачатковай гісторыі ВКЛ меў найперш Навагародак. Нездарма ж і герб гэтага горада — коннік з мячом у руцэ — стаў дзяржаўным гербам ВКЛ[320]. І хаця пазней, у пачатку XIV ст., Навагародак страціў сваё цэнтральнае значэнне, аднак яшчэ доўга жыла памяць аб ім як сталіцы. Вось чаму ў летапісах XVI ст. яшчэ гаворыцца аб «Новогородской державе, над Немном лежачее»[321], якая прасціралася «ад Вилии аж до жродел Неменовых, где ся за Копылем пять миль починается»[322].

Уласна літоўскія (у сучасным значэнні гэтага слов) землі ў гэтай дзяржаве займалі толькі дзесятую частку тэрыторыі, і з прычыны гэтага яны, вядома, не маглі мець дамінуючага значэння. Звычайна ў старой гістарыяграфіі факт пашырэння ў ВКЛ славянскай мовы, культуры тлумачыўся тым, што, маўляў, літоўскія князі заваявалі славянскую тэрыторыю і таму, каб кіраваць такім вялізным абшарам, павінны былі прыняць славянскую мову і культуру як пануючыя ў дзяржаве. Як мы бачылі, ніякага літоўскага заваявання нават у самым пачатку гісторыі ВКЛ не было. Славянскі характар ВКЛ быў ужо прадвызначаны, як мы бачылі, пры ўтварэнні гэтай дзяржавы ў сярэдзіне XIII ст.

Падсумоўваючы ўсё сказанае, мы прыходзім да наступных высноў.

Ніводная гістарычная крыніца не пацвярджае літоўскага заваявання Чорнай Русі і іншых беларускіх земляў, што нібыта і паклала пачатак утварэнню ВКЛ. Такое сцверджанне ўзнікла, з аднаго боку, у Маскоўскай дзяржаве, якая прэтэндавала на захоп беларускіх і ўкраінскіх земляў, якія нібыта былі захоплены літоўскімі князямі. З другога боку, жамойцкія вярхі, каб узвысіць сваё становішча ў ВКЛ, сталі прыпісваць сваім князям захоп славянскіх земляў і тым самым утварэнне ВКЛ. Гэтая версія цераз «Хроніку» М. Стрыйкоўскага перайшла ў многія кнігі па гісторыі, пазней была некрытычна прынята шмат якімі даследчыкамі і, стаўшы традыцыйнай, доўгі час не пераглядалася.

Значнай перашкодай для аб'ектыўнага асвятлення працэсу ўтварэння ВКЛ з'яўляецца атаясамліванне летапіснай Літвы з усходняй часткай сучаснай Літвы. Аднак гістарычныя сведчанні і тапаніміка паказваюць, што пад уласна Літвой у XI—XIII стст. разумелася тэрыторыя Верхняга Панямоння, якая знаходзілася паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Новагародскай землямі і якая побач з імі з'яўлялася адной з гістарычных абласцей Беларусі. Менавіта яна была далучана да Навагародка спачатку ў 50-х гадах XIII ст. літоўскім перабежчыкам Міндоўгам, а пасля ў 60-х гадах XIII ст. канчаткова яго сынам Войшалкам. Гэта было першым звяном у пашырэнні ўлады Навагародка, які дасягнуў к таму часу значнага эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця, на іншыя беларускія і балцка-літоўскія землі. Толькі гэтым і можна вытлумачыць, чаму Навагародак стаў першай сталіцай ВКЛ. Адсюль, з Беларускага Панямоння, дзе знаходзілася летапісная Літва, пайшла назва новай дзяржавы як Літоўскай. Трэба таксама памятаць, што першая яе сталіца — Навагародак быў заснаваны князем Яраславам Мудрым пасля заваявання ім у 1044 г. Літвы, г. зн. на яе тэрыторыі, і таму па традыцыі лічыўся літоўскім горадам. У свой час М. Надзеждзін вельмі трапна адзначыў, што перамагла не Літва, а імя Літвы[323]. А такія выпадкі ў гісторыі не рэдкія, што было бачна на прыкладзе Прусіі.

Тое, што ўтварэнне ВКЛ суправаджалася заваяваннем балцка-літоўскіх земляў (Літвы, Нальшчанаў, Дзяволтвы), знішчэннем і выгнаннем іх феадалаў, адхіляе пашыранае ў навуцы сцверджанне, што ўзнікненне гэтай дзяржавы дыктава-

лася інтарэсамі літоўскіх феадалаў. Цікава, што Э. Гудавічус у сваім артыкуле пра маю кнігу «Па слядах аднаго міфа», змешчаным у некалькіх нумарах часопіса «Voruta» за 1994 г., сцвярждае, што я пад міфам разумею тое, што ў той час сучасная Літва таксама называлася Літвой. Гэта пытанне я закранаў па ходу майго даследавання, аднак галоўная мая ўвага была ўдзелена выкрыццю міфа аб літоўскім заваяванні Беларусі. І зрабіў указаную падмену Э. Гудавічус невыпадкова. Аспрэчваючы мой тэзіс аб адсутнасці літоўскага заваявання, ён павінен быў бы прывесці факты яго, а іх то і няма. І таму Э. Гудавічус і рашыў замаўчаць гэта пытанне. Паколькі ўтварэнне ВКЛ было найперш вынікам эканамічнага, палітычнага і культурна-этнічнага збліжэння і аб'яднання беларускіх земляў, то гэты гістарычны працэс быў у інтарэсах беларускіх феадалаў. Таму становіцца зразумелым, чаму ў ВКЛ пануючае месца заняла беларуская культура і дзяржаўнай стала беларуская мова. Усё адзначанае поўнасцю адхіляе вельмі пашыраны ў навуковай літаратуры тэзіс аб уваходжанні Беларусі ў склад ВКЛ. Нічога падобнага не было, бо менавіта адна з тэрыторый Беларусі — Верхняе Панямонне — і была ядром утварэння ВКЛ.

## ЧАС ТРАЙДЗЕНЯ



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Трайдзень. З гравюры XVI ст.*

Недастатковая інфармацыя крыніц да канца XIII ст. дала глебу для з'яўлення вельмі супярэчлівых сцвярджанняў аб сутнасці і характары паасобных падзей у гэтай новай дзяржаве. Найперш нам нічога не вядома пра час у прамежку 1268—1270 гг. паміж амаль адначасовай смерцю Войшалка і Шварна і ўкняжэннем Трайдзеня. Б. Антановіч лічыў, што гэты час быў запоўнены барацьбой літоўска-язычніц-

кага элемента з руска-хрысціянскім і перамогай першага над другім, улада якога працягвалася звыш 20 гадоў[324]. Аднак гэтая думка грунтуецца на непаразуменні. Справа ў тым, што мы фактычна не ведаем, адкуль узяўся Трайдзень, ці паходзіў ён з роду Міндоўга, ці належаў да іншага роду. Праўда, у «Хронікі Быхаўца», як і ў іншых беларускіх летапісах XVI ст., ён і лічыцца сынам вялікага князя Рамана, ці Ромунта, які ў сваю чаргу нібыта быў сынам вялікага князя Гілігіна[325]. Аднак у гэтых крыніцах гісторыя Трайдзеня вельмі заблытаная і ўяўляе сабой «сумесь падзей, якія адбываліся ў розныя часы, і ўласных домыслаў складальнікаў летапісаў»[326]. І ўсё ж некаторыя з іх заслугоўваюць таго, каб іх адзначыць. Гэта найперш тое, што Трайдзень да таго, як стаў вялікім князем у Новагародку, быў пастаўлены сваім старэйшым братам Нарымонтам князем у яцвягаў, якія страцілі к гэтаму часу сваіх князёў і лёгка паддаліся яго ўладзе. Трайдзень, стаўшы вялікім князем яцвяжскім і дайноўскім, збудаваў над р. Бобр горад, які назваў Райгорадам[327]. Найперш гэта можа быць сведчаннем таго, што ўжо ў 60-я гг. XIII ст. да Новагародка была далучана частка яцвягаў, якія жылі па р. Бобр, а гэта значыць, што новая дзяржава пашыралася і на захад, што ў далейшым і прывяло да сутычак з польскімі князямі. Па-другое, тое, што Трайдзеню прыпісваецца заснаванне горада з яскрава славянскай назвай, побач з іншым, аб чым мы будзем гаварыць ніжэй, абвяргае сцверджанне, што Трайдзень быў літоўцам і язычнікам і што, наогул, укняжэнне яго азначала перавагу літоўска-язычніцкага пачатку ў новай дзяржаве, што было рэакцыяй на ранейшую перавагу руска-хрысціянскага пачатку. Трэба зазначыць, што імя «Трайдэн», з якім гэты князь фігуруе ў навуковай літаратуры і якое ў немалой ступені дае нам уяўленне аб ім як літоўцу, не адпавядае крыніцам, дзе гэтае імя мае розныя формы (Тройдзень, Троидень, Troidzien, Траждень), але сярод іх няма формы «Трайдэн»[328]. А ўсё гэта таксама сведчыла аб славянскім паходжанні Трайдзеня. Дарэчы тут нагадаць, што гэты князь у некаторых беларускіх летапісах лічыцца сынам вялікага князя Рамана. Сапраўды, прыкладна з 1254 па 1258 г. новагародскім князем быў Раман, але ён з'яўляўся сынам галіцкага князя Данілы, а не міфічнага Гілігіна, аб чым ужо гаварылася вышэй.

У язычніцтва Трайдзеня таксама цяжка паверыць, калі ўлічыць, што ўсе яго браты Борза, Сірпуцый, Лесій і Свелкеній

(усе імёны славянскія) былі хрысціянамі[329]. У. Пашута не меў рацыі, калі лічыў, што адмоўная характарыстыка Трайдзеня як язычніка, які па сваёй жорсткасці параўноўваўся з такімі біблейскімі асобамі, як Антыох, Ірад і Нерон, узята з «Літоўскага летапісу», аўтар якога быў нібыта незадаволены ўсталяваннем у Новагародскай дзяржаве ўлады язычніка Трайдзеня[330]. Усё, як убачым далей, было наадварот. Асабліва незадаволенымі Трайдзенем былі галіцка-валынскія князі, якія шмат ваявалі з ім, і таму іх летапісец і даў яму такую зневажальную характарыстыку. Менавіта так і растлумачыў гэта пазнейшы летапісец, адзначаючы, што Трайдзень атрымаў такое непаважлівае параўнанне з лютымі людзьмі, што быў «окрутный и валечный» (ваяўнічы)[331]. Зазначым, што ў тыя часы было звычаем сваіх ворагаў называць беззаконнымі, паганымі, нехрышчонымі, язычнікамі незалежна ад таго, былі ці не былі яны такімі. Напрыклад, Пскоўскі летапіс паганымі называў нямецкіх крыжакоў і ўсіх лацінянаў[332].

Усё сказанае дае падставу меркаваць, што з Трайдзенем у Новагародскай дзяржаве запанавала новая княская дынастыя, якая ў адрозненне ад папярэдняй Міндоўгавай была славянскага паходжання. І гэта заканамерна. Цяпер, калі Літва была заваявана і супраціўленне яе феадалаў было канчаткова зломлена Войшалкам, Новагародку не было больш патрэбы ў князях літоўскага паходжання. Цяпер можна было мець свайго князя, і ім стаў Трайдзень.

У крыніцах зусім мала звестак аб унутранай палітыцы Трайдзеня. Але і тое, што ёсць, паказвае, што ён, як і Войшалк, клапаціўся аб далейшым унутраным умацаванні Новагародскай дзяржавы. Калі Літва змірылася са сваім падначаленым становішчам, то гэтага, відаць, не было ў іншых балцкіх землях, заваяваных Войшалкам, у прыватнасці ў Нальшчанах, дзе ўслед за Войшалкам Трайдзень працягваў руйнаваць апорныя пункты праціўнікаў адзінства дзяржавы. Калі ад Войшалка ўцёк князь Даўмонт у Пскоў, то ад Трайдзеня — буйны феадал Суксе ў Рыгу. Канчатковае падначаленне Нальшчанаў асабліва было важна для дзяржавы, бо іх тэрыторыя адгароджвала астатнія балцка-літоўскія землі ад Новагародка і Полацка. Такім чынам, па-ранейшаму супраціўленне дзяржаўнай уладзе адбываецца з боку феадалаў балцкіх земляў, тым часам

як гэта не заўважаецца з боку феадалаў беларускіх земляў. Усё гэта яшчэ раз пацвярджае, што і Трайдзень дзейнічаў у інтарэсах апошніх.

Зусім беспадстаўнай з'яўляецца думка У. Пашуты, што «палітыка ўрада Трайдзеня ў паўднёва-заходняй Русі была накіравана на захоп і ўтрыманне Чорнай Русі» і што «яго ўлада пашыралася на Гродна і амаль на ўсю Чорную Русь». Як бачым, тут Чорная Русь выступае не цэнтральнай дамінуючай часткай дзяржавы, а залежнай ад Аўкштайціі (усходняй часткі сучаснай Літвы), выразнікам інтарэсаў феадалаў якой і паказаны Трайдзень[333]. Як мы ўжо ведаем, усё было наадварот. Невядома, адкуль даследчыкам узята, што Чорная Русь была заваявана, як можна зразумець, галіцка-валынскімі князямі. Перадача Войшалкам княжання Шварну — сыну Данілы Галіцкага — ніколькі не азначала гэтага, бо ў такім выпадку яна не выклікала б такой бурнай адмоўнай рэакцыі ў галіцкага князя Льва Данілавіча, які і забіў за гэты ўчынак Войшалка. Чорная Русь заставалася па-ранейшаму свабоднай ад заваявання краінай, тэрыторыя якой з'яўлялася дамінуючай у дзяржаве. Доказам асаблівых клопатаў Трайдзеня аб ёй можа быць факт насялення ім тут беглых прусаў і борцяў, якія ўцякалі з Памор'я ад нямецкага наступлення. Гэтым самым ён павялічваў насельніцтва гэтай зямлі, а разам з тым і рост яе прадукцыйных сіл і асабліва, як убачым далей, абароназдольнасці.

Незразумела таксама, чаму У. Пашута лічыў, што сталіцай Трайдзеня ў 70-х гг. XIII ст. быў Кернаў[334]. Тое, што, паводле Лівонскай Рыфмаванай хронікі, Кернаў у 1273—1279 гг. упамінаецца як горад, што ляжаў у зямлі Трайдзеня[335], яшчэ не характарызуе яго як сталіцу. Сам жа У. Пашута, гаворачы аб падзеях 70-х гг. XIII ст., зазначыў, што ў іх «Новагародак выяўляецца для данай пары як асноўны цэнтр літоўскай улады»[336]. З разгледжанага вышэй відаць, што і раней, і тым больш пры Трайдзені ніякай літоўскай улады ў Новагародку не было і не магло быць.

Значна больш засталося ў крыніцах сведчанняў пра знешнія абставіны дзяржаўнага жыцця Новагародка ў гэты час. Паколькі Новагародская зямля была ядром, а гэта значыць і дамінуючай часткай дзяржавы, то натуральна, што і знешняя палітыка мела перш за ўсё на мэце абарону тэрытарыяльных




*Зброя ахоўная і баявая ў XII—XIII стст. на Навагародскай зямлі: 1 — панцыр з металічных пласткоў на скураной падаснове (спроба рэканструкцыі), 2 — шалом, 3 — тарча нарманскага тыпу, 4 — меч і похва, 5 — сякера-чакан, 6 — булава, 7 — лук і стрэлы, 8 — дзіды розных тыпаў.*

*Малюнак В. Сташчанюка*

інтарэсаў Новагародка. Гэта тым больш зразумела, што як і пры ўтварэнні ВКЛ, так і цяпер галоўнымі праціўнікамі яго засталіся галіцка-валынскія князі. Таму і барацьба з імі складала галоўны змест вайсковай дзейнасці Трайдзеня.

Паколькі першае паведамленне аб пачатку яго княжання ў Галіцка-Валынскім летапісе з'явілася пад 1270 г. і тут жа дадзена вядомая ўжо нам зласлівая характарыстыка Трайдзеня[337], то можна думаць, што ўжо раней, не будучы вялікім князем, ён вёў барацьбу з галіцка-валынскімі князямі. І сапраўды, з паведамлення гэтай самай крыніцы пад 1274 г. мы даведваемся, што ў войнах з валынскім князем Васількам (ён памёр у 1271 г.) загінулі тры браты Трайдзеня[338]. Менавіта гэтым летапісец і тлумачыў, чаму Трайдзень не хацеў мірыцца з валынскім князем Уладзімірам, бацька якога забіў яго трох бра-

тоў. Зразумела, што ўказаная летапісцам прычына гэтай барацьбы не галоўная. Большае значэнне мела тое, што Валынская зямля знаходзілася бліжэй да Новагародскай, і таму аслабленне яе шляхам частых нападаў на яе невялікімі атрадамі было найбольш важным для Трайдзеня. А каб вынікі гэтай барацьбы былі больш паспяховымі, ён жыў у вялікай згодзе з галіцкім князем Львом, перасылаючыся з ім дарамі і гэтым самым раз'ядноўваючы адзінства Валынска-Галіцкай зямлі. Аднак гэта цягнулася нядоўга. Трайдзень, «забыўшы любоў Львову», парушыў мір з апошнім, напаўшы ў 1274 г. на Вялікдзень сіламі гараднянаў на Драгічын, знішчыўшы шмат яго жыхароў «от велика до мала»[339]. Летапісец тут упамінае нейкага Трада, які добра ведаў Драгічын і як лепш яго захапіць. Магчыма, што гэта быў галіцкі перабежчык, пакрыўджаны на радзіме, за што і адпомсціў ёй. Вядома, тут ідзе гаворка пра Драгічын на Падлессі. Вось з-за гэтай вобласці і разгарэлася цяпер барацьба паміж Трайдзенем і Львом Галіцкім. Відаць, апошні і ператварыў Драгічын у апорны пункт для ўмацавання ў Падлессі. Становіцца зразумелым, чаму Трайдзень менавіта гараднянаў паслаў на Драгічын. Бо гэта было найперш у інтарэсах Горадзенскага (Гродзенскага) княства, якое непасрэдна межавалася з Падлессем і ў валоданні якім яно было найперш зацікаўлена. І вось тут напрошваецца адно меркаванне: а ці не быў Трайдзень да таго, як стаць вялікім князем, князем у Горадне. На гэтую думку наводзіць тое, што, як адзначалася вышэй, у беларускіх летапісах XVI ст. ён паказваўся яцвяжскім князем. А ім лягчэй за ўсё было стаць з Горадна. Таму не выключана, што, калі Трайдзень стаў вялікім князем, яго месца ў Горадне заняў брат Сірпуцый. Што Горадзен быў прадметам асаблівых клопатаў Трайдзеня, гаворыць і тое, што ён сяліў у гэтым горадзе беглых прусаў. І ўсё гэта невыпадкова. Велікакняскае становішча не здымала з Трайдзеня клопатаў аб сваёй вотчыне.

Але напад гараднянаў на Драгічын выклікаў выключна жорсткую помсту Льва Данілавіча. Ён звярнуўся па дапамогу да татарскага хана Менгуцімера, які не адмовіў яму ў гэтым, што і зразумела, бо татарам адкрывалася тым самым магчымасць яшчэ раз пасля нападу Бурундая ў 1258 г. парабаваць, а то і заняволіць адну з беларускіх земляў, што адзіныя ва ўсёй

Усходняй Еўропе былі свабодныя ад іх ярма. Даўшы Льву раць на чале з ваяводам Ягурчынам, Менгуцімер адначасова прымусіў ісці залежных ад яго рускіх князёў, з якіх у летапісе адзначаны Раман Дабраньскі, Алег і Глеб Смаленскія. Апроч таго, разам з галіцка-валынскімі князямі ішлі пінскія і тураўскія князі. Як бачым, нягледзячы на ўмацаванне сувязяў Пінска і Турава з Новагародкам, яны па-ранейшаму адчувалі моцны ціск галіцка-валынскіх князёў, з'яўляючыся для іх плацдармам для непасрэднага нападу на Новагародскую дзяржаву, паколькі шлях іх ішоў «мимо Турова к Случку»[440]. Тут яны, злучыўшыся з татарамі, пайшлі на Новагародак. Вельмі паказальна, што за напад на Драгічын цярпелі не гарадняне, якія непасрэдна ажыццяўлялі яго, а Новагародак. Гэта яскравае сведчанне таго, што Горадзен знаходзіўся пад уладай Новагародка, адкуль і ішла ініцыятыва нападу на Драгічын, што добра разумелі галіцка-валынскія князі і таму накіравалі свой удар супроць Новагародка.

Трэба зазначыць, што гэтая падзея досыць падрабязна асветлена летапісцам. Так, мы даведваемся, што, злучыўшыся каля Слуцка, рускія і татарскія войскі спешна пайшлі да Новагародка. Не дайшоўшы да р. Сэрвеч, спыніліся на ноч. А назаўтра, рана ўстаўшы, перайшлі раку і рашылі чакаць світання. Калі стала ўзыходзіць сонца, пачалі строіцца палкі і ісці да Новагародка. Татары знаходзіліся на правым флангу, побач з імі ішоў Леў са сваім войскам, а на левым флангу рухаўся Уладзімір са сваім валынскім войскам. Аднак татары ў скорым часе прыслалі да Льва і Уладзіміра сваіх ганцоў, якія паведамілі, што за бліжэйшаю гарой ужо стаіць войска праціўніка і пара ідзе з яго коней. Аднак калі паслалі людзей разведаць, то тыя ўбачылі, што ніякага войска там не было і што пара ішла з крыніц, якія цяклі з гары і выдзялялі пару на вялікім марозе (як бачым, паход адбываўся зімой). Пасля гэтага замяшання войскі падышлі да горада і сталі каля яго. Далей летапісец зазначыў, што не ўсе войскі тут былі. Так, Мсціслаў ад Копыля павярнуў на Палессе, якое ваяваў. Гэты факт дае падставу меркаваць, што частка Палесся была ўжо пад уладаю Новагародка. Не было тут і задняпроўскіх князёў. І толькі адзін Алег (сын Рамана Дабраньскага) прыйшоў да татараў, а яны вельмі яго чакалі. І вось у гэты час Леў, утаіўшыся ад сваіх



*Інтэр'ер дома з фрэскамі ў старажытным Навагародку (XII ст.). Рэканструкцыя В. Сташчанюка паводле матэрыялаў Ф. Гурэвіч. 1990 г.*

стрыечных братоў — валынскіх князёў Уладзіміра і Мсціслава, — першым з татарамі напаў на Навагародак і захапіў яго акольны горад, а назаўтра і дзяцінец. Няма чаго казаць, што абрабаванне было галоўнай мэтай нападнікаў, і таму зразумела, што Леў і татары, першымі ўварваўшыся ў Навагародак, як мы ўжо ведаем, вельмі багаты горад, мелі найбольшую здабычу і мала альбо нічога не пакінулі іншым саюзнікам, чым і выклікалі іх вялікі гнеў. А гэта і расстроіла далейшыя планы ўдзельнікаў паходаў. Раней было дамоўлена, што, узяўшы Навагародак, яны пойдуць на Літву[341]. На гэта апошняе трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Між іншым, А.Краўцэвіч у сваёй кнізе гаворыць, што гэта летапіснае паведамленне абвяргае маё сцверджанне аб знаходжанні Старажытнай Літвы ў Верхнім Панямонні. Маўляў, галіцкія войскі і татары прайшлі праз тую тэрыторыю, якую я паказваю як Літву, да Навагародка, а пасля сабраліся ісці на Літву. Аднак ён не звяртае ўвагі на тое, чаму галіцка-валынскія князі, просячы дапамогі ў татараў для паходу на Літву, ідуць на Навагародак. А гэта значыць, што іх шлях ішоў праз Літву. Што тут яна знаходзілася, яскрава сведчыць тое, што каля р. Сэрвеч, дзе заначавалі рускія і татарскія войскі, знаходзіцца тапонім «Літоўшчына». Гэтак жа і

ў 1254 г. галіцкія войскі ішлі тым жа шляхам, а менавіта на Літву, на Навагародак.

Руска-татарскі паход 1274 г. быў цяжкім ударам для Навагародскай дзяржавы і найперш яе сталіцы. Але ён не дасягнуў сваёй мэты: поўнага абрабавання ўсяго Верхняга Панямоння, прычынай чаго была варожасць паміж галіцка-валынскімі князямі. Як мы ведаем, гэты паход быў карай за захоп Драгічына. На жаль, летапіс не паведамляе нам аб тым, ці быў вернуты гэты горад галіцкаму князю. Беручы пад увагу, што ў далейшым усё Падлессе ўвайшло ў склад ВКЛ, можна думаць, што Драгічын не быў вернуты Льву Данілавічу.

Частковая няўдача паходу 1274 г. не стрымала і галіцкіх і валынскіх князёў ад варожых дзеянняў супроць Навагародка. У 1276 г. Уладзімір Валынскі ў саюзе з Львом Галіцкім пасылае сваё войска да Слоніма, бярэ яго, каб, як сказана ў летапісе, новагародскія князі «их земле не подседале»[342]. З гэтага можна зразумець, што Слонім у той час быў важным умацаваным фарпостам, адкуль непасрэдна наносіліся ўдары Валынскай зямлі. На жаль, з летапісу нельга зразумець, як доўга знаходзіўся гэты горад у валынскіх руках.

Трайдзень у адказ на захопніцкія дзеянні паслаў свайго брата Сірпуцыя (ён хутчэй за ўсё сядзеў у Горадне, а не ў Навагародку, як лічыў У. Пашута[343], бо апошні быў рэзідэнцыяй самога Трайдзеня) на Валынь ваяваць каля Каменя[344]. У сваю чаргу Уладзімір Валынскі захапіў Турыйск на Нёмане. Цяжка сказаць, дзе знаходзіўся гэты горад, магчыма, і на месцы сучаснай в.Турэц (Карэліцкі р-н). Але ўжо тое, што валынскія войскі дайшлі да Нёмана, гаворыць аб іх глыбокім пранікненні ў Навагародскую зямлю і фактычна ператварэнні яе ў становішча франтавой паласы.

Што гэта так, паказалі падзеі 1277 г., калі пасля кароткага замірэння з валынскім князем на Навагародак зноў насунулася грозная небяспека. Разумеючы, што сваімі сіламі ім не ўдасца знішчыць Навагародак, яны працягвалі нацкоўваць на яго татараў. І гэтыя захады не прайшлі марна, тым больш што і татары не змірыліся з фактам існавання дзяржавы, свабоднай ад іх панавання. І вось татарскі хан Нагай паведаміў праз сваіх паслоў галіцка-валынскім князям Льву, Мсціславу і Уладзіміру, што ён пасылае ім сваё войска на чале з ваяводам Мамшэ-

ем у дапамогу ім ісці «на вороги свое». Аб'яднанае войска пайшло на Новагародак. Але калі ў 1274 г. яно ішло з паўднёвага ўсходу, праз Тураў і Слуцк, то цяпер рухалася з паўднёвага захаду, праз Берасце. Цяжка сказаць, якой дарогай ішло татарскае войска, бо яго разам з галіцка-валынскімі князямі не было. Менавіта ў Берасці апошнія даведаліся, што татары іх «попередили», увайшлі ў Новагародк і «извоевали всё», г. зн. абрабавалі яго і нанеслі яму шмат разбурэнняў. Галіцка-валынскія князі, убачыўшы, што ў Новагародку ім пасля татараў ніякай спажывы не будзе, вырашылі змяніць свой кірунак і пайшлі ў Горадзен. Мінуўшы Ваўкавыск, яны спыніліся ў адным месцы на ноч. І вось тут зноў, як і ў 1274 г., яскрава выявіліся супярэчнасці паміж галіцкімі і валынскімі князямі. Як раней Леў, так цяпер яго брат Мсціслаў і сын Юрый таемна ад валынскага князя Уладзіміра паслалі лепшых баяраў і слуг ваяваць у Гародню (так называецца тут Горадзен). Але іх напаткала няўдача. Аднойчы ноччу яны ляглі спаць, не наведаўшы сваё войска. А там варта, страціўшы пільнасць і зняўшы з сябе зброю, не заўважыла, як з войска ўцёк адзін перабежчык, які паведаміў гараднянам, што войска, якое ідзе на яго, знаходзіцца ў бязладдзі. Пачуўшы гэта, гарадняне паслалі прусаў і борцяў (яны год назад уцяклі ад немцаў, былі пасалены тут Трайдзенем і, як бачым, з'яўляліся вайсковай сілай), якія ноччу напалі на варожае войска, адных пабілі, іншых узялі ў палон, у тым ліку і нейкага Цюіма, што ўзначальваў галіцкае войска і быў паранены.

Даведаўшыся пра ўсё гэта ад сына Мсціслава Расціслаўскага, якому ўдалося выратавацца і які прыбег да іх голы і босы, Мсціслаў і Юрый вельмі засмуціліся «за своё безумье». У сваю чаргу Уладзімір Валынскі, даведаўшыся пра таемныя ўчынкі Мсціслава і Юрыя, «начаша собе промышляти о взятьи города», г. зн. Горадна. Для іх больш за ўсё небяспечнай была перад брамай горада высокая каменная абарончая вежа («столб»), у якой заселі прусы (зноў сведчанне выкарыстання іх як вайсковай сілы). Яна зачыняла ўваход у горад варожаму войску, і таму яно прыступіла да ўзяцця гэтай крэпасці, што яму і ўдалося зрабіць. Пасля гэтага гараднянаў ахапіў страх, і яны як бы змярцвелі ад яго. Аднак далей для іх усё складалася больш-менш спрыяльна. Справа ў тым, што галіцка-валынс-

кія князі пачалі прымаць захады, каб вызваліць узятых у палон сваіх баяраў, аднак іх старанні не далі патрэбных вынікаў, і яны былі вымушаны пайсці на перагаворы з гараднянамі. Да згоды прывяла ўмова, што галіцка-валынскія князі не будуць браць горада і адыдуць са сваім войскам, а гарадняне аддадуць ім іх баяраў, што і было зроблена[345].

Падзеі 1277 г. зноў яскрава высветлілі цэнтральнае становішча Новагародка і яго вобласці ў Вялікім княстве.

Гэтым найперш і тлумачыцца, чаму супроць Новагародскай зямлі былі накіраваны паходы галіцка-валынскіх і татарскіх войск. Па ўсім відаць, што мэтай іх тады з'яўлялася не заваяванне, а абрабаванне і тым самым знясіленне гэтай зямлі, што магло прывесці яе ў далейшым да ўпадку, у выніку чаго яна стала б лёгкай здабычай для іх. І хоць гэта апошняе, як убачым далей, не ажыццявілася, вайсковыя ўдары галіцка-валынскіх князёў, асабліва балючыя ў саюзе з татарамі, далі сябе знаць у страце Новагародскай зямлёй свайго цэнтральнага значэння ў дзяржаве. Падзеі 1277 г. зноў пацвердзілі, што Горадзеншчына ўваходзіла ў склад Новагародскай зямлі і што Горадзен пасля Новагародка быў важнейшым горадам у дзяржаве і таму таксама з'яўляўся адным з аб'ектаў галіцка-валынскіх нападаў.

Аднак узаемаадносіны з Галіцка-Валынскай зямлёй былі хоць і галоўнай, але не адзінай знешнепалітычнай праблемай Новагародскай дзяржавы. На захадзе яе інтарэсы сутыкаліся з інтарэсамі Польшчы. І таму зразумела, чаму ў 1278 г., калі не прадбачылася галіцка-валынскае ўварванне ў яго зямлю, Трайдзень робіць паход на ляхаў. Упамінанне (дарэчы, вельмі няяснае) яцвягаў у сувязі з гэтай падзеяй можа пэўным чынам сведчыць, што ў паходзе ўдзельнічалі і яны. Нездарма ж у пазнейшых беларускіх летапісах XVI ст. Трайдзень называўся яцвяжскім князем. Паход Трайдзеня і яго брата Сірпуцыя, накіраваны пад Люблін, прынёс вялікую ўдачу. Гэта перш за ўсё выявілася ва ўзяцці шматлікага палону[346], што і з'яўлялася тады галоўнай мэтай паходу. Трэба было ж кампенсаваць страты, у тым ліку і людскія, нанесеныя ў 1274 і 1277 гг.

Хоць Новагародская зямля і была дамінуючай у дзяржаве і забеспячэнне яе ўнутраных і знешніх інтарэсаў з'яўлялася га-

лоўнай задачай Трайдзеня, аднак пад уладай яе знаходзіліся іншыя землі і іх інтарэсы таксама нельга было ігнараваць, тым больш што ўлада над імі не была яшчэ трывалай, як, напрыклад, у Нальшчанах, дзе прыйшлося распраўляцца з непакорнымі феадаламі. Адзін з іх — Суксе — уцёк у Ордэн, дзе прыняў каталіцтва і скора быў выкарыстаны рыцарамі для барацьбы са сваімі былымі суайчыннікамі. Дзесьці ў прамежку 1272–1274 гг. ён прыняў удзел у паходзе на землі Аўкштайціі і Нальшчанаў, дзе і загінуў[347]. Менавіта крыжацкая агрэсія заставалася галоўнай пагрозай для паўночна-заходніх земляў дзяржавы. Рыцары імкнуліся ўсё глыбей па Дзвіне пранікнуць на ўсход. Асабліва гэта выявілася са збудаваннем імі крэпасці Дынабург (Дзвінск, лат. Даўгаўпілс), у якім засеў моцны гарнізон. Усё гэта не магло не выклікаць рашучых дзеянняў з боку новагародскага ўрада. І вось недзе каля 1277 г., паводле Рыфмаванай хронікі, Трайдзень са сваімі войскамі аблажыў нямецкую крэпасць. Асабліва тут вызначыліся беларускія стралкі (russen Schutzen), якія перабілі многіх рыцараў, што абаранялі крэпасць. Аднак яна была так добра ўмацавана, што аблога, якая цягнулася чатыры тыдні, не была паспяховай, і Трайдзень вымушаны быў адступіць[348]. Забягаючы наперад, зазначым, што пазней, у 1281 г., Трайдзень змог захапіць Герцыге (колішнюю полацкую крэпасць у Ніжнім Падзвінні) і гэтым самым адрэзаў Дынабург ад Лівоніі, што і прымусіла Ордэн абмяняць захопленую ў яго крэпасць на Дынабург. Праўда, у 1313 г. рыцары зноў вярнулі яго сабе. І ўсё ж, нягледзячы на няўдачу, дзеянні Трайдзеня прынеслі немалую шкоду крыжакам, і яны вырашылі адпомсціць яму ўварваннем зімою 1278 г. у сучасныя літоўскія землі. Ім удалося пранікнуць аж да Кернава (на беразе Віліі). Горад крыжакамі не быў узяты, але тэрыторыя вакол яго была страшэнна спустошана. Супраціўлення ніякага не было, і ордэнскія атрады ішлі ад вёскі да вёскі і знішчалі ўсё, што траплялася на іх шляху. З вялікай здабычай у лютым 1279 г. пайшлі крыжакі назад. Але яны не былі пакінуты без пакарання. Мясцовыя насельнікі, сабраўшыся ў вялікае войска і пайшоўшы ўслед за рыцарамі, 5 сакавіка 1279 г. пад Ашэрадэнам нанеслі ім паражэнне. На жаль, гэты поспех не быў замацаваны далейшымі ўдарамі па крыжаках, што і выратавала іх разам ад катастрафічнага разгрому.

Крыніцы ў асноўным данеслі да нас звесткі аб вайсковай дзейнасці Трайдзеня. Але ў іх мы знаходзім і паведамленні, праўда, адзінкавыя і вельмі цьмяныя, пра яго дыпламатычныя захады. Так, можна меркаваць па ўскосных сведчаннях, што ім у прамежку 1273—1278 гг. быў заключаны гандлёвы дагавор з Ордэнам[349]. Вядомы таксама і яго дагавор 1279 г. з плоцкім князем Баляславам, што ўстанавіла мір паміж ім і Мазовіяй і дало магчымасць яму ўзмацніць барацьбу з Ордэнам.

Як бачым, перыяд княжання Трайдзеня (1270—1282) быў часам умацавання Навагародскай дзяржавы, якое праходзіла і ў барацьбе з унутранай рэакцыяй і асабліва ў пераадольванні знешняй пагрозы, якая ішла з поўдня ад галіцка-валынскіх князёў і з захаду — ад Ордэна. Усё гэта і не дало магчымасці Навагародку значна пашырыць тэрыторыю сваёй дзяржавы ў параўнанні з тым, што было зроблена пры Войшалку. Толькі з позняга Васкрасенскага летапісу мы даведваемся, што Трайдзень далучыў да сваіх уладанняў яцвягаў[350]. І гэтаму можна верыць. Далучэнне часткі яцвяжскай тэрыторыі непасрэдна павялічвала тэрыторыю Навагародскай зямлі, забеспячэнне інтарэсаў якой было, як мы бачылі, галоўным клопатам Трайдзеня.

## ЗАНЯПАД НАВАГАРОДКА І НОВАЕ ЎЗВЫШЭННЕ ПОЛАЦКА

У далейшай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, асабліва ў дзесяцігоддзе пасля смерці Трайдзеня, маецца таксама няма-ла цёмных месц. Мы нават не можам упэўнена сказаць, хто змяніў Трайдзеня на велікакняскім пасадзе. У П. Дузбурга пад 1291 г. упамінаецца пра Лютувера, князя літоўскага, як бацьку Віценя[351]. З гэтага можа вынікаць, што ён пасля смерці Трайдзеня стаў вялікім князем. Аднак у Іпацьеўскім летапісе пад 1289 г. паведамляецца: «Тогда же Литовский князь Будикид и брат его Будивид даша князю Мстиславу город свои Волковыеск, абы с ним мир держал»[352]. Дык вось другі з гэтых князёў Будзівід выступае ў некаторых нямецкіх крыніцах пад імем Путувера[353]. У сваю чаргу Лютувера некаторыя нямецкія крыніцы называюць Путуверам[354]. Усё гэта дае пэўную падставу

атаясаміць з Будзівідам Лютувера і лічыць яго побач з Будзікідам вялікім князем, што змяніў Трайдзеня. Нічога нельга сказаць, ці належалі гэтыя князі да яго роду. Бясспрэчна толькі, што як яго, так і іх імёны сведчаць пра іх славянскае паходжанне. Застаецца незразумелым, чаму Ваўкавыск быў уступлены ад імя двух братоў, чым тлумачыцца такі дуумвірат. З-за адсутнасці інфармацыі на гэтыя пытанні немагчыма знайсці адказ.

Больш пэўнае меркаванне можна выказаць пра факт перадачы Ваўкавыска валынскаму князю Мсціславу. Прызначэнне гэтай ахвяры ясна ўказана: для ўстанаўлення мірных адносін з Валынню, якая побач з Галічам была да гэтага часу заўсёдным праціўнікам Новагародка. І што самае важнае, уступка была зроблена за кошт яго зямлі. А гэта ўжо сімптаматычна, бо магло азначаць паступовую страту ёю свайго дамінуючага значэння, што ў далейшым яскрава і выявілася.

Калі Будзікід і Будзівід з'яўляюцца найменш вядомымі нам князямі, то іх наступнік Віцень належыць да ліку самых вядомых і славутых імёнаў у нашай гісторыі. Мы ўжо ведаем, што гаварыў пра яго паходжанне П. Дузбург. Аднак у іншых крыніцах пра гэта гаворыцца інакш. Так, у летапісах XVI ст., прасякнутых ідэяй уславлення жамойцкіх князёў, Віцень таксама адносіцца да іх роду. Тут даводзіцца, што нібыта яго, яшчэ малога, убачыў Трайдзень, праязджаючы праз належачую яму Эйраголу, разгледзеў яго розум і кемлівасць і ўзяў да сябе, дзе ён вызначыўся сваёй рупнасцю, дабрачыннасцю і ўмельствам, за што і быў пастаўлены маршалкам, а пасля смерці свайго патрона заняў яго месца.[355]. Заслугоўвае здзіўлення тое, што ў гэтых летапісах пасля такога дэталёвага апавядання аб перадгісторыі Віценя нічога не гаворыцца пра яго справы як вялікага князя. Тлумачылася гэта тым, што Новагародскі летапіс заканчваўся часам Трайдзеня, і таму складальнікі пазнейшых летапісаў не мелі патрэбных звестак пра Віценя[356]. Але з гэтым нельга пагадзіцца, бо пра Трайдзеня звесткі браліся не з Новагародскага, а з Галіцка-Валынскага летапісу, як і ўсё пра ранейшых вялікіх літоўскіх князёў. Менавіта таму, што апошні летапіс абрываўся 1292 г., г. зн. часам, калі Віцень не быў яшчэ вялікім князем, і тлумачыцца, чаму ў складальнікаў пазней-



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Віцень. З гравюры XVI ст.*

шых летапісаў не было нічога пра Віценя, і яны змаглі выдумаць толькі яго перадгісторыю. Праўда, у Густынскім летапісе, у якім адбіўся і пазнейшы час, мы знаходзім пасобныя звесткі пра Віценя, але яны запазычаны з замежных крыніц. Для складальнікаў летапісаў XVI ст. важней за ўсё было паказаць у інтарэсах тых магнатаў, якія адносілі сябе да роду Калюмнаў, што з гэтага роду паходзіць Віцень і ўсе далейшыя за ім вялікія князі. Выдуманая гісторыя пра паходжанне Віценя і з'явілася падставай для многіх даследчыкаў лічыць яго пачынальнікам новай дынастыі вялікіх літоўскіх князёў. Але ж фактычна новая дынастыя пачыналася з Трайдзеня, і таму невыпадкова складальнікі летапісаў XVI ст. імкнуліся нейкім чынам звязаць з ім і Віценя, толькі прыпісаўшы яму жамойцкае паходжанне.

Зазначым таксама, што ў «Сказании о князьях владимирских», складзеным у першай палове XVI ст. у Маскоўскай дзяржаве, Віцень (яго імя тут «Віцянец») паказаны як адзін са смаленскіх князёў, якому ўдалося выратавацца ад татарскага пагрому і ўцячы ў Жамойцію (так тут называецца Літва)[357]. Беларускія гісторыкі XIX ст. М. Без-Карніловіч[358] і А. Кіркор[359] выказвалі думку, што Віцень, як і Гедзімін, быў сынам полацкага князя Гердзеня. Пры такой разнастайнасці звестак і думак аб паходжанні Віценя зноў-такі вырашальнае значэнне мае яго славянскае імя[360].

У адносінах Віценя, як і Трайдзеня, вельмі мала захавалася сведчанняў пра яго унутраную палітыку. Дарэвалюцыйныя гісторыкі (Б. Антановіч, М. Дашкевіч, М. Любаўскі) супрацьпастаўлялі нібыта літоўска-язычніцкай палітыцы Трайдзеня руска-хрысціянскую палітыку Віценя і Гедзіміна, але і

тыя адзінкавыя факты без ніякага выключэння гавораць, што Віцень, як і ранейшыя князі, змагаўся за ўнутранае ўмацаванне дзяржавы, працiўнікамі чаго былі феадалы балцка-літоўскіх земляў, у прыватнасці Жамойціі. Нямецкія крыніцы захавалі і прозвішча аднаго з заклятых ворагаў Віценя — Пялюзы. Ён як быццам з'яўляўся нават сынам Трайдзеня, скінутым з княскага пасада Лютуверам (па іншых звестках ён быў сынам Даўмонта, што больш верагодна). Пасля гэтага ён у 1286 г. уцёк да крыжакоў і на працягу многіх гадоў рабіў свае разбойніцкія напады на пагранічныя землі былой радзімы. У адзін з такіх набегаў у Нальшчанах ён захапіў і забіў 70 старэйшын, якія сабраліся на вяселле. Важна падкрэсліць, што справа тут не ў асабістых амбіцыях Пялюзы, але, гэта галоўнае, у падтрымцы яго з боку жамойцкіх вярхоў. Яму нават удалося схіліць да здрады трох вайсковых начальнікаў (Драйка, Спуда і Світрыла), якія здалі свае крэпасці крыжаносцам. Толькі ў 1314 г. Пялюза быў захоплены Гедзімінам і пакараны смерцю[361]. Або вось яшчэ больш яскравы факт. У 1294 г. у час нападу крыжакоў на Жамойцію яе старэйшыны схілялі народ да саюзу з немцамі і паднялі паўстанне супраць Віценя. Хоць яно і было задушана, аднак Віценю так і не ўдалося схіліць жамойтаў да згоды і супольнай барацьбы з крыжакамі.

Як бачым, па меры далейшага прасоўвання Новагародскай дзяржавы ў глыб балцка-літоўскіх земляў працягвалася і іх супраціўленне. У той жа час як пры Міндоўгу, Войшалку, Трайдзені, так і пры Віцені мы не знаходзім у крыніцах ніводнага факта супраціўлення ўладзе вялікіх князёў у беларускіх землях.

Паколькі дзейнасць (і выключна вайсковая) Віценя адбівалася толькі ў заходніх крыніцах, то мы ведаем у цэлым толькі пра яго барацьбу з крыжакамі і часткова з палякамі. Менавіта першае ўпамінанне пра Віценя ў 1291 г., калі ён не быў вялікім князем, і гаворыць пра яго паход на Польшчу. Там сказана, што Лютувер паслаў яго супроць палякаў у зямлю Берасцейскую[362]. Берасце ў гэты час знаходзілася ва ўладзе валынскага князя Мсціслава[363]. Трэба зазначыць, што ён перад гэтым вёў упартую спрэчку са сваім пляменнікам Юрыем Львовічам за Берасце. Жыхары гэтага горада выказалі былі сваю сімпатыю да яго саперніка, і яны былі за гэта пакараны. Мсціслаў, не



*Старажытны Камянец.*

*Рэканструкцыя Я. Куліка*

хочучы праліваць іх крыві, вырашыў абкласці іх цяжкай данінай, аб чым і загадаў пісцу запісаць у летапіс: «...уставляю ловчее на Берестьяны и в векы за их коромолу: со ста по две лукне меду, а по две овце, а по пятинадесять десятков льну, а по сто хлебов, а по пяти цебров овса, а по пяти цебров ржи, а по 20 куров, а по горожаны 4 гривны кун, а кто мое слово порушить, а станет со мною перед богом. А вопсал есмь в летописець коромолу их»[364]. Вядома, усё гэта не магло выклікаць прыхільнасці берасцянаў да валынскіх князёў і ў далейшым мела ўплыў на ўваходжанне Берасцейскай зямлі ў склад ВКЛ. Іпацьеўскі летапіс пад 1291 г. апавядае аб дапамозе Льва Галіцкага польскім князям Баляславу, Кандрату, Лакотку пад Кракавам, але там Віцень не ўпамінаецца. Аднак магчымасць барацьбы Віценя за Берасце нельга выключыць. Берасцейская зямля, у склад якой уваходзілі апроч Берасця Камянец, Кобрын, Драгічын, Мельнік, клінам урэзвалася паміж Мазовіяй і новагародскімі ўладаннямі, і таму барацьба за яе была жыццёва неабходнай для дзяржавы. Да таго ж гэтая зямля была адгароджана ад Валыні балотамі і пушчамі. Усё гэта аблягчала яе ўключэнне ў склад ВКЛ, што і адбылося ў 1315 г. Цікава, што ў познім Васкрасенскім летапісе ў заслугу Віценю, які там называецца сынам Трайдзеня (Прайдзеня), і ставіцца якраз тое, што ён «прибавил земли Литовские много и до Бугу»[365]. Магчыма, што далучэнне Берасцейскай зямлі было найбольшым тэрытарыяльным прырашчэннем у час Віценя. На жаль, крыніцы не даюць магчымасці ўстанавіць, ці пашыралася ўлада Віценя на Тураўскую і Пінскую землі.

Пра паход Віценя супроць Польшчы гаворыцца і пад 1293 г., калі ён стаў вялікім князем. Уварваўшыся з вялікім войскам у Сандамірскую зямлю, ён спачатку меў вялікі поспех, захапіўшы багатую здабычу і тысяч шэсць палону, але пасля адыходу пацярпеў паражэнне[366].

Ужо адзначалася, што ў ВКЛ беглі, ратуючыся ад крыжакоў, прусы, дзе іх прымалі і сялілі найперш у раёне Горадна. Так, напрыклад, адзін з апошніх прускіх старэйшын Скурда з усімі сваімі людзьмі пакінуў радзіму. Для рассялення іх каля Ліды была адведзена зямля (в. Кержышкі). Вось гэтым і тлумачылася, чаму Прускі ордэн і пачаў свае набегі на Гарадзенскую зямлю. У 1284 г. рыцары і напалі на яе. Яны аблажылі Горадзен, пасля жорсткага бою авалодалі яго акольным горадам (самога цэнтра не змаглі ўзяць), пабілі безліч людзей і пасля са здабычай, якую нарабавалі па навакольных вёсках, вярнуліся назад[367]. Гэта быў толькі пачатак. Шматпакутная Гарадзеншчына цярпела ад нападаў рыцараў у 1295, 1296, 1305, 1306 (двойчы), 1311 (тройчы), 1314, 1324 і 1328 гг.[368]

Аднак не ўсе гэтыя паходы прыносілі ўдачу агрэсару. У 1314 г. крыжакі нечакана рушылі на Новагародак, узялі яго і спалілі, а пасля сталі штурмаваць замак. І вось тут упершыню вызначыўся выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец Давыд Гарадзенскі. Гэта быў чалавек, надзелены незвычайнай энергіяй, прадпрымальнасцю і вайсковымі ведамі, таму карыстаўся высокай пашанай і займаў пасля вялікага князя першае месца ў дзяржаве. Нездарма ж пасля Гедзімін аддаў за яго замуж адну са сваіх дачок. Будучы гарадзенскім старастам, ён займаў адно з ключавых месц у абароне дзяржавы з боку Мазовіі і Тэўтонскага ордэна.

Палкаводчы талент Давыда Гарадзенскага ўпершыню яскрава выявіўся пры абароне Новагародка ў 1314 г., калі ён са сваім войскам з'явіўся на выручку крэпасці, якую аблажылі крыжакі. Ён авалодаў іх лагерам, перабіў у ім варту, захапіў коней і харчовыя прыпасы. Крыжакі вымушаны былі адступіць, але на зваротным шляху яны не знайшлі ў пэўных месцах сваіх складоў з правіянтам, бо яны былі загадзя разбураны Давыдам. Крыжацкае войска, церпячы голад, рассыпалася і амаль загінула ў непраходных лясах[369].

Цяжка сказаць, ці быў яшчэ ў гэты час Навагародак сталіцай дзяржавы. Пісьмовыя крыніцы пра гэта маўчаць. Праўда, у летапісах XVI ст. гаворыцца, што Гедзімін стаў княжыць «на прастоле бацькі свайго Віценя ў Кернаве»[370]. Аднак гэтаму цяжка паверыць, бо пасля мы даведваемся, што Гедзімін княжыў у Вільні, і таму значэнне Кернава як сталіцы дзяржавы пасля Навагародка не мае пад сабой падставы. Але незалежна ад таго, ці знаходзіўся Віцень у Навагародку, дамінуючая роля яго і яго зямлі ў дзяржаве стала відавочна падаць. Найперш прычынай гэтага былі вельмі неспрыяльныя знешнія ўмовы. Калі ў 50—70-х гг. XIII ст. Навагародскай зямлі прыносілі разбурэнні і спусташэнні галіцка-валынскія войскі, то пачынаючы з 80-х гг. яна становіцца аб'ектам узмоцненых нападаў прускіх крыжакоў, што не магло не падарваць эканоміку, а разам з тым і палітычнае значэнне зямлі. Трохразовы захоп, абрабаванне і разбурэнне Навагародка ў 1274, 1277 і 1314 гг. таксама не маглі не падзейнічаць адмоўна на лёс яго як сталіцы дзяржавы.

У той час як роля Навагародскай зямлі ў дзяржаве паніжалася, усё больш узрастала зноў значэнне Полацкай зямлі. На жаль, інфармацыя аб ёй пасля яе аб'яднання з Навагародкам таксама вельмі бедная. З гэтага часу да пачатку XIV ст. захаваліся толькі лічаныя і разрозненыя звесткі аб полацкай гісторыі.

Адным з такіх сведчанняў з'яўляецца невялікі літаратурны твор пад назвай : «Семена епископа тферского наказание». Змест яго вельмі важны і выразны, і мы таму яго прывядзём поўнасцю і ў арыгінале: «Константин князь Полоцкий, нарицаемы Безрукий у собе в пиру, хотя укорите тивуне своего о чем, рече попу пред всеми: владыко, где быти тивуну на оном свете? Семен поп отвечае: где и князю. Князь же не улюбив того, молвит попу: тиун неправду судит, мзду емлет, люди продает, мучит, лихое все деет, а аз что даю? И рече поп: аше будет князь добр, Богобоин, жалует людей, правду любит, избирает тиуна или коего волостеля мужи добре и богобойне, страха божия помне, разумна, праведна, по закону божию всё творяша и суд ведуша — и князь в рай и тиун в рай. Будет ли князь без Божия страха христиан не жалует, сирот не милует и вдовицам не печалуется, поставляет тивуна или коего волостеля — человека зла, бога не бояшася и закона Божия не веду-

ше, и суда не разумеюше, только того деля, абы князю товара добывал, а людие не шадил, аки бешена человека пустил на люди, дав ему меч, тако и князь, дав волость лиху человеку избити люди, — князь во ад и тиун с ним во ад»[371].

Гэты твор з'яўляецца адзіным сведчаннем пра полацкага князя Канстанціна. Паколькі тут выведзены Сімяон, які з'яўляўся цвярскім епіскапам з 1271 па 1289 г., то гэта можа арыенціровачна ўказваць на час, калі княжыў Канстанцін. Відаць, Бязрукім яго празвалі таму, што ён быў у сапраўднасці такім, хутчэй за ўсё ў выніку ўдзелу ў вайне. Не выключана, што ў яго асобе мы маем таго ж самага Канстанціна, які княжыў у Полацку ўжо раней, перад Гердзенем як стаўленік Траняты і прыйшоў зноў да ўлады пасля Ізяслава.

Хоць твор напісаны ў форме размовы князя з епіскапам, мае багаслоўскі характар, тым не менш ён — адзін з вельмі рэдкіх дакументаў, у якіх знайшлі сваё адбіццё сацыяльныя парадкі таго часу, у прыватнасці сваволле цівуноў, якія, атрымаўшы ўладу ў воласці, «не па праўдзе судзяць, бяруць хабары, людзей прадаюць, мучаць, ліхое ўсё дзеюць», і ўсё гэта толькі дзеля таго, каб «князю прыбытак здабыць, а людзей не літаваць». Што ж, даволі дакладная замалёўка грамадскага зла, тыповага не толькі для Полацкай зямлі, як лічыў В. Даніпевіч[372], але і для ўсіх земляў, дзе панавалі феадальныя парадкі. І ўжо калі тыя цівуны-ліхадзеі былі ў такога унікальнага на той час князя, якім з'яўляўся Канстанцін Бязрукі, то можна ўявіць, якімі былі яны ў іншых князёў, дзеля карысці якіх найперш і тварыліся бясчынствы. Можна думаць, што калі Канстанцін не абмяжоўваўся толькі нараканнем на несправядлівасць такіх парадкаў, а імкнуўся іх выкараніць, то наўрад ці мог ён доўга сядзець на княскім пасадзе. Роля белай вароны яўна не пасавала князю, і ўсе тыя цівуны-валадары, якіх ён так асуджаў, не маглі не паставіць яго перад выбарам: або змірыцца з тым, што яны тварылі, або развітацца з княскім пасадам. Магчыма, што апошняе і адбылося з Канстанцінам, і ён апынуўся ў Віцебску, дзе пазней быў князем, як можна меркаваць, яго сын Міхаіл Канстанцінавіч.

Была выказана думка, што дзесьці ў другой палове XIII ст. полацкім князем мог быць Яраслаў Ізяславіч, грамата якога Барысаглебскаму манастыру захавалася[373]. Сапраўды, такі

князь мог быць, даводзячыся сынам Ізяславу, які княжыў у Полацку пасля Гердзеня. І ўсё ж гэтае меркаванне адпадае, бо ў грамаце ясна сказана, што яна дадзена ў 1396 г.

Але самай цёмнай і заблытанай з'яўляецца гісторыя, што захавалася ў нямецка-лацінскіх крыніцах і ў М. Стрыйкоўскага аб князю, імя якога засталося невядомым і які нібыта быў у Полацку недзе ў канцы XIII ст., і аб падзеях, што адбыліся пасля яго смерці. Тут паведамляецца, што гэты князь з'яўляўся язычнікам, г. зн. літоўцам, але, захапіўшы Полацк, прыняў каталіцтва і паколькі быў бяздзетным, то завяшчаў Полацкую воласць крыжакам, і яны пасля смерці яго ў хуткім часе нібыта захапілі Полацк, навадпілі яго рознымі каталіцкімі služкамі, якія прымушалі пераходзіць у іх веру праваслаўных палачанаў, што ў дадатак да гэтага цярпелі ўціск і ад лівонскіх рыцараў. Усё гэта вывела палачанаў з цярпення, і яны нібыта звярнуліся каля 1307 г. да літоўскага князя (імя яго не называецца) з просьбай дапамагчы ім вызваліцца ад улады немцаў, на што ён ахвотна згадзіўся і лёгка расправіўся з крыжакамі, карыстаючыся тым, што яны былі ўцягнуты ва ўзаемную барацьбу.

Аднак праўдзівасць гэтай гісторыі выклікае вялікія сумненні. Асабліва насцярожвае тое, што князь спачатку язычнік, а пасля заўзяты католік застаўся безыменным, хоць такога не магло быць, калі ён сапраўды пісаў дарчую грамату. А гэта значыць, што яе не было, а калі і была падробленая, то ўсё роўна імя князя павінна было там стаяць, як гэта мела месца ў аналагічных граматах Міндоўга. Апроч таго, супастаўляючы дзве граматы, у якіх апавядаецца пра полацкую гісторыю, мы знаходзім у іх супярэчнасці. У адной гаворыцца, што немцы прадалі Полацк Літве, у другой — што яны былі выгнаны літоўцамі па просьбе палачанаў. Між тым з матэрыялаў Рымскай курыі, якая расследавала гэтую справу, відаць, што абвінавачванні Ордэну ва ўціску палачанаў прад'яўлялі толькі яго ворагі[374].

М. Стрыйкоўскі, выкладаючы ўсю гэту гісторыю, заўважыў: «Я знайшоў весткі ў старых рускіх летапісах, невялікімі экземплярамі якіх карыстаўся, што Літва ў 1307 г. (толькі ў яго ўказана гэтая дата. — *М. Е.*) авалодала Полацкам, але няма вестак аб тым, якім чынам гэта здарылася і хто тады валодаў

Полацкам»[375]. Прызнанне красамоўнае! Нават для М. Стрыйкоўскага, які не грэбаваў фальсіфікацыяй, гэтыя звесткі былі няпэўнымі, ён не бачыў у іх дэталяў, якія б рабілі іх праўдзівымі. Трэба таксама зазначыць, што некаторыя з рускіх летапісаў, якімі карыстаўся гэты храніст, дайшлі да нас, але ні ў адным з іх няма апісання полацкіх падзей 1307 г. Усё гэта ставіць пад сумненне, што такія летапісы былі. Вось чаму яшчэ ў канцы XIX ст. было даказана, што Полацкае княства ніколі не было пад уладай Ордэна, ніколі і ніхто не дарыў яго Рыжскай царкве, і ніхто не вызваляў яго ад нямецкага ўціску ў 1307 г.[376]

I вось апошні сведка полацкай гісторыі таго часу. Гэта грамата полацкага епіскапа Якава. На жаль, яна засталася недатаванай, і таму час яе напісання выклікаў супярэчлівыя меркаванні. В. Васільеўскі прывёў даволі важкія аргументы ў карысць таго, што грамата напісана ў 1309 г.[377], з чым згодны быў і У. Пашута. Аднак апошні на падставе таго, што ў грамаце Якава робіцца спасылка на дагавор Віценя з Рыгай каля 1293 г.[378], адносіць яе да гэтага часу. Але хіба мог Якаў так гаварыць пра дагавор, заключаны дзесяць гадоў назад, звяртаючыся да рыжанаў: «...а ныне есмь уведале любовь праве вашае с сыном моим Витенем»[379].

Гэтыя словы вельмі добра сведчаць аб тым, што Полацк каардынаваў сваю знешнюю палітыку з усёй дзяржавай, з якой ён наўрад ці перарываў еднасць з часоў Войшалка. Апроч таго, нельга не ўбачыць, што наладжванне мірных і асабліва гандлёвых сувязяў з Рыгай было найперш у карысць Полацка, звязанага з ёю сваёй галоўнай жыццёвай дарогай па Дзвіне. А гэта не магло не ўказваць на ўсё большы ўплыў Полацка на палітыку ўсёй дзяржавы. Вышэй ужо адзначалася, што перадача Будзікідам і Будзівідам Ваўкавыска сведчыла пра паступовае змяншэнне ролі Новагародскай зямлі ў дзяржаве. Праўда, У. Пашута лічыў, што гэтага патрабавала найперш барацьба з Ордэнам, які разгарнуў наступленне на Жамойцію[380]. Аднак супраціўленне Ордэну было пастаяннай жыццёвай неабходнасцю новай дзяржавы, чым побач з іншымі дыктавалася яе ўтварэнне. Дарэчы, у гэты час, як мы бачылі, і Новагародская зямля нямала цярпела ад крыжацкіх нападаў. Таму перадачу Ваўкавыска Валыні побач з прыязнымі адносінамі епіс-

капа Якава да Віценя больш дакладным будзе лічыць выяўленнем узрастаючага значэння Полацка ў дзяржаве. Выяўленнем гэтага можа быць тое, што ў 1285 г. «литва Ловоть воеваша»[381]. А гэта значыць, ранейшай палітыкі Полацка ў адносінах да суседніх усходніх земляў, вынікам чаго ў далейшым і з'явіцца пашырэнне тэрыторыі дзяржавы на ўсход. Праўда, сам Полацк не стаў сталіцай усёй дзяржавы, але ёй стане другі даўні цэнтр крывіцкай каланізацыі ў балцка-крывіцкіх землях — Крывіч-горад — Вільня. Так закончыўся навагародскі перыяд нашай гісторыі.

Вялікае значэнне Навагародка ў нашай гісторыі падкрэсліваецца і тым, што яго герб «Пагоня» — коннік з мячом над галавою[382] — стаў дзяржаўным гербам ВКЛ. І, зрабіўшыся пасля сталіцай, Вільня пераймае гэты сімвал, а за ёй і многія беларускія гарады. З гэтага часу «Пагоня» становіцца выяўленнем дзяржаўнай самабытнасці Беларусі, вайсковай доблесці яе мужных барацьбітоў за волю радзімы. Усё адзначанае пераканаўча паказвае, што ВКЛ у другой палове XIII ст. і пачатку XIV ст. існавала як Навагародская дзяржава.

---

[1] Антонович В.Б. Очерки истории Великого княжества Литовского. Киев, 1878. С.25; Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства. М., 1915. С. 14; Советская историческая энциклопедия. Т. 3. С. 246; Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т.1. С. 125—126; История Литовской ССР. Вильнюс, 1978. С. 34.

[2] Дашкевич Н.П. Литовско-Русское государство // Университет. изв. Киев, 1882. № 8. С. 325.

[3] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. М., 1966. С. 288.

[4] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 341.

[5] Там жа. С. 8.

[6] Дмитриева Р.П. Сказание о князьях владимирских. М.; Л., 1955. С. 109.

[7] Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). М., 1975. Т. 32. С. 17—19, 130.

[8] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. Стб. 526—527.

[9] ПСРЛ. Т. 32. С. 20, 21, 23, 130.

[10] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Zmudska i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 1. S. 242.

[11] Дашкевич Н.П. Княжение Даниила Галицкого. Киев, 1873. С. 175.

[12] Татищев В. Н. Разговор двух приятелей о пользе науки и училищ // Чтения в имп. О-ве истории и древностей российских. М., 1887. Кн. 1. С. 138.

[13] Соловьев С. М. История России. М., 1963. Т. 3. С. 151.

[14] История БССР. Мн., 1961. Т. 1. С. 64—65.

[15] Абецадарскі Л. С. і інш. Гісторыя БССР. Мн., 1985. С. 32.

[16] Греков В.Д. Киевская Русь. М., 1949. С. 499—500.

[17] Пресняков А. Е. Лекции по русской истории. М., 1939. Т. 2. Вып. 1. С. 5.

[18] Алексеев Л. В. Указ. соч. С. 290.

[19] Там жа.

[20] Там жа.

[21] Там жа.

[22] Насонов А. Н. Русская земля и образование Древнерусского государства. М., 1951. С. 149.

[23] Тихомиров М. Н. Друвнерусские города. М., 1956. С. 362.

[24] Алексеев Л. В. Указ. соч. С. 256—257.

[25] Там жа. С. 290.

[26] Там жа. С. 253.

[27] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 620.

[28] Алексеев Л. В. Указ. соч. С. 280.

[29] Там жа. С. 282.

[30] ПСРЛ. М., 1962. Т. 1. Стб. 403—404.

[31] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 690—694.

[32] Алексеев Л. В. Указ. соч. С. 153.

[33] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 692.

[34] Белоруссия в эпоху феодализма (БЭФ). Мн., 1959. Т. 1. С. 75.

[35] ПСРЛ. Л., 1927. Т. 1. Вып. 2. С. 302.

[36] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 752—753.

[37] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 42.

[38] Дмитриев М. Несколько слов исторического обозрения Новогрудка // Вестн. имп. Рус. географ. о-ва. СПб, 1858. Т. 24. С. 230.

[39] Тихомиров М. Н. Указ. соч. С. 42.

[40] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 731—732.

[41] Новгородская IV летопись. Пг., 1915. Вып. 1. С. 116.

[42] Татищев В. Н. История Российская. М.; Л., 1962. Т. 2. С. 79.

[43] Там жа. С. 243, 284.

[44] Słownik geograficzny. Warszawa, 1884. T. 7. S. 255.

[45] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 141.

[46] Барсов Н. Очерк русской исторической географии. Варшава, 1873. С. 41.

[47] Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понемонья. Мн., 1982. С. 6.

[48] Гурэвіч Ф.Д. Заснаванне Навагрудка // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 3. С. 73.
[49] Татищев В. Н. Указ. соч. Т. 2. С. 133—134.
[50] Археологические открытия 1965 г. М., 1966. С. 165--168.
[51] Татищев В. Н. Указ. соч. Т. 2. С. 142.
[52] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 753.
[53] Там жа. Стб. 776.
[54] Там жа. Стб. 819.
[55] Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М., 1962. С. 60.
[56] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок. Л., 1981. С. 138—139.
[57] Там жа. С. 157.
[58] Там жа. С. 148—157.
[59] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 776.
[60] Там жа. Стб. 292, 631.
[61] Там жа. Стб. 847.
[62] Там жа. Стб. 831.
[63] Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. С. 133.
[64] Там жа. С. 133.
[65] Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. Мн., 1981.
[66] Археологические открытия 1968 г. М., 1969. С. 350—351.
[67] Археологические открытия 1970 г. М., 1971. С. 308.
[68] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. М., 1953; Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв. Мн., 1988. С. 26.
[69] Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. С. 140.
[70] Там жа. С. 141—144.
[71] Там жа.
[72] Там жа. С. 111.
[73] Там жа. С. 136.
[74] Археологические открытия 1965 г. М., 1966. С. 168.
[75] Тихомиров М. Н. Указ. соч. С. 362.
[76] Кочубинский А. А. Территория доисторической Литвы // Журн. М-ва народного просвещения. СПб, 1897. № 1. С. 65.
[77] Гринблат М. Я. Белорусы. Мн., 1969. С. 71, 161, 165; Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 353, 381.
[78] Советская историческая энциклопедия. Т. 8. С. 738.
[79] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 496.
[80] Там жа. Стб. 519.
[81] Насонова А. Н. Указ. соч. С. 153.
[82] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 859.
[83] Батюшков П. Белоруссия и Литва. СПб, 1890. С. 60.
[84] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 672.
[85] Там жа. Стб. 797 - 798.
[86] Там жа. Стб. 798.

[87] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 855.

[88] Там жа. Стб. 855.

[89] Ревизия пущ. Вильно, 1867. С. 14.

[90] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 818—819.

[91] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1971. С. 413.

[92] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 819.

[93] Там жа. Стб. 828—829.

[94] Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок. С. 3.

[95] Narbutt T. Dzieje starozytne narodu Litewskiego. Wilno, 1843. T. 6. S. 87.

[96] Кочубинский А. А. Указ. соч. С. 93.

[97] Седов В. В. Дреговичи // Сов. археология. 1963. № 3. С. 116.

[98] Stryjkowski M. O poczatkach. Warszawa, 1978. S. 95.

[99] Гошкевич И. И. Виленская губерния. Вильно, 1905.

[100] Дмитриева Р. Т. Указ. соч. С. 138.

[101] Алексеев Л. В. Указ. соч. С. 75.

[102] Słownik geograficzny. Warszawa, 1884. T. 5. S. 741.

[103] Ермаловіч М. Яшчэ раз аб месцазнаходжанні Старажытнай Літвы і пачатковай гісторыі Навагрудка // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 4. С. 68—75.

[104] Пашуто В. Т. Указ. соч. Карта.

[105] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 818.

[106] Там жа. Стб. 776.

[107] Гудавичус Э. Литва Миндовга. Вильнюс, 1985. С. 119—126.

[108] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 42.

[109] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 859—860.

[110] Вуснае паведамленне археолага М. А. Ткачова.

[111] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 847.

[112] Batura R. Lictuwa tautu kowoje Ayksa Orda. Vilnius, 1975. P. 133.

[113] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 818.

[114] Livonische Reimchronik. Padeborn, 1876. V.3319, 3325.

[115] Гурэвіч Ф.Д. Заснаванне Навагрудка. С. 73.

[116] Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понемонья. С. 114.

[117] Штыхов Г. В. Арахеологическая карта Белоруссии. Мн, 1971. С. 13, 146, 147, 150—152, 172—174, 184, 190—193, 197.

[118] Голубинские. История русской церкви. СПб, 1901. С. 177.

[119] Ochmanski J. Litewska granica etniczna na wschodzie. Wrocław, 1981. S. 47—53.

[120] Повесть временных лет. М., 1950. Т. 1. С. 13.

[121] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 5.

[122] Волкайте-Куликаускене Р. К. Образование литовской народности // Сов. этнография. 1979. № 3. С. 43.

[123] Annules quedlinburgenes Monumenta Germaniae Historika. Hannoverae, 1858. B. 3. S. 80.

[124] Волкайте-Куликаускене Р. К. О северной границе ятвягов // Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985. С. 49—51.

[124a] Татищев В. История Российская. М., 1964. Т. 4. С. 251.

[125] Живописная Россия. СПб, 1882. Т. 3. С. 195.

[126] Алексеев Л. В. Указ. соч. С. 75.

[127] Кузавинис К. Происхождение названия «Литва» // Всесоюзная конференция по топонимике СССР. Л., 1965. С. 74—75.

[128] Гудавичус Э. Попытка локализовать владения литовских князей XIII в. // Труды АН ЛитССР. Сер. А. 1984. № 3. С. 70—79.

[129] Batura R. Lietuwa tautu... P. 133.

[130] Там жа.

[131] Letuwies toribine enciklopedija. Wilnius, 1976. T. 1. P. 463.

[132] Там жа.

[133] Batura R. Lietuwa tautu... P. 133

[134] Там жа.

[135] История Ливонии. Рига, 1885. Т. 2. С. 6.

[136] Волкайте-Куликаускене Р. К. Образование литовской народности. С. 45.

[137] Гошкевич И. И. Виленская губерния.

[138] ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 248.

[139] Русская старина. СПб, 1901. № 2. С. 395.

[140] Надеждин Н. И. Северо-Западный край империи // Журн. М-ва внутренних дел. 1843. № 2. С. 219.

[141] Непокупный А. Балтійські родичі словьян. Київ, 1979. С. 63.

[142] Брянцев П. История Литовского государства. Вильно, 1889. С. 2.

[143] ПСРЛ. Т. 32. С. 78.

[144] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 376—379.

[145] Дзень паэзіі. Мн., 1965. С. 194.

[146] Дунін-Марцінкевіч В. Збор твораў. Мн., 1958. С. 362.

[147] Колас Я. Збор твораў. Мн., 1963. Т. 9. С. 42—43.

[148] Юхо Я. Пра назву «Беларусь»//Полымя. 1968. № 1. С. 175—182.

[149] Беляев И. История Полотска. СПб, 1872. С. 59.

[150] Гудавичус Э. С. Попытка локализовать владения литовских князей XIII в. С. 79.

[151] БелСЭ. Мн., 1970. Т. 2. С. 463.

[152] Ермолович Н. И. Где была летописная Литва // Тез. к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969. С. 235.

[153] Археологический сборник документов истории Северо-Западной Руси. Вильно, 1904. Т. 14. С. 78, 82, 94.

[154] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 736.

[155] Забелин И. История русской жизни. СПб, 1864. Ч. 1. С. 599

[156] Морошкин М. Славянский имянослов. СПб, 1867.

[157] Забелин И. Указ. соч. С. 608.

[158] Морошкин М. Указ. соч. С. 39, 40, 48, 99, 152, 178, 199, 200.

[159] Вольтер Э. Где искать Нальшенайскую землю?//Журн. М-ва народного просвещения. 1900. № 5. С. 205.

[160] Живописная Россия. Т. 3. С. 76.

[161] Пашуто В. Т. Указ. соч. Карта.

[162] Ермолович М. О местонахождении Древней Литвы // Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985. С. 70—71.

[163] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 863.

[164] Хроника Быховца. М., 1967. С. 35.

[165] История Ливонии. Рига, 1885. Т. 2. С. 225.

[166] Виленская губерния. Вильно, 1905.

[167] Ochmanski J. Historia Litwy. Wrocław, 1980. S. 56.

[168] Жемайте А. Избр. соч. Вильнюс, 1952. С. 43.

[169] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 339.

[170] Там жа. С. 367.

[171] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 526—527.

[172] Там жа. Стб. 620.

[173] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М., 1938. С. 81.

[174] Данилевич В. Очерк истории Полоцкой земли. Киев, 1896. С. 130.

[175] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. С. 124.

[176] Голубовский П. История Смоленской земли. Киев, 1896. С. 176, 183.

[177] ПСРЛ. Т. 1. С. 492.

[178] Там жа. С. 447—448.

[179] Там жа. С. 510.

[180] Новгородская I летопись. С. 64, 269.

[181] Соболевский А. Где была Литва? // Изв. имп. АН. VI сер. 1911. № 5. С. 1051—1054.

[182] Псковские летописи. М., 1950. Вып. 2. С. 77.

[183] Беляев И. Очерк истории Северо-Западной Руси. СПб, 1867. С. 49.

[184] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. С. 124—125.

[185] Пашуто В. Указ. соч. С. 51.

[186] Там жа. С. 181.

[187] Там жа. С. 381.

[188] Новгородская I летопись. С. 83.

[189] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 708.

[190] Кочубинский А. Указ. соч. С. 66.

[191] Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 191.

[192] Там жа. С. 105—108.

[193] ПСРЛ. Т. 1. Стб. 301.

[194] Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли. Мн., 1978. С. 83—90

[195] Мавродин В. Образование государства. Л., 1945. С. 92.

[196] Алексеев Л. В. Указ. соч. С. 263.
[197] Новгородская I летопись. С. 574.
[198] Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательных местах Белоруссии. СПб, 1855. С. 10—11.
[199] Живописная Россия. Т. 3. С. 293.
[200] ПСРЛ. Т. 7. Стб. 573.
[201] Dusburg P. Geschlicht Pruss. B. 6. S. 301 —304.
[202] Шафарик П. Славянские древности.М., 1846. Т. 2. Кн. 1. С. 174.
[203] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 73—74.
[204] Там жа. С. 76.
[205] Голубович В., Голубович Е. Кривой Город – Вильно // Кр. сообщ. Ин-та истории материальной культуры. 1945. Вып. 11. С. 123.
[206] Юргевич В. Опыт объяснения имен литовских князей // Чтения в имп. О-ве истории и древностей российских. М., 1883. Кн. 3. С. 28.
[207] Живописная Россия. Т. 3. С. 291.
[208] Голубович В., Голубович Е. Указ. соч. С. 123.
[209] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 266.
[210] Голубович В., Голубович Е. Указ. соч. С. 123
[211] ПСРЛ. Т. 32. С. 40.
[212] Кочубинский А. А. Указ. соч. С. 66.
[213] Корева А. Виленская губерния. Вильно, 1861. С. 288.
[214] Кочубинский А. А. Указ. соч. С. 66.
[215] Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 24. С. 146.
[216] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 376.
[217] Там жа. С. 387.
[218] Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. С. 137.
[219] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 322.
[220] Там жа. С. 352.
[221] Там жа. С. 7.
[222] История БССР. Т. 1. С. 66.
[223] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 6.
[224] ПСРЛ. Т. 32. С. 132.
[225] Живописная Россия. Т. 3. С. 372.
[226] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 871—872.
[227] Там жа. Стб. 872.
[228] ПСРЛ. Т. 32. С. 25.
[229] Там жа. С. 131.
[230] Живописная Россия. Т. 3. С. 362.
[231] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. С. 121.
[232] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 375, 381.
[233] Новгородская I летопись. С. 82.
[234] Греков Б., Якубовский А. Золотая Орда и ее падение. М.-Л., 1950. С. 83, 86.
[235] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 872.

[236] Там жа. Стб. 876.
[237] Там жа. Стб. 876.
[238] Гошкевич И. И. Виленская губерния. С. 114.
[239] Хроника Ливонии. С. 82.
[240] БСЭ. М., 1975. Т. 21. С. 195.
[241] ПСРЛ. Т. 35. С. 128, 145, 173, 193, 204.
[242] Ботвинник М Б. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973. С. 97.
[243] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 224.
[244] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 137 - 138.
[245] Livländische Reimchronik. Padeborn, 1876. V. 8104—8125.
[246] Новгородская I летопись. С. 85.
[247] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 735—736.
[248] Там жа. Стб. 776.
[249] Там жа. Стб. 801.
[250] Livländische Reimchronik. V. 2450—2542.
[251] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 861.
[252] Энцикл. слов. / Брокгауз и Эфрон. 1902. Т. 26а. С. 201.
[253] ПСРЛ. Т. 1. С. 201
[254] Энцикл. слов. / Брокгауз и Эфрон. 1895. Т. 14а. С. 584.
[255] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 776.
[256] Там жа. Стб. 815.
[257] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 377.
[258] Там жа. С. 378.
[259] Дашкевич Н. Княжение Даниила Галицкого. С. 132.
[260] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 377.
[261] Там жа. С. 377.
[262] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 860.
[263] Хроника Быховца. С. 131.
[264] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815.
[265] Там жа.
[266] Там жа. Стб. 816.
[267] Там жа.
[268] Там жа. Стб. 818.
[269] Та жа.
[270] Там жа. Стб. 818—819.
[271] Там жа. Стб. 827—828.
[272] Пашуто В. Т. Указ. соч.. С. 380.
[273] Пашуто В. Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950. С. 247, 259.
[274] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 380.
[275] Тарасов К. Память о легендах. Мн., 1984. С. 20.
[276] Там жа. С. 16.
[277] Пашуто В. Т. Указ. соч. 386.

[278] Тезисы советской делегации на V Международном конгрессе славянской археологии. М., 1985. С. 132.
[279] Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок. С. 7.
[280] Неподкупный А. Указ. соч. С. 65.
[281] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 830.
[282] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 380.
[283] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 837—838.
[284] Там жа. Стб. 838.
[285] Там жа. Стб. 839.
[286] Там жа. Стб. 830—831.
[287] История БССР. Т. 1. С. 65.
[288] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 378—379.
[289] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 820.
[290] Там жа. Стб. 817.
[291] Там жа. Стб. 838-839.
[292] Там жа. Стб. 859.
[293] Там жа. Стб. 858.
[294] Любавский М. Очерк истории Литовско-Русского государства. С. 16—17.
[295] Livländische Reimchronik. V. 6471—6513.
[296] Там жа. Вершы 6514—6585.
[297] Там жа.
[298] Вольтер Э. Указ. соч. С. 200.
[299] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 860.
[300] Там жа.
[301] Там жа.
[302] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 383.
[303] Новгородская I летопись. С. 574.
[304] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 861.
[305] Там жа.
[306] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 383.
[307] Там жа.
[308] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 861.
[309] Гудавичус Э. С. Литва Миндовга. С. 220.
[310] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 861.
[311] Там жа.
[312] Там жа. Стб 862
[313] Там жа. Стб. 863
[314] Пашуто В. Т. Указ. соч. С. 409
[315] Православие и русская народность в Литве. СПб, 1846. С. 74.
[316] БЭФ. Т. 1. С. 75.
[317] Там жа.
[318] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 869.
[319] Соловьев М. С. История России. М., 1963. Кн. 2. С. 189—190.

[320] Татищев В. Н. История Российская. М.; Л., 1961. Т. 1. С. 357, 440; Т. 2. С. 311.

[321] ПСРЛ. Т. 32. С. 25.

[322] Там жа. С. 20.

[323] Журнал М-ва внутр. дел. СПб, 1843. № 3. С. 239.

[324] Антонович В. Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885. С. 32—35.

[325] Хроника Быховца. С. 45—46.

[326] Данилевич В. Цит. соч. С. 149.

[327] Хроника Быховца. С. 46.

[328] ПСРЛ. Т. 35. С. 11, 93, 94, 132, 150, 151, 177—179, 198, 199, 218—220.

[329] ПСРЛ. Т. 2. С. 869.

[330] Пашуто В. Цит. соч. С. 41.

[331] ПСРЛ. Т. 35. С. 93—94.

[332] ПЛ. Вып. 2. С. 18, 84.

[333] Пашуто В. Цит. соч. С. 385.

[334] Тамсама. С. 262.

[335] Livländische Reimchronik. V. 191.

[336] Пашуто В. Цит. соч. С. 36.

[337] ПСРЛ. Т. 2. С. 869.

[338] Тамсама. С.871.

[339] Тамсама. С. 871.

[340] Тамсама. С. 872.

[341] Тамсама. С. 871—874.

[342] Тамсама. С. 874.

[343] Пашуто В. Цит. соч. С. 42.

[344] ПСРЛ. Т. 2. С. 874.

[345] Тамсама. С. 876—878.

[346] Тамсама. С. 878.

[347] Livländische Reimchronik. V. 8087—8148.

[348] Ibidem. V. 8208—8230.

[349] Пашуто В. Цит. соч. С. 277—278, 345.

[350] ПСРЛ. Т. 7. С. 253.

[351] Petrus von Dusburg. Op. Cit. T. 3. S. 241.

[352] ПСРЛ. Т. 2. С. 933.

[353] Пашуто В. Цит. соч. С. 37, 298, 389.

[354] Антонович В. Цит. соч. С. 37.

[355] Хроника Быховца. С. 48.

[356] Пашуто В. Цит. соч. С. 72.

[357] Дмитриева Р. Цит. соч. С. 109.

[358] Без-Корнилович М. Исторические сведения о примечательных местах Белоруссии. СПб, 1855. С. 10, 11.

[359] Живописная Россия. Т. 3. С. 299.

[360] Морошкин М. Цит. соч. С. 67.

[361] Petrus von Dusburg. Op. Cit. Т. 3. S. 273, 274; Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmudska i wszystkiej Rusi. T. 1. S.354.

[362] Ibidem. S. 241.

[363] ПСРЛ. Т. 2. С. 932—933.

[364] Тамсама. С. 932.

[365] ПСРЛ. Т. 7. С. 253.

[366] История Ливонии. Рига, 1884. Т. 2. С. 120.

[367] Тамсама. С. 121.

[368] Petrus von Düsburg. Op. Cit. T. 3. S. 223, 260,266, 267, 292, 303, 322 349.

[369] Антонович В. Цит. соч. С. 41—42.

[370] Хроника Быховца. С. 49.

[371] Памятники старинной русской литературы. Вып. 4. СПб, 1860. С. 185.

[372] Данилевич В. Цит. соч. С. 151.

[373] Сапунов А. Витебская старина. Т. 5. Ч. 1. С. 9. .

[374] Пашуто В. Цит. соч. С. 392.

[375] Strykowski M. Op. cit. T. 1. S. 319.

[376] История Ливонии. Т. 2. С. 176—177.

[377] ЖМНП. 1872. № 2. С. 151.

[378] Пашуто В. Цит. соч. С. 150.

[379] РЛА. С. 21.

[380] Пашуто В. Цит. соч. С. 384.

[381] НПЛ. С. 326.

[382] Татищев В. Цит. соч. Т. 1. С. 357, 440; Т. 2. С. 311.

# ВІЛЬНЯ

Калі папярэдні Новагародскі перыяд з'яўляўся часам станаўлення і ўмацавання ВКЛ, то наступны — Віленскі, які таксама быў нядоўгім, бо працягваўся менш стагоддзя (з 1316 да 1385 г.), быў часам бурнага тэрытарыяльнага росту гэтай беларускай дзяржавы, што і вывела яе ў лік найбуйнейшых тагачасных еўрапейскіх краін.

Мы ўжо гаварылі аб прычынах страты Новагародкам свайго сталічнага значэння[1]. Але побач з упадкам яго дамінуючага значэння ішло ўзвышэнне Полацкага княства. Праўда, сталіца з Новагародка не «перайшла» ў Полацк, аднак яна зноў перамясцілася ў крывіцкую зямлю, у Вільню, якая была галоўным асяродкам плямені крывічоў на ўсходзе сучаснай Літвы і, як убачым далей, стала цэнтрам аднаго з удзелаў Полацкага княства.

Што ж уяўляла сабой тады Вільня? Чаму менавіта яна стала пераемніцай Новагародка як сталіцы дзяржавы?

Найперш — пра ўзнікненне гэтага горада.

У летапісах XVI ст. вельмі маляўніча гаворыцца аб заснаванні Вільні Гедзімінам[*].

Нібыта гэты князь, будучы на паляванні, натрапіў на прыгожую гару над ракою Вяллёю, дзе забіў тура, і таму яна ў далейшым стала называцца Туравай гарой. Паколькі было позна, Гедзімін вырашыў не вяртацца ў Трокі, спыніўся ў даліне Свентарога, дзе пазней вялікіх князёў спальвалі пасля смерці, і там заначаваў. І прысніўся яму сон, што на гары, якую звалі

[*] У беларускай навуковай літаратуры імя гэтага вялікага князя літоўскага традыцыйна ўжываецца ў форме «Гедымін», аднак Мікола Ермаловіч настойвае на сваёй форме, даючы гэтаму пэўныя абгрунтаванні.



*Герб Вільні*

Крывою, а цяпер завуць Лысаю, стаіць вялікі жалезны воўк, і ў ім равуць сто ваўкоў. І калі Гедзімін, прачнуўшыся, звярнуўся да валхва Ліздзейкі, каб ён разгадаў гэты сон, дык той сказаў: «Жалезны воўк азначаў, што тут будзе сталіца, а што ў яго ўнутры раўло, то гэта слава аб гэтым горадзе, якая пойдзе на ўвесь свет». І вось Гедзімін, пачуўшы такое, адразу ж загадаў прывесці сюды людзей, каб закласці замкі, адзін на Свентарозе — Ніжні, а другі — на Крывой гары, і назваў гэтыя замкі Вільняй[2].

Вядома ж, перад намі легендарнае асэнсаванне ўзнікнення Вільні, тым больш што перад гэтым нешта падобнае гаварылася аб збудаванні Трокаў. Так перанясенне Гедзімінам сталіцы дзяржавы ў Вільню было ў пазнейшых летапісах легендарна пераасэнсавана ў збудаванне ім гэтага горада.

Археалагічныя ж дадзеныя сведчаць, што Вільня ўзнікла не ў XIV ст., а значна раней. Як паказалі даследаванні В. і Е. Галубовічаў (на жаль, цяпер яны чамусьці замоўчваюцца некаторымі даследчыкамі), Вільня была заснавана крывічамі[3]. Як адзначалася намі раней, пры разглядзе славянскага засялення Беларусі, крывічы рухаліся з захаду па Нёмане і яго прытоках, таму з'яўленне іх на Вяллі і заснаванне імі тут горада не было выпадковым. Менавіта гара, якая спачатку называлася Крывой, а пасля — Лысай, і стала месцам, дзе пачаткова аселі крывічы. Пасля яны залажылі тут горад, які стаў называцца Крывіч-горадам (пазней — Крывым Горадам) і стаў адной са сталіц гэтага племя. Археалагічныя матэрыялы паказваюць, што паселішча, якое існавала на гэтай гары, было знішчана агнём у VII ст. н.э. І калі да таго часу кераміка і іншыя рэчы былі тут тыпова балцкімі, то пасля яны знікаюць і замяняюцца керамікай, характэрнай для славянскіх магільнікаў[4].

Як вядома, у VII ст. ішло славянскае засяленне тэрыторыі сучаснай Беларусі і ўсходняй часткі Літвы. Несумненна, што крывічы і знішчылі гэта балцкае паселішча, а на яго месцы заснавалі сваё, якое пазней і вырасла ў горад. Моцная, відаць, калонія крывічоў, пасяліўшыся тут, як убачым далей, не мірным шляхам, пачала ўмацоўвацца сярод балцкага насельніцтва, паступова асімілюючы яго і ператвараючы ў славянскае. Пра тое, што гэта паселішча спачатку называлася Крывічгорадам, сведчыць яго назва і ў нямецкіх хроніках — Крывічкаструм (Крывіцкая крэпасць), і ў літоўскай мове — «Крэйвепіліс»[5]. Аб славянскім паходжанні Вільні разам з яе назваю сведчаць і назвы гор, дзе яна пачаткова размяшчалася, і назвы замкаў і нават назва ракі (яна завецца не Нярысам, а Вяллёй, як называюць яе і сёння тутэйшыя беларусы). Невыпадкова таму нямецкі храніст XIV ст. Віганд Марбургскі і называў Вільню рускім горадам[6].

Усе гэтыя факты як найлепш адмятаюць спробы некаторых сучасных даследчыкаў прыменшыць або нават і зусім паставіць пад сумненне факт з'яўлення ў гэтым рэгіёне славянаў[7]. Менавіта славянская каланізацыя мела тут першаступеннае значэнне, у выніку чаго Вільня ўжо ў XIV ст. мела ўсе рысы славянскага горада. Вядома, гэта не адмаўляе таго, што тут жыло і іншапляменнае насельніцтва, у тым ліку і язычніцкае, якое ў літаратуры звычайна атаясамліваецца толькі з балтамі.

У сувязі з гэтым хочацца звярнуць увагу на такі факт. З 40-х гадоў XIV ст. захавалася гісторыя аб трох віленскіх пакутніках, якія перайшлі з язычніцтва ў хрысціянства, за што і паплаціліся жыццём. Тут асабліва цікава тое, што да прыняцця хрысціянства гэтыя асобы насілі яўна славянскія імёны — Кумец, Круглец, Няжыла. А гэта можа сведчыць, што язычнікамі ў той час маглі быць не толькі балты, але і славяне, найперш крывічы. Жывучы ў Вільні і ў яе наваколлі, яны былі адрэзаныя ад такіх буйных хрысціянскіх цэнтраў, як Полацк і Тураў, і маглі яшчэ доўга, як і балты, заставацца язычнікамі. Усё гэта трэба было ўлічваць, каб не перабольшваць значэння балтаў, якія звычайна толькі і атаясамліваюцца з язычнікамі ў гісторыі ВКЛ.

Як бачым, Вільня з'яўляецца спрадвечным беларускім горадам, і таму зразумела, што перанясенне туды сталіцы з Но-



*Вежа Верхняга Замка ў Вільні XIV ст.*

вагародка не толькі не магло паўплываць на беларускі характар Княства, але яшчэ больш падкрэслівала яго. Зрабіўшыся сталіцай, Вільня як крывіцкі горад яшчэ больш садзейнічала беларускай каланізацыі балцкіх земляў і асіміляцыі іх насельніцтва.

Аднак менавіта з гэтага часу пачалі складвацца ўмовы для ўзнікнення погляду на ВКЛ як дзяржавы літоўскай (у сучасным значэнні гэтага слова), дзе славянскія землі былі заваяваны літоўскімі князямі і знаходзіліся ў іх падначаленні. Рэч у тым, што ў сувязі з перанясеннем сталіцы з Новагародка ў Вільню і назва «Літва» пачала пастунова пераходзіць з Верхняга Панямоння на ўсход сучаснай Літвы, выцясняючы адтуль старую назву «Аўкштайція». Тым не менш у XIV ст. аўкштайцкія землі яшчэ не атаясамліваліся з Літвой. Гэта пацвердзіў нямецкі храніст П. Дузбург, які, гаворачы аб падзеях 1294—1300 гг., называў Аўкштайцію «уладаннем караля Літвы»[8]. Тое ж самае мы бачым і ў грамаце Гедзіміна ад 2 кастрычніка 1323 г. Ужо тое, што гэты князь, называючы сябе каралём Літвы, палічыў патрэбным у ліку іншых земляў, ад імя якіх ён заключыў мір, назваць і Аўкштайцію, гаворыць пра яе агульнавядомае ў той час найменне і пра тое, што тытул караля Літвы паходзіць не адсюль[9]. Наколькі доўга трымалася тут гэта назва, сведчыць яе ўжыванне Вітаўтам у 1422 г.[10] Аднак хоць і паступова, але назва «Літва» — найперш пад уплывам знаходжання тут сталічнай Вільні — замацоўваецца ў Аўкштайціі, выцесніўшы адтуль ранейшае найменне. Новая назва пачала ўспрымацца тут як адвечная, што і прывяло да атаясамлівання гэтай Літвы са старажытнай і тым самым унесла, як мы ведаем, надзвычай вялікую блытаніну ў поглядзе на ўтварэнне ВКЛ, выводзячы вы-

токі гэтай дзяржавы з тэрыторыі сучаснай Літвы, а не з Верхняга Панямоння, як было ў сапраўднасці.

Археалагічныя матэрыялы паказваюць, што Вільня да пачатку XIV ст. развілася ў такое значнае паселішча, што Гедзімін палічыў патрэбным перанесці сюды сталіцу дзяржавы.

## ЯКОГА ЯНЫ РОДУ?

Паколькі Гедзімін лічыцца цэнтральнай постаццю ў родзе вялікіх князёў літоўскіх, якія пачынаючы з XIV ст. называліся Гедзімінавічамі, варта яшчэ раз звярнуцца да пытання паходжання гэтай дынастыі.

Паводле падання, якое з'явілася яшчэ ў XV ст. (упершыню яно зарэгістравана ў Я. Длугаша), вялікія літоўскія князі і знакамітыя літоўскія роды паходзяць ад славутых рымлянаў, што, ратуючыся ад Нерона, прыплылі ў вусце Нёмана і пачалі прасоўвацца па гэтай рацэ далей[11]. Мэтаю такой версіі было паказаць больш слыннае і даўняе паходжанне літоўскай знаці ў параўнанні з польскаю, якая пасля Крэўскай уніі ўсё больш настойліва імкнулася падначаліць сабе ВКЛ. Унесеная Я. Длугашам і асабліва М. Стрыйкоўскім у іх творы, гэта легенда пашыралася ў гістрычнай літаратуры, нярэдка выдавалася за праўду. Вядома ж, Гедзімін, як і іншыя літоўскія князі, лічыўся нашчадкам знакамітых рымлянаў.

Але зусім інакш падаецца паходжанне вялікіх літоўскіх князёў у некаторых рускіх летапісах. Апавяданне пра гэта пачынаецца з падзей 1129 г., калі кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў Полацк, а полацкія князі Рагвалодавічы (яны фактычна былі Усяславічамі, але названы тут па імені заснавальніка полацкай княскай дынастыі — Рагвалода) былі забраныя ў палон і высланыя ў Царград. Літва ж у той час даніну давала князям полацкім, а «владома своими гедманы». Але калі полацкія князі былі высланыя, «вильняне приложися дань давати королю Угорскому за страхование великого князя Мстислава Владимировича», а таксама «взяша собе по Царяграда князя Полотского Ростислава Рогволодовича (ён таксама названы па імені продка полацкіх князёў) детей: Давила-князя да брата его Мовкольда-князя»[12].

Гісторык У. Пашута цалкам адмаўляў праўдзівасць такога паказу генеалогіі вялікіх літоўскіх князёў, называючы яго тэндэнцыйна апрацаванай версіяй на карысць Масквы. У той жа час ён лічыў вартым увагі і даверу ўпамінанне гэтым летапісам сына полацкага князя Гердзеня — Андрэя (які быў цвярскім епіскапам), бо гэта паказвае на ранніх культурных сувязі Цверы і Літвы[13]. Незразумела, пры чым тут Літва, калі Гердзень і яго сын Андрэй не мелі да яе ніякага дачынення. Ды ўжо такая ў гэтага аўтара тэндэнцыя -- усімі сродкамі ўзвышаць Літву і зацямняць ёю Беларусь.

Але хіба толькі гэта — адзіна праўдзівы факт у выкладзенай вышэй гісторыі? А тое, што Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў у 1129 г. Полацк, у выніку чаго полацкія князі апынуліся ў Візантыі, хіба супярэчыць гістарычнай праўдзе? Гэтаксама як і тое, што Літва давала даніну Полацку, але знаходзілася ў кіраванні сваіх князёў-«гедманаў» і пасля захопу ў палон полацкіх князёў, страціўшы сваіх апекуноў, павінна была шукаць іншых абаронцаў, каб страхавацца ад нападу Мсціслава Уладзіміравіча. Гэта бясспрэчны факт, бо Лаўрэнцьеўскі і Іпацьеўскі летапісы засведчылі паходы гэтага князя пасля ўзяцця Полацка на Літву ў 1130 і 1131 гг.[14] Праўда, застаецца незразумелым, чаму «вільняне» звярнуліся па дапамогу да угорскага (венгерскага) караля і сталі даваць яму даніну. Угоршчына не межавала з Літвою і наогул была ад яе далёка. І ўсё ж, відаць, угры абаранялі Вільню, бо адкуль маглі з'явіцца ў гэтым горадзе горы Угры, якія ўпамінаюцца ў летапісе. Тут хаваўся князь Яўнуд у 1345 г., ратуючыся ад сваіх братоў Кейстута і Альгерда[15]. Відаць, на гэтых гарах і размяшчалася угорскае войска, каб бараніць Вільню. Такім чынам, і гэты факт мае пад сабою падставы.

Але самае галоўнае для нас у гэтым летапісным апавяданні — паведамленне аб узяцці вільнянамі з Царграда сыноў высланага з іншымі полацкімі князямі Расціслава — Давіла і Маўкольда. Менавіта ад гэтых двух полацкіх князёў і пачынаецца ўласна дынастыя вялікіх князёў літоўскіх: ад першага з іх князь Від і астатнія, ад другога — Міндоўг. Тое, што такое магло адбыцца, зусім заканамерна. Вільняне, як мы ўжо ведаем, у большасці былі крывічамі, і ўвесь час знаходзіліся ў залежнасці ад полацкіх князёў, бачачы ў іх асобе сваіх законных

гаспадароў. Гэта пацвярджаецца і фактам, які данеслі да нас польскія крыніцы: каля 1070 г. у Вільні сядзеў полацкі князь Расціслаў Рагвалодавіч[16], і таму невыпадкова вільняне ўзялі да сябе яго сыноў. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне праўдзівасці Васкрасенскага летапісу. Такім чынам, ужо з 70-х гадоў XI ст. можна гаварыць аб існаванні Віленскага ўдзела ў Полацкім княстве.

Праўда, трохі здзіўляюць імёны Расціслававых сыноў Давіла і Маўкольда — такія нетыповыя і нетрадыцыйныя для полацкай дынастыі. Аднак не выключана, што сапраўдныя іх імёны былі зменены з мэтаю скрыць іх полацкае паходжанне. Раней, пры асвятленні падзей 1129—1132 гг., намі адзначалася магчымасць таго, што не ўсе полацкія князі былі схопленыя і вывезеныя ў Візантыю, а некаторыя з іх ураталіся ад палону, знайшоўшы прытулак у суседняй Літве. На гэта ўказвае хоць бы прыклад з Васількам Святаславічам, які адразу ж пасля выгнання з Полацка ў 1132 г. кіеўскага стаўленіка Святаполка займае княжацкі пасад. Зразумела, што вярнуцца з Візантыі так хутка ён не мог, а, значыць, дзесьці хаваўся — найверагодней, у Літве. Не выключана, што адной з мэтаў Мсціслававых паходаў на яе быў таксама захоп полацкіх князёў, якія знайшлі там сабе прыстанак.

Аб тым, што Давіл і Маўкольд не былі выдуманымі асобамі, сведчыць той факт, што яны выступаюць тут удвух. Наўрад ці фальсіфікатару спатрэбілася б такое ўскладненне. Вельмі паказальны момант — ад Давіла выводзяцца ўсе вялікія літоўскія князі, пачынаючы ад Віда і Трайдзеня (ён названы тут Траенем) і канчаючы Гедзімінам і яго нашчадкамі, ад Маўкольда толькі Міндоўг і яго сыны Войшалк і Даўмонт (ён названы памылкова). Такім чынам, Міндоўг і Войшалк таксама паходзілі ад полацкай дынастыі. Цяпер становіцца зразумелым, чаму пасля смерці Войшалка, а за ім і Шварна, вялікакняскі пасад займаў Від, а пасля Трайдзень, бо са смерцю Войшалка абрывалася дынастычная лінія Маўкольда і таму законнымі пераемнікамі яе сталі нашчадкі Давіла. Найбольш праблематычнай з'яўляецца асоба Давіла — Віда. Рэч у тым, што ён нідзе больш у летапісах, гэтак жа як Давіл і Маўкольд, не ўпамінаецца. І ўсё ж гэта не дае падставы, каб адмаўляць яго гістарычную сапраўднасць. Па-першае, у летапісах указана

такая яго індывідуальная рыса, як тое, што людзі яго Воўкам звалі. Гэту мянушку ён, відаць, атрымаў за свой няўрымслівы характар. Па-другое, у летапісе падкрэслены галоўны вынік яго дзейнасці, а менавіта тое, што ён далучыў да дзяржавы Дзярэўскую (г. зн. драўлянскую) зямлю. Гэта самае адзначана і ў адносінах да Трайдзеня, які далучыў Яцвяжскую зямлю, і ў адносінах да Віценя, які пашырыў межы дзяржавы да Буга, што было сапраўды[17]. Сказанае вышэй можа сведчыць, што складальнік летапісу не аперыраваў выдуманымі асобамі і не прыпісваў ім уяўных дзеянняў, а чэрпаў гэтыя звесткі з пэўных крыніц, якія не дайшлі да нас. Калі мы гаварылі пра Трайдзеня, то ўказвалі, што засталося невядомым, хто быў вялікім князем пасля смерці Шварна ў 1268 г. і да пачатку княжання Трайдзеня[18]. Дык вось у гэтым прамежку, па ўсяму відаць, і княжыў Від.

Усё адзначанае вымушае нас не сумнявацца ў гістарычнай праўдзівасці гэтай асобы, якая фактычна і стала роданачальнікам дынастыі вялікіх літоўскіх князёў, што, відавочна, паходзяць ад полацкай дынастыі.

## ХТО ЁН, ГЕДЗІМІН ?

Хаця пра Гедзіміна і яго дзейнасць да нас дайшло параўнальна больш звестак, чым пра яго папярэднікаў на вялікакняскім пасадзе, аднак і гэтыя дадзеныя далёка няпоўныя, некаторыя з іх супярэчлівыя, зацемненыя або зусім легендарныя (напрыклад, у выпадку з заснаваннем Вільні). Апроч таго, і ў навуковых даследаваннях застаўся шэраг недастаткова або аднабакова асветленых момантаў дзейнасці Гедзіміна. Гэта і прымушае нас да асабліва ўважлівага разгляду адпаведных матэрыялаў.

Найперш — пра імя. У беларускай навуковай літаратуры яно ўжываецца ў форме «Гедымін», аднак ці з'яўляецца такое напісанне правільным? Зазначым, што ў крыніцах яно існуе ў розных варыянтах: Гедимин, Кедмин, Кгиндимин, Крнедимин, Скиндимин, Gedimin, Gedimont, Giedymin[19]. Як бачым, усюды ў іх ( у тым ліку і ў напісаных лацінкай), гук «д» вымаўлецца як мяккі. Праўда, у «Хроніцы Быхаўца» бачым «Gedymin»,




*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Гедзімін. Паводле гравюры XVI ст.*

але тут «у» чытаецца як «і». Таму ў беларускай мове гэтае імя павінна вымаўляцца і пісацца ў форме «Гедзімін».

У гістарычных крыніцах мы нідзе не знаходзім формы «Гедзімінас». І гэта відавочна закрэслівае спробы шэрагу даследчыкаў гэту форму імя Гедзіміна паказваць як пачатковую і сапраўдную. У свой час В. Юргевіч на аснове філалагічнага матэрыялу і зыходзячы з аналізу іншых форм імя Гедзіміна паказаў, што яно, як і імёны іншых вялікіх літоўскіх князёў, славянскага паходжання. Што падобнае імя існавала ва ўсходніх славян, сведчыць назва вёскі «Едиминово» ў Цвярскім павеце[20]. В. Юргевіч адначасова адзначыў недарэчнасць спробаў некаторых літоўскіх даследчыкаў тлумачыць імёны літоўскіх князёў, у тым ліку і Гедзіміна, на аснове літоўскай мовы.

Вельмі заблытаным з'яўляецца і пытанне, кім быў Гедзімін у адносінах да Віценя. Яшчэ ў Я. Длугаша гаварылася, што Гедзімін быў конюхам Віценя і забіў яго, змовіўшыся з жонкаю апошняга, а пасля захапіў велікакняскі пасад. Гэтая чутка была пушчана з крыжацкага асяроддзя, каб тым самым паказаць нізкае паходжанне вялікіх літоўскіх князёў, што абражала ў той час у вачах свету ўсю дзяржаву, з якой Ордэн нязменна знаходзіўся ў варожых адносінах. Ахвотна падхапілі гэтую чутку пазней у Польшчы і ў Маскве, якія — кожная з свайго боку — імкнуліся падначаліць сабе ВКЛ.

Пэўны час у гісторыкаў не было сумневу, што Гедзімін з'яўляўся сынам Віценя, як пра гэта сведчыць «Хроніка Быхаўца» і падобныя ёй летапісы[21]. Але надрукаваная ў 1867 г. грамата

магістрата горада Рыгі[22] пераканаўча абвергла карыслівую выдумку аб нізкім паходжанні Гедзіміна. Праўда, адначасова грамата ўзняла і новую праблему. У гэтым дакуменце Гедзімін называўся братам свайго папярэдніка Віценя, што і прынялі многія даследчыкі. Але яшчэ В. Васільеўскі паказваў, што слова «frater» (брат) і «pater» (бацька) вельмі падобныя сваім напісаннем і могуць выглядаць амаль аднолькава[23]. Мы лічым больш абгрунтаваным тое, што Гедзімін быў сынам Віценя. Малаверагодна, каб брат перажыў другога брата на 25 гадоў, прычым улічваючы, што Гедзімін памёр не сваёй смерцю, г. зн. мог яшчэ пэўны час жыць. І яшчэ трэба ўлічыць, што сярод князёў быў звычай, нягледзячы на ступень сваяцтва (ці нават пры яго адсутнасці), называць адзін аднаго братам. Так, напрыклад, Альгерд называў сваім братам нават маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога[24], хаця яны ніякімі сваякамі не былі. Усё адзначанае можа закрэсліваць і сведчанні рыжскага дакумента пра Гедзіміна як брата Віценя.

Не менш складанае і пытанне, калі і дзе стаў Гедзімін вялікім князем. Як правіла, сцвярджаецца, што ён заняў вялікакняскі пасад у 1316 г. Аднак нідзе ў крыніцах гэтая дата не пацвярджаецца, як не пацвярджаецца і дата смерці Віценя, пра якога ў пазнейшых летапісах сказана, што ён памёр ад удару перуна[25]. На карысць 1316 г. як даты смерці Віценя можа сведчыць тое, што гэты князь у 1314 г. абараняў Гародню ад крыжакоў, а ў 1315 г. узяў у аблогу іх замак Хрыстмемель[26]. Але трэба згадаць і іншыя даты пачатку кіравання Гедзіміна, што маюцца ў паасобных крыніцах. Так, у адной з іх сказана, што «в лето 6813 (1305) нача княжити Кгедимин Витуновичь в Литве, в Новогородку и Кернове»[27]. Мы яшчэ звернемся да гэтага запісу, а зараз толькі адзначым, што калі, паводле яго, княжанне Гедзіміна пачалося значна раней, то ў «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай» гэта падзея аднесена на пазнейшую дату — на 1321 г.[28] Заўважым таксама, што гісторык В.Васільеўскі лічыў пачаткам княжання Гедзіміна 1320 г.[29] На жаль, ён не ўказаў, чым у сваім меркаванні кіраваўся, аднак, як мы ўбачым далей, прапанаваная В. Васільеўскім дата, магчыма, найбольш дакладная.

Наконт таго, дзе пачаў княжыць Гедзімін, у «Хроніцы Быхаўца» і ёй падобных крыніцах названы Кернаў[30]. Гэта як быц-

цам пацвярджае і згаданы намі летапісны ўрывак аб тым, што «Кгедимин нача княжити... в Литве, в Новогородку и Кернове». Гэты факт паказвае, што назва «Літва» яшчэ не пашыралася на ўсход сучаснай Літвы, дзе знаходзіўся Кернаў, які таму і названы асобна. Але сведчанні адзначаных крыніц аб Кернаве, як сталіцы дзяржавы пасля Новагародку, не пацвярджаюцца граматай Гедзіміна ад 25 студзеня 1323 г. У ёй у ліку іншага гаворыцца аб пабудове Гедзімінам каталіцкіх храмаў. «Няхай будзе вам вядома, што мы два гады назад (у 1321 г.) у нашым горадзе Вільні ўноў пабудавалі адну царкву Ордэна прапаведнікаў, а таксама цэрквы Ордэна мінарытаў у вышэйупомненым намі горадзе Вільні адну, у Новагародку — другую, якую спалілі прускія крыжакі... і якую ў тым жа годзе мы загадалі аднавіць уноў»[31]. Як бычым, тут упамінаюцца два гарады — Вільня і Новагародак, адзін з якіх — новая сталіца, другі — старая. Відавочна, што калі б сталіцай Гедзіміна быў Кернаў, то там бы перш за ўсё і будаваліся храмы, аднак гэта не адзначана, што можа адмаўляць сталічнае значэнне Кернава. Усё гэта дазваляе лічыць, што менавіта Гедзімін перанёс сталіцу ВКЛ з Новагародка ў Вільню.

Некаторыя іншыя спрэчныя пытанні, звязаныя з асобаю Гедзіміна, мы закранём, разглядаючы яго дзейнасць.

## ДЗЕ МІРНА, А ДЗЕ ПАД ПРЫМУСАМ

Як у адносінах да асобы Гедзіміна, так і ў адносінах да яго дзяржаўнай дзейнасці маецца шэраг цёмных месцаў. Яшчэ В. Антановіч у свой час слушна заўважыў, што з прычыны няяснасці датаў уваходжання паасобных земляў у склад ВКЛ многае з гэтага адносілася да часоў Гедзіміна[32]. Таму ў гістарычнай навуцы пануе думка, што і тады ішло далейшае падначаленне нібыта аслабелых і таму безабаронных беларускіх земляў узмацнелай літоўскай дзяржаве. Аднак як і раней, так і за часамі Гедзіміна нічога гэтага не было, а ішло далейшае эканамічнае, палітычнае і культурна-этнічнае збліжэнне і аб'яднанне беларускіх земляў.

Паколькі Беларусь не ведала татарскага нашэсця і яе эканамічныя і культурныя цэнтры не былі разбураны, адзначаны

працэс тут адбываўся хутчэй, чым у рускіх і ўкраінскіх землях, дзе ён быў перарваны татарскаю навалай. Вось чаму пашырэнне тэрыторыі ВКЛ ішло шляхам аб'яднання беларускіх земляў, якое адбывалася мірна. І таму мы не можам указаць дакладна, якая з іх і калі стала часткаю ВКЛ. Можна толькі меркаваць, што ў час уладарання Гедзіміна ў склад дзяржавы ўвайшла Менская зямля, паколькі яе князь у 1326 г. разам з полацкім князем быў у складзе пасольства, якое ездзіла ў Ноўгарад. Па ўсім відаць, што да ВКЛ у гэты час далучылася і Пінская зямля, бо ў летапісе сказана, што сын Гедзіміна Нарымонт-Глеб быў тут князем[33]. Але гэта вельмі праблематычна, бо ў іншых летапісах пра гэтага князя гаворыцца зусім іншае[34]. Трэба таксама памятаць аб тым, што Пінск адыграў важную ролю ва ўтварэнні ВКЛ: яго войска ў 1268 г. удзельнічала ў заваяванні Войшалкам Літвы[35].

Можна больш-менш упэўнена гаварыць, што межы беларускіх земляў, якія аб'ядналіся ў ВКЛ, у гэты час цягнуліся ад Дняпра на ўсходзе да Буга на захадзе, ад межаў Пскоўскага княства на поўначы да межаў Валынскага і Кіеўскага княстваў на поўдні. Праўда, у «Хроніцы Быхаўца» пад 1321 г. змешчана вельмі дэталёвае апавяданне аб паходзе Гедзіміна на гэтыя землі і далучэнні іх да сваіх уладанняў[36]. Але гэта даволі пераканаўча абвергнуў В. Антановіч[37].

Такое становішча беларускіх земляў, у прыватнасці іх больш ранняе злучэнне ў параўнанні з іншым усходне-славянскім абшарам, дало ім значныя перавагі. Найперш гэта забяспечыла ім дамінуючае значэнне ў ВКЛ. Менавіта беларускія землі вызначылі яго ўнутраную і знешнюю палітыку, што яскрава і выявілася ў дзяржаўнай дзейнасці Гедзіміна. Ужо тое, што ён перанёс сталіцу ў Вільню, якая з'яўлялася пераважна крывіцкім горадам, яскрава падкрэслівала, чыімі інтарэсамі ён будзе кіравацца найперш у сваёй дзейнасці.

Калі аб'яднанне беларускіх земляў адбывалася мірна, то ўваходжанне ў склад дзяржавы балцка-літоўскіх земляў пераважна праходзіла шляхам іх гвалтоўнага далучэння. Як у свой час Міндоўг выгнаў літоўскіх князёў, калі ён «зане Литву», як Войшалк, які пагалоўна знішчаў сваіх ворагаў пры заваяванні Літвы, Дзяволтвы і Нальшчанаў, як Трайдзень расправляўся з нальшчанскімі феадаламі, як Віцень вёў барацьбу

з жамойцкай знаццю, якая не прызнавала яго ўлады, схіляючыся да саюзу з Ордэнам, так і Гедзімін фактычна пачаў сваю дзейнасць з барацьбы з тымі ж самымі жамойтамі, што па-ранейшаму супрацiўляліся велікакняскай уладзе і знаходзілі падтрымку ў крыжакоў[38].

Гедзімін, як і ўсе яго папярэднікі на велікакняскім пасадзе, таксама заваёўваў балцкія землі. Таму зразумела, чаму, як яшчэ зазначаў В. Антановіч, літоўцы (у сучасным значэнні гэтага слова) так варожа адносіліся да велікакняскай дынастыі[39]. Прычына ў тым, што дынастыя гэта была ім чужой.

На фоне такіх фактаў вельмі непераканаўча гучаць сцверджанні аб ВКЛ як літоўскай дзяржаве, што ўтварылася ў выніку заваявання літоўскімі князямі беларускіх і іншых славянскіх земляў. Усё, як мы бачылі, адбывалася наадварот. Таму не можа быць гаворкі ні аб ВКЛ як літоўскай дзяржаве (таксама ў сучасным значэнні гэтага слова), ні аб тым, што вялікія літоўскія князі былі выразнікамі інтарэсаў літоўскіх феадалаў, бо апошнія ўвесь час супрацiўляліся ўтварэнню Вялікага княства і з'яўляліся ворагамі гэтага гістарычнага працэсу.

Але, хаця ўваходжанне беларускіх земляў у склад ВКЛ і было мірным, яго нельга ўяўляць ідылічным. Гэтыя землі не столькі падначальваліся вярхоўнай уладзе, колькі навязвалі патрэбную ім палітыку. Гэта і давала ім у межах дзяржавы шырокую аўтаномію, а таксама магчымасць ажыццяўлення ранейшых мэт, якіх яны не маглі б дасягнуць, калі б былі раз'яднанымі. Сказанае найперш адносіцца да найбольш буйной і развітой складовай часткі ВКЛ — Полацкай зямлі.

## АДНАЎЛЕННЕ ПОЛАЦКАЙ ПАЛІТЫКІ Ў АДНОСІНАХ ДА ПСКОВА І НОЎГАРАДА

Раней ужо гаварылася аб паступовым узвышэнні Полацкай зямлі ў новай дзяржаве, якое пачалося з 80-х гадоў XIII ст. і знайшло яскравае выяўленне пры Гедзіміне. Менавіта інтарэсы Полацка найперш і вызначалі дзяржаўную палітыку гэтага князя. Як вядома, Полацк на працягу ўсёй ранейшай сваёй гісторыі быў у непрыязных адносінах са сваімі паўночнымі суседзямі — Псковам і Ноўгарадам, якіх ён імкнуўся падна-

чаліць сабе. Ужо першы вядомы нам полацкі князь Рагвалод нападаў на наўгародскія воласці, чым і быў выкліканы паход наўгародскага князя Уладзіміра Святаславіча ў 980 г. на Полацк[40]. У 1021 г. князю Брачыславу Ізяславічу ўдалося нават здабыць Ноўгарад. У 1065 г. Усяслаў Чарадзей ваяваў супраць Пскова і таксама часова захапіў Ноўгарад. Узнаўлялася гэтая варожасць і на працягу XII ст. У наступным стагоддзі яна заціхла з прычыны сумеснай барацьбы Полацка, Пскова і Ноўгарада з крыжакамі, але ў канцы XIII ст. зноў аднавілася, сведчаннем чаго можа быць паход «літвы» на Ловаць, г. зн. на Наўгародскую зямлю. Вядома ж, ён, як і ўсе набегі «літвы» на гэтую, а таксама на Пскоўскую і Смаленскую землі ў першай палове XIII ст., быў арганізаваны Полацкам.

Аднак у часы Гедзіміна гістарычныя абставіны для правядзення ранейшай палітыкі, найперш у адносінах да Пскова і Ноўгарада, намнога змяніліся. З аднаго боку, аб'яднанне асноўнай масы беларускіх земляў дало магчымасць полацкай палітыцы перарасці ў агульнадзяржаўную. З другога боку, у гэты час Пскоў і Ноўгарад ужо не былі цалкам самастойнымі, а ўсё больш уцягваліся ў арбіту палітычнага прыцягнення Маскоўскага княства. Вось чаму полацка-наўгародская і полацка-пскоўская супярэчнасці менавіта тады і перараслі ў міждзяржаўныя супярэчнасці Беларускай дзяржавы (якою найперш было ВКЛ) і Маскоўскага княства, хаця дасюль іх узаемаадносіны былі мірнымі, што знайшло сваё выяўленне ў шлюбе маскоўскага князя Сімяона Іванавіча з дачкой Гедзіміна Анастасіяй[41].

Што да адносінаў з Псковам, дык трэба зазначыць, што ён сам імкнуўся вызваліцца з-пад залежнасці ад Ноўгарада, спадзеючыся ў гэтым абаперціся на дапамогу ВКЛ. Апроч таго, Пскоў цярпеў ад нападаў крыжакоў, і гэта змушала яго звяртацца да суседняй дзяржавы, якая таксама вяла зацятую барацьбу з крыжакамі. Цяжкасці Пскова з мэтаю прыцягнення яго пад сваю ўладу і выкарыстоўваў Гедзімін. Ён заўсёды пасылаў пскоўцам свайго зяця Давыда Гарадзенскага. У літаратуры ёсць сцверджанне, што апошні нібыта быў сынам пскоўскага князя Даўмонта[42] і што пасля смерці яго быў абраны князем Пскова, хоць па незразумелых прычынах чамусьці пайшоў на бацькаву радзіму (Даўмонт быў родам з Беларусі), але

пскоўцы па-ранейшаму бачылі ў ім свайго князя і таму клікалі яго да сябе на выручку ў цяжкія моманты. Аднак усё гэта не пацвярджаецца крыніцамі і найперш пскоўскімі летапісамі. Найверагодней, што Давыда Гарадзенскага пасылалі пскоўцам на дапамогу ў барацьбе з крыжакамі як умелага военачальніка. Упершыню гэта адбылося ў 1322 г. Крыжакі, нягледзячы на перамір'е, учынілі на Чудскім возеры дзікі гвалт над пскоўскімі людзьмі. Для помсты чужынцам і быў пакліка765 Давыд Гарадзенскі. На чале свайго беларускага войска і пскоўскага апалчэння ён уварваўся за р.Нарву ў крыжацкія ўмацаванні, нанёс ім цяжкі ўрон і з багатай здабычай і пяццю тысячамі палонных вярнуўся ў Пскоў[43]. Вядома ж, крыжакі не маглі пакінуць такую ганебную для іх паразу без адказу і 11 мая 1323 г. зноў напалі на Пскоў. І гэтым разам дапамог Давыд Гарадзенскі, які адагнаў ворага, знішчыўшы яго сценабітныя машыны і іншае ўзбраенне[44]. Новая перамога была асабліва важная для Пскова, бо Ноўгарад чамусьці не прыйшоў яму на дапамогу.

На жаль, разлічваць на Давыда Гарадзенскага пскоўцы больш не маглі. У 1325 г., у час паходу на чале вялікага войска супроць Брандэнбурга, ён быў па-здрадніцку забіты мазавецкім рыцарам Андрэем. Так трагічна абарвалася жыццё гэтага славутага сына Беларусі, які стаіць у шэрагу самых выдатных палкаводцаў свету.

Смерць Давыда Гарадзенскага была выкарыстана Гедзімінам у сваіх інтарэсах. Лічачы сябе спадкаемцам свайго зяця, ён стаў прэтэндаваць на валоданне Псковам як сваёй законнай спадчынай. У пэўнай ступені гэта было выгадна і для Пскова, якому выпадала магчымасць выйсці з-пад улады Ноўгарада, што яму, відаць, здавалася горшай, чым улада Гедзіміна.

## ПЕРШЫЯ СУПЯРЭЧНАСЦІ З МАСКВОЙ

Тым часам на гістарычнай арэне з'явілася новая сіла — Маскоўскае княства. Менавіта тады і пачалося яго ўзвышэнне, асабліва калі маскоўскім князем стаў сучаснік Гедзіміна Іван Каліта (ён памёр на год раней за літоўскага ўладара). Пры Каліце пачынае фарміравацца і ажыццяўляцца дзяржаўная

канцэпцыя Масквы як законнага гаспадара ўсіх рускіх земляў, у тым ліку, вядома, і Наўгародскай, і Пскоўскай.

Іван Каліта не мог не бачыць, што Масква ўжо трохі запазнілася з клопатам пра збіранне рускіх земляў і што гэтая дзейнасць пачалася ўжо на заходніх рускіх землях, тыя аб'ядналіся ў адзінай дзяржаве, што ўсё больш разрасталася на ўсход, пагражаючы пашырыць сваю ўладу на Пскоў і Ноўгарад. Гэта таксама не схавалася ад пільнага вока Івана Каліты. Да таго ж згаданыя рускія землі ўжо самі сталі адчуваць сілу Масквы і таму шукалі ў яе падтрымкі.

Тады Ноўгарад, убачыўшы імкненне Пскова вызваліцца з-пад яго ўлады, і звярнуўся па дапамогу да Івана Каліты, які і даў зразумець, што ён не пацерпіць умяшання Гедзіміна ў справы Пскова і стане на бок Ноўгарада. Як бачна, калі ў ранейшыя часы Полацк меў справу толькі з Псковам і Ноўгарадам як са сваімі праціўнікамі, то ВКЛ як пераемнік полацкай палітыкі ў адносінах да гэтых земляў стала мець справу не толькі з імі, але (і галоўным чынам) з Масквой. Так пачаліся беларуска-маскоўскія супярэчнасці, якія ў далейшым і стануць адным з найгалоўнейшых і найбольш адмоўных фактараў гісторыі Беларусі.

Нягледзячы на першую няўдачу, Гедзімін не спыніў сваёй палітыкі ў адносінах да Пскова. Але калі раней ён дамагаўся гэтага горада і яго воласці як сваёй спадчыны, то цяпер выкарыстаў цвярскога князя Аляксандра Міхайлавіча, які трапіў тады ў складаную палітычную сітуацыю за дзеянні супроць татараў. Выгнаны са свайго пасада Іванам Калітой па патрабаванні Арды, ён вымушаны быў уцякаць у Пскоў, дзе яго прыязна прынялі і выбралі за князя (гэтаму садзейнічаў і Гедзімін). Усё тое зноў-такі было не даспадобы Ноўгараду, які бачыў тут спробу адасаблення ад яго Пскова. І наўгародцы зноў знайшлі дапамогу ў Маскве, адкуль да іх з войскам прыйшоў Іван Каліта. Ды не толькі ён, але і маскоўскі мітрапаліт Феагност, на што трэба звярнуць асаблівую ўвагу, бо гэта паказвае, якой надзейнай духоўнай зброяй у руках маскоўскіх князёў была праваслаўная царква.

Даведаўшыся, што Іван Каліта хоча ісці з Ноўгарада на іх, пскоўцы заявілі пра свой намер абараняць горад да канца. Гэта напалохала Івана Каліту, і ён звярнуўся да мітрапаліта Феаг-

носта з просьбаю: калі горад не адмовіцца ад Аляксандра Міхайлавіча, застрашыць пскоўцаў пракляццем. Мітрапаліт так і зрабіў. Аляксандр Міхайлавіч мусіў пакінуць Пскоў і знайсці прыстанішча ў Гедзіміна. І гэта зразумела. Гедзімін праз сваю прыхільнасць да Аляксандра Міхайлавіча дэманстраваў зацікаўленасць лёсам Пскова. І калі Іван Каліта са сваёй дружынаю вярнуўся з Ноўгарада ў Маскву і заняўся іншымі справамі, якія адцягвалі яго ўвагу ад Пскова, то, прабыўшы паўтара года ў ВКЛ, Аляксандр Міхайлавіч па просьбе пскоўцаў і, вядома ж, з дапамогай Гедзіміна зноў вярнуўся ў гэты горад[45].

Але гэтага, каб уцягнуць Пскоў у залежнасць, для Гедзіміна было яўна недастаткова. Мітрапаліт Феагност зноў выходзіць на першы план у справе ўтрымання Пскова пад уладаю Ноўгарада, а тым самым і пад уладаю Масквы. Рэч у тым, што Пскоў, не маючы свайго епіскапа, залежаў ад наўгародскага ўладыкі. А ў той час, як мы ўжо ведаем, з прыкладу таго ж Феагноста, царкоўная ўлада як найлепш мацавала ўладу палітычную. Вось чаму без выхаду з-пад царкоўнай улады Ноўгарада (гэта магло адбыцца толькі ў выніку атрымання свайго епіскапа) Пскоў не мог канчаткова пазбавіцца залежнасці ад яго. Гэта добра разумеў і Гедзімін. У 1331 г., па ўсім відаць, не без ініцыятывы самога вялікага князя, калі мітрапаліт Феагност быў у Ноўгарадзе-Валынскім, пскоўцы звярнуліся да яго з просьбаю даць ім у епіскапы манаха Арсенія. Мітрапаліт добра ведаў, чым гэта можа скончыцца, і таму рашуча адмовіў.

Няўдача палітыкі Гедзіміна ў адносінах да Пскова, як бачна, была найперш вынікам шчыльнай сувязі апошняга з Ноўгарадам, якому таксама на працягу стагоддзяў супрацьстаяў Полацк. Таму зразумела, што ўзаемаадносіны з Псковам арганічна перараcraсталі ва ўзаемаадносіны з Ноўгарадам і вызначалі іх характар. Ноўгарад не выпускаў з-пад сваёй улады Пскоў, абапіраючыся на Маскву. І ў той жа час ён не хацеў апынуцца пад яе ўладаю сам, а таму ішоў на саюз з ВКЛ.

Вось гэтую супярэчнасць становішча Ноўгарада і выкарыстоўваў у сваіх інтарэсах Гедзімін, асабліва калі абвастраліся наўгародска-маскоўскія адносіны.

У 1333 г. Іван Каліта на адмову Ноўгарада аддаць яму «закамскае срэбра», захапіў падуладныя наўгародцам Таржок і Бежацкі верх. І вось Ноўгарад, каб паказаць сваю моцную апору, бярэ да сябе Гедзімінавага сына Нарымонта-Глеба і аддае яму ў кармленне Ладагу, Арэхавец, Карэльскую зямлю і палову Капор'я[46]. Гэта паказала Івану Каліце, хто з'яўляецца яго галоўным праціўнікам у справе збірання вакол Масквы рускіх земляў. У выніку адносіны паміж дзяржавамі абвастрыліся, і Іван Каліта сабраўся ісці супроць Гедзіміна вайною. Апошні не мог не разумець усёй небяспекі гэтага, ведаючы, што за спіной Масквы стаіць дапамога Арды, і таму пастараўся скончыць справу мірам, падмацаваўшы яго шлюбам сваёй дачкі Аўгусты з сынам Івана Каліты Сімяонам. З свайго боку, і Іван Каліта пайшоў Ноўгараду на ўступкі, адмовіўшыся ад ранейшых патрабаванняў. Трэба зазначыць, што прыняцце Нарымонта ў Ноўгарад таксама не дало патрэбных вынікаў для Гедзіміна. Баючыся Масквы, Ноўгарад не хацеў падпасці і пад уладу ВКЛ і аддаць яму частку сваёй тэрыторыі. Таму ён дыпламатычна перадаў Нарымонту тыя землі, якія не межаваліся з Княствам. Зразумела, Нарымонт не мог быць вельмі зацікаўленым у гэтым, і большую частку жыцця праводзіў на радзіме, пакінуўшы на наўгародскіх землях сына Аляксандра. А калі ў 1337 г. на гэтыя землі напалі шведы, ён, не жадаючы ваяваць з імі, назаўсёды са сваім сынам вярнуўся на радзіму.

Аднак гэтымі няўдачамі не закончылася для ВКЛ барацьба за Пскоў і Ноўгарад. Гэта быў толькі пачатак аднаўлення традыцыйнай полацкай палітыкі.

## УЗАЕМААДНОСІНЫ З РЫГАЙ І ОРДЭНАМ

Але не толькі пскоўска-наўгародскімі справамі Полацка павінен быў займацца Гедзімін. Адначасова не меншую ўвагу ён змушаны быў удзяляць і яшчэ больш важнаму клопату Полацка — яго барацьбе з крыжакамі. І гэта зразумела, бо калі ў першым выпадку Полацк наступаў, то ў другім — абараняўся ад свайго найбольш небяспечнага ворага. З пачатку XIII ст., захапіўшы ў Полацка Ніжняе Падзвінне, крыжакі не спынілі далейшага націску на крывіцкую зямлю, робячы на яе рабаў-

нічыя набегі і беручы ў палон яе людзей. Усё гэта знясільвала Полацкую зямлю. Абарона Полаччыны, якая з'яўлялася важнейшай складовай часткаю ВКЛ як у эканамічных, так і ў культурных адносінах, станавілася галоўнай задачай дзяржавы, што і знаходзіла выяўленне ў дзейнасці Гедзіміна.

Наколькі князя непакоілі беды, што прыносілі крыжакі Полацкай зямлі, сведчыць яго пасланне біскупам дэрпцкаму, эзэльскаму, дацкаму намесніку Рэвельскай зямлі і Радзе г. Рыгі ад 22 верасня 1324 г. Вось красамоўнае сведчанне таго, што тварылі крыжакі: уварваўшыся «ў зямлю полацкую, яны яе варожа разарылі, людзей і коней захапілі... таксама роўна 40 дзён пасля гэтага яны зноў, як драпежныя варвары, жорстка спустошылі тую зямлю, бязлітасна забілі 80 людзей, а некаторых павялі з сабою разам з 50 коньмі, адзеннем і іншым дабром»[47]. Трэба думаць, што пасланне Гедзіміна і прынятыя ім захады аб спыненні такіх дзеянняў з боку лівонцаў мелі вынікі.

Крыжацкая пагроза для Полацка ішла непасрэдна з боку Лівонскага ордэна, паміж якім, з аднаго боку, і з рыжскім архібіскупам і магістратам Рыгі, з другога, ужо доўгі час існавала ўзаемная варожасць. Гэтую акалічнасць і выкарыстаў Гедзімін: ён стаў на бок Рыгі, што дыктавалася інтарэсамі Полацка, для якога выгадна было трымаць гандлёвыя сувязі з Рыгай. Немалаважным было і тое, што гэта намнога аслабляла пазіцыю Лівонскага ордэна і змушала яго на заключэнне міру, што найперш ішло на карысць таксама Полацка.

Апроч таго, Гедзімін імкнуўся выклікаць з еўрапейскіх краін у сваю дзяржаву каланістаў, найперш рознага роду рамеснікаў, якія б пашыралі сваё высокае майстэрства і культуру сярод насельніцтва ВКЛ[48]. Трэба зазначыць, што тут Гедзімін браў прыклад з Полацка, які ўжо з даўніх часоў меў цесныя сувязі з Захадам, заключаў з Рыгаю гандлёвыя ўмовы. У выніку ў галоўным горадзе крывічоў і ў іншых цэнтрах яго зямлі жыло нямала выхадцаў з заходніх краін, што садзейнічала больш высокаму ўзроўню яго культуры ў параўнанні з іншымі землямі ВКЛ. Усё гэта не магло застацца па-за ўвагаю Гедзіміна. У 1323 г. ён накіраваў некалькі пасланняў да жыхароў заходніх гарадоў з запрашэннем пераязджаць у яго дзяржаву, дзе ім будуць забяспечаны выгадныя ўмовы. Рыжскі магістрат паспрыяў вялікаму князю, падрадзіўшыся рассылаць гэтыя

пасланні па гарадах, куды яны былі адрасаваныя, і паручыўшыся за іх сапраўднасць. Як бачым, саюз з Рыгай даваў Вялікаму княству значныя выгоды.

## ПРА ШТО ПАСВЕДЧЫЎ ЛЕТАПІС ПАД 1326 г.

Палітыка Гедзіміна ў адносінах да Рыгі і Ордэна і прывяла да заключэння ў 1326 г. міру, адначасова і з немцамі, і з Ноўгарадам. Аб гэтым у летапісе зроблены такі запіс: «того же лета приехаша послы из Литвы брат Гедиминов князя литовского воин Полоцкий Василий Менский князь Федор Святославич и доконаша мир с Новгородци и с Немци»[49]. Хаця гэты запіс, як мы бачым, вельмі лаканічны і таму ў многім таямнічы, аднак ён захоўвае важную для нас інфармацыю. Мы ў свой час ужо разглядалі гэты запіс у сувязі з высвятленнем прыналежнасці названых тут гістарычных асобаў і прыйшлі да высновы, што гаворка ідзе тут не пра трох, як гэта сцвярджалася некаторымі даследчыкамі, а пра двух чалавек: пра полацкага валадара, княжацкае імя якога было Воін, а хрысціянскае — Васілій, і пра менскага князя Фёдара Святалавіча[50].

Што ж да таго, ці быў Воін-Васілій братам Гедзіміна, як аб гэтым сказана ў летапісе, то адзначым, што ў некаторых іншых крыніцах (летапіс Аўраамкі, Сафійскі I, Ніканаўскі, Васкрасенскі і інш.) аб гэтых асобах сказана не «брат», а «братня», гэта значыць, што не толькі Воін-Васілій, але і Фёдар Святаславіч быў братам Гедзіміна. Апошні факт прымушае сумнявацца, ці былі яны абодва братамі Гедзіміна. Як ужо намі адзначалася, у князёў быў звычай называць адзін аднаго братам нават пры адсутнасці сваяцтва. Усё гэта дае важкія падставы сумнявацца ў тым, што Воін-Васілій, а тым болей Фёдар Святаславіч, былі братамі Гедзіміна.

Але найбольшую цікавасць у высвятленні асобы Воіна ўяўляе тое, што адзначанае летапіснае паведамленне — адзінае сведчанне пра гэтага князя. І тут паўстае пытанне: калі ён пачаў княжыць у Полацку? У свой час В. Даніловіч меркаваў, што Воін мог стаць полацкім князем толькі пасля смерці Віценя, які, маўляў, у 1307 г. захапіў Полацк і, далучыўшы яго да сваіх уладанняў, не даў яму асобнага князя, пра што нібыта

сведчыць грамата епіскапа Якава[51]. Мы ўжо казалі пра выдуманасць полацкіх падзей, якія нібыта адбываліся ў 1307 г.[52] Віцень не мог заваёўваць Полацк, бо ў гэтым не было патрэбы, паколькі Полацкая зямля ўвайшла ў склад ВКЛ яшчэ ў 60-х гг. XIII ст. пры Войшалку. Тое, што Полацкая грамата была пасланая ў Рыгу ад імя епіскапа, яшчэ не гаворыць аб адсутнасці ў Полацку князя. Епіскап падпісваў граматы і тады, калі ў Полацку быў князь, як гэта мы бачым у 1328 г.[53] Такім чынам, час пачатку княжання Воіна ў Полацку для нас застаецца зацемненым, але імя яго яскрава сведчыць, што ён належаў да полацкай дынастыі, якая, як бачна, прадаўжала панаваць у сваёй спадчыннай зямлі, у той час як ва ўсёй дзяржаве панавала яе віленскае адгалінаванне.

Паказальна таксама і ўпамінанне менскага князя. На працягу амаль 170 гадоў з часу, калі ён вёў міжусобную барацьбу з Полацкам, у 50—60-х гг. XII ст., Менск быў знік з нашых летапісаў, і мы нічога не ведаем аб яго гісторыі ў гэты час. І вось, як выяўляецца, Менск не толькі не заняпаў у сваім развіцці, але і захаваў свой удзел, а гэта значыць, што ён меў значную палітычную вагу ў дзяржаве, да якой належаў. Пра гэта сведчыць і важнае дзяржаўнае даручэнне, што выконваў менскі князь.

Менавіта пасольская місія полацкага і менскага князёў уяўляе для нас найбольшую цікавасць. Вядома ж, такое даручэнне гэтым князям не было выпадковым. Па-першае, мы маем яскравае сведчанне таго, хто выконваў дыпламатычныя даручэнні Гедзіміна — прадстаўнікі беларускіх земляў. Па-другое, гэта адначасова сведчыць, што ў міры з Ноўгарадам і немцамі былі найперш зацікаўлены Полацкая і Менская землі. Мір падпісваўся адначасова з двума праціўнікамі, і гэта забяспечвала на пэўны час знешнюю бяспеку.

## І ХРЫСЦІЯНСТВА, І ЯЗЫЧНІЦТВА

У гістарычнай літаратуры пануе думка, што ВКЛ да Крэўскай уніі было язычніцкай дзяржавай і што, натуральна, яе ўзначальвалі вялікія князі-язычнікі. Аднак такое сцверджанне, як і шэраг іншых, што датычыць гісторыі гэтай дзяржавы,

з'яўлясцца вынікам тэндэнцыйнасці даследчыкаў, якія наўмысна не ўлічвалі відавочныя гістарычныя факты.

Як можна гаварыць аб ВКЛ як язычніцкай дзяржаве, прынамсі, да Крэўскай уніі, калі ўжо першай яе сталіцаю стаў праваслаўна-хрысціянскі Навагародак, а яе першы вялікі князь Міндоўг, перш чым заняць свой пасад, павінен быў у 1246 г. разам са сваімі баярамі прыняць «веру Христову от Востока»[54] (г. зн. праваслаўе). У 1252 г. ён з палітычных мэт прымае каталіцкую веру і каралеўскую карону ад рымскага папы[55]. Другі вялікі князь Войшалк — сын Міндоўга — быў, як вядома, настолькі аддаяы праваслаўю, што прыняў манаскі чын і заснаваў манастыр[56]. Свой велікакняскі пасад Войшалк перадаў праваслаўнаму Шварну — сыну Данілы Галіцкага[57]. Не мог быць язычнікам і наступны вялікі князь Трайдзень, хаця ён такім і характарызуецца ў Галіцка-Валынскім летапісе, а адсюль і ў гістарычнай літаратуры. Як мы ўжо зазначалі, ён не мог быць язычнікам і тым больш літоўцам, бо меў славянскае імя, як, дарэчы, і яго чатыры браты, што, паводле таго ж Галіцка-Валынскага летапісу, з'яўляліся хрысціянамі. У той час існавала завядзёнка называць бязбожнікамі, паганымі, язычнікамі ўсіх сваіх ворагаў незалежна ад веравызнання. Яскравы прыклад — Трайдзень, які зацята ваяваў з галіцка-валынскімі князямі і атрымаў ад іхняга летапісца адпаведную характарыстыку. Ды зноў-такі праваслаўны Навагародак, асабліва калі ўлічыць, што перад гэтым тут княжыў надзвычай шчыры праваслаўны Войшалк, не пацярпеў бы на сваім пасадзе язычніка. А ці мог Віцень, будучы язычнікам, увесці дзяржаўны герб — «Пагоню», дзе на шчыце «збройнага» рыцара была выява крыжа?[58] Невыпадкова таксама ж тое, што полацкі епіскап Якаў называў Віценя «сынам сваім»[59].

Пасля прыведзеных відавочных фактаў наўрад ці можна гаварыць, што Гедзімін быў язычнікам і што ён быў «першым з літоўскіх вялікіх князёў, якія зразумелі неабходнасць прыняцця хрысціянства»[60]. Аднак менавіта ў сувязі з Гедзімінам і найбольш сцвярджаецца аб перавазе язычніцтва ў ВКЛ. Што ж з'явілася падставай для такога погляду. Гэтаму садзейнічала некалькі акалічнасцяў. Найперш успрыняцце Княства як краіны, дзе дамінавала язычніцтва, ішло з Ордэна і Рыгі, паколькі яны межаваліся з Жамойціяй, што сапраўды

была язычніцкай. Дзякуючы гэтаму і стваралася ўражанне, нібыта язычніцтва пануе ва ўсім ВКЛ, а Гедзімін — кароль язычнікаў, што і знайшло адбіццё ў нямецкіх хроніках.

Аднак гэта зусім не адпавядае сапраўднасці. Жамойція і іншыя балцка-літоўскія землі складалі ў дзяржаве значна меншую частку абшару ў параўнанні з беларускімі, якія дамінавалі ў ёй і насельніцтва ў якіх было ў цэлым хрысціянска-праваслаўным. І таму паўстае пытанне: ці магло яно падначальвацца вялікаму князю-язычніку?

Але найбольш важным аргументам на карысць перавагі язычніцтва ў ВКЛ з'яўляецца шэраг дакументаў 1322—1324 гг., якія нібыта сведчаць аб намеры Гедзіміна ахрысціць сваю дзяржаву ў каталіцкую веру. І сапраўды аб гэтым сведчыць пасланне Гедзіміна рымскаму папу Іаану XXII у 1322 г.[61] Аднак дэталёвы разгляд гэтага і іншых, звязаных з ім, дакументаў наводзіць на думку, што гаворка ішла не столькі аб хрышчэнні язычнікаў, колькі аб перахрышчэнні праваслаўных у католікаў. Так, у лісце стража прускіх мінарэтаў Мікалая да вернікаў ад 25 лістапада 1323 г. гаворыцца аб Гедзіміне, што ён «жадае з усімі прыбліжанымі і з усім каралеўствам ахрысціцца»[62]. Зразумела, што ўсе «прыбліжаныя» Гедзіміна і ўсё яго каралеўства не складалася толькі з язычнікаў. Можа, гэта непраўдзівае сведчанне? Але вось у буле Іаана XXII ад 1 чэрвеня 1324 г., якая павінна была служыць інструкцыяй і адначасова пацвярджаць паўнамоцтвы легатаў, якія накіроўваліся да Гедзіміна з мэтаю хрышчэння, увесь час гаворыцца аб «схізматыках», якія павінны будуць прызнаць уладу папы рымскага, а пра літоўскіх язычнікаў у ёй прама не ўпамінаецца, і нават сам Гедзімін лічыцца, як відаць, схізматыкам[63]. Такім чынам, папскае пасольства ехала да Гедзіміна з яснай мэтай: перавесці праваслаўнае насельніцтва (у тым ліку і самога Гедзіміна), г. зн. «схізматыкаў», у каталіцкую веру. Прычына такога намеру Гедзіміна ясная: ён хацеў тым самым пазбавіцца ад нападаў крыжакоў. Яго пасланне да папы перапоўнена скаргамі на крыжакоў і шматлікімі фактамі разбурэнняў і рабаўніцтваў, што чыніліся крыжакамі. Магчыма, прыняцце каталіцтва пазбавіла б, на ягоную думку, крыжакоў аднаго з іх заўсёдных і галоўных апраўданняў, што, маўляў, усё рабілася пад знакам пашырэння веры Хрыстовай, і менавіта — каталіцкай. Аднак

рэч у тым, што, калі пасольства прыбыло ў Вільню і перайшло непасрэдна да клопатаў аб хрышчэнні, Гедзімін адмовіўся ад ранейшага намеру, сказаўшы, што ён гэтага не прасіў пісаць у сваім пасланні і што яго словы пра хрышчэнне самахоць напісаў яго сакратар манах Бертольд[64].

Але ўсё-такі калі меркаваць, што Гедзімін меў сапраўды намер правесці хрышчэнне ў каталіцкую веру (а гэта пацвердзіў яго перакладчык)[65], дык што прымусіла яго адмовіцца? Адказ далі папскія легаты. Яны даведаліся, што супроць хрышчэння выступілі жамойты, але не па сваёй ініцыятыве, а па нагаворы прускіх крыжакоў, ад якіх яны атрымлівалі багатыя дары[66]. Што ж, гэта цалкам зразумела, бо ў выпадку хросту існаванне прускага Ордэна страціла б усялякі сэнс, паколькі ён меў сваім галоўным абавязкам пашыраць хрысціянства сярод язычнікаў, у тым ліку і сярод жамойтаў.

Варта таксама падкрэсліць: хрышчэнне ў каталіцкую веру сарвалася не толькі па віне падкупленых жамойтаў, але і ў выніку пазіцыі праваслаўнага насельніцтва, што таксама адзначана ў згаданым раней дакуменце[67]. Якраз другая прычына і была галоўнаю, бо праваслаўныя складалі ў краіне большасць. Апроч таго, сталіца дзяржавы Вільня таксама была пераважна славянскім горадам і моцным асяродкам праваслаўя. Гедзімін не мог з усім гэтым не лічыцца, што, па сутнасці, і закрэсліла захады па прыняцці каталіцтва.

## У ДУХУ ПОЛАЦКІХ ТРАДЫЦЫЙ

Яшчэ ў свой час В. Васільеўскі заўважыў падабенства стылю адказаў Гедзіміна папскім паслам са стылем граматы полацкага епіскапа Якава. Указваючы на словы Гедзіміна, што ён гатовы прызнаць папу айцом, бо апошні старэйшы за яго, даследчык адзначаў: «Яны (гэтыя словы Гедзіміна. — *М. Е.*) прасякнутыя тым жа духам, які чуецца ў словах полацкага епіскапа Якава, які называў і рыжскіх ратманаў, і князя Віценя, і палачанаў дзецьмі сваімі, а мітрапаліта айцом. Гэты дух адчуваецца ў словах іншых літоўскіх князёў, што засвоілі рэлігійныя і асабліва народныя погляды епіскапа полацкага»[68].

Сапраўды, у дзеяннях і словах Гедзіміна, як і іншых вялікіх князёў літоўскіх, да Крэўскай уніі яскрава адчуваецца верацярпімасць палачанаў, што выявілася і ў дзейнасці іх князёў. Яшчэ Генрых Латвійскі зазначыў у сваёй «Хроніцы Лівоніі», што полацкія князі не навязвалі падначаленым прыбалтыйскім язычніцкім плямёнам хрысціянскай веры, а задавольваліся толькі данінай з іх[69]. Верацярпімасць панавала і ў адносінах да язычнікаў на карэнных полацкіх землях. Гэтым мы можам растлумачыць той факт, чаму на тэрыторыі Полаччыны аж да канца XIV ст. існаваў шэраг язычніцкіх астравоў: у ваколіцах Абольцаў (цяперашні Талачынскі р-н), Гайны (Лагойскі р-н) і інш. Тут жыло балцкае насельніцтва, на якое ў час хрышчэння Русі ў канцы X ст. хрысціянства не пашыралася і якое ўжо, відаць, асімілявалася беларусамі, але захавала язычніцтва. Такое становішча магло існаваць толькі там, дзе этнічная асіміляцыя і пашырэнне хрысціянства праходзілі «без шуму і гвалту», як вельмі слушна вызначыў гістарычны почырк беларусаў у адносінах да іншапляменнікаў і іншаверцаў А. Качубінскі.

Надзвычай яскрава выяўляецца гэты почырк і ў Гедзіміна. Ён увесь час падкрэслівае сваю верацярпімасць, заяўляючы, напрыклад: «Няхай хрысціяне шануюць бога свайго па-свойму, рускія — па-свойму, палякі — па-свойму, а мы шануем бога па нашаму звычаю»[70]. Гэтыя словы на першы погляд могуць гаварыць на карысць таго, што Гедзімін сапраўды быў язычнікам, калі ён сябе аддзяляе ад хрысціянаў, рускіх і палякаў. Але згаданае Гедзімінам выслоўе вельмі супярэчлівае, каб рабіць з яго такую выснову. Сапраўды, калі пад хрысціянамі ён разумеў крыжакоў, то чаму ён асобна ад іх называў палякаў, што, як і крыжакі, былі каталікамі. І наогул, гэтыя словы Гедзіміна даюць падставу лічыць і палякаў, і рускіх таксама язычнікамі, паколькі яны аддзеленыя ад хрысціянаў. Такім чынам, сказанае вялікім князем можа толькі пацвярджаць яго талерантнасць. А гэта значыць, што ў Княстве панавала не толькі полацкая дзяржаўная палітыка, але і полацкая ідэалогія, якая мела на мэце мірную, «без шуму і гвалту» асіміляцыю і хрысціянізацыю язычніцкага насельніцтва. Вось у чым і трэба найперш бачыць прычыну няўдачы ўсёй вышэйапісанай і заблытанай да неверагоднасці гісторыі са спробаю акаталічвання не толькі язычніцкага, але, магчыма, і праваслаўнага насельніцтва ВКЛ. Гэта хрышчэнне, задуманае як аднаразовы акт,

мела б гвалтоўны характар і супярэчыла б духу полацкіх традыцый, а таксама і духу Гедзіміна як іх выразніка, што і прывяло вялікага князя да адмовы ад ранейшага намеру (калі такі сапраўды ў яго быў, у чым, як мы бачылі, ёсць вялікія сумненні).

Незалежна ад таго, ці намер прыняць каталіцтва ішоў ад Гедзіміна, ці не ад яго, гэтая задума была асуджана на правал. І не толькі таму, што яе не магла прыняць ні праваслаўная большасць, ні язычніцкая меншасць, у прыватнасці Жамойція. Яна магла таму і мірыцца з праваслаўнай большасцю, што не бачыла з яе боку ніякага рэлігійнага прымусу. Іншая рэч — стаўленне да каталіцтва, якое жамойты атаясамлівалі з гвалтам, бо якраз такім шляхам яно насаджалася крыжакамі. Зразумела, што яны інакш, як варожа, паставіцца да намеру прыняць каталіцтва не маглі. Яны маглі мірыцца з праваслаўным князем, а не з каталіцкім. Такія разважанні прыводзяць да высновы, што Гедзімін, відаць, быў праваслаўным, асабліва калі нагадаць, што праваслаўнымі былі дзве яго жонкі. Наўрад ці яны рызыкнулі б выходзіць замуж за язычніка. Праваслаўнымі, як убачым далей, былі і Гедзімінавы сыны.

Трэба адзначыць, што ў самы апошні час у літаратуры з'явіліся звесткі аб тым, што Гедзімін, нягледзячы на першую няўдачу з хрышчэннем, зрабіў другую спробу ў 1340—1341 гг. Гэтым разам ён нібыта звязаўся з Чэхіяй, адкуль і прыйшло дзесяць ксяндзоў, каб прынесці язычнікам хрысціянства. Аднак, як адзначыў чэшскі храніст Бенеш, ад якога і ідуць згаданыя звесткі, «свае, парадзіўшыся, самога князя атрутаю атруцілі»[71]. Як бачым, гэтае паведамленне ўносіць пэўныя карэктывы ў наша ўяўленне аб жыццёвым фінале Гедзіміна: ён не загінуў у баі, як гаварылася раней, а быў атручаны сваімі.

Цяжка сказаць, чаму гэтая крыніца не была вядома даследчыкам да самага апошняга часу і наколькі ёй можна давяраць. Магчыма, што яна і бясспрэчная, асабліва калі ўлічыць, што, паводле яе, Гедзіміна атруцілі «свае», гэта значыць, што параненйшаму хрышчэнню ў каталіцтва супраціўлялася ўсё насельніцтва дзяржавы — як праваслаўныя, так і язычнікі.

Такім чынам і ў часы Гедзіміна ВКЛ было пераважна хрысціянскай краінай, дзе панаваў дух цярпімасці да язычніцкай меншасці. А гэта і стварала атмасферу непрыняцця новай рэлігіі.

## САЮЗ З ПОЛЬШЧАЙ, ЯГО ПЛЮСЫ І МІНУСЫ

І ўсё ж менавіта ў той перыяд пачала нараджацца пагроза для мірнага суіснавання хрысціянства і язычніцтва, якое існавала ў ВКЛ.

Крыжацкі Ордэн быў адначасова ворагам і Вялікага княства і Польшчы. А гэта, натуральна, не магло не прывесці да ідэі адзінства суседніх дзяржаў для сумеснай барацьбы са смяртэльна небяспечным праціўнікам. Перад Гедзімінам паўстала перспектыва ў змаганні з хрысціянска-каталіцкім Ордэнам уступіць у саюз з такой жа хрысціянска-каталіцкай Польшчай. А апошняя, ваюючы з Ордэнам, у той жа час і вучылася ў яго. Яна добра разумела, што для крыжакоў пашырэнне каталіцтва было адначасова і заваяваннем тых земляў, куды яны прыносілі сваю веру. Менавіта такую тактыку і пераймалі польскія вярхі ў крыжацкіх верхаводаў.

Пашырэнне каталіцкай веры стала асноўным напрамкам і польскай экспансіі. І хоць гэта з усёй выразнасцю выявілася пазней, ужо пасля Крэўскай уніі, аднак тагачаснае збліжэнне Польшчы і ВКЛ з'явілася своеасаблівым пралогам гэтае экспансіі. Зразумела, што такі погляд польскіх вярхоў на пашырэнне каталіцызму не мог ажыццяўляцца ў Вялікім княстве без прымусу, зноў-такі выклікала непазбежнасць падначалення першай.

Ужо пры Гедзіміне, як сведчаць яго пасланні, каталіцтва пранікае ў ягоную дзяржаву, для чаго ў Навагародку і Вільні ўзводзіліся касцёлы[72]. Сам вялікі князь клапаціўся аб прыездзе манахаў, якія добра ведаюць польскую мову[73]. Як у свой час полацкі князь Уладзімір даваў нямецкаму манаху Мейнарду дазвол на хрышчэнне надуладных Полацку ліваў, не падазраючы, што гэтым самым ён адкрываў дарогу для крыжацкай агрэсіі, так і талерантны Гедзімін не толькі не супраціўляўся, але і садзейнічаў пранікненню каталіцызму ў ВКЛ, зноў-такі не падазраючы, што ён адкрывае дарогу польскай экспансіі.

Але, магчыма, Гедзімін пазней зразумеў усю небяспеку прыходу каталіцызму ад Польшчы, як і ад Ордэна. І таму, калі верыць паведамленню чэшскага храніста Бенеша, вырашыў прыняць каталіцтва ад чэхаў, што, вядома, магло б істотна заблытаць карты польскім вярхам. Таму, калі падзеі разгорт-

валіся сапраўды так, нельга дзівіцца жорсткай расправе з Гедзімінам, да чаго пэўна ж прыклалі руку і польскія стаўленікі ў Вільні (магчыма, яны — найперш). Але ўсё гэта будзе пасля, тым больш што пачаўся працэс палітычнага збліжэння дзвюх суседніх дзяржаў на грунце адзінай барацьбы з крыжакамі.

Насамперш заслугоўвае ўвагі тое, што ініцыятыва заключэння саюзу была пададзеная з боку Польшчы. І гэта невыпадкова. Польшча ўжо даўно і даволі балюча цярпела ад нямецкай агрэсіі. Варта нагадаць, што яшчэ Уладзіслаў IV Кучаравы, які быў каралём з 1147 па 1173 г., адмовіўся на карысць немцаў ад славянскай зямлі паміж Одэрам і Эльбай (тады гэтыя рэкі мелі яшчэ славянскія назвы — Одра і Лаба). Пагроза нямецкай агрэсіі ўсё больш навісала над Польшчай, якая, не маючы патрэбных сіл, магла толькі абараняцца. А ёй трэба было наступаць, бо толькі пры такой умове яна магла спыніць нямецкі наступ. Вядома, у такім становішчы трэба было шукаць надзейнага саюзніка. Ім быў выбраны ўсходні сусед — ВКЛ. Па-першае, для яго нямецкая пагроза была таксама выключна небяспечнай, і гэта рабіла яго саюзнікам надзейным. Па-другое, Польшча бачыла ў асобе свайго ўсходняга суседа магутную сілу, удары якой адчула на сабе. Аб гэтым асабліва добра пасведчыў магутны ўдар беларускіх войскаў на чале з Давыдам Гарадзенскім на Добрынскую зямлю. Польшча хацела мець на ўсходзе не небяспечнага ворага, а моцнага саюзніка. І ў гэтым яна не памылілася.

Збліжэнне Польшчы з Вялікім княствам пачалося, як гэта было тады зазвычаена, з завязвання сваяцтва паміж каранаванымі асобамі дзвюх дзяржаў. Польскі кароль Уладзіслаў Лакетка паслаў у Вільню некалькіх сваіх магнатаў з мэтаю сватаць за свайго адзінага сына дачку Гедзіміна Альдону (у «Хронікі Быхаўца» яна называецца Ганнай і адзінай дачкой Гедзіміна[74], але гэта не адпавядае сапраўднасці, бо ў Гедзіміна было тры дачкі). Вялікі князь даў на гэта згоду, і Ганна выправілася ў Кракаў, узяўшы з сабою ў якасці вена вялікую колькасць польскіх ваеннапалонных. Шлюбная ўрачыстасць прайшла з бляскам. Польскі кароль у гонар гэтай падзеі нават устанавіў ордэн Белага Арла[75]. 28 чэрвеня 1325 г. паміж Уладзіславам і Гедзімінам быў заключаны наступальны і абарончы саюз супроць Ордэна.

З гэтай жа прычыны і па такім самым сцэнарыі адбылося збліжэнне з Гедзімінам Мазавецкага князя Трайдзеня. Ён таксама ажаніў свайго сына з Гедзімінавай дачкой Марыяй, пасля чаго быў заключаны аналагічны дагавор. Цікава зазначыць, што незадоўга перад гэтым князь Трайдзень разам з другім мазавецкім князем Самавітам у сваім лісце да рымскага папы Іаана XXII пісаў аб марнасці заключэння міру з Гедзімінам і аб тым, што Ордэну трэба па-ранейшаму весці з ім вайну[76]. Што ж, такая змена ў паводзінах да Ордэна не была выпадковай. Трайдзень пад націскам варожых сілаў павінен быў зразумець, што ордэнская агрэсія такая ж небяспечная і для яго, як і для ВКЛ. Гэтым самым ён выправіў памылку свайго прадзеда Конрада Мазавецкага, які ў 1227 г. для барацьбы з прусамі, што нападалі на яго землі, запрасіў крыжакоў, чым дапамог ім умацавацца ў Прыбалтыцы і ў далейшым стаць самымі заядлымі ворагамі палякаў.

Бясспрэчна, што збліжэнне Польшчы і ВКЛ было ўзаемавыгаднай справай. І ўсё ж яно было больш выгаднае для Польшчы. Пра гэта красамоўна сведчыць ужо тое, што якраз ёй і належала ініцыятыва. І сапраўды, Польшча, усё больш знемагаючыся ад барацьбы з крыжакамі, паступова траціла свае землі. У літаратуры выказана думка, што, збліжаючыся з Польшчай, Гедзімін знайшоў сабе саюзніка ў барацьбе з Ордэнам[77]. Аднак усё было наадварот, моцнага саюзніка набыў сабе не Гедзімін, а Польшча.

Польшча ў гэты час была ўцягнута ў канфлікт папы з германскім імператарам Людовікам Баварскім, прычым стаяла на баку першага, у той час як другога падтрымлівалі крыжакі. Таму ўдар па іх сапраўды быў ударам па іх саюзніку і па Ордэну. З улікам гэтага і можна зразумець, чаму ў 1326 г. быў зроблены сумесны паход войск Польшчы і Вялікага княства на Брандэнбург, дзе ўладарыў сын Людовіка Баварскага. Гэта вайсковая акцыя была найбольш удалая, відаць, шмат у чым дзякуючы таму, што войска Вялікага княства (яно складалася з 1200 вершнікаў) узначальваў Давыд Гарадзенскі. Менавіта ягоная конніца і адыграла ў разгроме брандэнбургскага войска вырашальную ролю, забраўшы шмат багацця і павёўшы з сабою звыш 6000 палонных[78]. На жаль, як мы ўжо ведаем, гэта быў апошні паход выдатнага беларускага палкаводца. У час



*Давыд Гарадзенскі.*

*Малюнак В. Сташчанюка*

вяртання ён быў забіты мазавецкім рыцарам Андрэем па прозвішчу ці то Госць ці то Гасцінскі[79].

Не менш паспяховым атрымаўся паход туды ў сакавіку наступнага 1327 г., што ўзначальваў сын Гедзіміна Альгерд, які тады быў віцебскім князем. Ён прасунуўся аж да Франкфурта-на-Одэры і таксама вярнуўся з багатай здабычай.

Вайна была зацяжной і ішла з пераменным поспехам. У 1331 г. пасля пэўнага зацішша яна ўзнавілася. Ордэнскія атрады спустошвалі Куяўскую зямлю, а праз некаторы час прускае і лівонскае войскі ўварваліся ў раён Каліша і Гдыні, дзе шмат нарабавалі і ўзялі вялікі палон. Асабліва трэба спыніцца на бітве пад Плоўцамі 27 верасня 1331 г., якая ў літаратуры падаецца як вялікая перамога войск Польшчы і ВКЛ. Але гэта не зусім так. Сапраўды, напачатку ордэнскія войскі пацярпелі моцнае паражэнне, а іх верхавод Дзітрых нават быў узяты ў палон. Але крыжакі, ачуняўшы ад няўдачы, перайшлі ў наступ, вызвалілі з палону Дзітрыха і нанеслі польскаму войску паражэнне[80].

Перамогі Давыда Гарадзенскага і Альгерда не маглі не ўстрывожыць Прускі ордэн, які неўзабаве летам 1327 г. пачаў вайну з Польшчай і Вялікім княствам.

Толькі ў святле збліжэння Вялікага княства з Польшчай становіцца зразумелай прычына заключэння міру ў 1326 г. полацкім князем Воінам-Васілём і менскім Фёдарам Расціславічам ад імя Гедзіміна з Ноўгарадам і немцамі (пад апошнімі разумеліся лівонцы). Гэта патрэбна было дзеля таго, каб сканцэнтраваць вайсковыя сілы на захадзе, дзе сапраўды і былі атрыманы вялікія перамогі. Нядаўна была выказана думка, што гэта было вялікім дасягненнем палітыкі Гедзіміна, паколькі «Літва ( аўтар пададзенага меркавання разумее ВКЛ выключна як літоўскую дзяржаву ў сучасным значэнні гэтага слова) упершыню сама актыўна ўдзельнічала ў палітыцы Заходняй Еўропы» і што гэта «ўмацоўвала літоўска-польскі саюз»[81]. Аднак той самы аўтар прызнае правал гэтай палітыкі Гедзіміна, што ў далейшым і прывяло «Літву Гедзіміна на край бездані»[82]. І гэта сапраўды так. Па-першае, ВКЛ, як відаць з вышэйсказанага, было ўцягнута ў палітычнае жыццё Заходняй Еўропы не столькі само сабою, колькі Польшчаю, якая найперш выйгравала ад умацавання літоўска-польскага саюзу. Гэта дало ёй магчымасць перайсці ў сутыкненні з крыжакамі ад абароны да наступу. Да таго ж гэты саюз неўзабаве пасля бітвы пад Плоўцамі распаўся. Далейшая ізаляцыя ВКЛ ад еўрапейскіх краін прыпісваецца язычніцтву Літвы. У прыватнасці, Венгрыя ў дадатак да тэрытарыяльных супярэчнасцей, маўляў, не пажадала мець справу з язычніцкай краінай[83]. Аднак гэта не магло быць асноўнай прычынай, бо Вялікае княства ў большай ступені было дзяржавай хрысціянскай. Ды і наогул, паўтараем, ніякага намеру ў Гедзіміна ўмешвацца ў еўрапейскія справы не было. Ён быў уцягнуты ў іх Польшчай на глебе барацьбы з агульным для іх крыжацкім ворагам.

## БАРАЦЬБА З ЛІВОНІЯЙ

Барацьба з крыжакамі была накіравана супроць Прускага ордэна — галоўнага ворага Польшчы, у той час як галоўным ворагам ВКЛ з'яўляўся Лівонскі ордэн. Менавіта ён і выкарыстаў узніклыя спрыяльныя ўмовы, каб умацаваць свае пазіцыі на ўсходзе. Тое, што паход на Брандэнбург у 1326 г. узначальваў Давыд Гарадзенскі, а ў 1327 г. Альгерд, які на той час быў

ужо князем крэўскім і віцебскім, можа сведчыць, што ў гэтых акцыях удзельнічалі пераважна беларускія войскі. Заключэнне міру ў 1326 г. і адцягненне беларускіх збройных сілаў з усходу на захад і садзейнічалі Лівонскаму ордэну ў яго далейшай экспансіі.

Нам ужо добра вядома, што Гедзімін у барацьбе з лівонцамі абапіраўся на Рыгу, якая не прызнавала над сабою ордэнскай улады. Саюз з гэтым горадам найперш быў выгадны Полацку, які ўжо больш за стагоддзе вёў з ім бойкі гандаль. Імкненне парушыць еднасць інтарэсаў Рыгі і Полацка і стала галоўнаю мэтай Лівонскага ордэна.

Ордэн найперш імкнуўся падначаліць Рыгу. Зыходным пунктам стала выстаўленае рыжанам патрабаванне парваць усе сувязі з ВКЛ. Гэта было непрымальным для Рыгі, паколькі найперш падарвала б яе гандаль. Трэба зазначыць, што на частку прыбытку ад яго прэтэндавалі лівонцы, што асабліва раздражняла рыжанаў. Найбольш іх гандлёвым справам шкодзіла тое, што вусце Дзвіны знаходзілася ў руках у іхніх сапернікаў. Гэта і прымусіла рыжанаў у чэрвені 1328 г. зрабіць напад на крэпасць Дзінамінют, якая кантралявала вусце Дзвіны. Аднак тая акцыя не мела поспеху. Вядома, лівонцы не маглі пакінуць такіх дзеянняў без пакарання. Рыжане звярнуліся па дапамогу да Гедзіміна, паабяцаўшы аддаць яму некалькі сваіх крэпасцей. Але рыцары, уведаўшы пра тое, захапілі паабяцаныя Гедзіміну замкі. Прыйшоўшы з войскам у Лівонію і ўбачыўшы гэта, Гедзімін разграміў і спаліў іншыя, менш абароненыя замкі лівонцаў. Аднак такі помслівы крок не мог ратаваць Рыгу. Ён толькі яшчэ больш умацоўваў намер Ордэна канчаткова падначаліць яе сабе, тым больш што ёй у гэты момант ніхто не мог дапамагчы. Ажыццявіўшы ў пачатку 1329 г. поўную блакаду Рыгі і пазбавіўшы рыжан магчымасці атрымліваць звонку жыццёва неабходныя прыпасы, лівонцы праз 13 месяцаў прымусілі горад здацца і прызнаць верхавенства Ордэна. Апроч усяго іншага ў выніку гэтага Рыга была пазбаўлена сувязі з ВКЛ.

Паколькі Лівонскі ордэн не быў звязаны з Прускім у яго барацьбе з Польшчай, пасля аб'яднання з Рыгай гэта дало магчымасць усе свае сілы накіроўваць супроць ВКЛ, аслабленага у вайне Польшчы з прусакамі. Лівонскія атрады ўчынілі



*Лідскі замак XIV ст.*
*Гравюра XIX ст.*

напады на землі Вялікага княства, найперш на Жамойцію, у 1330, 1332 і 1333 гг. Не абміналі яны і беларускіх земляў. У 1333 г. лівонцы хадзілі на Полацк, сюды ж яны накіраваліся і ў наступным годзе пасля паходу на Вільню, дзе знішчылі 1200 чалавек. У 1336 г. крыжакі, сярод якіх было 200 знакамітых еўрапейскіх асобаў, зрабілі паход у Нальшчанскую зямлю (Нарачанскі край) на крэпасць Пулен. Аднак яе абаронцы і навакольныя жыхары пасля чарговай аблогі спалілі сябе, каб не аддацца ў рукі непрыяцеля.

Трэба зазначыць, што Польшча ў гэты час не прыйшла на дапамогу ВКЛ. Больш таго, у 1337 г., калі рыхтаваўся новы аб'яднаны паход на Вялікае княства, польскі кароль Казімір (той самы, што ажаніўся з дачкой Гедзіміна Альдонай), хоць сам і не прыняў удзел у гэтай вайсковай акцыі, аднак намнога яе аблегчыў, заключыўшы мір з тэўтонамі. Паход гэты быў накіраваны да вярхоўя ракі Дубісы, г. зн. на тэрыторыю сучаснай Літвы. І вось што здзіўляе. Крыжакі прайшлі туды, збудавалі сваю крэспасць Марыенбэдэр, далей прайшлі да Нёмана і на яго правым беразе паставілі крэпасць Байербург, пасля

авалодалі крэпасцю Веленай і, перабудаваўшы яе, назвалі Фрыдбургам. Толькі потым крыжакі вярнуліся ў Прусію. І вось за ўвесь гэты час ім не было аказана ніякага супраціўлення, гэтак жа як і раней, пры варожым нападзе на Пулен. Тое ж самае мы бачым і пры нападзе на Жамойць у 1339 г., калі двухдзённы рабунак быў спынены не вайсковай сілай, а выключна вялікім марозам, які і прымусіў крыжакоў вяртацца назад. Гэтак жа крыжацкі паход на Жамойць у 1340 г. быў асуджаны на няўдачу не сілаю войскаў праціўніка, а адлігаю[84]. З усяго гэтага вынікае, што так званыя вялікія літоўскія князі менш за ўсё думалі аб абароне літоўскіх (у сучасным значэнні гэтага слова) земляў і іх насельніцтва. Яшчэ В. Антановіч слушна заўважыў, што насельніцтва карэннай Літвы варожа адносілася да велікакняскай дынастыі[85]. І Гедзімін не быў тут выключэннем. Як мы ўжо ведаем, яшчэ не будучы вялікім князем, ён расправіўся з жамойцкімі старшынамі за іх сепаратысцкія дзеянні, што, відаць, надоўга засталося ў памяці як жамойтаў, так і Гедзіміна.

Гэта, па ўсяму відаць, добра ведалі і крыжакі і таму, карыстаючыся безабароннасцю земляў, у прыватнасці Жамойціі, так упэўнена будавалі тут свае ўмацаванні. Асабліва небяспечным быў Байербург, які знаходзіўся ўжо на правым беразе Нёмана, гэтым самым з'яўляючыся трывалай апорай для далейшага прасоўвання. І сапраўды, дзяржава апынулася над безданню. Толькі цяпер, з вялікім спазненнем, Гедзімін убачыў небяспеку і зрабіў спробу знішчыць пабудаваныя крыжацкія крэпасці, да таго ж умацаваныя агнястрэльнай зброяй, якая толькі-толькі пачала ўжывацца ў Еўропе. Аднак пры штурме Байербурга, паводле сведчання Віганда, ён быў забіты куляю. (Як ужо адзначалася, ёсць звесткі, што тут загінуў не Гедзімін, а яго старэйшы сын Вітаўт, які, на жаль, нідзе больш у крыніцах не ўпамінаецца, што робіць яго існаванне праблематычным). І, наогул, трэба адзначыць, звесткі аб даце Гедзімінавай смерці вельмі супярэчлівыя. Так, паводле Віганда, яна прыпадае на 1337 г., паводле Я. Длугаша — нават на 1307 г., а паводле М. Стрыйкоўскага — на 1328 г. Аднак усе яны памылковыя. і сучасная гістарычная навука лічыць найбольш дакладнай датай гібелі Гедзіміна 1341 г. Па некаторых звестках, Гедзімінава цела яго сыны прывезлі ў Вільню і спалілі на вы-

сокай гары згодна з язычніцкім абрадам[86]. Вельмі маляўніча гэта апісана ў «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай»[87]. Аднак названая крыніца з'яўляецца, па сутнасці, перакладам «Хронікі» М. Стрыйкоўскага, і, як у яго, гэтая падзея пададзена пад 1328 г. Болей сведчання аб такім пахаванні Гедзіміна мы не сустракаем ні ў якіх іншых крыніцах. І таму, найверагодней, гэтыя звесткі трэба лічыць адным са шматлікіх домыслаў М. Стрыйкоўскага. Няма сумнення ў тым, што Гедзімін быў праваслаўным хрысціянінам. Вядома ж, нават сёння ў пахаванні хрысціянаў захоўваюцца некаторыя элементы язычніцтва. Трэба думаць, што іх значна болей было ў часы Гедзіміна.

25-гадовае княжанне гэтага ўладара было важным прамежкам нашай мінуўшчыны, і таму аб'ектыўная яго ацэнка мае прынцыповае значэнне для правільнага разумення далейшай беларускай гісторыі. У гэты час выразна пазначыліся як станоўчыя, так і адмоўныя асаблівасці нашага гістарычнага жыцця. Да першых трэба аднесці як найбольш важную — аб'яднанне асноўнай масы беларускіх земляў. Гэта надало ім моц і прыцягальную сілу для далейшага пашырэння, асабліва ва ўсходнім і паўднёвым кірунках, што і пачалося неўзабаве пасля Гедзімінавай смерці. Аб'яднанне стала трывалым грунтам і для канчатковага фарміравання беларускай народнасці, яе культуры і мовы.

Гэтую акалічнасць трэба асабліва падкрэсліць, бо калі, напрыклад, пры Іване Каліце, час дзейнасці якога супадае з княжаннем Гедзіміна, Маскоўскае княства толькі пачало ўзвышацца сярод іншых, яшчэ раз'яднаных будучых велікарускіх земляў, то большасць беларускіх земляў, як мы бачылі, ужо былі аб'яднаны ў адной дзяржаве, што дало магчымасць беларускаму этнаўтваральнаму працэсу намнога апярэдзіць велікарускі.

Перанясенне сталіцы ў Вільню асабліва садзейнічала далейшай беларускай каланізацыі і асіміляцыі ў заходнім кірунку. Але менавіта ў той час выразна выявіліся і тыя неспрыяльныя акалічнасці, што ў далейшым спрычыніліся да заняпаду ВКЛ. Найперш і галоўным чынам, як мы ўжо бачылі, гэта значнае пагаршэнне знешніх умоў, што, у сваю чаргу, узмацняла і ўнутраныя супярэчнасці. Калі галіцка-валынскія князі, што пагразлі ў міжусобіцах, перасталі быць пагрозай для Княства з поўдня, то крыжакі па-ранейшаму засталіся самым небяспечным во-

рагам з захаду. І вось у дадатак да гэтай агрэсіі з усходу пачынае расці маскоўская пагроза, якая ў далейшым стане найбольш небяспечнай. Польшча, разумеючы неабходнасць супольнасці з Вялікім княствам у барацьбе з крыжакамі, найперш бачыла ў гэтым саюзе сваю надзейную апору для далейшага змагання супроць іх. Аднак, будучы каталіцкай дзяржавай, як і Ордэн, Польшча імкнулася пашыраць сваю дзяржаўную рэлігію ў суседняй дзяржаве, але ў адрозненне ад апошняга, які дзейнічаў і крыжам і мячом, яна дзейнічала толькі крыжам.

Такім чынам, ВКЛ апынулася ў трохкутніку варожых сіл, стала арэнаю барацьбы з Усходу і Захаду, што найперш і абумовіла яго далейшы заняпад.

## СЫНЫ ГЕДЗІМІНА І ІХ УДЗЕЛЫ

Незалежна ад таго, ці Гедзімін загінуў у баі, ці быў атручаны, смерць яго была раптоўнай і таму заўчаснай, што спарадзіла шэраг праблем у жыцці дзяржавы.

Гедзімін — першы вялікі князь пасля Міндоўга, аб дзецях якога мы маем пэўныя звесткі. Сапраўды, мы нічога не ведаем пра нашчадкаў Трайдзеня — кім яму даводзіліся Будзікід, Будзівід і Лютувер. Праўда, у некаторых пазнейшых летапісах сынам Трайдзеня называецца Пялюза, ад якога нібыта велікакняскі пасад адабраў Віцень. Хаця ў П. Дузбурга і сказана, што бацька Віценя быў Лютувер, аднак мы маем справу з адзіным сведчаннем, праўдзівасць якога можа выклікаць вялікія сумненні. Няма таксама пэўнасці, кім быў Гедзіміну Віцень: братам ці сынам? Што да нашчадкаў Гедзіміна, дык тут поўная яснасць: ён меў сем сыноў і пяць дачок. Магчыма, тое, што князь пакінуў пасля сябе такі шматлікі род, трэба лічыць адной з найбольшых яго заслуг у гісторыі сваёй дзяржавы.

Многія даследчыкі ставілі ў заслугу Гедзіміну тое, што ён ажыццяўляў шлюбы сваіх сыноў і дачок дзеля дасягнення дзяржаўных мэт. Як намі ўжо адзначалася, так рабілі ўсе гаспадары дзяржаў, і Гедзімін не быў выключэннем. Аднак гэтыя шлюбы мелі значэнне толькі ўпачатку, калі імі падмацоўваўся заключаны палітычны саюз, а ў далейшым яны трацілі сваё значэнне і зусім не стрымлівалі развалу міждзяржаўных пагаднен-

няў. Для прыкладу ўспомнім, што шлюб Гедзімінавай дачкі Ганны хоць і садзейнічаў збліжэнню Польшчы і Вялікага княства, але не спыніў яго развалу. Шлюб другой Гедзімінавай дачкі з Давыдам Гарадзенскім меў значэнне не таму, што ён уводзіў у кола велікакняскай сям'і найбольш выдатнага прадстаўніка рускай (чытай — беларускай) народнасці[88] ( з яе прадстаўнікоў складаўся тады велікакняскі двор, уключаючы і самога ўладара), а таму, што ён у найбольшай ступені садзейнічаў умацаванню сілы ўсёй дзяржавы, якая тады асабліва цярпела ад крыжацкіх нападаў. Мы ўжо не гаворым аб шлюбе Гедзімінавай дачкі Анастасіі з вялікім князем маскоўскім Сімяонам Іванавічам, бо гэта ніколькі не садзейнічала збліжэнню дзвюх дзяржаў. Што да выхаду Марыі Гедзімінаўны замуж за цвярскога князя Дзмітрыя Міхайлавіча, то не столькі шлюб садзейнічаў збліжэнню гэтай зямлі з Вялікім княствам, колькі яе варожасць да Масквы, што і прымусіла Дзмітрыя Міхайлавіча шукаць дапамогі ў Гедзіміна.

Аднак для нас большае значэнне маюць сыны Гедзіміна, іх лёс, іх месца ў дзяржаўным жыцці. Летапісы назвалі іх імёны і месцы іх княжання. Праўда, гэтыя крыніцы пазнейшага часу і таму звесткі іх не пазбаўлены блытаніны. Так, у адносінах да старэйшага сына Монвіда сказана, што яму былі аддадзеныя Карачаў і Слонім[89]. У той час Карачаў, які знаходзіўся ў вярхоўях Акі, не ўваходзіў у склад Вялікага княства. Некаторыя даследчыкі замяняюць яго Кернавам[90], што болей верагодна. Наступны сын Нарымонт, як ужо адзначалася, быў пасаджаны ў Пінску. Зноў-такі застаецца невядомым — калі: да таго, як ён паехаў у Наўгародскую зямлю, ці пасля, калі адтуль вярнуўся. Найверагодней, што да гэтага, бо пад 1338 г. у Полацку княжыў Глеб. Гэта імя насіў і Нарымонт. Былая сталіца дзяржавы Навагародак дастаўся Карыяту. Альгерду таксама пашчасціла стаць князем у двух удзелах. Маючы Крэва, ён у 1318 г. жэніцца з віцебскай князёўнаю Марыяй і пасля смерці яе бацькі Яраслава Васільевіча ў 1320 г. становіцца адначасова і віцебскім князем[91]. Увесь заходні край дзяржавы з Жамойцю, Берасцем і Гарадзенам быў аддадзены Кейстуту. Любарт, які перасяліўся на Валынь, у 1325 г. стаў князем у Луцку. А самы малодшы Гедзімінаў сын Яўнут застаўся ў сталіцы — Вільні.

Апошняя акалічнасць і дала падставу некаторым даследчыкам лічыць, што Яўнут быў прызначаны самім Гедзімінам як пераемнік яго велікакняскай улады. Аднак такому меркаванню супярэчаць некаторыя факты. Рэч у тым, што Гедзімін саджаў сваіх сыноў у тых ці іншых удзелах па меры дасягнення імі паўналецця. Так, вядома, што, беручы шлюб з віцебскай князёўнаю Марыяй у 1318 г., Альгерд ужо валодаў Крэвам. Засталося і сведчанне, што Карыят у 1329 г. стаў князем у Навагародку, дзе нават быў каранаваны[92]. Ужо гэтых фактаў дастаткова, каб упэўніцца, што сыны Гедзіміна атрымлівалі ўдзелы ад бацькі пры яго жыцці. Што да Яўнута, то ён быў самы малодшы і непаўналетні, таму і жыў пры бацьку ў Вільні. Паколькі смерць Гедзіміна была раптоўнаю, ён не змог прызначыць свайго пераемніка на велікакняскі пасад, і ім з прычыны такой выпадковасці стаў Яўнут, што, як убачым далей, і прывяло да пазбаўлення яго велікакняскага пасада.

Але, як мы ўжо ведаем, у апошні час на падставе новых крыніц сцвярджаецца аб існаванні яшчэ аднаго сына Гедзіміна — Вітаўта, які, будучы троцкім князем, і загінуў у 1341 г. пад Байербургам. І ўсё ж у праўдзівасці гэтага ёсць вялікія сумненні. Па-першае, вядома, што троцкім князем быў Кейстут. Зразумела, ён мог узысці на свой пасад пасля смерці Вітаўта. Але ж гэта магло адбіцца ў летапісах ВКЛ, якія між тым Вітаўта не ўпамінаюць. Праўда, у крыніцах згадваецца сын Вітаўтаў Юрый[93]. Сапраўды, у Пскоўскім І летапісе пад 1339 г. (у Пскоўскім II — пад 1341 г.)[94] гаворыцца пра Юрыя (у адным месцы ён названы Георгіем)[95] Вітаўтавіча, які быў ваяводам у Альгерда (у той час віцебскага князя) і дапамагаў пскоўцам у барацьбе з крыжакамі. Звычайна ваяводамі былі людзі спрактыкаваныя ў вайсковай справе. Такім чалавекам наўрад ці мог быць Юрый Вітаўтавіч, калі прыгадаць, што Гедзімін нарадзіўся, як лічаць некаторыя даследчыкі[96], каля 1275 г. З гэтага можна вывесці, што ягонаму ўнуку да 1339 г. магло быць 20—25 гадоў, а то і меней. Усё гэта робіць сцверджанне аб Вітаўце як сыне Гедзіміна і яго ўнуку праблематычным.

Аднак пяройдзем да разгляду падзей пасля Гедзімінавай смерці. Як вядома, князь загінуў у самы разгар барацьбы з Ордэнам, які наступаў на Жамойць. Даведаўшыся пра гібель

Гедзіміна, крыжакі яшчэ з большай рашучасцю сталі пранікаць у глыб зямлі і ўварваліся ў кернаўскія ўладанні Монвіда. Гэта і прымусіла яго зрабіць паход супроць Прускага ордэна. Крыжакі ў некалькіх сутычках былі разбітыя, а іх прымежная паласа — спустошаная, а магістр Людольф Кент вымушаны быў заключыць мір, у падпісанні якога ўдзельнічалі Альгерд і Кейстут, але не ўдзельнічаў Яўнут. Гэта ў ліку іншага сведчыць, што Яўнут тады вялікім князем не быў.

У сваю чаргу Любарт пачаў барацьбу з польскім каралём Казімірам за Валынскую зямлю, у выніку чаго яму ўдалося завалодаць Уладзімірам-Валынскім, Крамянцом і Белзам. Адначасова Кейстут і Альгерд арганізавалі набегі сваіх атрадаў на Мазовію, што ў значнай ступені дапамагло Любарту.

## ВІЦЕБСКІЯ КЛОПАТЫ АЛЬГЕРДА




*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Альгерд. Паводле гравюры XVI ст.*

Аднак для нас найбольшую цікавасць, зразумела, мае Альгерд, удзелы якога — Крэўскі і Віцебскі — знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. Не адгароджваючыся, як мы бачылі, ад спраў іншых земляў дзяржавы, ён галоўную ўвагу ўдзяляў сваім уладанням, тым больш што аб'яднанне галоўнага масіву беларускіх земляў у адзінай беларускай дзяржаве надало ім моц і прыцягальную сілу і тым самым дало магчымасць далучаць да сябе іншыя землі. І тое, што не ўдавалася дасягнуць ранейшым беларускім дзяржавам (Полацкай, Турава-Пінскай, Навагародскай) паасобку, цяпер дзякуючы аб'яднанню стала магчымым.

Ужо пры Гедзіміне Полацкая зямля, значэнне якой у дзяржаве ўсё больш узмацнялася, аднавіла сваю ранейшую палітыку ў адносінах да Пскова і Ноўгарада, што і прывяло да першага канфлікту Беларусі з Масквой. Аднак гэта няўдача не спыніла Полаччыну ў далейшым аднаўленні сваёй палітыкі ў дачыненні да суседніх земляў, паколькі Альгерд, стаўшы віцебскім князем і тым самым зрабіўшыся гаспадаром усходняй часткі Полаччыны (успомнім, што яшчэ каля 1265 г. у грамаце віцебска-полацкага князя Ізяслава было сказана: «Полтеск Витьбеск адно есть»[97]), не мог не ўспрыняць спрадвечнага яе імкнення да пашырэння на ўсход, што і прымусіла яго ўмяшацца ў справы суседняй Смаленшчыны. Гэтае княства ў той момант стала ахвяраю аб'яднаўчай палітыкі Масквы, якая адабрала ў Смаленска Мажайск. Вось гэты факт і даў магчымасць Альгерду зрабіць важны крок для збліжэння з суседняй зямлёй. Як вядома, у ранейшыя часы узаемныя адносіны Полацка і Смаленска не былі аднолькавымі: збліжэнні і саюзы змяняліся варожасцю і сутычкамі. І тое, і другое было вынікам разумення сваёй этнічнай еднасці, бо і Полацкая, і Смаленская землі ўсведамлялі сваю крывіцкую прыналежнасць. З аднаго боку, гэта збліжала іх, а з другога, выклікала супярэчнасці з-за першынства ў крывіцкіх землях.

Усведамленне сваёй этнічнай еднасці ў дачыненнях Полацка і Смаленска не страцілася і ў сярэдзіне XIV ст. Зразумела, чаму Альгерд, які кіраваўся інтарэсамі Полацка-Віцебскай зямлі, прапанаваў Смаленску дапамогу ў вяртанні яму Мажайска. Аднак адваяваць яго не ўдалося, захоплены быў толькі ягоны прыгарад Цяшына. Узяўшы палон, Альгерд вярнуўся ў Віцебск[98]. Хоць гэты паход і не быў паспяховым, аднак тым не менш паказаў Смаленску, што ён у выпадку наступу Масквы можа разлічваць на дапамогу Альгерда. Усё гэта ў далейшым, як убачым, і ўвасобілася ва ўцягненні Смаленска ў арбіту палітычнай незалежнасці ад ВКЛ.

Пра тое, што Альгерд працягваў аднаўленне ранейшай палітыкі Полацка ў дачыненні да яго суседзяў, пераканаўча сведчаць яго дзеянні ў адносінах да Пскоўскай зямлі. Як і пры Гедзіміне, так і цяпер у разлік прымалася яе імкненне выйсці з-пад улады Ноўгарада, дзеля чаго пскоўцам патрэбна была дапа-

мога супрацьлеглага, полацкага, боку. А менавіта тады, калі ў канцы 1341 г. лівонскія крыжакі зноў аднавілі свой наступ на Пскоўскую зямлю, пскоўцы звярнуліся па дапамогу да наўгародцаў, а тыя, як сведчыць Пскоўскі летапіс, адмовілі ім. I тады пскоўцы папрасілі падтрымкі ў Альгерда, на што той ахвотна адгукнуўся і прыйшоў у Пскоў. I не адзін, а з Кейстутам, што заслугоўвае асаблівай увагі.

У ранейшай гістарыяграфіі ўсе адзначаныя факты трактаваліся як пышырэнне далейшага літоўскага заваявання. Аднак усё гэта азначала далейшае пашырэнне беларускай дзяржавы шляхам працягу традыцыйнай полацкай палітыкі ў адносінах да паўночных і ўсходніх суседзяў. На гэта былі кінутыя ўсе сілы ВКЛ, пра што і сведчыць прысутнасць у Пскове войскаў Кейстута. Для апошняга кідаць сваю Жамойць безабароннаю перад пагрозай узнаўлення крыжацкай навалы было небяспечна. Аднак інтарэсы Жамойці адыходзілі на другі план перад інтарэсамі Полацка, і Кейстут павінен быў — хацеў ён ці не хацеў — ісці са сваім войскам. Што гэты паход быў у інтарэсах Полацкй зямлі, сведчыць прысутнасць у ім і атрада палачанаў на чале з іх князем Любкам Воінавічам. Ён са сваім войскам быў пасланы да лівонскай мяжы, аднак, пацярпеўшы паражэнне ў сутычцы з крыжацкім атрадам, вымушаны быў адысці ў Ізборск, дзе і быў асаджаны крыжакамі. У сваю чаргу Альгерд разам з Кейстутам, ідучы ўслед за гэтым атрадам не пайшоў на дапамогу Ізборску, а, адступіўшы за левы бераг ракі Вялікай, назіраў за ходам баявых дзеянняў. Уначы князь Любка, ад'ехаўшы ад Альгерда і нічога не падазраючы, натрапіў на вартавы атрад немцаў і быў забіты[99]. Гэтая трагічная падзея заслугоўвае асаблівай увагі, аб чым мы будзем гаварыць трохі пазней. Тым часам узятыя ў аблогу ізборцы прасілі Альгерда выступіць ім на дапамогу. Князь ім адмовіў, параіўшы больш рашуча адбівацца, у выніку чаго вораг сам адыдзе, як пасля дзесяцідзённых баёў і здарылася. Ёсць звесткі, што Альгерд паслаў некалькі сваіх атрадаў у межы Лівоніі, якія пачалі там рабункі. Крыжакі, што асаджалі Ізборск, мусілі ісці назад, каб бараніць сваю зямлю. Альгердавы атрады, у сваю чаргу, даведаўшыся пра зняцце аблогі Ізборска, выйшлі з Лівоніі.

Пскоўцы, узрадаваныя, што пазбавіліся нямецкай навалы, пачалі прасіць Альгерда стаць іх князем. Аднак ён адмовіўся і замест сябе прапанаваў ім свайго маладога сына Андрэя, які быў ахрышчаны і ўзведзены на княскі пасад у Пскове[100].

Вось тут і ўзнікае пытанне: «Навошта было хрысціцца Андрэю, калі ён быў ахрышчаны, пра што сведчыць яго хрысціянскае імя?» Перад гэтым пскоўцы, просячы самога Альгерда стаць іх князем, таксама хацелі яго хрысціць[101]. І зноў-такі, чаму нехрышчоны бацька даў свайму сыну хрысціянскае імя і ці мог быць язычнік віцебскім князем. Па ўсім відаць, што ў Пскове князь — незалежна ад таго быў хрышчоным ці не — узыходзячы на пасад, павінен быў усенародна хрысціцца. Інакш растлумачыць супярэчнасці летапіснага сведчання проста немагчыма.

Факт абрання Андрэя пскоўскім князем мог быць важнай вяхой у ажыццяўленні даўняга імкнення Полаччыны падначаліць сабе Пскоў. Аднак для апошняга, як пакажуць падзеі, абранне Андрэя сваім князем было не столькі спробаю аддацца пад ахову Альгерда, колькі імкненнем пазбавіцца залежнасці ад Ноўгарада. І далейшыя абставіны садзейнічалі гэтаму.

Рэч у тым, што Андрэй доўга не быў у Пскове. Пакінуўшы тут сваіх намеснікаў, ён пайшоў да Альгерда. Прычынай мог быць і страшэнны паморак у Пскове[102]. Аднак галоўнае было ў тым, што ён у хуткім часе становіцца полацкім князем. Каго замяніў ён на гэтым пасадзе? Здавалася б на першы погляд Андрэй змяніў Любку, які загінуў незадоўга перад гэтым. Але ў такім выпадку Альгерд не адправіў бы яго ў Пскоў, а адразу б паставіў полацкім князем. Ёсць думка, што яшчэ жыў бацька Любкі — князь Воін і пасля яго смерці стаў княжыць у Полацку сын Гедзіміна Глеб-Нарымонт, якога і замяніў сваім сынам Альгерд[103]. З гэтым можна пагадзіцца толькі пры меркаванні, што грамата Глеба — адзінае сведчанне аб ім як полацкім князі — была напісана не ў 1338, а ў 1341 г.[104], г. зн. пасля смерці і Любкі і Воіна, што зноў-такі праблематычна, паколькі невядома, як і чаму ўступіў Глеб месца Андрэю. Ды і няма цвёрдых падстаў атаясамліваць Нарымонта з Глебам.

Аднак княжанне Андрэя ў Полацку стала прыкметнай вяхой у нашай гісторыі.

# АЛЬГЕРД СТАНОВІЦЦА НА ЧАЛЕ ДЗЯРЖАВЫ



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Кейстут. Паводле гравюры XVI ст.*

У ранейшай гістарычнай літаратуры адзначалася, што галоўнай прычынай падзей 1345 г., звязаных з заняццем Альгердам велікакняскага пасада, была пагроза крыжацкай агрэсіі супроць ВКЛ. Сапраўды, самымі небяспечнымі воргамі дзяржавы заставаліся крыжакі. Нягледзячы на заключанае перамір'е, яны рыхтаваліся да рашучага наступу. Дзеля таго каб расправіцца з Княствам, крыжакі ўвайшлі ў мірныя адносіны з іншымі суседзямі. Так, у 1341 г. яны закончылі сваю спрэчку з дацкім каралём за Эстонію, купіўшы ў яго гэтую зямлю. Асабліва важна для іх было пазбавіцца варожых адносін з Польшчай. Карыстаючыся яе барацьбой з Вялікім княствам за Валынь і Галіцыю, крыжакі заключылі з Польшчай у 1343 г. мір за кошт уступкі ім Памераніі і некаторых іншых земляў. Пасля гэтага Ордэн пачаў узнаўляць старыя і будаваць новыя ўмацаванні на мяжы з Вялікім княствам. Апроч таго, з Еўропы былі запрошаны новыя атрады рацараў, адзін з якіх на чале з герцагам Вільгельмам зрабіў паход на Жамойць. Асабліва ўражваў прыезд у Прусію гасцей вельмі высокага рангу, такіх, як Ян Чэшскі, Людовік Венгерскі, герцаг Карл Люксембургскі (будучы імператар Карл IV) і інш. Зразумела, што гэта было ажыццяўленне буйнога вайсковага плана.

І ўсё ж крыжацкая пагроза, якая вісела над ВКЛ, не была адзінай і нават галоўнай прычынай захадаў па ўмацаванні велікакняскай улады. Рэч у тым, што князь Альгерд хоць і стаў вялікім князем, аднак адзінаўладдзе ў краіне не ўсталявалася,

а ўтварыўся, па сутнасці, дуумвірат, калі побач з Альгердам высілася і постаць Кейстута, якога, як і Альгерда, лічылі вялікім князем. Для таго часу гэта было невыпадкова.

Ужо пры Гедзіміне яскрава выявілася ўскладненне знешняга становішча дзяржавы. Да ранейшай пагрозы, якая ішла з захаду з боку Ордэна і Польшчы, далучылася маскоўская пагроза з усходу. Небяспека патрабавала адзінства ўсіх земляў пад адзінай уладаю, чаго тады не было. Кожны з сыноў Гедзіміна дзейнічаў паасобку. Толькі Кейстут, карыстаючыся мірам з Ордэнам, прыходзіў, як мы бачылі, на дапамогу то Любарту ў яго барацьбе за Валынь, то Альгерду ў яго пскоўскіх справах. Аднак пагаджацца з раз'яднанасцю далей было нельга, трэба было браць уладу ў моцныя рукі. Вядома ж, у такіх абставінах аднаму вялікаму князю даводзілася цяжка. Гэтым і можна вытлумачыць пэўную хаатычнасць знешняй палітыкі Гедзіміна. Не маючы поспеху ў барацьбе з Масквой за ўплыў у Пскове і Ноўгарадзе, ён заключае саюз з Польшчай для барацьбы з Ордэнам і вядзе змаганне галоўным чынам з яе ворагамі, не заўважаючы пагрозы ад Ордэна ўласнай дзяржаве, што і прывяло да катастрафічных вынікаў. Далейшае ўскладненне знешнепалітычных адносін настойліва патрабавала іншых умоў кіравання.

Не менш складаным для Гедзіміна былі і ўнутраныя праблемы. Найперш — неаднароднасць насельніцтва дзяржавы (большасць праваслаўных, але і вялікая колькасць язычнікаў), што прымушала праваслаўнага Гедзіміна ў тактычных мэтах перад язычнікамі называць сябе іхнім адзінаверцам. Гэта ў заходнім свеце і стварыла ўяўленне аб Вялікім княстве як язычніцкай дзяржаве. Аднак па меры ўсё большага ўмацавання Жамойці расце і яе ўсведамленне сваёй значнасці для ўсяго гаспадарства. Менавіта з гэтага часу, а не з часоў Міндоўга пачалося паступовае ўзвышэнне Літвы (у сучасным значэнні гэтага слова), што і прывяло да прызначэння ёй свайго, асобнага князя Кейстута.

Тым часам падзеі разгортваліся так. Альгерд і Кейстут вырашылі пакончыць з няпэўнасцю, якая існавала ў сферы велікакняскай улады. Варта нагадаць, што Альгерд, валодаючы Крэўскім, самым заходнім беларускім княствам, у той жа час валодаў самым усходнім, Віцебскім. Апрач таго, ён меў непас-

рэдны ўплыў і на Полацк, дзе сядзеў яго сын Андрэй. (Цяпер становіцца зразумелым, чаму ён павінен быў пакінуць Пскоў і перайсці сюды). Зыходзячы з гэтага, Альгерд не мог не глядзець на сябе як на самага магутнага прадстаўніка ўсёй вялізнай усходняй часткі дзяржавы. Кейстут, які валодаў Жамойцю, Гарадзенскай і Берасцейскай землямі, выступае як прадстаўнік заходняй часткі дзяржавы. І вось гэтыя два найбольш магутныя князі і ўвайшлі ў змову супроць Яўнута. Зразумела, трэба ўлічваць і асабістыя амбіцыі Альгерда як старэйшага брата, які меў законнае права на велікакняскі пасад, што таксама настройвала яго на рашучыя дзеянні. Смерць маці Яўнута Евы, якая мела вялікі ўплыў на яго палітыку[105], вядома, у значнай ступені аблегчыла Альгерду і Кейстуту захоп улады.

Крыніцы зусім недастаткова адлюстравалі асабістыя якасці Яўнута, якія не давалі яму права на велікакняскае становішча. Толькі ў Густынскім летапісе адзначана, што ён быў недастаткова храбры, каб трымаць стольны горад Вільню[106].

Вось супроць такой асобы і былі накіраваныя рашучыя дзеянні Альгерда і Кейстута. Па ўсім відаць, што яны згаварыліся дзейнічаць узгоднена, каб у адзін дзень увайсці ў Вільню і захапіць велікакняскі замак. Аднак Альгерд не прыйшоў сюды ў прызначаны тэрмін[107], і Кейстут вымушаны быў дзейнічаць самастойна. Рухаючыся з Трокаў хуткім маршам, ён заняў Вільню. Яўнут, убачыўшы небяспеку для сябе, уцёк, не паспеўшы апрануцца, на Тураву гару (у некаторых крыніцах — на гару Угры, аб чым мы ўжо гаварылі, адзначаючы падзеі 1129 г.). Правёўшы там ноч, ён прастудзіўся і адмарозіў ногі (падзеі адбываліся зімою, на пачатку 1345 г.). Тут Яўнут быў злоўлены і прыведзены да Кейстута, які загадаў узяць яго пад варту. Пасля гэтага Кейстут паслаў ганца да Альгерда, які ў гэты час прыйшоў з Віцебска ў Крэва. Толькі тады Альгерд спешна паехаў у Вільню, дзе Кейстут сустрэў яго і як старэйшага брата абвясціў вялікім князем, з якім ён будзе заўсёды заадно[108].

Як вытлумачыць гэтыя факты? Звычайна ў гістарычнай літаратуры ўзаемаадносіны Альгерда і Кейстута паказваюцца як ідылічныя, як узор братняга ўзаемаразумення. Знешне гэта так, але асабістыя адносіны дзяржаўных людзей заўсёды будуюцца на палітычных разліках. Так было і тут. Ужо тое, што



*Біруга — жонка Кейстута. Паводле гравюры XIX ст.*

Альгерд выйшаў з Віцебска, а не з Крэва, адкуль яму непараўнаўча бліжэй было б ісці ў Вільню, не было выпадковым. Калі ў час сваёй пскоўскай кампаніі ён выкарыстоўваў сілы Кейстута як дапаможныя, то цяпер усклаў на яго ўвесь цяжар захопу ўлады.

Як бачым, ужо тут, у самым пачатку, з боку Альгерда выявілася імкненне выкарыстоўваць Кейстута ў сваіх палітычных інтарэсах. Магчыма, Кейстут у процівагу Альгерду дзейнічаў бескарысліва, па-брацку? Сапраўды, захапіўшы Вільню, ён аддае і яе, і велікакняскі пасад Альгерду як старэйшаму. Але ці толькі таму? Як пакажуць пазнейшыя падзеі, што адбыліся толькі пасля смерці Альгерда, Кейстут не быў пазбаўлены велікакняскіх амбіцый і на кароткі тэрмін ажыццявіў іх. Аднак у 1345 г. такога адбыцца не магло, бо Кейстут добра разумеў, якая сіла стаіць за Альгердам. Праўда, і за Кейстутам, які валодаў Троцкім княствам, Гарадзенскай і Берасцейскай землямі, таксама была вялікая сіла. Але калі ў Альгерда было аднароднае насельніцтва, бо Віцебскае, Крэўскае і Полацкае княствы з'яўляліся ў цэлым крывіцка-славянскімі і праваслаўнымі, то ўладанні Кейстута складаліся з дзвюх частак: Троцкае княства — балцкае і язычніцкае, Берасцейская і Гарадзенская землі ў асноўным славянскія і хрысціянскія. Наколькі моцным было праваслаўе ў гэтых землях, сведчыла і тое, што, калі пазней яны былі аддадзены сыну Кейстута Вітаўту, ён мусіў перайсці з каталіцтва ў праваслаўе. Трэба думаць, што і Кейстут у такой сітуацыі павінен быў выступаць у двух абліччах: і праваслаўным, і язычніцкім, а не толькі ў апошнім, як падаецца ў літаратуры.

Такім чынам, Кейстут, разумеючы перавагу Альгерда ў сіле і адзінстве, уступіў яму і Вільню, і велікакняскі пасад добраахвотна, бо ў адваротным выпадку ён быў бы вымушаны зрабіць тое самае пад пагрозай сілы. Як бачым, дзеянні Кейстута менш за ўсё вызначаюцца добрымі братнімі пачуццямі. Тут быў цвярозы палітычны разлік, што найперш і характарызавала яго як дзяржаўнага дзеяча. Але са свайго боку і Альгерд разумеў важнасць пазіцыі Кейстута, што валодаў заходнімі землямі дзяржавы, якія былі апораю ў барацьбе з крыжацкай агрэсіяй, што надавала князю Кейстуту важнае становішча ў дзяржаве. З гэтым Альгерд не мог не лічыцца, і таму пры заключэнні ўмовы з Кейстутам ставіў яго побач з сабою ў карыстанні дзяржаўнай уладаю і плёнам атрыманых перамог. Так, побач з абавязкам захоўваць паміж сабою згоду і дружбу яны абавязаліся ў выпадку набыцця новых земляў ці гарадоў дзяліць іх пароўну[109]. Таму становіцца зразумелым, чаму ў беларускіх летапісах і Альгерд, і Кейстут называюцца вялікімі князямі[110].

У тагачасным грамадстве ВКЛ існавала думка аб тым, што ў краіне ўсталявалася двоеўладдзе. І гэта мела пад сабою падставы, бо знешнепалітычнае становішча так ускладнілася, што адной асобе, як гэта выявілася ўжо пры Гедзіміне, цяжка было справіцца з кіраваннем дзяржавай. Таму, калі перад Кейстутам ставіўся абавязак абараняць заходнія землі, Альгерд браў у свае рукі астатні абшар і абавязваўся пашыраць межы сваёй дзяржавы. Калі Кейстут толькі бараніўся, то Альгерд наступаў. Гэтая істотная розніца ў характары дзейнасці і вызначала іх становішча ў дзяржаве, у прыватнасці становішча Альгерда. Тое, што ён стаў вялікім князем, яшчэ раз пацвердзіла дамінуючае становішча беларускіх земляў, бо яны складалі значна большую частку тэрыторыі Вялікага княства. З'яўляючыся выразнікам іх інтарэсаў, Альгерд і атрымаў права на першае месца ў дзяржаве.

Аднак выразны падзел дзяржаўных абавязкаў Альгерда і Кейстута не азначаў іх поўнай незацікаўленасці ў «чужых» справах. Факты сведчаць, што князі неаднаразова прыходзілі на дапамогу адзін аднаму, як раней, да ўступлення Альгерда на велікакняскі пасад, так і пасля гэтага.

Які ж лёс напаткаў Яўнута? З-пад варты яму ўдалося збегчы, і ён уцёк спачатку ў Смаленск, а пасля — у Маскву, да вя-

лікага князя Сімяона Іванавіча. Там як быццам быў ахрышчаны (хутчэй перахрышчаны, бо цяжка ўявіць, каб сын Евы, якая вызначалася адданасцю праваслаўю, быў нехрышчоны) і атрымаў імя Іван[111]. Але праз два гады Яўнут вярнуўся на радзіму, памірыўся з братамі і атрымаў ва ўладанне Ізяслаўскі ўдзел.

Больш складана зразумець, чым была выкліканая незадаволенасць Нарымонта. Магчыма, тым, што Альгерд сагнаў яго з полацкага пасада, каб замяніць сваім сынам Андрэем. Нарымонт нават апынуўся ў Ардзе. Але, не атрымаўшы там дапамогі, таксама вярнуўся на радзіму, прымаў актыўны ўдзел у барацьбе з крыжакамі і загінуў у 1348 г.[112]

Ужо адзначалася, што адной з найважнейшых прычын, якія паскорылі ўсталяванне моцнай вярхоўнай улады ў ВКЛ, была пагроза крыжацкай агрэсіі. І сапраўды, у пачатку 1345 г. крыжакі ўступілі на Жамойцкую зямлю. Аднак войскі Вялікага княства, зрабіўшы некалькі падманных манеўраў, змаглі нанесці сакрушальны ўдар па Лівоніі і тым самым ліквідавалі грозную небяспеку. Гэта быў першы станоўчы вынік умацавання вярхоўнай дзяржаўнай улады ў Вялікім княстве. Уся віна за вайсковую няўдачу крыжакоў была ўзвалена на магістра Людольфа Кінга, у выніку чаго ён быў адхілены ад пасады.

Вядома ж, крыжакі не маглі змірыцца з паражэннем і імкнуліся адпомсціць за яго. У 1348 г. крыжацкае войска ўварвалася ў Троцкую зямлю. Насустрач яму ішло войска Вялікага княства і яны сустрэліся на р. Стрэве, дзе і адбылася бітва. Яна была жорсткая і крывавая і закончылася паражэннем Вялікага княства (тут загінуў вядомы ўжо нам Глеб-Нарымонт). Праўда, яго страты ў нямецкіх хроніках вельмі перабольшаныя: ад 10 да 40 тысяч забітых. Перамога ў Стрэўскай бітве дорага абышлася і крыжакам — інакш яны пасля сваёй перамогі пайшлі б зноў у глыб краіны. І ўсё ж той поспех не мог закрэсліць для крыжакоў страшэнных вынікаў іх паражэння ў 1345 г. Галоўным вынікам гэтага стала карэнная змена тактыкі крыжацкага наступлення. Убачыўшы марнасць спадзяванняў на хуткую перамогу вялікай вайсковай сілай, крыжакі вырашылі перайсці да доўгатэрміновай аблогі шляхам нападу на Вялікае княства дробных крыжацкіх атрадаў. Гэтымі набегамі, ці, як яны называліся, рэйзамі, і меркавалася знясіліць і ў канчатковым выніку заваяваць Княства.

Ажыццяўленне новай тактыкі расцягнулася на дзесяцігоддзі. З 1345 па 1377 г. было зроблена каля 100 рэйзаў прускіх і лівонскіх крыжакоў. Аднак мы разглядаць іх не будзем, паколькі яны ў зусім рэдкіх выпадках закраналі беларускія землі, а ў асноўным былі накіраваны супроць балцкіх. Скажам толькі, што змаганне з крыжацкімі рэйзамі поўнасцю паглынала сілы балцкага насельніцтва, што, зразумела, зусім не спрыяла таму, каб балты занялі ў дзяржаве дамінуючае становішча, як часам сцвярджаецца ў гістарычнай літаратуры насуперак неабвержным фактам.

## ПСКОЎСКІЯ І НАЎГАРОДСКІЯ СПРАВЫ АЛЬГЕРДА

Але звернемся да дзейнасці Альгерда, якая ў цэлым была звязана з Беларуссю. У той час, калі заходнія, найперш балцкія, землі на чале з Кейстутам былі занятыя ўпартай абаронаю ад шматлікіх крыжацкіх нападаў і таму не маглі пашыраць тэрыторыю дзяржавы на захад, на ўсходніх беларускіх землях мы бачым зусім іншае. Ужо адзначалася, што, з'яднаныя ў асноўнай сваёй масе ў адзінай дзяржаве, яны тым самым сталі ядром прыцягнення для суседніх земляў, якія яшчэ заставаліся непадначаленымі ні ВКЛ, ні Маскве. Усё гэта і забяспечыла Альгерду свабоду дзеяння, якой спрыяла і тое, што ён, за выключэннем рэдкіх выпадкаў, не быў звязаны з абаронаю заходняга абшару Княства.

Ужо будучы віцебскім князем, ён прадаўжаў пачатую яшчэ Гедзімінам даўнюю полацкую палітыку ў адносінах да Пскова і Ноўгарада, а таксама да Смаленска. Падзеі 1345 г. прыпынілі на нейкі час яго дзейнасць у гэтым кірунку. Але, стаўшы вялікім князем і абапёршыся на ўсю моц дзяржавы, Альгерд накіроўвае намаганні на пашырэнне межаў Княства, што і прынесла яму надзвычай вялікія поспехі.

Праўда, яны не ўсюды былі аднолькавыя па сваіх выніках. У першую чаргу гэта адносіцца да Пскова. Мы ўжо ведаем, што ў час падзей 1342—1345 гг. тут пачаў князяваць сын Альгерда Андрэй. Аднак у хуткім часе ён стаў полацкім князем, а ў Пскове пакінуў сваіх намеснікаў, што і выклікала незадаво-

ленасць яго жыхароў, якія хацелі мець поўнаўладнага князя. Тут, вядома, адыграла сваю ролю палітыка балансавання Пскова паміж Полацкам і Ноўгарадам, бо, адмаўляючыся ад улады Андрэя, пскоўцы адразу ж аднавілі саюз з Ноўгарадам. Зазначым, што гэтая падзея ў крыніцах храналагічна заблытана: у Пскоўскім I летапісе яна паказана пад 1343г., а ў Пскоўскім II — пад 1349 г. Відаць, другая дата больш правільная[113]. В.Антановіч абазначыў яе 1348 г.[114]

Зразумела, учынак пскоўцаў не мог не выклікаць незадаволенасці як у Андрэя, які вельмі разгневаўся, так і ў Альгерда, які, з аднаго боку, папракнуў жыхароў горада ў няўдзячнасці за тыя вялікія ахвяры, якія панесла яго войска, дапамагаючы ім у барацьбе з крыжакамі, а з другога боку—зрабіў рашучыя захады супроць пскоўскіх купцоў, што знаходзіліся ў Вялікім княстве, загадаўшы затрымаць іх і канфіскаваць іх маёмасць. Толькі пазней яны былі адпушчаныя за вялікі выкуп[115].

Андрэй у 1350 г. зрабіў набег на Вараноўскую воласць Пскоўскай зямлі[116]. Па ўсім відаць, паміж Полацкай і Пскоўскай землямі разгарэлася жорсткая барацьба, бо ў 1358 г. пскоўскі князь Астафій з войскам хадзіў да Полацка і парабаваў яго воласці[117]. Мабыць, такія ўзаемныя паходы былі б часцейшыя, каб не паморкі, якія ахоплівалі Пскоўскую зямлю ў 1352 і 1360 гг.[118] Не выключана, што ад гэтага пацярпела і Полацкая зямля. Як бачым, барацьба Полацка за свой уплыў у Пскове не была паспяховай, аднак тым не менш яна, не заціхаючы на доўгі час, зноў і зноў аднаўлялася.

Зразумела, што, праводзячы актыўную супроцьпскоўскую палітыку, Альгерд ужо толькі гэтым не мог не закрануць і Ноўгарад, што, як і Пскоў, знаходзячыся ў сферы полацкіх інтарэсаў, меў з ім шэраг агульных рысаў. Як Пскоў, абараняючы сваю самастойнасць, балансаваў у сваёй палітыцы паміж Полацкам і Ноўгарадам, так і Ноўгарад, забяспечваючы сваю незалежнасць, балансаваў паміж ВКЛ і Масквой. Як у Пскове існавалі полацкія і наўгародскія партыі, ад кожнай з якіх залежаў саюз з тым ці іншым процілеглым бокам, так і ў Ноўгарадзе існавалі так званыя літоўскія і маскоўскія партыі, перамогі якіх ва ўзаемнай барацьбе таксама вызначалі кірунак палітыкі ў гэтай зямлі.

Менавіта ўзаемная барацьба названых наўгародскіх партый і вызначала дзеянні Альгерда ў адносінах да Ноўгарада. Пасля таго як у 1346 г. маскоўскі князь Сімяон Іванавіч (нагадаем, што ён быў жанаты з дачкою Гедзіміна Анастасіяй, што зусім не перашкаджала яго антылітоўскай палітыцы) на просьбу наўгародскага ўладыкі Васіля прыйшоў у Ноўгарад, дзе тры тыдні «седе на столе своем», пасля вярнуўся ў Маскву і паставіў сваіх намеснікаў[119], стала відавочнай перамога маскоўскай партыі і паражэнне «літоўскай». Дайшло да таго, што наўгародскі пасаднік Астафій Дваранішчаў назваў Альгерда «псом»[120]. Падрыў пазіцыі ВКЛ у Ноўгарадзе занепакоіў Альгерда: маглі пайсці марна шматвяковыя намаганні. І таму Альгерд пасля адыходу Сімяона адразу ж пачаў вайсковыя дзеянні супроць Ноўгарада, заявіўшы перад гэтым у сваім пасланні: «Хачу битися с вами»[121]. Яго войска пачало спусташаць наўгародскія землі па Шалоні і Лузе і ўзяло выкуп з Порхава і Апочкі. Наўгародцы, хаця і пайшлі ў бок Лугі, аднак, не уступіўшы ў бой, вярнуліся назад. Сабранае ў гэты час веча віноўнікам усіх бедаў абвясціла пасадніка Астафія Дваранішчава, які тут жа і быў забіты за тое, што наклікаў вайну[122]. Як бачым, перамога «літоўскай» партыі, як раней і маскоўскай, абумоўлівалася ўмяшаннем адпаведнай знешняй сілы. І хаця ў наступным годзе быў заключаны мір ВКЛ з Ноўгарадам, гэта з'явілася толькі чарговай вяхой у складаных узаемасувязях ВКЛ з Ноўгарадам.

## З ПОЎНАЧЫ НА ЎСХОД

Такі ж самы характар, як «пскоўская» і «наўгародская», мела і «смаленская» палітыка Альгерда, аднак яна была больш паспяховай. І гэта зразумела. Ва ўмовах, калі ўтварыліся два цэнтры сцягвання ўсходнеславянскіх земляў у дзве ўзаемнаварожыя дзяржавы — Літоўска-Полацкую і Маскоўскую, Смаленск, гэтак жа як Пскоў і Ноўгарад, апынуўся на мяжы інтарэсаў новых палітычных утварэнняў. Таму, каб захаваць сваю самастойнасць, ён таксама павінен быў праводзіць палітыку лавіравання.

Альгерд быў выразнікам інтарэсаў беларускіх земляў і найперш Полацкай, што на працягу стагоддзяў вяла актыўную палітыку падначалення сабе Смаленска. Усведамляючы даўнюю полацкую палітычную традыцыю і разумеючы значэнне падначалення Смаленскай зямлі сваёй уладзе ў супроцьдзеянні аб'яднаўчай палітыцы Масквы, Альгерд надаваў гэтаму вялікую ўвагу, яшчэ не будучы вялікім князем. Нам ужо вядома, што ўжо ў 1341 г. ён выступаў на баку Смаленска ў барацьбе за адабраны Масквою Мажайск.

Аб далейшым збліжэнні Смаленска з Літоўска-Полацкай дзяржавай сведчыць удзел смаленцаў у бітве з крыжакамі на р.Стрэве ў 1348 г. І ўжо сапраўдным абаронцам Смаленска выступае Альгерд у 1352 г., калі маскоўскі князь Сімяон Іванавіч з вялікім войскам пайшоў у напрамку да гэтага крывіцкага горада. Аднак на мяжы Смаленска і зямлі яго сустрэла пасольства ад Альгерда. Вынікам перамоваў было спыненне далейшага прасоўвання маскоўскага войска, якое было распушчана. А трохі пазней Сімяон Іванавіч даў Смаленскай зямлі мір, сустрэўшыся з яе пасольствам на р. Угры[123]. Аднак, пазбавіўшыся пагрозы Масквы, смаленскі князь Іван Аляксандравіч не мог не бачыць пагрозы падначалення Альгерду, што і прывяло да ўзаемных варожых дзеянняў. У 1355 г. Альгерд пад выглядам дапамогі Смаленскай зямлі захапіў горад Ржэў, які ляжаў на мяжы з Цвярскім і Маскоўскім княствамі, ад якіх вялікі літоўскі князь нібыта і бараніў суседзяў-смаленцаў.

Аднак, відаць, прычынаю было не толькі гэта. Варта пагглядзець на карту, каб убачыць, што Ржэў знаходзіцца на самым узмежжы пашырэння беларускіх гаворак на паўночным усходзе[124]. Такім чынам, ужо ў той час выразна бачылася беларуская этнічная мяжа, што ў ліку іншага і давала Альгерду падставу далучаць да тэрыторыі сваёй беларускай дзяржавы менавіта Ржэў. Можна меркаваць, што Альгердава акцыя выклікала з боку смаленскага князя дзеянні ў адказ і гэта прымусіла вялікага князя літоўскага той жа восенню ісці да Смаленска[125]. З кожным годам непрыязнасць у адносінах ВКЛ і Смаленска нарастала. У 1357 г. з дапамогаю цвярскіх і мажайскіх войск Ржэў быў вернуты Смаленску[126]. У наступным годзе самі смаленцы зрабілі спробу (праўда, няўдалую) вярнуць сабе захоплены раней у іх горад Белы. І гэта не прайшло для смален-

цаў дарэмна. У наступным, 1359 г., Альгерд са сваім войскам увайшоў у межы іх зямлі і далучыў да сваіх уладанняў Мсціслаў, што з'явілася значным крокам у працэсе аб'яднання беларускіх земляў у агульнай дзяржаве. З свайго боку Андрэй Полацкі ў тым жа годзе вяртае Ржэў, дзе размясціў свае гарнізоны[127]. Гэта яшчэ раз пасведчыла, дзе знаходзіліся ў тагачасным разуменні межы нашага народа.

Наколькі важнае значэнне надавалася Ржэву, сведчыць і той факт, што сам Альгерд наведаў гэты горад, які стаў пасля апірышчам далейшага наступу Андрэя Полацкага на Смаленскую зямлю з паўночнага ўсходу. У выніку ў 1367 г. ім была занята частка яе тэрыторыі з гарадамі Хорвая і Родня[128]. Гэта адпавядала намаганням Альгерда, які, заняўшы Северскую зямлю з Бранскам, тым самым замацаваўся на заходніх і паўднёвых межах Смаленшчыны. Хоць яна яшчэ не была фармальна далучана да Вялікага княства, аднак ужо цалкам залежала ад апошняга. Яскравым сведчаннем такога становішча было тое, што смаленскі князь Святаслаў Іванавіч павінен быў у 1368, 1370 і 1372 гг. удзельнічаць у паходзе Альгерда на Маскву[129], якая стала яго галоўным праціўнікам. Таму ён сурова караў тых, хто намерваўся дапамагаць ёй. Так было ў 1374 г., калі адзін са смаленскіх князёў, Іван Васільевіч, дапамог Маскве ў яе паходзе на Цвер. Альгерд уварваўся ў Смаленскую зямлю, паваяваў яе прыгарады і захапіў вялікі палон[130]. Масква добра разумела ўсю небяспеку залежнасці Смаленска ад ВКЛ і таму рабіла спробы супрацьдзейнічаць гэтаму, як было ў 1368 г., калі яна паваявала частку Смаленскай зямлі. Маскоўскі князь Дзмітрый Іванавіч (Данскі) усведамляў важнае стратэгічнае значэнне Ржэва і таму ў 1375 г. паслаў туды войска, аднак, спаліўшы пасад, узяць горада яно не змагло[131].

Як бачна, у адрозненне ад сітуацыі з Псковам і Ноўгарадам барацьба за Смаленск ішла паспяхова, і ён цалкам апынуўся ў сферы палітычнага прыцягнення ВКЛ. Асабліва важна падкрэсліць удзел у гэтых падзеях Андрэя Полацкага. У свой час В. Данілевіч гаварыў: «Калі пры Воіне самастойнасць полацкага князя была фіктыўнай, то цяпер полацкі князь (маецца на ўвазе Андрэй. — *М.Е.*) траціць усялякае значэнне і палітычную самастойнасць»[132]. Аднак усё было наадварот. Менавіта цяпер з найбольшай выразнасцю выяўляецца працяг по-

лацкай аб'яднаўчай палітыкі. Тое, што Андрэй быў сынам Альгерда і выконваў яго волю, не толькі не азначае страту самастойнасці Полацкай зямлі, але яшчэ больш падкрэслівае яе значэнне, паколькі Альгерд, стаўшы вялікім князем, быў найперш выразнікам інтарэсаў беларускіх земляў і таму ў правядзенні сваёй палітыкі абапіраўся на Полацкую зямлю як магутную сілу. Фактычна Вялікае княства на той час паводле характарыстыкі, зробленай у свой час В. Антановічам[133], выяўляла сябе як Літоўска-Полацкая дзяржава. Сапраўды, яна была нёманска-дзвінскай дзяржавай, што пашырала сваю тэрыторыю на грунце полацкай аб'яднаўчай палітыкі. Тое, што не пад сілу было адной Полацкай зямлі (а менавіта падначаленне сабе Смаленска), стала магчымым для аб'яднаных беларускіх земляў. Вядома, што тут адыграла сваю ролю і этнічная еднасць: як Полацкая, так і Смаленская землі былі пераважна крывіцкімі.

Ужо адзначалася, што побач з падначаленнем Смаленска ішло і падначаленне Бранска і што менавіта дзякуючы другому адбылося і першае. На вялікі жаль, у крыніцах падзеі, звязаныя з барацьбой Альгерда за Бранск, адлюстраваны зусім недастаткова, што можа навесці на думку аб нязначнасці (у параўнанні са Смаленскам) перамогі над Бранскам. І гэтаму ў значнай ступені садзейнічала абвостраная ўнутраная барацьба, якая разгарэлася тут у 1310 г. паміж князем Святаславам Глебавічам і яго пляменнікам Васілём за Бранск[134], а ў 1339—1341 гг. — паміж Глебам Святаславічам і вечам, на якім гэты князь і быў забіты[135]. Пад 1355 г. летапіс адзначыў яшчэ большыя смуты, у выніку якіх «апустоше грады»[136]. Зразумела, што ўсё гэта і выкарыстаў Альгерд для падначалення сваёй уладзе Бранска. Праўда, у крыніцах толькі зарэгістраваны гэты факт, дэталёвага яго апісання не захавалася.

Па ўсім відаць, што далейшае далучэнне дробных удзелаў Северскай зямлі адбылося добраахвотна і таму мірна, што і зразумела. Насельніцтва Севершчыны, як і Смаленшчыны, было этнічна блізкае насельніцтву іншых беларускіх земляў. Нездарма на гэтай тэрыторыі і цяпер пашыраныя беларускія гаворкі[137]. Такім чынам, далучэнне Северскай зямлі было выяўленнем далейшага аб'яднання беларускіх земляў.




*Шахматы на тэрыторыі Беларусі ў XII-XIII стст.*

*Малюнак В. Стагичанюка*

## АДНОСІНЫ З МАСКВОЙ

Актыўная палітыка Альгерда ў адносінах да Пскова, Ноўгарада, Смаленска і Бранска не магла не выклікаць супроцьдзеяння другога аб'яднаўчага цэнтра — Масквы. Добра бачачы гэта, Альгерд паступова выпрацаваў стратэгію барацьбы з ёю. Відаць, напачатку ён лічыў, што можна будзе наогул перамагчы Маскву і тым самым спыніць аб'яднаўчую палітыку, з якой яна, у параўнанні з ВКЛ, значна спазнілася. Першнаперш Альгерд, разумеючы, што сіла Масквы ў значнай ступені залежыць ад саюза з Ардой, вырашыў парваць яго і самому ўступіць у хаўрус з татарамі. Гэтай мэце і служыла пасольства Альгерда да хана Чаінбека ў 1349 г., што выклікала вялікую трывогу ў маскоўскага князя Сімяона Іванавіча, які ў процівагу Альгерду накіраваў у Арду сваіх паслоў. Тыя здолелі аслабіць уплыў Альгердавых паслоў на хана. Маскоўскія паслы зрабілі ўпор на тое, што Альгерд неаднаразова хадзіў на ханскія ўлусы і што цяпер ён хоча пайсці на галоўны ўлус — Маскоўскае княства, а авалодаўшы ім, пайсці на самога хана.

Чаінбека гэта пераканала, што цалкам зразумела. Ён не мог не разумець, што Альгерд, далучаючы да сваёй дзяржавы новыя землі, тым самым вызваляе іх ад татарскай улады і што яго перамога над Масквой сапраўды можа стаць канчатковаю перамогай і над Ардой. Таму становіцца зразумелым далейшае жорсткае абыходжанне Чаінбека з Альгердавымі пасламі: яны былі арыштаваныя і выдадзеныя Сімяону Іванавічу. Мы звяртаем увагу на асобы гэтых паслоў: Карыят (навагародскі князь), Сімяон (князь свіслацкі), Міхаіл (невядома, дзе княжыў) і баярын Айкша[138]. Гэта адзін з тых рэдкіх выпадкаў, якія дапамагаюць расшыфраваць, што хавалася ў той час пад назвамі «Літва» ці «літоўскі». Як бачым, імёны і месцы ўладарання гэтых князёў, якіх называюць літоўскімі, сведчаць, што ў сапраўднасці яны былі беларусамі і прадстаўлялі беларускія землі.

Скіраваны на раскол Масквы і Арды план Альгерда закончыўся няўдачай, прычына якой крыецца ў тым, што тады ўжо ні Арда не магла існаваць без Масквы, ні Масква без Арды. Першая з дапамогаю Масквы трымала ўладу над рускімі землямі, другая з дапамогаю Арды падначальвала сабе свабодныя рускія землі, што павялічвала яе сілу і рыхтавала яе вызваленне ад татарскай няволі. Вядома ж, Альгерд быў не ў сілах ваяваць з абодвума сваімі магутнымі праціўнікамі. I ён пайшоў на мір з Масквой, у чым Сімяон Іванавіч яму не адмовіў. Як звычайна у той час, гэтыя мірныя адносіны завяршыліся шлюбнымі саюзамі: пляменніцу маскоўскага князя аддалі за Альгердавага брата Любарта, а сам Альгерд, першая жонка якога Марыя Віцебская памерла ў 1347 г., ажаніўся з дачкою цвярскога князя Юльянай, што была пляменніцай маскоўскага князя[139].

Хоць мір паміж ВКЛ і Масковіяй пры жыцці Сімяона Іванавіча і захоўваўся, гэта зусім не азначала канчатковага прымірэння Альгерда са сваім найважнейшым праціўнікам у галоўным тады для яго клопаце — збіранні земляў. Гэта толькі азначала змену тактыкі ў яго барацьбе. Не маючы поспеху ў наладжванні саюза з Ардой, Альгерд убачыў магчымасць знясіліць Маскву ў падтрымцы міжусобнай барацьбы з ёю, якую вялі рускія княствы. I гэтая магчымасць адкрылася, але пазней, ужо пры маскоўскім князі Дзмітрыі Іванавічу, калі ў 1357 г. разгарэліся ўсобіцы паміж удзельнымі цвярскімі кня-

зямі. Аднаго з іх, калязінскага князя Васіля Міхайлавіча, падтрымаў маскоўскі ўладар, а яго сапернік, холмскі князь Усевалад Аляксандравіч (брат Юльяны), звярнуўся па дапамогу да Альгерда. Той у 1360 г. паслаў сваё войска на Цвер, што і вымусіла Васіля Міхайлавіча вярнуць Усеваладу яго воласць[140]. Аднак у 1366 г. міжусобная барацьба ў Цверы зноў разгарэлася — паміж тымі ж сынамі Васіля і братам яго ранейшага праціўніка Усевалада — Міхаілам. Змаганне ішло як за вялікае княжанне ў Цверы, так і за Гарадзецкі ўдзел. Ізноў за першага ўступіўся маскоўскі князь, за другога — Альгерд, войскі якіх прыйшлі ў Цвярское княства[141]. Пасля заключэння перамір'я справу аб барацьбе гэтых цвярскіх князёў было вырашана прадоўжыць у судзе, на які яны былі выкліканыя ў Маскву князем Дзмітрыем Іванавічам і мітрапалітам Алексіем. Аднак на трэці дзень Міхаіл Аляксандравіч са сваімі братамі быў арыштаваны, і Дзмітрый Іванавіч прымусіў яго адмовіцца ад Гарадзецкага ўдзела на карысць Васіля. На гэты выпадак трэба звярнуць асаблівую ўвагу, паколькі ён добра характарызуе каварства маскоўскіх князёў, якія ўсё больш засвойвалі азіяцкія прыёмы татарскіх ханаў. У далейшым такія прыёмы сталі неад'емнай асаблівасцю іх абыходжання з праціўнікамі.

Пасля смерці Васіля Міхайлавіча цвярскі пасад заняў Міхаіл Аляксандравіч, што выклікала трывогу ў маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча, які, баючыся ўмацавання становішча свайго былога праціўніка, паслаў супроць яго войска. Трэба зазначыць, што ўжо працяглы час ішло саперніцтва Масквы і Цверы. Яшчэ у 1327 г. Іван Каліта ў саюзе з татарамі зрабіў спусташальны паход на Цвер.

У сваю чаргу Міхаіл Аляксандравіч, разумеючы, што яму аднаму з маскоўскім войскам не справіцца, звярнуўся па дапамогу да свайго швагра Альгерда[142]. Князь Міхаіл знайшоў выдатную нагоду, каб падштурхнуць сваякоў да непасрэдных ваенных дзеянняў супроць Масквы, якія ён і распачаў у лістападзе 1368 г. Альгерд заўсёды трымаў ажыццяўленне сваіх намераў у вялікай таямніцы, і гэта часта забяспечвала яму поспех. Таму і цяпер з'яўленне ягонага войска (там былі сілы Кейстута і смаленскія воіны) у межах Маскоўскага княства было поўнай нечаканасцю для Дзмітрыя Іванавіча. Пакуль ён

склікаў падуладных князёў, Альгердавы дружыны, спустошаючы варожую тэрыторыю, рухаліся да Масквы. Не мог стрымаць наступу і вартавы полк, сабраны з бліжэйшых да Масквы ўдзелаў. Альгердавы ваяры ўварваліся ў Маскву. Дзмітрый Іванавіч, адступаючы, спаліў пасад і засеў у Крамлі. Аднак Альгерд, прастаяўшы тры дні каля яго сцен, на прыступ не адважыўся.

Відаць, мэтаю Альгерда быў не захоп Масквы і яе княства, што магло б прывесці да вялікіх страт у яго сіле і іншых цяжкасцяў, а паступовае знясільванне свайго праціўніка, што ў канчатковым выніку і прывяло б да страты Масковіяй палітычнай сілы і ў выніку яе аб'яднаўчай ролі. Вось чаму, адмовіўшыся браць Крэмль, Альгерд, адступаючы ад Масквы, разбурыў ці спаліў многія будынкі, браў у палон людзей, выводзіў скаціну і інш. Усё эта ўзбагачала і ўзмацняла Альгерда і аслабляла Маскву.

І хоць для Цверы таксама наступае палёгка, бо Дзмітрый Іванавіч вярнуў Міхаілу Аляксандравічу Гарадзец і адмовіўся ад дапамогі ягонаму сапернiку[143], мірная перадышка працягвалася нядоўга. У 1370 г. Дзмітрый Іванавіч, вызваліўшы сябе ад хрэснага цалавання, якое ён даваў Міхаілу Аляксандравічу, узнавіў наступальную палітыку ў адносінах да Цверы, у якой ён бачыў галоўнага праціўніка ў сваіх аб'яднаўчых планах. Сапраўды, падначаленне Цверы адчыняла Маскве дарогу на поўнач, да Ноўгарада і Пскова, валоданне якімі таксама было залатою мараю маскоўскага ўладара.

Уварваўшыся ў Цвярское княства, Дзмітрый Іванавіч спустошыў гарады Мікулін і Зубцоў і вывеў у Маскву вялікі палон. І гэты канфлікт для Альгерда таксама стаў зачэпкаю, каб выступіць супроць Масквы. Зноў, разам з войскам Кейстута і смаленскга князя Аляксандра Святаслававіча, ён прыйшоў на дапамогу цвярскому князю. Аднак гэтым разам яго дзеянні былі беспаспяховымі. Не ўзяўшы на працягу трох дзён Валакаламска, ён накіраваўся на Маскву, якую ўзяў у аблогу 6 снежня. Аднак, даведаўшыся, што Дзмітрый Іванавіч, як і ў мінулы раз, засеў у Крамлі, а ў ваколіцах Перамышля сабраліся моцныя войскі, маскоўскае і разанскае, Альгерд вырашыў заключыць перамір'е на паўгода і адступіў назад[144].

Не атрымаўшы чаканых вынікаў ад дапамогі Альгерда, цвярскі князь Міхаіл Аляксандравіч звярнуўся да Арды. Выправіўшыся туды, ён атрымаў ярлык на валоданне Уладзімірскім княствам. З гэтага відаць, што Арда таксама баялася ўмацавання Масквы і таму падтрымлівала яе барацьбу з Цвер'ю за саперніцтва ў аб'яднанні рускіх земляў. Між тым, Дзмітрый Іванавіч, даведаўшыся пра ўчынак ардынскага хана, сам паехаў да яго, залагодзіў татарскага ўладара і ягоных жонак шчодрымі падарункамі і дабіўся сабе ярлыка на Уладзімірскае княства. Таму для цвярскога князя зноў заставалася толькі адно: звярнуцца па дапамогу да Альгерда, які не адмовіў яму ў гэтым. У 1372 г. яго войска пад началам Кейстута, Вітаўта, Андрэя Полацкага і іншых князёў было пасланае на дапамогу Цверы. Дарэчы, звернем увагу на тое, што Кейстут і яго сын Вітаўт, якія баранілі заходнія землі дзяржавы ад шматлікіх крыжацкіх рэйзаў, павіны былі ўдзельнічаць у вайсковых справах усходняй часткі Княства. Гэта зноў-такі паказвае, наколькі дамінавалі ў дзяржаве яе беларускія інтарэсы, калі дзеля іх адцягваліся сілы з захаду, дзе была найбольшая знешняя пагроза.

Пасланыя войскі ўварваліся ў межы маскоўскіх уладанняў, нанеслі адчувальны ўдар па гарадах Пераяслаўлю і Кашыну. Хоць Міхаілу Аляксандравічу ўдалося завалодаць і іншымі гарадамі (Углічам, Бежацкам, Дзмітраўскам, Кастрамою, Таржком і інш.), аднак гэты поспех быў непрацяглым. Насустрач войску Міхаіла і Альгерда са смаленцамі і бранцамі выйшла маскоўскае войска Дзмітрыя. Сустрэўшыся ў раёне Любуцка, дзве сілы не адважыліся ўступіць у бой адна з другой. Паміж Альгердам і Дзмітрыем Іванавічам было заключана перамір'е[145], умовы якога з'яўляліся вельмі цяжкімі для цвярскога князя Міхаіла, які быў вымушаны прызнаць сваю поўную залежнасць ад Дзмітрыя Іванавіча, а Альгерд у выпадку новай вайны Цверы з Масквой не павінен быў дапамагаць Міхаілу[146].

У 1374—1375 гг. Міхаіл Аляксандравіч зрабіў яшчэ адну спробу барацьбы з Масквой. Зноў здабыўшы ў Ардзе ярлык на Уладзімірскае княства і заручыўшыся падмогаю Альгерда, ён аб'явіў вайну свайму даўняму праціўніку. Аднак Дзмітрый Іванавіч, сабраўшы сваё войска і дружыны падуладных яму князёў, заняў усё Цвярское княства. Міхаіл Аляксандравіч павінен быў на працягу сямі тыдняў абараняцца. На дапамогу

яму ішоў атрад, пасланы з ВКЛ, але ён, убачыўшы вялікую маскоўскую сілу, вырашыў не ўступаць у бой і павярнуў назад. Зразумеўшы безнадзейнасць свайго супраціўлення, Міхаіл Аляксандравіч вымушаны быў прасіць міру ў Дзмітрыя Іванавіча, вынікам чаго і з'явілася поўная залежнасць Цверы ад Масквы[147].

Як бачым, вынікі Альгердавай «маскоўскай» палітыкі былі неаднолькавыя. Хоць ён і не атрымаў перамогі ў Пскове і Ноўгарадзе і не змог забяспечыць перавагі Цверы над Масквой, затое Смаленск апынуўся у поўнай залежнасці ад ВКЛ, а Бранск разам з усёй Севершчынай перайшоў пад уладу Альгерда.

## З УСХОДУ НА ПОЎДЗЕНЬ

Хаця найбольшая ўвага Альгерда была скіравана на адносіны з паўночнымі і ўсходнімі суседзямі, што найбольш адпавядала полацкай частцы дзяржавы, тым не менш з яго поля зроку не выпадалі і інтарэсы літоўскай, нёманскай, часткі дзяржавы, у якой знаходзілася яе першая сталіца — Навагародак. Нам ужо вядома аб складаных узаемаадносінах паміж Навагародскай зямлёй і яе паўднёвымі суседзямі — Галіцка-Валынскімі князямі. Быў час (ён прыпадае ў асноўным на 1-ю палову XIII ст.), калі Навагародак павінен быў выконваць іх волю. Вызваліўшыся ад залежнасці ў 1258 г., а пасля і стаўшы сталіцаю новай дзяржавы, Навагародак неаднаразова адбіваў напады на яго галіцка-валынскіх князёў, якія фактычна з'яўляліся яго галоўнымі знешнімі ворагамі. Нават яшчэ ў 1289 г. князі Будзікід і Будзівід вымушаны былі аддаць валынскаму князю Ваўкавыск, каб толькі захаваць з імі мір.

Але ў выніку татара-мангольскай навалы і міжусобнага саперніцтва Галіцка-Валынская зямля траціць палітычнае адзінства і, як вынік гэтага, слабее і сама становіцца аб'ектам саперніцтва суседніх дзяржаў за ўладу над ёю. Каля 1325 г. валынскім князем становіцца Гедзімінаў сын Любарт, а гэта азначала, што Валынь стала часткаю ВКЛ. І, вядома ж, гэта было найперш перамогаю для Навагародскай зямлі.



*Воін Вялікага княства Літоўскага XIVст.*

Аднак валоданне Валынню для ВКЛ было нялёгкай справай, паколькі сапернікам яго стала Польшча, якая таксама лічыла сябе законнай спадкаемніцай Галіцка-Валынскай зямлі. У выніку барацьба Любарта, якому дапамагаў і Альгерд, з польскім каралём Казімірам і мазавецкім князем Земавітам у 1347 г. было заключана перамір'е, паводле якога Львоўская зямля заставалася за Польшчай, а ўсе астатнія (Уладзімірская, Луцкая, Холмская, Бельская і Берасцейская) — за Вялікім княствам, якое такім чынам атрымала значную перавагу. Гэта не магло задавальняць Польшчу. Таму па заключэнні перамір'я ў 1349 г. Казімір зноў распачаў вайну. У выніку імклівых дзеянняў ён захапіў Холмскую і Бельскую землі, а таксама ўсю Валынь і Берасцейскую зямлю, якая яшчэ пры Гедзіміне знаходзілася ў складзе Вялікага княства. Самому ж Любарту ён прапанаваў толькі Луцкую зямлю і то ў якасці леннага валодання[148].

У сваю чаргу Любарт з дапамогай Кейстута ў наступным 1350 г. адваяваў Валынь, выгнаўшы адтуль польскія гарнізоны і разбурыўшы крэпасці, якія пачалі ўзводзіць палякі, а пасля перайшлі ў далейшы наступ, заваяваўшы Львоўшчыну, а таксама і сумежныя землі — Сандамірскую, Радамскую і Лукаўскую[149]. Казімір, апынуўшыся ў цяжкім становішчы, вымушаны быў шукаць падтрымкі. Асабліва характэрны яго зварот да рымскага папы Клімента VI. З мэтаю напалохаць святы пасад ён прадставіў становішча так, нібыта яго землямі завалодалі язычнікі. Але ўжо тое, што на Валыні князем быў праваслаўны Любарт, яшчэ раз красамоўна абвяргае ўяўленне аб ВКЛ як язычніцкай дзяржаве. І ўсё ж менавіта такі погляд на гэтую дзяржаву і выкарыстоўваўся для дасягнення

вайскова-палітычных мэтаў супроць яе. У дадзеным выпадку гэта мела свае вынікі: Клімент VI дазволіў польскім біскупам аб'явіць крыжовы паход супраць Вялікага княства і адначасова даў Казіміру дазвол выдаткоўваць дзесятую частку царкоўных даходаў на барацьбу з язычнікамі. Істотнай падтрымкаю для Казіміра быў і яго саюз з венгерскім каралём Людовікам.

З свайго боку і Альгерд знайшоў сабе саюзнікаў у асобе татараў, якія валодалі Падоллем. Як бачна, у вайну былі ўцягнутыя значныя сілы, таму яна і доўжылася яшчэ пяць гадоў. Спачатку поспех быў за палякамі, якія зноў захапілі Валынь, і нават палонілі Кейстута, які, праўда, у хуткім часе здолеў уцячы.

Узяты ў Луцку ў аблогу, Любарт таксама мог трапіць у палон, але змог выбрацца з варожага кола. Перамена ў вайсковых дзеяннях на карысць ВКЛ адбылася тады, калі на дапамогу сваім братам прыйшоў з войскам Альгерд. Іх аб'яднаныя палкі робяць набегі на Польшчу і Мазовію, выганяюць польскія гарнізоны з гарадоў Валыні і робяць спробу захапіць Галіцкую зямлю. Любарт нават быў захапіў Галіч, аднак, не ўтрымаўшы яго, вымушаны быў адступіць, разбурыўшы замкі і захапіўшы вялікую здабычу. Відаць, на гэтым у 1356 г. і закончылася вайна паміж Польшчаю і Вялікім княствам. На жаль, умовы міру не захаваліся. Дайшла толькі да нас асобная дамова, заключаная паміж Кейстутам (ад імя Альгерда і іншых князёў), з аднаго боку, і Мазовіяй — з другога. Яна найперш цікавая тым, што, паводле яе, Берасцейская зямля зноў пераходзіць да Кейстута, г. зн. становіцца часткаю ВКЛ[150]. І хоць барацьба за Валынь не скончылася, гэтым разам зыход яе быў, па ўсім відаць, на карысць Вялікага княства, што Альгерд выкарыстаў для далейшага пашырэння абшару сваёй дзяржавы ў паўднёвым накірунку.

Праўда, гэта адбылося не адразу, бо, як ужо адзначалася, з 1357 г. пачалося ўмяшанне Альгерда ва ўзаемаадносіны паміж Маскоўскім і Цвярскім княствамі. Тым не менш у 1362 г. Альгерд ажыццявіў свой імклівы рэйд на Падолле. Яно у той час знаходзілася пад татарскаю ўладай, але ўжо было незалежным ад Залатой Арды, якая знаходзілася ў стане распаду. Мы ўжо ведаем, што ў 1356 г. падольскія татары былі на баку Альгерда, гэтак жа як і ў 1351 г. Прычынаю такіх дружалюбных ад-

носін з'яўлялася тое, што Польшча прэтэндавала не толькі на Галіцыю, але і на Падолле. І гэта, вядома, рабіла татарскіх уладароў саюзнікамі Альгерда. Аднак у 1356 г. Казімір пачаў перамовы з татарскімі князямі Падолля, задобрыў іх багатымі дарункамі, і гэта дало свае вынікі: сем татарскіх уладароў Падолля перайшлі на бок Польшчы супроць Альгерда[151]. Такая рэзкая змена ў пазіцыі татараў і дала Альгерду падставу таксама змяніць адносіны да іх, што і выявілі падзеі 1362 г. На жаль, гэтая важная падзея вельмі скупа, а то і заблытана (як у «Хроніцы Быхаўца»)[152] пададзена ў крыніцах. Больш поўнае і дэталёвае яе асвятленне мы знаходзім у «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай»[153].

У шэрагу крыніцаў сказана толькі, што Альгерд у гэтым паходзе атрымаў вырашальную перамогу на р.Сінія Воды над трыма татарскімі князямі Падолля: Кутлубугам, Хаджыбегам і Дзмітрыем (незразумела, чаму гэты апошні насіў хрысціянскае імя; магчыма, зразумеў, што над хрысціянамі лягчэй будзе ўладарыць, перайшоўшы ў іх веру). У «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай» гэтая падзея перададзена так: «Ольгерд... выправился против татаров в Поля Дикие; тягнули теж з ними и чотыри его сыновци Кориятовичи: Александр, Константин, Юрий, Феодор — Корията, князя новгородского сынове. А гды пришли до Синей Воды, минувши Канев и Черкасы, указался им в полю великая орда з трома цариками на три обозы разделеныи, то есть Котлубая, Катибея, Бекера и Дмитра солтана. То обачивши, Ольгерд, же до войны готовы татаре, разшиковал войско свое на шесть гуфов закривленных з боков и на чоло розсадивши, абы их татаре танцами звыклыми огорнути и стрелами шкодити не могли. А потом з великою запалчивостю татаре град железный з луков на литву густо пустили, але им стрэлбою не зашкодили, для порядного ушикования и прудкого розступеня. Литва зас з русю скочила зараз з копиями и шаблями, потыкаючися, чоло им перервали и танцы помешали, другие зас з куш белтами, а звлаша новогорожане з Кориятовичами и валили их з коней, натираючи на них з боков, летали не иначе як снопы от гвалтовного ветру татаре разбурены, а не могучи болш литвь на чоль вытрвати, почали мешатися и утекати по широких полях. Там же цариков их трох: Котлбая, Катибея, Бекера — забито, от Мурзов и ула-

нов побито велми много, трупов тежь татарских полны поля и реки были, стад килкадесят, верблюдов, обозы их, в которых всю маетность звыкли свою татаре з пши на пашу возити...»[154]

Мы падалі гэтую вытрымку з летапісу, бо яна найбольш поўна і праўдзіва сведчыць аб выдатнай падзеі нашай гісторыі. Апрача таго, яна дае нам дэталёвае апісанне бітвы, тактыкі бою як Альгерда, так і татараў, што можа мець вялікую цікавасць для гісторыкаў вайсковай справы. Характэрна і тое, што тут татарскія ўладары называюцца царыкамі, што вельмі добра адлюстроўвае мізэрнасць абсягаў іхняе ўлады.

Але для нас асабліва важна звярнуць увагу на тое, што ў паходзе ўдзельнічалі навагародскія князі Карыятавічы — Аляксандр, Юрый, Канстанцін і Фёдар. У «Хроніцы Быхаўца» таксама паведамляецца аб гэтым, але вельмі заблытана. Паводле гэтай крыніцы, Альгерд узяў толькі трох Карыятавічаў, а чацвёрты, Фёдар, з'явіўся ў Падоллі толькі пасля смерці трох сваіх братоў, але быў выгнаны князем Альгердам[155]. Аднак у сапраўднасці ў паходзе разам з Альгердам бралі ўдзел усе Карыятавічы. І самае важнае, што яны складалі галоўную апору Альгерда і адыгралі галоўную ролю ў перамозе. Таму становіцца зразумелым, чаму Альгерд, вяртаючыся дадому з часткаю войска, «другю часть в Подолю оставил, под которым войском приложил сыновцов своих князей новгородских Корнятовичей Александра, Константина, Юрия и Феодора, и все крины Русские с Подолем поручил им и дал в панованне»[156]. Усё паказвае, што названы паход, як і барацьба за Валынь, быў найперш у інтарэсах Навагародка, і таму ў ім удзельнічалі навагародскія князі са сваім войскам, якім і былі аддадзены ва ўладанне ўсе заваяваныя землі. Такім чынам, хаця Навагародак і страціў сваё сталічнае становішча, аднак ён не страціў дзяржаўнай значнасці. Нездарма ж і цяпер прызначэнне князя на навагародскі пасад суправаджалася яго каранаваннем, як гэта было з Карыятам[157] у 1327 г. Навагародак, як і Полацк, дыктаваў сваю палітыку вярхоўнай уладзе, вынікам чаго і з'явіўся паход Альгерда ў Падолле.

Дарэчы, і тут летапіс паказвае, што пад назваю «Літва» хаваецца не сучасная Літва, а Навагародчына. Гэта добра бачна з таго што Карыятавічы адначасова называюцца і навага-

родскімі, і літоўскімі князямі — як, напрыклад, там, дзе гаворыцца пра будаўніцтва ў Падоллі замкаў[158].

Заваяванне Падолля вызначыла і лёс Кіеўскага княства. Акружанае з усіх бакоў уладаннямі Альгерда, і яно, натуральна, павінна было перайсці пад яго ўладу, што і адбылося без барацьбы. Аб гэтай падзеі гаворыцца вельмі коратка і то толькі ў Густынскім летапісе: «Сей Ольгерд и иншия Русские державы во свою власть принят, и Киев под Фёдором князем взят, и посади в нем Володимера сына своего, и начи на сим владети»[159]. Заваяванне Альгердам Кіеўшчыны было адначасова і вызваленнем яе, як і Падолля, ад татарскай няволі. Летапіс паведамляе пра тое, што Альгерд гэтым землям «от татаров вольность учинил»[160]. Менавіта князь Фёдар, якога замяніў Альгердаў сын Уладзімір, быў фактычна падручным хана Залатой Арды. Аднак тая ўжо занепадала, таму і не зрабіла ніякіх захадаў у адказ на тое, што Альгерд адабраў ад яе «ўлусы». Гэта добра сведчыць, наколькі прадбачлівым палітыкам быў Альгерд, наколькі ўдала ён мог выбраць момант для дзеянняў.

Калі барацьба за Падолле і Кіеўшчыну закончылася паспяхова, то змаганне за Валынь зноў аднавілася. Польскі кароль Казімір, выкарыстоўваючы ўдзел Альгерда ў цвярскіх справах, у 1366 г. зноў зрабіў паход на Валынь з мэтаю яе падначалення Польшчы. Спачатку яму ўдалося заняць Белу і Холм, князь якіх Юрый Нарымонтавіч, не маючы дастатковых сіл для супраціўлення, вымушаны быў прызнаць уладу Казіміра. Потым польскія войскі занялі і іншыя гарады Валыншчыны — Уладзімір і Крамянец былі таксама аддадзены ў палон Аляксандру Карыятавічу, і толькі Луцк з акругамі застаўся за Любартам. Для нас асабліва важна адзначыць, што па ўмове, якая была заключана ў гэты час, польскі кароль назаўсёды прызнаваў Берасцейскую зямлю ўладаннем ВКЛ[161].

Аднак і на гэтым барацьба за Валынь не закончылася. Яна працягвалася яшчэ доўгі час у выглядзе спусташальных набегаў войск Вялікага княства на суседнія польскія землі. І толькі ў 1377 г., калі новы польскі кароль Людовік зноў са сваім войскам прыйшоў на Валынь, у час доўгай аблогі Белзы быў заключаны мір, па якому Берасцейская, Уладзімірская і Луцкая землі прызнаваліся за ВКЛ, а Холмская і Белзская — за Польшчай[162].

## АСОБА АЛЬГЕРДА

З разгледжанага вышэй выразна відаць, што Альгерд як да 1345 г., калі ён быў крэўскім і віцебскім князем, так і пасля, калі ён стаў вялікім князем літоўскім, найперш і галоўным чынам выступае як беларускі дзяржаўны дзеяч. З гэтым шчыльна звязана і пытанне аб яго веравызнанні. У ранейшай гістарычнай літаратуры большасць аўтараў схілялася да думкі, што Альгерд быў язычнікам. Падставаю былі паведамленні храністаў Г. Вартберга і Я. Длугаша аб яго язычніцтве да самай смерці і аб спаленні яго цела на вогнішчы. Але заходнія аўтары былі зацікаўленыя ў пашырэнні ўяўлення пра ВКЛ як пра язычніцкую дзяржаву і пра яе вялікіх князёў — як язычнікаў, што апраўдвала экспансіяніcцкія дзеянні Ордэна і Польшчы, якія прыкрываліся лозунгамі пашырэння хрысціянства. Аднак абсурднасць сцверджанняў аб язычніцтве Альгерда найперш выяўляецца фактам ягонага 25-гадовага княжання ў Віцебску. Вядома, што ў гэтым горадзе, як і ў Полацку, ці іншых беларускіх гарадах, не мог уладарыць язычнік. Ва ўсялякім разе, крыніцы не даводзяць да нас ніводнага такога факта. Апроч таго, як паведамляе Ніканаўскі летапіс, на просьбу пскоўцаў хрысціцца і быць у іх князем Альгерд адказваў, што ён ужо хрышчоны[163]. Малаверагодна, што пры нараджэнні Альгерд не быў ахрышчаны. Яго маці была праваслаўная і наўрад ці магла яна пагадзіцца з тым, каб яе сын быў нехрысцем. Ды і язычніцтва самога Гедзіміна, як ужо адзначалася намі раней, з'яўляецца вельмі праблематычным.

Пра язычніцтва Альгерда не можа сведчыць і яго імя. Мы ўжо ведаем, што ў княскіх родах, у тым ліку і полацкіх, дзецям давалі па два імені: княскае і хрысціянскае. Дык вось імя Альгерд і было княскім, а не язычніцкім. Хрысціянскае ж імя Альгерда было Андрэй (заслугоўвае ўвагі, што свайму першаму сыну, будучаму полацкаму князю, ён даў гэткае ж імя). А перад смерцю, па настаянню жонкі Юльяны, Альгерд прыняў схіму, а з ёй і імя Аляксей[164].

Вядома ж, і стаўшы вялікім князем, ён не мог перайсці ў язычніцтва, бо ў тым не было ніякай патрэбы. Ён па-ранейшаму быў выразнікам інтарэсаў усходняй хрысціянскай часткі дзяржавы. Факты пацвярджаюць, што як у Віцебску, так і ў

Вільні ён паводзіць сябе як хрысціянін, чаму не ў малой ступені садзейнічала і тое, што яго жонкі Марыя Віцебская і Юльяна Цвярская былі вельмі набожнымі хрысціянкамі. Гэта наглядна выявілася ў будаванні праваслаўных храмаў. Так, у Віцебску ім былі пабудаваныя цэрквы Дабравешчанская і Святога Духа. Не выключана, што пазней дзякуючы падабенству імёнаў Ольгі і Альгерда пабудова цэркваў у Віцебску была прыпісана княгіні Вользе[165], тым больш што ў 974 г. яна гэтага зрабіць не магла, бо яе ўжо не было ў жывых. Пераезд Альгерда ў Вільню таксама адзначаны пабудоваю двух храмаў, прычым першы з іх быў узведзены на месцы язычніцкага капішча. Ніяк не можа сведчыць пра язычніцтва Альгерда і гісторыя з трыма язычнікамі. Яны былі пакараныя смерцю не па загадзе Альгерда, а паводле патрабавання да яго язычнікаў. Раней ужо адзначалася, што язычніцкія імёны гэтых людзей, якія пасля былі абвешчаны святымі — Кумец, Круглец і Няжыла — сведчаць аб прыналежнасці іх носьбітаў да славян. Трэба думаць, што на тэрыторыі ВКЛ, дзе яшчэ мелася нямала язычнікаў, у тым ліку і ў Вільні, былі язычнікі-славяне з заходніх славянскіх земляў, што ўцякалі ад анямечвання і хрысціянізацыі. Менавіта яны маглі найбольш фанатычна берагчы веру сваіх продкаў і таму так жорстка абышліся з адступнікамі.

Бясспрэчна, што Альгерд з'яўляецца адным з найвыдатнейшых дзеячаў у нашай гісторыі. Гэтаму адпавядае нават яго знешні выгляд, апісанне якога знаходзім у адной нямецкай хроніцы: «Князь мае велічны выгляд, твар яго румяны, прадаўгаваты, нос яго вызначаўся сваёй велічынёй, вочы блакітныя, вельмі вострыя, бровы густыя, светлыя, валасы і барада светла-русыя з сівізною, лоб высокі, росту ён вышэй сярэдняга, не тоўсты, не худы, гаворыць голасам гучным, разборлівым і прыемным, ён выдатна ездзіць верхам, але ходзіць накульгваючы на правую нагу, таму звычайна апіраецца на кійці на отрака; па-нямецку разумее выдатна, можа свабодна гаварыць, аднак заўсёды гаворыць з намі праз перакладчыка»[166].

Галоўны вынік княжання Альгерда — у выключным пашырэнні тэрыторыі ВКЛ, якое стала адной з найбольш вялікіх дзяржаў Еўропы. У ёй беларускія землі, канчатковае аб'яднанне якіх таксама закончылася ў гэты час, займалі цэнтральнае

месца, што ў яшчэ большай ступені забяспечвала ім дамінуючае становішча. Гэта і давала магчымасць вызначаць галоўныя кірункі як унутранай, так і знешняй палітыкі ВКЛ.



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Ягайла. З «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» А. Гваньіні. 1578 г.*

## ЯГАЙЛА І АНДРЭЙ ПОЛАЦКІ

Унутраная палітычная раўнавага, якая стварылася ў ВКЛ пры Альгердзе, адразу парушылася пасля яго смерці. Ужо тое, што велікакняскі пасад перайшоў да Ягайлы — старэйшага сына Альгерда ад другой жонкі Юльяны — не магло не выклікаць пачуцця незадаволенасці ў каго-небудзь з іншых яго дванаццаці сыноў. Апроч таго, нельга забываць і аб браце Альгерда — Кейстуце, які быў фактычна самым старэйшым у родзе Гедзімінавічаў і меў найбольшае права заняць велікакняскі пасад пасля смерці свайго старэйшага брата. Усё гэта ў хуткім часе і дало вынікі.

Нельга, вядома, адмаўляць уплыву Юльяны на рашэнне Альгерда пасля смерці пакінуць велікакняскі пасад за Ягайлам. Звычайна шэраг даследчыкаў характарызавалі Ягайлу выключна адмоўнымі рысамі. Ён, маўляў, быў лянівы, нядбалы, бесхарактарны, схільны да раскошы і нічога не зрабіў дзеля дабра сваёй краіны[167]. Але ўсё гэта зыходзіла з памылковага ўяўлення аб Крэўскай уніі як падзеі, якая толькі задавальняла асабістыя амбіцыі Ягайлы.

Далейшыя падзеі пакажуць, што Ягайла не быў такой безабліччнай асобай, як яго імкнуліся паказаць, а, наадварот, валодаў якасцямі, патрэбнымі для дзяржаўнага дзеяча. Трэба думаць, што такія якасці бачыў у ім і Альгерд. Зноў-такі Ягайлу

дастаўся не толькі велікакняскі пасад, што адначасова рабіла яго як уладаром Віленскага ўдзела, так і вотчынных уладанняў Альгерда — Крэўскага і Віцебскага. А гэта спалучала ў асобе Ягайлы агульныя інтарэсы дзяржавы найперш з інтарэсамі яе ўсходняй часткі.

Няма чаго казаць, наколькі дарагім для Альгерда быў яго старэйшы сын ад першай жонкі — Марыі Віцебскай — Андрэй. Відаць, толькі дасягнуўшы паўналецця (ён нарадзіўся дзесьці каля 1320 г.), Андрэй стаў верным памочнікам бацькі ў яго дапамозе Пскову супроць крыжакоў і, як нам вядома, быў абраны пскоўскім князем. Гэтак жа сама Альгерд, стаўшы вялікім князем, у пскоўска-наўгародскіх, смаленскіх, маскоўскіх і цвярскіх справах у вялікай меры абапіраўся на сілы Андрэя, паколькі ўсё гэта вызначалася найперш інтарэсамі Полаччыны. І вядома ж, на плечы Андрэя клаўся цяжар барацьбы з крыжакамі, якія не спынілі сваіх нападаў на Полацкую зямлю. Тым больш што полацкі князь не толькі абараняўся, але і наступаў, пра што сведчаць яго два паходы на Дынабург у 1373—1374 гг.

Вясною 1375 г. Андрэй у саюзе з Кейстутам і іншымі князямі робіць паход на лівонцаў, якія перад гэтым нападалі на Жамойць. У сваю чаргу, крыжакі, помсцячы Андрэю за яго набегі на іх землі, напалі на Полацкую зямлю, узяўшы ў палон 86 чалавек і захапіўшы 100 коней. Гэта таксама не прайшло без пакарання з боку Андрэя, і ён зрабіў паход на Дынабург. Цікава адзначыць, што полацкае войска часткова ішло на конях, часткова на караблях[168]. Відаць, такой была тактыка палачанаў, бо гэтак жа сама ішло іх войска на Рыгу ў 1203 г.

Усё адзначанае характарызуе Андрэя як выдатнага дзяржаўнага дзеяча і таленавітага палкаводца. (Апошняе асабліва пацвердзяць далейшыя падзеі.) Вядома ж, гэта давала яму падставу для атрымання пасля бацькавай смерці велікакняскага пасада, не гаворачы ўжо пра тое, што ён гэта права меў як старэйшы сын. Аднак яго надзеі не спраўдзіліся, велікакняскую годнасць атрымаў старэйшы сын другой Альгердавай жонкі — Юльяны. Зразумела, што такі выбар быў прадыктаваны не толькі Юльянай. Бачачы ўсе вартасці Андрэя, Альгерд разумеў, што пераезд яго з Полацка ў Вільню пацягне за сабою вялікія ўскладненні для Андрэя, якія трапіць у непрыяз-

нае для яго асяроддзе Ягайлы, што, у сваю чаргу, пацягне за сабою ўскладненні ва ўсёй дзяржаве.

Аднак без барацьбы не абышлося. Не выключана, як лічаць некаторыя даследчыкі[169], што Андрэй выклаў Ягайлу свае прэтэнзіі, але той не згадзіўся з гэтым, што і выклікала рашучую барацьбу паміж імі. Але найверагодней, што, наадварот, Ягайла выставіў Андрэю прэтэнзіі на падначаленне яму Полацка. Рэч у тым, што Альгерд, аддаўшы Ягайлу ўсе свае ўладанні, не аддаў яму Полацка. Зразумела, што пры Альгердзе яго адносіны з Андрэем лёгка ўзгадняліся і рэгуляваліся. Аднак тое, што без цяжкасцей рабілася паміж бацькам і сынам, не магло захавацца ва ўзаемаадносінах братоў. Відаць, Ягайла запатрабаваў ад Андрэя падначалення сваёй уладзе, на што той не згадзіўся. Гэтым можна вытлумачыць тое, што актыўныя дзеянні распачаў не Андрэй, а Ягайла, войска якога ў 1377 г. падышло да Полацка і ўзяло яго ў аблогу. Нельга абысці ўвагай і тое, што ў саюзе з Ягайлам супроць Андрэя выступаў Кейстут. Як пакажуць далейшыя падзеі, для яго таксама было важным пазбавіцца ад яшчэ аднаго прэтэндэнта на велікакняскі пасад.

Адрэзаны ад сваіх братоў і не маючы магчымасці перацягнуць іх на свой бок, Андрэй вымушаны быў звярнуцца да лівонскага магістра, які неўзабаве і пайшоў на дапамогу полацкаму князю, што прымусіла Ягайлу і Кейстута, якія збаяліся ўсупіць у бой з крыжакамі, зняць аблогу і адступіць ад Полацка[170]. Здавалася б, пагроза для Андрэя мінулася, і ён мог свабодна сядзець у Полацку. Аднак — і тут тоіцца нейкая загадка — гэтага не здарылася. Андрэй пакідае Полацк і ідзе ў Пскоў[171]. Відаць, Андрэй разумеў ненадзейнасць абароны немцаў, хаця яны забяспечвалі яму бесперашкодны шлях у Пскоў. Але і там Адрэй знаходзіўся нядоўга. Можна думаць, што ён не атрымаў падтрымкі для барацьбы з Ягайлам і вымушаны быў шукаць больш моцнага саюзніка, што і прывяло яго ў Маскву[172]. Аднак мы не маем ніякіх сведчанняў аб намеры Дзмітрыя Іванавіча дапамагаць Андрэю ў яго змаганні з Ягайлам. Затое добра бачна выкарыстанне маскоўскім князем вайсковага таленту Андрэя. У 1378 г. ён удзельнічае ў бітве на р. Вожы супроць войска татарскага хана Мамая[173]. Аднак самым дзіўным фактам у вайсковай біяграфіі Андрэя з'яўляецца ягоны ўдзел у паходзе маскоўскага войска на северскія гарады Трубчэўск і

Старадуб, г. зн. тыя самыя, што побач з іншымі гарадамі гэтай вобласці далучыў да ВКЛ яго бацька Альгерд. Як можна вытлумачыць такі ўчынак Андрэя, улічваючы выказаную думку, што ініцыятарам гэтага паходу і быў Андрэй[174]. Такое цалкам магчыма, бо гэта найперш шкодзіла прэстыжу Ягайлы, які, маўляў, не змог зберагчы ў цэласці тэрыторыю сваёй дзяржавы. Відаць, прыхільнікам Андрэя і праціўнікам Ягайлы быў і Дзмітрый Альгердавіч, які добраахвотна здаў Трубчэўск, у якім княжыў, што разам са Старадубам і іншымі гарадамі перайшоў пад уладу Масквы (узамен Трубчэўска Дзмітрый атрымаў Пераяслаўль)[175].

Ягайла, зразумела, не мог зміріцца са стратаю часткі сваёй дзяржавы, што не магло не прывесці яго да канфлікту з Маскоўскім княствам. Паколькі Ягайла разумеў, што для непасрэднай барацьбы з Масквой сіл у яго замала, ён стаў чакаць прыдатнага моманту, які ў хуткім часе і надарыўся. Татарскі хан Мамай, збіраючыся ўвайсці ў барацьбу з маскоўскім князем Дзмітрыем Іванавічам, запрасіў да сябе ў саюзнікі Ягайлу, які на гэта даў згоду. Аднак калі маскоўскае і татарскае войскі зышліся на Куліковым полі і калі паміж імі адбывалася бітва, Ягайла, які са сваім войскам знаходзіўся недалёка, не ўступіў у яе на баку Мамая, што ў вялікай меры і прывяло апошняга да паражэння. Тлумачэнні гэтага факта былі зроблены розныя. Аднак нельга пагадзіцца ні з тым, што ён спазніўся прыйсці, ні з тым, што ён не ўступіў у бой праз сваю баязлівасць. Ніпто яму не перашкаджала своечасова прыйсці на дапамогу Мамаю, і не быў ён баязліўцам (гэта паказвае яго ўдзел у барацьбе з крыжакамі). У апошні час было выказана меркаванне, што паколькі яго войска ў асноўным складалася з праваслаўных беларусаў, то яны і не дазволілі Ягайлу ісці супроць адзінавернай Масквы ды яшчэ ў саюзе з татарамі[176]. Аднак з гэтым згадзіцца ніяк нельга. Па-першае, гэта не адзначана ў крыніцах. Па-другое, становіцца незразумелым, чаму адзінаверныя княствы вялі міжусобную барацьбу паміж сабой, чаму адзінаверныя з Масквою разанцы дазволілі свайму князю Алегу ўступіць у саюз з Мамаем. У той час палітычныя інтарэсы таксама бралі верх над рэлігійнымі.

Прычыну ўстрымання Ягайлы ад удзелу ў Кулікоўскай бітве трэба шукаць у яго палітычных разліках. Ягайла фактычна

справакаваў гэтую падзею, бо без яго згоды ўвайсці ў саюз Мамай наўрад ці адважыўся б павесці свае войска супраць Масквы. Асабліва калі ён убачыў, што Ягайла вядзе свае войска яму на дапамогу. Але менавіта гэта і было галоўным у палітычным манеўры Ягайлы. Войска то ён вёў, але прымаць у баі ўдзел не збіраўся. Яму важна было сутыкнуць маскоўскае і татарскае войскі паміж сабою. Ён прадбачыў, што незалежна ад таго, хто пераможа, усё роўна абодва бакі будуць аслаблены. І сапраўды, хоць Масква і перамагла, аднак вельмі дарагой цаной. І, наогул, значэнне падзеі ў гісторыі вельмі перабольшана. Варта толькі нагадаць, што яшчэ цэлае стагоддзе пасля яе пратрымалася татарская няволя над Руссю. Такім чынам, справакаваўшы Мамая на паход, Ягайла меў на мэце аслабіць Маскву чужымі рукамі і тым самым захаваць свае сілы, што яму і ўдалося.

Нельга пакінуць без увагі тое, што ў Кулікоўскай бітве на баку Дзмітрыя Іванавіча прынялі ўдзел Андрэй і Дзмітрый Альгердавічы. Ужо тое, што першаму з іх быў даручаны полк «правай рукі», а другому — «левай рукі», гаворыць аб іх вялікай ролі ў перамозе над татарамі. Выказана і меркаванне, што Андрэй Полацкі прыйшоў на поле Кулікова і з палачанамі[177]. Аднак, як сведчаць крыніцы, ён прыйшоў туды толькі «со псковичи»[178].

А цяпер звернемся да падзей у Полацку пасля ад'езду князя Андрэя. Захапіўшы гэты горад, Ягайла далучыў яго да сваіх уладанняў, пра што сведчыць дагавор аб перамір'і, заключаны Ягайлам з Лівоніяй 27 лютага 1381 г. А гэта яшчэ раз можа пацвярджаць, што менавіта з імкнення Ягайлы падначаліць сабе Полацк і пачалася барацьба паміж ім і Андрэем, якому, магчыма, было прапанавана быць толькі намеснікам вялікага князя ў Полацку, на што Андрэй не пагадзіўся. І сапраўды, у 1381 г. Ягайла паслаў туды сваім намеснікам брата Скіргайлу. Аднак палачане адмовіліся яго прыняць і з ганьбаю, пасадзіўшы на каня задам наперад, адправілі назад. Ёсць меркаванне, што палачане адмовіліся ад Скіргайлы таму, што ён быў язычнікам, якога хацеў ім назначыць такі ж князь язычнік Ягайла. Прыняцце хрышчэння апошнім нібыта было выклікана ўдзелам у падзеях Кулікоўскай бітвы. Факт пераходу з язычніцтва ў хрысціянства князёў ВКЛ тлумачыцца тым, што яны



*Князь Скіргайла.*
*З «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі»*
*А. Гваньіні. 1578 г.*

насілі падвойныя імёны. Першае з якіх, маўляў, язычніцкае, а другое — хрысціянскае: Ягайла — Якаў, Скіргайла — Іван, Карыбут — Дзмітрый і г.д.[179] Аднак гэты довад непераканаўчы. Вядома, што ў кіеўскіх дынастыях дзецям пры нараджэнні даваліся два імёны: першае — княскае, другое — хрысціянскае. Напрыклад Яраслаў Мудры меў, апрача княскага, імя Георгій. Тое ж самае было і ў полацкіх князёў. Так, адзін з сыноў Усяслава Чарадзея меў княскае імя Рагвалод і хрысціянскае Барыс. Гэту традыцыю прадаўжалі і вялікія літоўскія князі, якія, як мы ўжо ведаем, паходзяць з дынастыі полацкіх князёў, чым і тлумачацца іх падвойныя імёны. А з гэтага вынікае, што Скіргайла не быў прыняты палачанамі не таму, што ён быў язычнікам. Справа, відаць, у тым, што палачане засталіся па-ранейшаму адданымі Андрэю, які, нягледзячы на яго вялікую дапамогу Дзмітрыю Данскому, не атрымаў ад таго ніякай падтрымкі для барацьбы з Ягайлам і вымушаны быў аднавіць свае ранейшыя сувязі з палачанамі. Апошнія, згадзіўшыся на гэта, варожа сустрэлі Скіргайлу.

Але Ягайла не адмовіўся ад намеру ва ўсёй моцы падначаліць сабе Полацк і таму зноў паслаў князем Скіргайлу, але ўжо з вялікім войскам. Нягледзячы на аблогу свайго горада, палачане і гэтым разам не здаліся. Тады Скіргайла звярнуўся па дапамогу да Лівонскга ордэна. Але прастаяўшы на беразе Дзвіны 11 дзён, крыжакі не змаглі прарвацца ў горад і мусілі ні з чым вярнуцца назад.

У гэты крытычны для сябе момант палачане вымушаны былі шукаць падтрымку ў наўгародцаў, аднак тыя, не даўшы вайсковай дапамогі, накіравалі да Ягайлы Юрыя Анцыфаравіча. Магчыма, ён паведаў аб небяспецы, якая чакае яго ад

наўгародцаў у выпадку далейшай аблогі Полацка. І таму войскі Ягайлы, не ўзяўшы горада, павінны былі адступіць[180]. Не будзем адмаўляць значэння дыпламатычных захадаў Ноўгарада ў зняцці блакады Полацка, і ўсё ж, відаць, вырашальную ролю тут мела тое, што адносіны Ягайлы з Андрэем перапляліся ў яго адносіны з Кейстутам.

## ЯГАЙЛА І КЕЙСТУТ

Хоць Кейстут выступаў у сваёй дзейнасці як выразнік і абаронца інтарэсаў усёй заходняй часткі дзяржавы, аднак сваім князем яго найперш бачыла Жамойць, паказчыкам чаго з'яўлялася яго рэзідэнцыя ў Троках. Як вядома, раней жамойцкія вярхі супраціўляліся велікакняскай уладзе. Так было, напрыклад, пры Віценю ў 1293—1294 гг. Аднак, калі Гедзімін задушыў жамойцкі сепаратысцкі рух на чале з Пялюзам, у жамойцкай знаці паступова пачало расці ўсведамленне значнасці іх зямлі ў дзяржаве, а адначасова і імкненне заняць віднае, а то і вядучае месца ў ёй. Менавіта Кейстут за час свайго княжання і стаў увасабленнем гэтых палітычных памкненняў жамойтаў.

Пакуль вялікім князем быў Альгерд, Кейстут, разумеючы сваё бяссілле перад яго выдатнай постаццю і магутнай уладай, мірыўся са сваім падначаленым становішчам. Аднак пасля смерці Альгерда і ўмацавання Ягайлы, Кейстут і вырашыў выкарыстаць Ягайлаву барацьбу з палачанамі (якая ўскладняла становішча новага вялікага князя) для ўзвышэння становішча Жамойці праз узвышэнне сваёй улады. Але частыя прыезды Кейстута з Трокаў у Вільню, дзе ён імкнуўся даваць вялікаму князю розныя парады ў кіраванні дзяржавай, адразу насцярожылі Ягайлу. Ён, як і Альгерд, будучы гаспадаром Княства, найперш быў выразнікам інтарэсаў усходняй, беларускай, часткі дзяржавы. І гэта зразумела, бо Альгерд аддаў яму ўсе ўладанні, якія яму належалі (Крэва, Віцебск і ўсе іншыя гарады)[181], і таму ў частых прыездах Кейстута і яго парадах Ягайла адразу ўбачыў імкненне троцкага князя навязаць яму палітыку, патрэбную жамойцкай знаці. Зразумела, што Ягайла не мог паступіцца інтарэсамі большай часткі дзяржавы і



*Пячатка Кейстута*

таму стаў супрацiўляцца Кейстуту.

Убачыўшы ў імкненнях Кейстута і жамойтаў пагрозу сваёй велікакняскай уладзе, Ягайла пачаў рыхтавацца да барацьбы з ім. Гэтае палітычнае ўнутрыдзяржаўнае саперніцтва знешне выяўлялася як чыста асабісты канфлікт. У прыватнасці, Кейстут быў вельмі зняважаны тым, што сваю сястру (а Кейстутаву пляменніцу) Ягайла выдаў за Вайдылу, чалавека простага, «хлопа», якога ўзвысіў яшчэ Альгерд і якому вялікую моц даў Ягайла. Убачыўшы непрыязнасць Кейстута да сябе, Вайдыла, як паказваюць некаторыя крыніцы, і пачаў распальваць у Ягайлы нянавісць да дзядзькі і нават намовіў пайсці на саюз з крыжакамі супроць Кейстута[182]. У сваю чаргу, адзін з крыжакоў, што быў кумам Кейстута, паведаміў яму аб зносінах Ягайлы праз Вайдылу з крыжакамі. Кейстут паставіў у вядомасць свайго сына Вітаўта, але той, будучы ў вялікай дружбе з Ягайлам, не паверыў гэтым звесткам.

Менавіта ў той час Ягайла і паслаў свае войска на Полацк, каб пасадзіць там Скіргайлу, што і выкарыстаў Кейстут. Ён, сабраўшы свае палкі, прыйшоў у Вільню і захапіў Ягайлу і яго маці. Тут жа ён выявіў і паперы, якія даказвалі змову Ягайлы з крыжакамі. Захоплены быў і Вайдыла, якога па загаду Кейстута павесілі на шыбеніцы. Аднак з Ягайлам і ягонай маці абыходжанне было больш гуманнае. Кейстут пакінуў яго на волі і аддаў яму ўсе ягоныя ўладанні і казну. Спачатку Ягайла накіраваўся ў Крэва, куды яго суправаджаў Вітаўт, а адтуль — у Віцебск.

Вось у гэты час, як сведчаць крыніцы, і была знятая аблога Полацка. Кейстут, захапіўшы Вільню, а тым самым і вярхоўную ўладу, адправіў у Полацк і ў войска, што аблажыла яго, паслоў, якія паведамілі там аб паражэнні Ягайлы. Пачуўшы

пра гэта, войска адышло з Полацка ў Вільню, а Скіргайла, застаўшыся ні з чым, вымушаны быў бегчы да крыжакоў.

Як вядома, у свой час Кейстут паслаў Ягайлу ваяваць супроць Андрэя. Цяпер жа ён вырашыў мець у асобе Андрэя саюзніка, а не ворага, і таму аддаў яму Полацк. Аднак аўтар «Хронікі Быхаўца» лічыць Андрэя (ён яго называе Гарбатым, што магло быць у сапраўднасці) сынам Кейстута і законным гаспадаром Полацка[183]. Гэта не памылка аўтара «Хронікі Быхаўца», як лічыў М. Улашчык[184], а свядомая фальсіфікацыя фактаў. Гэта яшчэ адзін прыклад таго, як у летапісах XVI ст. (тады і была створана «Хроніка Быхаўца») скажалася палітычная гісторыя ВКЛ ва ўгоду жамойцкай знаці, якой прыпісвалася галоўная роля ва ўтварэнні дзяржавы. Паколькі асабліва важна было паказаць падначаленне Полацка жамойцкім князям, насуперак праўдзівым звесткам Андрэй і быў паказаны сынам Кейстута. З гэтай жа прычыны Кейстут ідэалізаваўся як князь Жамойці, і ўсяляк прыніжаўся Ягайла як князь беларускай часткі дзяржавы[185].

Як бачым, падзеі пацвердзілі шырокія палітычныя амбіцыі Кейстута, якія былі выяўленнем яго імкненняў заняць вядучае месца ў дзяржаве. Менавіта з гэтага часу, а не з часу Міндоўга, пачынаецца паступовае ўзвышэнне літоўскіх (у сучасным значэнні гэтага слова, а тады — жамойціх) земляў. Кейстут і з'явіўся фактычна першым іх князем, аднак адзіным і нядоўгачасовым.

Як Кейстут выкарыстаў адсутнасць войск Ягайлы ў Вільні (яны былі пад Полацкам) для захопу ўлады, так цяпер зрабіў і Ягайла, выкарыстаўшы для захопу ўлады адсутнасць войск Кейстута. Гэтыя войскі былі накіраваны пад Ноўгарад-Северскі, дзе княжыў Дзмітрый Карыбут, што аддаўся пад уладу Масквы. Загадана было туды ісці і Ягайлу. Аднак ён, забыўшыся аб сваёй прысязе Кейстуту «николи противу его не стояти и завжды в его воли быти»[186], не пайшоў з Кейстутам, а стаў падбухторваць віленскіх мяшчанаў праз якіхсьці «слуг Гаставых», пад якімі некаторыя даследчыкі разумеюць нямецкіх мяшчанаў у Вільні[187]. Сам жа Ягайла са сваім войскам прымчаўся з Віцебска ў Вільню, а адтуль пайшоў у Трокі, куды на злучэнне з ім ішлі прускія крыжакі. Не спадзеючыся вытрымаць такі націск, Трокі, якія былі рэзідэнцыяй Кейстута

(таму туда і накіраваўся Ягайла), адразу здаліся. У сваю чаргу Кейстут, якому аб усім, што адбывалася, паведаміў Вітаўт, накіраваўся з-пад Ноўгарада-Северскага ў Гародню, дзе быў і Вітаўт.

Вітаўт паспадзяваўся на дапамогу свайго зяця Януша Мазавецкага. Аднак усё адбывалася наадварот. Януш Мазавецкі, карыстаючыся дзяржаўным замяшаннем у ВКЛ, пайшоў з войскам у Берасцейскую зямлю, якой валодаў Кейстут, захапіў шэраг яе гарадоў (Берасце ўзяць не змог), пасля чаго вярнуўся назад, пакінуўшы ў Драгічыне і Мельніку свае гарнізоны.

Трэба заўважыць, што менаівта гэтыя падзеі добра высветлілі становішча Кейстута найперш як князя Жамойці. І таму зразумела, чаму ён у крытычны момант сабраў вакол сябе «усю Жамойцкую зямлю і войскі» і пайшоў да Вяллі, дзе хутка злучыўся з войскам Вітаўта і разам з ім падышоў да Трокаў і ўзяў замак у аблогу. Сюды ж з войскам прыйшоў і Ягайла, а таксама яго саюзнікі — прускія і лівонскія крыжакі. І вось калі абодва войскі падрыхтаваліся да бітвы, ад Ягайлы з'явіліся паслы, якія прапанавалі не ўступаць у бой і закончыць справу мірам, каб «ён (Кейстут) трымаў сваё, а мы (Ягайла) сваё»[188]. Паслы далі прысягу Вітаўту, якую ён прыняў. Прыняў яе і Скіргайла, які выступаў на баку Ягайлы. Далей гэтая прысяга была паўторана Кейстуту — што ні яму, ні яго сыну Вітаўту нічога благога не будзе зроблена, калі яны прыедуць да Ягайлы, каб заключыць мір. Аднак Ягайла парушыў прысягу. Калі Кейстут і Вітаўт з'явіліся да Ягайлы, ён прапанаваў ім паехаць у Вільню і там заключыць дагавор аб міры. Не прадбачачы нічога небяспечнага, Кейстут, гэтаксама як і Ягайла, распусціў сваё войска. Але пасля прыезду ў Вільню Ягайла захапіў Кейстута і Вітаўта, адправіў іх у Крэва і пасадзіў у вежу. На пятую ноч Кейстут быў задушаны. Захаваліся імёны князевых забоўцаў: імі былі каморнікі Ягайлы — Прокша, які даваў яму ваду, а таксама крыжак-манах Мостэр, Кучук і Лісіца Жабянцяй[189].

Так трагічна закончылася жыццё гэтага даволі даўгавечнага палітыка. Само сабой паўстае пытанне: выпадковым ці заканамерным быў такі канец? Ужо адзначалася тэндэнцыйнасць аўтара «Хронікі Быхаўца» ў паказе ўзаемаадносін Ягайлы і Кейстута, калі першы паўставаў выключна ў чорных фарбах,

а другі — у светлых. На жаль, некаторыя гісторыкі (П. Бранцаў, В. Данілевіч) прымалі ўсё гэта за чыстую праўду і адпаведна характарызавалі памянёных асобаў. Але, нягледзячы на старанне ўсю віну за жорсткасці ўскласці на Ягайлу, хроніка не магла схаваць таго факта, што менавіта Кейстут пачаў барацьбу з Ягайлам, а не наадварот. Як ні распісвалася тут дабрыня Кейстута, хроніка тым не менш адзначыла, што ён загадаў узвесці на шыбеніцу Вайдылу.

Яшчэ невядома, ці адпавядае сапраўднасці тое, што Ягайла быў высланы спачатку ў Крэва, а потым у Віцебск, бо маюцца звесткі, што ён быў сасланы Кейстутам у Полацк, дзе прасядзеў у турме болей года[190]. Ужо гэтыя схаваныя ўслужлівымі храністамі факты могуць сказаць аб іншым палітычным і чалавечым абліччы Кейстута. Таму ці такой ужо выключнай падзеяй з'яўляецца жорсткая расправа Ягайлы з Кейстутам. Успомнім, як Віцень у 1293—1294 г. жорстка расправіўся з жамойцкімі старшынамі, што паўсталі супроць яго і хацелі схіліцца на бок крыжакоў. Гэтак жа і Гедзімін бязлітасна абышоўся з тымі ж жамойтамі і іх важаком Пялюзам, якія таксама доўгі час супраціўляліся вялікакняскай уладзе. Дык ці варта пасля гэтага здзіўляцца адступнасці і жорсткасці Ягайлы ў абыходжанні з Кейстутам.

Але калі Віцень і Гедзімін распраўляліся з жамойтамі за іх сепаратысцкія намеры, то Ягайла паўстаў супроць Кейстута за яго гегеманісцкія памкненні, а дакладней, за спробу вывесці Жамойць на першае месца ў дзяржаве. З гэтым Ягайла, як і ягоны бацька Альгерд, не мог згадзіцца, бо, будучы вялікім князем, найперш выяўляў інтарэсы ўсходніх, г. зн. беларускіх, земляў. Ягайла добра бачыў тую спрыяльную глебу, якая жывіла дзейнасць Кейстута, а менавіта жамойцкую язычніцкую партыю, што групавалася вакол Кейстутавай жонкі Біруты — заўзятай язычніцы і былой вайдэлоткі. Вось чаму Ягайла пакараў не толькі Кейстута, але і многіх жамойцкіх баяраў, а найперш род Біруты: яе дзядзька Відзімонт, быў «на колах разбіты», а двум другім дзядзькам адсеклі галовы. Сама Бірута была прысуджана да ўтаплення ў Нёмане, але ёй удалося нейкім чынам вызваліцца ад кары, і яна памерла ў 1416 г.[191] Праўда, тут гаворыцца, што ўсё гэта Ягайла рабіў, помсцячы за Вайдылу. Аднак зразумела, што пад гэтым, як і ва ўсёй гісто-



*Замак у Крэве XIV ст.*
*Рэканструкцыя*

рыі з Вайдылам, хавалася жорсткая палітычная барацьба за вядучае месца ў дзяржаве.

Усё адзначанае паказвае, што менавіта з Кейстута пачынаецца ўзвышэнне літоўскай (паўтараем: у сучасным значэнні гэтага слова, а тады — жамойцкай) часткі дзяржавы. Аднак яе імкненне выйсці на першае месца закончылася жорсткім паражэннем, што і вызначыла трагічны фінал жыцця Кейстута.

## ЯГАЙЛА І ВІТАЎТ

Такі ж трагічны лёс чакаў і Вітаўта. Ён таксама быў прывезены ў Крэва з жонкаю, змешчаны ў асобным пакоі, дзе яго пільна вартавалі, аднак ім удалося ашукаць вартавых і выйсці з замка, пасля чаго князь уцякае да крыжакоў праз Берасце і Мазовію і прыбывае ў Прусію, дзе яго прыязна сустракае вялікі магістр ордэна Конрад.

Спачатку магістр Конрад Чольнер у адказ на просьбу Вітаўта дапамагчы яму ў барацьбе з Ягайлам зрабіў спробу прымі-

рыць іх. У сваім лісце да Ягайлы ён у ліку іншага прасіў Ягайлу вярнуць хоць частку ўладанняў, што належалі Вітаўту. Аднак Ягайла адмовіўся і, у сваю чаргу, прасіў вялікага магістра не хваляваць жамойтаў, якія з'яўляюцца яго падданымі. Гэта для нас асабліва важна, бо паказвае, што па-ранейшаму для Ягайлы галоўным было захаваць пад сваёй уладай Жамойць (Жмудзь). Хоць ён і згадзіўся на сустрэчу з вялікім магістрам, аднак яна не адбылася, паколькі апошні не прыехаў ва ўмоўленае месца, а Ягайла не захацеў ехаць на новае месца. Пасля зрыву сустрэчы вялікі магістр піша Ягайлу ліст, у якім рашуча абвінавачвае яго ў прысваенні часткі Самагіціі (так па-лацінску называлася Жамойць-Жмудзь). Зноў, як бачым, жамойцкае пытанне выступае ў гэтым канфлікце як галоўнае.

І вось у жніўні 1380 г. вялікае крыжацкае войска, а таксама Вітаўт з жамойцкім атрадам увайшлі на тэрыторыю ВКЛ. Але крыжацкае войска, узяўшы Трокі і парабаваўшы ваколіцы, вярнулася назад. Па ўсім відаць, што для крыжакоў было больш важна парабаваць, чым дапамагчы Вітаўту. Адразу ж пасля адыходу крыжакоў Ягайла зноў займае Трокі, што зразумела, бо яны былі ключом да валодання Жамойцю.

Вядома, такі вынік крыжацкай дапамогі не мог задаволіць Вітаўта, але, каб разлічваць на далейшую падтрымку, ён павінен быў пайсці на чарговыя ўступкі і ахвяраванні. Калі першы раз ён згадзіўся (пры ўмове сваёй перамогі над Ягайлам) стаць васалам Ордэна, то цяпер даў абяцанне аддаць крыжакам Жамойць. Апроч таго, ён павінен быў ахрысціцца ў каталіцкую веру, што і адбылося 21 кастрычніка 1383 г.

Усё гэта задавальняла вялікага магістра, і увосень 1383 г. ён распачаў супроць Ягайлы ваенныя дзеянні. Крыжакі ўварваліся на тэрыторыю ВКЛ і недалёка ад Кернава ўзялі разбураную крэпасць Марыенбэрдар, дзе і адбылося новае пацверджанне раней падпісаных умоў паміж вялікім магістрам і Вітаўтам, прычым князь узяў на сябе новыя абавязацельствы. Вайна ў перспектыве набывала зацяжны характар, і таму кожны з бакоў не быў упэўнены ў сваёй перамозе. Вітаўт нават і пры ўмове сваёй перамогі прадбачыў сваю залежнасць ад Ордэна. Для Ягайлы ж гэтая вайна магла скончыцца агульным аслабленнем дзяржавы, што магло прывесці і да яе развалу. Вось чаму менавіта ён звярнуўся да Вітаўта з мірнаю прапановаю

(ёсць звесткі, што ён нібыта зрабіў гэта па радзе сваёй маці Юльяны). Праўда, Вітаўт мог разлічваць на мір толькі пры згодзе парваць з Ордэнам, на што ён і згадзіўся, пачаўшы разам з Ягайлам змагацца супроць крыжакоў.

Асаблівую ўвагу прыцягвае той факт, што Вітаўт, атрымаўшы ад Ягайлы Берасцейскую і Гарадзенскую землі і Луцк, пераходзіць з каталіцтва, якое ён прыняў зусім нядаўна ва ўгоду Ордэну, у праваслаўе. Па-першае, гэта характарызуе Вітаўта як дзяржаўнага дзеяча, што кіраваўся адпаведнымі палітычнымі абставінамі, якія складваліся ў той ці іншы час. Змагаючыся разам са сваім бацькам Кейстутам супроць Ягайлы, ён адстойваў інтарэсы Жамойці. Аднак пасля гібелі Кейстута, уступіўшы ў саюз з Ордэнам для далейшай барацьбы з Ягайлам, ён ахвяруе і Жамойцю, і язычніцтвам. Затым, памірыўшыся з Ягайлам і атрымаўшы ад яго землі з праваслаўным насельніцтвам, ён ахвяруе каталіцтвам і прымае праваслаўе. Гэты факт прымушае нас зноў вярнуцца да становішча Кейстута, які адначасова валодаў і язычніцкай Жамойцю і праваслаўнымі Гарадзеншчынай і Берасцейшчынай.

Ці маглі гэтыя землі мірыцца з тым, што іх князем быў язычнік? У святле прыняцця Вітаўтам праваслаўя адказ можа быць толькі адзін: не маглі.

А цяпер згадаем, як жа тады паводзіў сябе Кейстут? Найверагодней, што ён вымушаны быў выступаць у двух абліччах: перад праваслаўнымі — як праваслаўны, перад язычнікамі — як язычнік. Але паколькі ён больш часу праводзіў у Троках, то, вядома, больш знаходзіўся пад уплывам язычніцкага акружэння (асабліва з боку роду жонкі Біруты), што і стварыла пра яго ўяўленне як пра князя-язычніка. Такая акалічнасць не магла адмоўна не ўздзейнічаць на праваслаўныя ўладанні Кейстута, якія не аказвалі яму падтрымкі ў барацьбе з Ягайлам, што і з'явілася адной з прычын яго паражэння. Усё гэта ўбачыў Вітаўт, што і прымусіла яго змяніць каталіцтва на праваслаўе, бо з князем, які быў у язычніцтве, не маглі б мірыцца ні Гарадзеншчына, ні Берасцейшчына.

Але Вітаўт, атрымаўшы гэтыя дзве зямлі, якія належалі яго бацьку, не забыўся і аб Троцкім княстве (фактычна яно было галоўным бацькавым уладаннем) і, вядома ж, прэтэндаваў на яго. З гэтым не мог пагадзіцца Ягайла, які прадбачыў, што ў



*Гродзенскі стары замак XV—XVI стст. Рэканструкцыя Т. Андрыячыка*

такім разе Жамойць, атрымаўшы Вітаўта, якога яна ўспрымала як свайго законнага князя, зноў уздыме барацьбу за вядучае месца ў дзяржаве. Менавіта саперніцтва Ягайлы і Вітаўта за Троцкае княства пагражала зноў разгарэцца ў зацяжную ўнутраную барацьбу. Зразумела, што Ягайла трывожыўся і шукаў для сябе моцнай падтрымкі, якая магла паказаць Вітаўту марнасць ягоных намераў.

І ўсё ж пагроза доўгай унутранай барацьбы, якой бы яна небяспечнай ні была, блякла перад грознай знешняй небяспекай. Менавіта перавага адмоўных знешніх фактараў над унутранымі цяжкасцямі і з'явілася важнейшай адметнасцю Вялікага княства, што ў далейшым найперш і садзейнічала яго заняпаду. Той трохкутнік, які ўжо вызначыўся пры Гедзіміне, сціскаўся ўсё больш пагрозліва. З паўночнага захаду — крыжацкая агрэсія, з захаду — націск Польшчы, у вярхах якой ужо выспеў план падначалення суседняй краіны, а на ўсходзе ўжо пачала паступова заваёўваць суседнія з ёй уладанні Вялікага княства Масква. Апынуўшыся ў такім акружэнні, наша дзяржава не магла весці паспяховай барацьбы з усімі варожымі сіламі адразу і мусіла шукаць разумнага кампрамісу. Ім і стала Крэўская унія, якая істотна змяніла кірунак дзяржаўнага жыцця і тым самым адкрыла новы этап нашага гістарычнага шляху.

Як бачна з разгледжанага, віленскі перыяд быў асабліва спрыяльны і плённы ў нашай гісторыі. Гэта быў час, калі наша дзяржава ў сваёй унутранай і знешняй палітыцы кіравалася толькі сваімі інтарэсамі, а значыць — адзін з перыядаў яе найбольшай самастойнасці.

Галоўным яго вынікам быў найперш імклівы тэрытарыяльны рост Вялікага княства, асабліва ў часы Альгерда, калі ён, выкарыстаўшы спрыяльную знешнепалітычную кан'юнктуру, далучыў да сваіх уладанняў шэраг новых земляў, павялічыўшы ўладанні больш чым у два разы.

Віленскі перыяд асабліва спрыяльны быў для беларускіх земляў, якія канчаткова аб'ядналіся і тым самым замацавалі сваё цэнтральнае месца ў дзяржаве, у выніку чаго, паводле вобразнага выразу Ф. Багушэвіча, Беларусь была тут «як зерне ў гарэху». Усё гэта спрыяла хутчэйшай кансалідацыі беларускай народнасці, далейшаму развіццю яе культуры і канчатковаму фармаванню яе мовы, якая па-ранейшаму прадаўжала быць у ВКЛ дзяржаўнай.

Перанясенне сталіцы з Навагародка ў Вільню не толькі не зменшыла беларускага характару дзяржавы, але яшчэ больш умацавала яго. Сталічнае значэнне Вільні актыўна садзейнічала далейшай беларускай асіміляцыі балцкага насельніцтва, што і ператварыла Віленшчыну ў беларускі край ужо тады. Тым самым побач з пашырэннем тэрыторыі Беларусі на ўсходзе ішоў такі самы працэс і на захадзе. Усё гэта яшчэ раз паказвае, што ніякага літоўскага (у сучасным значэнні гэтага слова) панавання над беларускімі землямі ў тыя (як і ранейшыя) часы не было. Усё адбывалася наадварот: ішло далейшае падначаленне балцка-літоўскіх земляў вярхоўнай уладзе, і ўсялякае іх супраціўленне ці імкненне заняць у дзяржаве больш высокае месца жорстка караліся. Калі беларуская тэрыторыя і беларускае насельніцтва ўсё больш павялічваліся, то балцка-літоўскія землі і балцка-літоўскае насельніцтва ўвесь час змяншаліся. Усё гэта яшчэ раз яскрава паказвае, што не балцка-літоўскія, а беларускія землі займалі ў ВКЛ пануючае месца, што па-ранейшаму вызначала яго як беларускую дзяржаву.

---

[1] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Мн., 1990. С. 346 —347.

[2] ПСРЛ. Т. 32. С. 137—138.

[3] Голубович В., Голубович Е. Кривой Город – Вильно. М., 1945. С. 125.

[4] Тамсама. С. 124, 125.

[5] Słownik geograficzny ziem polskich. T. 4. Warszawa, 1884. S. 666, 814.

[6] Skriptores rerum Prussikarum. Leipcig, t II, p. 623.
[7] Ушинкас В. Формирование раннегосударственной территории Литвы X - XII вв. Л., 1988. С. 15.
[8] Letuwies Torbine enciclopedija. Wilnius, 1976. Т. 1. Р. 463.
[9] Послание Гедимина. Вильнюс. С. 64, 68.
[10] Letuwies Torbine enciclopedija. Т. 1. Р. 463.
[11] ПСРЛ. Т. 32. С. 32, 35.
[12] Тамсама. Т. 17. СПб. 1908. С. 593--596.
[13] Пашуто В. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 76.
[14] ПСРЛ. Т. 2. М., 1962. С. 12
[15] Тамсама. Т. 17. С. 574.
[16] Słownik geograficzny. Т. 13. С. 499.
[17] ПСРЛ. Т. 17. С. 595.
[18] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. С. 332—333.
[19] ПСРЛ. Т. 32. С. 211; Т. 35. С. 286.
[20] Юргевич В. Опыт объяснения имен князей литовских / Чтения в имп. О-ве истории и древностей российских. 1883. Кн. 3. С. 27.
[21] ПСРЛ. Т. 32. С. 136.
[22] Русско-Литовские акты. СПб, 1857. С. 30.
[23] Васильевский В. Переход Гедимина в католичество // Журн. Мин-ва народн. просвещ. № 1. СПб. 1872. С. 144.
[24] БЭФ. Мн., 1959. Т. 1. С. 97.
[25] ПСРЛ. Т. 32. С. 136.
[26] Dusburg Petri. Chronika terrae Prussiae. Т. 3. С. 305, 317.
[27] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 207.
[28] Тамсама. Т. 32. С. 35.
[29] Васильевский В. Очерк истории города Вильны // Памятники русской старины в западных губерниях империи. Вып. 5. Вильно, 1872. С. 11.
[30] ПСРЛ. Т. 32. С. 136.
[31] Послание Гедимина. Вильнюс, 1966. С. 30.
[32] Антонович В. Монография. Киев, 1878. С. 47.
[33] ПСРЛ. Т. 17. С. 573.
[34] Тамсама. С. 590—591.
[35] Тамсама. Т. 2. 1843. С. 202.
[36] Тамсама. Т. 32. С. 136—137.
[37] Антонович В. Монография. С. 47—51.
[38] Dusburg Petri. Цыт. твор.
[39] Антонович В. Монография. С. 43—44.
[40] Татищев В. История Российская. Т. 1. М.; Л., 1962. С. 111.
[41] Никжянтайтис А. Гедиминас // Вильнюс, 1990. № 4.
[42] Брянцев П. История Литовского государства. Вильно, 1890. С. 124.
[43] Псковские летописи. Вып. 1. М.; Л., 1941. С. 15.
[44] Тамсама. С. 15—16.

[45] Тамсама. Вып. 2. М., 1956. С. 23.
[46] ПСРЛ. Т. 3. СПб, 1846. С. 77.
[47] Посланне Гедимина. С. 168—170.
[48] Тамсама. С. 28, 50.
[49] ПСРЛ. Т. 3. 1846. С. 73—74.
[50] Ермаловіч М. Вузел загадак //Полымя, 1988. № 10.
[51] Данилевич В. Очерки истории Полоцкой земли. Киев, 1896. С. 151—152.
[52] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. С. 348—349.
[53] Полоцкие грамоты. Вып. 1. М., 1977. С. 39.
[54] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 341.
[55] Тамсама. С. 342.
[56] Тамсама. С. 251.
[57] Тамсама. С. 203.
[58] Тамсама. С. 346.
[59] Русско-Литовские акты. С. 21.
[60] Тамсама.
[61] Послания Гедимина. С. 27.
[62] Тамсама. С. 88.
[63] Васильевский В. Переход Гедимина в католичество. С. 172.
[64] Послания Гедимина. С. 126—128.
[65] Тамсама. С. 144.
[66] Тамсама. С. 138.
[67] Тамсама. С. 140.
[68] Васильевский В. Переход Гедимина в католичество. С. 186.
[69] История Ливонии. Т. 2. Рига, 1885. С. 225.
[70] Послания Гедимина. С. 120—121.
[71] Никжянтайтис А. Гедиминас // Вильнюс, 1990. № 4.
[72] Послания Гедимина. С. 30.
[73] Тамсама. С. 54.
[74] ПСРЛ. Т. 32. С. 138.
[75] История Ливонии. Т. 2. С. 202.
[76] Тамсама. С. 201—202.
[77] Тамсама. С. 204.
[78] Тамсама.
[79] Тамсама.
[80] Тамсама. С. 225.
[81] Никжянтайтис А. Гедиминас // Вильнюс, 1990. № 4.
[82] Тамсама. С. 150—151.
[83] Тамсама. С. 150.
[84] История Ливонии. Т. 2. С. 228.
[85] Антонович В. Монография. С. 43.
[86] История Ливонии. Т. 2. С. 239.
[87] ПСРЛ. Т. 32. С. 41—42.

[88] Антонович В. Монография. С. 74.
[89] ПСРЛ. Т. 32. С. 138.
[90] Антонович В. Монография. С. 76.
[91] ПСРЛ. Т. 32. С. 173.
[92] Narbutt T. Dzeje starozytne narodu litewskiego. T. IV. C.267.
[93] Никжянтайтис А. Кто погиб под Байербургом // Тр. АН ЛитССР. Сер. общ. наук. 1987. № 1 (98). С. 31—43.
[94] Псковские летописи. Вып. 1. С. 18; 2. С. 24.
[95] Тамсама. Вып. 1. С. 18.
[96] Никжянтайтис А. Гедиминас // Вильнюс, 1990. № 4.
[97] Русско-Литовские акты. С. 13.
[98] ПСРЛ. Т. 11. С. 174.
[99] Псковские летописи. Вып. 1. С. 19; Вып. 2. С. 25.
[100] Тамсама. Вып. 2. С. 25—26.
[101] Тамсама. С. 26.
[102] Тамсама.
[103] Данилевич В. Монография. Киев, 1878. С. 158.
[104] Полоцкие грамоты. Вып. 1. С. 39.
[105] ПСРЛ. Т. 32. С. 138.
[106] Тамсама. Т. 2. СПб., 1843. С. 350.
[107] Тамсама. Т. 32. С. 136.
[108] Тамсама.
[109] Тамсама. С. 138.
[110] Тамсама.
[111] Тамсама. Т. 3. СПб, 1841. С. 83.
[112] Тамсама. Т. 11. С. 190.
[113] Псковские летописи. Вып. 1. С. 20—21; Таксама. Вып. 2. С. 26—27.
[114] Антонович В. Монография. С. 109.
[115] Псковские летописи. Вып. 1. С. 25– 26.
[116] Тамсама. С. 27.
[117] Тамсама.
[118] Тамсама.
[119] ПСРЛ. Т. 3. СПб, 1841. С. 83.
[120] Новгородская IV летопись
[121] Тамсама.
[122] Тамсама.
[123] ПСРЛ. Т. 7. СПб, 1856. С. 216.
[124] Дыялектычны атлас Беларусі. Мн., 1968. Карта VII.
[125] ПСРЛ. Т. 11. М., 1965. С. 207.
[126] Тамсама. С. 211.
[127] Тамсама. С. 213.
[128] Тамсама. Т. 12. С. 19.
[129] Тамсама. С. 20.

[130] Тамсама. С. 218.
[131] Тамсама. С. 21, 47.
[132] Данилевич В. Е. Очерки истории Полоцкой земли. Киев, 1896. С. 158.
[133] Антонович В. Монография. С. 111.
[134] ПСРЛ. Т. 11. С. 106.
[135] Тамсама. С. 172.
[136] Тамсама. С. 207.
[137] Дыялектычны атлас Беларусі. Карта VII.
[138] ПСРЛ. Т. 11. С. 187.
[139] Тамсама. С. 191—192.
[140] Тамсама. С. 211, 218.
[141] Тамсама. Т. 12. С. 15—17.
[142] Тамсама. С. 19—20.
[143] Тамсама. С. 20—22.
[144] Тамсама. С. 26—28.
[145] Тамсама. С. 28—36.
[146] Daniłowicz J. Skarbiec dyplomatyczny. T. 1. C. 218.
[147] ПСРЛ. Т. 12. С. 217—218.
[148] Daniłowicz J. Skarbiec dyplomatyczny. T. 1. C. 170.
[149] Jana Długosza. Rocznik kroniki slawnego Krolewstwa Polskiego. C. 1090—1092.
[150] Daniłowicz J. Skarbiec dyplomatyczny. T. 1. C. 198.
[151] Тамсама. С. 196—197.
[152] ПСРЛ. Т. 32. С. 139.
[153] Тамсама. С. 43—44.
[154] Тамсама. Т. 43.
[155] Тамсама. С. 139.
[156] Тамсама. С. 43.
[157] Narbutt T. Dzeje starozytne narodu litewskiego. T. IV. C.267.
[158] ПСРЛ. Т. 32. С. 43.
[159] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 350.
[160] ПСРЛ. Т. 32. С. 43.
[161] Naruszewicz. Historia ludu polskego. T. IX. C. 245—247.
[162] Jana Dlugosza. Цыт. твор. Т. X. С. 35—36.
[163] ПСРЛ. Т. 11. С. 178.
[164] Карамзин Н. История государства Российского. Т. 5. 1884. Заўвага 44.
[165] ПСРЛ. Т. 32. С. 193.
[166] Narbutt T. Dzeje starozytne narodu litewskiego. T. IV. C.236—237.
[167] Брянцев П. История Литовского государства. Вильно, 1890. С. 180.
[168] Scriptores rerum Prussicarum. T. 11. Leipzig, 1835. C. 110.
[169] Данилевич В. Монография. С. 162.
[170] Cronika Wigand i Marburgen. C. 591.

[171] ПСРЛ. Т. 3. С. 91.
[172] Тамсама.
[173] Татищев В. История Российская. Т.4. С. 255.
[174] Данилевич В. Монография. С. 164.
[175] Новгородская IV летопись. С. 75.
[176] Тарасов К. Память о легендах. Мн., 1984. С. 38.
[177] Тамсама. С. 26—27.
[178] Повесть о Куликовской битве. М., 1959. С. 283.
[179] Тарасов К. Память о легендах. С. 27.
[180] ПСРЛ. Т. 3. С. 92.
[181] Хроника Быховца. М., 1966. С.62.
[182] ПСРЛ. Т.32. С.62.
[183] Хроника Быховца. С.60.
[184] Тамсама. С.133, 135.
[185] Тамсама. С.60—64.
[186] Тамсама. С.62.
[187] Тамсама. С.134.
[188] Тамсама. С.63.
[189] Тамсама. С.64.
[190] Данилевич В. Монография. С.166. Заўвага 109.
[191] Хроника Быховца. С.64.

# КРЭЎСКАЯ УНІЯ

Вільня па-ранейшаму засталася сталіцай ВКЛ. Аднак у нашай гісторыі склаліся такія абставіны, калі ў яе далейшым развіцці сталі мець рашаючае значэнне не паасобныя гарады і іх землі, як было раней, а асабліва важныя падзеі. Першай з іх і была Крэўская унія, заключаная паміж Польшчай і ВКЛ у 1385 г. Яна адкрыла новы перыяд у нашай гісторыі, які мы называем Крэўскім, маючы на ўвазе не значэнне горада Крэва, а значэнне той пераломнай падзеі, што ў ім і адбылася. Гэта тым больш слушна, што новы перыяд, адкрыты Крэўскай уніяй, і стаў фактычна перыядам уній, які закончыўся ў 1569 г. заключэннем апошняй, Люблінскай, уніі. Як бачым, гэты перыяд быў досыць працяглы, што і зразумела, бо ён хоць спачатку і супаў з найбольшым узроўнем нашага дзяржаўнага развіцця, аднак у далейшым вызначаўся паступовым заняпадам, а такі працэс звычайна працягваецца запаволена, бо дзяржаўны арганізм, які складаўся стагоддзямі, не можа знікнуць раптоўна, ён вядзе ўпартую барацьбу за сваё выжыванне. Нагогул Крэўская унія мае глабальнае значэнне ва ўсёй нашай гісторыі, бо можна падзяліць яе на два перыяды: дакрэўскі і паслякрэўскі. Першы характарызуецца поўнай дзяржаўнай самастойнасцю, другі — паступовым яе заняпадам і стратай. Вынікі Крэўскай уніі і зараз выразна выяўляюцца, асабліва ў цяжкі перыяд нашага дзяржаўнага адраджэння.

Чым жа была выклікана Крэўская унія? (Унія — значыць саюз.) У адказ на гэтае пытанне гісторыкамі былі выказаны розныя меркаванні. Адны лічаць, што яна найперш з'яўлялася вынікам неабходнасці барацьбы з крыжакамі, якія былі агульным ворагам як Польшчы, так і ВКЛ[1]. Неабходнасць такая сапраўды існавала, і вынікі яе, як убачым далей, былі істот-

ныя. І ўсё ж гэта было хоць важнай, але не галоўнай прычынай Крэўскай уніі. Выказвалася думка, што галоўнай прычынай Крэўскай уніі з'явіўся глыбокі крызіс велікакняжацкай улады ВКЛ, з якога мог вывесці толькі саюз з Польшчай[2]. Нават сцвярджалася, што яе заключэнне цалкам залежала ад Ягайлы, які нібыта быў у гэтым найбольш зацікаўлены[3]. Але цалкам з гэтым пагадзіцца нельга, бо, як паказвае ўвесь ход падрыхтоўкі уніі, ініцыятыва яе заключэння зыходзіла з боку Польшчы. Вось у гэтым кірунку і трэба шукаць галоўную прычыну, якая прывяла да заключэння Крэўскай уніі.

Мы ўжо бачылі, што саюз Польшчы і ВКЛ у 1325 г. быў заключаны таксама па ініцыятыве першай, што не з'яўлялася выпадковасцю. Характэрнейшай асаблівасцю становішча Польшчы ў папярэдні час была паступовая страта ёю сваіх тэрыторый, перш за ўсё на захадзе. І ўжо незадоўга перад Крэўскай уніяй пры Казіміру Вялікім (1333—1370) былі ўступлены немцам Сілезія і Памеранія. Страта апошняй адрэзала Польшчу ад мора. Вось чаму польскія кіруючыя колы вымушаны былі шукаць магчымасці кампенсаваць страты сваіх тэрыторый за кошт іншай дзяржавы. І іх увага ў гэтых адносінах была звернута на суседнюю ўсходнюю дзяржаву — ВКЛ як найбольш падыходзячую мэту сваіх экспансіяністкіх памкненняў.

Яны добра ўзважылі ўсе неспрыяльныя ўнутраныя і знешнія абставіны, якія склаліся ў той час для ВКЛ. Найперш для палякаў яскрава бачна была непазбежнасць барацьбы Вітаўта з вялікім князем Ягайлам, паколькі апошні не жадаў аддаваць яму Троцкае княства — удзел яго бацькі Кейстута. Гэта змаганне магло пагражаць становішчу Ягайлы як вялікаму князю, і таму ён для ўмацавання сваёй улады мог больш уступліва даць згоду на саюз з Польшчай. Вядома ж, відавочнай для палякаў была і тая пагроза, якую несла крыжацкая агрэсія як ВКЛ, так і Польшчы, і таму яны спадзяваліся, што і гэта падштурхне Ягайлу на аб'яднанне іх дзяржаў. Польшча добра бачыла вайсковую сілу ВКЛ, яна яе перад самай Крэўскай уніяй у 1384 г. адчула на сабе, калі Ягайла зрабіў досыць балючы для яе паход[4] Не менш відавочнай для палякаў была небяспека, што ішла для ВКЛ з боку Маскоўскай дзяржавы, якая ўсё больш мацнела і станавілася яго галоўным сапернікам у

збіранні ўсходне-славянскіх земляў. А гэта таксама не магло не абнадзейваць Польшчу на з'яднанне з ёю ВКЛ.

Узважыўшы ўсе гэтыя акалічнасці, польскія вярхі і пачалі энергічна дзейнічаць у патрэбным ім кірунку, што і прывяло да заключэння Крэўскай уніі. Як ужо намі адзначалася, палякі, ваюючы з крыжакамі, адначасова вучыліся ў іх, і найперш таму, што апошнія ажыццяўлялі сваю агрэсію пад сцягам пашырэння веры Хрыстовай, г. зн. дзейнічалі і крыжам, і мячом. Дык вось, польскія вярхі рашылі дзейнічаць у адносінах да ВКЛ з тымі экспансіяніскімі мэтамі, але, узяўшы крыж, адкінулі меч, замяніўшы яго уніяй. І, як пасля выявілася, мелі ў гэтым важкія поспехі.

У адносінах да тэксту крэўскага пагаднення, які дайшоў да нас, выказана меркаванне, што ён у свой час быў сфальсіфікаваны ў карыслівых мэтах польскімі стаўленікамі[5]. Вядома ж, гэта не выключана, аднак разглядаць гэтае пытанне мы не будзем, бо лічым больш важным разгледзець тое, што было ажыццёўлена непасрэдна ў час пасля заключэння Крэўскай уніі.

Дык што ж адбылося?

Першым яе вынікам было заключэнне дынастычнай уніі паміж Польшчай і ВКЛ шляхам узвядзення на польскі каралеўскі пасад Ягайлы. А гэта магло ажыццявіцца толькі пры ўмове жаніцьбы Ягайлы з чатырнаццацігадовай Ядвігай, якая пасля смерці свайго бацькі Людовіка Венгерскага стала польскай каралевай. Але гэтаму шлюбу перашкодзіла тое, што Ядвіга была заручана з аўстрыйскім эрцгерцагам Вільгельмам і не жадала адмаўляцца ад свайго абяцання. І ўжо тое, што польскія вярхі з самай актыўнай дапамогай каталіцкіх пастыраў змаглі, не зважаючы на выключна драматычныя сітуацыі (Ядвіга нават спрабавала атруціцца), угаварыць яе адмовіцца ад Вільгельма і іншых прэтэндэнтаў на яе руку і выйсці замуж за Ягайлу, з'яўляецца яскравым сведчаннем, што такое найперш было на карысць Польшчы. Усё гэта з яскравай відавочнасцю абвяргае М. Стрыйкоўскі, які прыпісваў ініцыятыву збліжэння ВКЛ з Польшчай Ягайлу, гаворачы, што, даведаўшыся аб выдатных якасцях Ядвігі, Ягайла сам паслаў яе сватаць[6]. Праўдзівае адбіццё падзей мы і знаходзім у «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай»: «Гды кроль полски Людовик умер, не заставивши по себе сына жадного, только дочк едину на имя Ядвигу, тым часом в Полци вяликия ростирки вшалися,



*Шлюб Ягайлы з Ядвігай.*

*Гравюра XIX ст. А. Зайкоўскага*

великия панове полския з Кракова присылали до Ягайла, просячи, абы приехал до Кракова на кролевство Полскае и абы окрестився в их веру, а кролевну понявши, застал паном всей Полшы»[7]. Польскую ініцыятыву ў заключэнні Крэўскай уніі падкрэслівае і «Хроніка Быхаўца»[8].

Трэба зазначыць, што такі крок польскіх вярхоў не быў нечым арыгінальным у гісторыі. Гэтак жа як у свой час навагародцы далі Міндоўгу свой княжацкі пасад, каб ён завяяваў пакінутую ім Літву, так і зараз польскія магнаты далі Ягайлу свой каралеўскі пасад, каб ён далучыў да Польшчы ВКЛ.

Калі абранне Ягайлы на польскі пасад давала магчымасць польскім вярхам накіроўваць яго палітыку ў патрэбным для іх

кірунку, то пераход у каталіцтва некаторых братоў Ягайлы і асабліва хрышчэнне ў гэту веру язычнікаў, якіх было нямала, адчыняў дарогу здзяйсненню гэтай палітыкі непасрэдна ў ВКЛ.

Хто ж з князёў прыняў каталіцкую веру? Паводле Я. Длугаша, апроч Ягайлы, без чаго ён не мог стаць польскім каралём, прынялі новую веру Вітаўт, Скіргайла і Свідрыгайла, узяўшы і новыя імёны: Аляксандр, Казімір і Баляслаў. Аднак, як заўважыў далей гэты храніст, «...іншыя літоўскія князі, якія ўжо раней былі ахрышчаны па грэчаскім абрадзе, не згадзіліся з абнаўленнем»[9]. Аднак і Вітаўт, і Скіргайла, і Свідрыгайла былі таксама праваслаўнымі. Вітаўт, як нам вядома, перайшоў у гэту веру, калі атрымаў ад Ягайлы ў 1384 г. Берасце і Гародню, а два астатнія да пераходу ў каталіцтва мелі імёны Васілій і Леў[10].

Асабліва звяртае на сябе ўвагу такі факт. Скіргайла, які ўзначальваў усе цырымоніі перахрышчэння свайго брата Ягайлы, яго шлюб з Ядвігай і яго ўступленне на каралеўскі пасад, у адрозненне ад сваіх некаторых братоў не прыняў каталіцтва, а застаўся ў праваслаўі. І што асабліва важна (на гэта не звяртаюць увагу даследчыкі), Ягайла прызначыў яго сваім намеснікам у ВКЛ. Такім чынам, Ягайла, уводзячы каталіцтва ў ВКЛ, павінен быў лічыцца з тым, што праваслаўныя складалі асноўную частку насельніцтва ў дзяржаве, што яны прывыклі бачыць над сабою ўладу праваслаўнага князя. Усё гэта яшчэ раз абвяргае сцверджанне аб язычніцкай уладзе ў ВКЛ да Крэўскай уніі.

Менавіта пашырэнне каталіцызму ў ВКЛ і стала галоўнай дарогай польскай экспансіі ў гэтай дзяржаве. Як бачым, гэтыя дзве відавочна здзейсненыя ўмовы Крэўскай уніі цалкам забяспечвалі інтарэсы Польшчы. І таму калі ў далейшым была фальсіфікацыя ўмоў Крэўскай уніі, то яна істотна нічога не змяняла, бо галоўнае для Польшчы было здзейснена адразу.

Хаця знешне Крэўская унія насіла характар персанальнай дынастыі, якой яе і лічаць некаторыя даследчыкі, аднак маюць большую рацыю тыя, хто называе яе інкарпарацыяй ВКЛ у Польскае каралеўства.

Трэба адзначыць, што ў Крэве толькі была распачата справа аб'яднання дзвюх дзяржаў. Канчатковыя рашэнні па гэтых пытаннях былі прыняты на Ваўкавыскім з'ездзе, які адбыўся 12 студзеня 1386 г.

# ЗНОЎ ПАЎСТАЕ АНДРЭЙ ПОЛАЦКІ

Па ўсім відаць, вузкае кола князёў у заключэнні Крэўскай уніі не магло ўлічыць інтарэсаў як усёй дзяржавы, так і паасобных сваіх частак. Зразумела, што гэта не магло не выклікаць незадаволенасці уніяй іншых князёў, што не прысутнічалі пры падпісанні яе або, магчыма, не пажадалі ўдзельнічаць у гэтай акцыі, каб не падтрымаць яе.

Тое самае трэба сказаць і аб прыняцці каталіцкай веры, якая станавілася дзяржаўнай у ВКЛ паводле Крэўскай уніі. Як вядома, спроба Гедзіміна ў гэтым кірунку ў свой час прывяла да няўдачы, а магчыма, і да трагічнага канца гэтага князя, што і зразумела. Для дзяржавы, дзе большасць насельніцтва было праваслаўным і частка язычніцкім, такія спробы не маглі мець поспеху, бо выклікалі супраціўленне з боку большасці насельніцтва.

Вядома ж, такая рэакцыя была непазбежнай і пасля Крэўскай уніі. І яна пачалася найперш у Полацкай зямлі, што не было выпадковым. Яна, па сутнасці, з'яўлялася найбольш важнай у эканамічных і культурных адносінах вобласцю дзяржавы. Яна найбольш трывала захоўвала шматвяковую традыцыю дзяржаўнай самастойнасці і праваслаўнай веры. Таму ў заключэнні Крэўскай уніі першай адчула небяспеку для далейшага існавання дзяржавы. І рашучыя дзеянні супроць яе не прымусілі доўга чакаць з боку Полацка, і ў першую чаргу яе князя Андрэя Альгердавіча.

Ён быў адным з тых, хто не прысутнічаў пры заключэнні Крэўскай уніі і з'яўляўся даўнім праціўнікам Ягайлы, які, стаўшы вялікім князем пасля смерці Альгерда, адразу пачаў барацьбу супроць полацкага князя, у выніку чаго на некаторы час вымушаны быў пакінуць Полацк. Аднак пасля часовай перамогі Кейстута над Ягайлам Андрэй зноў вярнуўся ў Полацк і зноў апынуўся ў стане барацьбы з Ягайлам, толькі ўжо па сваёй ініцыятыве. Вядома ж, нельга і адмаўляць асабістых амбіцый Андрэя, якія штурхалі яго на змаганне, бо ён быў старэйшым сынам Альгерда і меў большае права, чым Ягайла, стаць вялікім князем, і тым больш зараз, калі Ягайла станавіўся польскім каралём. Менавіта цяпер, захапіўшы велікакняскі пасад, ён мог бы паспяхова змагацца за самастойнасць дзяр-

жавы, якую, па сутнасці, касавала Крэўская унія, і з каталіцызмам, які фактычна набываў прыярытэтны характар у дзяржаве.

Менавіта ўсё гэта адразу ўбачыў Андрэй Полацкі, і яшчэ тады, калі Ягайла быў у Кракаве, каб узяць шлюб з Ядвігай, ён падрыхтаваўся да рашучых дзеянняў. Ён разумее, што барацьба будзе цяжкай, і таму прыцягвае на свой бок Лівонскі ордэн. Трэба зазначыць, што гэта быў рызыкоўны крок, паколькі паводле дагавора, заключанага 10 кастрычніка 1385 г., Андрэй аддаваў Полацк Лівонскаму ордэну, праўда, з умовай, што ён будзе звернуты яму і яго спадкаемцам у лен[11].

Усё гэта сведчыла, што Андрэй Полацкі бачыў у Крэўскай уніі большую пагрозу, чым ад Ордэна. Адначасова трэба выказаць сумненне ў ажыццяўленні гэтай умовы, бо ў далейшым мы не бачым сведчання, каб Полацк быў пад уладай Лівонскага ордэна. Відаць, апошні ўжо задавальняла тое, што тут ідзе справа, па-першае, пра аб'яднанне дзвюх дзяржаў у адну, а ў гэтым лівонцы бачылі для сябе вялікую пагрозу, а па-другое, пра пашырэнне каталіцтва з боку Польшчы ў той час, як гэта было задачай Ордэна, без чаго яго існаванне траціла ўсялякі сэнс. Вось чаму Лівонія ахвотна прыняла ўдзел у дзеяннях Андрэя Полацкага.

На вялікі жаль, у крыніцах не зусім дэталёва адбітыя гэтыя падзеі. У іх не гаворыцца, менавіта куды ў Літву разам з лівонцамі прыйшоў Андрэй Полацкі, якія гарады і сёлы спаліў, якія замкі яму не ўдалося ўзяць[12]. Нягледзячы на апошнюю няўдачу, паход гэты ў цэлым быў паспяховы, паколькі Андрэй Полацкі вярнуўся з вялікай здабычай у сваю зямлю[13]. З гэтага даволі цьмянага паведамлення можна зрабіць выснову, што дадзеная акцыя Андрэя Полацкага часткова з'яўлялася помстай Ягайлу за нанесеную ім шкоду Полацку і яго зямлі ў 1378—1381 гг.

Аднак на гэтым не толькі не закончылася барацьба Андрэя Полацкага з Ягайлам, але яшчэ больш пашыралася дзякуючы далучэнню да яе апроч ранейшых саюзнікаў, лівонцаў, яшчэ і смаленскага князя Святаслава. Зноў Андрэй Полацкі з немцамі ідзе ў Літву (па-ранейшаму невядома, куды менавіта), а Святаслаў пайшоў да Оршы, а пасля і да Віцебска, дзе вызначыўся асаблівай жорсткасцю ў адносінах да насельніцтва,

што не выключана. Трэба думаць, што дзеянні Святаслава Іванавіча былі выкліканы не столькі тым, каб дапамагчы Андрэю Полацкаму ў яго барацьбе, а каб выкарыстаць яе ў сваіх інтарэсах, а менавіта вярнуць Смаленску Мсціслаўль, які быў адабраны ад яго Альгердам. Вядома ж, гэта магло нанесці вялікую шкоду дзяржаве, вось чаму некаторыя князі (Канстанцін Чарнігаўскі, Дзмітрый Карыбут і, што зразумела, Сямён-Лунгвень Мсціслаўскі) выступілі на баку Скіргайлы і Вітаўта. Не прыйшоў на дапамогу Святаславу і Андрэй Полацкі. Зімою 1386 г. у вялікі пост са сваім войскам Святаслаў пайшоў да Мсціслаўля і аблажыў яго[14].

Трывожныя весткі аб гэтых падзеях дайшлі да Кракава і моцна ўстрывожылі Ягайлу. Таму 12 сакавіка 1386 г. Скіргайла і Вітаўт адправіліся ў княства. Заслугоўвае асаблівай увагі тое, што разам з імі адправіўся і польскі атрад[15]. Гэта яшчэ раз сведчыць пра тое, што палякі ў гэтых падзеях бачылі пагрозу і для сябе і таму былі зацікаўлены ў іх ліквідацыі.

Паколькі вайсковыя сілы Андрэя былі сканцэнтраваны ў Лукомлі, то Скіргайла перш за ўсё і накіраваўся туды, узяўшы гэты горад, ён вынішчыў яго гарнізон. Захапіўшы іншыя гарады, Скіргайла з Вітаўтам накіраваліся супроць Святаслава, войскі якога знаходзіліся ля Мсціслаўля. У выніку жорсткага бою на р.Віхры смаленцы пацярпелі паражэнне. У ліку шматлікіх ахвяр аказаўся і сам Святаслаў, а два яго сыны Юрый і Глеб трапілі ў палон. Першы з іх быў цяжка паранены, яго лячыў сам Скіргайла. (Гэта яшчэ адзін доказ таго, што ён быў дасведчаны ў медыцыне.) Мела значэнне ў гэтым і тое, што Юрый быў жанаты на пляменніцы Скіргайлы, а гэта ў сваю чаргу паспрыяла і таму, што Юрый у хуткім часе атрымаў княжацкі пасад у Смаленску[16]. А Глеб 13 верасня 1386 г. даў прысягу вернасці каралю Ягайлу і абавязаўся «с Ондреем и с Полочаны миру не держать и с ним не ссылатися»[17]. З гэтага бачна, што Андрэй яшчэ не быў пераможаны, што ён пасля паражэння ў Лукомлі ўмацаваўся ў Полацку, і таму Глеб абавязаўся не дапамагаць яму.

Супроць Андрэя і былі скіраваны сілы Скіргайлы ў пачатку 1387 г. І хоць супраціўленне палачан было моцным, іх горад быў узяты, а Андрэй захоплены ў палон[18]. І тое, што ён зняволены быў у польскім Хенцінскім замку, зноў-такі гаво-

рыць, што ў барацьбе полацкага князя бачыла сабе пагрозу найперш Польшча. Але як мы убачым далей, жыццёвая дзейнасць Андрэя Полацкага на гэтым не закончылася, тым больш што праз тры гады, г. зн. каля 1390 г., па хадайніцтве Вітаўта і другіх князёў ён быў вызвалены з палону.

Апроч таго, прыхільнасць да Андрэя палачан не страцілася. Ягайла ў сваім прывілеі ад 28 красавіка 1387 г. перадаў захоплены Полацк і яго зямлю Скіргайлу[19]. Нам ужо вядома, як раней палачане варожа адносіліся да гэтага ненавіснага ім князя, таму і зараз яны не змірыліся з яго ўладарніцтвам, і ў наступны год пачаліся іх хваляванні. Гэта зноў абудзіла ў Ягайлы, які ў гэты час быў у Вільні, вялікае абурэнне, і ён неадкладна рушыў з войскам у Полацк, дзе жорстка расправіўся з удзельнікамі хваляванняў[20]. Толькі ў выніку шматгадовай барацьбы Скіргайла нарэшце стаў валодаць Полацкам, але ненадоўга. Полацкія падзеі былі толькі пачаткам шырокага змагання супроць вынікаў Крэўскай уніі, якое пазбавіла Скіргайлу як улады ва ўсім ВКЛ, так і ў Полацку.

## ХРЫШЧЭННЕ ЯЗЫЧНІКАЎ

Але расправа з полацкімі паўстанцамі не была галоўнай мэтай Ягайлы ў час першага прыезду ў Вільню пасля абрання яго польскім каралём. Ехаў ён найперш дзеля іншага, аб чым сведчаць і тыя высокія духоўныя і свецкія асобы, што суправаджалі яго. Разам з ім была яго маладая жонка Ядвіга, а ў яго свіце знаходзіліся архібіскуп Гнезненскі, біскуп Кракаўскі, князі Януш і Земавіт і Конрад Алясніцкі, а таксама многія магнаты. І гэта зразумела: перад імі ставілася задача ажыццявіць важнейшую ўмову Крэўскай уніі — хрышчэнне язычнікаў у каталіцкую веру, пашырэнне якой было галоўнай задачай польскай экспансіі ў ВКЛ. Дзеля гэтага ў пачатку 1388 г. у Вільні быў сабраны спецыяльны сойм, на які запрашаліся Ягайлам усе яго браты і ўдзельныя князі. Аднак паўтарылася тая ж самая гісторыя, што і пры заключэнні Крэўскай уніі: на сойм з'явіліся толькі Скіргайла, Уладзімір, Дзмітрый Карыбут і Вітаўт[21], усе астатнія запрашэнне ігнаравалі. Гэта зноў-такі яшчэ адзін па-

казчык шырокай апазіцыі ў ВКЛ здзяйсненню ўсяму, што дыктавалася Крэўскай уніяй.

На гэтым сойме і была закладзена аснова для ажыццяўлення адной з важнейшых умоў, якая патрабавалася Крэўскай уніі, а менавіта было пастаноўлена хрысціць язычніцкае насельніцтва ВКЛ. Звычайна лічыцца, што язычнікамі былі толькі балцкія насельнікі. Аднак, як намі ўжо адзначалася раней[22], тое, што, напрыклад, язычнікі насілі імёны Кумец, Круглец і Няжыла, можа сведчыць, што сярод язычнікаў было нямала і славян, асабліва тых, якія ўцякалі з Памор'я ад хрысціянізацыі і анямечвання з боку крыжакоў.

Перад хрышчэннем у Вільні быў пагашаны свяшчэнны агонь Зніч, разбураны храм Пяркуна. Такія крайнія меры, на першы погляд, маглі б выклікаць бурныя хваляванні з боку язычнікаў. Аднак гэтага не адбылося, што можа зноў-такі сведчыць, што ў асяроддзі іх пераважалі не мясцовыя, а прышлыя, для якіх гэтыя святыні не былі прывычныя. Для заахвочвання да хрышчэння язычнікаў ім раздавалі белыя суконныя світкі, якія Ягайла прадбачліва прывёз з Польшчы. Але, як адзначаў нават М. Стрыйкоўскі, хрышчэнне суправаджалася не толькі дарамі, але і пагрозамі.

Для хрышчэння язычнікаў у Вільні сабралі ля ракі Вяллі, іх дзялілі на групы (асобна мужчын і жанчын), святары акраплялі іх свянцонаю вадой і чыталі ім малітвы, а пасля цэлым групам давалі якое-небудзь каталіцкае імя. Сам Ягайла прымаў актыўны ўдзел у хрышчэнні. Улічваючы тое, што прыбылыя святары не ведалі ні русінскай, ні літоўскай моў, ён растлумачваў язычнікам сэнс малітваў і прамоў. Лічыцца, што Ягайла гэта рабіў на літоўскай мове, што небясспрэчна, бо вядома, што ён заўсёды карыстаўся русінскай мовай, нават стаўшы польскім каралём. Паколькі Вільня была заснавана крывічамі і яны складалі пераважную частку насельніцтва гэтага горада, то іх русінская мова была добра знаёмая і балцкаму насельніцтву. Усё гэта можа сведчыць, што Ягайла звярнуўся да язычнікаў менавіта на русінскай мове, добра знаёмай для ўсяго жыхарства Вільні.

Хрышчэнне язычнікаў з удзелам Ягайлы адбывалася і ў Віленскай зямлі і ў Троках. У Вільні і ў гэтых месцах было ахрышчана іх каля 30 тысяч.

Аднак паўстае пытанне, чаму ў гэты час не была ахрышчана Жамойць і нават не зроблена спроба гэтага. А тут жа была сканцэнтравана галоўная маса язычніцкага насельніцтва. Вось менавіта апошняе і было прычынай, бо Ягайла і яго світа прадбачылі, што тут хрышчэнне можа сустрэць супраціўленне і тым самым пашкодзіць усёй гэтай справе. Апроч таго, адмоўную рэакцыю на хрышчэнне трэба было чакаць і з боку крыжакоў, як гэта было ў 1324 г., калі яны падкупілі жамойтаў, каб тыя адмовіліся ад хрышчэння. I тое, што хрышчэнне жамойтаў у 1388 г. не адбылося, трэба лічыць вынікам кампрамісу паміж Ягайлам і крыжакамі. Першы ў канцы 1386 г. напісаў вялікаму магістру Прускага ордэна, каб ён не перашкаджаў яму хрысціць язычнікаў[23]. Па ўсім відаць, што той і паставіў умову не хрысціць жамойтаў, на што і згадзіўся Ягайла. Адмовіўшыся ад хрышчэння асноўнай масы язычнікаў, Ягайла абмежаваўся толькі хрышчэннем асобных іх астравоў.

Такія астравы былі і на тэрыторыі Беларусі: гэта мясцовасці вакол сучасных Крэва (Смаргонскі р-н), Абольцаў (Талачынскі р-н), Гайны (Лагойскі р-н). Наконт Крэва — зразумела. Знаходзячыся на захадзе сучаснай Беларусі, яго ваколле, хаця ўжо і было заселена крывічамі, пра што сведчыць назва Крэва, усё ж утрымлівала ў сабе значную колькасць балцкага язычніцкага насельніцтва, якое падлягала акаталічванню.

Але чаму існавалі астравы язычнікаў у цэнтры (Гайна) і асабліва на крайнім усходзе (Абольцы) сучаснай Беларусі? Рэч у тым, што масаваму хрышчэнню ва Усходняй Еўропе падвяргаліся толькі славянскія плямёны[24]. А ў час масавага хрышчэння, якое пачалося ў канцы X ст., на Беларусі, пэўна ж, заставаліся астравы балцкага насельніцтва, на якое не пашыралася хрысціянства. Аднымі з іх і былі раёны Гайны і Абольцаў. Не выключана, што яны да канца XIV ст., акружаныя славянамі, у моўных адносінах былі ўжо асіміляваныя, але заставаліся язычнікамі і па ўмовах Крэўскай уніі павінны былі быць ахрышчаны ў каталіцтва, што і было здзейснена. Гэтым і тлумачыцца з'яўленне першых каталіцкіх храмаў на Беларусі ў Абольцах і Гайне. Цалкам магчыма, што гэта хрышчэнне адбылося таксама пры ўдзеле самога Ягайлы, паколькі ёсць звесткі, што ён у 1387 г. наведваў Полацк і Віцебск[25].

Хаця ў гэты час не прадугледжвалася хрышчэнне ў каталіцкую веру праваслаўных баяр, аднак менавіта зараз была выпрацавана палітыка іх прыцягнення ў каталіцтва ў далейшым, што асабліва важна, бо гэта адыграла асабліва істотную ролю ў пашырэнні польскай экспансіі ў ВКЛ. 20 лютага 1387 г. яўна па настаянні польскіх вярхоў Ягайла выдаў грамату, паводле якой кожнаму баярыну, які прымаў каталіцтва, гарантаваліся пэўныя прывілеі. Самай важнай з іх была тая, што гарантавала кожнаму баярыну-католіку поўнае права распараджацца сваёй маёмасцю. Менавіта гэтым забяспечвалася роўнасць з польскай шляхтай, якая карысталася такімі правамі, на што ўказана ў грамаце. Адначасова ў ёй папярэджвалася, што кожны, хто, прыняўшы каталіцтва, ганебна ад яго адракаўся, пазбаўляецца адзначаных прывілеяў[26]. Зразумела, што гэта грамата з'яўляецца самым важным вынікам Крэўскай уніі, які найперш спрыяў поспеху правядзення яе ў жыццё, бо забеспячэнне большымі правамі вышэйшага класа было гарантыяй у будучым збліжэння і зрашчэння ВКЛ з Польшчай. Але адначасова гэта садзейнічала і расколу грамадства ВКЛ, росту незадаволенасці яго праваслаўнага насельніцтва, што і выявілася, як мы бачылі, у дзеяннях Андрэя Полацкага.

Менавіта гэта супраціўленне праваслаўных і прымусіла Ягайлу перад ад'ездам з Вільні ў Кракаў паставіць сваім намеснікам у ВКЛ праваслаўнага Скіргайлу. Але, зрабіўшы гэта, Ягайла фактычна пазбавіў Скіргайлу ўлады над сталіцай дзяржавы — Вільняй, — аддаўшы яе пад кіраванне паляка Клімента Маскажэўскага. У выніку гэтага рэзідэнцыяй Скіргайлы сталі Трокі. Польскія вярхі зноў-такі добра разумелі, што іх экспансія ў ВКЛ будзе найбольш паспяховай, калі яна пачнецца са сталіцы. Гэтаму ж садзейнічала пабудова тут Кафедральнага каталіцкага сабора, а таксама заснаванне Віленскага каталіцкага біскупства, якое адразу ўзначаліў паляк Андрэй Васіла[27].

Так былі закладзены першыя падмуркі паланізацыі Вільні, што ў далейшым прывяло да значных поспехаў у гэтым кірунку.

Адзначым яшчэ адно цікавае для нас месца граматы Ягайлы, дзе ён гаворыць аб праследаванні замежнага ворага, якое па-народнаму называецца пагоняй[28]. Хаця дадзены дакумент



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт.*

*Паводле гравюры XVI ст.*

напісаны па-латыні, аднак гэта слова прыведзена ў арыгінале без перакладу, што яшчэ раз з'яўляецца яскравым пацвярджэннем гэтага паняцця, якое стала дзяржаўным гербам ВКЛ. Тое, што пачаткова «Пагоня» была гербам Новагародка (сучаснага Навааградка) — першай сталіцы ВКЛ, пацвярджаюць крыніцы, якія прывялі М. Стрыйкоўскі і А. Гваньіні, на што ў свой час звярнуў увагу В. Тацішчаў[29]. З гэтага становіцца бясспрэчным, што «Пагоня» становіцца адвечным сімвалам Беларусі.

## ВІТАЎТ ПАЧЫНАЕ БАРАЦЬБУ І ПЕРАМАГАЕ

Аднак мірнае жыццё ў ВКЛ пасля задушэння полацкага паўстання цягнулася нядоўга, што і зразумела. Крэўская унія, прынятая вузкім колам вярхоў дзяржавы, выклікала незадаволенасць ва ўсіх слаях насельніцтва. Усё гэта ўлічыў Вітаўт, калі пачаў сваю барацьбу з Ягайлам і Скіргайлам. Вядома ж, у гэтых адносінах нельга адмаўляць асабістыя амбіцыі князя. Найперш ён быў незадаволены тым, што Ягайла сваім намеснікам у ВКЛ паставіў не яго, на што ён разлічваў і таму прымаў такі актыўны ўдзел у заключэнні Крэўскай уніі, а Скіргайлу. Па-другое, як і раней, перад Крэўскай уніяй, Ягайла не аддаў Вітаўту Троцкага княства, якое апошні лічыў уласнай спадчынай пасля смерці свайго бацькі Кейстута. Гэта, як мы

ведаем, было адной з прычын яго ранейшай барацьбы з Ягайлам. Цяпер Вітаўту было вельмі крыўдна і балюча бачыць тое, чаго не было раней, каб чужыя людзі валодалі ВКЛ[30]. Таму ён і распачаў барацьбу як за свае асабістыя інтарэсы, так і за адваяванне дзяржаўнай самастойнасці ВКЛ, якую фактычна закрэсліла Крэўская унія.

Сваё часовае знаходжанне ў Луцку, які належаў яму, ён і прысвяціў падрыхтоўцы да рашучага змагання. Тое, што ён тут заручыў сына Дзмітрыя Данскога Васіля, які прабіраўся з Залатой Арды ў Маскву, са сваёй дачкой Сафіяй[31], можа сведчыць аб тым, што Вітаўт шукаў падтрымку з боку Маскоўскай дзяржавы. Вось гэта менавіта і выклікала падазронасць і неспакой польскіх вярхоў. І хаця Вітаўт запэўніваў пасланцаў з Кракава, што яго сустрэча з Васілём насіла выключна асабісты характар, яму не паверылі, а пасланага Вітаўтам у Кракаў баярына Кучку там закатавалі. Усё гэта яўна паказвала на дасведчанасць у Кракаве аб намерах Вітаўта, і ён, не трацячы часу, прыступіў да рашучых дзеянняў. Найперш ён абапёрся на Берасцейскую і Гарадзенскую землі, якія яму належалі і ў якіх ён пакінуў моцныя атрады[32]. Ён таксама ўвайшоў у зносіны з жыхарамі Вільні, якія былі асабліва незадаволены канцлерам-палякам Кліментам. Аднак спроба Вітаўта ўвесці ўзброены атрад у выглядзе вазоў з правіянтам у Вільню была раскрыта, і ён вымушаны быў уцякаць з ВКЛ. Не знайшоўшы падтрымкі ў мазавецкіх князёў Януша і Земавіта, якія былі яго сваякамі, ён накіроўваецца ў Прускі ордэн. Загадзя аб гэтым ён паведаміў праз Андрэя Полацкага і брата Івана, якіх паслаў туды. Усё гэта можа сведчыць аб падтрымцы Андрэем Вітаўта ў яго барацьбе з Ягайлам.

Як бачым, нягледзячы на тое, што крыжакі былі заклятымі ворагамі ВКЛ, тым не менш, дзеячы гэтай дзяржавы ва ўзаемнай барацьбе звярталіся па дапамогу да Ордэна, які заўсёды з ахвотай адгукаўся на іх звароты, бо гэта давала крыжакам магчымасць умешвацца ва ўнутраныя справы ВКЛ і тым самым рабаваць яго зямлю.

Мы ўжо ведаем, што ў час ранейшай барацьбы з Ягайлам у 1384 г. Вітаўт, апынуўшыся тут, пасля здрадзіў Ордэну, каб пamірыцца з вялікім князем. Таму крыжакі, памятаючы пра



*Пячатка вялікага князя Вітаўта*

тое, каб не паўтарылася ранейшае, узялі ў якасці закладнікаў яго жонку Ганну, двух малалетніх сыноў, шэраг іншых сваякоў і многіх баяр, размясціўшы іх па розных месцах. Апроч таго, Вітаўт павінен быў тут і ахрысціцца, і яго хроснымі бацькамі былі комтур Вігунд і жонка войта Тапіева. На гэты факт патрабуецца асаблівая ўвага. Сапраўды, навошта было зноў ахрышчвацца Вітаўту ў каталіцтва, калі ён пераходзіў у гэту веру ў час яшчэ першага знаходжання ў Ордэне і ў выніку Крэўскай уніі. І пэўна ж, аб гэтым і зараз было вядома ў Ордэне. З такога вельмі яскравага факта можна зрабіць вывад, што ў той час ад кожнага, хто прыбываў у іншую дзяржаву, патрабавалася відавочнае сведчанне яго прыналежнасці да прынятай там веры. І гэта, відаць, адносілася і да праваслаўнай веры. І таму хрышчэнне таго ці іншага так званага літоўскага князя (Міндоўга ў Навагародку, Таўцівіла ў Полацку, Даўмонта ў Пскове) магло быць іх перахрышчэннем, як і Вітаўта ў Ордэне.

Як і ў 1384 г., так і зараз Вітаўт дае абавязацельства ў выпадку сваёй перамогі аддаць Ордэну Жамойць[33]. Пасля гэтага вялікае рыцарскае войска рушыла на Вільню. Аднак паход быў няўдалым, сталіца не была захоплена. Не быў удалы і другі паход на Вільню. Варта адзначыць, што ў Я. Длугаша[34] і ў «Хроніцы Быхаўца» пры апісанні гэтых падзей упамінаюцца Крывы Горад і Крывы Замак у Вільні. А гэта азначае, што яшчэ ў той час памяталася тое месца, адкуль пачыналася Вільня, заснаваная крывічамі, чаму яна і называлася спачатку Крывіч-горадам, або пазней Крывым Горадам, а замак тут — Крывым Замкам. Менавіта ў гэты час войскам Вітаўта і быў знішчаны Крывы Замак[35], і таму памяць аб ім у далейшым забылася.

Апроч рыцарскіх паходаў на Вільню, вялікую трывогу Ягайлу прыносіла тая міжусобная барацьба, якая разгарэлася ў ВКЛ паміж прыхільнікамі Ягайлы і прыхільнікамі Вітаўта[36]. Усё гэта магло прывесці да катастрафічнага выніку, і таму Ягайла як і ў 1384 г., так і зараз вырашыў ісці на кампраміс з Вітаўтам. Ён пасылае да яго даверанyю асобу з прапановаю разарваць саюз з Ордэнам і прыбыць у Вільню для перамоў аб міры. Гэтак жа як і ў 1384 г., так і ў 1392 г. павёў сябе і Вітаўт: ён разрывае саюз з Ордэнам, знішчае некаторыя яго замкі і прыбывае ў Вільню. Праўда, зараз гэта было Вітаўту жорстка адплачана. Рыцары, даведаўшыся аб здрадзе ім Вітаўта, атруцілі яго двух малалетніх сыноў, а брата Жыгімонта, які таксама з'яўляўся закладнікам, закавалі ў ланцугі і кінулі ў цямніцу. Пэўна ж, Вітаўт прадбачыў такія сумныя вынікі яго разрыву з Ордэнам, аднак яго гэта не стрымала ад рашучых дзеянняў. Усё гэта можа характарызаваць Вітаўта як чалавека, які ў імя дзяржаўных інтарэсаў мог ісці на вялікія асабістыя ахвяры.

4 жніўня 1392 г. паміж Ягайлам, які спецыяльна дзеля гэтага прыехаў разам з Ядвігаю, і Вітаўтам была падпісана дамова, паводле якой апошні атрымліваў велікакняжацкую годнасць самастойнага гаспадара сваёй дзяржавы. Відаць, пры ўдзеле Ягайлы адбылося прымірэнне Вітаўта са Скіргайлам. Трэба зазначыць, што звесткі аб выніках другога паходу Вітаўта супярэчлівыя. Некаторыя крыніцы гавораць, што Вітаўт, узяўшы Вільню, захапіў Скіргайлу ў палон і пасадзіў яго ў турму[37]. Калі сапраўды так было, то Ягайла, пэўна ж, заступіўся за Скіргайлу, які і быў вызвалены. І ў далейшым ён знаходзіўся ў згодзе з Вітаўтам, пра што і будуць сведчыць наступныя падзеі.

І хаця Вітаўт абавязваўся дапамагаць Польшчы ў выпадку нападу на яе, аднак заключаная дамова азначала правал польскіх вярхоў у адзін прыём падначаліць сабе ВКЛ. Але гэта іх няўдача не прымусіла наогул адмовіцца ад першапачатковага намеру. Навучаныя горкім вопытам няўдачы першай спробы, яны рашылі, як пакажуць далейшыя падзеі, перайсці да тактыкі паступовага падначалення сабе ВКЛ, што і выявіцца ў шматразовых паразаключэннях уніі. Усё гэта ішло па шляху пашырэння каталіцызму, трывалым грунтам чаго была грамата Ягайлы аб прывілеях баяр-католікаў. Безумоўна, што



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Свідрыгайла. Паводле гравюры XVI ст.*

такія абставіны не маглі не ўздзейнічаць на характар княжання Вітаўта, не маглі не абмяжоўваць самастойнасць дзяржаўнай дзейнасці. А гэта ўрэшце і закладвала асновы для рэзкага дзяржаўнага ўпадку ВКЛ пасля смерці Вітаўта.

## У ЗМАГАННІ З УДЗЕЛЬНЫМІ КНЯЗЯМІ

Адной з асаблівасцей дзяржаўнага ладу ВКЛ была адсутнасць у ім моцнай цэнтралізаванай улады. Фактычна краіна дзялілася на шэраг удзелаў, якія мелі свае інтарэсы, што далёка не толькі не супадалі з агульнымі дзяржаўнымі, але і супярэчылі ім. Гэтым і тлумачацца і неаднаразовыя выступленні паасобных удзельных князёў супроць цэнтральнай улады. Тое ж адразу і адбылося пасля ўсталявання Вітаўта на велікакняжацкай пасадзе, калі ён вымушаны быў выступіць супроць дзеянняў удзельных князёў: Дзмітрыя Карыбута, Фёдара Карыятавіча і Свідрыгайлы Альгердавіча.

У крыніцах не сказана, дзе ў гэты час княжыў першы з іх[38]. Але паколькі ён раней княжыў у Ноўгарадзе-Северскім, то і зараз называецца шэрагам даследчыкаў князем Северскім, што вельмі праблематычна. Сапраўды, цяжка ўявіць, каб Карыбут, праявіўшы непаслушэнства Вітаўту і сабраўшы вялікае войска, ішоў з ім бесперашкодна ад Северскай зямлі да в.Дакудава (зараз Лідскі р-н Гродзенскай вобл.), дзе і быў разбіты. Карыбут таму і ішоў у кірунку Ліды, каб вярнуць сабе гэты горад, адабраны ад яго Вітаўтам. Пасля паражэння Карыбут з жонкай і дзецьмі ўцякае ў Новагародак. Вось гэта акалічнасць і прымушае меркаваць, што менавіта ў гэтым Новагародку, а не ў Ноўгарадзе-Северскім у гэты час і княжыў Карыбут і ад-

сюль пайшоў на Вітаўта. Аднак апошні захапіў і Новагародак, і Карыбут разам з сям'ёй папаўся ў палон[39]. Па некаторых звестках Вітаўт адправіў Карыбута да Ягайлы (свайго роднага брата), ад якога праз пэўны час атрымаў некалькі гарадоў на Валыні. Што ж штурхнула Карыбута на барацьбу з Вітаўтам? Вядома ж, мела значэнне тут і адабранне Ліды, але гэта магло быць вынікам найперш таго, што Карыбут праявіў «непаслушэнства» ў адносінах да Вітаўта. Але трэба браць пад увагу тое, што Новагародак быў адным з цэнтраў праваслаўя ў дзяржаве і яшчэ добра памятаў аб сваім нядаўнім сталічным значэнні. І таму зараз, калі на чале дзяржавы каталік Вітаўт замяніў праваслаўнага Скіргайлу (а на яго баку ў барацьбе са Смаленскам быў Карыбут), Новагародская зямля найперш адчула вялікую пагрозу для свайго ўплывовага значэння ў ВКЛ і таму штурхнула Карыбута на рашучыя дзеянні.

Выступіў супроць Вітаўта і падольскі князь Фёдар Карыятавіч. Ідучы на Падолле, Вітаўт загадаў ісці разам з ім і кіеўскаму князю Уладзіміру Альгердавічу, але той «не захацеў пакарыцца і ўдарыць чалом вялікаму князю»[40]. Як бачым, у апазіцыі да Вітаўта знаходзіўся і гэты князь, за што і быў выведзены з Кіева і пасланы ў Капыль[41]. Апошняе дае падставу меркаваць, што ў той час існавала ўдзельнае Капыльскае княства. Кіеў жа быў аддадзены Скіргайлу, які адначасова атрымаў і тытул «вялікага рускага князя». Гэта яшчэ раз сведчыць, што ў той час пад назвай «рускія» разумеліся найперш украінскія землі. Аднак Скіргайла нядоўга княжыў у Кіеве. Праз тры гады ён памёр, атручаны адным манахам[42]. Праўда, хадзілі чуткі, што гэта было зроблена па даручэнні самога Вітаўта, што магло і быць, бо, нягледзячы на прымірэнне між імі, Вітаўт мог бачыць у Скіргайлу моцнага патэнцыяльнага праціўніка.

Гэтак жа як і з Карыбутам, Вітаўт расправіўся і з Фёдарам Карыятавічам. Захапіўшы яго ў палон, таксама адправіў яго да Ягайлы. На жаль, у крыніцах не ўказана прычына канфлікту паміж Фёдарам Карыятавічам і Вітаўтам. Не выключана, што гэта мела сувязь з дзеяннямі Дзмітрыя Карыбута. Як мы ведаем, у свой час Альгерд заваяваў Падолле галоўным чынам сіламі Новагародка і таму аддаў яго новагародскім князям, у тым ліку і Фёдару Карыятавічу, які мог мець і зараз з

Навагародкам шчыльную сувязь, жыць яго інтарэсамі. І таму, калі ўбачыў разгром Дзмітрыя Карыбута, і вырашыў выступіць супраць Вітаўта.

Вымушаны быў выступіць Вітаўт і супроць Свідрыгайлы, але ўжо па ініцыятыве Ягайлы, а не сваёй. Рэч у тым, што, калі Ягайла стаў каралём, яго маці Юльяна разам са сваім малодшым сынам Свідрыгайлам пераехала жыць у Віцебск, які быў у свой час ва ўладанні яе мужа вялікага князя Альгерда. Аднак праз некаторы час яна стала манашкай, паехала ў Кіеў, дзе ў 1393 г. памерла і дзе была пахавана. Даведаўшыся пра гэта, Ягайла аддаў Віцебск свайму сакольнічаму Фёдару Весне, што не магло не прывесці ў абурэнне Свідрыгайлу, які лічыў Віцебск сваім законным уладаннем на той падставе, што і яго маці Юльяна. Не змогшы сцярпець гэтай крыўды, ён забівае Фёдара Весну і Віцебск вяртае сабе. Вось пасля гэтага Ягайла пасылае грамату Вітаўту, у якой просіць яго адпомсціць Свідрыгайлу. Узяўшы з сабою Скіргайлу і сабраўшы вялікае войска, Вітаўт спачатку пайшоў да Друцка, які адразу здаўся яму. Аднак Орша, да якой накіраваўся Вітаўт і Скіргайла, здалася толькі пасля двухдзённага жорсткага бою. Гэтак жа моцна абараняўся і Віцебск, да якога на дапамогу Вітаўту з вялікім войскам прыйшоў смаленскі князь Юрый Святаславіч. Свідрыгайла вымушаны быў здацца і пакарыцца Вітаўту[43], які адправіў яго да Ягайлы ў Кракаў, адкуль ён неўзабаве ўцёк у Венгрыю. Аднак ад барацьбы з Вітаўтам ён на гэтым не адмовіўся.

## ПАДНАЧАЛЕННЕ СМАЛЕНСКА І НОЎГАРАДА

Калі перамога Вітаўта над Карыбутам, Фёдарам Карыятавічам, Уладзімірам і Свідрыгайлам Альгердавічамі садзейнічала ў значнай ступені аслабленню ўдзельнай сістэмы ў дзяржаве і тым самым спрыяла яе ўнутранаму ўмацаванню, то чарговыя перамогі над Смаленскам і Ноўгарадам пашыралі тэрыторыю ВКЛ на ўсход і поўнач. Як Гедзімін і Альгерд, так і Вітаўт працягваў ранейшую полацкую палітыку ў адносінах гэтых гарадоў і іх земляў. Мы ўжо ведаем аб даўнім сапэрніцтве і варожасці паміж Полацкам і Смаленскам. Абедзве землі,

будучы пераважна крывіцкімі па характары сваёй заселенасці, імкнуліся ўзяць верх адна над другой, чаго яны не змаглі дамагчыся. Але тое, што не ўдалося здзейсніць аднаму Полацку ў авалоданні Смаленскам, стала рэальным пасля аб'яднання беларускіх земляў у адной дзяржаве. Яшчэ пры Альгерду Смаленская зямля, застаючыся фармальна самастойнай, была ўцягнута ў арбіту палітычнага прыцягнення ВКЛ. Аднак і зараз Смаленск выкарыстоўваў кожны зручны момант у сваіх інтарэсах. Як мы бачылі, у час барацьбы Андрэя Полацкага з Ягайлам Святаслаў Смаленскі імкнуўся вярнуць сабе Мсціслаўль. І вось зараз наступіў для Смаленска рашаючы момант для існавання яго як самастойнага княства.

Найперш Вітаўтам для канчатковага падначалення сваёй уладзе Смаленска была выкарыстана міжусобіца яго князёў, што сталі варагаваць паміж сабой за валоданне падобнымі ўдзеламі. Сабраўшы вялікае войска, Вітаўт у 1395 г. пайшоў на Смаленск, але распусціў чутку, што ідзе ваяваць супроць татарскага хана Тамерлана. Ён вельмі ласкава прыняў смаленскага князя Глеба, які выехаў яму насустрач і якому параіў перадаць усім смаленскім князям, каб яны прыехалі да яго для прымірэння паміж сабою. Аднак калі яны, паверыўшы гэтым словам, з'явіліся да Вітаўта, ён усіх іх захапіў у палон і толькі аднаму Глебу даў невялікі горад Палоннае (зараз у Хмяльніцкай вобл. на Украіне). Не меў поспеху і смаленскі князь Юрый Святаславіч, які ў гэты час паехаў да свайго цесця Алега Разанскага па дапамогу для барацьбы з Глебам і іншымі смаленскімі князямі. (Менавіта гэты ад'езд Юрыя і выкарыстаў Вітаўт для захопу Смаленска.) Але пачуўшы пра тое, што здарылася, Юрый разам з Алегам Разанскім сабралі вялікае войска і выступілі супроць Вітаўта, аднак пацярпелі паражэнне, што дало магчымасць апошняму захапіць вялікі палон і багатую здабычу. Так Смаленск канчаткова страціў сваю незалежнасць і ўвайшоў у склад ВКЛ. Вітаўтам тут былі пасаджаны яго намеснікі князь Ямант і Васіль Барэйкавіч[44].

У ранейшыя часы, асабліва пры Альгердзе, з-за Смаленска ўзнікалі канфлікты паміж ВКЛ і Масквой. Аднак зараз маскоўскі князь Васіль не толькі не выказаў варожасць да Вітаўта, але і выявіў яму выключнае дружалюбства. На Вялікдзень 1396 г. ён прыехаў да Вітаўта ў Смаленск, выключна шчодра

адарыў яго. Праўда, і Вітаўт не застаўся ў даўгу і аддзячыў не менш шчодрымі падарункамі[45]. Больш таго, Вітаўт і Васіль са Смаленска паслалі патрабаванне Ноўгараду, каб той разарваў саюз з крыжакамі і падначаліўся вялікаму князю Вітаўту. І калі Ноўгарад адмовіўся гэта зрабіць, то Васіль стаў ваяваць супраць яго. Лягчэй за ўсё гэта можна растлумачыць блізкім сваяцтвам гэтых князёў: Васіль быў зяцем Вітаўта. Аднак, як пакажуць далейшыя падзеі, сваяцтва тут ні пры чым. Як адзін, так і другі былі зацікаўлены ў міры між сабой. Калі Васілю выяўлялася пагроза з боку Арды, дзе адбываліся ў гэты час бурныя падзеі, якія маглі зачапіць Маскоўскае княства, то Вітаўт цярпеў ад крыжацкай агрэсіі.

Сапраўды, Ордэн не абмежаваўся за здраду Вітаўта толькі забойствам яго маленькіх сыноў. Рыцары помсцілі сваімі набегамі, ад якіх асабліва цярпела Гарадзеншчына. У 1392 г. яны зрабілі напад на Сураж, дзе пакінулі адны разбурэнні і адкуль павялі з сабою шмат палонных. Ёсць звесткі, што гэтым набегам садзейнічаў Свідрыгайла, які ў гэты час увайшоў у саюз з Ордэнам супроць Вітаўта[46]. У 1393 г. крыжакі напалі на самую Гародню, якую таксама разбурылі. У наступным годзе яны зноў уварваліся ў панямонскія землі, дзе прычынілі вялікія разбурэнні ў многіх месцах, у тым ліку Лідзе і Новагародку. У канцы 1395 г. крыжакі рушылі на Вільню з мэтай авалодаць ёю. І хаця ім удалося спаліць частку горада і разбурыць яго ваколіцы, аднак пасля двухмесячнай аблогі павінны былі з вялікімі стратамі адступіць. Вядома ж, Вітаўт не мог не адпомсціць крыжакам за іх пагромныя паходы на землі яго дзяржавы і ў 1396 г., закончыўшы справу з заваяваннем Смаленска, стаў рыхтавацца да паходу на крыжакоў. Аднак у хуткім часе абставіны рэзка змяніліся, і Вітаўт адмовіўся ад намеру помсціць на гэты раз крыжакам і прапанаваў ім заключыць мір. У 1397 г. і прыбыло нямецкае пасольства дзеля гэтага. Пазней Конрад Кібург, які ўзначальваў яго, пакінуў у форме дзённіка апісанне ўсяго бачанага ім у час правядзення гэтай місіі. Для нас з'яўляюцца вельмі каштоўнымі гэтыя звесткі. Вось некаторыя з іх.

Ужо ў самым пачатку свайго дзённіка Кібург адзначыў, што ў Коўне начальнікам замка быў баярын Іван Фёдаравіч[47], а вучэнне войска тут вёў нейкі Юрый[48]. І гэта не можа не здзівіць.



*Конны воін Вялікага княства Літоўскага. Малюнак У. Кіслага*

Сапраўды. Коўна знаходзілася ў Жамойці, а абаронай яе і войскам кіравалі людзі яўна не жамойцкага паходжання. Аднак стане ўсё зразумелым, калі прыгадаць аб фактах, якія мелі месца пры Віценю і Гедзіміне, калі жамойцкія военачальнікі, як, напрыклад, Драйка, Спуда і Світрыла, здавалі свае крэпасці крыжакам. Відаць, урок гэты быў улічаны, і на чале жамойцкіх крэпасцяў і войск ставілі выхадцаў з усходняй (г.зн. беларускай) часткі дзяржавы. А гэта яшчэ раз пацвярджае, што Жамойці ў гэты час улада ВКЛ з'яўлялася варожай, і таму немагчыма гаварыць аб так званым літоўскім (у сучасным значэнні гэтага слова) дамінаванні ў гэтай дзяржаве. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца і сведчанне Кібурга, што русінскае пісьменства без выключэння пануе ў ВКЛ[49] і што па-русінску гавораць і Вітаўт, і ўвесь яго двор. Вельмі каштоўным з'яўляецца і сведчанне Кібурга аб тым, што вялікі князь Альгерд не спачуваў язычнікам, бо быў праваслаўным хрысціянінам[50]. А гэта зноў-такі абвяргае шырокараспаўсюджанае ў навуцы сцвярджэнне, што да Крэўскай уніі вялікія князі ВКЛ былі язычнікамі.

Як і раней, так і цяпер, заключаючы мір з Ордэнам, Вітаўт уступае яму Жамойць. Ён таксама абавязваецца пашыраць у сваіх уладаннях каталіцкую веру. Па адной з умоў Вітаўт абавязваўся не прапускаць праз сваю тэрыторыю ніякіх войск, якія маглі ісці на Ордэн. І вось гэта асабліва ўгнявіла польскія вярхі, бо менавіта праз тэрыторыю ВКЛ на Ордэн маглі ісці іх войскі. І таму яны ўспрынялі гэта як выхад з-пад улады ВКЛ. Падбухтораная імі Ядвіга напісала ліст Вітаўту, што яго ўладанні як падначаленыя Польшчы павінны плаціць ёй даніну. Гэта ў сваю чаргу раззлавала Вітаўта, які сабраў спецыяльны сойм,

удзельнікі якога аднагалосна заявілі, што іх продкі ніколі не былі даннікамі і таму яны таксама не будуць імі. У такім духу Вітаўт даў адказ Ядвізе. Гэта прывяло яе ў гнеў, што адмоўна ўздзейнічала на яе здароўе, і ў хуткім часе яна памерла. Як бачым, гэта гісторыя зноў-такі выявіла выключна адмоўныя адносіны грамадства ВКЛ да Крэўскай уніі, да падначалення Польшчы.

Бачачы варожасць Польшчы да сябе, Вітаўт рашыў яшчэ больш замацаваць свой саюз з Ордэнам. 13 кастрычніка 1398 г. іх пасольствы сустрэліся на в.Салін (р. Дубіса). Цікава звярнуць увагу на тых асоб, якія тут суправаджалі Вітаўта. Гэта князі: Уладзімір, Юрый Пінскі, Міхаіл Заслаўскі, Аляксандр Старадубскі, Іван Гальшанскі і Іван Друцкі. Як бачым, гэта ўсё былі беларускія князі і ніводнага літоўскага, што гаворыць аб тым, хто быў апорай Вітаўта, хто яму радзіў і каго ён слухаў.

Па адной з умоў з крыжакамі Вітаўт павінен быў дапамагчы заваяваць ім Пскоў, а яны яму за гэта дапамогуць заваяваць Вялікі Ноўгарад. І вось, памірыўшыся з Ордэнам і не чакаючы ад яго варожых дзеянняў супроць сябе, Вітаўт рушыў да аваладання гэтым горадам і яго зямлёю, што зноў-такі адбылося вельмі лёгка і нават лягчэй, як заваяванне Смаленска. Ведаючы, што ні крыжакі, ні Масква не прыйдуць на дапамогу Ноўгараду, Вітаўт накіраваў туды сваіх паслоў, каб яны аб'явілі наўгародцам вайну, і, паколькі тыя два гады назад адмовіліся падначаліцца Вітаўту на яго патрабаванне, падтрыманае і маскоўскім князем Васілём І, цяпер павінны прызнаць яго ўладу. Пазбаўленыя саюзнікаў і аслабленыя вайной з маскоўскім князем за дзвінскія землі, наўгародцы вымушаны былі прызнаць сваю залежнасць ад Вітаўта.

Здавалася, што падначаленне Смаленска і Ноўгарада (а гэта было мэтай Полацкага княства на ўсім працягу яго гісторыі) нарэшце ажыццявілася так бліскуча і так лёгка Вітаўтам. Аднак, як пакажуць далейшыя падзеі, усё гэта было вынікам кароткачасовай і спрыяльнай палітычнай кан'юнктуры. Але для Вітаўта гэтыя перамогі, якія значна павялічылі прастору і сілу яго дзяржавы, сталі грунтам для больш грандыёзнай яго мэты, ажыццявіць якую ён вырашыў у 1399 г.

## ПАХОД НА ТАТАРАЎ

Прымірэнне Вітаўта з Ордэнам было не толькі патрэбна для падначалення Ноўгарада, але і для паходу на татараў. Рэч у тым, што ў Залатой Ардзе адбывалася міжусобная барацьба, у выніку чаго пераможаны хан Тахтамыш вымушаны быў уцякаць у 1396 г. у ВКЛ, дзе яго вельмі прыязна прыняў Вітаўт і пасяліў у Лідскім замку. Аднак Тахтамыш не зміръуся са становішчам пераможанага і прапанаваў Вітаўту дапамагчы яму перамагчы свайго ворага хана Цімур-Кутлая. Планы Тахтамыша былі вельмі заманлівыя для Вітаўта, і ён згадзіўся дапамагчы яму. Вось гэта галоўным чынам і прымусіла Вітаўта пайсці на мір з Ордэнам. І ён пачаў пасля падначалення Ноўгарада ў 1398 г. рыхтавацца да паходу на татараў. Каб упэўніцца, наколькі моцнай была Арда, ён робіць напад на яе ў раёне Ніжняга Дняпра. Вынікі былі паспяховыя, і гэта яшчэ больш натхніла яго на грандыёзны паход і надало ўпэўненасці на паспяховы яго зыход.

Як сведчыць летапіс, Вітаўт «Собра воя много без числено: и царь Тохтамыш с ним своим двором, и Литва, и Немцы, и Ляхи, и Жемойть, Татарове, и Волохи, и Поляне, и с ним бе князей 50, и бысть сила ратных много зело. И всими польки вооруживься, поице на царя Тимура»[51]. І вось да гэтага шматлікага войска Вітаўт звярнуўся з гарачым заклікам: «Пойдем попленим землю татарскую, победим царя Тимур-Кутлая и возьмем царство его, посадим царя Тохтамыша, и он мя посадить на всю землю Рускую, а потом на всем»[52]. Вось у гэтых словах і выяўляецца ўся сутнасць задуманага паходу, ініцыятарам якога, бясспрэчна, быў Тахтамыш і на які згадзіўся Вітаўт. Ён дапаможа бегламу татарскаму хану авалодаць Залатой Ардой, а той у сваю чаргу дапаможа авалодаць яму ўсёй Руссю. Апошняе асабліва звяртае на сябе ўвагу. Як бачым, у той час імкненне валодаць усімі рускімі землямі было як у Масквы, так і ў ВКЛ. Мы ўжо ведаем, што ў свой час Альгерд рабіў спробу спыніць аб'яднаўчую палітыку Масквы з дапамогай татараў[53]. Тое ж рашыў зрабіць і Вітаўт, толькі не дыпламатычным шляхам, як Альгерд, а магутнай сілай, якую ён павёў на раку Ворсклу (цяпер на тэрыторыі Палтаўскай вобл.),

куды прывёў і сваё войска, але не шматлікае, Цімур-Кутлай. Чакаючы прыходу галоўных сіл, ён, каб перахітрыць Вітаўта і гэтым часова прадухіліць бітву, завёў з ім перамовы, на што непрадбачліва Вітаўт згадзіўся. Аднак калі Цімур дачакаўся дапамогі, ён спыніў перамовы.

І вось 12 жніўня 1399 г., у аўторак, і адбылася грандыёзная бітва. Страты былі вялікія з двух бакоў, але Вітаўт пацярпеў паражэнне і «побеже во мале силе»[54], а абоз, палаткі, зброя і мноства палонных былі захоплены татарамі.

У ліку многіх князёў, што загінулі тут, быў і Андрэй Полацкі. Як нам вядома, каля 1390 г. ён быў выпушчаны з палону ў Польшчы і, відаць, знаходзіўся ў саюзе з Вітаўтам, бо апошні пасылаў яго да крыжакоў з пэўнымі даручэннямі. Аднак Андрэй па-ранейшаму, відаць, імкнуўся вярнуць сабе Полацк, для чаго падгаварваў палачанаў да хваляванняў, што стала вядома Ягайлу, і яму Вітаўт разам з іншымі князямі вымушаны быў даваць гарантыю, што яны выдадуць Андрэя ў выпадку яго непадначалення польскаму каралю[55]. Убачыўшы ўсю небяспечнасць прабывання ў ВКЛ, Андрэй ідзе ў Пскоў, дзе зноў абіраецца князем. Пра гэта сведчыць тое, што ён ездзіў у Ноўгарад, каб заключыць з ім мір, аднак гэта яму не ўдалося. Менавіта гэта і прымусіла яго вярнуцца ў ВКЛ, а пасля і прыняць удзел у паходзе Вітаўта на татараў, дзе ён і загінуў. Бясспрэчна, Андрэй Полацкі — выдатная постаць у нашай гісторыі. Звыш паўстагоддзя працягвалася яго дзяржаўная і вайсковая дзейнасць. У сувязі з ім трэба прыгадаць два дакументы, дата якіх засталася невядомай. Першы з іх — дарчая грамата, дадзеная полацкаму Троіцкаму манастыру. Асаблівую ўвагу ў ёй звяртае на сябе тое, што Андрэй Полацкі называе сябе вялікім князем[56]. Такое тытулаванне полацкіх князёў раней не выяўлялася. Другі дакумент — таксама дарчая грамата, але Прадцечанскаму манастыру і дадзеная князем Ануфрыем, які таксама называе сябе вялікім[57]. Адсюль вынікае пытанне, хто такі гэты Ануфрый? Аднак, улічваючы аднолькавы стыль гэтых грамат і тое, што Ануфрый таксама называе сябе вялікім князем, можна меркаваць аб адной асобе, якая крыецца пад гэтымі імёнамі. Магчыма, што Андрэй ужо тады прыняў мірскі чын і ў выніку гэтага атрымаў імя Ануфрый. Тое,

што ён называў сябе вялікім полацкім князем, невыпадкова. Уся яго працяглая дзяржаўная вайсковая дзейнасць была звязана з Полацкам, з якім ён назаўсёды зрадніўся. І ў яго асобе палачане бачылі свайго вернага слугу.

## ЗНОЎ СМАЛЕНСКІЯ І НАЎГАРОДСКІЯ СПРАВЫ

Паражэнне на р.Ворскле было вынікам шэрагу пралікаў Вітаўта. Найперш, гэта яго ўяўленне, якое, дарэчы, унушыў яму Тахтамыш, аб слабасці сіл Цімур-Кутлая. Але нават калі б была перамога Вітаўта, то наўрад ці Тахтамыш, стаўшы ханам Залатой Арды, згадзіўся б ставіць Вітаўта «над усёю Руссю», бо ў выніку гэтага стварылася б магутная дзяржава, якая наўрад ці пацярпела існаванне Залатой Арды.

Гэта катастрафічнае паражэнне Вітаўта вельмі дорага абышлося дзяржаве, выклікаўшы нанова рашэнне тых праблем, якія былі ўжо вырашаны ёю раней. Гэтай няўдачы яго чакалі ворагі з усіх бакоў. Першы, хто вырашыў пакарыстацца няўдачай Вітаўта, быў смаленскі князь Юрый Святаславіч, які рашыўся вярнуць сабе сваю вотчыну. Жывучы ў свайго цесця Алега Разанскага, ён разам з апошнім у 1401 г. рушыў на Смаленск. Трэба зазначыць, што ў гэтым горадзе, як і ў Ноўгарадзе, існавалі дзве партыі, маскоўская і так званая літоўская, кожная з якіх цягнула княства ў свой бок. У гэты час перамагла першая з іх, і Юрый Святаславіч увайшоў у Смаленск, пасля чаго тут былі забіты намеснікі Вітаўта і тыя баяры, якія выступалі супроць «свайго вотчыча»[58]. Даведаўшыся пра гэта, Вітаўт рушыў свае войска на Смаленск. Аднак у хуткім часе ён вымушаны быў вярнуцца ў Вільню, перадаўшы войскі пад каманду Сямёну-Лунгвеню, якому і ўдалося каля сяла Любуш у 1402 г. разбіць войска Юрыя Святаславіча і Алега Разанскага і ў выніку гэтага захапіць прыгарад Смаленска — Вязьму.

Аднак чаму Вітаўт вымушаны быў кінуць войскі і вяртацца ў Вільню? Рэч у тым, што для польскіх вярхоў паражэнне Вітаўта было таксама вялікім падарункам. Скарыстаўшы гэты зручны момант, яны перайшлі да тактыкі пераразаключэння уніі, г. зн. паступовага падначалення сваёй уладзе ВКЛ. Дзеля гэтага ў 1401 г. у Вільні быў скліканы з'езд, на якім прысутнічалі

Ягайла, Вітаўт і іншыя прадстаўнікі вышэйшых колаў Польшчы і ВКЛ. Апынуўшыся ў вельмі цяжкім становішчы і маючы патрэбу ў староннай дапамозе, Вітаўт павінен быў пацвердзіць асобай граматай захаванне вернасці і пакорнасці польскаму каралю і кароне. Адначасова прызнавалася, што пасля смерці Вітаўта ВКЛ павінна перайсці толькі каралю польскаму і яго пераемнікам. Характэрна для гэтага з'езда і тое, што на яго не былі запрошаны прадстаўнікі праваслаўнага баярства[59], а гэта азначала прызнанне палітычных правоў толькі за каталікамі. Як бачым, карыстаючыся вялікай няўдачай Вітаўта, польскія вярхі прымусілі Вітаўта адступіць. Аднак ён, як пакажуць далейшыя падзеі, лічыў для сябе гэтыя ўступкі часовымі і выкарыстоўваў іх на карысць сабе.

У прыватнасці, гэтым разам ён атрымаў польскую вайсковую падтрымку, з якой і адправіўся пад Смаленск. Бачачы непазбежнасць здачы Смаленска пасля страты Вязьмы, Юрый Святаслаавіч звярнуўся па дапамогу да маскоўскага князя Васіля І. Аднак той марудзіў, і гэта забяспечыла поспех Вітаўту. Выкарыстаўшы ад'езд у Маскву князя Юрыя, у Смаленску ўзялі верх прыхільнікі Вітаўта, якія і адчынілі яму дарогу ў свой горад, што адбылося 24 чэрвеня 1404 г. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічаў і голад, які цярпелі смаленцы, адрэзаныя войскамі Вітаўта[60]. Вяртанне сабе Смаленска было першым поспехам Вітаўта пасля яго паражэння на Ворскле.

Прыблізна па такім сцэнарыі, як і ў Смаленску, разгортваліся падзеі і ў Ноўгарадзе, толькі яны зацягнуліся і закончыліся без поспеху для Вітаўта. Тут таксама існавалі дзве такія ж самыя партыі, якія ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры бралі верх адна над другой. І вось, дачуўшыся аб паражэнні Вітаўта на Ворскле, маскоўская партыя, узняўшы бунт і расправіўшыся з супраціўнай партыяй, дамаглася ўлады над горадам і звярнулася да Васіля І. Са свайго боку прыхільнікі Вітаўта звярнуліся да яго, каб ён умяшаўся ў справы Ноўгарада. Аднак цяпер Вітаўт не меў магчымасці гэта зрабіць. І толькі пасля Віленскага з'езда, падмацаваўшыся дапамогай палякаў, ён гатовы быў выступіць супроць Ноўгарада. Аднак з-за таго, што маскоўскі князь Васіль І не мог умяшацца ў наўгародскія справы, зноў узялі верх прыхільнікі Вітаўта, і яму прыйшлося прымяніць сілу. Але праз чатыры гады маскоўская партыя зноў



*Герб Вялікага княства Літоўскага «Пагоня». З гравюры 1575 г.*

заўладарыла ў Ноўгарадзе і звярнулася да Васіля І з просьбай аб падначаленні яму. У адказ на гэта Вітаўт аб'явіў адначасова вайну і Ноўгараду і яго прыгараду — Пскову.

Як вядома, у 1397 г. Вітаўт, заключаючы мір з крыжакамі, абяцаў ім дапамагчы ў авалоданні гэтым горадам. Аднак, падначаліўшы Ноўгарад, ён, відаць, адмовіўся ад свайго абяцання і стаў лічыць Пскоў разам з Ноўгарадам сваім падуладным горадам. Як галоўную прычыну свайго намеру ён выставіў тое, што Ноўгарад прыняў да сябе яго заклятага ворага Юрыя Смаленскага. Летапісец, апісваючы падзеі нападу на Пскоўскую зямлю, характарызуе Вітаўта як «паганага», «сына д'ябла» і «няверніка»[61]. Вось на гэту характарыстыку трэба звярнуць увагу. Зыходзячы з яе, Вітаўта трэба лічыць язычнікам, хоць добра вядома, што ён быў хрысціянінам. Але ў гэты час таго, хто нападаў на якую-небудзь зямлю, лічылі паганым, бязбожнікам. У свой час вялікі князь Трайдзень, які неаднаразова нападаў на Валынскую зямлю, яе летапісцам таксама называецца язычнікам, што і дало падставу шэрагу даследчыкаў лічыць яго язычнікам. Але як і Вітаўт, так і Трайдзень не быў такім.

А дзеянні Вітаўта на Пскоўскай зямлі былі вельмі жорсткімі. Захапіўшы г. Каложу і яго акругу, ён адных «изсече», а іншых у колькасці 11 тысяч узяў у палон. Тое ж самае адбылося і на подступах да г.Вароніча, які яму ўзяць не ўдалося[62]. Праўда, і пскоўцы ў адказ на дзеянні Вітаўта зрабілі набег на Полацкую воласць і ледзь не заваявалі сам Полацк[63]. І ўсё ж, не змогшы процістаяць Вітаўту, Пскоў і Ноўгарад звярнуліся зноў па дапамогу да Васіля І, які больш не пасіўнічаў, а адразу аб'явіў

вайну свайму цесцю. У чэрвені 1406 г. войскі аднаго і другога сышліся на рацэ Плаха, аднак без бою было заключана перамір'е. Гэтак жа закончылася сустрэча войскаў Вітаўта і Васіля І і ў 1407 г. пад Вязьмай. У наступным 1408 г. адбылася і трэцяя сустрэча войскаў ля ракі Угры (прыток Акі ў яе вярхоўі, зараз на тэрыторыі Калужскай вобл.). Знешнім повадам для гэтага паходу быў намер патрабаваць ад Васіля І, каб ён выдаліў Свідрыгайлу, які, будучы тады князем Северскім, уцёк у Маскву. Такі ўчынак гэтага князя некалькі можа здзівіць. Нам ужо вядома, што ў час заключэння Крэўскай уніі ён, як і Вітаўт, перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва, змяніўшы праваслаўнае імя Леў на каталіцкае Баляслаў. І вось зараз, калі стаў назірацца ад'езд праваслаўных князёў у Маскву як адзінаверную краіну, у ліку іх і найбольш значным з'явіўся і католік Баляслаў. Па ўсім відаць, што ён нядоўга заставаўся ў каталіцкай веры, чаму спрыялі варожыя адносіны да яго католікаў Ягайлы і Вітаўта. Ён зноў вярнуўся ў праваслаўе, збег у Маскву, у якой хацеў бачыць сваю адзінаверную саюзніцу. Трэба зазначыць, па-першае, пераход адных беларускіх князёў і баяр у каталіцтва, што служыла ў канчатковым выніку Польшчы, па-другое, пераход шэрагу беларускіх князёў і баяр, якія заставаліся праваслаўнымі і станавіліся нераўнапраўнымі з католікамі, аддаваліся пад уладу Масквы, азначаў пачатак глыбокага расколу ў беларускім грамадстве, што ў далейшым і стала адной з прычын заняпаду нашай дзяржавы.

Сустрэча на Угры таксама закончылася мірна. Васіль І згадзіўся выдаліць Свідрыгайлу, праўда, з умовай, што яму нічога дрэннага зроблена не будзе. Вітаўт, са свайго боку, адмаўляўся ад умяшання ў справы Пскова і Ноўгарада. Такім чынам, у адрозненне ад Смаленска, барацьба Вітаўта за Ноўгарад не прынесла яму поспеху. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, наўгародская праблема як для Вітаўта, так і для яго наступнікаў канчаткова не знікла.

Але асаблівай увагі патрабуе яшчэ адна ўмова гэтага міру, а менавіта тое, што мяжа паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам ўстанаўлівалася па Угры, а гэта быў самы ўсходні рубеж нашай дзяржавы. У сувязі з гэтым можа паўстаць пытанне: чаму менавіта Вітаўт ішоў сюды, на гэта месца? Дык вось, некаторыя факты могуць сведчыць пра тое, што па Угры пралягала

не толькі дзяржаўная мяжа паміж ВКЛ і Масквой, але і этнічная. Рэч у тым, што сучасныя расійскія дыялектолагі (у прыватнасці, М. Высоцкі) адзначаюць, што нават зараз жыхары, якія жывуць на захад ад Угры, у сваім вымаўленні ўжываюць «ў», чаго няма ў жыхароў на ўсходзе ад гэтай рэчкі. Як вядома, «ў» з'яўляецца характэрнейшай асаблівасцю беларускай мовы. Адсюль можна зрабіць вывад, што па Угры праходзіла мяжа між двума этнасамі, што і можа тлумачыць, чаму менавіта сюды прыйшоў Вітаўт і чаму тут пралягла мяжа паміж ВКЛ і Масквой.

## ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА: ЯЕ ПРЫЧЫНЫ І ВЫНІКІ

Хоць Вітаўт неаднаразова ў барацьбе са сваімі ўнутранымі і знешнімі ворагамі ўступаў у саюз з Ордэнам, аднак апошні для яго па-ранейшаму быў небяспечным ворагам. Крыжакі таксама выкарысталі паражэнне Вітаўта на Ворскле перш за ўсё імкненнем поўнасцю падначаліць сабе Жамойць, уступленую ім каторы ўжо раз Вітаўтам. Яны асабліва стараліся гвалтоўна навязваць жамойтам каталіцтва, а гэта выклікала ўпартае супраціўленне апошніх і прымушала іх уцякаць са сваёй зямлі. Рыцары ў лютым 1402 г. зрабілі спусташальны набег на Гарадзеншчыну (вотчыннае ўладанне Вітаўта). У адказ на гэта Вітаўт напаў на крэпасць Готэсвэрдэр і разбурыў яе, а жамойты напалі на горад Мемель, дзе прычынілі шмат шкоды і адкуль вывелі вялікі палон. Са свайго боку рыцары зрабілі паход на Вільню, але ўзяць яе не змаглі.

Ордэн, убачыўшы збліжэнне Польшчы і ВКЛ у выніку Віленскага з'езда і змяніўшы тактыку ў адносінах да іх, рашыў заключыць мір з Ягайлам і Вітаўтам. Апошняму гэта было таксама выгадна, каб канчаткова ўладзіць смаленскія справы. І ў сярэдзіне мая 1404 г. мір быў заключаны. Вітаўт пацвярджаў усе свае абавязацельствы, дадзеныя ім Ордэну на Салінскім з'ездзе ў 1398 г., у прыватнасці (у які ўжо раз!) уступіў крыжакам Жамойць. Больш таго, Вітаўт у 1406 г. прыслаў у гэту зямлю сваіх паслоў з даручэннем сказаць жамойтам, каб яны не супраціўляліся акаталічванню, бо гэта ні да чаго не

прывядзе. Праўда, жамойты не паслухаліся Вітаўта і працягвалі сваю барацьбу[64]. Трэба думаць, што гэта і прадбачыў Вітаўт, і яго пасольства патрэбна было толькі для таго, каб паказаць сваю вернасць мірнаму пагадненню з Ордэнам, што і зразумела. У гэты час, як мы ведаем, ён быў заняты наўгародскімі справамі. Аднак, закончыўшы іх, Вітаўт зноў уступіў у канфлікт з Ордэнам за Жамойць.

Закончыўшы пашырэнне дзяржавы на ўсходзе, Вітаўт зараз убачыў магчымасць давесці гэту справу і на захадзе, г. зн. канчаткова і поўнасцю падначаліць сабе Жамойць. Для Вітаўта гэта было не толькі дзяржаўнай, але і асабістай справай, бо ён глядзеў на гэту зямлю як на сваё спадчыннае ўладанне, якое належала яго бацьку Кейстуту.

І Ордэн, і Вітаўт добра бачылі непазбежнасць канфрантацыі паміж імі. Але адначасова наспеў канфлікт паміж Тэўтонскім ордэнам і Польшчай, калі ў жніўні 1409 г. крыжацкія войскі ўварваліся ў Добрынскую зямлю. Усё гэта прывяло да агульных дзеянняў Польшчы і ВКЛ супроць Ордэна, аб чым і дамовіліся Ягайла і Вітаўт пры сустрэчы ў Берасці ў снежні 1409 г. Ордэн таксама стаў рыхтавацца да рашучай барацьбы, збіраючы з усёй Еўропы вопытных рыцараў. І рашаючы момант наступіў.

У ліпені 1410 г. аб'яднаныя войскі Польшчы і ВКЛ пад камандаваннем караля Ягайлы і вялікага князя Вітаўта перайшлі мяжу Прускага ордэна. Насустрач ім рухалася крыжацкае войска. Адны і другія сустрэліся каля вёскі Грунвальд, дзе 15 ліпеня і адбылася грандыёзная бітва. Хоць дакладных звестак аб колькасці ўдзельнікаў у ёй з аднаго і другога боку мы не маем, аднак аб іх вялікім ліку гаворыць колькасць харугваў, за кожнай з якіх стаяла поўная вайсковая адзінка. Дык вось, пад камандаваннем Ягайлы і Вітаўта было 90 харугваў, у крыжакоў — 51 харугва. У тым ліку з Беларусі мы бачым Полацкую, Віцебскую, Гарадзенскую, Берасцейскую, Пінскую, Новагародскую, Лідскую, Ваўкавыскую, Мсціслаўскую, Драгічынскую, Мельніцкую і інш.[65]

Войскі Вітаўта занялі правы фланг, польскія — левы. Калі Вітаўт увесь час быў са сваім войскам, аб'язджаў і падбадзёрваў яго, Ягайла, даручыўшы камандаванне сваім войскам кракаўскаму мечніку Маскаржэцкаму, ад'ехаў назад і ніякага ўжо



*Грунвальдская бітва 1410 г.*
*Гравюра XVI ст.*

асабістага ўдзелу ў бітве не прымаў, а, стоячы на пагорку і акружаны шматлікай світай, маліўся Богу. Вітаўт каля палудня адкрыў наступленне на ордэнскае войска. Крыжакі пасля іх артылерыйскага агню таксама рушылі ў бой, у выніку чаго атака Вітаўта была адбіта. Тады вялікі магістр Юнгенген, падмацаваўшы свае войскі, сам перайшоў у наступленне і хутка расстроіў шэрагі Вітаўта. Татары першыя кінуліся ўрассыпную, пасля кінуліся бегчы ратнікі віленскія, троцкія, жамойцкія і валынскія. Частка польскага войска, якое прымыкала да войска Вітаўта, таксама пасунулася назад. Усе намаганні Вітаўта стрымаць уцёкі з поля бою і аднавіць бітву былі дарэмнымі. Рыцары нястрымна ішлі наперад, частка літоўскага войска была загнана ў балота і там знішчана, другая частка са страху бегла ў родныя месцы, абвяшчаючы аб паражэнні сваіх.

І яно было б непазбежнае, каб не смаленскія харугвы, якімі камандаваў мсціслаўскі князь Сямён-Лунгвень Альгердавіч. Менавіта яны стрымалі напор крыжакоў, уступілі ў рукапашны бой і тым самым далі магчымасць Вітаўту аднавіць баявы парадак. Гэта выратавала і польскае войска, ад якога ўжо была забрана немцамі галоўная харугва. Аб'яднаныя войскі ВКЛ і Польшчы перайшлі ў наступленне і вечарам закончылі поўны разгром крыжацкага войска. У ліку шматлікіх забітых крыжакоў быў і вялікі магістр Юнгенген[66]. Трэба зазначыць, што апісанне Грунвальдскай бітвы ў розных крыніцах не супадае ў дэталях, як, напрыклад, у «Хроніцы Быхаўца»[67] . Аднак усюды падкрэсліваецца яе вялікае гістарычнае значэнне як магутнага ўдару па крыжацкай агрэсіі.

На жаль, гэта бліскучая перамога не была даведзена да канца, да поўнага паражэння Прускага ордэна. Ягайла і Вітаўт прастаялі некалькі дзён на полі бою ў бяздзейнасці. Гэта дало рыцарам магчымасць зноў умацавацца і не дапусціць узяцця іх сталіцы Марыенбурга. На дапамогу Прускаму ордэну прыйшлі войскі Лівонскага ордэна. Ёсць нават звесткі, што адбылася сустрэча Вітаўта з магістрам гэтага Ордэна Германам, які быццам бы ўпэўніў вялікага князя ў небяспечнасці для яго дзяржавы канчатковага знішчэння Ордэна, бо гэта прывядзе да ўзвышэння Польшчы[68]. І сапраўды, як убачым далей, апошняе і адбылося. Як бы там ні было, а Вітаўт у хуткім часе адмовіўся ад аблогі Марыенбурга і павёў свае войскі дадому.

Прычынай гэтага магло быць і тое, што заканчваўся тэрмін яго міру з лівонцамі, і таму ён мог чакаць іх нападу. Ягайла ў пачатку верасня 1410 г., пераканаўшыся ў немагчымасці ўзяць Марыенбург, таксама адвёў свае войскі. Аднак паасобныя вайсковыя сутычкі працягваліся да заключэння Торуньскага міру 1 лютага 1411 г. Паводле яго Вітаўту і вярталася Жамойць. А гэта азначала канчатковае фарміраванне тэрыторыі ВКЛ. Жамойць, якая да гэтага часу была разменнай манетай у руках Вітаўта, складае галоўную і большую частку сучаснай Летувы, і яе канчатковае далучэнне да ВКЛ у пачатку XV ст. — яшчэ адно яскравае абвяржэнне шырокараспаўсюджанага ў навуцы сцверджання аб ВКЛ як Летувіскай дзяржаве, якая, маўляў, утварылася шляхам аб'яднання літоўскіх земляў Міндоўгам і заваявання ім беларускіх земляў. Аднак усё гэта абвяргаюць гістарычныя сведчанні. Яны пацвярджаюць адваротнае, а менавіта тое, што шляхам заваявання да ВКЛ былі далучаны найперш балцкія землі (Старажытная Літва, пад якой тады разумелася тэрыторыя Беларускага Панямоння, Нальшчаны і Дзяволтва), украінскія землі (Падолле, Чарнігаўскае і Кіеўскае княствы), велікарускія землі (Смаленскае і Северскае княствы). Аднак нідзе не гаворыцца аб заваяванні якой-небудзь беларускай зямлі (Полацкай, Менскай, Турава-Пінскай ці Навагародскай). Яны аб'ядноўваліся ў XIII ст. мірна вакол Навагародка, які і стаў першай сталіцай ВКЛ. Таму нельга гаварыць, як гэта распаўсюджана ў навуковай літаратуры і ў падручніках па гісторыі, аб уваходжанні беларускіх земляў у склад ВКЛ, ды яшчэ шляхам іх заваявання, бо яны былі ядром утварэння гэтай дзяржавы, што і характарызуе яе найперш як беларускую. Жамойць з'явілася апошняй балцкай зямлёй, якая таксама была далучана да ВКЛ вайсковай сілай. Менавіта з гэтага часу да назвы «ВКЛ» далучаецца і назва «Жамойцкае», якая і супадае з сучаснай назвай «Літоўскае». Жамойць, канчаткова апынуўшыся ў складзе ВКЛ, імкнецца заняць у гэтай дзяржаве вядучае месца і, у прыватнасці, прыпісаць сабе заслугу яе ўтварэння, з чым і звязана ўзнікненне версіі ўтварэння ВКЛ як Жамойцкай дзяржавы.

Далучыўшы канчаткова пад сваю ўладу Жамойць, Вітаўт, каб спыніць далейшую спробу Ордэна на аваладанне ёю, прыступіў да хрышчэння ў каталіцкую веру яе язычніцкіх насель-

нікаў, заснаваў тут біскупства і пабудаваў шмат касцёлаў[69]. У гэтай справе актыўны ўдзел прыняў кароль Ягайла, што зноўтакі добра раскрывае зацікаўленасць Польшчы. Аднак жамойты як ад крыжакоў, так і ад Вітаўта і Ягайлы не жадалі хрысціцца і ўзнялі супроць гэтага паўстанне, якое было з выключнай жорсткасцю падаўлена Вітаўтам у 1418 г.

Хоць у выніку Грунвальдскай бітвы Прускі ордэн не быў знішчаны, бо такая пагроза для яго была, усё ж у яго далейшым існаванні адбыліся істотныя змены. Рэч у тым, што галоўнай задачай Ордэна лічылася пашырэнне хрысціянства сярод язычнікаў, што і прыкрывала яго захопніцкую дзейнасць, у выніку якой яму і ўдалося утварыць такую вайскова-феадальную дзяржаву, як Тэўтонскі ордэн. Аднак пасля Грунвальда, калі Жамойць — гэта язычніцкая краіна канчаткова перайшла ў ВКЛ, для Ордэна барацьба з язычніцтвам страціла сваё прызначэнне. Ён ужо не мог дзеля заваявання язычніцкіх плямёнаў заклікаць да сябе рыцараў з Захаду, што яму зараз было і не па кішэні.

Згубіўшы сваю месіянерскую мэту прасоўвання на Усход, Ордэн адначасова страціў і падтрымку Рымскай курыі, якая ўжо перастала бачыць у Ордэне патрэбную ёй сілу, бо фактычна язычніцтва перастала існаваць. Цяпер паўставала ўжо задача пашырэння каталіцызму сярод іншых хрысціянскіх канфесій, у прыватнасці сярод праваслаўных, якія складалі галоўную частку насельніцтва ВКЛ. І таму зараз цяжар пашырэння каталіцызму на Усход пераносіцца з Ордэна на Польшчу, якая таксама была каталіцкай дзяржавай і якая, далучыўшы да сябе ВКЛ, мела вялікі рэзерв для пашырэння рымскай веры, а праз гэта і для пашырэння сваёй тэрыторыі. У літаратуры адзначалася ўжо вялікае значэнне ў дзяржаўным і культурным адраджэнні Польшчы Крэўскай уніі і Грунвальдскай перамогі[70]. Менавіта зараз і пачынае ўзрастаць аўтарытэт Польшчы ў Еўропе, дзе яна да гэтага часу была малавядомай. Трэба таксама адзначыць, што аслабленне Прускага ордэна пасля Грунвальда было найперш на карысць Польшчы, паколькі менавіта ён быў асабліва небяспечны для яе. Усе гэтыя акалічнасці і прывялі да неабходнасці з боку Польшчы перазаключэння уніі з ВКЛ, што і адбылося ў 1413 г. у Гародні.

Ужо тое, што на гэтым з'ездзе ад ВКЛ прысутнічалі толькі феадалы-католікі, яскрава характарызуе яго мэты і вынікі, якія задавальнялі найперш інтарэсы каталіцкай царквы і Польшчы. І нездарма ж у пачатку пастановы з'езда аб уніі ВКЛ і Польшчы ўслаўляецца «ўздзеянне жыватворнага духу... каталіцкай веры»[71]. Менавіта Польшча і станавілася галоўнай апорай яе пашырэння на ўсход. Па-ранейшаму ўсё рабілася для таго, каб ураўняць у правах феадалаў-католікаў ВКЛ з феадаламі Польшчы, што зноў-такі спрыяла перацягненню першых на польскі бок. Дзеля гэтага ў прывілеях, прынятых Гарадзельскім з'ездам, 47 польскіх феадалаў міласціва даравалі права 47 феадалам-католікам ВКЛ насіць іх гербы. Апроч таго, апошнія абавязваліся быць з польскімі феадаламі ў вечнай дружбе. Улічана было і тое, што ў выніку смерці вялікага князя Вітаўта, яны не маглі выбіраць сабе князя без згоды палякаў. Тое ж самае абяцалі і польскія феадалы ў выпадку смерці караля Ягайлы. Гарадзельскі прывілей забяспечваў палітычнымі правамі феадалаў-католікаў, якія прымалі польскія гербы, і толькі яны маглі назначацца Ягайлам і Вітаўтам на дзяржаўныя пасады. Феадалы-католікі абавязваліся ўсяляк садзейнічаць стварэнню каталіцкіх касцёлаў і манастыроў. Хоць, паводле Гарадзельскай уніі, у ВКЛ захоўвалася асобнасць улады вялікага князя, аднак жа яно, тым не менш, аб'яўлялася аб'яднаным з Польшчай. Як бачым, новая унія адбіла ў сабе далейшае зрашчэнне польскай дзяржаўнай улады з каталіцызмам і іх супольнае імкненне пранікнуць у глыб дзяржаўнага жыцця ВКЛ.

## У АПОШНІЯ ГАДЫ ЖЫЦЦЯ

У гістарычнай літаратуры ўжо было адзначана, што заключэнне Крэўскай уніі пайшло найперш на карысць Маскве[72]. Выказвалася думка, што калі б у ВКЛ па-ранейшаму заставалася дзяржаўнай праваслаўная вера, то яшчэ невядома, хто б у канчатковым выніку перамог: Масква ці Вільня? Сапраўды, увядзенне ў ВКЛ каталіцкай веры як дзяржаўнай, адразу паставіла праваслаўнае насельніцтва ў нераўнапраўнае становішча. І Масква стала гэта выкарыстоўваць, паказваючы сябе як абаронцу адзінаверных у ВКЛ, што давала ёй магчымасць


*Грыгорый Цымблак*

умешвацца ва ўнутраныя справы гэтай дзяржавы. Такім чынам ва ўмовах ВКЛ рэлігійныя адносіны шчыльна перапляталіся з палітычнымі інтарэсамі суседніх дзяржаў. Калі каталіцызм стаў дарогай польскай экспансіі ў нашу дзяржаву, то праваслаўе станавілася грунтам для таго ж самага з боку Масквы.

Не могучы процістаяць націску каталіцызму, да якога ён і сам належаў, і, з другога боку, не могучы ігнараваць праваслаўе, да якога належала большая частка ВКЛ, Вітаўт, як і ў свой час Альгерд, рашыў зрабіць яе самастойнай, г. зн. аддзяліць праваслаўную царкву сваёй дзяржавы ад Маскоўскай мітраполіі. Ужо ў 1408 г. ён паслаў полацкага епіскапа Феадосія ў Канстанцінопаль з мэтай прызнання яго мітрапалітам праваслаўнай царквы ў ВКЛ. Хоць у гэтым яму было адмоўлена, але не спыніла захадаў Вітаўта ў гэтым кірунку. Больш таго, бачачы перспектыву непазбежнай барацьбы паміж каталіцтвам і праваслаўем, што будзе толькі на шкоду яго дзяржаве, Вітаўт рашыў адначасова аб'яднаць гэтыя дзве хрысціянскія веры ў адну шляхам уніі. З гэтай мэтай у 1416 г. ствараецца самастойная праваслаўная мітраполія з цэнтрам у Навагародку, якую ўзначаліў балгарын па паходжанні Грыгор Цымблак. Адначасова было забаронена маскоўскаму мітрапаліту аб'язджаць праваслаўныя епархіі ВКЛ. З мэтай дасягнення царкоўнай уніі Грыгор Цымблак быў пасланы на Канстанцкі сабор (у Швейцарыі), дзе меркавалася ўзняць пытанне аб уз'яднанні праваслаўя і каталіцтва ў глабальным маштабе. Аднак Цымблак спазніўся на гэты сабор, і таму пытанне уніі тут не вырашалася. У хуткім часе Цымблак памёр, а Вітаўт не назначыў яму пераемніка, паколькі ў гэты час ён ішоў на прымірэнне з Масквою і не хацеў абвастраць з ёй адносіны. Ён нават дазволіў маскоўскаму мітрапаліту зноў валодаць пра-

васлаўнымі епархіямі ВКЛ. Так была загублена вельмі важная ініцыятыва, здзяйсненне якой у той час магло б вырваць наш народ ад няшчасця рэлігійнага разладу ў ім.



*Соф'я Вітаўтаўна, жонка Вялікага князя Маскоўскага. Гравюра XV ст.*

Як бачна, дзейнасць Вітаўта была шматграннай, яна ахоплівала дзяржаўны, дыпламатычны, вайсковы і рэлігійны кірункі. Такой жа яна заставалася і ў апошнія гады яго жыцця, нягледзячы на даволі паважны ўзрост Вітаўта.

Вядома, што дачка Вітаўта Сафія была жонкай маскоўскага князя Васіля I, які памёр у 1425 г. і які завяшчаў апеку над сваім 9-гадовым сынам Васілём Вітаўту як дзеду. А гэта было падставай ўспрымаць Вітаўта як гаспадара Маскоўскага княства. Такая акалічнасць не магла не ўносіць пэўнага ўмяшання ў дзяржаўнае жыццё Масквы, што і рашыў выкарыстаць Вітаўт у інтарэсах ВКЛ. Замацаваўшыся ў Смаленску і гэтым самым здзейсніўшы адну з даўніх мэт Полацка, Вітаўт, нягледзячы на папярэднія няўдачы, не пакінуў спробы авалодаць Псковам і Ноўгарадам, якія ў свой час таксама імкнуўся падначаліць Полацк. І вось у 1426 г. Вітаўт ідзе з войскам на Пскоўскую зямлю, дзе пацярпеў няўдачы пад Апочкай і Воранічам[73]. Аднак, нягледзячы на гэта, ён пры адступленні атрымаў ад Пскоўскай зямлі багатую кантрыбуцыю.

Як у свой час Альгерд зачэпкай для вайны з Ноўгарадам узяў тое, што яго там празвалі «псом», так і ў 1428 г. Вітаўт пайшоў на гэты горад, бо ў ім маскоўская партыя называла яго «п'яніцам» і «здраднікам». Аднак і гэты паход закончыўся ўзяццем Вітаўтам кантрыбуцыі з Порхава і Ноўгарада[74]. Тое,



*Вітаўт Вялікі.*
*Лінарыт М. Купавы*

што ў паходзе на Ноўгарад быў зацікаўлены Полацк, сведчыць удзел у ім полацкага войска і гібель тут полацкага ваяводы. Ёсць меркаванні, што Вітаўт пакінуў Пскоўскую і Наўгародскую землі па патрабаванні Масквы, якая нагадала яму, што гэтыя вобласці належаць толькі ёй. Міжусобная барацьба разанскіх князёў таксама дала повад Вітаўту ўмяшацца ў іх справы, у выніку чаго ён атрымаў магчымасць нават прыдбаць некаторую частку гэтай зямлі, праўда, ненадоўга.

Хоць Вітаўт у цэлым у сваёй унутранай і знешняй палітыцы арыентаваўся на саюз з Польшчай, аднак ён, адчуваючы незадаволенасць гэтым шырокіх колаў грамадства дзяржавы, не мог не імкнуцца да самастойнасці. А гэта перш за ўсё магло падкрэсліць атрыманне ім каралеўскай кароны, захады аб чым ён прадпрымаў двойчы: у 1428 і 1430 гг. Каб паказаць, наколькі яго дзяржава магутная і багатая, ён сабраў у сябе гасцей з ліку многіх каранаваных асоб. У «Хроніцы Быхаўца» гаворыцца, што кожны дзень на частаванне гэтых гасцей разыходзілася мёду — 700 бочак, апроч віна і іншых напояў, сотні бараноў і вепраў, каля сотні зуброў і шмат іншага[75]. Усё гэта вельмі ўразіла гасцей, і яны, упэўніўшыся ў сіле і багацці Вітаўта, рашылі, што ён варты каралеўскай кароны. Асабліва на гэтым настойваў германскі імператар Сігізмунд III, які і паабяцаў прыслаць яму карону. Вядома, усё гэта не магло быць сакрэтам для польскіх вярхоў і не магло іх не ўстрывожыць. І яны ўсё зрабілі,

каб карона не дайшла да Вітаўта. Па адных звестках, яе пераняліі па дарозе, адабралі, распілавалі напалам і адну палавіну яе прымацавалі да кароны кракаўскага біскупа. Па іншых звестках, паслоў з каронай не прапусцілі, і яны вярнуліся назад. Усё гэта адбылося ў пачатку верасня 1430 г., а 27 кастрычніка таго ж года Вітаўт памёр у 80-гадовым узросце.

38-гадовае княжанне Вітаўта (1392—1430) было перыядам найбольшага дзяржаўнага ўздыму ВКЛ, яго вайсковай магутнасці, найбольшай тэрыторыі і палітычнай стабільнасці. Як і ў ранейшыя часы, так і пры Вітаўце ВКЛ найперш вызначалася як беларуская дзяржава. На гэта ўказвае тое, што ўсе вышэйшыя пасады займалі выхадцы з Беларусі, з іх складалася акружэнне Вітаўта, як пра гэта сведчыць апісанне яго світы на Салінскай сустрэчы. Як сам Вітаўт, так і ўвесь яго двор карысталіся толькі русінскай (г. зн. беларускай) мовай. На ёй жа вялося і дзяржаўнае справаводства. Усё гэта яшчэ раз сведчыць, што, як казаў Максім Багдановіч, дзяржаўнае жыццё Вялікага княства Літоўскага праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах.

## СВІДРЫГАЙЛА І ЖЫГІМОНТ: ІХ АНТАГАНІЗМ І ПАДАБЕНСТВА

Заключаная ў 1385 г. Крэўская унія, якая пасля зноў перазаключалася ў 1401 і 1413 гг. і якая ставіла канчатковай мэтай злучэнне ВКЛ з Польшчай, выклікала рэзкі антаганізм ува ўсіх слаях грамадства дзяржавы дзвюх сіл: польска-каталіцкай і беларуска-праваслаўнай. Гэта ўжо добра сябе выявіла ў першае ж дзесяцігоддзе пасля смерці Вітаўта ў асобах вялікіх князёў Свідрыгайлы і Жыгімонта.

Ужо адразу пасля смерці Вітаўта пачалася барацьба згаданых партый. Справа ўскладнялася тым, што ў Вітаўта не было сыноў, і таму яму не было законнага спадчыннага пераемніка. І вось польска-каталіцкія колы імкнуліся паставіць на велікакняжацкі пасад малодшага брата Вітаўта — Жыгімонта, які адпавядаў іх інтарэсам Аднак праціўны бок апярэдзіў іх і вялікім князем быў абраны Свідрыгайла[76], які ў гэты час быў князем у Ноўгарадзе-Северскім. І гэты выбар не быў выпадко-



*Герб «Пагоня» з надмагілля Ягайлы.*

*XV ст.*

вым. Будучы самым малодшым сынам Альгерда, Свідрыгайла такім чынам выступаў у вачах грамадства як найбольш законны прэтэндэнт на вялікакняжацкі пасад. Але самым важным было тое, што ён асабліва варожа ставіўся да Польшчы і быў зацятым праціўнікам уніі з ёй. У гэты час Свідрыгайлу было 75 гадоў. Нарадзіўся ён у 1355 г. і пад імем Льва быў ахрышчаны ў праваслаўную веру, як гэта было заведзена пры вялікакняжацкім двары. Ужо адзначалася, што хоць у 1385 г. ён разам з Ягайлам і іншымі братамі перайшоў у каталіцтва, аднак па-ранейшаму быў адданы сваёй народнасці і веры. Як вядома, ён уцякаў у Маскву, адкуль Вітаўт патрабаваў яго выдаліць. Аднак Свідрыгайла не чакаў, пакуль яго будуць выганяць, а сам са сваёй світай уцякае адтуль у ВКЛ, дзе ён зноў стаў северскім князем.

Вярхі ВКЛ, узводзячы Свідрыгайлу на вялікакняжацкі пасад, і разлічвалі на тое, што ён скасуе унію. Але ж за гэта самае яго ненавідзелі польскія вярхі. Асабліва для іх было небяспечна яго нежаданне аддаць ім Падолле, Валынь і нават Кіеў, на якія прэтэндавалі і якія яны хацелі назаўсёды далучыць да Польшчы. Палякі адразу ж і напалі на Падолле, што выклікала вельмі бурную рэакцыю ў Свідрыгайлы. У той час Ягайла знаходзіўся ў Вільні, і яго світа амаль уся была перабіта, а самога яго Свідрыгайла так схапіў за бараду, што ледзь не вырваў яе разам са скіўіцай[77].

Перамовы аб спыненні польскай агрэсіі не далі вынікаў, і ВКЛ павінна было ўступіць у вайсковыя дзеянні, якія ў асноўным вяліся на Валыні. Асабліва вызначыўся мужнай абаронай Луцк. Паколькі Свідрыгайла не згадзіўся на заключэнне міру ў карысць палякаў, то яны пачалі наступленне супроць яго з мэтай пазбаўлення яго велікакняжацкага пасада. І ім гэта ўдалося зрабіць.

Яны выставілі яму саперніка — брата Вітаўта Жыгімонта, фанатычнага каталіка, і, перацягнуўшы на свой бок частку акаталічаных вярхоў, восенню 1432 г. з вялікім войскам падышлі да Ашмян, дзе ў той час знаходзіўся Свідрыгайла. Ён ледзь выратаваўся ад палону. Пасля Жыгімонт захапіў Гародню, Трокі і Вільню і такім чынам авалодаў велікакняжацкім пасадам[78].

Як бачым, Свідрыгайла быў вялікім князем толькі два гады. Паколькі ён з'яўляўся паборнікам праваслаўя, то пры ім пачалося будаванне шэрагу праваслаўных храмаў у Сямяцічах, Мельніку (Беласточчына) і іншых месцах. Асабліва хочацца адзначыць з'яўленне ў Вільні іконы Вастрабрамскай Божай Маці. Па некаторых звестках, гэта ікона была прывезена яшчэ Альгердам з Корсуня і падорана манахам Троіцкага манастыра і толькі пасля перанясення ў Вострую Браму стала святыняй для ўсіх праваслаўных ВКЛ[79].

Але, нягледзячы на сваё паражэнне, Свідрыгайла не здаваўся. Уцёкшы ў Полацк, ён звяртаўся па дапамогу да лівонскіх рыцараў і іншых саюзнікаў. Сабраўшы да 40 тысяч воінаў, ён прыйшоў да Ашмян, дзе 2 снежня 1432 г. уступіў у бой з войскам Жыгімонта, але пацярпеў ад яго знішчальную паразу. Адсюль ён зноў ідзе ў Полацк, а пасля ў Віцебск, які ў свой час быў яго ўдзелам і які прыязна сустрэў яго. Тут Свідрыгайла жорстка расправіўся са сваімі праціўнікамі. Аднаго з іх, князя Альшанскага, ён загадаў жывога зашыць у мяшку і ўтапіць у Дзвіне[80].

Імкнучыся атрымаць у сваёй барацьбе дапамогу ад каталіцкіх дзяржаў, Свідрыгайла наладжвае зносіны з рымскім папам з мэтай аб'яднання каталіцкай і праваслаўнай вераў. Праваднікам гэтай справы стаў смаленскі епіскап Герасім, якога Свідрыгайла па сваім уступленні на велікакняжацкі пасад паслаў у Царград для зацверджання яго ў сане мітрапаліта

праваслаўнай царквы ВКЛ. Атрымаўшы звесткі аб намеры аб'яднання ўсходняй і заходняй цэркваў у ВКЛ, рымскі папа звярнуўся з пісьмом да Свідрыгайлы склікаць сабор, каб абмеркаваць гэта пытанне і прапанаваць згоду на гэту справу. Такое ж пісьмо было паслана і Герасіму. Аднак Свідрыгайлу патрэбна была не доўгая цеганіна са скліканнем сабору, а хуткая непасрэдная дапамога яму ў барацьбе. Таму, расчараваўшыся ў сваіх разліках на дапамогу рымскага папы і каб адвесці ад сябе віну ў зносінах з ім, якая яму пачала прад'яўляцца з боку яго паплечнікаў, Свідрыгайла ўсё зваліў на Герасіма, абвінаваціў у зносінах з Жыгімонтам і загадаў жывога спаліць яго, што і было зроблена ў 1435 г. у Віцебску[81]. Трэба адзначыць, што вось такі круты характар, жорсткасць, хваравітая падазронасць у адносінах сапраўдных і мнімых ворагаў паступова адштурхоўвалі ад яго адданых яму людзей, што вельмі пашкодзіла Свідрыгайлу і дало сумныя вынікі ў яго барацьбе. Гэта і выявілася ў 1435 г., калі ён пацярпеў паражэнне ў бітве ля Вількаміра. Свідрыгайла зноў знайшоў прыстанішча ў Полацку, які разам з Віцебскам быў адданы яму. Аднак у 1437 г., калі Жыгімонт падначаліў сабе і гэтыя гарады, Свідрыгайла апынуўся ў Кіеве, а пасля шэрагу блуканняў па іншых краінах (па некаторых звестках, будучы ў Малдавіі, гэты князь нават падрадзіўся пасвіць авечак) ён канчаткова асеў на Валыні, дзе пераважна жыў у Луцку, у якім памёр у 1452 г., пражыўшы 97 гадоў. Магчыма, што ён быў самым даўгавечным нашым князем.

Аднак перамога Жыгімонта была нетрывалай, і ён не змог доўга пратрымацца на вялікакняжацкай пасадзе. Атрымаўшы перавагу над Свідрыгайлам, галоўным чынам дзякуючы дапамозе палякаў, ён таму вёў сваю палітыку ва ўгоду Польшчы, у кірунку падначалення ёй ВКЛ. Усё гэта не магло не выклікаць непрыязнасці да яго насельніцтва ВКЛ, асабліва праваслаўнага. Апроч таго, Жыгімонт, як і Свідрыгайла, быў чалавекам выключна жорсткім і падазроным. Ён бязлітасна губіў тых, каго падазраваў у зносінах са Свідрыгайлам, не шкадуючы ні праваслаўных, ні католікаў. Так, ён засудзіў на смерць князя Карыбута, троцкага ваяводу Манівіда, літоўскага маршалка Рамбольда, схапіў і пасадзіў у астрог мсціслаўскага князя Юрыя Лунгвенавіча і капыльскага князя Алельку Уладзімі-

равіча разам з іх сем'ямі. Усе гэтыя забойствы і арышты суправаджаліся прысваеннем маёмасці ахвяр. Цікава адзначыць, што, знішчаючы буйных знатных вяльможаў, ён узвышаў нязнатных і акружаў імі сябе, ведаючы, што гэтыя новаспечаныя «князі з гразі» будуць верна служыць яму. Ёсць звесткі, што ён хацеў склікаць на сойм усіх знатных баяр і шляхту ВКЛ і знішчыць іх. Будучы заўзятым каталікам, Жыгімонт нават увёў у дзяржаве інквізіцыю на 43 гады раней, чым у Іспаніі. І хоць яна фармальна была накіравана супроць гусітаў, аднак у сапраўднасці прымянялася супроць усіх, хто так ці інакш супроцьдзейнічаў каталіцтву. Жыгімонтам было распачата будаўніцтва касцёлаў і кляштараў у многіх мясцінах ВКЛ.

Атмасфера тэрору, якая душыла ўсё грамадства дзяржавы, стала ненавіснай для ўсіх. Паколькі нельга было выступіць супроць Жыгімонта адкрыта, то скора склалася змова, на чале якой сталі браты, буйныя арыстакраты Іван і Аляксандр Чартарыйскія. Яны разам з войскам, якое было схавана ў трохстах вазах сена, прабраліся ў Троцкі замак, дзе звычайна знаходзіўся Жыгімонт, з мэтай забіць яго. Пад раніцу змоўшчыкі прыйшлі да пакоя, у якім Жыгімонт маліўся. Але дзверы былі замкнёныя, што ўскладняла намер забіць Жыгімонта. Але Іван Чартарыйскі выпадкова зазірнуў у акно і ўбачыў у двары любіміцу Жыгімонта — ручную мядзведзіцу. Ён успомніў, што яна звычайна, нагуляўшыся, прыходзіла да дзвярэй, драпала іх, і Жыгімонт ёй адчыняў. І вось Чартарыйскі, пераймаючы яе, пачаў драпаць дзверы, і Жыгімонт адчыніў іх. У пакой яго ўварваліся змоўшчыкі, пачалі абвінавачваць яго ў розных злачынствах, а адзін з іх — Скабейка, які раней быў у світе Жыгімонта, але перайшоў да змоўшчыкаў, схапіў вілы, якімі мяшалі дровы ў каміне, і ўсадзіў іх у Жыгімонта. Яшчэ доўга на сцяне замка захоўвалася пляма, якая засталася ад крыві і мазгоў Жыгімонта[82].

Вестка аб смерці Жыгімонта была з радасцю ўспрынята ў дзяржаве. Гэта адбылося ў 1440 г. Як бачым, Свідрыгайла і Жыгімонт, з'яўляючыся антыподамі ў кірунку сваёй дзяржаўнай дзейнасці, вельмі добра сімвалізуюць сабой дзве супрацьлеглыя сілы, што выявіліся ў ВКЛ пасля Крэўскай уніі. Паслядоўнае правядзенне кожнай з іх, як бачым, прыводзіла да няўдач. Вось чаму ў далейшым мы бачым асцярожнае лавіраван-



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Казімір Ягелончык.*

*Гравюра пач. XVII ст.*

не паміж імі, уступкі то аднаму, то другому. Гэта і характарызуе дзейнасць наступнага вялікага князя Казіміра.

## ДОЎГІ І НЯРОЎНЫ ЧАС КАЗІМІРА (1440—1492)

Але як ён апынуўся на вялікакняжацкім пасадзе? Адразу пасля забойства Жыгімонта, як гэта бывае ў такіх выпадках, пачалася барацьба розных партый за свайго стаўленіка. Была кандыдатура і Свідрыгайлы. Аднак, будучы вельмі старым (яму было ўжо тады 85 гадоў) і хворым, ён адмовіўся. Прапа-

ноўваўся і сын Жыгімонта Міхаіл, якога падтрымліваў маскоўскі князь Васілій Цёмны (унук Вітаўта). Аднак перамагло жаданне запрасіць на велікакняжацкі пасад сына Ягайлы— Уладзіслава, які стаў польскім каралём пасля смерці бацькі ў 1434 г. Але ў гэты час Уладзіслаў быў выбраны венгерскім каралём, і яму трэба было ехаць у Венгрыю, і таму ён прапанаваў узяць у свае намеснікі непаўналетняга брата Казіміра (яму было 13 гадоў). Па прыездзе ў Вільню ён і быў абвешчаны вялікім князем, што выклікала незадаволенасць палякаў. У выніку іх інтрыг у розных месцах ВКЛ падняліся хваляванні, што пагражалі развалам дзяржавы. Аднак вакол Казіміра склалася рада вопытных дзяржаўных дзеячаў, сярод якіх асабліва вызначаўся віленскі ваявода Ян Гаштольд. Дзякуючы найперш яму і ўдалося ўціхамірыць краіну. Паколькі палітыка Жыгімонта перш за ўсё не задавальняла беларускую і ўкраінскую праваслаўную частку, прычым большую ў дзяржаве, то Казімір разумеў, што ўмацаванне яго ўлады павінна абапірацца на інтарэсы большасці дзяржавы, чаго не было пры Жыгімонце. Вось чаму адразу ж пасля ўступлення на пасаду ў 1440 г., вядома ж, па радзе свайго акружэння, ён робіць шэраг уступак беларускім і ўкраінскім землям, якія пераважна былі праваслаўнымі. Так, у прыватнасці, быў вызвалены з астрога слуцкі і капыльскі князь Алелька Уладзіміравіч, якому ў кіраванне быў аддадзены адноўлены Кіеўскі ўдзел[83].

Звяртае на сябе асаблівую ўвагу тое, што Жамойць выкарыстала для сябе спрыяльныя ўмовы і «адступіла ад Вялікага княства Літоўскага»[84]. І спатрэбіліся вялікія намаганні Яна Гаштольда, каб вярнуць яе зноў пад уладу вялікага князя. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што большая частка сучаснай Летувы ўжо ў сярэдзіне XV ст. супраціўлялася вярхоўнай уладзе ВКЛ.

Не згадзіўся з уладай Казіміра і сын Жыгімонта Міхаіл (у летапісе ён называецца Міхайлушкам). Знаходзячыся ў Клецку, ён падгаварыў пяцярых валожынскіх князёў Сухтаў, каб яны забілі Казіміра. Аднак гэты намер быў раскрыты, і Міхаіл уцякае ў Бранск, адкуль з дапамогай Масквы нават захапіў Кіеў. Аднак, не змогшы там утрымацца, уцякае, і ў адным з манастыроў быў атручаны[85]

Нялёгка было задаволіць і Смаленск, насельніцтва якога, пачуўшы аб смерці Жыгімонта, паўстала, выгнала ваяводу Андрэя Саковіча і прызвала да сябе аднаго з унукаў Альгерда — мсціслаўскага князя Юрыя Лунгвенавіча. Апошні ўсхваляваў Полацк і Віцебск супроць Казіміра і нават далучыў іх да свайго ўдзела. Толькі пасля другога паходу на Смаленск войску на чале з самім Казімірам восенню 1444 г. удалося зноў падначаліць Смаленск, і Юрый Лунгвенавіч вымушаны быў уцякаць у Ноўгарад. Праўда, пасля ён памірыўся з Казімірам і атрымаў сваё Мсціслаўскае княства[86].

Праз год маскоўскае войска разам з татарамі напала на Вяземскую зямлю, і Казімір паслаў супроць іх сваё войска, якое паваявала гарады Казельск, Вярэю, Калугу, Мажайск. Масква са свайго боку паслала ў пагоню 500 воінаў, аднак беспасяхова, бо многія з іх былі забітыя, а іншыя ўзяты ў палон і прыведзены ў Смаленск[87].

Але Казімір нядоўга быў у Вільні. У 1445 г. загінуў пад Варнай у бітве з туркамі ягоны брат, польскі кароль Уладзіслаў, і Польшча абрала сваім каралём Казіміра. Вядома, усё гэта, як і раней у такіх выпадках, рабілася для справы аб'яднання ВКЛ з Польшчай. Праўда, Казімір два гады, вядома, пад націскам вярхоў ВКЛ адмаўляўся прыняць польскую карону. І толькі пад пагрозай з боку палякаў пазбавіць яго і вялікакняжацкага пасада ён згадзіўся пераехаць у Кракаў. Стаўшы польскім каралём і адначасова вялікім князем ВКЛ, ён апынуўся ў фокусе барацьбы супрацьлеглых сіл і з прычыны слабасці свайго характару не мог супрацьстаяць ім. І ў залежнасці ад таго, чый уціск на яго быў большы, на карысць таго і дзейнічаў. Так, уступіўшы на Польскае каралеўства, ён у 1447 г. пасведчыў недатыкальнасць ВКЛ і скасаваў абмежаванне правоў праваслаўных.

Аднак па меры ўсё далейшага знаходжання Казіміра ў Польшчы і ўзмацнення ўціску на яго польскіх вярхоў, ён усё больш адыходзіць ад інтарэсаў ВКЛ. Гэта тым больш адбывалася, чым больш Казімір знаходзіўся ў Кракаве і зусім рэдка быў у Вільні. Даўшы прысягу на недатыкальнасць межаў ВКЛ, ён у той жа час павінен быў уступіць Польшчы на яе дамаганні Падолле, Валынь і Падляшша. Асцерагаючыся поўнай залежнасці ад польскіх інтарэсаў ВКЛ двойчы (у 1456 і 1461 гг.) па-



*Касцёл
у Ішкальдзі.
XV ст.*

*Малюнак
В. Сташчанюка*

трабавала, каб сам Казімір або ўвесь час знаходзіўся ў Вільні, або назначыў свайго намесніка, у якасці якога называўся Сямён Алелькавіч. Аднак усё гэта не дало вынікаў і нават прывяло да скасавання шэрагу ўдзелаў. Так, у 1459 г. з Кіева павінен быў перайсці ў Слуцк і Капыль князь Міхаіл Алелькавіч. Трэба зазначыць, што княжацкія беларускія і ўкраінскія роды перасталі ўтрымліваць сваё былое значэнне і прыраўноўваліся ў правах да шляхты. Яны больш не атрымлівалі свае вотчыны па спадчынным праве, а з рук вялікага князя як плату за іх службу. Усё большыя правы і значэнне ў дзяржаве атрымлівае шляхта са сваімі вольнасцямі, што збліжала яе з польскай шляхтай. Усё гэта і было адной з галоўных умоў для канчатковага аб'яднання Польшчы з ВКЛ.

І ўсё ж трэба адзначыць, што такі важны дзяржаўны дакумент, як прывілей Казіміра 1447 г., у адрозненне ад прывілеяў Ягайлы і Вітаўта, даваў аднолькавыя правы і католікам, і праваслаўным. Адначасова забаранялася чужаземцам мець маёнткі і займаць дзяржаўныя пасады ВКЛ[88]. Многія артыкулы гэтага прывілею пазней увайшлі ў так званыя Літоўскія статуты. Выключна важную ролю для фарміравання прававой практыкі ў ВКЛ адыграў выдадзены ў 1468 г. «Судзебнік караля Казіміра Ягайлавіча»[89]. Аб тым вялікім значэнні, якое мелі ў ВКЛ Полацкая і Віцебская землі, сведчаць дадзеныя ім каралеўскія прывілеі. Яны гавораць аб значнай ступені аўтаноміі гэтых абласцей. Нават ваяводы сюды назначаліся толькі па згодзе палачан і віцяблян і павінны былі прысягаць ім. Вядома ж, гэтыя прывілеі Полацку і Віцебску былі вынікам і таго, што гэтыя гарады ў 144—442 гг. апынуліся на баку смаленцаў на чале з Юрыем Лунгвенавічам.

Аб засваенні Беларуссю ў той час еўрапейскіх форм грамадскага жыцця вельмі добра сведчыць прыняцце яе гарадамі Магдэбургскага права, якое вызначала значную ступень самастойнасці і тым самым садзейнічала іх эканамічнаму і культурнаму развіццю. Яго атрымалі тады гарады Беларусі: Берасце (1390), Слуцк (1441), Полацк (1498), Гародня (1391), Менск (1499).

Як у папярэдні час, так і зараз не замірала ідэя заключэння царкоўнай уніі. Яшчэ ў 1437 г. у Фларэнцыі адбыўся сабор, які павінен быў абвясціць унію. На ім прысутнічаў і маскоўскі мітрапаліт Ісідар. Хоць ён, ад'язджаючы з Масквы, і даў абяцанне ніякіх навінаў у царкоўным жыцці не ўводзіць, аднак у Фларэнцыі падтрымаў унію і ўхваліў яе. З гэтай прычыны ён не быў прыняты ні ў Кіеве, ні ў Маскве і знайшоў прыстанішча ў ВКЛ, дзе і быў прызначаны мітрапалітам, які унію лічыў ужо здзейсненым фактам. Менавіта па яго ініцыятыве Казімір у 1443 г. і ўраўняў праваслаўных у правах з каталікамі, паколькі, як гаварыў Ісідар, зараз паміж імі няма розніцы. Але гэта не дало жаданых вынікаў. Праваслаўнай царквой правіў не Ісідар, які больш часу знаходзіўся ў Рыме, а маскоўскі мітрапаліт Іона, і таму сам Казімір у 1451 г. даў яму права на кіраванне праваслаўнай царквой у ВКЛ. Аднак у 1458 г. уніяцкім мітрапалітам быў прызначаны Грыгорый, пад уладай якога аказаўся шэраг

епархій, у тым ліку Берасцейская, Смаленская, Тураўская і Полацкая. Гэта выклікала ў мітрапаліта Іоны вялікую трывогу, і ён склікаў спецыяльны сабор, які пракляў Фларэнтыйскую унію і яго праваднiка Грыгорыя. Апроч таго, Іона паслаў акружныя граматы значным асобам праваслаўнай веры ў ВКЛ з заклікам рашуча выступіць супроць уніі і не прызнаваць улады Грыгорыя. Усё гэта паказвае, наколькі маскоўская мітраполія была праваднiком палітыкі сваіх вялікіх князёў, і ўсё гэта было не што іншае, як ідэалагічная падрыхтоўка заваёвы Масквой усходніх беларускіх земляў, што некалькі пазней і выявілася. Прынятце уніі ў Беларусі выбівала з-пад ног Масквы адну з важнейшых падпор яе экспансіі на беларускія землі як населеныя праваслаўнымі, абаронцамі якіх яны сябе лічылі.

Пасля смерці Грыгорыя ў 1472 г. у Новагародку (такім чынам ён быў, па сутнасці, цэнтрам беларускага уніяцтва) кіеўскім мітрапалітам быў выбраны смаленскі епіскап Міхаіл, з якога і пачынаецца шэраг самастойных праваслаўных мітрапалітаў у ВКЛ, якія менш залежалі ад велікакняжацкай улады, паколькі яна не была праваслаўнай.

Трэба зазначыць, што ідэя царкоўнай уніі аказалася непрымальнай не толькі для Масквы, але і для Польшчы. Менавіта пад напорам польска-каталіцкіх колаў Казімір, узмацняючы націск на праваслаўнае насельніцтва, зноў узнавіў забарону будаваць новыя і паднаўляць старыя праваслаўныя храмы і бярэ напрамак на непасрэднае акаталічванне праваслаўнага насельніцтва. І гэта зразумела, бо унія фактычна была і сродкам абароны ад акаталічвання, якое з'яўлялася галоўным кірункам польскай экспансіі на Беларусь. Вось чаму нельга паказваць царкоўную унію як толькі хітрую польска-каталіцкую задуму з мэтай больш паспяховага акаталічвання і апалячвання праваслаўных. Не, царкоўная унія была аднačасова небяспечнай як Маскве, так і Польшчы, кожная з якіх па-свойму супраціўлялася яе ажыццяўленню. Гэтым і тлумачыцца, чаму працэс заключэння царкоўнай уніі зацягнуўся аж на два стагоддзі.

Гэтак жа як Гедзімін, Альгерд і Вітаўт, Казімір працягваў спрадвечную полацкую палітыку ў адносінах Ноўгарада, што ўжо выявілася ў 1444 г., калі быў зроблены паход на гэты горад, які ўжо ў значнай ступені залежаў ад Масквы, і таму па-

ход не ўдаўся, паколькі ў адказ на гэта маскоўскі князь Васілій Цёмны накіраваў татараў на Смаленскую зямлю, што і прымусіла Казіміра адступіць з Наўгародскай зямлі. У наступным 1445 г. Казімір, помсцячы за гэту сваю няўдачу, уступіў у межы Маскоўскага княства, але таксама на р.Сухадрэве пацярпеў паражэнне.

Гэтыя, хоць і няўдалыя, але рашучыя дзеянні супроць Масквы Казімір прадпрымаў будучы толькі вялікім князем, але справа зусім змянілася, калі ён адначасова стаў і польскім каралём і для яго інтарэсы ВКЛ адышлі на другое месца. У выніку гэтага ён упусціў вельмі спрыяльныя моманты, калі б Ноўгарад мог далучыцца да яго дзяржавы. Рэч у тым, што наўгародцы, напалоханыя небяспекай поўнасцю падпасці пад уладу Масквы ў 1457 г. паслалі да Казіміра пасольства з мэтай шукаць у яго абарону. Але Казімір вельмі неахвотна вёў перамовы, і яны зацягнуліся аж на дзесяць гадоў. У 1469 г. быў падпісаны дагавор, паводле якога Казімір абяцаў наўгародцам абараняць іх, а яны абавязваліся быць яго падуладнымі. У Ноўгарад нават быў пасланы намеснікам Міхаіл Алелькавіч (праўнук Альгерда)[90]. Аднак у Маскве вялікім князем у 1462 г. стаў Іван III, чалавек абачлівы, але рашучых дзеянняў. У 1471 г. ён нападае на Ноўгарад і поўнасцю яго сабе падпарадкоўвае. На просьбу наўгародцаў дапамагчы ім Казімір не адгукнуўся і нават парваў падпісаны ім дагавор. Гэтак жа сама не пайшоў Казімір ў 1480 г. на дапамогу татарскаму хану Ахмету ў яго паходзе на Маскву, якая ў той час падбіла свайго саюзніка — крымскага хана Гірэя — ісці на паўднёвыя ўладанні ВКЛ. Варожасць паміж ВКЛ і Масквой і далей працягвалася, хоць яна і не перарастала ў адкрытыя вайсковыя дзеянні, а больш насіла характар дыпламатычнай перапіскі. Аднак на ўсе пратэсты Казіміра Іван III рашуча адказваў адмовай іх. Праз усе яго адказы чырвонай ніццю праходзіла адна думка: Масква з'яўляецца законным гаспадаром земляў ВКЛ. Менавіта ў гэты час і пачаў фарміраванне міф аб літоўскім заваяванні беларускіх земляў, які павінен быў служыць інтарэсам Масквы. Усё гэта падрыхтоўвала апраўданне заваявання беларускіх земляў Масквой, якое і пачалося пасля смерці Казіміра ў 1492 г.

Час Казіміра, як і ўсё XV ст., быў часам далейшага развіцця беларускай народнасці, яе культуры і мовы. Усяму гэтаму са-

дзейнічала дамінуючае значэнне беларускіх земляў у ВКЛ, што і вызначала гэту дзяржаву найперш як беларускую. Ажыўленая палітычная і звязаная з ёй рэлігійная барацьба таксама спрыяла больш інтэнсіўнаму развіццю беларускага грамадства, пра што добра сведчаць шматлікія помнікі беларускага пісьменства гэтага часу. Яны паказваюць, што беларуская мова абслугоўвала ўсе сферы дзяржаўнага і грамадскага жыцця, на ёй пісаліся велікакняжацкія граматы, прывілеі, летапісы, рознага роду лісты, царкоўная літаратура, у тым ліку магаметанская і іудзейская. Вось, напрыклад, ліст аднаго палачаніна рыжскаму магістрату. Ужо яго пачатковыя словы «пачэсным мужам-прыяцелям»[91] добра сведчаць аб яго беларускасці. Мастацкімі якасцямі вызначаецца і «Трыёдзь», спісаная ў 1466 г. Звяртаюць на сябе ўвагу «Чэцця-Мінея» 1489 г., якую пісаў пінскі паповіч Бярозка з Навагародка, «Псалтыр», спісаны дзякам Арцёмам у Віцебску ў 1492 г., «Летапіс Аўраамкі», напісаны ў Смаленску[92], і многія-многія іншыя. Пры такім інтэнсіўным развіцці беларускага пісьменства становіцца зразумелай заканамернасць ўзнікнення беларускага друку, што прыпадае на пачатак XVI ст.

## НЕШЧАСЛІВЫ ЧАС АЛЯКСАНДРА

Ужо адзначалася, што Масква ў параўнанні з ВКЛ запазнілася ў справе аб'яднання вакол сябе ўсходнеславянскіх земляў. Калі ў час княжання Івана Каліты (1325—1340) яна толькі пачала ўзвышацца і праяўляць сябе як аб'яднаўчы цэнтр велікарускіх земляў, то беларускія землі к гэтаму часу, прынамсі ад Буга да Дняпра, былі ўжо аб'яднаныя, што стала грунтам для далейшага пашырэння ВКЛ на ўсход. А гэта прывяло да зусім блізкай адлегласці ад Маскоўскага княства, што не магло не трывожыць яго. Выношваліся планы захопу ўсходніх земляў ВКЛ і чакаўся зручны момант для ажыццяўлення іх. І ён наступіў у сувязі са смерцю Казіміра.

Казімір Ягайлавіч памёр у маі 1492 г. у Гародні, якую ён вельмі любіў і куды загадаў прывезці яго незадоўга да смерці. Тут ён завяшчаў панам рады ВКЛ выбраць сваім вялікім кня-



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Аляксандр. Гравюра пач. XVII ст.*

зем яго сярэдняга сына Аляксандра, а польскім каралём яго старэйшага сына Яна-Альбрэхта, што і было выканана[93]. І вось зімою таго ж года маскоўскі князь, парушыўшы дагавор, заключаны з Казімірам, сваім войскам захапіў гарады Хлепень, Мяшчэрск, Любуцк, Мцэнск, Сярпейск[94]. Рашучыя дзеянні з боку Масквы не маглі не прывесці ў замяшанне Аляксандра і яго акружэнне. Паколькі ВКЛ не гатова было распачаць вайсковыя дзеянні, то вырашана было пайсці на прымірэнне з Масквой шляхам жаніцьбы Аляксандра з дачкой Івана III Аленай. І вось 17 студзеня 1494 г. у Маскву прыбыло пасольства з Вільні «аб міры і аб любві»[95].

Аднак Іван III адмовіўся заключаць мір і выдаць дачку за Аляксандра, пакуль паслы ВКЛ не прызнаюць адыходу да Масквы захопленых гарадоў і валасцей. На гэта не згаджалася пасольства, і перамовы зацягнуліся, што зноў-такі выкарыстаў Іван III і заваяваў яшчэ некалькі гарадоў, у тым ліку Вязьму і Дарагабуж. Гэта прымусіла Аляксандра паскорыць перамовы і пайсці на ўступкі Маскве[96], уступіўшы шэраг захопленых ёю гарадоў. І вось Іван III, паслаўшы ў Вільню дагаворную грамату, да свайго ранейшага тытула «вялікі князь маскоўскі» дадаў «і ўсёй Русі», а ў тытуле Аляксандра пакінуў толькі тытул вялікага князя літоўскага. І гэта насцярожыла Аляксандра, бо ён зразумеў, што новы тытул Івана III дае яму падставу прэтэндаваць і на рускія землі ў складзе ВКЛ.

Вось з гэтага часу і пачало складвацца ўяўленне аб характары ВКЛ, як дзяржаве, у якой так званыя рускія землі былі пад уладай Літвы, што іх яна, маўляў, заваявала і таму на іх валоданне мае права толькі Масква, як адзіная законная ўла-

дарка «всея Руси». Некалькі пазней у «Сказании о князьях Владимирских» была прыдумана гісторыя аб тым, што да татарскага нашэсця беларускія і ўкраінскія землі належалі маскоўскаму князю Юрыю Данілавічу (такой прыналежнасці не было і, вядома, не магло быць) і іх прысвоіў літоўскі князь Гегімінік, пад якім разумеўся Гедзімін. Вось так пачаў складвацца ў Маскве і ў яе карысць міф аб літоўскім заваяванні заходнерускіх (г.зн. беларускіх) земляў.

Але як у тытуле «вялікі князь маскоўскі і ўсёй Русі» паняцце «маскоўскі» не азначае, што ён не рускі, гэтак жа сама і ў тытуле «вялікі князь літоўскі, рускі (а пазней і жамойцкі)» паняцце «літоўскі» таксама не азначае, што ён быў не рускім. У сувязі з гэтым трэба адзначыць аднатыпнасць назваў «Літва» і «Масква». Як адна, так і другая — балцкага паходжання. Калі першая азначае «дажджлівае месца», то другая — «топкае месца»[97]. Гэтак жа як ядром ВКЛ была летапісная Літва, размешчаная ў беларускім Панямонні, так і Масква стала ядром утварэння рускай дзяржавы. Як беларуская дзяржава ў пачатку сваёй гісторыі называлася па ядры свайго ўтварэння Вялікім княствам Літоўскім, так і руская дзяржава ў пачатку сваёй гісторыі таксама па ядры свайго ўтварэння называлася Вялікім княствам Маскоўскім. Як першае, так і другое былі ўсходнеславянскімі дзяржавамі, хоць назвы іх не былі славянскага, а балцкага паходжання. Аднак калі другая з іх прызнаецца такой, то першая прызнаецца літоўскай у сучасным значэнні гэтага слова, г.зн. балцкай, што абсалютна не адпавядае сапраўднасці, паколькі яе тэрыторыя і насельніцтва былі пераважна славянскімі, што садзейнічала ўсё большай асіміляцыі балцкага насельніцтва. На жаль, у гістарычнай навуцы не ўлічваліся ўказаныя акалічнасці, што і прывяло да выключна неаб'ектыўнага ўяўлення аб ВКЛ. У апошні час выказана думка, што ВКЛ трэба лічыць беларуска-літоўскай ці літоўска-беларускай дзяржавай. Аднак і гэта таксама бессэнсоўна, бо было б раўназначна таму, калі б мы Вялікае княства Маскоўскае называлі маскоўска-рускай дзяржавай ці наадварот, бо ў той час, як Вялікае княства Маскоўскае азначала рускую дзяржаву, так і Вялікае княства Літоўскае азначала беларускую дзяржаву. Аднак вернемся да разгляду далейшых падзей, якія паследавалі за граматай Івана III у Вільню. Нягледзячы на

пярэчанні ў ВКЛ супроць прапановы Івана III, апошні катэгарычна заявіў, што непрыняцце яго новага тытула пацягне за сабою новыя вайсковыя дзеянні супроць ВКЛ. І гэта прымусіла Аляксандра адправіць у канцы 1494 г. новае пасольства, якое і падпісала мір на ўмовах Івана III, які атрымаў усе заваяваныя ім гарады і воласці і пасведчанне яго новага тытула. І толькі пасля гэтага Іван III згадзіўся аддаць сваю дачку за Аляксандра[98].

Мы ўжо ведаем нямала выпадкаў у гісторыі, калі заключэнне міру падмацоўвалася шлюбнымі адносінамі, што, аднак, не мела істотнага значэння для развіцця далейшых міждзяржаўных адносін. Аднак у самым горшым варыянце падзейнічаў на адносіны ВКЛ і Масквы шлюб Аляксандра з Аленай Іванаўнай, што ўжо адразу выявілася пасля прыезду апошняй у Вільню. Вядома ж, Іван III, аддаючы дачку за Аляксандра, меў на мэце перш за ўсё палітычныя выгады для сваёй дзяржавы. Фактычна Алена стала адным з інструментаў правядзення яго палітыкі ў адносінах ВКЛ. Гэтак жа і Аляксандр, беручы за жонку Алену Іванаўну, найперш спадзяваўся на паляпшэнне адносін з Масквой, што яна спыніць свой наступ на дзяржаву. Аднак усё атрымалася наадварот.

Перад тым, як адправіць дачку ў Вільню, Іван III паставіў перад Аляксандрам шэраг умоў. Гэта: і не прымушаць Алену да прыняцця каталіцтва, і пабудаваць для яе на тэрыторыі свайго замка праваслаўную царкву, і пакінуць разам з ёй прысланую з Масквы яе праваслаўную світу. Аднак усё гэта не было выканана Аляксандрам, які знаходзіўся пад моцным ціскам каталіцкай царквы, якая не магла зміравіцца з тым, што ён ажаніўся з праваслаўнай. Нездарма ж царкоўныя саноўнікі зачасцілі да Алены Іванаўны з мэтай пераканаць яе прыняць каталіцтва. Не была пабудавана для яе і царква, паколькі, маўляў, была такая зусім недалёка, у якую Алена магла хадзіць маліцца. Была адаслана з Вільні ў Маскву і значная частка світы Алены Іванаўны. Да таго ж у гэты час узмацняецца у ВКЛ ганенне на праваслаўе, у выніку чаго з'явіліся ўцёкі людзей гэтай веры ў Маскоўскую дзяржаву, асабліва мясцовых князёў, такіх, як Сямён Бельскі, Сямён Мажайскі і інш., якія, перайшоўшы са сваімі землямі пад уладу Івана III, прасілі яго заступніцтва за праваслаўных у ВКЛ[99], што толькі яму і патрэб-

на было. Усё гэта яшчэ раз паказвае, што Крэўская унія і асабліва прынящце ў выніку яе каталіцтва як дзяржаўнай веры ВКЛ, было найперш на карысць Маскве, паколькі гэта давала ёй магчымасць умешвацца ў справы суседняй дзяржавы як заступніцы адзінавернага ёй насельніцтва, чаго і на гэты раз чакаць доўга не прыйшлося.

Пачатак новага XVI ст. быў азмрочаны нападам маскоўскіх войскаў на ВКЛ, у выніку чаго быў захоплены зноў шэраг гарадоў, у тым ліку Бранск і Пуціўль[100]. Абвяшчэнне ўслед за гэтым Іванам III вайны Аляксандру таксама выклікала ў ВКЛ замяшанне і трывогу. Сабранае войска, якое ўзначаліў князь Канстанцін Астрожскі, накіравалася пад Дарагабуж, дзе ў гэты час знаходзілася маскоўскае войска і дзе 14 ліпеня 1500 г. на беразе ракі Ведраш адбылася паміж імі жорсткая крывавая бітва. І хоць войска К.Астрожскага змагалася гераічна і самаахвярна, аднак яно пацярпела паражэнне, страціўшы каля 8 тысяч забітых, а таксама увесь абоз і зброю[101]. У ліку палонных аказаўся і сам К. Астрожскі. Ён нават па просьбе Івана III згадзіўся служыць у маскоўскім войску. Аднак гэта не было здрадай радзіме, а спосабам вяртання на яе, што і здзейснілася, калі ён, пасланы ў Волагду, уцёк адтуль.

Праз некалькі месяцаў пасля паражэння на Ведрашы, войска ВКЛ цярпіць такую ж няўдачу і каля Мсціслаўля. Апроч таго, па нагаворы Івана III на ВКЛ нападаюць татарскі хан Менглі-Гірэй і малдаўскі гаспадар Стэфан. Усё адзначанае ставіла ВКЛ на мяжу дзяржаўнай катастрофы. У гэты крытычны момант Аляксандр звярнуўся па дапамогу да сваіх братоў: польскага караля Яна-Альбрэхта і чэшска-венгерскага — Уладзіслава. І вось ліст Аляксандра, напісаны ім з гэтай нагоды братам, вельмі добра раскрывае палітычную падаплёку рэлігійнай барацьбы, якой прыкрываліся і Аляксандр, і Іван III. Так, Аляксандр просіць дапамагчы не столькі для выратавання дзяржавы, а больш для падтрымкі святой каталіцкай веры. Ён прызнаецца, што некаторых праваслаўных баяр і князёў прымусіў да прынящця каталіцкай веры, а некаторых пакараў смерцю. І таму, адзначаў далей Аляксандр, маскоўскі князь, даведаўшыся пра гэта, пайшоў вайной на яго разам з тымі князямі, што збеглі ў Маскву[102]. Гэта зноў-такі яскравае сведчанне таго, як узмацненне каталіцкага ўціску ў ВКЛ было

адначасова ў інтарэсах Польшчы і Масквы і толькі на шкоду ВКЛ.

Аднак браты Аляксандра нічым не маглі дапамагчы, і ён вымушаны адпраўляць у Маскву паслоў з мэтай заключэння міру, і Іван III паабяцаў гэта, але толькі па сваёй волі. Аднак заключэнне міру затрымалася ў сувязі з новай важнай падзеяй. 17 чэрвеня 1501 г. памёр польскі кароль Ян-Альбрэхт, і ў Петракове быў сабраны сойм для выбрання новага караля, паколькі памёршы быў бяздзетны. На польскі каралеўскі пасад рэкамендаваліся браты Яна-Альбрэхта — Уладзіслаў і Жыгімонт. Аднак перамагла кандыдатура Аляксандра. Ён спецыяльна прыслаў на сойм дэлегацыю, якая і выклала яго жаданне быць адначасова і вялікім князем і польскім каралём, што і вырашыла справу ў яго карысць[103]. Зацікаўленасць Аляксандра ў атрыманні каралеўскай кароны была абумоўлена тым цяжкім становішчам, у якім апынулася ВКЛ. Як у 1401 г. Вітаўт пасля паражэння на Ворскле павінен быў згадзіцца на ўмовы Віленскай уніі, каб атрымаць падтрымку Польшчы, так роўна праз 100 гадоў і Аляксандр павінен быў згадзіцца на ўмовы Петракоўскай уніі, каб з дапамогай Польшчы супрацьстаяць Маскве.

Умовы новага саюзу фактычна паўтаралі ўмовы ранейшых. Гэта: і аб'яднанне Польшчы з ВКЛ на вечныя часы пад каронай аднаго караля, і абранне караля абедзвюма дзяржавамі на агульным сойме, і карыстанне аднолькавымі правамі і прывілеямі польскай шляхты і літоўскіх баяр каталіцкага веравызнання (зазначым, што праваслаўныя баяры, як і на ранейшыя аналагічныя соймы, запрошаны не былі), і агульнасць законаў (апроч судовых) для адной і другой дзяржаў. Усё гэта, як і раней, было найперш на карысць Польшчы, а для ВКЛ істотнай дапамогі не прыносіла, асабліва ў адносінах з Масквой.

Аляксандр, стаўшы адначасова вялікім князем і польскім каралём і адчуўшы пры гэтым большую моц, рашыў працягваць барацьбу са сваім цесцем Іванам III. Ён нават дзеля гэтага знайшоў сабе двух саюзнікаў: хана Залатой Арды шаха Ахмата і лівонскага магістра Платэнберга. Аднак гэта не дало ніякіх станоўчых вынікаў. Праўда, апошні звярнуўся да рымскага папы Аляксандра VI, каб той прымірыў Аляксандра з Іванам III, зяця з цесцем. Цікава, што ў сваім лісце ён глядзеў

на Польшчу як на аплот каталіцызму і таму прасіў дапамагчы яе каралю. Рымскі папа ў адказ на гэту просьбу ў сваю чаргу звярнуўся з лістом да Івана III з заклікам да прымірэння са сваім зяцем у імя адзінства хрысціянаў. Маскоўскі князь з гэтым пагадзіўся, але ўсю віну варожасці з зяцем усклаў на апошняга, паколькі ён, маўляў, валодае многімі рускімі землямі, якія павінны належаць яму, а Аляксандру толькі Літва[104]. І ўсё ж ён згадзіўся весці перамовы аб міры, і 15 сакавіка 1503 г. было заключана перамір'е толькі на шэсць гадоў, хоць паслы ВКЛ настойвалі на заключэнні вечнага міру, на што не пагадзіўся Іван III. Паводле гэтага перамір'я, Аляксандр абавязваўся не нападаць на Маскоўскую, Наўгародскую, Пскоўскую і Разанскую землі.

Умовы перамір'я не толькі спынялі аб'яднаўчую палітыку ВКЛ на поўначы і ўсходзе, але і зафіксавалі яго вялікае адступленне на ўсходзе, паколькі яно павінна было ўступіць Маскве 19 гарадоў, сярод якіх такія, як Чарнігаў, Старадуб, Ноўгарад-Северскі, Гомель, Бранск, Тарапец. Праўда, Іван III паабяцаў некаторыя з гэтых гарадоў вярнуць назад. Але калі яму пасля нагадалі аб гэтым, то ён наадрэз адмовіўся ад гэтага абяцання, дадаўшы, што ў Літве яшчэ знаходзяцца Смаленск, Кіеў і іншыя рускія гарады, якія патрэбна будзе вярнуць Маскве. Нездарма ж пры заключэнні перамір'я ён зноў настаяў на прызнанні яго новага тытула вялікага князя маскоўскага і ўсёй Русі.

Як бачым, новая унія з Польшчай не выратавала ВКЛ у галоўным: у захаванні цэльнасці сваёй тэрыторыі. Менавіта час Аляксандра найперш і вызначаецца пачаткам паступовай страты тэрыторыі ВКЛ. Заключанае перамір'е было нетрывалае, яно б магло ў хуткім часе закончыцца, каб не смерць Івана III 27 кастрычніка 1505 г.

Мала перажыў яго і Аляксандр, які памёр 19 жніўня 1506 г. Аднак гэты час быў не менш цяжкім для ВКЛ, чым ва ўсе ранейшыя гады княжання Аляксандра. У 1505 г. на ВКЛ напалі татары, ад чаго асабліва пацярпелі беларускія землі ў раёне Слуцка, Навагародка і Менска, адкуль было вывезена каля 100 тысяч палонных[105]. Услед за гэтым адбыўся напад крымскага хана Менглі-Гірэя на паўднёва-заходнія землі ВКЛ, якім таксама былі прычынены вялікія беды.



*Бітва з татарамі.*
*Гравюра XVI ст.*

Да гэтых знешніх неспрыяльных абставін дадаліся яшчэ і ўнутраныя звадкі, якія звязаны з узвышэннем пры Аляксандры буйнога магната князя Міхаіла Глінскага. Род Глінскіх паводле падання паходзіў ад аднаго татарскага князя, які перайшоў у ВКЛ пры Вітаўце. Міхаіл Глінскі спачатку служыў германскаму імператару Максіміліяну I, дзе паказаў сябе ўмелым военачальнікам. Потым перайшоў на службу да Аляксандра, які за розум і энергію прыблізіў яго да сябе. Яго шырокія намеры, якія ўключалі ў сябе нават стварэнне асобнай дзяржавы на землях ВКЛ для сябе і свайго роду, выклікалі незадаволенасць і варожасць іншых буйных магнатаў, што асабліва выявілася на Радамскім сойме ў 1506 г. Менавіта тут Аляксандр

павінен быў выслухаць вельмі суровыя і гнеўныя папрокі за яго паслухмянасць Глінскаму, і гэта адмоўна адбілася на здароўі караля, і ён цяжка захварэў.

А ў гэты час татары Менглі-Гірэя зноў напалі на ВКЛ, спустошыўшы землі вакол Слоніма, Ваўкавыска і Ліды, а пасля накіраваліся да Вільні. На чале войска, якое павінна было процістаяць татарам, быў прызначаны Міхаіл Глінскі. Але гэтага войска было недастаткова, апроч таго, яно патрабавала і прысутнасці з ім караля, які, нягледзячы на цяжкі стан свайго здароўя, згадзіўся на гэта. Войска было значна павялічана, і яго па-ранейшаму ўзначальваў Глінскі (кароль зусім занядужаў і застаўся ў Лідзе). Ён з войскам падышоў пад Клецк да ракі Лань, недалёка ад возера Красны Стан, на другім беразе якой былі бачны татарскія палкі, што стаялі гатовымі да бою. І ён адбыўся 6 жніўня 1506 г. Спачатку біліся праз раку, а пасля, зрабіўшы дзве гаці, правы фланг войска Глінскага перайшоў раку, аднак трапіў пад абстрэл татараў, і над ім навісла пагроза знішчэння. Тады Глінскі сваім левым флангам спешна пайшоў на ўсе палкі татарскія, раздзяліў іх напалам і пачаў знішчаць з двух бакоў. Татары ў беспарадку трацячы шмат забітых, пачалі адступаць у бок ракі Цэпры (прыток Лані), дзе многія з іх разам з коньмі ў рацэ і балоце патапіліся[106].

Клецкая перамога — адна з самых бліскучых падзей у нашай вайсковай гісторыі. Яна ж фактычна была адзіным светлым момантам у нешчаслівы час Аляксандра.

## КАРОЛЬ І ВЯЛІКІ КНЯЗЬ НОВЫ, ПРАБЛЕМЫ РАНЕЙШЫЯ

Знаходзячыся ў Лідзе і будучы цяжка хворым, Аляксандр напісаў завяшчанне, паводле якога абвяшчаў сваім спадкаемцам на каралеўскім і велікакняжацкім пасадзе малодшага свайго брата Жыгімонта, які ўвайшоў у гісторыю як Жыгімонт І Стары. Як вядома, паводле уніі паміж Польшчай і ВКЛ вялікі князь і кароль павінен быў выбірацца са згоды двух бакоў. Аднак Жыгімонт вялікім князем быў абвешчаны толькі са згоды вярхоў ВКЛ, што ў які ўжо раз пацвярджала іх адмоўнае стаўленне да аб'яднання з Польшчай. Вось чаму польскія вярхі

ў спешным парадку абвясцілі Жыгімонта і польскім каралём. Важна адзначыць, што Васіль III, які стаў вялікім маскоўскім князем пасля смерці Івана III, імкнуўся выкарыстаць смерць бяздзетнага Аляксандра для аб'яднання ўсяго ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай пад сваёй уладай. Праз сваю сястру Алену Іванаўну, якая пасля смерці Аляксандра стала ўдавой, ён звярнуўся да вышэйшых асоб дзяржавы, каб яны пажадалі абраць яго сваім гаспадаром, абяцаў, што будзе захоўваць усе іх звычаі, у прыватнасці рымскую веру[107]. Аднак гэта прапанова, відаць, прыйшла запознена, калі ўжо вялікім князем і каралём быў абвешчаны Жыгімонт, пра што і адказала свайму брату Алена Іванаўна.

У сваю чаргу Жыгімонт I, абапіраючыся на саюз з крымскім ханам Менглі-Гірэем, які ў гэты час па просьбе казанскага хана ўступіў у варожыя адносіны з Масквой, а таксама на абяцанне Лівонскага Ордэна падтрымаць яго, накіраваў у сакавіку 1508 г. сваіх паслоў да Васіля III з патрабаваннем, каб ён вярнуў ВКЛ гарады, воласці і воды, забраныя Іванам III, бо ў праціўным выпадку яму пагражае вайна. Аднак Васіль III, як і яго бацька ў свой час, рашуча адмовіўся ад прад'яўленых яму патрабаванняў і ў дадатак сказаў Жыгімонту, каб ён не няволіў яго сястру Алену ў рымскую веру[108]. Такая рашучасць Васіля III тлумачыцца тым, што ў гэты час ён памірыўся з Казанню і не чакаў больш адтуль пагрозы для сябе. І таму ён, не марудзячы, ужо 29 сакавіка 1508 г. пачаў вайну з ВКЛ, тым больш, што ў ВКЛ зноў узніклі смуты, звязаныя з Міхаілам Глінскім. Хоць да яго прыязна аднёсся і Жыгімонт I, аднак ён не карыстаўся ўжо тым даверам, як было пры Аляксандры. Гэта выкарысталі шматлікія ворагі Глінскага, каб выклікаць варожасць да яго і яго роду з боку Жыгімонта, што ім і ўдалося. Убачыўшы непрыязнасць караля да сябе і свайго брата Івана, Глінскі адправіўся ў свой маёнтак і адтуль увайшоў у зносіны з Васілём III[109], ад якога ён і атрымаў абяцанне дапамогі супроць сваіх ворагаў. У цягу гэтых зносін Глінскі даводзіў Васілю III, што зараз скláліся вельмі спрыяльныя абставіны для яго, што княства не гатова да вайны, бо ў яго няма належнага войска, на што маскоўскі князь абяцаў неадкладна паслаць сваё войска на Літву і папрасіў, каб Глінскі падрыхтаваўся да гэтага. Як бачым, нягледзячы на многія свае выдат-

ныя якасці, на вялікі розум, талент дзяржаўнага і вайсковага дзеяча, Глінскі валодаў такой адмоўнай рысай, як бязмежныя асабістыя амбіцыі, якія, на жаль, былі дамінуючымі ў яго, што і дало яму магчымасць пайсці на непрывабны шлях праціўніка радзімы.

Памятаючы просьбу Васіля III, ён, сабраўшы войска з 700 вершнікаў, жорстка расправіўся са сваім галоўным праціўнікам Забярэзінскім і іншымі непрыязнымі яму асобамі. Пачатае Васілём III наступленне не мела поспеху, паколькі супроць яго выступіла войска Жыгімонта I, якое, захапіўшы некалькі мястэчак, таксама было вымушана вярнуцца назад ад недахопу харчавання і з-за вялікай спёкі.

Але вайсковыя дзеянні спыніліся ненадоўга. Вясною 1508 г. яны зноў разгарэліся, і іх распачаў Глінскі. Ён падняў у 1508 г. мяцеж, у ходзе якога са сваім войскам уварваўся ў Слуцкую і Капыльскую воласці, а таксама авалодаў Туравам і Мазыром, тым самым набліжаючы наступленне маскоўскіх войскаў, бо Васіль III паведаміў, што паслаў яму сваю дапамогу. Глінскаму асабліва хацелася авалодаць Слуцкам, але маскоўскі ваявода, князь Васіль Шамячыч, які пайшоў яму на дапамогу, пажадаў, каб іх войскі прасунуліся далей на поўнач, адкуль павінна было прыйсці яшчэ адно маскоўскае войска, і яны адышлі пад Менск. Аднак праз два тыдні, не дачакаўшыся абяцанай дапамогі, рушылі пад Барысаў, адкуль Глінскі звярнуўся да Васіля III з просьбай неадкладна прыйсці яму і Шамячычу на дапамогу. У сваю чаргу той адказаў, што дапамога паслана і для хутчэйшага аб'яднання з гэтымі войскамі ім трэба ісці да Оршы, што Глінскі і Шамячыч і зрабілі, авалодаўшы па дарозе Друцкам. Каля Оршы і адбылося злучэнне войска ваяводы Шчэні, што ішло з наўгародцамі, і войска Глінскага і Шамячыча. Аднак аблога Оршы не ўдалася, і горад не быў узяты. У дадатак да гэтага прыйшла вестка, што сюды з войскам ідзе Жыгімонт I, і аб'яднаныя сілы Масквы і Глінскага рашылі адступіць за левы бераг Дняпра і пайшлі да Дуброўна, пад якім са сваім войскам знаходзіўся маскоўскі ваявода Якаў Захар'ін. Па адных звестках адзначаецца, што Жыгімонт I не адважыўся пераходзіць Дняпро, па другіх, што яго атрады адагналі маскоўцаў ад берага, але ноч развяла варожыя войскі. Хоць Глінскі ўпрошваў маскоўскіх ваявод даць

бой войскам Жыгімонта I, аднак яны не згадзіліся і адступілі. І гэта зразумела. Глінскаму найперш патрэбна было паражэнне Жыгімонта I, што адмоўна адбілася б на яго становішчы і дало б магчымасць больш паспяхова змагацца з ім і ўзмацніць сваё становішча ў ВКЛ. Але маскоўскіх ваявод менш за ўсё цікавілі амбіцыйныя інтарэсы Глінскага, для іх найперш важна было выкарыстаць яго варожасць да Жыгімонта I у сваіх інтарэсах. А яны заключаліся ў тым, каб маскоўскае войска замацавалася на ўсходніх рубяжах ВКЛ і ўвесь час пасля трымала іх пад сваёй пагрозай. Вось чаму маскоўскія ваяводы без увагі пакінулі настойлівую просьбу Глінскага і адышлі на ўсход.

Але Жыгімонт не адважыўся гнацца за маскоўскім войскам і пайшоў у Смаленск. Праўда, адсюль ён меў намер пачаць наступленне свайго войска, кіраванне якім было дадзена К. Астрожскаму, які незадоўга перад гэтым уцёк з маскоўскага палону. І хоць яму ўпачатку ўдалося захапіць Тарапец і Дарагабуж, аднак у хуткім часе яны былі пакінуты. Жыгімонт I не мог не бачыць імкнення Масквы ў любы падыходзячы час напасці на ВКЛ, што прымушала на ўсходняй мяжы трымаць вялікае войска, сродкаў для гэтага ў дзяржаве не хапала, і таму ён рашыў пайсці на мірныя перамовы з Масквой. Падштурхоўвала яго і тое, што Глінскі, які пасля выхаду маскоўскіх войскаў за межы ВКЛ, якія фактычна нічым не дапамаглі яму ў барацьбе з Жыгімонтам I, вымушаны быў з'ехаць у Маскву, дзе быў прыхільна сустрэты Васілём III, які яго за прысягу верна служыць маскоўскаму князю надзяляў розным багаццем і гарадамі Малаяраслаўцам і Мядыннню[110]. Апроч таго, яму былі паабяцаны палкі, з якімі ён будзе абараняць свае ўладанні ў ВКЛ.

Вось гэта асабліва насцярожыла Жыгімонта I, для якога важна было не дапусціць гэтага шляхам заключэння міру. І ён быў падпісаны 19 верасня 1508 г. на ўмовах вечнага. Вось чаму ў яго ўмовах прадугледжвалася з мэтай пазбаўлення ад Глінскіх уключэнне іх уладанняў ва ўласнасць ВКЛ. Але дзеля гэтага Жыгімонт I павінен быў згадзіцца перадаць у вечнае валоданне Масквы гарады, якія былі заваяваныя Іванам III пры каралі Аляксандры і якія лічыліся толькі часова адабранымі. Так назаўсёды была адабрана ад ВКЛ вялікая частка яго тэрыторыі. Аднак на гэтым такія страты не закончыліся. Вечны мір, як можна было чакаць, аказаўся недаўгавечным.

## СТРАТА СМАЛЕНСКА

Так званы вечны мір, заключаны ў 1508 г., быў абумоўлены шэрагам прычын. Жыгімонта I і Васіля III ён хоць часова задавальняў, бо першаму забяспечваў перадышку, а другому развязваў рукі для канчатковага падначалення Пскова. Аднак для М. Глінскага ён азначаў поўнае паражэнне і крах яго амбіцыйных намераў. Хоць замест страчаных сваіх уладанняў у ВКЛ ён быў узнагароджаны ўладаннямі ў Маскоўскай дзяржаве, але гэта было далёка не дастаткова ў параўнанні з тым, што ён страціў у ВКЛ. Хоць ён тут быў вельмі прыбліжаны да Васіля III і ўвесь час звяртаў яго ўвагу на неабходнасць новай вайны супроць Жыгімонта I, але апошні добра ведаў пра падкопы Глінскага супроць яго і патрабаваў ад Васіля III выдачы яго як здрадніка[111]. Вядома ж, Васіль III на гэта пайсці не мог, яму Глінскі патрэбен быў, але не для таго, каб слухацца яго, а каб выкарыстаць яго ў зручны для маскоўскага князя момант. Глінскі не мог не заўважыць, што ў Маскве баяры не карыстаюцца тымі вольнасцямі, якімі карыстаюцца магнаты ў ВКЛ. Калі ў ВКЛ і Польшчы кароль цалкам залежаў ад волі магнатаў, то ў Маскве баяры цалкам былі залежнымі ад вялікага князя. Усё гэта таксама выклікала ў Глінскага незадаволенасць сваім становішчам у Маскве.

Не бачачы ніякага імкнення з боку Васіля III неадкладна адгукнуцца на яго жаданне адпомсціць Жыгімонту I вайной, Глінскі робіць спробы звязацца дзеля гэтага з іншымі ўладарнымі асобамі.Так, ён у сваіх лістах звяртаўся да дацкага караля Іягана, каб той пачаў вайну супроць Жыгімонта I. Праўда, гэты кароль, відаць, у той час не маючы намеру пачынаць такую вайну і баючыся правакацыі з боку Глінскага, адсылае адзін з яго лістоў Жыгімонту I, а той Васілю III адначасова з просьбай пакараць смерцю такога нягодніка, які распальвае варожасць паміж хрысціянскімі каралямі. Беспаспяховым быў і намер Глінскага накіраваць супроць Жыгімонта I Менглі-Гірэя, бо той вёў двайстую палітыку. Абяцаючы Глінскаму нават адваяваць яму ад караля Кіеў, у той жа час абяцаў і Жыгімонту I дапамагчы ў яго вайсковых справах. Але той спешна адмовіўся ад гэтай прапановы, паколькі ён пазбавіўся ўжо ад Глінскага, а маскоўскія войскі пакінулі яго зямлю, і ён сам на-



*Царква ў Сынкавічах. Пачатак XVI ст.*

*Малюнак В. Сташчанюка*

блізіўся да межаў маскоўскіх і паміры́ўся з Васілём III. Замест гэтага Жыгімонт I параіў Менглі-Гірэю напасці на Бранск, Старадуб і Ноўгарад-Северскі. Аднак Менглі-Гірэй, узяўшы папярэдне плату ад Жыгімонта I (гэтак жа як і ад Глінскага), адмовіўся ад яго прапановы.

I тым не менш з дзеяннямі крымскіх татараў звязана ўзнаўленне новай вайны паміж ВКЛ і Масквой. Васілю III стала вядома, што напады сыноў Менглі-Гірэя на рускія гарады былі вынікам заключанай дамовы паміж іх бацькам і Жыгімонтам I[112]. Гэта найперш і з'явілася прычынай для таго, каб пачаць вайну. Апроч таго, Васілю III нібыта стала вядома аб дрэнным абыходжанні з яго сястрой Аленай Іванаўнай[113]. Усё гэта ён і выклаў у сваёй ґрамаце да Жыгімонта I. Вось зараз для Васіля III склаліся спрыяльныя ўмовы, каб пачаць вайну

супраць ВКЛ. Рэч у тым, што ў гэты час абвастрыліся адносіны паміж Жыгімонтам I і яго пляменнікам, вялікім магістрам Тэўтонскага ордэна Альбрэхтам, бо апошні не хацеў уступаць яму Паморскую і Прускую землі і не жадаў лічыць сябе васалам Жыгімонта I. Альбрэхта падтрымалі Лівонія і іншыя нямецкія землі, гатовыя пачаць вайну з Польшчай.

Усё гэта пільна заўважалася М. Глінскім, які выкарыстоўваў кожны момант, каб пашкодзіць Жыгімонту I. Яшчэ раней ён звяртаў увагу Васіля III на магчымасць вайны Польшчы з яе заходнімі суседзямі, што намнога аблегчыць Маскве вайну з ВКЛ. Ён нават абавязваўся даставіць грамату Васіля III да аўстрыйскага імператара Максіміліяна з прапановай заключэння паміж імі саюзу супроць Польшчы. І сапраўды, некалькі пазней, у 1514 г., такая дамова паміж Аўстрыяй і Масквой была заключана, паводле якой ад Жыгімонта I з захаду адымаліся землі Тэўтонскага ордэна, а з усходу — Кіеў і іншыя гарады. Як бачым, ідэя падзелу Рэчы Паспалітай паміж яе суседзямі з захаду і ўсходу ўзнікла ў пачатку XVI ст., і яна не загасала, увесь час цяплілася і нарэшце ў канцы XVIII ст. ажыццявілася.

Але вайна пачалася да заключэння гэтай дамовы, і тут зноў быў выкарыстаны М. Глінскі, які абнадзейваў магістра Ордэна, што міру паміж ВКЛ і Масквой не будзе, і які рабіў шмат намаганняў для вярбоўкі на захадзе наёмнікаў для маскоўскага войска. І вось 19 снежня 1512 г. Васіль III разам са сваімі ваяводамі і М. Глінскім перайшоў мяжу ВКЛ і накіраваўся на Смаленск[114], узяцце якога і было цяпер галоўнай мэтай маскоўскага войска, што і зразумела. Гэты горад меў ключавое значэнне як для ВКЛ, так і для Масквы. Валоданне ім для першага давала надзейную абарону сваіх усходніх рубяжоў, для другой — надзейны плацдарм для прасоўвання далей на захад. Гэтым і тлумачыцца, з аднаго боку, такая рашучасць не здаць яго, з другога боку — захапіць.

І сапраўды, толькі праз шэсць тыдняў стаяння пад Смаленскам Васілём III быў прызначаны штурм яго. Аднак маскоўскім ратнікам не дапамаглі ні тры бочкі мёду, ні тры бочкі піва, ад якіх яны ап'янелі, прыступам узяць Смаленскую крэпасць на працягу ночы і на наступны дзень. Панёсшы вялікія страты, яны вымушаны былі адступіць і вярнуцца ў Маскву.

Але гэта няўдача не спыніла імкненне Васіля III захапіць Смаленск, і таму летам 1513 г. ён зноў накіраваўся з войскам на гэты горад[115]. І пачатак гэтага наступу быў для Масквы ўдалы. Высланае смаленскім намеснікам Юрыем Салагубам войска насупраць маскоўскага пацярпела няўдачу і вымушана было адступіць у горад. Аднак далей аблога Смаленска склалася, як і першы раз, няўдала. Смаленскае войска і насельніцтва не спакушаліся на шчодрыя абяцанні, якія ў выпадку іх здачы абвяшчаў ім Васіль III у сваіх граматах, і мужна адстойвалі свой горад. Пра гэта сведчыць і тое, што яны за ноч замуроўвалі тыя прабоіны, якія ўдзень прабівала ў іх сценах сваімі гарматамі маскоўскае войска. Менавіта самаахвярная абарона прымусіла Васіля III і на гэты раз адступіць ад Смаленска, загадзя спустошыўшы яго ваколіцы.

Але і гэта няўдача не адхіліла ў Васіля III жаданне авалодаць Смаленскам, і летам 1514 г. ён зноў апынуўся са сваім войскам пад сценамі яго[116]. На гэты раз рашаючая роля для захопу горада была ўскладзена на цяжкую артылерыю. Ужо самы першы стрэл гарматы пацэліў у гармату абаронцаў, што выклікала вялікія ахвяры сярод іх. Яшчэ больш знішчальнымі былі другі і трэці стрэлы, што і прымусіла Смаленск да здачы. Васіль III загадаў перапісаць жыхароў горада і ўзяць з іх прысягу на вернасць яму і адрачэнне ад улады караля. Наколькі жорсткай для Жыгімонта I была вестка аб страце Смаленска, добра сведчыць такі факт. Каралеўскі намеснік Юрый Салагуб, якога Васіль III з іншымі знакамітымі асобамі адпусціў дамоў, прыбыўшы ў Кракаў па загадзе караля, быў пакараны смерцю за здачу Смаленска як здраднік. Аваладанне Смаленскам адчыняла Маскве далей шлях на захад. Яе ваяводы захапілі Мсціслаўль, Крычаў і Дуброўна, прымусіўшы іх пасланцоў ехаць у Маскву і прысягаць Васілю III на падначаленасць яму[117]. У напрамку Оршы было накіравана войска на чале з М. Глінскім, каб абараніць Смаленск у выпадку магчымага наступу на яго Жыгімонта I, які ўжо сапраўды рухаўся з Менска на Барысаў, бо быў падбадзёраны ў сваім поспеху... Міхаілам Глінскім. Так, ім.

Што зрабіла гэтага чалавека такім зменлівым, чаму ён з ворага Жыгімонта I стаў яго прыхільнікам? А адбылося тое ж

самае, што і з ранейшымі перабежчыкамі з ВКЛ. Прыгадаем хоць бы славутага Андрэя Полацкага, які таксама, не маючы сілы змагацца з Ягайлам, рашыў ісці ў Маскву, спадзеючыся атрымаць ад яе дапамогу ў сваім змаганні. І хоць ён дзякуючы яго вайсковаму таленту змог дапамагчы Маскве атрымаць перамогі над татарамі на р.Вожы і на Куліковым полі, аднак жаданай дапамогі для сябе ад Масквы не атрымаў і вымушаны быў вярнуцца на радзіму. Тое ж самае адбылося і з Глінскім, толькі ў горшым для яго варыянце. Ён, таксама не змогшы процістаяць Жыгімонту I, пераходзіць у Маскву, якой таксама дзякуючы свайму розуму і энергіі прыносіць шмат карысці. У прыватнасці, па некаторых звестках, ён адыграў рашаючую ролю ў захопе Смаленска і таму спадзяваўся, што Васіль III ва ўзнагароду за гэта аддасць пад яго ўладу гэты горад. Валоданне ім было асабліва важна для ажыццяўлення яго шырокіх планаў. Абапіраючыся на Смаленск, ён мог гуртаваць вакол яго іншыя гарады і воласці і тым самым дасягнуць для сябе канчатковай мэты — стаць поўнаўладным гаспадаром вялікай вобласці, якая б магла стаць і асобнай дзяржавай. Аднак тое ж самае добра разумеў і Васіль III, і таму калі Глінскі спытаў у яго: «Я табе падарыў Смаленск, а што ты мне падорыш?» — тым самым намякаючы на аддачу пад яго ўладу гэтага горада, то Васіль III паабяцаў аддаць яму якую-небудзь іншую, пасля заваяваную вобласць у ВКЛ. І гэта канчаткова ўпэўніла Глінскага ў краху дасягнення ім яго шырокіх амбіцыйных мэт з дапамогай Масквы, бо яна толькі выкарыстоўвала яго, нічога не даючы ўзамен. І Глінскі прымае рашэнне аб разрыве з Масквой і ўваходзіць у зносіны з Жыгімонтам I, магчыма, спадзеючыся, што калі той захопіць Смаленск, то аддасць яму пад уладу, чаго ён не атрымаў ад Васіля III. Аднак спроба Глінскага ўцячы да Жыгімонта I скончылася поўнай няўдачай. Выдадзены адным са сваіх саўдзельнікаў, ён быў схоплены па дарозе, адвезены да Васіля III, які загадаў кінуць яго ў цямніцу[118]. Праўда, пазней ён быў вызвалены па просьбе яго пляменніцы, якая выйшла замуж за Васіля III. Так бясслаўна закончылася дзейнасць гэтага чалавека, які імкнуўся вельмі многага дасягнуць, але, у рэшце рэшт, застаўся ні з чым.

## АРШАНСКАЯ БІТВА І ПАСЛЯ ЯЕ

Захоп Смаленска азначаў для Масквы пераадоленне адной з важнейшых перашкод для далейшага прасоўвання яе на захад. Але ў той жа час для ВКЛ з'явілася яшчэ большая пагроза страты сваіх земляў. Трэба асабліва браць пад увагу тое, што Смаленская і Северская землі былі ўключаны ў склад ВКЛ вайсковай сілай, і таму Масква разглядала іх як захопленыя, на якія толькі яна мела права. Зараз жа паўстала пагроза заваявання карэнных беларускіх земляў, тых, якія, мірна злучыўшыся паміж сабою і заваяваўшы балцка-літоўскія і іншыя землі, утварылі ВКЛ, жывячы яго эканамічна і культурна. Без іх гэта дзяржава не магла ўжо далей існаваць. Разуменне таго, што адступаць далей ужо нельга, смяротна небяспечна, і дало ў далейшым магчымасць захаваць гэтыя землі ад заваявання аж да канца XVIII ст. А першы станоўчы вынік у гэтым кірунку — перамога ў Аршанскай бітве.

Як і можна было чакаць, захапіўшы Смаленск, 80-тысячнае маскоўскае войска пад камандай М. Булгакава-Галіцы і А. Чаляднiна адразу рушыла ў напрамку Оршы і Друцка. Вядома ж, такія дзеянні для ВКЛ не былі нечаканымі, і таму насустрач маскоўскаму войску ішлі злучаныя сілы ВКЛ (16 тысяч вершнікаў) і Польшчы (14 тысяч вершнікаў), а таксама атрад добраахвотнікаў з паноў і шляхты. Жыгімонт I, застаўшыся ў Барысаве з чатырохтысячным атрадам, далей не пайшоў, даручыўшы ўзначальваць войска Канстанціну Астрожскаму. Паасобныя падраздзяленні арміі ўзначальвалі Ю. Радзівіл, Я. Свярчоўскі, І. Сапега і іншыя военачальнікі. Варожыя войскі ўпершыню сутыкнуліся на беразе Бярэзіны, калі атрады ВКЛ, пераправіўшыся праз гэту раку, разбілі некалькі маскоўскіх палкоў. Такі ж зыход быў для рускіх атрадаў і на р. Друць, дзе адным з войскаў ВКЛ камандаваў І. Сапега. Пасля гэтага маскоўскі ваявода Чаляднін рашыў перавесці сваё войска на левы бераг Дняпра каля Оршы, дзе і рашыў чакаць войскі ВКЛ. Ён не рабіў ім ніякай перашкоды пры пераправе праз гэту раку, маючы намер усіх іх тут разбіць.

8 верасня 1514 г. і пачалася рашаючая бітва паміж Оршай і Дуброўнам на р. Крапіўне, недалёка ад Аршанскага замка. Бітву пачало маскоўскае войска, і ў адказ на гэта К. Астрожскі

пасля кароткай прамовы павёў у атаку сваю конніцу, і завязаўся жорсткі бой, які некаторы час ішоў з пераменным поспехам для двух бакоў. Адзначаецца, што з маскоўскага боку ў атаку пайшлі палкі Булгакава-Голіцы, а Чаляднін устрымаўся ад бою, і таму калі ён падвергся ўдарам, то з бою выйшаў Булгакаў-Голіца. Вось такой няўзгодненасцю паміж маскоўскімі ваяводамі і тлумачыцца часамі іх паражэнне ў Аршанскай бітве, што наўрад ці адпавядае сапраўднасці.

Зыход бітвы рашыў бліскучы манеўр Астрожскага. Пад выглядам адступлення войскі ВКЛ пацягнулі за сабой маскоўскае войска, якое пасля трапіла пад абстрэл добра замаскіраванай артылерыі. Страшэнны залп змяў бягучых маскоўскіх ратнікаў. Затым удар быў накіраваны на палкі Булгакава-Голіцы, якія ў выніку гэтага былі разгромлены. Такі лёс напаткаў і войска Чалядніна. Усё гэта выклікала вялікую паніку сярод рускіх воінаў, якія, бегучы з бою і скачучы ў Крапіўну з высокага берага, тапіліся ў ёй, і яна была запруджана іх целамі. Нямала ратнікаў гэтак жа загінула ў Дняпры. Аб вялікіх ахвярах сведчыла і поле бітвы, запоўненае целамі забітых, якіх у цэлым было каля 40 тысяч. Апроч таго, у палон здаліся па дзве тысячы шараговых вояў і «дзяцей баярскіх». Асабліва паказальна тое, што палоннымі аказаліся ваяводы Булгакаў-Голіца і Чаляднін, а таксама 17 іншых военачальнікаў[119].

Вядома ж, сумныя вынікі Аршанскай бітвы Васілём III, войскі якога перад гэтым мелі поспехі, былі ўспрыняты як нечаканая катастрофа. І таму нядзіўнай была яго заява, што тыя, хто трапіў у палон, для яго мёртвыя. Пасля гэтага зразумела, чаму палонныя дзесяткі гадоў не вярталіся дадому, а жылі ў Вільні і па розных дварах ВКЛ. Ваявода Чаляднін і памёр на чужыне, а Булгакаў-Голіца вярнуўся на радзіму толькі праз 38 гадоў.

Звяртае на сябе ўвагу і тое, што К. Астрожскі, з'яўляючыся праваслаўным, узначальваў войска, якое змагалася з праваслаўным войскам. А гэта сведчыць аб тым, што ён не змешваў адзінаверства з адзінадзяржаўем і, зыходзячы з гэтага, не прызнаваў права адной дзяржавы ўмешвацца ў справы другой на падставе абароны адзінавернага насельніцтва ў ёй.

Бліскучая перамога 30-тысячнай арміі К. Астрожскага над 80-тысячнай маскоўскай арміяй дала магчымасць яму рухац-



*Аршанская бітва (фрагмент).*
*Пераправа войска Астрожскага праз Днепр.*
*З карціны XVI ст.*

ца на Смаленск, што выклікала там перапалох, у выніку чаго склалася змова, каб здаць горад. Цікава, што яе ўзначальваў епіскап Варсанафій, які раней быў ініцыятарам здачы Смаленска маскоўскаму войску. Аднак змова была раскрыта, і смаленскі намеснік Шуйскі загадаў яе ўдзельнікаў, акрамя Варсанафія, павесіць на сцяне перад вачыма войска Астрожскага. Хоць далейшая аблога Смаленска была працяглая, аднак яна

не мела поспеху, і К. Астрожскі адступіў. Аднак гэты адыход не быў без станоўчых вынікаў, бо па дарозе ад Смаленска былі вернуты ў склад ВКЛ Мсціслаў, Дуброўна і Крычаў. А гэта ж і было галоўным вынікам Аршанскай перамогі, якая абараняла карэнныя беларускія землі ад заваявання.

Менавіта таму яна так глыбока адбілася ў свядомасці нашага народа і знайшла сваё адлюстраванне ў яго фальклоры, пра што сведчыць гістарычная песня. У ёй мы знаходзім паэтычнае ўвасабленне ўсяго ходу Аршанскай бітвы — ад яе падрыхтоўкі і да пераможнага канца. Складзеная ў пачатку XVI ст., яна сведчыць, што ў той час наша мова цалкам сфарміравалася і нічым не адрознівалася ад сучаснай, як напрыклад:

Ой, у нядзельку параненька
Узышло сонца хмарненька,
Узышло сонца над борам
Перад Сялецкім таборам.

У песні адлюстраваны найбольш драматычныя моманты бою, якія і прывялі да перамогі:

Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчцы на прыгорцы:
Гучаць разам з самапалаў,
Семіпалых ад запалаў,
Б'юць з паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці.
А як з Воршы уцякалі,
Рэчку невялічку пракліналі:
«Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як нашая слава тутака прапала».

Народ добра бачыў, каму ён найперш абавязаны гэтай перамогай, і песня заканчвалася ўслаўленнем яго: «Слаўся, пан Астрожскі!»

Хоць Аршанская бітва на некалькі гадоў спыніла актыўныя вайсковыя дзеянні паміж ВКЛ і Масквой, аднак іх узаемнае процістаянне не спынілася, яно працягвалася шляхам накіравання на праціўніка сіл сваіх саюзнікаў. Так, у пачатку



*Найвышэйшы гетман Вялікага княства Літоўскага Канстанцін Астрожскі. Паводле партрэта XVII ст.*

1517 г. Жыгімонту I удалося падбухторыць супроць Масквы крымскага хана Менглі-Гірэя, які з 20-тысячным войскам уварваўся ў воласць Тулы, але быў разбіты рускім войскам[120]. У сваю чаргу Васіль III аднавіў перамовы з прускім магістрам Альбрэхтам, як нам ужо вядома, пляменнікам Жыгімонта I, паслаўшы яму вялікую суму грошай, просячы за гэта паслаць свае войскі на злучэнне з маскоўскімі супроць свайго дзядзькі. Зразумела, што супроць такой сілы з двух бакоў Польшча і ВКЛ не маглі выстаяць, і таму Жыгімонт I па радзе скліканага ім у Кракаве сойма звярнуўся да аўстрыйскага імператара Максіміліяна I, каб ён прымірыў Васіля III з ім, праўда, выкананне гэтай просьбы не было задарма. Жыгімонт I абяцаў уступіць частку Тэўтонскага ордэна, на якую прэтэндаваў Максіміліян. Апошні згадзіўся паслаць у Маскву свайго пасла Сігізмунда Герберштэйна[121]. Яму і ўдалося ўгаварыць маскоўскага князя, каб ён прыняў паслоў ад Жыгімонта I. Трэба зазначыць, што С.Герберштэйн (1486—1566), двойчы пабываўшы ў Маскве, пакінуў вельмі каштоўныя звесткі аб тагачасных падзеях, у тым ліку і аб Аршанскай бітве.

Для нас асабліва важнае яго сведчанне з гэтага часу. Паны радныя ВКЛ імкнуліся перацягнуць на свой бок супроць Масквы Лівонскі ордэн і папярэджвалі яго магістра Платэнберга аб той небяспецы для яго, калі Васіль III захопіць Віцебск, Полацк, Оршу і іншыя гарады, бо палачане памятаюць, што «межы краіны іх пашыраліся па Дзвіне аж да самага мора, што

ваш (г.зн. лівонскі) горад Рыга пабудаваны на іх зямлі»[122]. Як бачым, Полацк звыш 300 гадоў памятаў аб межах сваёй зямлі, аб тым, што яго княства было марской дзяржавай. Менавіта пабудова крыжакамі ў 1201 г. Рыгі замкнула для Полацкага княства свабодны выхад да мора, што з'явілася выключна балючым ударам, бо гэта заціснула як Полацк, так і ў далейшым усю Беларусь паміж варожымі дзяржавамі, што выключна абцяжарыла яе гістарычны шлях.

Аднак вернемся да разгляду далейшых падзей. Жыгімонт I, адправіўшы паслоў у Маскву, адначасова пачаў супроць яе вайсковыя дзеянні. Спыніўшыся ў Полацку, ён накіраваў вялікае войска пад камандай К. Астрожскага да Апочкі, якая з'яўлялася прыгарадам Пскова[123]. І хоць гэты наступ быў адбіты з вялікімі стратамі для Астрожскага, ён на працягу 12 дзён прадаўжаў аблогу Апочкі, адначасова разаслаўшы свае атрады ў іншыя месцы. Але маскоўскія войскі, якія ішлі да Апочкі з розных бакоў, разбілі атрады, што ішлі на дапамогу К. Астрожскаму, і ён вымушаны быў зняць аблогу горада і выйсці за межы Рускай дзяржавы.

Толькі зараз, 29 кастрычніка 1517 г., Васіль III згадзіўся прапусціць паслоў Жыгімонта I у Маскву і пачаць з імі перамовы. Аднак яны адразу сталі цяжкімі. Калі маскоўскі бок патрабаваў уступкі яму яшчэ не заваяваных ім гарадоў, такіх, як Кіеў, Полацк, Віцебск, і тых, якімі валодала Алена Іванаўна ў ВКЛ, то процілеглы бок у сваю чаргу патрабаваў вяртання яму Ноўгарада Вялікага, Цверы, Вязьмы і ўсёй Северскай зямлі. Але пасля доўгіх спрэчак бакі пайшлі на ўзаемныя ўступкі, адмовіўшыся ад сваіх патрабаванняў. Праўда, паслы Жыгімонта I і Герберштэйн асабліва настойвалі на вяртанні Смаленска, на што маскоўскі бок катэгарычна не згадзіўся. Герберштэйн яшчэ прасіў вызваліць М. Глінскага са зняволення і адпусціць яго да Максіміліяна, у якога ў свой час ён служыў, аднак Васіль III на гэта не згадзіўся.

Перамовы не прывялі да заключэння міру ці перамір'я, і ў 1518 г. пачалося ўварванне маскоўскіх войскаў у беларускія землі. Спачатку князь Васіль Шуйскі з вялікімі сіламі наўгародцаў і яго брат Іван з пскоўскім войскам пайшлі на Полацк. На дапамогу ім з'явіўся і маскоўскі атрад пад камандай Кісліцы. Пачаўся штурм горада, гарматы білі па яго сценах.

Палачане добра разумелі ўсю адказнасць моманту, што можа прывесці да здачы горада і яго захопу, і таму з пасада мужна і моцна адбіваліся. Аблога зацягнулася, і ў стане непрыяцеля пачаўся голад. У дадатак да гэтага, атрад баярскіх дзяцей, які зрабіў спробу прарвацца на другі бераг Дзвіны, амаль увесь загінуў. Пацярпеўшы няўдачу, войскі Шуйскага вымушаны былі адступіць ад Полацка і вярнуцца дамоў ні з чым. Аднак гэта не спыніла далейшых спроб уварвання ў беларускія землі. У наступны 1519 г. усё тыя ж наўгародскія і пскоўскія войскі пад камандаваннем М.Кісліцы пайшлі ў напрамку Маладзечна, захапіўшы побач з ім гарады Маркаў, Лебедзеў, Краснае Сяло і іншыя. У той жа год злучаныя сілы многіх рускіх войскаў пайшлі ў кірунку Оршы, Віцебска, Полацка, Магілёва, Лагойска, Менска і падышлі да самай Вільні, пасля чаго вярнуліся назад[124]. З прыведзенага можна ўявіць, якія спусташэнні беларускай зямлі былі нанесены гэтымі ўварваннямі. Але мэтавіта гэта і патрабавалася, каб застрашыць ВКЛ і тым самым прымусіць яго пайсці на прымірэнне, якое зараз так патрэбна было Маскве, бо яна за час узяцця Смаленска, Аршанскай бітвы, шэрагу вайсковых уварванняў у ВКЛ значна аслабела, і таму ёй патрэбен быў на пэўны час мір, каб зноў умацавацца. Таму Масква і дала знаць праз Мікалая Радзівіла Чорнага Жыгімонту І, каб ён, калі жадае міру, прыслаў да яе сваіх паслоў, якія ў жніўні 1520 г. і з'явіліся. Аднак было заключана толькі перамір'е на шэсць месяцаў. У 1522 г. яго прадоўжылі яшчэ на пяць гадоў. Па-ранейшаму, паводле яго, Смаленск заставаўся пад Масквой, а з боку ВКЛ не было згоды вярнуць Маскве палонных, вялікая колькасць якіх была захоплена ў час Аршанскай бітвы. У 1525 г. гэта перамір'е было прадоўжана яшчэ на сем гадоў, да 1533 г., на тых жа самых умовах.

І ўсё ж, нягледзячы на крывавыя і спусташальныя падзеі, якія перш за ўсё характарызуюць першую трэць XVI ст., у гэты выключна цяжкі час не толькі не спынілася культурна-этнічнае развіццё беларускага народа, але і ўзнялося на новую ступень. І гэта найперш звязана з тытанічнай дзейнасцю Францыска Скарыны. Ужо толькі тое, што ён быў заснавальнікам беларускага кнігадрукавання, паставіла Беларусь на ўзровень найбольш культурна-развітых краін Еўропы. Яго пераклад Бібліі выключна ўзбагаціў беларускую літаратурную мову, а



*Францыск Скарына.*
*1517 г.*

яго прадмовы і пасляслоўі да біблейскіх кніг напоўнілі ідэйны змест, паглыбілі філасофскую думку і ўзнялі мастацкі ўзровень беларускай літаратуры. Гэтак жа афармленне кніг, шматлікія гравюры да іх адыгралі вялікую ролю ў развіцці беларускага мастацтва. Вядома ж, будучы доктарам лекарскіх навук, Ф. Скарына зрабіў вялікі ўклад і ў беларускую медыцыну. Выказана таксама меркаванне, што ён удзельнічаў у падрыхтоўцы Статута 1529 г.[125] Улічваючы тое, што падобнага юрыдычнага дакумента ў той час яшчэ ў Еўропе не было, можна гаварыць аб авангарднай ролі Беларусі ў развіцці еўрапейскай дзяр-



БІВЛИЯ РОУСКА

выложена доктором
францискомъ скориною
изславнаго града по
лоцька, богоу ко чти и
людемъ посполитымъ
к доброму научению :-

*Тытульны ліст «Бібліі» Ф. Скарыны*

жаўна-прававой культуры. Менавіта дзейнасць Ф. Скарыны і Статут 1529 г. — найбольш яскравыя сведчанні нязломнасці і жыццяздольнасці беларускага народа, які не толькі выжыў, але і набраў новыя духоўныя і інтэлектуальныя сілы ў самых неспрыяльных для гэтага гістарычных умовах.

## ЗНОЎ НАПАДЫ І ПРЫМІРЭННІ

У 1533 г., калі заканчваўся тэрмін перамір'я паміж ВКЛ і Масквой, памёр Васіль III (па некаторых звестках яго нібыта атруціў М. Глінскі, за што быў зноў пасаджаны ў цямніцу, дзе і памёр)[126], і на маскоўскі пасад узышоў старэйшы сын вялікага князя — чатырохгадовы Іван, будучы Іван Грозны. Зразумела, што ён кіраваць дзяржавай не мог, і апякункай яму стала яго маці Алена — пляменніца М. Глінскага. З Масквы быў пасланы адмысловы пасол да Жыгімонта I, каб абвясціць яму аб смерці Васіля III і з наказам, каб кароль быў у дружбе і братэрстве з новым вялікім князем, як і з яго бацькам[127].

Трэба думаць, што такая сітуацыя, якая магла спарадзіць пэўнае замяшанне ў Маскве, не магла не выклікаць у ВКЛ спробы выкарыстаць гэта ў сваіх інтарэсах. І сапраўды, Жыгімонт I адправіў у Маскву пасольства, каб нагадаць там аб неабходнасці прадаўжэння перамір'я ці заключэння канчатковага міру. Было таксама выказана пажаданне, каб перамовы аб міры вяліся не ў Маскве, як раней, а ў яго дзяржаве. Аднак усё гэта засталося без станоўчага адказу, перамовы не адбыліся, і зноў пачаліся вайсковыя дзеянні, якія цягнуліся з перапынкам каля трох гадоў.

З боку ВКЛ яўна выяўлялася імкненне вярнуць сабе страчаныя раней на ўсходзе гарады. У верасні 1535 г. войскі ВКЛ пайшлі ў кірунку Старадуба, дзе сустрэлі ўпартае супраціўленне і, адыходзячы назад, у Радагошчы пасад спалілі, ад чаго і горад згарэў, а ў пажары і намеснік Андрэй Лыкаў. Пасля гэтага тое ж войска пад началам Андрэя Няміры ўварвалася ў Чарнігаўскую зямлю, але там таксама не мела поспеху і адышло назад[128].

Па ўсім відаць, што з боку ВКЛ было спланавана шырокамаштабнае наступленне супроць Масквы, накіраванае на вяр-




*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Жыгімонт Стары. Гравюра пач. XVII ст.*

танне раней страчаных ім гарадоў, бо ў гэтым жа месяцы адбыўся паход яго войска пад началам Вішнеўскага на Смаленск. Аднак спроба спаліць пасад горада не ўдалася, і войскі ВКЛ адступілі[129].

Зразумела, што ўсё гэта выклікала адпаведную рэакцыю з боку Масквы, і там было вырашана адпомсціць ВКЛ, і на яго тэрыторыю 28 лістапада 1535 г. рушылі з двух бакоў маскоўскія войскі. Тыя, якія непасрэдна выходзілі з Масквы, пайшлі на Дуброўна, Оршу, Друцк, Барысаў, Баровічы і іншыя беларускія гарады. Наўгародскія і пскоўскія войскі, што выйшлі з Апочкі, накіраваліся на Полацкую, Віцебскую і Браслаўскую землі. Маскоўскія войскі, якія ішлі з двух бакоў, злучыўшыся ў Маладзечне, пайшлі ў бок Вільні, але, не дайшоўшы да яе на сорак вёрст, вярнуліся назад і пайшлі ў Полацкую зямлю, «жгучи и воюючи, и секучи, и в плен емлючи»[130]. Яны вярнуліся ў Апочку 1 сакавіка 1536 г., але на гэтым уварванні маскоўскага войска ў беларускія землі не спыніліся. Восенню таго ж года, выйшаўшы са Старадуба, яны ваявалі Рэчыцу, Свіслач, Горваль, Петрыкаў, Мазыр, Слуцк, Рагачоў, Бабруйск, Тураў, Брагін, ідучы далей да Новагародка, «пасады у городов жгли, и села жгли, и люди и живот, и животину вымали, а иные выжгли, вышли по-здорову»[131].

Апроч таго, атрымаўшы звесткі, што Жыгімонт I збіраецца да паходу на смаленскія землі, Масква пасылае шматлікае войска ў тым жа кірунку, каб затрымаць войска ВКЛ, а калі яго там не будзе, то ісці да Мсціслаўля. Адначасова наўгародскаму і пскоўскаму войскам было загадана ісці пад Себеж[132]. Жыгімонт I, дачуўшыся, што маскоўскія войскі прыйшлі пад

Мсціслаўль, пасылаe свае сілы да Старадуба. І на гэты раз паход сюды быў удалы, паколькі ён завяршыўся адваяваннем Гомеля. Шляхам падкопу быў узяты, а пасля спалены Старадуб. Яго ваяводу Фёдара Аўчыну захапілі ў палон, «а иных пересекли и прочь ушли»[133]. Падобнымі вынікамі суправаджаўся і паход маскоўскіх войскаў на Мсціслаўль. Горад ім не здаўся, але яны пайшлі далей, «и многие места воевали, и людей в полон вели, и жгли, и секли, и в свою землю пришли по-здорову»[134]. Але калі ВКЛ удалося вярнуць Гомель і адстаяць Мсціслаўль, то наўгародскімі і пскоўскімі войскамі быў заваяваны Себеж і ператвораны ў адну з маскоўскіх крэпасцяў[135]. Праўда, са стратай апошняга ВКЛ адразу не прымірылася, і ў лютым 1537 г. яго войска пад началам Андрэя Няміры прыйшло да гэтага горада, аднак адваяваць яго не ўдалося, нягледзячы на вялікія намаганні і страты[136]. Гэта і прымусіла Жыгімонта I накіраваць у Маскву пасольства, каб заключыць з ёй перамір'е, якое і было дасягнута 27 сакавіка 1537 г. тэрмінам на 5 гадоў. Паводле яго было замацавана вяртанне Гомеля ВКЛ і зроблена ўступка Себежа Маскве. Па-ранейшаму не былі адпушчаны ўзятыя ў палон у час Аршанскай бітвы маскоўскія вайскоўцы. У 1542 г. перамір'е было зноў прадоўжана на пяць гадоў і на тых жа ўмовах. Яшчэ ў 1545 г. Жыгімонт I, будучы вельмі старым, перадаў кіраванне дзяржавай сыну Жыгімонту Аўгусту, а ў 1548 г. у 81-гадовым узросце ён памёр.

Жыгімонт I належыць да ліку найбольш выдатных дзеячаў у нашай гісторыі. Ён вызначаўся не толькі вялікай фізічнай сілай, чым, магчыма, і тлумачыцца яго даўгалецце, але і глыбокім розумам і палітычнай абачлівасцю ў кіраванні дзяржавай. Найперш гэта выявілася ў адсутнасці фанатызму ў яго адносінах да праваслаўных. Ён добра разумеў, што прымусовае акаталічванне іх толькі выклікала ўнутраныя звадкі, а разам з імі і аслабленне дзяржавы. Праўда, такая цярпімасць да праваслаўных выяўлялася пераважна ва ўсходніх землях, якія межаваліся з Маскоўскай дзяржавай, бо яна выкарыстоўвала ў сваіх інтарэсах ганенне на сваіх аднаверцаў у ВКЛ.

Але хоць праваслаўныя і не цярпелі рэлігійнага прыгнёту, яны па-ранейшаму былі абмежаванымі ў палітычных правах. Так, праваслаўныя феадалы не маглі займаць вышэйшых дзяржаўных пасадаў, не маглі быць выбранымі ў сенат. Адзіным



*Вялікая княгіня Вялікага княства Літоўскага Бона Сфорца. З партрэта XVI ст.*

выключэннем з гэтага з'яўляўся славуты князь К. Астрожскі, які быў узведзены ў званне троцкага ваяводы і заняў месца ў сенаце, што выклікала гнеў з боку каталіцкіх вярхоў, і Жыгімонт I павінен быў іх заверыць, што ў далейшым ён такое больш дапускаць не будзе.

Трэба адзначыць, што ў дзяржаўнай дзейнасці Жыгімонта I вялікую ролю мела з 1518 г. яго другая жонка Бона, дачка італьянскага герцага Сфорца. Бачачы вялікую залежнасць караля і вялікага князя ад буйных феадалаў, яна імкнулася узмацніць яго ўладу. Ідучы ў гэтым кірунку, рабіла захады па павелічэнні каралеўскай уласнасці, змагалася супроць прысваення феадаламі дзяржаўных земляў. У гэтых адносінах яе дзейнасць асабліва была плённай на Беларусі, дзе ёй удалося ўзяць у свае рукі шэраг валасцей: Аболецкую Аршанскага, Езярышчынскую Віцебскага, Клецкую Наваградскага, Кобрынскую, Шарашоўскую Берасцейскага, Пінскую Пінскага, Рагачоўскую Рагачоўскага паветаў[137]. Па ініцыятыве Боны і ў яе ўладаннях пачалася аграрная рэформа, якая ў далейшым атрымала назву «Валочнай памеры». Мелася на мэце ўпарадкаванне сістэмы землекарыстання і абкладанне сялян феадальнымі павіннасцямі. У аснову яе быў уведзены надзел ворнай зямлі плошчай у валоку (21 га), адкуль і назва гэтай рэформы. Яна сістэматычна і паўсюдна праводзілася на працягу другой паловы XVI ст. і першай паловы XVII ст. У выніку яе была ліквідавана цераспалосіца, уведзена трохполле, яна ў многім вызначыла планіроўку і знешні выгляд нашых вёсак і двароў.

Па-ранейшаму ў грамадстве ВКЛ была незадаволенасць падначаленнем Польшчы. І вось каб нагадаць аб гэтым, сойм




*Мікола Гусоўскі.*
*Малюнак Я. Куліка*

ВКЛ, які сабраўся ў 1526 г. у Вільні, аб'явіў сваім вялікім князем 6-гадовага сына Жыгімонта і Боны — Жыгімонта Аўгуста. Больш за тое, да Жыгімонта І прад'яўлена патрабаванне, каб Жыгімонт Аўгуст, прыбыўшы ў Вільню, быў каранаваны каралеўскай каронай, што, вядома, азначала поўную самастойнасць ВКЛ. Але на гэта Жыгімонт І не згадзіўся. І толькі ў 1529 г. па настойлівых просьбах вярхоў ВКЛ Жыгімонт І прызнаў свайго 10-гадовага сына вялікім князем. Зразумела, што гэта мела больш фармальны характар, бо Жыгімонт Аўгуст з-за свайго малалецтва павінен быў жыць у Кракаве, але ж усё гэта падкрэслівала імкненне ВКЛ да незалежнасці.

Гэтаму ж садзейнічалі і паданні-міфы, якія з'явіліся ў ВКЛ. Першы з іх, што ўзнік яшчэ ў XV ст. (яго ўпершыню адзначыў Я. Длугаш), апавядаў аб паходжанні вялікіх князёў і магнацкіх родаў ВКЛ ад рымлян, якія, ратуючыся ад Нерона, прыплылі на чале з Палямонам па морах у вусце Нёмана і пасяліліся ў Жамойці. Зразумела, што гэта легенда павінна была падкрэсліваць больш слыннае паходжанне знаці ВКЛ, чым польскай, і тым самым адмаўляць верхавенства апошняй у ВКЛ.

Мы ўжо ведаем, што ў канцы XV — пачатку XVI ст. у Маскве склаўся погляд на ВКЛ як дзяржаву, у якой пад уладай Літвы знаходзіліся заваяваныя ёй рускія землі, што апраўдвала яе імкненне заваяваць іх. Вядома ж, усё гэта не было сакрэтам у ВКЛ, і таму тут, насуперак гэтай маскоўскай версіі, пачала складвацца свая версія, і канчаткова яна аформілася ў сярэдзіне XVI ст.. Гэта версія, як і маскоўская, пачатак утва-

рэння ВКЛ адносіла да часу татарскага нашэсця. Паводле яе, калі татары зруйнавалі і спустошылі рускія землі, жамойцкі князь Мантвіл (выдуманая асоба), даведаўшыся пра гэта, рашыў узяць іх пад сваю апеку. Дзеля гэтага ён пасылае свайго сына Ердзівіла, які, перайшоўшы са сваім войскам спачатку Вяллю, а пасля і Нёман, убачыў гару высокую, а на ёй разбураны Новагародак. Месца гэта Ердзівілу спадабалася, ён узнаўляе Новагародак, робіць яго сваёй сталіцай, пасля ўзнаўляе іншыя разбураныя татарамі месцы і таксама бярэ іх пад сваю апеку. А сын Ердзівіла Мінгайла заваёўвае Полацк,і такім чынам беларускія землі падпадаюць пад уладу жамойцкіх князёў[138]. Гэтай версіі больш пашчаслівіла ў пашырэнні, чым маскоўскай. У той час у ВКЛ знаходзіўся польскі храніст М. Стрыйкоўскі, якога апякаў жамойцкі біскуп Гедройц. Ён, будучы фактычна ідэолагам інтарэсаў жамойцкіх феадалаў і стараючыся ўсяляк узвысіць іх значэнне ў дзяржаве, імкнуўся прыпісаць іх князям і заслугу стварэння ВКЛ. Дзеля гэтага ён забяспечыў М. Стрыйкоўскага летапісамі накшталт «Хронікі Быхаўца», у якіх выкладаўся гэты міф. М. Стрыйкоўскі ўнёс яго ў сваю «Хроніку», якую выдаў у 1582 г. у Кёнігсбергу, што зноў-такі фінансавалася Гедройцам. Гэта кніга, напісаная на лацінскай мове, атрымала шырокае распаўсюджанне, на яе сталі спасылацца гісторыкі, і такім чынам пачала ў гістарычнай навуцы замацоўвацца гэта версія, якая да непазнавальнасці зацямніла праўдзівую карціну ўтварэння і характару як дзяржавы ВКЛ. Важна падкрэсліць, што тут заслуга ўтварэння ВКЛ прыпісваецца жамойцкім, а не літоўскім князям, што з'яўляецца яшчэ адным сведчаннем таго, што ў той час сучасная Літва выступала пад назвай Жамойць. Невыпадкова ў гэтым міфе і тое, што Ердзівіл робіць сваёй сталіцай Новагародак, бо ў той час яшчэ добра памяталася аб такім становішчы гэтага горада ў мінулым, і таму ў ім заднім чыслом і саджаліся жамойцкія князі. Варта нагадаць і пра тое, што тагачасныя магнацкія роды сапернічалі адзін з другім у справе стварэння ВКЛ. Калі ў адных хроніках гаворыцца аб Эрдзвіле (г.зн. Радзівіле, што так і называўся ў адной з хронік), які нібыта быў пасланы Мантвілам, у другой гэтым пасланцом ужо з'яўляецца Скірмант[139]. Зразумела, што такія звесткі заносіліся ў летапісы па жаданні прадстаўнікоў гэтых двух магнацкіх родаў.



*Сеймавая шляхта XVI ст.*
*Малюнак Юліуша Косака*

## ДЗЯРЖАЎНЫ І ГРАМАДСКІ ЛАД ВКЛ

Пры разглядзе гісторыі ВКЛ, асабліва ў XVI ст., галоўная ўвага была скіравана на асвятленне знешніх абставін нашай дзяржавы, яе ўзаемаадносін з суседнімі краінамі, вайсковых сутыкненняў і прымірэнняў з імі. І гэта невыпадкова. Менавіта галоўнай асаблівасцю ВКЛ і з'яўляецца перавага ў ім знешніх абставін над унутранымі, што і зразумела. Заціснутае з усіх бакоў дзяржавамі, якія ўвесь час імкнуліся падначаліць яго сабе, ВКЛ вымушана было ўвесь час галоўны дзяржаўны інтарэс сканцэнтроўваць на знешніх узаемаадносінах.

Аднак гэтыя неспрыяльныя знешнія ўмовы не маглі спыніць унутранага дзяржаўнага і грамадскага развіцця ВКЛ. Менавіта ў XVI ст. і закончыўся працэс іх канчатковага фарміравання, што і надало ВКЛ характэрнае дзяржаўнае аблічча.

Вышэйшая ўлада ў краіне належала вялікаму князю. Аднак, фармальна валодаючы шырокімі паўнамоцтвамі ва ўнут-

раных і знешніх справах дзяржавы, ён фактычна быў абмежаваны ў сваіх дзеяннях. Будучы выбраным і прыняўшы прысягу, ён абавязаны быў выдаваць грамату, якая пацвярджала непарушнасць ранейшых, а то і новых прывілеяў для феадалаў. А менавіта апошнія, валодаючы непамерна вялікімі багаццямі, найперш зямельнымі надзеламі, усё рабілі для таго, каб дзейнасць гаспадара была ў іх інтарэсах, якія далёка не заўсёды адпавядалі інтарэсам дзяржавы.

Аслабленню ўлады вялікага князя садзейнічала і тое, што ён выбіраўся яшчэ і каралём Польшчы. А гэта прымушала яго значны час быць у Кракаве. Пры адсутнасці яго ў Вільні краінай фактычна кіравала рада ВКЛ, у якую ўваходзілі буйнейшыя феадалы, што адначасова займалі важнейшыя дзяржаўныя пасады. Паны радныя і мелі рашаючае значэнне ў вырашэнні дзяржаўных спраў. У выпадку, калі гаспадар супярэчыў волі рады, ён павінен быў падначаліцца ёй. Як бачым, калі ў суседняй Маскоўскай дзяржаве ў XVI ст. усё больш усталёўваўся манархічны абсалютызм, то ў ВКЛ, гэтай другой усходнеславянскай дзяржаве, усё больш абмяжоўвалася ўлада гаспадара.

Калі рада была пастаянным органам дзяржаўнага кіравання, то соймы склікаліся вялікім князем і радай перыядычна і звычайна працягваліся два-тры дні, хоць зрэдку прадаўжаліся і значна больш. Адметнай асаблівасцю соймаў было і тое, што яны праходзілі не толькі ў Вільні, але і ў іншых гарадах (Гародні, Бярэсці, Слоніме). Часцей за ўсё на іх вырашаліся пытанні, звязаныя з міжнароднымі справамі, з аб'яўленнем вайны і заключэннем міру, з выдаткамі на вайсковыя дзеянні. Соймы прымалі новыя заканадаўчыя акты, і на іх абіраўся вялікі князь. Трэба зазначыць, што соймы ў значнай меры мелі паказны характар, бо яны прымалі ўсё тое, што жадалі вялікі князь і рада, прысутнасць на іх мясцовых прадстаўнікоў была фактычна фармальнай.

Важная роля належала і вышэйшым службовым асобам, якія кіравалі паасобнымі галінамі дзяржаўнай дзейнасці. Гэта перш за ўсё маршалак земскі, які звычайна старшынстваваў на соймах і пасяджэннях рады, аб'яўляў пастановы гэтых устаноў. Вайсковымі справамі ВКЛ кіраваў гетман найвышэйшы, паў-



*Баярын Вялікага княства Літоўскага XVI ст.*

намоцтвы якога былі асабліва шырокімі ў час вайны. Яго намеснікам з'яўляўся намеснік дворны ці польны, які ў час вайны ўзначальваў частку войскаў, а ў мірны час памежныя войскі. Дзяржаўнай канцылярыяй кіраваў канцлер, у яго абавязкі ўваходзіла і захаванне дзяржаўнага архіва —метрыкі ВКЛ. Існавала і пасада яго намесніка — падканцлера. Падскарбій земскі і яго памочнік падскарбій дворны былі хавальнікамі дзяржаўнай казны. Іх службоўцы —скарбнікі сачылі за своечасовым паступленнем сродкаў у казну. Выканаўцамі розных дзяржаўных даручэнняў з'яўляліся так званыя гаспадарскія дваране ці слугі, колькасць якіх вагалася ад 100 да 150 асоб.

У XVI ст. закончыўся падзел ВКЛ на ваяводствы. На тэрыторыі Беларусі імі былі Віленскае (часткова), Полацкае, Навагародскае, Віцебскае, Падляшскае, Бабруйскае, Менскае і Мсціслаўскае[140]. Кожнае з іх мела свой герб і харугву. Вышэйшымі службовымі асобамі ў іх былі ваяводы, якія мелі цэлы штат памочнікаў, што кіравалі паасобнымі галінамі дзейнасці ў ваяводстве. Гэта: кашталяны, што ўзначальвалі войска галоўнага замка, ключнікі, што загадвалі зборам даніны, гараднічыя, што клапаціліся аб захаванні і рамонце галоўнага замка, канюшыя, што наглядалі за конегадоўляй, і ляснічыя, ці гаёўнікі, што загадвалі лясным промыслам і паляваннем.

Ваяводствы ў сваю чаргу падзяляліся на паветы. На тэрыторыі Беларусі імі былі Аршанскі, Ашмянскі, Браслаўскі, Берасцейскі, Ваўкавыскі, Віцебскі, Гарадзенскі, Лідскі, Мазырскі,

Менскі, Мсціслаўскі, Навагародскі, Пінскі, Рэчыцкі і Слонімскі. На чале паветаў стаялі старасты, але паколькі гэта пасада для многіх была дадатковай побач з іншай і больш высокай, то часцей паветам кіраваў падстараста. Тут былі амаль тыя ж самыя пасады, што і ў ваяводстве (ключнікі, канюшыя, ляснічыя, гараднічыя). Сярод іх быў харужы, які з'яўляўся павятовым сцяганосцам.

У ваяводствах і паветах сабіраліся соймікі, на якіх маглі прысутнічаць усе шляхціцы гэтых тэрытарыяльных адзінак. Сярод шматлікіх бакоў дзейнасці гэтых саслоўна-прадстаўнічых органаў дамінаваў абавязак абараняць інтарэсы мясцовай шляхты. У самым нізе службовай піраміды ВКЛ знаходзіліся дзяржаўцы, або цівуны, што кіравалі дзяржаўнымі і велікакняскімі маёнткамі. Імі прызначаліся сельскія войты, сотнікі, сарочнікі, дзесятнікі, галоўным абавязкам якіх было сачыць за выкананнем сялянамі розных феадальных павіннасцяў. Былі і такія мясцовасці, дзе не было дзяржаўных маёнткаў, але былі дзяржаўныя сяляне, што мелі свае органы самакіравання — сходы. На іх размяркоўваліся даніны, а таксама разглядаліся спрэчныя справы паміж сялянамі.

У XVI ст. большасць гарадоў Беларусі мелі Магдэбургскае права, што вызваляла іх з-пад адміністрацыйных улад і давала ім магчымасць на самакіраванне. Гэтыя гарады ўзначальваліся войтамі, якія прызначаліся ўрадам. У сваю чаргу яны самі прызначалі сабе сваіх намеснікаў — ленвойтаў і памочнікаў — бурмістраў, што адказвалі за розныя бакі жыцця горада. Рады, што існавалі ў гэтых гарадах, звычайна вызначалі напрамак іх развіцця, іх добраўпарадкавання, а таксама клапаціліся пра абарону горада ў час вайны. У вялікіх гарадах рада выбіралася мяшчанамі, у меншых прызначалася войтам. Склікаліся і агульнагарадскія сходы, якія ў розных гарадах называліся па-рознаму (сойм, веча, капа).

ВКЛ вызначалася высокай прававой культурай, пра што найперш сведчаць Статуты, прынятыя ў XVI ст. (1529, 1566, 1588). Менавіта яны рэгулявалі і судовую справу ў дзяржаве. Найвышэйшымі інстанцыямі тут былі велікакняскі (гаспадарскі) суд і суд паноў рады і сойма, іх вялікая судовая ўлада пазней была абмежавана ўтварэннем найвышэйшага — Галоў-

нага трыбунала, які складаўся з выбраных суддзяў. Звычайна ў лік іх патрапалі выбраныя на павятовых сойміках уладары маёнткаў, якія былі дасведчанымі ў юрыдычнай справе. Пасяджэнні Трыбунала праводзіліся ў Вільні, Менску і Навагародку. У правінцыі найбольш важным быў замкавы або гродскі суд. У адрозненне ад вышэйназваных, якія разглядалі толькі справы феадалаў і шляхты, гэты суд быў усеагульным, бо ў ім разглядаліся справы і мяшчан, і сялян. У першай палове XVI ст. на Беларусі ўзніклі земскія суды, асаблівасцю якіх з'яўлялася тое, што яны былі незалежнымі ад адміністрацыйных улад і тым самым фарміравалі незалежнасць судовай улады, што было важным этапам у развіцці прававой культуры ў ВКЛ. Такім жа быў і падкаморскі суд, галоўным абавязкам якога з'яўляўся разгляд спрэчных спраў аб межах феадальных землеўладанняў.

У гарадах з Магдэбургскім правам, а яны складалі большасць у Беларусі, дзейнічаў войтаўскі суд, які разглядаў і крымінальныя, і грамадзянскія справы. Ён складаўся з войта, яго намесніка — войта-лаўнічага і лаўнікаў (г.зн. засядацеляў), якія выбіраліся мяшчанамі. Нельга не адзначыць копных судоў, традыцыя якіх ішла з глыбокіх, яшчэ язычніцкіх часоў. Яго суддзямі былі простыя сяляне, якія называліся копнымі старцамі. Тут пераважна разглядаліся сялянскія справы, хоць часамі сюды звярталася і шляхта. На пасяджэннях гэтага суда прысутнічаў прадстаўнік адміністрацыі — возны, або віж, які сачыў за захаваннем копных звычаяў і мог на пэўны час адтэрмінаваць выкананне прысуду.

Грамадскі лад, які склаўся ў ВКЛ, цалкам характарызуе яго як тыповую феадальную дзяржаву. Хоць яго грамадства дзялілася на пэўныя класы і саслоўі, аднак яны не былі аднастайнымі па сваім складзе, бо дзяліліся на шэраг груп, неаднолькавых па сваім маёмасным і прававым становішчы. Так, у асяроддзі феадалаў найвышэйшае месца займалі князі і вялікія паны, уладанні якіх былі своеасаблівымі «дзяржавамі» ў дзяржаве, бо фактычна ўладарылі над усімі людзьмі, якія жылі на тэрыторыі іх уладанняў і з якіх паўнапраўны ўладар мог нават збіраць сваё войска. Другая група феадалаў — зямяне-шляхта, уступаючы першым намнога меншымі памерамі сваіх уладанняў, уступалі ім і ў прававых адносінах, могучы займаць



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Жыгімонт II Аўгуст. Гравюра XVI ст.*

толькі другарадныя дзяржаўныя пасады. А сярод дробнай, так званай засцянковай шляхты можна было бачыць нямала такіх, якія амаль нічым не адрозніваліся ад сялян, бо самі апрацоўвалі сваю зямлю.

Тое ж заўважалася і ў асяроддзі мяшчанскага саслоўя, якое насяляла гарады. Побач з багатымі купцамі, уладальнікамі буйных майстэрняў і нават уласнікамі маёнткаў, што ўсе разам складалі вярхі гарадскога насельніцтва, большую масу яго запаўнялі дробныя гандляры і простыя рамеснікі. Самымі абяздоленымі сярод мяшчан былі так званыя «чорныя людзі», да якіх адносіліся наёмныя рабочыя, вучні майстроў, хатняя прыслуга. Параўнаўча большае прававое становішча мела мяшчанскае саслоўе, якое пражывала ў гарадах, што карысталіся Магдэбургскім правам.

Сялянства, якое складала асноўную частку насельніцтва ВКЛ, таксама не было аднастайным па сваім маёмасным і прававым становішчы. Як найбольш заможныя выдзяляліся гаспадарскія людзі, якія непасрэдна залежалі ад велікакняжацкай адміністрацыі і неслі якую-небудзь дзяржаўную павіннасць. Іх называлі баярамі (путнымі, панцырнымі, слугамі і інш.). Гэтым можна растлумачыць, чаму некаторыя нашы вёскі мелі назву Баяры, бо ў іх пражывала гэта група сялян. Альбо вось вёска Путнікі (Маладзечанскі р-н). Відаць, у ёй жылі баяры, якія былі ганцамі. Баяры мелі права валодаць зямлёй плошчай у дзве валокі. Найбольшую масу сялян складалі цяглыя людзі, якія выконвалі шматлікія павіннасці як перад сваім непасрэдным феадалам, так і перад дзяржавай. Яны маглі валодаць адной валокай зямлі. Сяляне, якія не адбывалі паншчыну, ад-



*Жыгімонт і Барбара Радзівіл.*
*«Ілюстраваная хроніка палякаў»*

насіліся да ліку асадных і павінны былі плаціць пэўную суму грошай і несці некаторыя іншыя павіннасці. Выдзяляліся таксама сялянеданнікі, назва якіх гаворыць сама за сябе: яны абкладаліся рознымі данінамі, не маючы пры гэтым пэўнай зямельнай уласнасці. Тыя, што непасрэдна служылі ў маёнтках, адносіліся да ліку халопаў ці чэлядзі нявольнай. Праўда, для феадалаў іх у вялікай колькасці нявыгадна было трымаць, і яны часта пераводзіліся ў агароднікі, якія, маючы зямлі ў тры моргі (1,8 га), адраблялі паншчыну і неслі іншыя павіннасці. Самымі беднымі сярод сялянаў былі халупнікі, што мелі толькі хату, а таксама кутнікі, якія не мелі і сваёй хаты і павінны былі туліцца па чужых кутах[141].

Асобым саслоўем у ВКЛ трэба лічыць і духавенства. Апроч праваслаўнага, якое было адзіным да Крэўскай уніі, і каталіцкага, якое пачало пашырацца пасля яе, былі таксама іудзейскія і магаметанскія духоўнікі. Калі з канца X і да пачатку XV ст. праваслаўная царква ў асноўным садзейнічала развіццю культуры Беларусі, асабліва пісьменства, асветы і літаратуры (варта толькі прыгадаць імёны Еўфрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага), то ў далейшым у выніку агрэсіўнай палітыкі каталіцызму яна паступова адыходзіць ад дзяржаўных інтарэсаў свайго народа, арыентуючыся на адзінаверную Маскоўскую дзяржаву. Каталіцтва, як нам вядома, з самага пачатку паказала сябе як выразнік інтарэсаў Польшчы. Пра гэта асабліва добра сведчыць тое, што каталіцкія епархіі ў ВКЛ не з'яўляліся самастойнымі, а падначальваліся польскай каталіцкай адміністрацыі. Каталіцтва ў ВКЛ услед за паварочваннем у сваю

веру несла і паланізацыю, асабліва вярхоў грамадства. У XVI ст. у ВКЛ шырокае распаўсюджанне атрымала пратэстанцтва, асабліва адна з плыняў яго — кальвінізм. Да яго прымкнулі многія феадалы і мяшчане. Паколькі гэта вера была накіравана супроць каталіцызму, то дзяржаўная ўлада ўсё рабіла, каб перашкодзіць яго развіццю ў ВКЛ. І сапраўды, у далейшым кальвінізм, асабліва пасля адыходу ад яго буйных феадалаў, паступова здаваў свае пазіцыі.

Ужо з гэтага кароткага агляду добра бачны асаблівасці ўнутранага жыцця ВКЛ: складанасць яго дзяржаўных структур, разнастайнасць у класава-саслоўным складзе яго грамадства, значная колькасць рэлігійных канфесій, высокая прававая культура. Усё гэта сведчыць, што наша дзяржава знаходзілася на еўрапейскім шляху свайго развіцця.

## ЛІВОНСКАЯ ВАЙНА

Калі аб заканчэнні перамір'я ў 1533 г. першымі ўспомнілі ў ВКЛ і з гэтай прычыны накіравалі пасольства ў Маскву, то ў другім выпадку аб заканчэнні пераміʼя ў 1548 г. першымі ўспомнілі ў Маскве і, зыходзячы з папярэдняга вопыту, сталі чакаць паслоў ад Жыгімонта II Аўгуста, які, заняты тады цяжкай справай аб сваім шлюбе з Барбарай Радзівіл, дазвол на які не даваў сойм, не звяртаў на гэта ўвагі. Маскве прыйшлося самой адпраўляць сваіх паслоў у Кракаў. Паспешлівасць Масквы на гэты раз была выклікана тым, што Іван IV, які ўжо к гэтаму часу прыняў тытул цара ўсёй Русі, рыхтаваўся да заваявання Казані, і яму патрэбна была ўпэўненасць у міры з ВКЛ.

Хоць перамовы і пачаліся, але яны зацягнуліся на доўгі час, на працягу якога паслы сустракаліся то ў Кракаве, то ў Маскве. Цяжкасць у перамовах была выклікана тым, што паслы Жыгімонта II Аўгуста патрабавалі заключэння вечнага міру, на што маскоўскі бок калі і згаджаўся, то толькі з умовай перадачы яму Кіева, Полацка, Віцебска і іншых гарадоў, якія ён лічыў рускімі, г.зн. сваімі. На гэта, зразумела, паслы ВКЛ пайсці не маглі. Самае большае, на што яны маглі згадзіцца, дык гэта не патрабаваць больш ад Масквы раней захопленых



*Мікалай Радзівіл Руды, брат Барбары*

ёю ад ВКЛ гарадоў. У ліпені 1555 г. з ВКЛ ад віленскага біскупа і ад віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла была прыслана грамата да маскоўскага мітрапаліта Макарыя і да князя Івана Шуйскага, каб яны хадайнічалі перад царом Іванам IV аб заключэнні міру[142]. 25 жніўня гэтага года Макарый паслаў у ВКЛ грамату, у якой паведамляў аб згодзе цара прыняць паслоў і весці з імі перамовы аб міры[143]. У студзені 1556 г. у Маскву і з'явілася пасольства ад Жыгімонта II Аўгуста ў складзе віцебскага ваяводы Збарыжскага, маршалка Яна Шымковіча і пісара Вацлава Мікалаева. Яны зноў прасілі аб вечным міры, але было заключана толькі перамір'е на шэсць гадоў, на працягу якіх дамовіліся весці перамовы аб вечным міры[144].

Аднак гэта перамір'е доўга не пратрымалася, і прычынай таму стала Лівонская вайна, якая ў студзені 1558 г. была пачата царом Іванам Грозным[145]. Ужо значна раней Маскоўская дзяржава адчула патрэбу збліжэння з Заходняй Еўропай, якая мела больш развітую тэхніку і, наогул, культуру. Дарогу да Еўропы Маскве мог толькі адчыніць выхад да Балтыйскага мора, якое загароджвала Лівонія, што ў той час займала большую частку тэрыторыі сучаснай Прыбалтыкі. Спасылаючыся на тое, што ў даўнія часы землі Лівоніі належалі рускім князям і што яе сучасныя ўладары не жадаюць плаціць Маскве даніну, якую яны абавязваліся плаціць раней, Іван IV, к гэтаму часу ўжо пакарыўшы Казань і Астрахань, смела рушыў свае войскі на захад, дзеянні якіх адразу сталі паспяховымі. Імі былі захоплены гарады Нарва, Дэрпт, а пасля яны наблізіліся да Рэвеля. Лівонскі ордэн, які і да гэтага часу ледзь трываў, зараз,



*Вялікая княгіня Вялікага княства Літоўскага Барбара Радзівіл. З мініяцюры XVI ст.*

па сутнасці, канчаў сваё існаванне. Заключыўшы перамір'е з Масквой, ён пачаў шукаць саюзнікаў для барацьбы з ёй. Аднак яго звароты да Швецыі і Даніі нічога не далі. Яны, не жадаючы ўступаць у канфлікт з Масквой, адмовіліся дапамагчы.

Ужо раней у Лівоніі з'явіўляўся намер збліжэння з ВКЛ, хоць у мінулым і варожым яму. Магістр Ордэна Кетлер і звярнуўся ў 1559 г. да Жыгімонта II Аўгуста як караля Польшчы па дапамогу, але той адмовіўся ад гэтай прапановы. Аднак калі той жа магістр звярнуўся зноў па дапамогу да Жыгімонта II Аўгуста, але ўжо як да вялікага князя ВКЛ, то той на гэты раз даў згоду. І вось тут менавіта і крыецца ўся каварнасць задумы польскіх вярхоў, па жаданні якіх і дзейнічаў Жыгімонт Аўгуст. Іх мэтай і было ўцягнуць ВКЛ у Лівонскую вайну. Як убачым далей, усё гэта было зроблена нездарма, бо ў той час найперш адпавядала іх інтарэсам. 31 жніўня 1559 г. магістр Кетлер і перадаў Лівонію пад пратэктарат ВКЛ. Пасля тое ж самае зрабіў і рыжскі арцыбіскуп. На першы погляд усё гэта было на карысць ВКЛ, бо значна павялічвала яго тэрыторыю. У прыватнасці, у склад яго вярталіся і Ніжняе Падзвінне, якое ў пачатку XIII ст. было захоплена Ордэнам у Полацка. За кошт гэтага ВКЛ павінна было паслаць сваю вайсковую сілу на дапамогу Лівоніі. У гэты час Расія зноў аднавіла вайну супроць Лівоніі і захапіла яшчэ шэраг яе гарадоў. У ліпені 1561 г. войска ВКЛ на чале з Мікалаем Радзівілам Рыжым уступіла ў Лівонію, але пацярпела паражэнне пад горадам Пярну. У гэты час Лівонскі ордэн і фармальна перастаў існаваць. 5 сакавіка 1562 г. магістр Кетлер у Рыжскім замку перадаў Мікалаю Радзівілу

Чорнаму як прадстаўніку вялікага князя пячатку Ордэна і ключы ад Рыгі і зняў з сябе ордэнскую мантыю. Пасля гэтага ён быў прызначаны правіцелем Лівоніі, але ўжо ад імя Жыгімонта Аўгуста як вялікага князя, бо польскі сойм адмовіўся прыняць Лівонію пад сваю апеку, каб не парушаць перамір'е з Масквой. Гэтым самым ён свядома пакінуў ВКЛ у яго вайне з Масквой.

Усё адзначанае і стала падставай для Івана Грознага, каб пачаць вайну супроць ВКЛ. У выніку гэтага Беларусь у 1562 г. і стала галоўнай арэнай Лівонскай вайны. Калі рускія войскі прыходзілі пад Оршу і Віцебск і мелі поспех, то войскі ВКЛ з'явіліся каля Апочкі, Невеля і Веліжа, але былі адбіты. Яшчэ больш балючай для нашых зямель была зіма 1562 — 1563 гг., калі адмыслова для вайны з ВКЛ была сабрана каля Мажайска 80-тысячная руская армія, якая на чале з самім Іванам Грозным рушыла з Вялікіх Лукаў на Полацк. Ішла яна з вялікай асцярогаю, каб не выдаць сябе і знянацку захапіць гэты горад. Аднак з царскага войска ўцёк Багдан Хлызноў-Колычаў і паведаміў палачанам аб вялікай пагрозе для іх. Хоць яны гэтаму не далі веры, але ўсё ж схаваліся за сценамі горада. Іван Грозны праз свайго пасыльнага звярнуўся да палачанаў з граматаю, каб яны здаліся яму, што ён за гэта надзеліць іх рознымі вольнасцямі. Аднак ні ваявода Давойна, ні ўладыка Арсеній, ні ўсе палачане не захацелі ні ўлады цара, ні яго міласці. Яны нават пакаралі смерцю царскага пасланца, які прыйшоў да іх з граматай. Пасля гэтага Іван Грозны 31 студзеня 1563 г. загадаў сваім шматлікім войскам узяць Полацк у аблогу, а духавенству, якое было з ім, правіць малебны[146]. Палачане, хоць і бачылі вялікае войска, якое акружала іх горад, не здаваліся, а білі па ім з гарматаў, і ядры падалі, як дождж. У выніку гэтага *многа царскіх двараnaў загінула*[147]. *Са свайго боку Іван Гроз*ны загадаў біць па горадзе з гарматаў днём і ноччу. Два тыдні працягвалася абарона горада, і толькі тады, калі стральцам удалося ў некалькіх месцах запаліць сцяну, «град великий Полтеск» быў захоплены, што адбылося 15 лютага 1563 г. Летапіс так пасведчыў аб жахлівых выніках гэтай падзеі: «И воеводу Полоцкого Довойну взял (Іван Грозны) и з женою его с панею, владыку Арсения, и князей и бояр з жонами и з детьми всех на голову вывел полоном, простых людей всех побил и в




*Полацкія замкі XVI ст.*

полон побрал на корен з жонами и з детьми выпленил»[148]. Іван Грозны да сваіх шматлікіх тытулаў дадаў і той, які сведчыў, што ён цяпер цар і вялікі князь Полацкі[149]. Пацярпела паражэнне каля г. Глыбокага і 40-тысячнае войска ВКЛ, якое ішло з 20 гарматамі супроць войска Івана Грознага.

Такія катастрафічныя вынікі прымусілі ВКЛ пайсці з Іванам Грозным на перамовы, якія адбываліся ў Маскве. Паколькі цар патрабаваў перадачы яму ўсёй Лівоніі і Полацка[150], то паслы ВКЛ з гэтым не згадзіліся, што і прывяло ў 1564 г. да ўзнаўлення вайны. Іван Грозны, не задавальняючыся ўзяццем толькі паўночнай Беларусі, загадаў свайму войску рухацца з Полацка да Менска і Навагародка. Дзеля гэтага ён дакладна распісаў, у які дзень павінны сустрэцца войскі полацкага і вяземскага ваяводаў пад Оршай каля вёскі Барань. Аднак войска ВКЛ на чале з Мікалаем Радзівілам Рыжым не дало магчымасці гэта зрабіць у выніку перамогі над імі каля ракі Ула 25 студзеня 1564 г. і пад Оршай 2 лютага гэтага ж года. У жорсткіх баях загінулі Пётр Шуйскі і многія дваране[151]. Значэнне гэтых



*Вайсковыя музыкі Вялікага княства Літоўскага XVI ст.*

*Малюнак з рукапіснай прускай хронікі*

перамог найперш у тым, што яны сарвалі спробы Івана Грознага пранікнуць у цэнтр дзяржавы.

Побач з вайсковымі дзеяннямі зноў узнаўляюцца ў чэрвені 1566 г. і перамовы аб міры, але яны нічога ў гэтым кірунку не далі, паколькі прадстаўнік ВКЛ патрабаваў вярнуць Полацк і Смаленск, і вайна працягвалася. Нягледзячы на шэраг паражэнняў рускіх войскаў, Земскі сабор у 1566 г. усё ж адобрыў намер Івана Грознага прадаўжаць Лівонскую вайну, што прывяло ў 1567 г. да аднаўлення вайсковых дзеянняў, ад якіх зноўтакі найперш цярпела Беларусь. У перыяд 1567 —1569 гг. рускія войскі, умацоўваючы пазіцыі каля Полацка, збудавалі крэпасці Суша, Сокал, Сітна, Красны, Казьяны, Усвяты, Туроўля. Вядома ж, усё гэта клалася вялікім цяжарам на плечы нашага насельніцтва, якое павінна было здабываць і дастаўляць будаўнічыя матэрыялы і выконваць земляныя работы. Лівонская вайна, якая цягнулася шмат гадоў, прынесла Беларусі незлічоныя людскія ахвяры і вялікія разбурэнні. Яна патраба-

вала вялікіх сродкаў на ўтрыманне арміі і на яе ўзбраенне. А гэта выклікала неабходнасць увядзення новых падаткаў і збораў, што прыводзіла да выключнага знясілення і дзяржавы, і народа. Вось на такім змрочным фоне Лівонскай вайны і ішла падрыхтоўка Люблінскай уніі.

## ЛЮБЛІНСКАЯ УНІЯ: ЯЕ ПАДРЫХТОЎКА, ПРАВЯДЗЕННЕ І ВЫНІКІ

Як вядома, Крэўская унія была навязана польскімі вярхамі ВКЛ у час яго цяжкіх унутраных і знешніх абставін. Праўда, адразу пасля яе заключэння Польшчы не ўдалося падначаліць сабе ВКЛ. І тады яе магнаты перайшлі да тактыкі паступовага падначалення сабе ВКЛ шляхам перыядычнага перазаключэння уній. Для гэтага зноў-такі выбіраліся неспрыяльныя моманты ў жыцці ВКЛ, як, напрыклад, паражэнне Вітаўта ў 1399 г. на рацэ Ворскле, што прывяло да заключэння Віленскай уніі 1401 г. І ў далейшым практыка абрання таго ці іншага вялікага князя ВКЛ адначасова і польскім каралём несумненна садзейнічала ўсё большаму падначаленню ВКЛ Польшчы. Менавіта гэта паўтаравяковая традыцыя і дала падставу польскім вярхам здзейсніць канчатковую унію, якая б задаволіла эканамічныя і рэлігійныя інтарэсы польскіх магнатаў. Ім ужо было цесна ў межах самой Польшчы, і яны праглі набыць у ВКЛ новыя землі для сваіх маёнткаў, новых пасадаў, адчыніць там новыя касцёлы і кляштары для большага пашырэння каталіцтва. Нездарма ж у сярэдзіне XVI ст. маюць месца шматлікія набегі польскіх і мазавецкіх феадалаў з іх войскамі на заходнія землі ВКЛ з мэтай іх абрабавання.

Вось чаму пытанне аб канчатковым аб'яднанні ВКЛ з Польшчай усё больш набывала сваю злабадзённасць для апошняй. Гэта яскрава было бачна ўжо на Петракоўскім сойме 1550 г., дзе гаварылася аб неабходнасці заключэння уніі і правядзення агульных соймаў. Хоць гэта прагучала толькі дэкларацыйнай заявай, аднак чым далей, тым гучней і больш настойліва гучалі не толькі гэтыя, але і новыя патрабаванні. Так, у 1551 г. на сойме ў Вільні польскія паслы ўжо высоўвалі патрабаванні далучэння да Польшчы Падляшша, Валыні, Кіева і




*Люблінская унія.*
*«Ілюстраваная Хроніка палякаў»*

Северскай зямлі. Вось гэта і з'яўлялася галоўным, дзеля чаго патрэбна было заключэнне уніі. Пра тое ж самае, але яшчэ з большым імпэтам гаварылася і на Кракаўскім сойме 1553 г. Пытанне аб уніі, якое навязвалася польскім бокам, непакоіла шырокія слаі грамадства, яно стала прадметам вострай палемікі сярод публіцыстаў Польшчы і ВКЛ. Калі першыя, напрыклад, сцвярджалі, што ВКЛ з'яўляецца ўладаннем Польшчы, падораным ёй у свой час Ягайлам, то другія, адстойваючы незалежнасць сваёй дзяржавы, паказвалі небяспеч-

насць аб'яднання з суседняй краінай, дзе пануюць свавольства і распушчанасць нораваў[152].

Калі да Лівонскай вайны ішлі толькі размовы аб уніі, якія насілі дэкларацыйны характар, як прапагандысцкая акцыя польскіх вярхоў і каталіцкага духавенства, то пасля страты ВКЛ значнай тэрыторыі, захопленай рускім царом, пытанне аб аб'яднанні дзвюх дзяржаў набывае ўжо афіцыйны характар. Гэта ўпершыню выявілася на Варшаўскім сойме 1563 г., дзе фактычна польскімі пасламі было пастаўлена патрабаванне поўнага зліцця ВКЛ з Польшчай. Насуперак гэтаму паслы ВКЛ, якіх узначальваў Мікалай Радзівіл Чорны, разумеючы немагчымасць барацьбы ў адзіночку з усходнім суседам, згаджаліся толькі на саюз з Польшчай пад уладай аднаго гаспадара, што, вядома, не магло задаволіць польскі бок.

Для заахвочвання да уніі былі пушчаны ў ход розныя абяцанні. Так, дробная шляхта магла разлічваць на ўраўнаванне яе ва ўсіх правах з магнатамі. А ў 1563 г. быў нават выдадзены прывілей, які даваў праваслаўнай шляхце тыя ж самыя правы, што мела ўжо каталіцкая шляхта[153]. Зразумела, што гэта павінна было перацягнуць на бок прыхільнікаў уніі і праваслаўную шляхту.

Аднак трэба прызнаць, што, нягледзячы на розныя заахвочванні, ні ў магнатаў, ні ў шляхты ВКЛ не было асабістага жадання аб'ядноўвацца з Польшчай. Толькі сумныя вынікі Лівонскай вайны прымушалі іх ісці на пэўныя ўступкі. Таму польскія вярхі, бачачы гэта, перайшлі да больш жорсткіх метадаў уздзеяння. У 1564 г. Жыгімонт II Аўгуст, вядома ж, па жаданні свайго акружэння, выдаў дэкларацыю, паводле якой ён адмаўляўся ад свайго спадчыннага права на землі ВКЛ на карысць Польшчы. І гэта выклікала вялікія пярэчанні з боку дзяржаўных людзей ВКЛ, якія зусім слушна сцвярджалі, што іх краіна не з'яўляецца вотчынай вялікага князя, бо ён выбіраўся народам для служэння ёй. Не магло супакоіць грамадства ВКЛ і далейшае тлумачэнне названай дэкларацыі як толькі адрачэнне Жыгімонта II Аўгуста ад тытула вялікага князя.

Ініцыятары уніі і непасрэдна звязанай з ёй паланізацыі не маглі не разумець той вялікай перашкоды для ажыццяўлення іх мэтаў, якой з'яўлялася беларуская мова. Добра бачачы, што яна панавала ўва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыц-

ця ВКЛ, польска-каталіцкія дзеячы пачалі ўсё рабіць для таго, каб пазбавіць яе такога вялікага значэння. У гэтых адносінах і тады прымянялі метады накшталт сённяшніх рэферэндумаў. Так, на адным са сходаў шляхты, якая ў сваёй масе была малапісьменнай ці наогул непісьменнай, было прынята рашэнне прасіць урад, каб усе дакументы для іх пісаліся на лацінскай ці польскай мове, але не на беларускай[154].

Як і ў ранейшыя аналагічныя часы, так і зараз, польскія вярхі імкнуліся не ўпусціць вельмі спрыяльных умоў для заключэння уніі, а яны зараз перш за ўсё вызначаліся цяжкімі наследкамі Лівонскай вайны. Баючыся не ўпусціць такі момант, Жыгімонт II Аўгуст, выконваючы жаданне свайго акружэння, не скупіўся на абяцанні і паслам ВКЛ, якія прыбудуць на агульны сойм, дзе будзе вырашана пытанне аб уніі. Гэта і запэўніванне, што іх не будуць прымушаць да уніі і што яны могуць свабодна пакінуць сойм у выпадку нязгоды на унію, і гарантаванне таго, што ў выніку прыняцця яе ВКЛ будзе мець аднолькавыя правы з Польшчай пад уладай аднаго гаспадара, і згода дапамагчы ВКЛ з боку Польшчы ў Лівонскай вайне.

Паслы ВКЛ не выступалі супроць уніі, якая б была раўнапраўным саюзам дзвюх дзяржаў і прыбылі на Люблінскі сойм, які пачаўся 10 студзеня 1569 г. І ўжо ў пачатку яго яскрава выявілася імкненне польскіх феадалаў заключыць унію, у выніку якой ВКЛ перастала б існаваць як дзяржава. Гэта нібыта грунтавалася на раней заключаных уніях, з чым паслы ВКЛ выказвалі сваю нязгоду і адмовіліся падпісаць такую ўмову. Не дапамагла і заява Жыгімонта II Аўгуста, якую ён зрабіў па жаданні польскіх прадстаўнікоў да паслоў ВКЛ. У ёй кароль папярэджваў іх, што ім не будзе прапанавана нічога іншага і што яны павінны згадзіцца з тым, што ад іх ужо патрабуецца. Аднак гэта і іншы ціск не падзейнічалі на паслоў ВКЛ, і яны 1 сакавіка адмовіліся ўдзельнічаць у сойме і пакінулі Люблін.

І вось для гэтага, па сутнасці, адбылося галоўнае, дзеля чаго склікаўся Люблінскі сойм. А менавіта 5 сакавіка таго ж года каралём было прынята рашэнне аб адняцці ад ВКЛ спачатку беларускага Падляшша, а пасля і ўкраінскіх земляў: Валыні, Падолля і Кіеўшчыны. Мы ўжо ведаем, што Польшча даўно прэтэндавала на гэтыя багатыя ўрадлівыя землі, з-за якіх не-



КАТИХИЗІСЪ
ТО ЕСТЪ,
НАУКА СТАРОДАВНАЯ ХРІСТІЯНЬ
СКАЯ Ѡ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРО
СТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУ:
СКОГО, ВЪ ПЫТАНІЯХЪ И Ѡ.
КАЗѢХЪ СЪБРАНА.

Ѡ ПЕРЪВАГО СВЕТОГО АПОСТОЛА
Петра посланія Зачало ѯ҃.
Готови присно къ ѿвѣту всякому въпрошающимъ вы,
слово ѡ вашемъ уповании съкростостію и страхомъ,
совѣсть имающе благу и прочая.

*«Катэхізіс» Сымона Буднага. Нясвіж, 1562 г.*




*Помнік Сымону Буднаму ў Нясвіжы. Скульптура С. Гарбуновай*

аднаразова ўзнікалі канфлікты паміж ёй і ВКЛ, як гэта, напрыклад, было пры Свідрыгайле. І вось цяпер, калі адрэзваліся ад ВКЛ украінскія землі, у свой час далучаныя Гедзімінам і Альгердам, тэрыторыя дзяржавы змяншалася больш чым у два разы. А з гэтым трацііся вялікія багацці і вайсковая магутнасць. Менавіта апошняе асабліва было балючым для ВКЛ, калі войскі Івана Грознага авалодалі Полацкам і для барацьбы з імі былі патрэбны вялікія сілы. Нездарма ж Мікалай Радзівіл Рыжы сказаў на Люблінскім сойме: «На нашым хрыбце быў непрыяцель, калі мы ад'язджалі сюды»[155]. Цяжкія вынікі Лівонскай вайны і былі найбольш выкарыстаны Польшчай, каб прымусіць ВКЛ пайсці на падпісанне Люблінскай уніі. Апроч таго, паслы ВКЛ былі запалоханы пагрозай канфіскацыі іх маёнткаў, калі яны не вернуцца на сойм. Вядома ж, у падпісанні уніі была зацікаўлена і частка акаталічанай шляхты, якая спадзявалася на ўраўнанне яе правоў з магнатамі, як было ў Польшчы. Усё гэта і прымусіла паслоў ВКЛ 1 ліпеня 1569 г. падпісаць Люблінскую унію, якая была аформлена ў выглядзе прывілею. Паводле яго, дзве дзяржавы канчаткова зліваліся ў адзінае і непадзельнае цэлае[156]. Адзінства яе падкрэслівалася адзінствам яе кіраўніка, які абіраўся зноў-такі агульным соймам і каранаваўся толькі ў Кракаве. Гэта ўсё найперш і гарантавала дамінуючае значэнне Польшчы ў гэтай дзяржаве, якая стала называцца Рэччу Паспалітай і якая фармальна лічылася федэрацыяй, паколькі яшчэ захоўваўся тытул вялікага князя. ВКЛ мела сваю асобную казну і войска.

Так закончыўся Крэўскі перыяд, які цягнуўся амаль два стагоддзі і які быў адным з найцяжэйшых у нашай гісторыі. Калі папярэдні Віленскі перыяд характарызаваўся вялікім ростам тэрыторыі, то гэты перыяд, хоць напачатку, у час княжання Вітаўта, таксама вызначаўся гэтым, аднак у далейшым яго найбольш характарызавала змяншэнне тэрыторыі дзяржавы спачатку ў карысць Масквы, а ў самым канцы ў карысць Польшчы. Усё гэта суправаджалася шматлікімі войнамі, якія перш за ўсё наносілі велізарную шкоду Беларусі, на тэрыторыі якой яны найбольш і адбываліся.

І ўсё ж, нягледзячы на такія выключна неспрыяльныя абставіны, гэты перыяд, асабліва ў XVI ст., увайшоў у нашу гісторыю як «залаты век» нашай беларускай культуры. Яскравае сведчанне гэтаму — пануючае значэнне беларускай мовы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці, беларускае пісьменства і кнігадрукаванне, прадстаўленае такімі выдатнымі імёнамі, як Ф. Скарына, С. Будны, В. Цяпінскі, такімі прававымі дакументамі, як Статуты 1529 і 1566 г., падобных якім у той час не было і ў Еўропе. Усё гэта паказвае, што ВКЛ мела выразнае беларускае аблічча. Вось чаму польскія ўлады пасля Люблінскай уніі з мэтай ліквідацыі рэшткаў дзяржаўнасці ВКЛ галоўны ўдар накіравалі супроць усяго беларускага. Асабліва ў цяжкім становішчы аказалася беларуская мова, якая пачала выцясняцца з усіх сфераў дзяржаўнага жыцця, усяляк ганьбіцца і прыніжацца. Менавіта з гэтага часу і бярэ пачатак заўзятая беларусафобія, зневажанне ўсяго беларускага з боку польска-каталіцкага асяроддзя, што і прывяло ў 1696 г. да забароны беларускай мовы ў афіцыйнай сферы. Жорсткая паланізацыя Беларусі працягвалася і пасля падзелу Рэчы Паспалітай ужо ў складзе Расійскай імперыі. І толькі пасля задушэння паўстання 1830 — 1831 гг. яна замянілася царскімі ўладамі не менш небяспечнай русіфікацыяй. Аднак, нягледзячы на гэта, беларусы, будучы аб'ектам паланізацыі, русіфікацыі, пазбаўленыя сваёй дзяржаўнасці, асветы, друку і царквы, працягвалі «без шуму і гвалту», як зазначыў у канцы мінулага стагоддзя гісторык А. Качубінскі, асіміляваць балцка-літоўскае насельніцтва. Гэта яшчэ адно вельмі красамоўнае сведчанне выключнай жыццяздольнасці беларускага народа, што дало яму магчымасць у невера-

годна жорсткіх умовах узрадзіцца да нацыянальнага жыцця, да аднаўлення сваёй дзяржаўнасці, якая з найбольшай выразнасцю выявілася ў часы ВКЛ.

---

[1] Юхо Я. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С.79–80.

[2] Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства. Петроград, 1915. С.42—46

[3] Брянцев П.Д. История Литовского государства. Вильно, 1889. С.203—205.

[4] Хроника Быховца. М., 1966. С.65—67.

[5] Юхо Я. Указ.кн. С.84—86.

[6] Stryjkowski M. Cronika... T.11. C.72.

[7] Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). Т.32. М., 1975. С.65.

[8] Тамсама. С.144.

[9] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.1. Мн., 1959. С.99.

[10] Хроника Быховца. С.133.

[11] Русско-Ливонские акты. СПБ, 1888. С. 81—82.

[12] Хроника Быховца. С. 68.

[13] ПСРЛ. Т.32. С. 65.

[14] Хроника Быховца. С. 68.

[15] Daniłowicz I. Skarbec dyplomatów. Wilno,1860. T.1, № 519. C. 260.

[16] Хроника Быховца. С. 67—68.

[17] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.1. С. 101—102.

[18] Псковские летописи. Вып.1. М. Л., 1941. С. 24.

[19] Daniłowicz I. Указ.кн. Т.1. № 542. С. 267—268.

[20] Dlugoss Y. Historia Polonicae. Crakowae, 1876. T.111. C. 477.

[21] Хроника Быховца. С. 68.

[22] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 5, 69

[23] История Ливонии. Рига, 1886. Т.II. С. 415.

[24] Голубинский Е. История русской церкви. Спб, 1901. Т. I. С. 177.

[25] История Ливонии. Т.II. С. 416.

[26] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.I. С. 101—102.

[27] Хроника Быховца. С. 72

[28] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.I. С. 102

[29] Татищев В. История Российская. Т.I. С. 357, 440. Т.II. С. 311.

[30] Хроника Быховца. С.69.

[31] Тамсама. С.68.

[32] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.I. С.103.

[33] Хроника Быховца. С.1.

[34] Тамсама.
[35] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.I. С.106—107.
[36] Хроника Быховца. С.71.
[37] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.I. С.103—104.
[38] Хроника Быховца. С.71.
[39] Тамсама. С.72.
[40] Тамсама.
[41] Тамсама. С.73.
[42] Тамсама.
[43] Тамсама.
[44] Тамсама. С.72—73.
[45] Тамсама. С.74.
[46] Тамсама.
[47] История Ливонии. Т.II. С.428—429.
[48] Записки Имп. Новороссийского университета. Т.II. Вып. I—6. Одесса, 1868. С.3.
[49] Тамсама. С.26.
[50] Тамсама. С.30.
[51] ПСРЛ. Т. 17. С. 47.
[52] Тамсама.
[53] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд. С. 57—58.
[54] ПСРЛ. Т. 17. С. 48.
[55] Даніловіч І. Скарбец. Т. 1. С. 302.
[56] БЭФ. Т. 1. С. 109.
[57] Тамсама.
[58] Хроника Быховца. С. 75.
[59] Дашкевич Н. Заметки по истории Литовского г-ва. Киев, 1885. С. 126
[60] ПСРЛ. Т. 17. С. 50—51.
[61] Псковские летописи. Вып. 2. М., 1955. С. 31.
[62] Тамсама. С. 32.
[63] ПСРЛ. Т. 3. СПб, 1841. С. 103.
[64] Истории Ливонии. Т. 2. С. 440—441.
[65] БелСЭ. Мн., 1971. Т. 4. С. 45—46.
[66] История Ливонии. Т. 2. С. 455—456.
[67] Хроника Быховца. С. 78—80.
[68] Брянцев П. История Литовского г-ва. Вильно, 1889. С. 246.
[69] Хроника Быховца. С. 81.
[70] Юхо Я. Цыт. кн. С. 92—93.
[71] БЭФ. Т.1. С. 115.
[72] Брянцев П. Цыт. кн. С. 208.
[73] Псковские летописи. Вып. 1. С. 36—37.
[74] Тамсама. С. 38.
[75] Хроника Быховца. С. 82.

[76] Тамсама. С. 85.
[77] Тамсама.
[78] Тамсама. С. 86.
[79] Белоруссия и Литва. СПб, 1890. С. 116.
[80] ПСРЛ. Т.17. С. 531.
[81] Тамсама.
[82] Тамсама. С. 532—533.
[83] Тамсама. С. 533.
[84] Хроника Быховца. С .93.
[85] Тамсама. С.90—91.
[86] Тамсама. С.94—96.
[87] Тамсама. С.96.
[88] БЭФ. Т.І. С.124—127.
[89] Тамсама. С.128—131. Юхо Я. Цыт.кн. С.161—163.
[90] Хроника Быховца. С.103.
[91] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С.158.
[92] Тамсама. С.151, 167, 173, 175.
[93] Хроника Быховца. С.105—106.
[94] ПСРЛ. Т.XII. М., 1965. С.234.
[95] Тамсама. С.237.
[96] Тамсама. С.238.
[97] Гордеев Ф. К вопросу происхождения гидронима «Москва» // Всесоюзная конференция по топонимике СССР. Л., 1965. С. 100—101.
[98] ПСРЛ. Т.XII. С.238.
[99] Тамсама. С.251.
[100] Тамсама. С.252.
[101] Тамсама.
[102] Акты Западной Руси (АЗР). Т.І. № 188.
[103] Хроника Быховца. С.115.
[104] Брянцев П. Цыт. кн. С.311.
[105] Хроника Быховца. С.119.
[106] Тамсама. С.122—124.
[107] Соловьев С. История России. Т.VI. М., 1838. С.313—314.
[108] АЗР. № 15—16.
[109] Русский временник. Т.II. С.261.
[110] ПСРЛ. Т.XIII. С.8.
[111] АЗР. Т.II. № 60, 62, 66, 74.
[112] ПСРЛ. Т.XIII. С.15.
[113] Тамсама.
[114] Тамсама.
[115] Тамсама.
[116] Тамсама. С.18—20.
[117] Тамсама. С. 20—21.

[118] Тамсама. С.21.
[119] ПСРЛ. Т.XVII. С.403—404; ПСРЛ. Т.XIII. С.22.
[120] ПСРЛ. Т.XIII. С.26.
[121] Тамсама. С.250026.
[122] Соловьев С. Цыт.кн. С.337.
[123] ПСРЛ. Т.XIII. С.26—27.
[124] Тамсама. С.34—35.
[125] Юхо Я. Цыт кн. С.163.
[126] ПСРЛ. Т.XIII. С.79.
[127] Тамсама. С.78 —79.
[128] Тамсама. С.80.
[129] Тамсама. С.80—81.
[130] Тамсама. С.82.
[131] Тамсама. С.83.
[132] Тамсама. С.85—86.
[133] Тамсама. С.87.
[134] Тамсама. С.88.
[135] Тамсама.
[136] Тамсама. С.89.
[137] Энцикл. «Гісторыя Беларусі». Т.II. Мн.,1994. С.55.
[138] ПСРЛ. Т.XXXII. С.17—19.
[139] ПСРЛ. Т.XVII. С.230.
[140] Беларусь: Энцыкл. даведнік. Мн., 1995. С. 155.
[141] Юхо Я. Цыт.кн. С.84—121.
[142] ПСРЛ. Т.XIII. С.258.
[143] Тамсама.
[144] Тамсама. С.262-- 264.
[145] Тамсама. С. 286—287.
[146] Тамсама. С.352.
[147] Тамсама. С.353.
[148] ПСРЛ. Т. XVII. С.292—293.
[149] ПСРЛ. Т.XIII. С.362—363.
[150] Тамсама. С.373.
[151] Тамсама. С.371.
[152] Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С. 96—97.
[153] Белоруссия в эпоху феодализма. Т.I. С.141—143.
[154] Юхо Я.А. Цыт. кн. С.127.
[155] Доўнар-Запольскі М.В. Цыт.кн. С.151—152.
[156] БЭФ. С. 151—152.

# ПЕРЫЯД РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (1569—1795)



# ЧАС БЕСКАРАЛЕЎЯ

З заключэннем Люблінскай уніі ў 1569 г. закончыўся ў нашай гісторыі перыяд уній, што цягнуўся ад Крэўскай уніі 1385 г. і наступіў новы перыяд — перыяд Рэчы Паспалітай... Такую назву атрымала дзяржава, у якой аб'ядналіся Польшча і Вялікае княства Літоўскае.

Здавалася б, утварэнне такой буйной дзяржавы, якая раскінулася «ад мора да мора» (маецца на ўвазе ад Балтыйскага да Чорнага), дасць ёй магчымасць стаць адной з магутнейшых у Еўропе. Аднак такое не адбылося. І гэта не было выпадковым. Па-першае, гэта аб'яднанне, якое ж да таго насіла прымусовы характар для насельнікаў ВКЛ, не толькі пазбавіла, але яшчэ больш абвастрыла ў аб'яднанай дзяржаве ўнутраныя супярэчнасці паміж рознымі грамадскімі пластамі. Па-другое, тэрыторыя Рэчы Паспалітай па-ранейшаму заставалася арэнай даволі жорсткіх і працяглых войнаў, накіраваных як супроць яе самой, так і супроць суседніх дзяржаў. Таму непазбаўленая ад ранейшых унутраных і знешніх цяжкасцей Рэч Паспалітая праз два стагоддзі і аказалася расцягнутай па кавалках паміж сваімі сквапнымі на чужыя тэрыторыі суседнімі дзяржавамі.

І цяжкасці пачаліся адразу. Ужо раней, як мы помнім, смерць караля Польшчы і адначасова вялікага князя ВКЛ выклікала абвастрэнне супярэчнасцей у Польшчы і ВКЛ, а таксама і паміж імі. Тое ж самае, але яшчэ ў больш абвостранай форме адбылося пасля смерці ў 1572 г. караля і вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста. З ім і закончылася дынастыя Ягелонаў, паколькі ён быў бяздзетны. Як бачым, існаванне гэтай дынастыі супала з аб'яднаннем ВКЛ з Польшчай. Калі заснавальнік гэтай дынастыі Ягайла ў 1385 г. пачаў справу аб'яднання, то пры

апошнім Ягелоне яна была закончана. Прадбачанне спынення дынастыі Ягелонаў таксама ў ліку іншага прымушала польскія ўлады хутчэй ажыццявіць канчатковае аб'яднанне ВКЛ з Польшчай. Яны баяліся, што з заканчэннем гэтага каралеўскага роду, пры якім аб'яднанне пачалося і ішло, можа раптоўна абарвацца пры новым каралі.

Як і заўсёды, у час абрання новага караля кожная больш-менш палітычная сіла імкнулася ўзвесці на пасад свайго стаўленіка. Як ужо нам вядома, асабліва ва ўмовах Рэчы Паспалітай палітычнае жыццё было шчыльна звязана з інтарэсамі канфесій, асноўнымі з якіх былі каталіцкая, праваслаўная і пратэстанцкая. Менавіта паміж імі і разгарнулася перадвыбарная барацьба. Трэба адзначыць, што асабліва абвостранае ў гэты час было саперніцтва паміж католікамі і пратэстантамі. І гэта зразумела. Рэлігійная вайна, якая захапіла ў той час Еўропу, усё больш пагражала каталіцызму, адрываючы ад яго вялікую колькасць насельніцтва ў карысць пратэстанцтва, якое набыло значныя памеры. Пасля аслаблення Ордэна і асабліва пашырэння ў ім лютэранства, Польшча стала найбольшай апорай каталіцызму на Усходзе. Так на Польшчу глядзела і Рымская курыя і таму аказвала ёй усялякую падтрымку. Менавіта ў гэты час каталіцызм трывала ўмацаваўся ў Польшчы, што нямала спрыяла ўзмацненню польскага ўплыву ў суседніх народаў, у тым ліку і беларускага.

Дзеля больш паспяховай барацьбы з пратэстанцтвам рымскі папа Пій V паслаў у Польшчу свайго адмысловага пасла Камендоне. Праўда, пратэстанцтва ў гэты час у Польшчы і ВКЛ пачало слабець. Як вядома, у Беларусі на чале пратэстанцкага руху стаялі стрыечныя браты Радзівілы — Мікалай Чорны і Мікалай Руды. Асабліва вызначаўся ў гэтым першы з іх, які меў вялікае ўладаранне ў Нясвіжы. Аднак у 1565 г. ён памёр, што з'явілася цяжкім ударам для пратэстантаў, якія пазбавіліся свайго натхніцеля і кіраўніка. Разам з гэтым аслабленню пратэстанцтва садзейнічала з'яўленне ў ім розных плыняў, у тым ліку і такой радыкальнай, як антытрынітарызм, прыхільнікі якога адмаўлялі дагмат Тройцы ў хрысціянскай рэлігіі. Да слова, такім ідэолагам у гэтай плыні ў Беларусі з'явіўся Сымон Будны, адзін з прадаўжальнікаў у нас друкарскай справы Ф. Скарыны.

І ўсё ж пратэстанцтва было яшчэ моцным. Гэта трэба было ўлічваць, асабліва па той прычыне, што пратэстанты займалі трывалыя пазіцыі ў сенаце і, зразумела, мелі важкі голас пры абранні новага караля. Вось чаму віленскі біскуп Валеры Пратасевіч запрашае ў Вільню езуітаў — гэту ўдарную сілу каталіцызму. Тут быў створаны іх калегіум, адчыніліся школы, у якіх навучанне было накіравана як выхаванне адданасці каталіцкай веры. З'яўленне езуітаў у ВКЛ азначала эпоху больш рашучага наступлення і пашырэння каталіцтва. Цалкам зразумела, што каталіцтва рабіла ўсе намаганні, каб на каралеўскі пасад быў абраны яго прэтэндэнт. І ў гэтых адносінах папскі легат Камендоне асабліва актывізаваў сваю дзейнасць. Найперш у асяроддзі магнатаў. Ён, па-першае, рабіў намаганні для прымірэння католікаў і, па-другое, для распальвання варожасці паміж пратэстантамі.

Але не менш моцнай была ініцыятыва выбрання на пасад польскага караля і вялікага князя ВКЛ маскоўскага цара Івана Грознага. Пры гэтым яго кандыдатуру падтрымлівала не толькі рада ВКЛ, але і рада Польшчы. Калі для першай, праваслаўнай, важна было бачыць на пасадзе адзінаверца, то для другой больш прывабным было багацце маскоўскага цара, якім бы ён, стаўшы польскім каралём, падзяліўся б і з імі. Аднак усе добра ведалі жорсткае абыходжанне Івана Грознага са сваімі баярамі і таму рашылі некалькі змяніць свой намер, а менавіта запрасіць на свой пасад не самога маскоўскага цара, а яго сына Фёдара. У Маскву быў адпраўлены ганец Варапай, які паведаміў Івану Васільевічу аб смерці Жыгімонта II Аўгуста і аб прапанове выбраць на пасад царэвіча Фёдара. Аднак з доўгага адказу Івана Грознага было найперш бачна, што ён сам хацеў бы ўсесціся на пасад польскага караля і вялікага князя ВКЛ. Ён згаджаўся і на заключэнне міру, нават абяцаў вярнуць Полацк, але з умовай, калі яму будзе аддадзена частка Лівоніі, якая належала Рэчы Паспалітай. У заключэнні Іван Грозны прасіў Варапая перадаць панам радным аб прызначэнні да яго вялікіх паслоў, якія б вялі перамовы пра яго выбранне на пасад польскага караля і вялікага князя[1]

Аднак з прычыны таго, што польская рада затрымлівала згоду на далейшыя перамовы з Іванам Грозным, рада ВКЛ толькі праз шэсць месяцаў, у пачатку 1573 г., паслала да яго

свайго ўпаўнаважанага Міхаіла Гарабурду. Ён перш за ўсё апраўдваў затрымку з прычыны маравой пошасці, якая лютавала ў яго краіне. Пасля гэтага паведаміў маскоўскаму цару пра жаданне паноў рады ВКЛ бачыць ці яго самога, ці яго сына Фёдара на пасадзе караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ. Аднак пры гэтым выкладалася ўмова, каб пры сваім абранні ён ці яго сын далі гарантыю не парушаць шляхецкіх правоў і вольнасцяў, а таксама вярнуць ВКЛ гарады Смаленск, Полацк, Усвяты і Азярышча. А калі каралём стане Фёдар, то бацька павінен даць яму яшчэ ў прыдачу некалькі воласцей. Як бачым, паны радныя ВКЛ, запрашаючы на свой пасад маскоўскага цара ці яго сына, мелі на мэце задавальненне сваіх дзяржаўных інтарэсаў, найперш вяртанне ім забраных Масквой гарадоў і воласцей. Але калі наконт захавання вольнасцей і правоў Іван Грозны згаджаўся як са справай зразумелай, то вяртанне гарадоў ён назваў «пустой справай», бо, як ён казаў, добрая дзяржава не змяншае, а павялічвае сябе. Цар згаджаўся аддаць на пасад Рэчы Паспалітай свайго сына, але з умовай, што Польшча і ВКЛ аб'яднаюцца з Масквой і каб у тытуле Фёдара найперш называлася каралеўства Маскоўскае, а пасля Карона Польская і ВКЛ. Апроч таго, выказвалася патрабаванне аддаць Кіеў. Праўда, Полацк і Курляндыю ён згаджаўся аддаць ВКЛ узамен на частку Лівоніі, якая знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай.

Заслугоўвае нашй увагі тое, што Іван Грозны адмаўляўся ад ранейшых прэтэнзій Масквы на землі да Дняпроўскай Бярэзіны. Менавіта ў той час існавала ўяўленне, што мяжа Літвы з рускімі землямі ішла па Бярэзіне Дняпроўскай. Сапраўды, такая мяжа была, але не па Дняпроўскай, а па Нёманскай Бярэзіне, у даўнія часы па якой ішла мяжа паміж летапіснай Літвой і Полацкім княствам, пра што яскрава сведчыць тапаніміка. Вёскі Палачаны і Літва размешчаны блізка адна каля адной, але па розныя берагі Нёманскай Бярэзіны. Пра гэта сведчыць і тое, што ўздоўж паўночнага (полацкага) боку Бярэзіны маюцца такія паселішчы, як Гарадок, Гарадзілава, Гарадзечна, Гародзькі, назвы якіх гавораць, што ў даўнія часы тут былі полацкія ўмацаванні. Вось гэта Бярэзіна, якая была менш вядомай і была зблытана з Дняпроўскай Бярэзінай, якая з'яўлялася больш вядомай Маскве, паколькі яе войскі шмат

разоў яе пераходзілі. Але ў заключэнне свайго адказу Гарабурду Іван Грозны выказаў жаданне, каб ён сам, а не яго сын, быў абраны на каралеўскі пасад. На гэта Гарабурда заўважыў, што Івану Васільевічу будзе цяжка ажыццяўляць кіраўніцтва такой дзяржаваю, паколькі для гэтага трэба будзе ўвесь час пераязджаць з адной у іншую, а таксама, што, выбраны на каралеўскі пасад, ён павінен будзе прыняць рымскую веру. Але гэта было аспрэчана Іванам Грозным. Трэба асабліва адзначыць яшчэ адну прапанову, якую ён зрабіў двойчы. А менавіта: што калі пажадаюць паны радныя абраць яго толькі на велікакняжацкі пасад без Кароны Польскай, то ён гэтаму будзе яшчэ больш рады, паколькі ён хацеў бы гэтыя дзве дзяржавы «трымаць за адно»[2].

Трэба ўлічваць, што для ВКЛ у той час так склаліся абставіны, што яму, княству, можна было выбіраць толькі паміж большым і меншым злом. І наша тагачасная дзяржава, заключыўшы Люблінскую унію, выбрала апошняе, г.зн. меншае, бо, як мы бачым, яна магла б аб'яднацца і з Масквой, што, несумненна, для таго часу было б большым злом для яе. Сапраўды, калі аб'яднанне з Польшчай, краінай меншай па памерах, абышлося для нашых продкаў толькі адабраннем ад нас вярхоў грамадства, якія складалі меншую частку народа, а большасць якога засталася некранутай, што і дало магчымасць беларусам не загінуць і ўзрадзіцца, то аб'яднанне з Масквой, дзяржавай вялікай па памеры, прынесла б нам поўнае перамолванне нашага народа ў жорсткіх умовах маскоўскай палітыкі і русіфікацыі. І зараз бы пра Беларусь не было б і напаміну. Яскравы прыклад гэтаму — Наўгародская зямля. Яна была адным з буйнейшых усходнееўрапейскіх дзяржаўных утварэнняў, мела свой дыялект, які адзначаўся яшчэ ў XIX ст. Аднак, рана заваяваная Масквой, яна паступова траціла сваю асобнасць, тыповы для яе рэспубліканскі лад, што адзначалі і адзначаюць і рускія гісторыкі, быў задушаны маскоўскім самадзяржаўным ладам, яе дыялект не змог развіцца ў самастойную мову, і ён, Вялікі Ноўгарад, паступова растварыўся ў Расійскай імперыі, страціў магчымасць свайго дзяржаўнага адраджэння. Вось такі б самы лёс чакаў бы і Беларусь, калі б яна ў гэты час аб'ядналася з Масквой, як прапаноўваў Іван Грозны. Аднак гэтага не адбылося.

З прычыны таго, што Іван Грозны настойваў на сваіх умовах, на тым, што ён сам жадаў быць абраным на каралеўскі ці велікакняжацкі пасад, — усё гэта паслабляла маскоўскую партыю ў выбарчай гонцы. Апроч таго, Іван Грозны не пасылаў сваіх паслоў у Рэч Паспалітую, якія б павінны былі расхвальваць яго і раздаваць шчодрыя падарункі кіруючым колам. Не мелі поспеху і кандыдатуры аўстрыйскага імператара Максіміліяна і яго сына Эрнеста. У выніку аслаблення прамаскоўскай і прааўстрыйскай партый і быў выбраны каралём Генрых Анжуйскі — брат французскага караля Карла IX. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічаў французскі пасол Манлюк. У сваёй прамове на сойме ён не толькі расхвальваў свайго кандыдата ў каралі, але і сыпаў нямала кампліментаў Польшчы і палякам. Так, адзначыўшы, што палякі амаль нічым не адрозніваюцца ад французаў (гэта было намёкам на тое, што каралю-французу будзе няцяжка кіраваць палякамі), ён зазначыў, што Польшча з'яўляецца абаронаю хрысціянства (вядома ж, мелася на ўвазе каталіцкага).

Абранне француза каралём Рэчы Паспалітай асабліва ўстрывожыла пратэстантаў, што і зразумела, бо ў той час, а менавіта 28 жніўня 1572 г., адбылася так званая Варфаламееўская ноч, калі ў Парыжы і іншых французскіх гарадах адбылося масавае знішчэнне гугенотаў — тамтэйшых пратэстантаў. Вядома ж, пратэстанты Рэчы Паспалітай не маглі не прадбачыць і для сябе такой жахлівай перспектывы пры ўладзе брата таго французскага караля, пры якім адбылася такая страшная падзея.

Прыехаўшы ў Кракаў, Генрых быў каранаваны 18 лютага 1574 г.[3] Здавалася б, што з абраннем караля ў Рэчы Паспалітай усталюецца грамадскі спакой. Аднак такое не адбылося. Пратэстанты, па-ранейшаму не ўпэўненыя пра далейшы свой лёс, патрабавалі пацвердзіць свае правы, ад чаго Генрых ухіляўся. Гэта прыводзіла да хваляванняў у сойме. Па-ранейшаму паміж прыхільнікамі паасобных партый узнікалі спрэчкі, якія нярэдка заканчваліся забойствамі. І ўсю гэту сумятню не мог супакоіць Генрых, бо яго каранаванне фактычна было фармальным. Гэтаму садзейнічала і тое, што ён не ведаў ні польскай, ні беларускай мовы. Трэба асабліва адзначыць, што апошняя цвёрда ўмацавалася пры каралеўскім двары за час



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Генрых Валуа. З партрэта XVI ст.*

Ягелонаў. Першы з іх, Ягайла, стаўшы польскім каралём і не ведаючы польскай мовы, увесь час гаворачы па-беларуску, перавёз з Вільні ўсю сваю канцылярыю, якая карысталася беларускай моваю. І з гэтага часу беларушчына трывала прыжылася пры каралеўскім двары. Найперш дакументы, якія тычыліся ВКЛ, пісаліся пераважна па-беларуску. Гэтак было і пры Генрыху, пра што сведчыць напісаная ад імя яго 9 красавіка 1574 г. жалаваная грамата Жамойцкай зямлі[4]. Цікава звярнуць увагу і на тытул Генрыха, указаны ў гэтай грамаце. Ён названы тут як кароль Польскі, вялікі князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Мазавецкі, Жамойцкі, Кіеўскі, Валынскі, Падляшскі, Ліфляндскі і інш. Апроч гэтых, указаны і яго французскія тытулы. Як бачым, між іншым, тут жамойцкі тытул далёка не на першым месцы.

Вядома ж, няведанне рабочых моў прыраўнівала становішча Генрыха на сойме да становішча глухога ці нямога. Ён фактычна быў пешкай у руках соймавых груповак. І ў першую чаргу каталіцкай. Яму заставалася толькі марнаваць час у баляваннях і картачных гульнях, чаму ён з вялікай ахвотай і аддаваўся. Зразумела, што такое працягвацца доўга не магло, тым больш, што пачалі ўжо чуцца пагрозы скінуць Генрыха з каралеўскага пасада. Але гэтага не спатрэбілася, і развязка наступіла нечакана пасля некалькіх месяцаў недарэчнага каралявання Генрыха. Атрымаўшы вестку пра смерць свайго брата Карла IX, ён, упэўнены, што не будзе добраахвотна адпушчаны з Польшчы, таемна ноччу 27 ліпеня 1574 г. пакінуў яе[5]. Не змагла яго вярнуць і пагоня, пасланая наўздагон за ім. Ён не паддаўся на ўгаворы, паабяцаўшы толькі вярнуцца, калі дазволяць абставіны. Але такога не адбылося, і сойм праз не-

каторы час павінен быў прыступіць да абрання новага караля.

І вось у гэты час зноў набыў вялікі шанец быць абраным на каралеўскі пасад Рэчы Паспалітай Іван Грозны. Зноў — не толькі ў асяроддзі праваслаўных ВКЛ, але і ў польскім асяроддзі. Пра апошняе добра сведчыць зварот гнезненскага арцыбіскупа Ухманьскага, які быў самай уплывовай асобай у Польшчы, да самога маскоўскага цара. Ён раіў яму, каб быць абраным на каралеўскі пасад, не скупіцца на падарункі соймавым дэпутатам. Аднак даючы шчодрыя абяцанні паасобным уплывовым людзям, у тым ліку Ухманьскаму, Іван Грозны замоўчваў выкананне тых патрабаванняў, пры якіх ён мог толькі быць выбраны каралём. А гэта і рабіла яго кандыдатуру менш прывабнай, чым іншыя, прадстаўнікі якіх былі асабліва красамоўныя на шчодрыя абяцанні. У выніку ўсяго гэтага на каралеўскі пасад Рэчы Паспалітай быў абраны семіградскі князь Стэфан Баторый (у некаторых беларускіх летапісах ён называўся Сцяпанам Батурам). 18 красавіка 1575 г. ён прыбыў у Кракаў, дзе і быў каранаваны[6]. На гэтым і закончыўся час бескаралеўя. Дзяржаўная дзейнасць характарызавала С. Баторыя як чалавека з высокім палітычным розумам і цвёрдым характарам. Бясспрэчным з'яўляецца яго вялікі чалавечы, дзяржаўны талент і адміністратыўныя здольнасці.



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Стэфан Баторый. Гравюра XVI ст.*

## ПРАЦЯГ І ЗАКАНЧЭННЕ ЛІВОНСКАЙ ВАЙНЫ

Адным з абяцанняў С. Баторыя перад яго абраннем было адваяванне ўсяго захопленага Іванам Грозным у час Лівонскай вайны. А гэта цалкам адносілася да Беларусі, якая побач з вялікімі людскімі і эканамічнымі ахвярамі страціла і значную частку сваёй тэрыторыі. Лівонская вайна далёка яшчэ не закончылася, бо ў 1570 г. было толькі заключана перамір'е паміж Масковіяй і Рэччу Паспалітай. Але яно было нетрывалым і ў любы момант магло сарвацца з боку Масквы, якая не адмаўлялася ад намеру дасягнуць канчатковай перамогі.

Добра разумеючы гэта, С. Баторый 25 ліпеня 1576 г. выдае акружную грамату ваяводам і старастам ВКЛ пра гатоўнасць пачаць вайну з маскоўскім царом[7]. Каб быць падрыхтаванымі да яе, даецца распараджэнне пра збор грашовых падаткаў для аднаўлення ўскраінных замкаў і для аховы тамашніх межаў. Прымаюцца і іншыя меры, каб быць гатовымі да ўварвання ў ВКЛ «звыклага непрыяцеля»[8]. Так, дворнаму гетману Хрыстафору Радзівілу было загадана адправіцца з войскам у Лівонію, каб «... адпор непрыяцелю чыніў, а таксама аб хутчэйшым зборы ратных людзей»[9]. Сапраўды, перамір'е было парушана Масквой.

Выкарыстаўшы зручны момант, калі С. Баторый быў заняты ўціхамірваннем Данцыга, які патрабаваў для сябе большых правоў, Іван Грозны аднавіў наступленне на Лівонію. У пачатку 1577 г. маскоўскае войска было накіравана на Рэвель, але яго ўзяць не ўдалося. І вось летам таго ж года войска, якое выйшла з Ноўгарада і якое ўзначаліў сам Іван Грозны, уварвалася ў тую частку Лівоніі, што належала Рэчы Паспалітай. Яе невялікае войска, што было там, не магло супрацьстаяць шматлікаму маскоўскаму войску і адразу адступіла, не прыняўшы бою. Наступленне было паспяховым. Іван Грозны «...войском великим дошел до Инфлянтов и колко десять замков выборнейших побрал и опановал, где великое мородёрство москва и их татаре над немцами чинили, панов и паненок гвалтуюче, мужей в полон брали»[10].

Даведаўшыся пра ўсё гэта, С. Баторый звярнуўся да Івана Грознага з пасланнем, у якім папракаў яго за тое, што ён, пачаўшы вайну без аб'яўлення яе, забірае яго гарады. Маскоўскі

цар на гэта адказаў так: ён прыйшоў у Лівонію, бо гэта яго зямля. Ён згадзіўся прыняць паслоў, і яны (у іх ліку быў і менскі ваявода Мікалай Сапега) у пачатку 1578 г. прыбылі ў Маскву. Аднак перамовы да міру не прывялі, паколькі кожны бок вылучаў непрымальныя патрабаванні да другога боку. Так, Іван Грозны апроч Лівоніі і Полацка патрабаваў уступкі яму Кіева, Канева, Віцебска.

Для нас важна адзначыць адну акалічнасць: Іван Грозны ведаў пра паходжанне дынастыі вялікіх князёў літоўскіх ад дынастыі полацкіх князёў[11]. Сапраўды, як сведчыць Васкрасенскі летапіс, род вялікіх літоўскіх князёў вёў свой пачатак ад сыноў полацкага князя Расціслава — Давіла і Маўкольда, якіх вільняне ўзялі да сябе як сваіх князёў з Царграда, куды былі высланы ў 1129 г. полацкія князі. Іван Грозны, спасылаючыся на тое, што дынастыя Ягелонаў, якая была агульнай як для польскіх каралёў, так і вялікіх князёў літоўскіх, перастала існаваць, то цяпер і Польшча, і ВКЛ, якія страцілі сваіх законных гаспадароў, павінны належаць яму. Тым больш што Полацк, ад дынастыі князёў якога паходзіла агульная дынастыя, быў у яго руках.

Хоць і была дасягнута згода працягнуць перамір'е на тры гады, аднак яно не адбылося. Рэч у тым, што С. Баторый у гэты час закончыў сваю цяганіну з Данцыгам, які прысягнуў каралю на вернасць, атрымаўшы за гэта ад яго добрыя выгоды. Тым самым С. Баторыю былі развязаны рукі для барацьбы з Іванам Грозным.

На спецыяльным сойме, скліканым у лютым 1578 г. у Варшаве, і было вырашана пра вайну з Масковіяй. Тут жа была падлічана колькасць войска, якое спатрэбіцца для гэтага. Было таксама падлічана, у якія сродкі гэта абыдзецца, і таму назначаліся новыя паборы. Быў дадзены загад пра поўнае ўзбраенне для абароны Лівоніі і аб падрыхтоўцы ўскраінных замкаў для абароны[12]. Вядома, усё гэта патрабавала часу, і С. Баторый прадаўжаў праз сваіх паслоў весці перамовы з Іванам Грозным, нагадваючы апошняму, каб ён не пачынаў вайсковых дзеянняў да таго часу, калі яго паслы вернуцца ў Маскву. Аднак і з аднаго, і з другога боку паслы затрымліваліся. І ўсё гэта прыводзіла да зрыву перамір'я.

Ёсць сведчанні, якія паказваюць, што ад паноў і шляхты як Польшчы, так і ВКЛ не было жадання працягваць вайну, у асяроддзі іх нават была непавага да С. Баторыя і жыла надзея на выбранне каралём маскоўскага цара[13]. Для С. Баторыя гэта не было сакрэтам, і ён, рыхтуючыся да рашаючых бітваў, умацоўваў сваё войска выпрабаванай у баях наёмнаю пяхотай, якая пераважна складалася з венграў і немцаў. Не меншае значэнне мела і артылерыя, якая вельмі павялічвала баяздольнасць арміі. Быў таксама ўзяты курс на хуткі наступальны рух, што не давала магчымасці праціўніку ведаць, адкуль будзе зроблены на яго напад. Усё гэта, трэба сказаць шчыра, было важным укладам С. Баторыя ва ўмацаванне вайсковай сілы Рэчы Паспалітай.

Вялікае значэнне ў поспеху наступлення меў і выбар накірунку нанясення ўдару. На вайсковай радзе, якая адбылася ў ліпені 1579 г. пад Свірам (зараз гэта тэрыторыя Мядзельскага р-на Мінскай вобл.), адны выказвалі меркаванне, што трэба рухацца ў кірунку Пскова, іншыя — у кірунку Лівоніі. Аднак гэтыя прапановы былі адхілены С. Баторыем. Першая — таму, што ў тыле яго войска засталося б шмат непрыяцельскіх крэпасцей, з якіх была б зроблена перашкода атрымаць новыя падмацаванні. Паход праз Лівонію таксама не мог быць паспяховы, бо там знаходзілася шмат умацаванняў, якія б цяжка было пераадолець. І таму С. Баторый прапанаваў узяць курс на Полацк, які адначасова з'яўляўся ключом як да Лівоніі, так і да ўсяго ВКЛ. Калі такі намер і ў Рэчы Паспалітай для большасці быў нечаканы, то тым больш ён быў нечаканы для маскоўскага цара, які па-ранейшаму лічыў, што барацьба за Лівонію і павінна весціся на яе тэрыторыі, і таму паслаў вялікае войска туды. Аднак, абмежаваўшыся нарабаваным, яно павінна было вярнуцца назад, паколькі пагроза для яго ўзнікла ў іншым, нечаканым для яго месцы.

У пачатку жніўня 1579 г. войскі С. Баторыя падышлі да Полацка, і пачалася яго аблога. Наступіў зноў адзін з вырашальных момантаў у ходзе Лівонскай вайны. Калі захоп Масковіяй у 1563 г. Полацка стварыў грунт для яе далейшых поспехаў у Лівонскай вайне, то аблога і ўзяцце Полацка С. Баторыем былі прадвеснікамі канчатковай паразы Івана Грознага ў пачатай ім вайсковай кампаніі. Калі захоп Масковіяй По-

лацка азначаў для Беларусі страту значнай яе тэрыторыі, то вызваленне Полацка С. Баторыем азначала аднаўленне яе ранейшай цэласнасці.

Але як захоп Полацка, так і яго адваяванне было цяжкае і працяглае. У некаторых царска-расійскіх крыніцах адзначалася, што Полацк быў узяты С. Баторыем дзякуючы здрадам ваявод, якія ўзначальвалі абарону горада. Аднак у сапраўднасці маскоўскія ваяводы, замацаваўшыся з войскам у дубовай крэпасці, на працягу трох тыдняў моцна супраціўляліся. Гэтаму спрыяла і дажджлівае надвор'е, у выніку чаго войскам і асабліва абозам арміі С. Баторыя па гразкіх дарогах, што ў многіх месцах ператварыліся ў балота, цяжка было прасоўвацца да Полацка на дапамогу сваім, што, аблажыўшы горад, цярпелі ад голаду. Гэтак жа як маскоўскія войскі, высланыя Іванам Грозным на дапамогу сваім каля Полацка, не маглі прабрацца да яго, бо ўсе дарогі ім туды былі перарэзаныя, так і палкі Крыстафора Радзівіла і Яна Глябовіча не маглі прабрацца да гэтага горада, бо іх затрымлівала каля занятай крэпасці Сокал войска Івана Грознага. У такіх цяжкіх абставінах С. Баторый склікаў вайсковую раду, на якой адмовіўся ісці на штурм, бо ў выніку яго няўдачы, як асабліва адзначаў ён, прыйшлося б з сорамам адступаць. І было ім прапанавана другое выйсце. Як вядома, рускія войскі захапілі Полацк толькі тады, калі стральцам удалося ў некалькіх месцах запаліць сцяну. Так і зараз група венграў, якім была абяцана вялікая ўзнагарода, запаліла сцены горада, што выклікала вялікі пажар. У выніку двухдзённых цяжкіх баёў маскоўскі ваявода Валынскі вымушаны быў пайсці на перамовы пра здачу горада. Праўда, некаторыя іншыя ваяводы і епіскап Кіпрыян не хацелі здавацца і зачыніліся ў Сафійскім саборы, адкуль яны былі выбіты. «...и так Полоцко, славная столица князей давних з рук московских выдвергае есть»[14], адзначыў летапісец. Тыя, што здаліся, паводле папярэдняй умовы, атрымалі свабодны выхад з горада, частка з іх нават пажадала ўступіць у каралеўскае войска, а большасць з іх вярнулася ў Масковію. Вядома ж, жорсткія баі за Полацк як пры яго здачы, так і пры яго вызваленні прынеслі яму выключна вялікія разбурэнні. Адначасова Полацк панёс незваротныя культурныя і духоўныя страты. Гэта перш за ўсё адносіцца да багатай бібліятэкі, што знаходзілася ў



*Вызваленне Полацка войскамі Баторыя.*
*Гравюра XVI ст.*

Сафійскім саборы і дзе захоўваліся шматлікія кнігі, некаторыя з якіх былі напісаны рукой святой Ефрасінні Полацкай. Раней ці ў гэты час знік (загінуў? быў вывезены?) і Полацкі летапіс, з прычыны чаго нам сталі невядомы многія старонкі не толькі полацкай, але і ўсёй нашай беларускай гісторыі.

Адваяванне Полацка стала канчатковым момантам паспяховага вызвалення і іншых беларускіх мясцін. Паколькі, як мы ведаем, у іх па загадзе Івана Грознага былі пабудаваны крэпасці, то ўзяцце іх суправаджалася зноў-такі цяжкімі баямі. Асабліва ў гэтых адносінах вызначалася ўзяцце 29 верасня 1579 г. крэпасці Сокал (у пяці мілях ад Полацка). Па сведчанні аднаго з удзельнікаў, якому прыходзілася раней быць у многіх

баях, ён нідзе не бачыў столькі забітых, як у Сокале. Тут маскоўскае войска панесла яшчэ адно цяжкае паражэнне. Услед за гэтым была ўзята і крэпасць Тураўля[15].

Побач з наступленнем у паўночна-ўсходнім кірунку войска Рэчы Паспалітай на чале з Канстанцінам Астрожскім (сынам вядомага нам ужо К. Астрожскага) рушыла ў паўднёва-ўсходнім кірунку і спустошыла Северскую зямлю да Старадуба і Почапа.

Здавалася б, што на гэтым супрацьстаянне з Масковіяй павінна было скончыцца, бо захопленыя ёй у гэтай вайне землі паўночнай Беларусі былі адваяваны. Аднак такога не адбылося, і вайна працягвалася. Што ж было прычынай гэтага? Рэч у тым, што адваяванне Полацка пацягнула за сабой і далейшае прадаўжэнне яго ранейшай шматвяковай палітыкі падначалення сваёй уладзе Пскова, Ноўгарада і Смаленска. Яна пачалася яшчэ з канца X ст. пры першым полацкім князі Рагвалодзе і працягвалася пры Брачыславе, Усяславе Чарадзеі і далей да канца XII ст. Нават часовае аслабленне Полацка з прычыны захопу ў яго крыжакамі ў канцы XII ст. Ніжняга Падзвіння, адкуль ён чэрпаў дадатковую вайсковую сілу і эканамічную падтрымку, не спыніла гэтай яго палітыкі. На працягу першай паловы XIII ст. Полацк выкарыстоўвае суседнюю Літву для набегаў на Пскоўскую, Наўгародскую і Смаленскую землі, што ўносіла ў іх значную дэстабілізацыю.

У другой палове XIII ст. мірна падначаліўшыся Навагародку і ўмацаваўшы з ім новую, беларускую дзяржаву ВКЛ, Полацк стаў найбольш буйной яе часткай, што і дало яму магчымасць надаць ёй як прыярытэтную сваю ранейшую знешнюю палітыку — у прыватнасці імкненне падначалення сваёй уладзе Пскова, Ноўгарада і Смаленска.

Гэтым найперш і тлумачыцца, чаму пры Гедзіміне, Альгердзе, Вітаўце і іншых вялікіх князях ВКЛ, не зважаючы на шматлікія няўдачы, вяло барацьбу за падначаленне сабе гэтых земляў. Як бачым, і пры С. Баторыю гэта імкненне не знікла, і таму, адваяваўшы Полацк, С. Баторый павінен быў і дзейнічаць у яго інтарэсах. І гэта асабліва добра выявілася ў 1580 г. пры аблозе ім Вялікіх Лукаў, куды з'явіліся царскія паслы для перамір'я, згаджаючыся пры гэтым на ўступку Полацка і многіх гарадоў Лівоніі. Аднак С. Баторый рашуча патраба-

ваў уступіць яму Вялікія Лукі, Ноўгарад, Пскоў і Смаленск[16]. Толькі гэтым і можна растлумачыць, чаму С. Баторый, паспяхова закончыўшы сваю вайсковую кампанію 1579 г., пасля стараннай падрыхтоўкі, якую вёў пад прыкрыццём працяглых перагавораў з Іванам Грозным, пачаў у 1580 г. з Чашнікаў свой паход, у выніку якога ім былі не толькі ўзяты Вялікія Лукі, Веліж, але і яго войскі праніклі ў глыб Наўгародскай зямлі, напаўшы на Холм і Старую Русу. А ў 1581 г. С. Баторый рушыў свае войскі з раёна Дзісны праз Полацк на Вострава, пасля ўзяцця якога 28 жніўня яму быў адкрыты шлях да Пскова. У гэты ж час атрад на чале з М. Радзівілам, выступіўшы з Віцебска і прайшоўшы праз Веліж, Тарапец і Старую Русу, падышоў да Пскова, дзе і злучыўся з войскам С. Баторыя, і 28 жніўня пачалася аблога гэтага горада, якая зацягнулася на 5 месяцаў і не мела поспеху.

Гэта няўдача С. Баторыя выклікала вялікую незадаволенасць у Рэчы Паспалітай, у выніку чаго ён пайшоў на мірныя перамовы з Масквой. У пачатку 1582 г. у Ям-Запольскім і было заключана перамір'е на 10 гадоў. Паводле яго Полацк і Веліж на ўсходзе і Лівонія на захадзе былі пакінуты за Рэччу Паспалітай. Аднак занятыя С. Баторыем рускія землі былі вернуты Масковіі. Такім чынам, калі ўдалося вярнуць цэласнасць тэрыторыі карэннай Беларусі, у прыватнасці былога Полацкага княства, то і на гэты раз не ўдалося далучыць Наўгародскую і Пскоўскую землі. Але тое, што за іх барацьба ішла і зараз, сведчыць адно немінуча: інтарэсы Полаччыны былі важнымі для ўсёй дзяржавы, для дасягнення якіх яна не шкадавала вялікіх намаганняў.

З заключэннем у 1583 г. Плюскага перамір'я паўночная частка Эстоніі і гарады Нарва, Ям, Капор'е, Іван-горад адыходзілі Швецыі. Так закончылася 25-гадовая Лівонская вайна. Як бачна, яна была зусім няўдалай для Масковіі, якая так і не дасягнула сваёй мэты — выхаду да Балтыйскага мора.

Для Беларусі Лівонская вайна была адным з найвялікшых бедстваў: у канцы вайны наша краіна вярнула сабе толькі тое, што было страчана ў пачатку яе. Але гэта абышлося вялікімі разбурэннямі нашых паселішчаў, вынішчэннем значнай часткі нашага люду. Пры гэтым трэба ўлічваць, што Лівонская вайна была толькі працягам шматлікіх ранейшых войнаў з Мас-

коўскай дзяржавай, арэнай якіх з'яўлялася Беларусь. Усё гэта не магло не прывесці нашу Радзіму да эканамічнага заняпаду, а разам з ім і да аслаблення яе палітычнай ролі ў супольнай дзяржаве. Вось гэта спрытна і выкарысталі жамойцкія феадалы ў сваіх мэтах. Як вядома, Жамойць, якая складае заходнюю і большую частку сучаснай Літвы, была апошняй тэрыторыяй, якая канчаткова ўвайшла ў склад ВКЛ, што адбылося ў 1422 г. Ужо гэты факт сведчыць, наколькі беспадстаўна называць ВКЛ Літоўскай дзяржавай у сучасным значэнні гэтага слова. Але, канчаткова ўвайшоўшы ў склад ВКЛ, Жамойць у асобе сваіх правіцеляў стала імкнуцца да пануючага становішча ў дзяржаве. Гэтаму добра садзейнічала тое, што пасля Грунвальдскай бітвы была нанесена страшэнная параза Тэўтонскаму ордэну, што прывяло ў далейшым да яго канчатковага аслаблення, у выніку чаго паступова спыніліся набегі крыжакоў на Жамойць. А гэта паспрыяла Жамойці ў эканамічным развіцці, умацаванні яе палітычнага становішча у дзяржаве ў параўнанні з Беларуссю, якая несла на сабе асноўны цяжар у войнах з Масковіяй. Ацаніўшы выгоды свайго становішча, жамойцкія феадалы пачалі прэтэндаваць не толькі на галоўнае месца ў дзяржаве, але і на заслугі яе стварэння, сцвярджаючы, што «...панства Літвы памнажалася ад Жамойці»[17]. Менавіта ў сярэдзіне XVI ст. і з'явілася жамойцкая версія ўтварэння ВКЛ. Паводле яе, менавіта жамойцкі князь Мантвіл, даведаўшыся пра батыеўскае спусташэнне рускіх земляў, паслаў з войскам свайго сына Ердзівіла, які, прайшоўшы спачатку Вялію, а пасля Нёман, увайшоў у разбураны татарамі Навагародак, адбудаваў яго і зрабіў сваёй сталіцай. (Як бачым, у XVI ст. добра памяталася, што Навагародак быў першай сталіцай ВКЛ. Таму, каб надаць праўдзівасць гэтаму міфу, туды і садзілі жамойцкіх князёў). А ўжо сын Ердзівіла Мінгайла падначаліў сабе і Полацк, род князёў якіх пачаў выводзіцца ад жамойцкіх князёў[18]. Зафіксаваная ў шэрагу тагачасных летапісаў тыпу «Хронікі Быхаўца» і асабліва ў «Хроніцы» польскага гісторыка М. Стрыйкоўскага, выдадзенай у 1582 г. у Кёнігсбергу, гэта версія пачала паўтарацца ў гістарычных даследаваннях і з некаторымі нюансамі ўтрымліваецца і ў сучаснай гістарыяграфіі. Так узнік, замацаваўся міф пра літоўскае заваяванне Беларусі ў жамойцкім паданні. Няма чаго казаць, што

гэта не мае гістарычных падстаў. Ужо толькі тое, не гаворачы аб іншым, што Беларусь не ведала батыеўскага нашэсця, ад спусташэння якога яе не трэба было ратаваць, яскрава адвяргае гэту выдумку. І тое, што Жамойць апошняй сярод іншых земляў была ўключана ў склад ВКЛ, таксама адвяргае, што ад яе «...пачало множыцца панства Літоўскае».

Яшчэ раней узнікла паданне пра паходжанне жамойцкай знаці ад рымлянаў, якая, уцякаючы на караблях ад жорсткасцяў Нерона, высадзілася на ўзбярэжжы Балтыйскага мора пры ўпадзенні ў яго Нёмана. Вось чаму ў асяроддзі магнатаў ВКЛ узнікла мода выводзіць свой род «ад Жамойці», каб гэтым самым падкрэсліць сваё паходжанне ад рымлянаў. А гэта ў сваю чаргу ўздымала аўтарытэт Жамойці сярод іншых земляў ВКЛ, і яна набыла ў сабе ўвасабленне ўсяго балцкага ў дзяржаве. Важна звярнуць увагу на тое, што ў летапісах XVI ст. з назвы княства выпадае слова «Рускае», і яно называецца толькі Літоўскім і Жамойцкім[19]. І гэта зразумела. У выніку Люблінскай уніі ўкраінскія землі, якія пераважна і называліся рускімі, адышлі пад Карону, г.зн. пад Польшчу. І ў складзе ВКЛ засталіся толькі беларускія і літоўскія (адны і другія ў сучасным значэнні гэтых слоў) землі. Вось чаму дзяржава не называлася Рускай, а пад назвай «Літоўскае» разумеліся беларускія землі, адкуль гэтая назва і прыйшла, і пад назвай «Жамойцкае» разумеліся сучасныя літоўскія землі.

Хоць у летапісах XVI ст. яўна праводзілася жамойцкая тэндэнцыя ў паказе ўтварэння і характару ВКЛ, аднак аніводзін з іх не напісаны па-жамойцку. Амаль усе яны напісаны на беларускай мове. І толькі адзін на польскай ды яшчэ адзін на лацінскай. А гэта ў ліку іншага сведчыць, наколькі беларускія мова і культура былі пануючымі ў дзяржаве, што нават жамойцкія ідэолагі вымушаны былі з гэтым лічыцца і свае домыслы выкладаць па-беларуску.

Варта адзначыць, што ў асяроддзі магнатаў ВКЛ ішло саперніцтва ў прыпісванні свайму роду справы ўтварэння дзяржавы. Так, калі ў адных летапісах гаворыцца, што жамойцкі князь Мантвіл паслаў свайго сына Ердзівіла, пад якім разумеўся роданачальнік Радзівілаў[20], то ў іншым летапісе пасланцом бараніць Русь ад татараў ужо з'яўляецца Скірмант[21], пад якім разумеўся продак магнацкага роду Скірмантаў.

Мы ўжо ведаем, што яшчэ ў канцы XIV ст. Жамойць імкнулася да першынства ў дзяржаве, але гэта закончылася правалам, выяўленнем чаго была трагічная гібель яе стаўленіка князя Кейстута, забітага Ягайлам. І толькі канчатковае ўваходжанне Жамойці ў склад ВКЛ і адносна мірнае яе жыццё пасля Грунвальдскай бітвы і дало ёй магчымасць больш грунтоўна прэтэндаваць на палітычную гегемонію ў дзяржаве, што, як мы бачылі, і пацягнула за сабой грубую жамойцкую фальсіфікацыю ўзнікнення ВКЛ, ад якой асабліва абабранай і збедненай аказалася гісторыя Беларусі. Менавіта Жамойць з'явілася адной з самых этнічна трывалых балцкіх земляў, якая таму і стала грунтам для выжывання і тым самым для захавання сучаснай літоўскай народнасці.

С. Баторый заставаўся незадаволеным заключаным мірам з Масковіяй і гатовы быў пачаць зноў з ёю вайну, аднак сойм не даў яму дазволу на гэта, што заслугоўвае асаблівай увагі. Здавалася б, што зараз, пасля Люблінскай уніі, Рэчы Паспалітай, у якой верх браў польскі бок, было выгадна далейшае пашырэнне яе дзяржавы. Аднак менавіта гэтага і не жадалі польскія палітыкі. Яны добра разумелі: паглынанне і пераварванне ў польскім духу далучаных украінскіх і беларускіх земляў будзе цяжкай справай. І таму далучэнне новых падобных тэрыторый можа стварыць яшчэ большыя цяжкасці і абвастрыць іхнюю гістарычную праблему.

Праўда, вайна ўжо ледзь не ўзнікала пасля смерці Івана Грознага ў 1584 г., калі маскоўскі перабежчык баярын Галавін, незадаволены Барысам Гадуновым, які тады фактычна правіў Маскоўскай дзяржаваю, збег у ВКЛ і падгаварваў С. Баторыя ісці на Маскву, на што той і згадзіўся. Аднак Барыс Гадуноў, у сваю чаргу, даведаўшыся пра старанні Галавіна, паслаў сваіх людзей у Варшаву, якія падкупілі багатымі падарункамі шэраг больш уплывовых дэпутатаў сойма, і тыя сарвалі справу вайны з Масквой. У сувязі з гэтым цікава адзначыць, што польскія вярхі давалі згоду на заняцце каралеўскага пасада пасля смерці С. Баторыя Фёдарам Іванавічам, які фармальна быў маскоўскім царом. Праўда, адначасова яны прапаноўвалі ў выпадку смерці Фёдара паставіць маскоўскім царом С. Баторыя, на што маскоўскія баяры не далі згоды, матывуючы гэта тым, што ім амаральна гаварыць пра смерць яшчэ жыво-

га чалавека. Трэба сказаць, што намер весці далейшую вайну з Масковіяй не пакідаў С. Баторыя. Ён нават звярнуўся да рымскага папы, каб той даў яму грошы для гэтага. Але Сікст V адмовіў яму ў гэтым. Праўда, С. Баторый не дачакаўся гэтага адказу. 12 снежня 1586 г. ён памёр, прабыўшы на каралеўскім пасадзе 11 гадоў.

Як мы бачылі, значная частка яго дзейнасці была звязана з Беларуссю. Дарэчы, ён і памёр у Гародні. Менавіта найперш дзякуючы яго вайсковаму таленту, паспяхова закончылася Лівонская вайна, у выніку чаго і была адноўлена цэласнасць карэннай Беларусі.

## НАСТУП КАТАЛІЦТВА, ПАДРЫХТОЎКА І ПРАВЯДЗЕННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ

З дзейнасцю С. Баторыя шчыльна звязаны і іншыя бакі жыцця Беларусі. І найперш духоўна-рэлігійныя. Люблінская унія была выяўленнем канчатковага падначалення ВКЛ уладзе Польшчы. Але велікакняжацкія вярхі добра разумелі, што ад фармальнай улады да фактычнай яшчэ вельмі далёка. Асабліва выразна адрозніваліся Польшча і ВКЛ у рэлігіі. Першая была каталіцкай, другая — пераважна праваслаўная. Вядома ж, такі падзел не мог садзейнічаць трываламу аб'яднанню дзвюх дзяржаў у адну. А каб дасягнуць трываласці, патрэбна было дабівацца і рэлігійнага адзінства. Зразумела, паколькі Польшча займала пануючае месца, то яна была зацікаўлена ў пашырэнні каталіцкай веры. Мы ведаем, што яшчэ з заключэннем Крэўскай уніі пачалося пашырэнне каталіцтва ў ВКЛ. Ужо Ягайла даў большыя прывілеі тым баярам, якія пераходзілі ў каталіцтва. Аднак гэта палітыка не была заўсёды паспяховай. Супраціўленне праваслаўнага насельніцтва каталіцызму неаднойчы прыводзіла да ўраўнавання правоў праваслаўных з католікамі. Гэтаму садзейнічала і тое, што Масковія выкарыстоўвала ў сваіх захопніцкіх мэтах прыніжэнне праваслаўных пад выглядам абароны іх ад каталіцкага гвалту. Але зараз пасля канчатковага злучэння Польшчы і ВКЛ у адзіную Рэч Паспалітую справа пашырэння каталіцтва, што цягнула за сабой і палані-

зацыю, набыла больш шырокі і трывалы характар. І гэтаму асабліва садзейнічала прыбыццё ў Вільню езуітаў, якія дзякуючы сваёй энергіі і апантанасці ў дасягненні пастаўленай мэты сталі галоўнай ударнай сілай у пашырэнні каталіцтва ў ВКЛ.

На глебе адданасці каталіцызму адбылося і збліжэнне С. Баторыя з езуітамі, некаторыя з якіх, як П. Скарга і А. Пасевін, сталі яго бліжэйшымі дарадцамі. Езуіты асабліва добра разумелі значэнне асветы ў справе іх галоўнай мэты — пашырэння каталіцтва. Вось чаму па іх пачыне С. Баторый пераўтварыў Віленскі езуіцкі калегіум у акадэмію, якая фактычна стала першым універсітэтам у ВКЛ. Нікольki не адмаўляючы добра распрацаванай для таго часу сістэмы навучання, якая дазваляла навучэнцам авалодаць ведамі па філасофіі, багаслоўі, рыторыцы, паэтыцы і інш., трэба таксама бачыць і адмоўнае значэнне езуіцкіх навучальных устаноў, асабліва для Беларусі. У свой час Ядвігін Ш. у «Лістах з дарогі» вельмі добра заўважыў, што «...да нас разам са святлом ішла і цемра». Вось менавіта так. Хоць у гэтай акадэміі і калегіумах і даваліся веды, але тут адначасова зацямнялася нацыянальная свядомасць навучэнцаў, якія не толькі паступова адвучваліся ад роднай мовы і культуры, але ім прывіваліся адмоўныя адносіны да ўсяго свайго. Польскія вярхі таму і запрасілі езуітаў, добра разумеючы ваяўнічасць іх у пашырэнні каталіцтва, якое і стала адным з галоўных шляхоў польскай экспансіі ў ВКЛ.

У гэты час пазіцыя беларускай мовы была яшчэ даволі моцнай, яна ўжывалася ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Ужо тое, што прыняты ў 1588 г. Трэці статут Вялікага княства Літоўскага быў створаны на беларускай мове і лічыў яе абавязковай для справаводства, з'яўляецца найбольш яскравым сведчаннем гэтага. І таму езуіты, якія найперш служылі вялікапольскім, г.зн. шавіністычным, інтарэсам, ставілі адной з важнейшых сваіх задач усяляк прыніжаць беларускую мову, паступова яе выводзіць найперш з дзяржаўнага і грамадскага ўжытку, замяняючы яе польскай мовай.

Паколькі каталіцкая вера на Беларусь ішла з Польшчы, то яе святары ўнушалі кожнаму, хто стаў каталікам, што ён стаў адначасова і палякам. Менавіта галоўнай небяспекай пашырэння каталіцтва і было тое, што яно несла з сабою паланіза-

цыю, і таму многія тыя, хто прынялі каталіцкую веру, называлі сябе палякамі (дарэчы, гэта так у многіх выпадках і цяпер).

Але лягчэй было навязаць іншую веру і нацыянальнасць, чым адвучыць ад роднай мовы. Менавіта тыя, хто прынялі каталіцтва і называлі сябе палякамі, прадаўжалі гаварыць па-беларуску. І вось тады для прыніжэння беларускай мовы пачалі называць яе «простай», «хлопскай», г.зн. «мужыцкай», якую можна ўжываць дома, але з якой сорамна паказвацца на людзях, напрыклад у касцёле. Вось тады гаворка па-беларуску і пачала называцца гаворкай «папросту», што і замацавалася на доўгі час. І цяпер нярэдка можна сустрэць асоб (асабліва на Віленшчыне), якія называюць сябе палякамі, але, як яны кажуць, гавораць «папросту», «па-тутэйшаму».

Вядома ж, цяжкія вынікі дзейнасці езуітаў не маглі не прадбачыць лепшыя людзі Беларусі, абаронцы яе нацыянальных інтарэсаў. Адным з іх і быў Васіль Цяпінскі. Ён нарадзіўся на Полаччыне дзесьці ў сярэдзіне 30-х гадоў XVI ст., паходзіў з баярскага роду. Яго сапраўднае прозвішча Амельяновіч. Быў удзельнікам Лівонскай вайны, знаходзіўся на дзяржаўнай службе, прымаў актыўны ўдзел у рэлігійным жыцці разам з пратэстантамі. Цяпінскі быў з тых, хто добра разумеў значэнне кнігадрукавання як аднаго з важнейшых сродкаў у развіцці культуры, і таму ён побач з С. Будным, з якім быў добра знаёмы асабіста, з'явіўся адным з выдатнейшых паслядоўнікаў справы Ф. Скарыны. Дзесьці каля 1580 г. ён у сваім маёнтку Цяпіне (адсюль і яго літаратурнае прозвішча, зараз Чашніцкі раён) заснаваў друкарню, дзе і пачаў друкаваць побач з царкоўнаславянскім тэкстам перакладзенае ім на беларускую мову Евангелле. Праўда, поўнасцю яго Цяпінскі надрукаваць не змог. Засталася ненадрукаванай і яго «Прадмова» да выдання (яна дайшла да нас у рукапісным варыянце). Менавіта яна і раскрывае погляды Цяпінскага на тагачасную рэчаіснасць, на матывы і мэты яго дзейнасці. Найперш ён падкрэсліваў сваю адданасць радзіме, бо ўзяўся за цяжкую і дарагую справу, нягледзячы на сваю «убогую маетнасць», «як русін сваёй Русі ўслугуючы». В. Цяпінскі добра разумеў, што нацыянальнаму занядбанню, паланізацыі паддаюцца найперш верхнія саслоўі. І ён заклікае тых «...вялікіх княжат, паноў значных, іх дзетак нявінных, мужоў з жонамі» не выракацца «свайго дасціпнага



*Васіль Цяпінскі. Гравюра 1576 г.*

вучонага народу». Ён нагадвае пра немінучую жорсткую Божую кару за вялікі грэх адступніцтва ад свайго народа. В. Цяпінскага асабліва абуралі паводзіны праваслаўнага духавенства, якое павінна было ў першую чаргу змагацца супроць акаталічвання і паланізацыі, а яно, па сутнасці, дапамагала гэтаму, лічачы, што мова іх народа грубая для царкоўнага ўжытку. Больш за тое — праваслаўныя царкоўнікі нават аддавалі сваіх дзяцей вучыцца ў езуіцкія школы, што асабліва абурала В. Цяпінскага.

Як бачым, В. Цяпінскаму добра былі бачны цяжкія наступствы шырокага і гвалтоўнага акаталічвання і паланізацыі на тагачаснае беларускае грамадства, што не магло яго як гарачага патрыёта не хваляваць і не заклікаць да рашучага супраціўлення гэтай навале. Дзейнасць В. Цяпінскага з'яўляецца яскравым выяўленнем таго супраціву варожай плыні, які аказвалі патрыятычныя сілы беларускага грамадства таго часу.

У 1587 г. пасля смерці С. Баторыя польскім каралём і вялікім князем ВКЛ стаў Жыгімонт III, які з'яўляўся сынам шведскага караля. Як і раней, выстаўлялася кандыдатура і маскоўскага цара Фёдара Іванавіча, і за яго (ён быў у спісе пад знакам шапкі Манамаха) было пададзена больш галасоў, чым за іншых прэтэндэнтаў. Аднак маскоўскія паслы рашуча адмовіліся ад патрабаванняў прыняць Фёдарам пасля яго абрання каталіцкую веру, каранавацца ў Кракаве, у тытуле сваім ставіць на першае месца Польшчу, а таксама выплаціць 100 тысяч рублёў сойму. У выніку гэтага кандыдатура Фёдара Іванавіча адпала, і каралём быў абраны дваццацігадовы шведскі прынц. Месцам свайго пасада ён абраў Варшаву, якая з гэтага часу і стала сталіцай Рэчы Паспалітай. У адрозненне ад С.Баторыя



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Жыгімонт III Ваза. Гравюра XVI ст.*

Жыгімонт III не вызначаўся ні розумам, ні здольнасцямі дзяржаўнага дзеяча. Як лічаць некаторыя гісторыкі, з яго і пачаўся заняпад Рэчы Паспалітай.

Адзінае, што не адрознівала яго ад папярэдніка, дык гэта яго адданасць каталіцтву, што выкарысталі ў сваіх мэтах езуіты. І таму адразу па ўступленні Жыгімонта III на каралеўскі пасад, ён, як і С. Баторый, быў акружаны імі і пад іх ціскам праводзіў сваю палітыку.

Пры С. Баторыю галоўная ўвага езуітаў была накіравана супроць пратэстантаў, але зараз іх рух значна аслабеў, шэраг магнатаў, для якіх пратэстанцтва, па сутнасці, было часовай модай, адракліся ад яго і сталі каталікамі. Апроч таго, пратэстанцтва пачало слабець і з прычыны з'яўлення ў ім розных плыняў. Добра бачачы гэта, езуіты сваю галоўную ўвагу зараз адвялі барацьбе супроць праваслаўя. Ды з ім было непараўнальна цяжэй змагацца. Найперш таму, што яно ахоплівала вялікую масу люду. Лічы, усё насельніцтва Беларусі і Украіны было праваслаўным. І езуіты добра разумелі, што такое мноства народу нельга акаталічыць у кароткі тэрмін, што для гэтага патрэбны працяглы час. І таму яны ўхапіліся за унію, г. зн. за аб'яднанне каталіцкай і праваслаўнай веры, што, на іх думку, і магло прывесці ў рэшце рэшт да паступовага акаталічвання праваслаўных. Аднак, адзначаючы гэта, нельга лічыць, што толькі тады з'явілася ідэя уніі і што яе ініцыятарамі былі езуіты ў Рэчы Паспалітай. Справа аб'яднання каталіцкай і праваслаўнай веры ставілася ў глабальным маштабе яшчэ на Канстанцкім



*Канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега. Гравюра XVII ст.*

(1418) і Фларэнтыйскім (1438) саборах. Упершыню на тэрыторыі ВКЛ ідэю уніі падзяляў Вітаўт, які бачыў, што з прычыны пашырэння каталіцтва ўзнікае небяспека рэлігійнай барацьбы паміж ім і праваслаўем. І Вітаўт нават паслаў на Канстанцкі сабор праваслаўнага мітрапаліта Грыгорыя Цымблака з мэтай прыняцця уніі ў ВКЛ, але той спазніўся, і справа уніі спынілася. З мэтай прыцягнення на свой бок каталіцкіх дзяржаў у барацьбе з Жыгімонтам Кейстутавічам за ідэю царкоўнай уніі ўхапіўся і Свідрыгайла, але з прычыны працяглasці яе ўвядзення зрокся яе. Фактычна унія ўжо існавала на Беларусі ў 40—70-х гадах XV ст., але была спынена стараннямі маскоўскага мітрапаліта Іоны. І гэта зразумела, бо унія выбівала з рук маскоўскага цара зачэпку да ўмяшання ў справы ВКЛ пад выглядам абароны адзінаверных праваслаўных.

Як бачым, пытанне пра царкоўную унію ў Рэчы Паспалітай было далёка не новым, яно мела амаль 200-гадовую даўнасць. Таму не дзіўна, што езуіты ўхапіліся за яе. Але для іх унія была не новай царквой, а толькі пераходным этапам ад праваслаўя да каталіцтва. І таму яны разгарнулі энергічную дзейнасць для яе заключэння. Найперш імі было выкарыстана дадзенае яшчэ ў 1548 г. на Варшаўскім сойме права каралю прызначаць вышэйшых духоўных асоб праваслаўнай царквы. У выніку гэтага на царкоўных пасадах епіскапаў, ігуменаў, архімандрытаў і інш. апынуліся патрэбныя людзі, якія цалкам разумелі сваю поўную залежнасць ад свецкай улады і таму згодныя падначаліцца яе волі. Добрай апорай для езуітаў былі

акаталічаныя і апалячаныя магнаты, баяры і шляхта. Атрымаўшы за гэта важныя правы, яны ўсё рабілі, каб пашкодзіць дзейнасці праваслаўных цэркваў і манастыроў, каб прынізіць іх святароў і манахаў.

Аднак нельга думаць, што дзейнасць каталіцка-езуіцкай партыі была бесперашкоднай. Менавіта ў гэты час актывізавалі сваю дзейнасць праваслаўныя брацтвы. Яны ўзніклі яшчэ раней, і іх дзейнасць абмяжоўвалася спачатку дабрачыннымі і асветніцкімі мэтамі. Аднак у сувязі з каталіцка-езуіцкім наступам яны сталі на шлях рашучага супраціўлення яму, бароняячы сваю царкву, а з ёй і сваю народнасць і мову. Калі ў пачатку брацтвы існавалі толькі ў Львове і Вільні, то пазней яны ўзнікаюць і ў іншых гарадах Беларусі, дзе таксама разгарнулася антыкаталіцкая барацьба. А гэта ў сваю чаргу прымусіла прыхільнікаў уніі ў 1591 г. спешна сабрацца ў Берасці, каб абгаварыць справу падначалення царквы на Украіне і Беларусі рымскаму папу. Асабліва ў змаганні за праваслаўе вызначыўся князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. Праваслаўе не перашкаджала яму актыўна ўдзельнічаць у Лівонскай вайне супроць адзінавернай Масквы. Як бачым, ён, як і яго бацька Канстанцін Астрожскі, не блытаў адзінаверства з адзінадзяржаўем. Бачачы вялікі аўтарытэт гэтага чалавека сярод праваслаўных, прыхільнікі уніі зрабілі спробу прыцягнуць яго на свой бок, але атрымалі рашучы адказ, што прымусіла іх прыспешыць з прыняццем царкоўнай уніі. З гэтай мэтай шэраг вышэйшых асоб праваслаўнай царквы, прыхільнікаў уніі (сярод іх мітрапаліт Рагоза, епіскапы Тарлецкі, Пацей, Балабан, Збіруйскі, Пальчыцкі і інш.), у чэрвені 1595 г. падпісалі акт аб прыняцці уніі.

Адначасова было даручана Тарлецкаму і Пацею ехаць да рымскага папы, які ў канцы гэтага ж года і зацвердзіў аб'яднанне праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай з каталіцкай царквой пад вяршэнствам рымскага папы. Аднак у далейшым выйшла замінка ў гэтай справе. Рэч у тым, што папа Клімент VIII у сваёй буле, высланай мітрапаліту Рагозу адразу пасля выбыцця з Рыма Тарлецкага і Пацея, сярод іншага патрабаваў і ўвядзення ва уніяцкую царкву каталіцкага набажэнства[22]. Аднак мітрапаліт Рагоза і епіскапы, азнаёміўшыся з гэтым патрабаваннем Клімента, не згадзіліся з ім, бо прадбачылі не-

пазбежнасць абурэння праваслаўных з прычыны прымусіць іх прыняць каталіцкае набажэнства. Таму Рагоза і епіскапы зноў звярнуліся да Клімента, каб ён адмяніў гэта патрабаванне, што і было зроблена ім. Яму прыйшлося задаволіцца толькі падначаленнем праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай яго ўладзе.

Трэба звярнуць асаблівую ўвагу на гэты ўчынак мітрапаліта і епіскапаў, бо ён можа характарызаваць іх не як стаўленікаў езуітаў, як яны звычайна падаюцца ў літаратуры, а як тых царкоўных дзеячоў, якія, прадбачачы непазбежнасць жорсткай рэлігійнай барацьбы з прычыны езуіцка-каталіцкага наступу, рашылі пайсці на разумны кампраміс, дапусціўшы толькі падначаленне праваслаўнай царквы Ватыкану, але поўнасцю захаваўшы непарушнасць яе абрадаў, што ў далейшым і адбылося. Менавіта з прычыны пераадолення рэлігійнай барацьбы паміж католікамі і праваслаўнымі ў ВКЛ і ўзнікла ідэя пра царкоўную унію яшчэ ў пачатку XV ст. і з таго часу не знікала з жыцця дзяржавы.

Пасля атрымання ад Ватыкана згоды на правядзенне уніі і ў адпаведнасці з універсалам Жыгімонта III у Берасці ў пачатку кастрычніка 1596 г. і сабраўся сабор, мэтай якога і было абвясціць царкоўную унію. Адначасова тут па ініцыятыве К. Астрожскага сабраўся і праваслаўны сабор, які пракляў усіх тых, хто прысутнічаў на уніяцкім саборы і пазбавіў свяшчэннага сану мітрапаліта і епіскапаў, якія арганізавалі і праводзілі яго. У сваю чаргу уніяцкі сабор зрабіў тое ж самае ў адносінах удзельнікаў праваслаўнага сабора. 9 кастрычніка 1596 г. пасля ўрачыстай працэсіі ў час набажэнства і была абвешчана царкоўная унія, якая па месцы свайго абвяшчэння і ўвайшла ў гісторыю як Берасцейская унія. У ацэнцы характару і значэнні яе ў нашай гісторыі трэба ўхіляцца ад адназначнасці. Усё залежала ад таго, мэтай чаго яна была для пэўных грамадска-рэлігійных колаў. Зразумела, што для польска-каталіцкіх колаў яна была сродкам паступовага акаталічвання і апалячвання шырокіх мас праваслаўнага насельніцтва. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца ліст Жыгімонта III ад 18 лютага 1595 г. да Іпація Пацея, у якім адабраецца і заахвочваецца дзейнасць апошняга «...ко злученью и зьедноченью костёла божь-



*Афанасій Філіповіч*

его грецкого з повшехным з Римским»[23]. (Як бачым, яшчэ і Жыгімонт III вымушаны быў лічыцца з шырокім ужываннем тагачаснай беларускай мовы, і таму на ёй пісаўся яго ліст.) А ў жніўні таго ж года, калі яшчэ афіцыйна не была абвешчана унія, ён выдае жалаваную грамату аб перавагах і прывілеях тых, хто яе прымае[24].

Падрыхтоўка, прыняцце і далейшае ўкараненне уніі выклікалі абвостраную барацьбу, што парадзіла ў нас багатую палемічную літаратуру. Калі адны (П. Скарга, І. Пацей, В. Руцкі, І. Кунцэвіч і інш.) выступалі ў абарону уніі, то іншыя (М. Сматрыцкі, А. Карповіч, С. Зізаній, А. Філіповіч, І.Барэцкі і інш.) гнеўна асуджалі яе. У канцы XVI — першай палове XVII ст. палемічныя творы сталі фактычна галоўным жанрам беларускай і ўкраінскай літаратур, што паглынула сабой значныя інтэлектуальныя сілы тагачаснага нашага грамадства, якое ў выніку рэлігійнай барацьбы было фактычна адкінута назад у сярэднявечча. І гэта зноў-такі, на маю думку, адзін з адмоўных вынікаў увядзення царкоўнай уніі.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, натхніцелі, арганізатары і праваднікі Берасцейскай уніі жорстка пралічыліся. Для іх унія была толькі пераходным звяном ад праваслаўя да каталіцтва. Аднак яна стала самастойнай царквой і вядучай па колькасці яе прыхільнікаў, а разам з тым было болей і парафій у параўнанні з каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі. Вось паказальныя ў гэтых адносінах лічбы. Так, калі ў першай палове XVIII ст. на Беларусі было 283 каталіцкія і 143 праваслаўныя парафіі, то уніяцкіх было 1199[25]. У чым прычына гэтага? Найбольш у тым, што уніяцкая вера стала па сутнасці сялянскай верай. Ні феа-



*Жыровіцкі базыльянскі манастыр. Багаяўленская царква.*

*Замалёўка В. Сташчанюка*

далы-каталікі, ні феадалы-праваслаўныя ў унію не пераходзілі. У яе найбольш гвалтоўна заганяліся сяляне, якія і складалі ў той час галоўную частку беларусаў. І уніяцкія святары, бачачы, што сяляне не разумеюць ні польскай, ні стараславянскай моваў, вымушаны былі ў набажэнстве міжволі пераходзіць на беларускую мову. Вось чаму уніяцкая вера і па сваёй масавасці і па мове свайго набажэнства неўзабаве стала па сутнасці нацыянальнай верай беларусаў. І таму зразумела, што ў XVIII ст. яна падвяргаецца нападам як з боку каталіцтва, так і з боку праваслаўя, якія лічылі яе непаўнацэннай верай. Тым не менш для каталіцкага касцёла яна, хоць фармальна і падначальвалася рымскаму папу, не прывяла сваіх вернікаў да жаданых мэт.

Унія не толькі не садзейнічала акаталічванню і паланізацыі уніятаў, але яшчэ больш выявіла іх нацыянальную адметнасць. Для праваслаўнай царквы, якая з'яўлялася праваднікам інтарэсаў Масковіі ў Беларусі, унія была непрымальнай, бо паз-

баўляла расійскі царызм права ўмешвацца ў справы ВКЛ пад выглядам абароны праваслаўных, бо уніяты хоць і захоўвалі абрады па-праваслаўнаму, але былі падначалены рымскаму папу, а не Маскоўскаму мітрапаліту. Вось чаму расійскі царызм, бачачы ва ўніяцтве адну з адметнейшых асаблівасцей беларусаў, адразу пасля захопу Беларусі ў канцы XVIII ст. прыступіў да яе ліквідацыі. Значная частка уніятаў была перадзена ў праваслаўе пры Паўле I, а ў 1839 г. унія была канчаткова ліквідавана.

Як бачна, Берасцейская царкоўная унія была важным і складаным фактам у нашай гісторыі. Нягледзячы на гвалтоўнасць яе ўвядзення (дарэчы, усе рэлігіі ўводзіліся гвалтоўна, у тым ліку і праваслаўе, у якое насельніцтва заганялася, як сведчыць летапіс, «мячом і агнём»), унія адыграла станоўчую ролю, бо, стаўшы фактычна нацыянальнай царквой, яна тым самым садзейнічала захаванню і далейшаму развіццю этнічнай адметнасці нашага народа.

Заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі з'явілася апошняй нашай важнай падзеяй у XVI ст., якое вызначылася сваім багатым зместам як у станоўчым, так і ў адмоўным значэнні ў гісторыі Беларусі. З аднаго боку, гэта стагоддзе вызначаецца вышэйшым развіццём нашай дзяржаўнасці, што яскрава падкрэсліваюць Статуты 1526, 1566 і 1588 гг., якія фактычна былі канстытуцыямі, да ўсяго аднымі з самых дасканалых у тагачаснай Еўропе. У гэты ж час дасягнула свайго найбольшага развіцця і наша старажытная культура, пісьменства і мова, што знайшло сваё ўвасабленне ў дзейнасці Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, у сотнях тамоў дзяржаўных дакументаў. Усё гэта ёсць тое, чым трэба нам ганарыцца.

З другога боку, трэба прызнацца, у гэтым жа стагоддзі быў закладзены грунт для паступовага спаду гэтых дасягненняў. Змарнаваная шматлікімі войнамі, арэнай якіх яна была, наша дзяржава вымушана была пайсці на канчатковае аб'яднанне з Польшчай, пануючыя вярхі якой сталі праводзіць палітыку паглынання нашай дзяржаўнасці, прыніжэння нашага народа, ахайвання яго культуры, выцяснення яго мовы з дзяржаўнага ўжытку. У гэты ж час была сфабрыкавана грубейшая фальсіфікацыя ў пытанні ўтварэння ВКЛ, якая да непазнаваль-

насці сказіла, збядніла і прынізіла гісторыю Беларусі перыяду XIII — XVIII стст. Усё гэта адмоўнае і вызначала працэс далейшага паступовага палітычнага і культурнага заняпаду Беларусі ў XVII — XVIII стст.

## КАЗАЦКІ АТРАД С. НАЛІВАЙКІ НА БЕЛАРУСІ

Адной з характэрных падзей для Беларусі ў XVII ст. было масавае пранікненне на яе тэрыторыю атрадаў украінскіх казакоў. Аднак пачатак гэтаму быў закладзены яшчэ ў канцы XVI ст. атрадам Севярына Налівайкі. Калі ў дарэвалюцыйнай афіцыйнай гістарыяграфіі гэта паказвалася як барацьба ў абарону праваслаўя, то ў савецкай гістарыяграфіі гэта характарызавалася як выяўленне класавай барацьбы працоўнага народа краіны і Беларусі супроць феадальнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту. Адмаўляць як першае, так і другое цалкам нельга. Сапраўды, пры ўсё большым запрыгоньванні сялянства не магло не адчуваць свайго ўсё большага прыгнечання і не абурацца супроць яго. Гэтак жа сама і палітыка акаталічвання і паланізацыі ўкраінскага і беларускага насельніцтва, якое было пераважна праваслаўным, таксама выклікала супраціўленне. Усё гэта мела месца і ўсё гэта магло клікаць народ на барацьбу.

Аднак, перш за ўсё асвятляючы гэта, савецкая гістарыяграфія не заўважала іншых вельмі істотных момантаў, якія адсоўвалі далёка назад фактар класавай барацьбы, а часам нават і закрэслівалі яго. Найперш не ўлічвалася тое, што ў выніку Люблінскай уніі адбылося канчатковае размежаванне паміж украінскімі і беларускімі землямі. Калі першыя выйшлі са складу ВКЛ і далучыліся да «Каруны», г. зн. непасрэдна падпалі пад уладу Польшчы, то другія засталіся ў ВКЛ, складаючы ў ім галоўную і вызначальную частку. І гэтае палітычнае размежаванне супала з этнічным размежаваннем. Сапраўды, калі насельніцтва Валыні і Кіеўшчыны ўваходзіла ў склад украінскага этнасу, то насельніцтва былога Турава-Пінскага княства было ўжо часткай беларускага этнасу. Супадзенне палітычнай мяжы з этнічнай і зрабіла яе выключна трывалай, і таму яна захавалася без змен на сённяшні дзень.

І хоць украінскія і беларускія землі ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, але яны знаходзіліся ў розных частках яе. Таму для ВКЛ казацкія украінскія войскі, якія з'яўляліся на яго тэрыторыі, успрымаліся як варожыя, замежныя, што вымушала яго весці барацьбу з імі. Гэта разам з іншым, як убачым, і выявілася ўжо ў 1595 г., калі казацкае войска на чале з Севярынам Налівайкам уварвалася на поўдзень і ўсход Беларусі.

Украінскае казацтва сфарміравалася ў барацьбе з крымскімі татарамі і туркамі пад сцягам абароны праваслаўя. Цэнтрам казакоў з'яўлялася Запарожская Сеч, дзе былі сканцэнтраваны яго галоўныя баявыя сілы і куды ўцякалі тыя, хто не хацеў цярпець няволі і прыгнёту. Сярод іх была значная колькасць і выхадцаў з Беларусі. Польскі ўрад, бачачы ў казацтве важную вайсковую сілу, рашыў падначаліць яго сабе. Дзеля гэтага было прапанавана запісаць у рэестр шэсць тысяч казакоў, якім выдавалася плата, што выдзяляла іх як прывілеяваных з агульнай казацкай масы, уносячы тым самым раскол у яе.

Адзін час такім рэестравым казаком і быў С. Налівайка. Выйшаўшы з ліку рэестравых, ён некаторы час служыў у вядомага нам ужо К. К. Астрожскага — аднаго з самых выдатных абаронцаў праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, што, вядома, паўплывала і на Налівайку. Аднак на рашучую барацьбу супроць польска-каталіцкага ўціску яго штурхнула асабістая крыўда, калі ад яго бацькі была адабрана частка зямлі і ён сам быў збіты да смерці. Пасля паходу з атрадам казакоў у Малдавію і Трансільванію. Налівайка вярнуўся на радзіму, у Правабярэжную Украіну, дзе, абапёршыся на незадаволеныя масы гараджан, захапіў горад Луцк. Далейшыя дзеянні Налівайкі былі накіраваны на пагром магнацкіх маёнткаў. Убачыўшы ў гэтым для сябе вялікую пагрозу, урад Рэчы Паспалітай паслаў супроць Налівайкі сямітысячны атрад рэестравых казакоў на чале з гетманам Лабадой. Такім чынам, спроба польскіх вярхоў на раскол казацкай масы дала свае першыя вынікі. Убачыўшы немагчымасць супрацьстаяць такой сіле і ратуючыся ад яе, Налівайка прымае рашэнне адступіць на тэрыторыю Беларусі, што і адбылося ў кастрычніку 1595 г. Як бачым, не імкненне прыйсці на дапамогу беларускаму народу, а суровая неабходнасць пазбегнуць разгрому прымусіла Налівайку на такі крок.

Фактар нечаканасці прынёс напачатку яму поспех і ў Беларусі. Ён захапіў Петрыкаў, а пасля, бачачы небяспеку наступу Лабады, і Слуцк, які ў той час быў адным з буйнейшых і багацейшых гарадоў Беларусі. Замак яго быў добра ўмацаваны. Як і на Украіне, так і на Беларусі далейшыя дзеянні казакоў выяўляліся ў пагроме маёнткаў феадалаў. Аднак гэта нельга тлумачыць толькі класавай нянавісцю да прыгнятальнікаў. Казакі вызначаліся не толькі адвагай і пагардай да жыцця ў час бою, але і бесклапотнасцю, разгулам і шумнай весялосцю ў час адпачынку. А для задавальнення ўсяго гэтага найбольш падыходзячымі былі багатыя феадальныя маёнткі. Бясспрэчна, што было нямала ахвочых і з ліку мясцовых людзей, якія не хацелі прамінуць магчымасці пажывіцца ў зручны для гэтага момант. Трэба ўлічваць і тое, што ў асяроддзі казакоў было нямала і выхадцаў з Беларусі, якія цяпер, апынуўшыся на радзіме, імкнуліся помсціць за нанесеныя ім тут крыўды.

Але як і на Украіне, так і на Беларусі атрад Налівайкі не ўступаў у бой з накіраванай супроць яго вайсковай сілай. Урад ВКЛ, як адзначалася вышэй, не мог інакш успрымаць знаходжанне на тэрыторыі яго дзяржавы ўкраінскіх казакоў, як уварванне замежнага войска, якое чыніла тут рабаўніцтва. І таму супроць яго было выслана войска, што канцэнтравалася ў раёне Клецка. І калі казакі Налівакі ўбачылі такую пагрозу, гэтак жа як і пагрозу з боку ўкраінскіх рэестравых казакоў, што рухаліся на Беларусь, рашылі, не прымаючы бою, 27 лістапада 1595 г. пакінуць Слуцк, захапіўшы вялікую колькасць узбраення і ўзяўшы з жыхароў горада багаты выкуп. Заслугоўвае ўвагі тое, што войска Налівайкі пасля гэтага рашыла ісці ў Расію «на государава імя». Налівайка добра ведаў, што там яго прыязна прымуць, як свайго саюзніка ў барацьбе з агульным ворагам — Рэччу Паспалітай. Адступаючы на Бабруйск і не дайшоўшы да яго, атрад Налівайкі, у якім было дзве тысячы казакоў і шмат узбраення, узятага ў Слуцку, 18 снежня 1595 г. захапіў Магілёў. Баркулабаўскі летапіс паказвае такія вынікі гэтай падзеі: «...домы, крамы, острог выжтли, домов всех яко 500, а крамов з великими скарбами 400. Мещан, бояр, людей учтивых так мужей, яко и жён, детей малых побили, порубили, попоганили, скарбов теж незличеных побрали з крамов и домов»[26]. Грамілі яны і праваслаўныя храмы, хоць і лічылі

сябе абаронцамі праваслаўнай веры. Наўрад ці можна ўсё гэта называць вызваленчай барацьбой народа, як гэта паказвалася ў савецкай гістарыяграфіі[27]. Вядома, нянавісць народа да сваіх прыгнятальнікаў была, але яна выкарыстоўвалася казакамі Налівайкі ў іх інтарэсах.

Знявечыўшы і абрабаваўшы за два тыдні Магілёў, казакі пакінулі яго, бачачы пагрозу наступаўшага на іх войска. На Буйніцкім полі ім удалося пад прыкрыццём моцнага гарматнага агню адарвацца ад насядаўшага на іх войска палкоўніка Буйвіда і адступіць на поўдзень праз Быхаў, Рагачоў да Рэчыцы, адкуль пайшлі на Петрыкаў. Ім удалося захапіць значную частку поўдня Беларусі з Туравам, Давыд-Гарадком, Ляхвай, Пінскам, дзе «пачалі тварыць шкоду вялікую замкам і панам»[28]. І толькі вясной 1596 г. казакі Налівайкі пакінулі Беларусь і перайшлі на Валынь. Аднак там пад Лубнамі яны скора пацярпелі паражэнне. Налівайка і яго паплечнікі, выдадзеныя здраднікамі, былі адвезены ў Варшаву і там пасля жорсткіх катаванняў пакараны смерцю.

Як бачым, апроч шкоды тым месцам Беларусі, дзе дзейнічаў атрад Налівайкі, ён нічога не прынёс. Аднаўленне ўсяго разбуранага і абрабаванага ім лягло новым цяжарам на плечы працоўных мас. Такі характар і такія вынікі мелі і далейшыя казацкія ўварванні на Беларусь у XVII стагоддзі.

## І ГОЛАД, І ПАЎСТАННЕ

У вельмі цяжкіх, неспрыяльных абставінах пачалося XVII стагоддзе на Беларусі, што намнога абцяжарыла яго гісторыю гэтага часу. І першым вялікім няшчасцем быў страшэнны голад. У 1601 г. з прычыны ненармальных метэаралагічных умоў выпаў зусім ранні снег і праляжаў два тыдні, калі з палёў не была ўбрана вялікая частка ўраджаю. Выратаваць яго, як снег растаў, з прычыны холаду не ўдалося. Не было ўмоў і для якаснага пасеву азімага жыта. Усё гэта і прывяло ў 1602 г. да голаду. Вельмі выразную і жудасную карціну гэтага няшчасця падаў летапісец: «Людей множество почали мерти, по пятеру, по тридцати у яму хоронили. Хворых, голодных, пухлых многое множество страх видети гневу божого»[29].

Многія жыхары Беларусі разам са сваімі сем'ямі, ратуючыся ад галоднай смерці, ішлі «на Ніз», г. зн. на поўдзень, на Украіну. Стоячы ў каго-небудзь пад вокнамі, яны жаласліва прасілі хлеба: «Матухно, зезулихно, утохно, панюшко, сподариня (як бачым, гэта слова не штучна ўтворанае, як часамі сцвярджаецца, яно спрадвеку ўжывалася нашым народам — *М. Е.*), слонце, месец, звездухно, дай крошку хлеба. Тут же подле ворот будет стояти з рання до обеда и до полудня, так просячи, так же другой под плотом и умрет»[30].

Зразумела, што такая трагічная падзея намнога абцяжарвала жыццё народа, што выклікала ў ім незадаволенасць сваім становішчам і штурхала яго на рашучыя дзеянні. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца Магілёўскае паўстанне 1606 — 1610 гг. Насельніцтва горада, абуранае свавольствам рады, у якую ўваходзілі прадстаўнікі багацеяў і якія ўвесь цяжар падаткаў і павіннасцей перакладалі на нізы, падняло паўстанне. Ім кіравала група рамеснікаў на чале са Стахорам Мітковічам. У ратушу ўварваліся паўстанцы, запатрабаваўшы ад рады спыніць яе злоўжыванні. Замест таго каб выканаць гэта патрабаванне, была прынята спроба арыштаваць кіраўнікоў паўстання, што не ўдалося, дзякуючы рашучай падтрымцы народа. 25 чэрвеня 1606 г. ратуша была захоплена вялікай масай паўстанцаў, і старая рада разагнана, а замест яе ўтворана новая рада, у якую ўвайшлі Стахор Мітковіч, шабельнік Мікіта, ганчар Міхалка, шавец Фёдар і іншыя рамеснікі. Як бачым, у Магілёве ўтварылася сапраўды народная ўлада. Калі некаторыя члены старой рады аказалі супраціўленне, яны не былі знішчаны, а пасаджаны ў турму.

Магілёўскія падзеі сур'ёзна ўстрывожылі ўлады Рэчы Паспалітай. Але задушыць паўстанне ў гэты момант у іх не было патрэбных сіл, паколькі значная частка войска была занята паходам на Маскву. І таму кароль Жыгімонт III звярнуўся да новай рады з лістом, у якім патрабаваў спыніць бунт і падначаліцца старой радзе. Але гэта было рашуча адхілена. Не мела поспеху і спроба раскалоць новую раду шляхам навязаць ёй патрабаванне пасля заканчэння яе паўнамоцтваў перадаць уладу старой радзе.

Гэта ўлада існавала на працягу чатырох гадоў. Зразумела, без шырокай падтрымкі народа яна б не змагла так доўга прат-

рымацца. І яна была сапраўды народнай уладай. А менавіта гэта і з'явілася самым небяспечным для тагачасных уладароў дзяржавы, якія разумелі заражальны прыклад існавання такой улады для ўсяго народа. І яны ўсё зрабілі, каб задушыць яе, для чаго ў Магілёў у 1610 г. і было паслана войска. Калі паўстанцы за час сваёй улады не забілі ніводнага свайго праціўніка, то з імі расправа была выключна жорсткай: частка кіраўнікоў паўстання была павешана, частка на доўгія гады пасаджана ў турмы[31].

Магілёўскае паўстанне 1606 — 1610 гг. — яркае сведчанне непрымірымасці нашага народа да сваіх прыгнятальнікаў, яго здольнасці самастойна змагацца за сваё вызваленне і браць уладу ў свае рукі, не прыбягаючы да грубага гвалту і забойстваў. І ў гэтым карэннае адрозненне магілёўскіх падзей ад казацкіх уварванняў на Беларусь.

## ПАШЫРЭННЕ І ЎМАЦАВАННЕ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ

Менавіта ў самым пачатку XVII ст., пасля смерці першага уніяцкага мітрапаліта М. Рагозы, які не вызначаўся асаблівым імкненнем ва ўмацаванні царкоўнай уніі, на яго месца стаў Іпацій Пацей. І з яго пачалося ўзмоцненае ўкараненне яе. Ён адразу прад'явіў патрабаванне да ўсяго праваслаўнага духавенства неадкладна пераходзіць у унію, адначасова пагражаючы суровым судом тым, хто будзе ўхіляцца ад гэтага. А такія сапраўды былі, і супроць іх пачаліся ганенні. Так, не толькі быў выдалены з Віленскага Свята-Духаўскага манастыра за свае прамовы супроць уніі С. Зізаній, але і сам манастыр зачынены. Такі ж лёс напаткаў і Супрасльскі манастыр, а таксама шмат праваслаўных цэркваў.

Такімі ж гвалтоўнымі мерамі, як і Пацей у пашырэнні уніі, вызначаўся і Іасафат Кунцэвіч. Хоць нарадзіўся ён у сям'і шаўца ва Уладзіміры-Валынскім, аднак рана апынуўся ў Вільні, і ўсё яго далейшае жыццё і дзейнасць звязаны з Беларуссю. Працуючы ў краме аднаго купца, ён часта наведваў Свята-Троіцкі манастыр. І калі гэты апошні быў перададзены уніятам, Кунцэвіч таксама перайшоў у унію і, стаўшы манахам, змяніў сваё імя

Іван на Іасафат. І з гэтага часу ён становіцца рашучым прапаведнікам уніі. Яго старанні былі заўважаны, і ён прызначаецца на розныя духоўныя пасады. У 1617 г. ён становіцца уніяцкім біскупам у Полацку, дзе асабліва разгарнулася яго дзейнасць па пашырэнні уніяцтва. Вядома ж, усе яго неадкладныя патрабаванні да праваслаўных святароў пераходзіць у унію і пераводзіць туды сваю паству не маглі не выклікаць гневу з боку праваслаўнага насельніцтва, што і прывяло ў 1623 г. да забойства Кунцэвіча ў Віцебску.

Але ўсё зробленае І. Пацеем і І. Кунцэвічам гвалтоўнымі жорсткімі мерамі не мела шчыльнай сувязі паміж сабой, было раз'яднаным і таму патрабавала ўнутранага з'яднання. Вось гэта справа і выпала на долю наступнага уніяцкага мітрапаліта Вільяміна Руцкога, які заняў гэту пасаду пасля смерці І. Пацея ў 1613 г. Руцкі быў сынам маскоўскага ваяводы, які ў 1568 г. пасля паражэння ў бітве на р.Уле перайшоў на жыццё ў ВКЛ. В. Руцкі спачатку папаў пад уплыў езуітаў, якія ўбачылі ў ім адоранага вялікім розумам чалавека. Па іх ініцыятыве ён быў пасланы ў Рым, дзе ў грэцкай калегіі і атрымаў высокую адукацыю. Пасля, вярнуўшыся ў 1605 г. у Вільню, прыняў манаскі чын. Скора ён узначаліў Свята-Духаўскі манастыр, які к гэтаму часу стаў уніяцкім, а таксама уніяцкую школу і уніяцкае брацтва.

Галоўная заслуга В. Руцкога як уніяцкага мітрапаліта — стварэнне ім Базыльянскага ордэна. Раней у ВКЛ праваслаўныя манастыры, якія дзейнічалі па статуце св. Васіля, былі незалежнымі адзін ад другога і падначальваліся свайму ігумену ці епархіяльнаму епіскапу. Усе яны к гэтаму часу сталі уніяцкімі. І вось В. Руцкі ў 1617 г. склікаў на з'езд усіх ігуменаў гэтых манастыроў з мэтай аб'яднаць іх у адзінае манаскае брацтва пад назвай «Ордэн базыльянаў», які б кіраваўся асобным протаархімандрытам ці генералам разам з яго чатырма памочнікамі-асістэнтамі. Ордэн не падначальваўся мітрапалітам і біскупам, а толькі кіраваўся распараджэннямі рымскага папы. Абавязковай умовай для атрымання кіруючай пасады ў базыльянаў была наяўнасць адукацыі ў езуіцкіх навучальных установах. У абавязкі базыльянаў уваходзіла і выхаванне уніяцкай моладзі.

Бясспрэчна, што з утварэннем Базыльянскага ордэна уніяцкая царква значна ўмацавалася, гэта давала ёй магчымасць прыцягваць да сябе большую частку вернікаў і тым самым станавіцца самай масавай і вядучай на Беларусі царквой. Давала і магчымасць яе мітрапалітам разумець сваё асобае і вядучае месца ў рэлігійным жыцці, што было грунтам для іх самастойнасці. Пасля Руцкога, які памёр у 1637 г., было яшчэ 13 мітрапалітаў, якія за вельмі рэдкім выключэннем вызначаліся сваёй памяркоўнасцю, адсутнасцю фанатызму. Ужо раней адзначалася, што уніяцкая царква на Беларусі была пераважна мужыцкай, паколькі асноўная маса яе вернікаў складалася з сялян. І гэта прымушала яе святароў пры набажэнстве пераходзіць на беларускую мову.

Дык вось, беларускай мовы не цураліся і уніяцкія мітрапаліты і выступалі на ёй са сваімі прамовамі. Менавіта ва ўмовах уніяцкай царквы наша мова найперш і стала набываць сваю сучасную назву — беларуская. У дзяржаўнай практыцы ВКЛ яна, як правіла, называлася рускай, што мы бачым у Статуце 1588 г. А ў практыцы уніяцкай царквы яна і стала называцца беларускай. Так, калі ў 1624 г. у Полацку праходзіла ўшанаванне І. Кунцэвіча як блажэннага, якім абвясціў яго рымскі папа, то на гэтай урачыстасці побач з прамовамі на лацінскай і польскай мовах гучалі прамовы і на беларускай[32]. Усё гэта сведчыла аб тым, што уніяцкая царква набывала значэнне беларускай нацыянальнай царквы.

## ІЛЖЭДЗМІТРЫЙ І ВАЙНА ПОЛЬШЧЫ З РАСІЯЙ

На пачатак XVII ст. прыпадаюць і падзеі, звязаныя з імёнамі Ілжэдзмітрыяў І і ІІ. Мы не будзем падрабязна разглядаць іх, бо яны галоўным чынам звязаны з Расіяй, у гісторыю якой яны ўвайшлі як «Смутны час». Для нас толькі важна падкрэсліць тое, што ў гэтых варунках было звязана з Беларуссю.

Першы Ілжэдзмітрый быў беглы манах Грыгорый Атрэп'еў (па некаторых звестках яго продкі перасяліліся ў Расію з Беларусі). З'явіўшыся ў Польшчы, ён выдаваў сябе за царэвіча

Дзмітрыя Іванавіча, што нібыта цудам выратаваўся ад забойства ў 1601 г. і таму меў законнае права на заняцце маскоўскага царскага пасада. Зразумела, што гэта было выкарыстана польскімі магнатамі ў сваіх мэтах. Ілжэдзмітрый I абяцаў ім у ліку іншага пры ўступленні на царскі пасад аддаць Смаленскую і Северскую землі, а ажаніўшыся з Марынай Мнішэк, аддаць ёй у вена Ноўгарад і Пскоў[33]. Як ужо адзначалася, за гэтыя землі вёў вайну і С. Баторый, на якія ў свой час прэтэндаваў Полацк. Тады польскія вярхі адмоўна ставіліся да гэтай спробы свайго караля, бо бачылі выключныя цяжкасці для заваявання гэтых тэрыторый. Цяпер жа для польскіх магнатаў адкрывалася больш лёгкая магчымасць для авалодання гэтымі землямі, варта толькі пасадзіць на маскоўскі пасад Ілжэдзмітрыя, і ён здзейсніць сваё абяцанне.

Ёсць некаторыя звесткі, што Ілжэдзмітрый I сустракаўся і з Львом Сапегам[34]. Вядома, апошні, з'яўляючыся канцлерам ВКЛ, яшчэ ў большай ступені быў зацікаўлены ў вяртанні гэтых земляў, якія б непасрэдна былі б уключаны ў склад яго дзяржавы. Л. Сапега быў і асабіста зацікаўлены ў вяртанні Смаленскай зямлі, дзе меліся яго ўласныя ўладанні. Таму зразумела, чаму ў складзе войскаў, якія ішлі на Маскву дзеля падтрымкі Ілжэдзмітрыя I, былі і беларускія войскі. Аднак дасягнуўшы сваёй мэты, Ілжэдзмітрый I не спяшаўся рабіць тэрытарыяльныя ўступкі Рэчы Паспалітай, што побач з іншымі прычынамі і прывяло яго да пагібелі ў 1606 г.

З Беларуссю звязана і асоба Ілжэдзмітрыя II, адкуль ён нібыта быў родам. Па адных звестках, ён з'яўляўся настаўнікам з Магілёва, па другіх — сынам папа, настаўнікам са Шклова[35]. Ён выдаваў сябе за Ілжэдзмітрыя I, якому ўдалося выратавацца ў час паўстання 1606 года. Як авантура Ілжэдзмітрыя I, так і яго авантура закончылася паражэннем, і ён быў забіты ў 1610 г.

Барацьба Польшчы з Расіяй не закончылася выгнаннем палякаў з Масквы ў 1612 г. Так, польска-казацкі атрад пад началам Лісоўскага даходзіў нават да Ржэва, але ў 1616 г. быў канчаткова разбіты князем Пажарскім. А ў 1617 — 1618 гг. польскі каралевіч Уладыслаў, які быў пры Ілжэдзмітрыі II аб'яўлены маскоўскім царом, зрабіў спробу авалодаць Масквой і, рухаючыся праз Вязьму, дайшоў да яе. Яго саюзнікам быў украінскі гетман Сагайдачны, які ішоў са сваім войскам з



*Ілжэдзмітрый I.*
*З гравюры XVII ст.*

поўдня. Аднак на абарону Масквы было мабілізавана ўсё здольнае насельніцтва, і Уладыслаў пацярпеў паражэнне. Першага снежня 1618 г. недалёка ад Масквы ў вёсцы Дэуліне і было заключана перамір'е на чатырнаццаць з паловай гадоў. Змарнаваная бясконцымі войнамі і ўнутранымі хваляваннямі Масква адмаўлялася ад Смаленска, Чарнігава і Ноўгарада-Северскага і іх земляў на карысць Рэчы Паспалітай. Трэба адзначыць, што калі дзве апошнія былі аддадзены пад уладу непасрэдна Польшчы, то першая ўвайшла ў склад ВКЛ. Такім чынам, праз сто чатыры гады Смаленск — гэты спрадвечна крывіцкі горад быў зноў вернуты Беларусі.

Аднак Дэулінскае перамір'е не задавальняла ні адзін, ні другі бок. Рэч Паспалітая імкнулася да яшчэ большага захопу земляў Расіі. Нельга не адзначыць зацікаўленасці Ватыкана і езуітаў, якія ў мэтах далейшага пранікнення каталіцызму на ўсход штурхалі Польшчу на вайну з Масквой. Апошняя, у сваю чаргу не задаволеная Дэулінскім перамір'ем, імкнулася вярнуць сабе страчанае ў выніку яго. І таму паступова рыхтавалася да вайны, якую і распачала ў 1632 годзе.

Яе паскорыла смерць караля Жыгімонта III, месца якога на пасадзе Рэчы Паспалітай меўся заняць яго сын Уладыслаў. А ён, як вядома, у час Ілжэдзмітрыя II быў аб'яўлены маскоўскім царом, ад чаго не адмаўляўся і зараз. Усё гэта выклікала неспакой у Маскве, і яна ў жніўні 1632 г. пачала вайсковыя дзеянні, якія напачатку былі паспяховымі. Аднак імкненне адваяваць Смаленск не прынесла поспеху. Вясной 1633 г. сюды са сваёй арміяй прыйшоў Уладыслаў, які к гэтаму часу быў ужо абраны каралём Рэчы Паспалітай Маскоўскія войскі



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Уладыслаў IV. Паводле карціны П. Рубенса*

былі акружаны і выведзены са стану актыўных дзеянняў.

Не мела поспеху і спроба Масквы летам 1633 г. заваяваць Полацк. Яе войскі наблізіліся да гэтага горада з боку Вялікіх Лукаў. Захапіўшы Запалоцце, ім не ўдалося захапіць Верхні Замак, і яны адступілі, спаліўшы горад 9 ліпеня 1633 года[36]. Гэта няўдача і здача рускага войска пад Смаленскам і прывялі да заканчэння вайны з боку Масквы. Рэч Паспалітая таксама не змагла прадаўжаць яе, паколькі навісла над ёй пагроза з боку Турцыі. У выніку гэтага быў заключаны ў чэрвені 1634 г. Паляноўскі мір, які фактычна замацоўваў Дэулінскае перамір'е. Адзінае новае ў ім было тое, што, паводле яго, Уладыслаў IV адмаўляўся ад тытула рускага цара.

Няма чаго гаварыць аб тых вялікіх стратах, якія панесла Беларусь у выніку гэтых польска-рускіх войнаў. Па ёй праходзілі войскі, якія рухаліся на Маскву, у іх складзе значная частка была і беларускіх войскаў, што прыводзіла да вялікіх матэрыяльных і людскіх стратаў. Два дзесяцігоддзі працягваўся мір паміж Рэччу Паспалітай і Масквой. За гэты час Масква рыхтавалася да новай вайны, што і дало ёй магчымасць вярнуць сабе страчанае.

# КАЗАЦКІЯ АТРАДЫ Б. ХМЯЛЬНІЦКАГА НА БЕЛАРУСІ

Мірнае жыццё Беларусі было зноў перарвана ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Найперш штуршком для гэтага з'явілася нацыянальна-вызваленчая барацьба ўкраінскага народа, якая пачалася ў 1648 г. пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Яго паўстанцкая армія ў маі 1648 г. атрымала бліскучыя перамогі над польскімі войскамі пад Жоўтымі Водамі і Корсунем. Поспеху вызваленчай барацьбы на Украіне садзейнічала і тое, што вярхі Рэчы Паспалітай пасля смерці караля Уладыслава IV былі занятыя зацятай барацьбой розных груповак за выбранне на каралеўскі пасад свайго стаўленіка.

Каб не даць магчымасці польскаму войску нанесці ўдар па паўстанцах з паўночнага боку, у Беларусь пад выглядам гандляроў, жабракоў, манахаў прыходзяць пасланцы ад Б. Хмяльніцкага з заклікам пачаць вызваленчую барацьбу супроць польскага ўціску. А неўзабаве на поўдні Беларусі з'яўляюцца і казацкія атрады. Аднак іх дзеянні, як і дзеянні ў свой час атрада С. Налівайкі, насілі часовы характар. Паказальны ў гэтых адносінах першы, ужо казацкі загон, які прыбыў на Беларусь пад кіраўніцтвам Галавацкага. Руйнуючы маёнткі ў раёнах Брагіна, Лоева, Гомеля, ён рушыў на Старадуб, адкуль вярнуўся на Украіну.

Услед за гэтым загонам на Беларусі з'явіўся і шэраг іншых, якімі кіравалі Нябаба, Крывашапка, Мікуліцкі, Гаркуша, Сакалоўскі і інш. І іх дзейнасць, як і дзейнасць казакоў Галавацкага, выяўлялася найперш у руйнаванні маёнткаў. Па прыкладзе казакоў у барацьбу ўцягвалася і мясцовае беларускае насельніцтва. Летапісец паказаў, якія найбольш абяздоленыя сацыяльныя групы найперш прымыкалі да паўстанцаў: «На той час туга великая людям всякого стану значным была, а найбольш от гультяйства, то есть от броварников, винников, могильников, наймитов, постухов»[37].

Аднак дзейнасць казакоў насіла разрозненыя характар. Іх поспехі ў паасобных месцах з'яўляліся часовымі, як гэта было ў раёнах Рэчыцы, Мазыра, Турава, Пінска, Навагарадка, Слоніма, Бярэсця, Бабруйска. Супроць паўстанцаў былі кінуты адборныя вайсковыя сілы пад камандай Ельскага, Мірскага,



*Януш Радзівіл*

Паца, Радзівіла і інш. Ім удалося на працягу канца 1648 — пачатку 1649 г. пагасіць казацкія паўстанні. Удзельнікі іх караліся выключна жорстка, як гэта было ў Пінску, Бабруйску, Тураве. Асабліва бязлітасна распраўляліся з кіраўнікамі паўстанцаў, якія траплялі ў палон. Так, у Мазыры быў скінуты з вежы на абледзянелыя каменні Мхненка, а ў Бабруйску быў пасаджаны на кол Паддубскі.

Каб надалей ухіліць небяспеку казацкіх атрадаў з Украіны, спецыяльна сабранае войска пад камандаваннем Януша Радзівіла ў студзені 1649 г., рухаючыся з захаду на ўсход уздоўж левага берага Прыпяці ў напрамку Пінск — Тураў — Мазыр — Рэчыца, умацоўвала паўднёвую мяжу Беларусі. Аднак вясной 1649 г. Б. Хмяльніцкі пасылае на Беларусь трохтысячны атрад казакоў на чале з Галотам, якому ўдалося прарвацца праз Прыпяць у паўднёвыя раёны Беларусі. І ўсё ж, нягледзячы на першую перамогу над войскам Радзівіла, гэты атрад быў разгромлены, а Галота, які паранены трапіў у палон, быў жорстка закатаваны.

У канцы чэрвеня 1649 г. Б. Хмяльніцкі, які ў гэты час зноў узнавіў вайсковыя дзеянні супроць Польшчы, пасылае на Беларусь шасцітысячны казацкі атрад, які ўзначальвалі Падбайла і Гаркуша. Ён умацаваўся паміж Сожам і Дняпром, куды з часткай свайго войска рушыў Радзівіл, каб разграміць казакоў. Але з тылу ён быў атакаваны новым казацкім атрадам Міхаіла Крычэўскага. Хоць войска Радзівіла і панесла значныя страты, але яму ўдалося перамагчы казацкія сілы. Цікава адзначыць, што Радзівіл угаворваў Крычэўскага, які папаў у



*Міхаіл Крычэўскі*

палон, перайсці на яго бок. Аднак той не паддаўся на ўгаворы і, ведаючы, што яго чакае лютая смерць, скончыў жыццё самагубствам, стукнуўшыся галавой аб кола воза.

З падпісаннем Б. Хмяльніцкім у жніўні 1649 г. з Польшчай Збораўскага міру вайсковыя дзеянні на Украіне часова спыніліся. А гэта дало магчымасць Я. Радзівілу канчаткова разграміць рэшткі казацкіх атрадаў, якія знаходзіліся ў раёне Лоева. Пасля гэтага ён узяў кірунак на Украіну. Яго наступленне не мог стрымаць высланы Б. Хмяльніцкім 15-тысячны атрад палкоўніка Марціна Нябабы. Ён быў разбіты ў раёне лоеўскай пераправы з вялікімі ахвярамі, у ліку якіх быў і сам Нябаба.

Паражэнне войскаў Б. Хмяльніцкага пад Берасцечкам у 1651 г. дало магчымасць Я. Радзівілу авалодаць Кіевам. Як бачым, Я. Радзівілу, хоць і з вялікімі цяжкасцямі, усё ж удалося не толькі перамагчы шматлікія казацкія ўварванні на Беларусь, але і прарвацца на Украіну, і захапіць Кіеў. І гэтыя яго дзеянні не былі вынікам яго саюза з Польшчай у барацьбе з Б. Хмяльніцкім. Якраз наадварот, Я. Радзівіл быў праціўнікам польскага ўплыву і каталіцтва ў ВКЛ і таму дзейнічаў самастойна ў інтарэсах сваёй дзяржавы. Не выключана, што яго прарыў на Украіну быў прадыктаваны імкненнем зноў вярнуць яе землі ў ВКЛ, у складзе якога яны былі да Люблінскай уніі.

У 1654 г. барацьба Б. Хмяльніцкага з Польшчай закончылася аб'яднаннем Украіны з Расіяй. Здавалася б, што разам з гэтым наступіць мір і на Беларусі, аднак гэтага не адбылося, яна зноў стала арэнай працяглай і жорсткай вайны.

## ПАЧАТАК «ПАТОПУ»

Гісторыя Беларусі — гэта найперш гісторыя войнаў, пры гэтым самых крывавых і разбуральных. Цяжка пералічыць іх з-за вялікай колькасці на нашай зямлі. Вось і зараз, не паспеў наш народ акрыяць ад Лівонскай вайны, доўгай і пакутнай, як зноў трапіў пад агонь яшчэ больш знішчальнай вайны, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай Руска-польскай вайны 1654 -- 1667 гг. Фактычна вайсковыя дзеянні з казацкімі атрадамі працягваліся з 1648 г., аднак ў 1654 г. пачаўся сапраўдны вайсковы патоп, які хлынуў на Беларусь з розных бакоў.

Адразу пасля аб'яднання Украіны з Расіяй у 1654 г. для Масквы адкрылася магчымасць ажыццяўлення сваёй запаветнай мары: аб'яднаць пад сваёй уладай усе ўсходнеславянскія землі, непадначаленай з якіх была толькі Беларусь. І калі Украіна аб'ядналася з Масковіяй добраахвотна, то Беларусь трэба было заваёўваць, што і стала галоўнай прычынай гэтай вайны.

Ужо восенню 1653 г. разарваны дыпламатычныя адносіны з Рэччу Паспалітай з прычыны таго, што апошняя, маўляў, парушала ранейшыя дамовы з Масквой. А гэта азначала непазбежнасць вайны. І што важна адзначыць — план яе пачатку і далейшага ходу царскаму ураду падказаў Б. Хмяльніцкі ў сваёй грамаце ад 17 мая 1654 года[38]. У ёй гаварылася аб неабходнасці шчыльнага ўзаемадзеяння рускіх і ўкраінскіх войскаў. Калі першыя будуць наступаць з усходу, то другія з поўдня.

Адразу пачалася ўзмоцненая падрыхтоўка да вайны. Шэраг дакументаў сведчыць, што насельніцтва паасобных земляў Беларусі, асабліва пагранічных з Расіяй, чакала прыходу маскоўскіх войскаў як сваіх вызваліцеляў[39]. Не выключана, што гэта было арганізавана агентамі Масквы, бо ў асяроддзі цёмных і забітых мас народа жывуць ілюзорныя надзеі на «добрага» цара, які прынясе вызваленне. Са свайго боку і царскі ўрад рабіў усё, каб падтрымаць гэтыя дарэмныя чаканні, даючы распараджэнні сваім ваяводам не крыўдзіць тых «беларусцаў», якія нс будуць аказваць супрацiўлення рускаму войску.

Ведаючы аб падрыхтоўцы вайны з боку Масквы, палявы гетман ВКЛ Януш Радзівіл выдае 16 лютага 1654 г. універсал



*Аблога Смаленска ў 1654 г.*

ваяводам аб прывядзенні войскаў пад Оршай у баявую гатоўнасць[40].

Вайна пачалася ў сярэдзіне мая 1654 г. з боку Масквы, калі яе войскі пад камандаваннем Шарамецьева накіраваліся на Невель і гарады, размешчаныя на Зах. Дзвіне. Сам жа цар Аляксей Міхайлавіч узначаліў цэнтральную групоўку войскаў, якая ўзяла ў аблогу Смаленск. З боку Бранска кірункам на Мсціслаўскае ваяводства рушылі войскі пад началам Трубяцкога. З поўдня на Беларусь выйшла 30 000 казакоў, пасланых Б. Хмяльніцкім пад камандай І. Залатарэнкі, якія рухаліся на поўнач уздоўж Дняпра ў кірунку Гомеля, Прапойска, Старога Быхава. Як бачым, тэрыторыя Беларусі была абкладзена і з фронту, і з флангаў, што давала рускім войскам магчымасць захапіць умацаванні па Зах. Дзвіне і Дняпры і, абапіраючыся на першы поспех, прасоўвацца далей на захад.



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Ян II Казімір Ваза. З партрэта XVII ст.*

Гэтаму забяспечвала поспех і тое, што сілы Польшчы і ВКЛ былі тут непараўнальна слабымі. Дзесяцітысячнае войска Я. Радзівіла, якое знаходзілася пад Оршай, не магло прыйсці на дапамогу абложанаму рускімі войскамі Смаленску. Не мела поспеху спроба Я. Радзівіла сабраць павятовыя апалчэнні з мясцовай шляхты, якая тут лічылася ў дастатковай колькасці, каб намнога ўзмацніць войска. Аднак яна тут з асаблівай выразнасцю паказала сваю карыслівасць. Будучы пад уладай Польшчы, шляхта ВКЛ змагалася за наданне ёй прывілеяў польскай шляхты, чым яна асабліва даражыла. Аднак цяпер, бачачы наступленне маскоўскіх войскаў і баючыся, апынуўшыся пад рускай уладай, страціць свае ранейшыя правы, яна ўхілялася ад уступлення ў армію, каб бараніць айчыну. Трэба ўлічваць, што цар Аляксей Міхайлавіч загадаў прымаць на вайсковую службу тых беларусаў, якія захочуць яму служыць. Ён нават дазваляў фарміраваць асобныя атрады з беларусаў у складзе яго войскаў[41]. Як пакажуць далейшыя падзеі, шляхта шэрагу мясцовасцей Беларусі, занятых маскоўскімі войскамі, звярталася да новых уладароў аб захаванні старых ці наданні ёй новых прывілеяў.

Як бачым, у гэты цяжкі для Радзімы час яе феадалы клапаціліся перш за ўсё пра свае выгоды, гатовыя служыць за іх чарговаму гаспадару. У свой час Я. Купала добра ахарактарызаваў іх паводзіны, адзначыўшы, што «людзі «лепшыя», як зблудшая аўца, той за маскоўскім, іншы за варшаўскім раем... за шляхецкія адзнакі або за царскія чыны... плылі ў чужыншчыну сляпой паводкай»[42].

Менавіта з прычыны малалікасці войска ВКЛ і дало магчымасць рускім войскам імкліва развіваць наступленне. Ужо



*Крылаты гусар XVII ст.*

ў ліпені 1654 г. ім удалося авалодаць Полацкам, Дзісной, Друяй і іншымі гарадамі. А ў маі — чэрвені 1654 г. казакі І. Залатарэнкі, якіх было 20000, захапілі гарады Гомель, Чачэрск, Новы Быхаў і падышлі да Старога Быхава. Аднак там, дзе былі больш-менш моцныя гарнізоны, поспех рускіх войскаў быў больш стрыманы. Толькі праз тры месяцы аблогі 18 верасня быў захоплены Смаленск. За здачу яго ваявода Піліп Абуховіч падвергся суроваму і здзекліваму асуджэнню ў літаратурным творы «Ліст да Абуховіча». І толькі 18 лістапада здаўся Віцебск.

Аблогі і ўзяцці рускімі войскамі гарадоў Беларусі суправаджаліся іх разбурэннем, спусташэннем, вынішчэннем і palaненнем насельніцтва. У гэтых адносінах паказальны лёс Мсціслаўля, аднаго з першых захопленых беларускіх гарадоў. Калі сам горад быў захоплены параўнаўча лёгка, то яго замак, у якім хаваліся ад небяспекі многія жыхары ваяводства, доўга не здаваўся. І толькі прадпрыняўшы прыступ за прыступам з дапамогай моцнага артылерыйскага агню, замак быў захоплены. І як вынік гэтага — насельнікаў розных станаў (шляхты, мяшчан, яўрэяў, простых людзей) насмерць секлі, а калі сярод трупаў знаходзілі жывых, то іх бралі ў палон і вялі ў Маскву[43]. Такі ж лёс падзялілі і іншыя беларускія гарады.

Захоп у палон жыхароў Беларусі і вывад іх у Расію быў найважнейшай мэтай расійскага ўрада. Так, летам 1655 г. атрад Валконскага, абрабаваўшы і спаліўшы Тураў, Давыд-Гарадок, Столін, Пінск, вывеў дзесяткі тысяч сялян і гараджан у Расію. Асаблівы клопат выяўляўся ў паляванні на таленавітых майстроў, якіх, узяўшы ў палон, выкарыстоўвалі ў Маскве. Так, напрыклад, было з рэзчыкам Арсенем, які з дваццаццю сваімі

землякамі ўпрыгожыў беларускай рэззю Крэмль і Каломенскі палац. Пераехаў у Маскву і Сімяон Полацкі, які дзякуючы сваёй выключнай таленавітасці і адукаванасці ўсебакова ўзбагаціў рускую культуру.

## ХТО Ж ЁН, ПАКЛОНСКІ?

Падзеі гэтай вайны з асаблівай яскравасцю выявілі факт замацавання за ўсходняй часткай нашай зямлі назвы «Беларусь». Яна шырока ўжываецца ў дзяржаўных дакументах таго часу[44]. Гэта назва паступова пачала пашырацца на захад нашай зямлі, выціскаючы адтуль назву «Літва», якая канчаткова ў пачатку XX ст. перайшла на тэрыторыю сучаснай Літвы. На жаль, гэта вельмі важная акалічнасць не ўлічвалася, ды і зараз не ўлічваецца шэрагам даследчыкаў, і таму ўсё, што насіла назву «Літва» ў мінулым, цалкам адносіцца да сучаснай Літвы. Усё гэта паказвае, што назва «Беларусь» з'яўляецца спадкаемніцай усяго ранейшага, што знаходзілася пад назвай «Літва».

Паказальна і тое, што ў гэты час атрымаў пашырэнне і тэрмін «беларускае пісьмо», што і зразумела. Будучы на працягу стагоддзяў дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага, яна канчаткова выкрышталізавалася ў высокаразвітую і ў гэтай якасці атрымала ўсеагульнае прызнанне і таму шырока ўжывалася ў афіцыйнай перапісцы, пра што сведчаць шматлікія дзяржаўныя дакументы, у якіх адзначана, што яны выкананы «беларускім пісьмом»[45]. Ім карысталіся жыхары беларускіх гарадоў нават пры звароце да маскоўскага цара. Заслугоўвае асаблівай увагі тое, што беларускае пісьмо ўжывалі Б. Хмяльніцкі і наказны казацкі гетман І. Залатарэнка. І ці можна гаварыць пасля гэтага, што дзяржаўнай у ВКЛ была ўкраінска-беларуская (?) мова, як сцвярджаецца ў некаторых даследаваннях, калі нават тагачасныя ўкраінскія лідэры карысталіся не ўкраінскім, а беларускім пісьмом.

Канчатковае замацаванне за ўсходам нашай дзяржавы назвы «Беларусь» пацвярджаецца і з'яўленнем нашых першых дзеячаў, якія ўсведамлялі сябе як беларусы і былі абаронцамі інтарэсаў сваёй зямлі. Першым з іх і быў Канстанцін (ён часамі ў сваіх лістах называў сябе Косткам) Паклонскі. У савец-

кай гістарыяграфіі ён паказваўся як авантурыст і здраднік[46]. І сапраўды, шэраг яго дзеянняў на першы погляд як бы пацвярджаюць гэту характарыстыку. Аднак тут не ўлічваліся канкрэтныя гістарычныя абставіны таго часу, якія дыктавалі неабходнасць такіх ці іншых крокаў дзейнасці К. Паклонскага.

З'яўляючыся шляхціцам і будучы жыхаром Магілёва, ён у пачатку вайны ўзначаліў тую частку насельніцтва горада, якая гатова была добраахвотна здаць свой горад рускаму войску, якое з ходу не ўзяло яго. Але прыхільнікі К. Паклонскага былі ў меншасці, і таму на яго глядзелі як на здрадніка і мяцежніка. І ён з некалькімі сваімі прыхільнікамі пакідае Магілёў, звязваецца з казакамі, якія адсылаюць яго да Б. Хмяльніцкага, па парадзе якога ён накіроўваецца ў Маскву да цара Аляксея Міхайлавіча. Прыязна прыняты ім, К. Паклонскі, атрымаўшы ад цара тытул палкоўніка і каштоўныя падарункі, абавязваецца прыцягваць магілёўцаў да падуладнасці Рускай дзяржаве. Яму таксама быў дадзены дазвол на стварэнне палка з мясцовай шляхты і служывых людзей[47].

Вярнуўшыся таемна ў Магілёў, Паклонскі беспаспяхова імкнуўся схіліць гараджан да добраахвотнай здачы царскаму войску, і тады ён, з'явіўшыся ў Чавусах, пачынае фарміраваць свой полк са шляхты, гараджан і сялян. Сабраўшы досыць значнае шасцітысячнае войска, Паклонскі з ім падышоў да Магілёва, размясціўшыся недалёка ад яго лагерам. Злучанымі сіламі рускіх войскаў ваяводы Войекава, казацкага палка І. Залатарэнкі і палка К. Паклонскага 24 жніўня 1654 г. Магілёў быў захоплены[48]. Маскоўскі ўрад міласціва захаваў за магілёўцамі ўсе іх ранейшыя правы і прывілеі. У тым ліку і Магдэбургскае права[49]. Між іншым, ім было замацавана і права насіць адзенне «па даўнім звычаі». А гэта значыць, што магілёўцы цанілі свае народныя асаблівасці.

Уся шляхта, якая прызнала сябе падданымі цару, таксама захавала ўсе свае ранейшыя правы. Не быў абыдзены царскай міласцю і сам Паклонскі. Яму ў часовае карыстанне быў аддадзены Магілёў з Чавускім паветам, што і стала асновай яго палкавой адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі. Аднак Паклонскі не здаволіўся толькі гэтым і стаў пашыраць тэрыторыю свайго кіравання, імкнучыся падначаліць сабе ўсё беларускае Падняпроўе, г. зн. тэрыторыю, якая ў той час і назы-

валася Беларуссю. Адсюль зразумела, чаму Паклонскі стаў называць сябе палкоўнікам беларускім.

Да пачатку восені 1654 г. наступальныя дзеянні рускіх войскаў спыніліся, што дало магчымасць войскам ВКЛ на чале з Я. Радзівілам пайсці ў контрнаступленне. Казакі І. Залатарэнкі пад пагрозай далейшага націску Я. Радзівіла адышлі да Новага Быхава.

І вось тут менавіта і выяўляецца ўся сутнасць дзейнасці Паклонскага. Ён не столькі імкнуўся, каб аддаць Магілёў і ўсё беларускае Падняпроўе рускай уладзе, колькі выкарыстаць яе як рэальную сілу ў падначаленні сабе гэтай тэрыторыі. І ён, як мы бачым, дасягнуў гэтага. Хоць ён у сваіх зваротах да цара называў сябе яго падданым і халопам, аднак усё гэта, як паказалі далейшыя падзеі, было толькі прыкрыццём яго сапраўдных намераў. Праўда, іх спярша заўважыў не цар, а казацкі гетман І. Залатарэнка. Калі яго атрады раней падначальвалі паўднёва-ўсходнія гарады Беларусі, то на тэрыторыі Магілёўскага павета казакі ўбачылі для сябе перашкоду, бо тут існавала ўжо самастойная адміністрацыйна-тэрытарыяльная арганізацыя на чале з Паклонскім. Яна мела сваё значнае войска і таму магла абараняць свае інтарэсы.

У гэты ж час з выключнай выразнасцю выявіліся і сапраўдныя мэты ўкраінскага казацтва як у ранейшых яго ўварваннях на Беларусь, так і зараз, у гэтай вайне. Менавіта казакі ўступілі ў яе не для таго, каб дапамагчы Маскве захапіць беларускія землі, а каб далучыць іх да сябе. Войска І. Залатарэнкі так затрымлівалася каля абложаных ім беларускіх гарадоў, бо патрабавала ад іх, каб яны здаваліся не «на імя цара», а ім. Убачыўшы варожыя адносіны да сваіх казакоў з боку Паклонскага, Залатарэнка звяртаецца са скаргай на яго да маскоўскага цара. У сваім лісце ён паведамляў, як Паклонскі «с хоругвями, з бубнами, наехав на сёла, казаков запорожских одних убита, мужиков казнил, а иные несть где подевались»[50]. Хоць Залатарэнка і мог перабольшваць жах учынкаў войска Паклонскага, але яскрава бачна непрымірымасць апошняга да спроб казакоў умацавацца і ў Магілёўскім павеце. Трэба думаць, што супярэчнасці паміж Паклонскім і казакамі не засмучалі, а радавалі маскоўскую ўладу, бо ў гэтым яна бачыла аслабленне

аднаго і другога боку, што адкрывала менавіта ёй упэўненасць ва ўстанаўленні тут свайго поўнага панавання.

Паклонскі па-ранейшаму трымае сувязь з Масквой. Так, яшчэ ў пачатку студзеня 1655 г. ён звяртаецца да цара па дапамогу войскам, каб ваяваць супроць П. Сапегі, і Аляксей Міхайлавіч абяцаў яму падтрымку. У сярэдзіне студзеня ён з такой жа просьбай звярнуўся да баярына Бутурліна, адначасова скардзячыся на Залатарэнку, які не дапамагае яму[51]. Але ўсё гэта, відавочна, было толькі прыкрыццём для яго рашучага пераходу на бок ВКЛ. Ён ужо ў гэты час зносіцца з Я. Радзівілам, войскі якога і В. Гансеўскага, перайшоўшы ў наступленне, узялі Оршу, Копысь, Дуброўна і знялі аблогу са Старога Быхава і аблажылі Новы Быхаў, Віцебск і Магілёў. І калі раней Паклонскі ўсё рабіў для таго, каб дапамагчы Маскве заваяваць Магілёў, дык зараз ён дапамагае Я. Радзівілу вызваліць гэты горад ад рускіх войскаў. Аднак усё гэта нельга тлумачыць авантурызмам Паклонскага. Не выключана, што, будучы адданым праваслаўю і адчуваючы наступленне на яго з боку каталіцтва, ён і звярнуўся да маскоўскага цара, бачачы ў ім абаронцу ад такой пагрозы. У гэтых адносінах ён падзяляў ілюзіі значнай часткі нашага народа ў поглядзе на рускага цара як на вызваліцеля ад рэлігійнага ўціску. Але, як мы бачылі, ён выкарыстаў маскоўскую сілу ў сваіх інтарэсах, а менавіта ў стварэнні свайго асобнага войска, якое бараніла інтарэсы сваёй зямлі, за якой ужо замацавалася назва «Беларусь». Менавіта тое, што Паклонскі называў свой полк беларускім, добра сведчыць аб успрыняцці ім гэтай зямлі як сваёй Радзімы, якая мае сваю адметную назву і якой ён павінен аддана служыць і бараніць свае інтарэсы. Гэта і дало яму магчымасць убачыць у запарожскіх казаках не абаронцаў яго роднай зямлі, а яе захопнікаў і рабаўнікоў. І ён робіць усё, каб бараніць ад іх сваё насельніцтва. Тое ж самае ён убачыў і ў маскоўскай уладзе. Аб якой абароне праваслаўя магла ісці гаворка, калі куцеінскія праваслаўныя манахі былі ў палон забраны, а ўсё дарагое ўбранства манастыра абадрана і ў Маскву адпраўлена? Пра якое вызваленне магла ісці гаворка, калі, як пісаў Паклонскі, пасля «залатых слоў» абяцанак «железные волности на ноги надевали, жён и девиц их мучительски тиранско с ними поступя, на вечную неволю отдали, что не чинитца от поган»[52].

Убачанае Паклонскім закрэсліла далейшыя ілюзіі і прывяло яго, як ён сказаў, «к возврату до милое и златые отчины»[53]. Не супярэчыў гэтаму і ягоны пераход на бок Я. Радзівіла, бо апошні, будучы праціўнікам польскага ўплыву ў ВКЛ, змагаўся ў інтарэсах сваёй дзяржавы, часткай якой была Беларусь. Вось чаму Паклонскі дапамагае Я. Радзівілу адваяваць Магілёў. Менавіта ён ноччу 6 лютага 1655 г., знаходзячыся са сваім палком у Магілёве, адчыніў яго вароты для Я. Радзівіла. Аднак ім удалося толькі пранікнуць за знешні земляны вал. А ўнутраны стаў недаступным у выніку ўпартага супраціўлення рускага войска. І Я. Радзівілу прыйшлося зняць аблогу горада і адступіць да Бярэзіны. Стаўшы яго саюзнікам, адначасова з ім адступіў і Паклонскі. Важна адзначыць, што Я. Радзівіл 10 траўня 1655 г. асобным універсалам даў К. Паклонскаму палкоўніцтва над усімі беларускімі краямі[54]. Такім чынам, і Я. Радзівіл бачыў у асобе К. Паклонскага выдатнага дзеяча Беларусі і таму даручыў яму кіраванне яе войскамі. Праўда, яму не ўдалося стрымаць наступ рускіх войскаў на Друці і Бярэзіне, што вымусіла адступіць на захад.

Далейшы лёс Паклонскага быў вельмі цяжкі і складаны. Спачатку ён прадаўжаў служыць у войску Я. Радзівіла, пасля трапіў у Прусію, ваяваў са шведамі, да якіх папаў у палон, адкуль яму ўдалося вызваліцца. Жыццё яго абарвалася дзесьці каля 1662 г. Для нас жа ў дзейнасці К. Паклонскага асабліва важна тое, што ён, знаходзячыся ў складаных гістарычных абставінах, змог выкарыстаць іх для ўзвышэння сваёй краіны, якая набывала сваю новую назву «Беларусь» і першым выдатным дзеячам якой ён і стаў.

## ЯШЧЭ АДНА УНІЯ

Летам 1655 г. рускія войскі зноў перайшлі ў наступленне, паступова прасоўваючыся на захад. Тое, што ім разам з казакамі Залатарэнкі з чэрвеня па верасень 1655 г. удалося заняць Барысаў, Менск, Вільню, Гродна, Коўна, Клецк, Слонім, Тураў, Пінск, Любань і аблажыць Львоў, сведчыць аб іх вялікім поспеху. Фактычна амаль уся тэрыторыя Беларусі і Літвы і частка Украіны былі заваяваны і далучаны да Расіі. І гэта дало




*Аблога шведамі Берасця ў 1657 г.*
*З тагачаснай гравюры*

падставу цару Аляксею Міхайлавічу з верасня 1655 г. у свой тытул апроч Вялікай і Малой Расіі ўключыць Белую Расію і тытул вялікага князя літоўскага.

Здавалася б, што Масква дасягнула пастаўленай ёй мэты ў вайне, якую распачала ў 1654 г. Аднак вайна набыла нечакана новы паварот. Рэч у тым, што ў выніку гэтых поспехаў рускага войска склаліся вельмі спрыяльныя абставіны для Швецыі ў справе разгрому яе даўняга саперніка — Рэчы Паспалітай. Праўда, яшчэ раней у Маскве шведскія паслы вялі перамовы з царскім урадам аб падзеле паміж Швецыяй і Масквой тэрыторыі ВКЛ, пры гэтым Масква прапаноўвала шведам адначасова пачаць вайну з Рэччу Паспалітай. Але згода не была дасягнута, бо Масква спадзявалася без шведскай дапамогі справіцца з Рэччу Паспалітай, што ёй у вялікай меры і ўдалося ў выніку летняга наступлення 1655 г. І вось зараз, убачыўшы і ўзважыўшы ўсё гэта, шведскі кароль Карл X Густаў пачаў у чэрвені вайну з Польшчай, у выніку чаго яна і была канчаткова разгромлена і заваявана. Акупавана была і значная частка Літвы. Аднак далейшы рух рускіх войскаў на паўночны захад ад Вільні спыніўся. У далейшым для ўмацавання свайго тылу

былі паспешна пасланы рускія войскі пад тыя гарады, дзе яшчэ знаходзіліся гарнізоны войск ВКЛ, якія не здаліся ворагу і прадаўжалі супраціўленне (Берасце, Слуцк, Стары Быхаў). У сваю чаргу Залатарэнка адвёў казакоў пад Стары Быхаў, каб мець большую магчымасць трымаць пад сваім кантролем паўднёва-ўсходнюю частку Беларусі. Аднак у пачатку кастрычніка 1655 г. у баі І. Залатарэнка быў цяжка паранены і праз некалькі дзён памёр[55]. Замест яго прызначаны быў Іван Нячай, зяць Б. Хмяльніцкага.

Аднак што ж з'явілася галоўнай прычынай спынення далейшага руху рускіх войскаў на паўночны захад, каб прабіцца да Балтыйскага мора, што было іх канчатковай мэтай у гэтай вайне? Як было бачна, ВКЛ зноў апынулася паміж двух агнёў: і з боку Расіі, і з боку Швецыі. І яшчэ да здачы Вільні перад Я. Радзівілам, у руках якога была засяроджана ўся ўлада і перад якім стаяла адказнасць за лёс дзяржавы, паўстала нялёгкае пытанне, як ратаваць яе ў такім цяжкім для яе становішчы. Вядома, што такое пытанне не было новым у гісторыі нашай дзяржавы. І адказ на яго павінен быў выключыць магчымасць абстрэлу з двух бакоў, што ў адваротным выпадку магло быць смяртэльным для яе. У выніку гэтага і заключаліся уніі з Польшчай. Таму і зараз перад Я. Радзівілам паўстала неабходнасць выбраць, з кім пайсці на саюз. Як ужо адзначалася, вялікі гетман быў далёка не прыхільнік саюза з Польшчай і супраціўляўся яе ўплыву ў ВКЛ. Да таго ж ён ненавідзеў караля Яна Казіміра. І вось цяпер, калі Польшча была адолена шведамі, перад Я. Радзівілам паўстала рэальная магчымасць парваць з ёй унію. Аднак гэта адначасова азначала для ВКЛ ваяваць і са Швецыяй, і з Масквой, паколькі і першая, і другая захапілі землі княства. Але для ВКЛ гэта было згубным, і таму перад ім зноў паўстала пытанне аб уніі. І ў дадзеных абставінах яна магла быць заключана або з Масквой, або са Швецыяй. Я. Радзівіл добра разумеў, што саюз з першай быў яшчэ больш небяспечны, чым з Польшчай, бо гэта азначала б аддаць дзяржаву на поўнае паглынанне. І Я. Радзівіл рашыў пайсці, як на меншае зло, на унію са Швецыяй. Трэба зазначыць, што такое рашэнне не было раптоўным, бо яшчэ ў 1649 г. ён распачаў сувязь з паўночнай суседкай. А гэта можа сведчыць аб прадбачанні ім у далейшым вайны Швецыі з

Польшчай, што і дасць магчымасць разарваць унію з апошняй і заключыць яе з другой. Трэба ўлічваць і тое, што ў гэты час Б. Хмяльніцкі праз Залатарэнку меў стасункі са шведскім каралём. Трэба думаць, што гэта не было таямніцай для Я. Радзівіла і падштурхоўвала яго на саюз са Швецыяй.

Апынуўшыся пасля заняцця рускімі войскамі Вільні 28 ліпеня 1655 г. на тэрыторыі, занятай шведамі, Я. Радзівіл прыступіў да ажыццяўлення вызначанай справы. І 17 жніўня пад Кейданамі (тут знаходзіўся і К.Паклонскі) і быў заключаны дагавор аб пераходзе ВКЛ пад пратэктарат Швецыі. Пагадненне прадугледжвала аб'яднанне войскаў дзвюх краін супроць супольнага ворага. Шведскі бок абавязваўся вярнуць ВКЛ усе страчаныя ім у вайне з Масквой гарады і землі. Асабліва важным у пагадненні было тое, што тут гарантавалася роўнасць дзвюх дзяржаў і выключалася магчымасць інкарпарацыі Швецыяй ВКЛ. Пагадненне гэта з боку ВКЛ у Кейданах падпісалі каля паўтысячы асоб, сярод іх быў Я. Радзівіл, які пасля гэтага называў сябе гетманам шведскага караля, але адначасова лічыў сябе віленскім ваяводам. Праўда, у далейшым выявілася, што далёка не ўсе падтрымалі гэту унію, шмат было ў вярхах дзяржавы тых, хто лічыў сябе падданым каралю Казіміру.

Заключэнне Кейданскай уніі і было прычынай часовага спынення далейшага наступлення рускіх войскаў. Яе ўмовы сталі адразу вядомымі расійскаму боку, што для яго азначала непазбежнасць вайны са Швецыяй. Гэта тым больш стала відавочным, калі шведскія войскі, рухаючыся ўверх па Зах.Дзвіне, захапілі Браслаў, Друю і Дрысу, якія ў 1654 г. былі заняты рускімі войскамі. Для маскоўскага ўрада як вораг на першы план пачала выступаць Швецыя, якая сваімі дзеяннямі загароджвала рускім войскам шлях да Балтыйскага мора, што было таксама важнейшай мэтай іх і што ў сваю чаргу асабліва небяспечна было для Швецыі, якая ставіла сваёй задачай не выпускаць са сваіх рук валодання Прыбалтыкай. Усё гэта і змяніла рэзка кірунак вайны, якая з Руска-польскай стала пераходзіць у Руска-шведскую.

Пачаўшы ў маі 1656 г. перамовы аб міры з Польшчай, Масква аб'явіла вайну Швецыі, і яе войскі. паспяхова рухаючыся, у жніўні 1656 г. аблажылі Рыгу. Спадзеючыся канчаткова замацаваць за сабою Беларусь і маючы на мэце перацягнуць на

свой бок шляхту і магнатаў, Масква пачала гарантаваць ім захаванне іх ранейшых правоў і прывілеяў, а за службу ў царскай арміі даваць і новыя маёнткі.

Перамовы аб міры паўнамоцных паслоў Расіі і Польшчы пачаліся ў жніўні 1656 г. у Вільні. У гэты час ужо рэзка змяніліся справы на вайне. Руская армія, не змогшы ўзяць Рыгу і атрымаўшы тут паражэнне ад шведаў, вымушана была адступіць да Полацка. Значна лепшыя абставіны склаліся ў Польшчы. Там узнялася народная барацьба супроць шведскіх акупантаў, і яны цярпелі паражэнне. Усё гэта паўплывала і на ход перамоваў. Калі пазіцыі рускіх паслоў слабелі, то польскіх мацнелі. Так, апошнія і слухаць не хацелі аб выбранні Аляксея Міхайлавіча каралём Рэчы Паспалітай пасля смерці Яна Казіміра. Гэта і з'явілася прычынай таго, што замест міру было заключана ў кастрычніку 1656 г. толькі перамір'е. Абодва бакі абавязваліся і далей весці сумесную вайну супроць Швецыі.

Варта асаблівай увагі тое, што маскоўскі бок у віленскіх перамовах асабліва настойваў на скасаванні царкоўнай уніі. І гэта зразумела. Маскоўская агрэсія на ВКЛ, як правіла, праходзіла пад знакам вызвалення яго адзінавернага праваслаўнага насельніцтва ад прыгнёту спачатку нібыта літоўска-язычніцкіх князёў, а пасля польска-каталіцкіх каралёў. Аднак зараз, калі пераважная колькасць праваслаўных стала уніятамі, якія падначальваліся рымскаму папу, гэта падстава для маскоўскіх вызваліцеляў адпадала, і таму яны так дамагаліся адмены уніі. І толькі дзякуючы настойлівасці з боку Рэчы Паспалітай, гэта ўмова не была ўнесена ў Віленскае пагадненне.

К гэтаму часу пачала траціць сваё значэнне і Кейданская унія. Адной з прычын гэтага было тое, што вялікая колькасць магнатаў і шляхты не прызнала яе і па-ранейшаму лічыла сябе падданымі караля Яна Казіміра, што і ўнесла раскол ў малазначнае войска ВКЛ. Мела значэнне і тое, што Я. Радзівіл — галоўны ініцыятар Кейданскай уніі, прыйшоўшы са сваім войскам у Падляшша, быў абложаны П. Сапегам у Тыкоцінс, дзе ў самым канцы 1655 г. і памёр (па некаторых звестках быў атручаны, што верагодна). Пасады вялікага гетмана ВКЛ і віленскага ваяводы займае яго найбольшы праціўнік П. Сапега, што азначала канчатковую перамогу прапольскай арыентацыі ў вярхах ВКЛ і аднаўленне Люблінскай уніі.

Прычына спынення Кейданскай уніі крыецца і ў адносінах да яе са шведскага боку, які не лічыўся з яе ўмовамі, ігнаруючы іх. Частыя рабаўніцкія адносіны шведскага войска да насельніцтва ВКЛ выклікалі нянавісць да яго і нават прывялі Жамойць да паўстання. З адыходам шведскага войска з тэрыторыі ВКЛ у Інфлянты ў красавіку 1656 г. фактычна азначала, што Кейданская унія перастала існаваць. Яе заключэнне са Швецыяй, як і ранейшыя уніі з Польшчай, было вынікам выключна цяжкага знешняга становішча ВКЛ. Не могучы змагацца з усімі сваімі ворагамі адначасова, што магло б прывесці да канчатковай пагібелі дзяржавы, ВКЛ вымушана было ісці на саюз з адным са сваіх суседзяў. Гэтым яно забяспечвала сабе далейшае існаванне, праўда, абмяжоўваючы свой суверэнітэт. Прычынай непрацягласці існавання уніі са Швецыяй было і тое, што апошняя непасрэдна не межавалася з ВКЛ, як Польшча. Толькі наяўнасць шведскага войска на тэрыторыі ВКЛ і магла забяспечваць унію з ёй. Аднак у выніку сваіх няўдач Швецыя вымушана была вывесці свае войскі з тэрыторыі ВКЛ, што і прывяло да спынення Кейданскай уніі.

## ВАЙНА ЗНОЎ РУСКА-ПОЛЬСКАЯ

Заключэнне перамір'я з Польшчай дало магчымасць Маскве больш надзейна замацоўваць сваю ўладу над Беларуссю, якая была поўнасцю акупавана царскімі войскамі. Аднак тут з асаблівай яскравасцю выявіліся супярэчнасці паміж Масквой і ўкраінскімі казакамі, на чале якіх пасля гібелі І. Залатарэнкі стаў Іван Нячай, адзін з самых прыбліжаных і ўплывовых асоб, што акружалі Б. Хмяльніцкага, зяцем якога ён быў. Выяўляючы інтарэсы казацкай старшыны, што імкнулася ў мэтах свайго ўзбагачэння завалодаць землямі Беларусі, дзе ім, на іх думку, спакойней было б панаваць, І. Нячай, умацаваўшыся ў Чавускім павеце , не пажадаў аддаваць гэту тэрыторыю ў падначаленне маскоўскага ваяводы, а пасля стаў пашыраць сваю ўладу на Магілёўскі, Капыльскі і Мсціслаўскі паветы. Цікава адзначыць, што, калі раней І. Нячай называў сябе «палкоўнікам Чавускім», то зараз яго тытулам стаў «палкоўнік беларускі». І гэта вельмі паказальна, бо сведчыць, наколькі назва

«Беларусь» замацавалася тады за ўсходам нашай краіны. Мы ведаем, што «палкоўнікам беларускім» называў сябе К. Паклонскі. Але калі ў адносінах да яго гэта назва была сапраўднай, то для І. Нячая яна з'яўлялася фальшывым прыкрыццём, бо ён не змагаўся за незалежнасць Беларусі, як К. Паклонскі, а імкнуўся падначаліць яе казацкай старшыне.

Дзеянні І. Нячая не маглі не выклікаць незадаволенасці Масквы, якая лічыла Беларусь сваім уладаннем, што падкрэслівалася ўнясеннем у тытул Аляксея Міхайлавіча «Белай Русі»[56]. Таму Масква запатрабавала ад Б. Хмяльніцкага вываду казакоў з Беларусі, але пасля абмежавалася дазволам размяшчэння казакоў І. Нячая толькі ў Чавускім павеце. Але гэта не закрэсліла ранейшых намераў І. Нячая. Ён толькі змяніў спосаб дзеянняў, накіраваўшы іх супроць магнатаў і шляхты, якім царскім урадам была вернута іх маёмасць і ўсе іх прывілеі. Менавіта ў асобе магнатаў і шляхты І. Нячай і бачыў сапраўдных уладароў Беларусі. А на гэта тут і прэтэндавала казацкая старшына і тым самым разглядала іх як сваіх сапернікаў, супроць якіх найперш і трэба весці барацьбу.

Не могучы адкрыта выступіць супроць мясцовых феадалаў, бо гэта б выклікала незадаволенасць цара, якому яны прысягнулі, І. Нячай інспіраваў сялянскія паўстанні супроць іх, тым самым звальваючы ўсю віну за расправу над імі на сялян. Каб яшчэ гэта было больш пераканаўча, на чале сялянскіх атрадаў, што таксама называліся «казацкімі», ставіліся мясцовыя жыхары. Такімі сотнікамі, як іх называлі, былі Дзяніс Мурашка на Ігуменшчыне, Сапрыка на Талачыншчыне, Слізкі і Паўкасцельскі на Шклоўшчыне і інш. Менавіта ў гэты час з асаблівай яскравасцю выявілася сапраўдная сутнасць паўстанняў беларускіх сялян супроць сваіх феадалаў. Як правіла, яны з'яўляліся вынікам падбухторвання з боку казацкай старшыны, для якой гэта было адным са спосабаў падначалення сабе Беларусі.

Трэба зазначыць, што ў той час асаблівых супярэчнасцяў паміж беларускімі сялянамі і феадаламі не было. Тады ўжо закончылася аграрная рэфома, якая ўвайшла ў гісторыю як «Валочная памера» (ці «Устава на валокі»), паводле якой былі вельмі дакладна ўрэгуляваны адносіны паміж сялянамі і феадаламі. І гэтыя ўстанаўленні, як правіла, выконваліся з двух

бакоў. І таму ў беларускіх сялян не было падстаў для паўстанняў, бо калі і з'яўляліся якія супярэчнасці, то яны вырашаліся ў судовых інстанцыях, а не ў паўстаннях.

Як у свой час Віленскае перамір'е 1656 г.ператварыла Руска-польскую вайну ў Руска-шведскую, так заключэнне ў 1658 г. «Гадзяцкага дагавору»ператварыла Руска-шведскую вайну зноў у Руска-польскую. Рэч у тым, што пасля смерці Б. Хмяльніцкага яго гетманскае месца заняў І. Выгоўскі. І ён, у адрозненне ад свайго папярэдніка, які аб'яднаў Украіну з Расіяй, пачаў праводзіць палітыку аб'яднання з Польшчай, што і было здзейснена ў выніку падпісання згаданага дагавора.

Цікава адзначыць, што І. Выгоўскі, перайшоўшы на бок Рэчы Паспалітай, утварыў у складзе яе княства, у якое ўваходзілі цэнтральныя ўкраінскія землі на чале з Кіевам, і гэта княства ён назваў «Рускім». Менавіта гэтыя мясцовасці ў старажытныя часы і называліся Руссю, што яшчэ памяталася, як мы бачым, у XVII ст. Адсюль становіцца зразумелым, чаму, калі са складу ВКЛ у выніку Люблінскай уніі выйшлі ўкраінскія землі, з яго назвы выпала назва «Рускае» і яно стала называцца Літоўскім і Жамойцкім.

У поўнай згодзе з І. Выгоўскім быў І. Нячай. Калі для яго раней Беларусь была аб'ектам захопу, то цяпер яна стала для яго прадметам гандлю: ён паабяцаў Яну Казіміру пад яго каралеўскую міласць аддаць Белую Русь, за што прасіў узнагароду, якую і атрымаў. І сапраўды Сойм Рэчы Паспалітай у маі 1659 г. даў яму на пажыццёвае ўладанне Чавусы і Чэрыкаў, а таксама два войтаўствы ў Магілёўскім павеце і Бабруйскую эканомію[57]. Шляхецкія званні атрымалі таксама і некаторыя кіраўнікі так званых сялянскіх паўстанняў. Усё гэта паказвае, што дзейнасць запарожскіх казакоў на Беларусі перш за ўсё дыктавалася іх інтарэсамі і ў залежнасці ад таго, калі ім было выгадней, яны прыстасоўваліся то на бок Расіі, то на бок Польшчы. У залежнасці ад гэтага яны прымушалі дзейнічаць сялянскія атрады. Калі І. Нячай са сваім атрадам зрабіў намер захапіць Магілёў, то Мурашка рашыў захапіць Менск. Аднак і першае, і другое скончылася няўдачай. Канчаткова І. Нячай і яго саюзнікі былі разгромлены ў канцы 1659 г., калі І. Выгоўскі ў выніку казацкіх хваляванняў быў заменены Юрыем Хмяльніцкім, пры якім быў зноў адноўлены саюз Украіны з

Расіяй. Па патрабаванні Масквы, якая бачыла ў казаках свайго саперніка ў валоданні Беларуссю, усе казацкія загоны павінны былі быць выведзены з яе тэрыторыі. У хуткім часе рускія войскі ў пачатку снежня 1659 г. захапілі Стары Быхаў. І. Нячай і яго паплечнікі былі ўзятыя ў палон, і большасць з іх — павешаны. Толькі заступніцтва Ю. Хмяльніцкага выратавала І. Нячая і яго брата Юрыя ад смерці, і яны былі высланы ў Табольск. Аднак паасобныя казацкія загоны, якія дзейнічалі самастойна, нікому не падначальваючыся, па-ранейшаму знаходзіліся на Беларусі і вялі тут вайсковыя дзеянні. Так, у чэрвені 1660 г. яны аблажылі і штурмавалі Пінск, а ў 1664 г. разам з рускімі войскамі зноў штурмавалі Пінск, а таксама Магілёў, у якім быў спалены замак.

Зноў пачалася новая хваля ўварвання расійскіх войскаў на Беларусь. Армія ваяводы Хаванскага ў снежні 1659 г. захапіла Гародню, а ў студзені наступнага года Бярэсце. Аднак гэтыя перамогі былі часовымі. Заключыўшы ў 1660 г. мір са Швецыяй, Рэч Паспалітая сканцэнтроўвае свае вайсковыя сілы на Беларусі супроць расійскай арміі. Ужо 18 чэрвеня 1660 г. руская армія пацярпела паражэнне пад Ляхавічамі, а 28 чэрвеня злучанымі войскамі ВКЛ (пад камандаваннем П. Сапегі) і польскага (пад камандаваннем С. Чарнецкага) войска Хаванскага было разгромлена пад в. Палонка (на Слонімшчыне). Гэтыя бліскучыя перамогі адкрылі шлях для далейшага прасоўвання на ўсход і адваявання тэрыторыі Беларусі. Ужо 3 ліпеня 1660 г. войскі ВКЛ і Польшчы вызвалілі Менск, дайшлі да Бярэзіны. Гэтак жа паспяхова было адбіта 4 кастрычніка 1660 г. наступленне рускага войска на Чавусы, і яно вымушана было адступіць да Смаленска.

Адначасова з гэтым у гарадах, занятых рускімі войскамі, расла незадаволенасць мясцовага насельніцтва сваім падняволным становішчам, што прывяло да шэрагу хваляванняў, з якіх асабліва вызначылася Магілёўскае паўстанне 3 лютага 1661 г. У ранейшай гістарыяграфіі сцвярджалася, што гэта паўстанне было вынікам змовы тых, хто чакаў уступлення ў горад войскаў Рэчы Паспалітай. Але адначасова сцвярджалася, што размешчаныя па кватэрах у Магілёве рускія салдаты з жыхарамі абыходзіліся груба, штодзённа чынілі ім розныя



*Ляхавіцкі замак.*

*Рэканструкцыя паводле гравюры XVII ст.*

крыўды, ад якіх нідзе не знаходзілі для сябе ўправы і абароны, хаця і неаднаразова скардзіліся[58]. Зразумела, што пры такіх абставінах не магло не быць усеагульнага абурэння насельніцтва горада, і таму яно прыняло актыўны ўдзел у паўстанні. Напярэдадні яго гаспадары дамоў, у якіх кватаравалі салдаты, у стрэльбах сваіх пастаяльцаў вынялі крэмні. Повад для пачатку паўстання падалі зноў-такі самі рускія салдаты. Раніцай, па свайму звычаю натоўпамі праходжваючыся па рынку, чапляліся да гандлярак, яны хапалі ў іх выстаўленыя на продаж харчы. На рынку падняўся крык і шум. На гукі звону, што было ўмоўным знакам для пачатку паўстання, з дамоў сталі выбягаць узброеныя чым папала жыхары горада і сталі біць салдат. У выніку гэтага ўсе яны (а іх мелася тры тысячы) былі забітыя. Шмат было ахвяр і сярод жыхароў горада. Выратаваліся ад смерці толькі тры ваяводы і некалькі афіцэраў, якія былі захоплены і адпраўлены ў Варшаву[59]. Падобныя паўстанні адбыліся ў гэты час у Дзісне, Себежы, Гомелі і іншых гарадах, што яскрава сведчыла, наколькі насельніцтва Беларусі вызва-

лялася ад ранейшых ілюзій (і яны яму ўпарта навязваліся) аб добрым цары, які прыйдзе з усходу і прынясе яму шчаслівае жыццё. Сапраўднасць жа паказвала, што іх гаротнае жыццё ў выніку прыходу добрага цара станавілася яшчэ больш цяжкім.

Расійская армія працягвала цярпець няўдачы. У пачатку лістапада 1661 г. частка яе пад камандаваннем Хаванскага і Орды-Нашчокіна была разгромлена ў баі каля в. Кушлікі. А 6 лістапада 1661 г. войскі ВКЛ на чале з С. Чарнецкім нанеслі поўнае паражэнне расійскаму войску каля г. Глыбокага, што мела рашаючае значэнне для вызвалення Вільні 2 снежня 1661 г.

У далейшым Руска-польская вайна на Беларусі атрымала зацяжны характар. Вялікіх баёў не было, у асноўным адбываліся лакальныя сутычкі. Знясіленыя шматгадовай барацьбой, ні адзін, ні другі бок не маглі істотна папаўняць вельмі парадзелыя войскі. І таму абодва бакі вымушаны былі ісці да мірных перамоваў, якія і закончыліся 30 студзеня 1667 г. у в. Андрусава (каля Мсціслаўля) падпісаннем перамір'я на 13,5 года. Паводле яго, да Расіі адыходзілі Смаленскае ваяводства, Северская зямля з Чарнігавам і Старадубам, якія раней належалі ВКЛ, а таксама Левабярэжная Украіна з Кіевам. Як бачым, хаця Беларусь у асноўным засталася ў складзе Рэчы Паспалітай, аднак страта Смаленшчыны для яе з'явілася цяжкім ударам. Будучы аднапляменнай крывіцкай зямлёй, яна за шматвяковую гісторыю так шчыльна звязалася этнічна, палітычна і эканамічна, што нават адабранне яе ад Беларусі па Андрусаўскаму перамір'ю не магло ў далейшым сцерці яе беларускі характар. У навуковай літаратуры XIX ст. Смаленшчына і адносілася да Беларусі[60]. Не кажучы ўжо пра ўрад БНР, але нават I з'езд КПБ большую частку Смаленшчыны са Смаленскам аднёс да тэрыторыі абвешчанай ім БССР[61]. Аднак у скорым часе яна была адабрана ад Беларусі разам з Віцебшчынай, Магілёўшчынай і Гомельшчынай. Але калі тры апошнія ў 1924 і 1926 гг. былі вернуты ў склад БССР, то Смаленшчына так і засталася ў складзе Расіі, што з'явілася не чым іншым, як пацвярджэннем Андрусаўскага перамір'я.

## АПОШНЯЯ ТРЭЦЬ XVII СТАГОДДЗЯ

Гэты час для Беларусі быў адносна спакойным. Хоць войны, як убачым, тады і вяліся, аднак яны ў цэлым не закраналі яе тэрыторыю, як было перад гэтым. Але вынікі Руска-польскай вайны 1654 — 1667 гг. былі настолькі катастрафічнымі, што пераадоленне іх асабліва абцяжарыла жыццё народа ў гэты перыяд. У адным дакуменце Сойма так характарызаваўся стан паасобных рэгіёнаў Беларусі пасля вайны . Адны з іх паказаныя як «ператвораныя ў руіны і пераважна спаленыя», другія як «ушчэнт разбураныя», трэція як «амаль датла спаленыя», чацвёртыя як «у многіх месцах пагарэлыя», пятыя як «дашчэнту спаленыя», шостыя як «у большай частцы ператвораныя ў папялішчы» і т. п.[62] Да таго ж, і гэта самы страшны вынік вайны, Беларусь страціла больш паловы свайго насельніцтва. Калі ў 1650 г. у ёй было 2,9 мільёна жыхароў, то ў 1673 г. у ёй засталося не больш 1,4 млн. І за трэць стагоддзя, да 1700 г. узровень насельніцтва дасягнуў толькі 2,2 млн. жыхароў. Гэта лічба вельмі добра паказвае, наколькі пакутлівым быў працэс аднаўлення разбуранага і вынішчанага вайной. Многія паселішчы так і засталіся маланаселенымі, што ў сваю чаргу адмоўна адбілася на развіцці сельскай гаспадаркі, рамёстваў і гандлю.

У хуткім часе пасля заключэння Андрусаўскага перамір'я адбылася змена на каралеўскім пасадзе Рэчы Паспалітай. У 1669 г. Ян Казімір, які быў каралём з 1648 г., добраахвотна адрокся ад свайго пасада. Такі вельмі рэдкі факт у біяграфіях уладных асоб быў выкліканы здароўем Яна Казіміра. І яно сапраўды шмат цярпела ад жорсткіх патрабаванняў часу яго каралявання, на які цалкам прыпадае барацьба з ім Б. Хмяльніцкага і вайна з Масквой і Швецыяй. Яну Казіміру нельга адмовіць у рэалістычным бачанні ім непрыгляднага ўнутранага становішча сваёй дзяржавы, абумоўленага перш за ўсё магнацкім свавольствам. Менавіта ў яго час увайшоў звычай аднагалосся на соймах, калі які-небудзь яго дэпутат адхіляў пастанову вокрыкам «не пазволям». Аб глыбокім прадбачанні Яна Казіміра канчатковага лёсу Рэчы Паспалітай добра сведчыць яго развітальная прамова на сойме, у якой ён прадказаў соймавым дэпутатам аб непазбежным падзеле ў будучым іх



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Міхал Вішнявецкі. З партрэта XVII ст.*

дзяржавы паміж Масквой, Прусіяй і Аўстрыяй, што ў далейшым дакладна і адбылося праз стагоддзе з лішкам. Адрокшыся ад пасада, Ян Казімір выехаў у Францыю, дзе і жыў у манастыры і дзе ў канцы 1672 г. памёр. Цела яго як караля было прывезена ў Польшчу і пахавана ў Кракаве.

Адразу пасля адрачэння Яна Казіміра адбыліся выбары новага караля. Як і раней, у такіх выпадках выстаўляўся і прадстаўнік маскоўскага царскага роду, гэтым разам сын Аляксея Міхайлавіча — Фёдар. Але, як і ў папярэднія разы, ён таксама не прайшоў. На каралеўскі пасад нечакана для яго і ў адсутнасць яго быў абраны Міхал Карыбут Вішнявецкі. Аднак яго караляванне было зусім непрацяглым ды і прыпадала зноў-такі на цяжкі час. Як і перад гэтым, на сойме панаваў хаос у выніку ўзаемных прэтэнзій дэпутатаў. Супроць караля нават рыхтавалася змова яго шляхецкімі праціўнікамі. Але асабліва цяжкім ударам для Рэчы Паспалітай была вайна з Турцыяй, якая адбылася ў 1672 г. і якую справакаваў казацкі гетман Дарашэнка. У выніку яе Турцыя захапіла Правабярэжную Украіну. Такая страта для дзяржавы была невыноснай, і таму Рэч Паспалітая ў 1673 г. пачала вайну з туркамі. Ёю кіраваў каронны гетман Ян Сабескі, і яна была паспяховай. У ёй асабіста прыняў удзел і кароль, аднак у паходзе цяжка захварэў і ў лістападзе 1673 г. у 35-гадовым узросце памёр.

Ужо тое, што ў ліку прэтэндэнтаў на такі хутка апусцелы каралеўскі пасад Рэчы Паспалітай было звыш дзесяці чалавек, сведчыць, наколькі прывабнай была гэта высокая пасада. У ліку іх зноў быў сын Аляксея Міхайлавіча Фёдар. Яго кандыдатуру падалі прадстаўнікі ВКЛ, сярод якіх быў вялікі гетман Міхал Казімір Пац, што на першы погляд некалькі можа




*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Ян III Сабескі. «Ілюстраваная хроніка палякаў»*

здзіўляць, бо ўся баявая вайсковая дзейнасць яго была звязана з барацьбой супроць Масквы. Але менавіта ў гэтым кірунку ішло імкненне выбраць на каралеўскі пасад Фёдара Аляксеевіча, паколькі перад ім у выпадку яго абрання, апроч іншага (прыняцця каталіцтва, жаніцьба з удавой Міхала Вішнявецкага), ставілася і ўмова вярнуць ВКЛ усё раней заваяванае ў яго маскоўскімі царамі. Вядома ж, гэта апошняе было асабліва непрымальным для Фёдара, і таму ён не даў згоды на яго абранне. І каралём Рэчы Паспалітай 8 мая 1674 г. быў абраны Ян Сабескі, які ўжо ў вайне з Турцыяй паказаў сябе як выдатны вайсковы дзеяч.

Стаўшы каралём, ён і ў далейшым удзяляў вялікую ўвагу барацьбе з Турцыяй. Ачысціўшы ад яе войскаў Правабярэжную Украіну і атрымаўшы бліскучую перамогу над ёй пад Венай, 12 верасня 1686 г. быў заключаны «вечны мір», які фактычна пацвярджаў умовы Андрусаўскага перамір'я і такім чынам канчаткова замацоўваў за Масквой Левабярэжную Украіну з Кіевам і Смаленшчыну. Аднак вайсковая падтрымка Я. Сабескаму з боку іншых дзяржаў была недастатковай, каб ажыццявіць сваю мэту. Хаця вайна з Турцыяй у 1699 г. і закончылася перамогай над ёй, аднак выціснуць з Еўропы Турцыю не ўдалося.

Усё больш станавілася відавочнай няроўнасць ВКЛ у саюзе з Польшчай. Здавалася б, што агульныя соймы Рэчы Паспалітай павінны былі адбывацца пачаргова ў Польшчы і ВКЛ. Аднак у 1673 г. была прынята пастанова, паводле якой у ВКЛ (у Гародні) праводзіўся толькі кожны трэці сойм.

Беларусь заўсёды была месцам, дзе праходзілі і скрыжоўваліся міждзяржаўныя шляхі. Вось адразу пасля заканчэння вайны ў 1667 г. паміж Вільняй і Масквой быў пракладзены дзяр-

жаўны паштовы маршрут, які праходзіў па тэрыторыі Беларусі, што было для яе важным, прагрэсіўным набыццём.

Урад Рэчы Паспалітай у другой палове XVII ст. прымаў далейшыя меры па ўмацаванні царкоўнай уніі, па прыцягненні ў яе праваслаўных. Яшчэ пры Яну Казіміру была прынята пастанова, паводле якой праваслаўныя святары, якія прынялі унію, вызваляліся ад вайсковых павіннасцяў (пастояў, выдачы правіянту, падводаў і т. п.), што, вядома, не магло не заахвочваць да пераходу ў унію. Ян Казімір таксама патрабаваў, каб на магістрацкія пасады ў гарадах выбіраліся толькі католікі і уніяты[63]. У час Яна Сабескага гэта палітыка была прадоўжана, што і зразумела. Прыгадаем, што на Віленскіх перамовах 1656 г. маскоўскія паслы настойвалі на ліквідацыі царкоўнай уніі, каб гэтым самым і надалей пад выглядам абароны праваслаўных ажыццяўляць свой наступ на Рэч Паспалітую. Вядома ж, урад апошняй таксама гэта добра бачыў і таму прымаў меры на аслабленне праваслаўя і тым самым на пашырэнне уніі. Так, праваслаўным брацтвам было забаронена зносіцца з усходнімі патрыярхамі па справах веры, што пазбаўляла іх маральнай падтрымкі, якую яны мелі раней адтуль. А ў 1677 г. праваслаўным наогул было забаронена выязджаць за мяжу, парушэнне чаго ім пагражала смяротнай карай і канфіскацыяй маёмасці. Універсалам Віцебскага ваяводы Храпавіцкага ў 1672 г. забаранялася праваслаўным вернікам наведваць свае набажэнствы[64]. Адлучэннем ад уніяцкай царквы і пазбаўленнем духоўных і грамадзянскіх правоў караліся тыя, хто з уніяцтва вяртаўся ў праваслаўе, як гэта было ў адносінах да святара Хадыкі. Зразумела, што праваслаўныя не заўсёды мірыліся з наступленнем уніяцтва, пра што сведчыць выступленне ў 1681 г. праваслаўных жыхароў Полацка супроць уніяцкага мітрапаліта Жахоўскага, які вызначаўся асаблівай настойлівасцю ў пашырэнні уніі. Аднак усе гэтыя гвалтоўныя меры па ўцягненні ў унію насельніцтва толькі ўмацоўвалі уніяцкую царкву і рабілі яе больш самастойнай. Як вядома, царкоўная унія была задумана як пераходны этап да пераходу ў каталіцтва. Але ў яго з уніяцтва ніхто не пераходзіў. Толькі ўжо пасля захопу Беларусі ў склад Расійскай імперыі, калі ў 1839 г. царом была ліквідавана унія, многія яе вернікі, не жадаючы пераходзіць у праваслаўе, пераходзілі ў каталіцтва.



*Сімяон Полацкі*

У дзяржаўным жыцці Рэчы Паспалітай вялікую ролю адыгрывала царква, якая была адной з магутнейшых апор дзяржавы. Вось чаму ў ёй усялякае адступленне ад рэлігіі, ад веры ў Бога каралася як найцяжэйшае злачынства. Вось чаму ў 1689 г. сойм прысудзіў да пакарання смерцю берасцейскага падсудка Казіміра Лышчынскага, абвінавачанага ў атэізме.

Не абышлося на Беларусі і без «палявання на ведзьмаў». Так, у 1677 г. узводзілася судовая справа ў адносінах дзісненскай мяшчанкі Кумцэвічавай, якая абвінавачвалася ў чарадзействе[65].

Раней ужо гаварылася аб шырокім бытаванні «беларускага пісьма» ў ВКЛ яшчэ ў 2-й палове XVII ст. На ім па даўняй традыцыі пісаліся дзяржаўныя дакументы, ім карысталіся ў перапісцы, нават маскоўскі ўрад патрабаваў ад урада Рэчы Паспалітай, каб ён прысылаў паперы не на польскай мове, выкананыя «беларускім пісьмом». Усё гэта вельмі непакоіла польскія вярхі, дзеля якіх такое шырокае ўжыванне «беларускага пісьма» было галоўнай перашкодай у паланізацыі насельніцтва ВКЛ. І таму з іх боку сталі прадпрымацца ўсе захады, каб абмежаваць ужыванне беларускай мовы. Асабліва гэта справа набыла моц пасля Андрусаўскага перамір'я 1667 г., па якому амаль уся Беларусь засталася ў складзе Рэчы Паспалітай, што па-ранейшаму жывіла беларускасць у дзяржаве.

Адным з важнейшых сродкаў заглушэння адной мовы другой з'яўляецца асвета. Вось чаму так паскорана адчыняліся ў беларускіх гарадах езуіцкія калегіумы, у якіх выкладанне вялося па-польску і па-латыні. І гэтым самым навучэнцы іх забывалі родную мову, якую іх вучылі не паважаць, як простую

і грубую. Так з году ў год папаўняліся і пашыраліся шэрагі тых, хто ганьбіў нашу мову, адначасова ўкараняючы ў нас польскую.

Аднак не менш важнай умовай жыццяздольнасці мовы з'яўляецца яе функцыянаванне як дзяржаўнай. Менавіта беларуская мова, з'яўляючыся дзяржаўнай мовай ВКЛ, і надавала яму побач з іншым характар беларускай дзяржавы. Таму з боку Польшчы і былі прадпрыняты рашучыя крокі для выключэння беларускай мовы з дзяржаўнага ўжытку. Вядома ж, у сваім гэтым імкненні яны абапіраліся на значныя вынікі пашырэння польскай мовы сярод магнатаў і шляхты ВКЛ. Ім гэта мова была добра знаёмай, яны ёю валодалі, і таму прыняцце яе як дзяржаўнай не з'яўлялася для іх праблемай. І хаця III Статут ВКЛ, прыняты ў 1588 г., і гарантаваў толькі беларускай мове значэнне дзяржаўнай, якой толькі і павінен пісар пісаць, 29 жніўня 1696 г. усеагульная канфедэрацыя саслоўяў Рэчы Паспалітай (так называўся сойм, на якім прысутнічалі кароль, сенат і палата прадстаўнікоў) скасавала гэта патрабаванне, запісаўшы, што ў ВКЛ «усе рашэнні павінны складацца на польскай мове»[66]. Дзень прыняцця гэтай пастановы з'яўляецца адной з чорных датаў у гісторыі Беларусі, з гэтага часу фактычна і пачалася ўсеагульная паланізацыя ВКЛ, бо ўся дакументацыя дзяржаўных і прававых установаў пачала весціся на польскай мове, і таму кожны, хто звяртаўся туды, павінен быў ведаць польскую мову. Так, выдаленая з дзяржаўнага ўжытку, беларуская мова стала траціць сваё ранейшае ўсеагульнае значэнне і ўжыванне. Гэтым самым быў нанесены і знішчальны ўдар па беларускаму друку і пісьменству. І тым не менш усё гэта не змагло вынішчыць беларускую мову. Яе толькі адракліся магнаты і больш заможная шляхта. А ў асяроддзі сялянства і гарадскіх нізоў яна прадаўжала жыць. Амаль поўны заняпад беларускага друку і пісьменства кампенсаваўся інтэнсіўным развіццём вуснай народнай творчасці, якая ў гэты час убірала ў сябе высокі інтэлектуальны і мастацкі патэнцыял беларускага народа. Гэтым і тлумачыцца, чаму беларускі фальклор па свайму зместу, жанрах і сюжэтах — адзін з самых багацейшых у свеце.

Для ВКЛ было характэрна існаванне шэрагу найбагацейшых, а таму і магутных магнацкіх родаў. І кожны з іх імкнуўся



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Аўгуст II Моцны. З партрэта XVIII ст.*

атрымаць найбольшы ўплыў у жыцці дзяржавы. А гэта ў сваю чаргу параджала паміж імі саперніцтва, якое выклікала жорсткую барацьбу, што часамі перарастала ў грамадзянскую вайну. Часцей за ўсё гэта здаралася ў час бескаралеўя. Так адбылося і пасля смерці Я. Сабескага ў 1696 г. Гетман ВКЛ Казімір Сапега, абапіраючыся на вайсковую сілу, дамогся ад сената паставіць свайго сына Юрыя жамойцкім маршалкам. Гэта і выклікала незадаволенасць з боку магнатаў Агінскіх, якія расцанілі такое з боку Сапегаў як спробу захапіць усю ўладу ў ВКЛ. Супроць Сапегаў і распачалася барацьба, якую ўзначаліў Станіслаў Агінскі. Абапіраючыся на сваіх прыхільнікаў, ён сабраў войска. І хаця яно пад Берасцем вымушана было капітуляваць перад войскам Юрыя Сапегі, аднак гэта не спыніла дзеянняў С. Агінскага. Ён сабраў досыць значнае войска ў 20 тысяч чалавек, пачаў нападаць на маёнткі Сапегаў і рабаваць іх. Тое ж самае ён тварыў і ўварваўшыся ў Жамойць. Не атрымаўшы дапамогі ад караля Аўгуста II, які к гэтаму часу быў абраны на пасад Рэчы Паспалітай, Сапега ў сваю чаргу сабірае таксама 20-тысячнае войска і пачынае нападаць на маёнткі Агінскага і яго саўдзельнікаў. Як бачым, узнікла жорсткая ўнутраная вайна, якая прынесла шмат шкоды мірнаму насельніцтву, як і знешняе ўварванне. Ужо тое, што магнаты маглі сабіраць такія шматлікія войскі, гаворыць аб іх вялікіх магчымасцях уздзейнічаць на дзяржаўную палітыку ў сваіх інтарэсах.

Бачачы такое, уплывовыя асобы звярнуліся да караля з просьбай спыніць гэту недарэчную вайну. Аднак пасланае ім войска, якое складалася з саксонцаў, на сваім шляху тварыла не меншыя рабаўніцтвы і гвалты, і таму зноў-такі па патраба-

ванні шэрагу відных асоб было адазвана, тым больш што барацьба паміж Сапегамі і Агінскімі пачала сціхаць. Аднак дзякуючы аднаму недарэчнаму выпадку, калі слугі Сапегі, не ведаючы, з кім маюць справу, паранілі князёў Вішнявецкіх, барацьба па патрабаванні апошніх зноў узнавілася з яшчэ большай сілай. Аб яе выключнай жорсткасці можа сведчыць тое, што сын Сапегі Юрый, папаўшы ў палон да Агінскіх і Вішнявецкіх, быў пасечаны на кавалкі. Гэта барацьба мела свой далейшы працяг і заканчэнне ўжо ў пачатку новага стагоддзя, у час Паўночнай вайны, якая і адкрыла нашу гісторыю ў XVIII стагоддзі.

## ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА

Так склаўся лёс Беларусі, што яе ўваходжанне ў кожнае стагоддзе з'яўлялася нешчаслівым. Гэтак пачатак XI ст. быў азмрочаны смерцю Рагнеды і яе сына Ізяслава, а пачатак XII ст. – смерцю славутага Усяслава Чарадзея. У пачатку XIII ст. крыжакі, збудаваўшы Рыгу, адрэзалі Полацк ад Балтыйскага мора, што абцяжарыла ўвесь далейшы шлях Беларусі. XIV ст. зноў пачалося з нападаў крыжакоў на нашу зямлю. Пачатак XV ст. засмуціла паражэнне Вітаўта на р. Ворскле. XVI ст. пачалося са спусташальнага маскоўскімі войскамі нападу на Смаленскую, Аршанскую, Мсціслаўскую, Віцебскую, Полацкую і іншыя нашыя землі. У пачатку XVII ст. Беларусь напаткаў страшэнны голад, а ў XVIII ст. пачалася Паўночная вайна, якая цягнулася з 1700 па 1721 г.

Прычына яе тая ж, што і Лівонскай вайны, а менавіта імкненне Расіі прабіцца да Балтыйскага мора. Не дасягнуўшы сваёй мэты ў той вайне, яна тым не менш не адмовілася ад свайго намеру. Расіі, якая стала буйной дзяржавай, для большых эканамічных, гандлёвых і культурных сувязей неабходна было прабіцца да мора. Перад гэтым яна вяла вайну з Турцыяй за выхад да Чорнага мора, але не змагла гэтага дасягнуць, задаволіўшыся толькі выхадам да Азоўскага. І заключыўшы мір з Турцыяй, яна адразу аб'явіла вайну Швецыі, якая тады валодала Балтыйскім рэгіёнам. Саюзнікамі Расіі ў гэтай вайне былі Данія і Рэч Паспалітая. Але для іх траіх пачатак вайны склаў-

ся няўдала. Спачатку шведскі кароль Карл XII летам 1700 г. разграміў дацкае войска і пад Рыгай польскае, а ў лістападзе і руская армія пацярпела паразу пад Нарвай[67].

Пасля гэтага, намерваючыся пайсці на Польшчу, Карл XII пачаў сцягваць свае войскі ў Курляндыю, што вельмі напалохала караля Аўгуста II, і ён звярнуўся па дапамогу да Пятра I, які к гэтаму часу стаў расійскім імператарам. І гэта просьба была задаволена на іх сустрэчы 26 лютага 1701 г. у Біржах (Жамойць). Аднак аб'яднаныя сілы Рэчы Паспалітай і Расіі ў канцы чэрвеня 1701 г. былі разбіты шведскімі войскамі.

Варта ўвагі тое, што барацьба паміж Сапегамі, з аднаго боку, і Агінскімі і Вішнявецкімі, з другога боку, перапляталася з падзеямі Паўночнай вайны і мела ў ёй свой працяг. Сапега, не знайшоўшы падтрымкі караля Аўгуста II, перайшоў да шведаў. Як бачым, калі Сапегі ў час заключэння Кейданскай уніі са шведамі былі супроць іх і стаялі на чале прапольскай партыі, то зараз яны занялі процілеглую пазіцыю, стаўшы на бок Швецыі. Менавіта Сапега і прыбыў да Карла XII у канцы 1700 г., калі той, разбіўшы датчан і рускіх, рыхтаваўся зрабіць напад на Рэч Паспалітую. І вось, калі Карл XII разбіў аб'яднаныя сілы Польшчы і Расіі, Сапега і параіў яму весці свае войскі ў Жамойць, што было і зроблена.

Вось у гэты час, у пачатку 1702 г., і адбылося першае ўварванне шведаў на тэрыторыю Беларусі[68]. Войскі Карла XII, рухаючыся ў Рэч Паспалітую, прайшлі праз Гародню, якая, як і навакольныя мястэчкі і вёскі, была разрабавана. Калі Сапега быў на баку шведаў і фактычна з'яўляўся дараднікам Карла XII, то яго ворагі Агінскія і Вішнявецкія займалі важныя месцы ў вайне з імі. Так, Агінскаму было даручана каралём Аўгустам II са сваім войскам супроцьстаяць шведскаму, калі яно прыйшло ў Жамойць. Праўда, ён не рашыўся наступаць на варожую армію, хаця і меў пераважнае па колькасці войска. Больш за тое, калі ў Жамойць прыбыў Карл XII, умацаваўшы свае войскі, і пачаў наступаць, Агінскі стаў паспешна адыходзіць. Прыбыўшы ў Вільню, ён перадаў камандаванне сваімі войскамі Вішнявецкаму, што, як і ён, быў заклятым ворагам Сапегі. Аднак і той не змог стрымаць наступленне шведаў, і ў сакавіку 1702 г. яго войска было разбіта пад мястэчкам Езна. Праўда, у новай бітве некалькі пазней каля мястэчка Дар-

сунішкі войска Вішнявецкага нанесла паразу шведам, галоўнакамандуючы якіх нават трапіў у палон. У адказ на гэта Карл XII, каб пазбавіць Вішнявецкага апоры ў вайне з ім, загадаў свайму войску захапіць Вільню, і гэта было зроблена выключна імкліва, што Вішнявецкі ледзь сам не трапіў у палон. Не была ўдалай яго спроба ўзяць Коўну, якую раней захапілі шведы.

У той час, як баі са шведамі ішлі на тэрыторыі ВКЛ, Сойм Рэчы Паспалітай асабліва не турбавала гэта вайна. Ён не даваў у распараджэнне караля новага войска і дакараў яго за тое, што ён увязаўся ў вайну са шведамі. Сойм нават рашыў памірыцца са Швецыяй і дзеля гэтага паслаў да Карла XII групу сваіх дэпутатаў. Аднак той катэгарычна заявіў ім, што калі яны жадаюць міру, то хай пазбавяць свайго караля пасада і заплацяць яму кантрыбуцыю за яго вайсковыя выдаткі. У адваротным выпадку ён прыгразіў, што сам пазбавіць Аўгуста II яго пасада і паставіць на яго месца патрэбнага яму караля. І гэта не было пустой пагрозай. Карл XII даў загад свайму войску рухацца на Польшчу. На тэрыторыі ВКЛ засталіся хаця не значныя яго часткі, але досыць баяздольныя. Пад камандаваннем генерала Левенгаупта і... Сапегі. Як бачым, апошні не толькі быў дараднікам Карла XII, але і военачальнікам у яго арміі. Тут жа прадоўжылі барацьбу са шведамі Агінскі і Вышнявецкі. Са сваім войскам яны прыйшлі сюды, каб дапамагчы паасобным партызанскім атрадам, якія вялі напады на шведскае войска. Аднак іх дзеянні былі няўдалымі. У дзвюх бітвах пад Саванцкім і Радзівілішкамі войскі Агінскага і Вішнявецкага пацярпелі вельмі жорсткую паразу, страціўшы шмат забітымі, вайсковай тэхнікі і абозаў. Да таго ж самі военачальнікі ледзь не трапілі ў палон.

Яшчэ горшыя справы былі ў Польшчы. Шведы тут менш чым за год захапілі Варшаву і Кракаў. Апроч таго, быў пазбаўлены Карлам XII каралеўскага пасада Аўгуст II. Арганізаванай шведскім кралём канфедэрацыяй 13 ліпеня 1704 г. на месца Аўгуста II быў абраны пазнанскі ваявода Станіслаў Ляшчынскі. Усё гэта і прымусіла Польшчу звярнуцца зноў па дапамогу да Расіі.

Пётр I, выкарыстаўшы тое, што асноўныя сілы Швецыі былі адцягнуты ў Польшчы, змог атрымаць шэраг перамог над ёй

у Прыбалтыцы. Былі ўзяты некалькі крэпасцей, у выніку чаго Расія прабілася да Балтыйскага мора, ў 1703 г. быў заснаваны Санкт-Пецярбург. Гэтыя перамогі хаця і былі важныя, але не канчатковыя. Асноўныя сілы шведаў яшчэ дзейнічалі, і яны маглі змяніць ход вайны ў іх карысць. Вось чаму Пётр І так прыязна сустрэў польскае пасольства, з якім 19 жніўня 1704 г. і заключыў вайсковую дамову. Паводле яе было паслана адно рускае войска на чале з генралам Рэпніным да Полацка, а другое — на дапамогу Вішнявецкаму з мэтай захапіць Вільню. Вось з гэтага часу Беларусь на некалькі гадоў стала месцам, дзе разгортваліся далейшыя падзеі Паўночнай вайны. Уступіўшы на тэрыторыю Беларусі, шасцідзесяцітысячная армія Рэпніна да сярэдзіны 1705 г. заняла Менск і Гародню.

У канцы чэрвеня 1705 г. сам Пётр І з шасцідзесяцітысячнай арміяй накіраваўся на Вільню і па дарозе спыніўся ў Полацку, дзе прабыў месяц. І вось тут зноў з выключнай відавочнасцю выявілася нянавісць расейскіх уладароў да уніяцкай царквы. Аднойчы, праходзячы па горадзе з некалькімі сваімі прыдворнымі, Пётр І зайшоў у Сафійскі сабор, які стаў галоўным храмам беларускіх уніятаў. У гэты час некалькі святароў і манахаў праводзілі набажэнства, якое цар перапыніў, патрабуючы правесці яго па храме, на што і згадзіўся адзін з манахаў. Яшчэ ў час свайго прабывання ў Віцебску ў 1701 г. Пётр І загадаў пасекчы і папаліць уніяцкія абразы. Але яшчэ больш жахлівымі былі яго дзеянні ў Полацку. Зачэпкай да гвалтоўных дзеянняў Пятру І з'явіўся абраз з выявай І. Кунцэвіча, які яму не спадабаўся асабліва, і ён ударыў сваім цяжкім кулаком манаха, а калі той паваліўся, то быў яшчэ цяжка паранены царскай шабляй. Услед за гэтым і служкі цара, якія суправаджалі яго, пачалі шаблямі біць святароў, у выніку чаго, апроч аднаго, яны былі пасечаны да смерці[69]. А таго, што застаўся жывым, усю ноч катавалі, каб сказаў, дзе знаходзяцца саборныя скарбы. Аднак ён не сказаў пра гэта і быў павешаны. Не менш жорсткую кару панёс і сам сабор. Спачатку Сафійка падверглася абрабаванню, а пасля была ператворана ў склад і стайню для коней, а перад ад'ездам Пятра І з Полацка ў выніку выбуху пораху, які ў саборы захоўваўся, храм ператварыўся ў руіны. І толькі праз 30 гадоў беларуская святыня была адноўлена.

Такая нянавісць Пятра I, як і ранейшых расійскіх уладароў, да уніяцкай царквы зразумелая. Ён добра бачыў, што яна надавала уніятам — а яны складалі асноўную масу насельніцтва Беларусі — побач з іншым яркае нацыянальнае аблічча, якое адрознівала яго ад праваслаўнага насельніцтва Расіі. А гэта і не задавальняла расійскіх самадзержцаў, бо яны заваёўвалі Беларусь пад выглядам абароны яе праваслаўнага насельніцтва.

З Полацка Пётр I з войскам у ліпені 1705 г. пайшоў у Вільню, куды і прыбыў 15 ліпеня 1705 г. Прабыўшы некалькі дзён, цар пакінуў тут значныя сілы, а сам накіраваўся з часткаю войска ў Курляндыю на дапамогу генералу Шарамецьеву. Заняўшы да канца лета 1705 г. Літву і Курляндыю, Пётр I у пачатку верасня сабраў свае асноўныя сілы колькасцю ў 35 тысяч чалавек каля Гародні і перадаў іх пад камандаванне Аўгуста II. Супроць гэтай групы войскаў і накіраваў свой удар Карл XII і з пачатку студзеня 1706 г. аблажыў гарнізон Гародні. Аўгусту II прыйшлося адступіць у Саксонію (яго радзіму), а частцы рускай конніцы ўдалося адступіць да Менску.

Вярнуўшыся з Расіі, куды ён вымушаны быў паехаць для расправы з Астраханскім паўстаннем, Пётр I зноў заняўся вайсковымі справамі, у лютым 1706 г. спыніўшыся ў Оршы, а ў сакавіку — у Менску. Тут расійскія войскі асабліва вызначыліся рабаўніцтвам жаночага Траецкага манастыра і Свята-Духаўскай царквы. (Вось так абаранялася імі праваслаўная вера!) За гэты час рускім войскам удалося прарвацца з аблогі ў Гародні і сканцэнтравацца ў раёне Кіева. Адступленне рускага войска з Гародні і заняцце яе шведамі адкрыла апошнім шлях у глыб Беларусі. У 1706 г. яны ўзялі і спалілі Нясвіж, Клецк, Полацк, Навагародак і аблажылі Ляхавічы. Па-ранейшаму адданым саюзнікам шведаў быў П. Сапега. Менавіта разам з яго атрадам яны ў 1706 — 1707 гг. ўварваліся ў цэнтр Беларусі і рабавалі, руйнавалі маёнткі тых, хто ваяваў супроць іх. Разбуральныя і грабежніцкія дзеянні шведаў на Беларусі назаўсёды ўрэзаліся ў памяць нашага народа. Нездарма ж пра благога чалавека ў нас гаварылі: «Гэта не чалавек, а швед».

Але для Расіі ў гэты момант стварaліся неспрыяльныя ўмовы. Рэч у тым, што Карлу XII удалося прымусціь Аўгуста II

адмовіцца ад саюза з Расіяй, і той згадзіўся заключыць сепаратны мір. Такім чынам, Расія засталася ў вайне са шведамі адзін на адзін. З гэтага часу падзеі Паўночнай вайны цалкам перамясціліся на тэрыторыю Беларусі. Рускія войскі з Валыні перайшлі ў Палессе. А шведскія войскі з Польшчы перайшлі зноў на Беларусь, у канцы студзеня 1708 г. занялі Гародню і рушылі на Ліду і Смаргонь, каб разбіць армію Шарамсцьева, што не ўдалося, бо тая змагла адысці да Улы і Віцебска. Галоўныя сілы шведаў, што знаходзіліся каля Даўгінава і Радашковічаў, 7 чэрвеня 1708 г. прыйшлі да Менска, а праз тыдзень пераправіліся праз Бярэзіну. Як бачна, галоўныя сілы і шведаў, і расійцаў знаходзіліся на Беларусі і рыхтаваліся да рашаючых баёў. І першы з іх адбыўся каля мястэчка Галаўчын (зараз Бялыніцкі р-н), дзе частка рускай арміі, адарваўшыся ад шведаў, заняла баявыя пазіцыі і дзе 14 ліпеня 1708 г. адбылася бітва, у якой рускае войска было разбіта, за што камандзір яго, генерал Рэпнін, быў разжалаваны ў радавыя. Астатняе рускае войска падалося за Дняпро, каб перакрыць шведам дарогу да Смаленска, бо расійскі ўрад прадпрымаў усе меры, каб не дапусціць пашырэння вайсковых дзеянняў на тэрыторыі Расіі. Так яно і было. Сапраўды, вайсковыя дзеянні адбываліся на тэрыторыі Літвы, Польшчы, Беларусі і закончыліся на Украіне. Увесь цяжар Паўночнай вайны выпаў на долю гэтых краін. (У час Паўночнай вайны ў адрозненне ад Руска-польскай Расіяй не ставілася задача заваявання Беларусі. Апошняя для Пятра І была толькі месцам часовага прабывання, неабходнага для вайны са шведамі. І таму для яго Беларусь з'ўлялася чужой і нават варожай зямлёй, з інтарэсамі якой можна было не лічыцца і нават наносіць ёй шкоду. Гэтым і тлумачыцца тое, чаму расійскія войскі, адступаючы ўслед за шведамі на Украіну, спалілі гарады Віцебск, Дуброўна, Оршу, Магілёў, Мсціслаўль, Быхаў і інш.)

Але прыкрыўшы Смаленск, рускае войска адкрыла шведам дарогу на Магілёў, які ў верасні 1708 г. тыя захапілі. Аднак доўга яны тут не былі. Карл XII рашыў весці сваё войска на Украіну, дзе меў намер злучыцца з войскам гетмана Мазепы, які перайшоў на бок шведаў з мэтай пры іх дапамозе вызваліць Украіну з-пад улады Масквы. На дапамогу Карлу XII з Рыгі выйшаў корпус генерала Левенгауза. Перайшоўшы праз Дняп-



*Помнік у памяць перамогі над шведамі пад Лясной*

ро ў раёне Шклова, 20-тысячнае войска ўзяло курс на Прапойск. Насустрач яму з 12-тысячным войскам рушыў Пётр I, дзе яны і сышліся ля в. Лясная (зараз Слаўгарадскі р-н). Тут 9 кастрычніка 1708 г. і адбылася паміж імі бітва, у якой шведы былі разгромлены, страціўшы шмат вайсковай сілы, узбраення і абозаў. Нездарма ж пасля Пётр I назваў пераможную для яго бітву як «маці Палтаўскай бітвы».

Хаця Паўночная вайна яшчэ цягнулася 13 гадоў, аднак яна пакінула ўжо тэрыторыю Беларусі. І толькі пасля Палтаўскай бітвы, якая была зноў пераможнай для Расіі, войскі Пятра I у 1709 г. аблажылі Ляхавіцкі замак, дзе засеў, ратуючыся ад палону, Мазепа і адкуль яму ўдалося ўцячы.

Гэта вайна, як і папярэдняя, прынесла Беларусі незлічоныя беды. Як было бачна, прабыванне на яе тэрыторыі як шведскіх, так і расійскіх войскаў суправаджалася разбурэннямі і драпежніцтвамі. І асабліва паказальнай з'яўляецца лічба, якая сведчыць пра колькасць страчаных беларускіх жыхароў за час вайны. Гэта — 800 тысяч чалавек. Далёка не дасягнуўшы ўзроўню свайго насельніцтва да Руска-польскай вайны, Беларусь яшчэ страціла кожнага трэцяга. І толькі трэба здзіўляцца духоўнай сіле нашага народа, які, нягледзячы на шматлікія страты, на разбурэнні сваёй гаспадаркі, на спусташэнні сваёй краіны, не загінуў і не толькі змог выжыць, але і захаваць сябе як самабытны народ.

## ПА ШЛЯХУ ДАЛЕЙШАГА ЗАНЯПАДУ

Ужо тады, калі цяжар Паўночнай вайны пачаў паступова спадаць, і ў наступныя некалькі дзесяцігоддзяў пасля яе заканчэння бесперапынна ішоў працэс унутранага, а разам з ім і знешняга аслаблення Рэчы Паспалітай. І гэтаму перш за ўсё садзейнічалі ўзаемная барацьба паміж магутнымі магнацкімі родамі і палітыка рэлігійнай нецярпімасці.

У пачатку 1710 г. сабраўся так званы «вялікі сойм», паводле пастановы якога Аўгуст II зноў аб'яўляўся каралём Рэчы Паспалітай і была ўзноўлена яго дамова з рускім царом Пятром І аб іх вайсковым саюзе. Адначасова сойм забараніў у далейшым збіраць прыватныя ўзброеныя канфедэрацыі, улічваючы іх вялікую шкоднасць у аслабленні дзяржавы. Аднак апошняе не толькі не адышло, але яшчэ больш узмацнілася. Не могучы справіцца са сваімі ўнутранымі звадкамі, польскі ўрад вымушаны быў звярнуцца да Пятра І, каб ён дапамог ахоўваць унутраны парадак у краіне, на што ахвотна цар згадзіўся. Што і зразумела, бо гэта давала яму магчымасць павялічваць свой уплыў у Польшчы.

У 1717 г. адбыўся сойм, які ўвайшоў у гісторыю як «нямы», бо прадаўжаўся ўсяго 7 гадзін. Пацвердзіўшы пастановы сойма 1710 г., ён адначасова выказаў падзяку Пятру І за прысылку войска ў Польшчу і надзяліў яго правам быць пасрэднікам паміж каралём і яго падданымі ў час іх нязгоды. Усё гэта засведчыла выключную слабасць улады Рэчы Паспалітай, якая не магла адолець свае ўнутраныя супярэчнасці і таму фактычна добраахвотна аддала сябе пад уладу суседняй дзяржавы.

Праўда, польскія вярхі скора зразумелі, наколькі яны звязаны пастановай «нямога сойма», і таму рашылі кампенсаваць сваю немагчымасць змагацца са знешнімі «маскалямі», пад якімі лічылі Расію, сваёй барацьбой з унутранымі «маскалямі», пад якімі яны разумелі сваіх праваслаўных жыхароў. Менавіта супроць іх і накіроўваўся так званы «Праект 1718 г.», які быў абвешчаны на сойме віленскім канонікам Жаброўскім. Гэты дакумент не што іншае, як праграма канчатковага выкаранення праваслаўя ў Рэчы Паспалітай. Гэта і выцясненне з праваслаўя ўсіх знакамітых людзей, якія расселены па Беларусі, Украіне і Літве. гэта і пазбаўленне праваслаўных важных

службовых месцаў, якія б былі для іх гонарам, гэта і абавязак для кожнага паляка-католіка на ўсялякіх зборах паказваць сваю перавагу над праваслаўнымі і ўсяляк кпіць з іх, гэта і адхіленне праваслаўных — як знакамітым, так і простых — ад адукацыі і г.д., што штурхала да стварэння атмасферы нянавісці да праваслаўя і тым самым да яго знікнення ў дзяржаве. Пэўна ж, дэпутаты сойма ўхвалілі гэты праект, бо, як паказвае наказ полацкага ваяводскага сейміка сваім паслам на гэты сойм, яны абавязаны былі садзейнічаць узмацненню барацьбы супроць праваслаўя[70].

Аднак ганенне на праваслаўных не доўга працягвалася, бо, як заўсёды, яны знаходзілі абарону з боку Масквы, куды пасылаліся скаргі аб здзеках над імі. Пётр I ва ўльтыматыўнай форме звярнуўся да польскага ўрада аб спыненні гвалту над праваслаўнымі, што і прымусіла Аўгуста II выдаць адпаведны дэкрэт, якім катэгарычна забаранялася адбіраць ад праваслаўных цэрквы і манастыры і іх маёнткі, а таксама чыніць праваслаўным розныя здзекі.

Асекшыся на ганенні праваслаўных, польскі ўрад і каталіцкая царква рашылі заняцца уніяцкай царквой, што было больш бяспечна, паколькі за яе не мог заступіцца Пётр I, які, як ужо нам вядома, таксама быў самым заклятым яе праціўнікам. Але чым не задавальняла уніяцкая царква польска-каталіцкія колы, якія ў свой час стварылі яе? Рэч у тым, што яна па іх задуме павінна была стаць пераходным этапам ад праваслаўнай веры да каталіцкай, і таму ўсё рабілася, каб чым найболей загнаць у яе вернікаў. Але яны ў гэтым перастараліся. Зрабіўшыся самай шматлікай па колькасці прыходаў і вернікаў, уніяцкая царква стала самастойнай. Хоць прайшло ўжо звыш ста гадоў пасля яе стварэння, ніхто з яе вернікаў не перайшоў і не жадаў пераходзіць у каталіцкую веру, і таму зразумела, што для польска-каталіцкіх колаў яна стала такой жа перашкодай, як і праваслаўная царква. Вось чаму яны, адчуўшы сваю няўдачу ў барацьбе з праваслаўем, тэрмінова ўзяліся за уніяцтва. Дзеля гэтага ў 1720 г. у г. Замосце (у Люблінскім ваяводстве) быў скліканы уніяцкі сабор. Старшынёй яго з'яўляўся папскі нунцый. Цікава, што сярод уніяцкіх епіскапаў, якія прысутнічалі на саборы, быў і смаленскі уніяцкі епіскап, хаця, як вядома, Смаленск у гэты час ужо не быў у складзе Рэчы Паспалітай.

Аднак за час знаходжання Смаленшчыны ў складзе ВКЛ у ёй, як і ва ўсёй Беларусі, значна пашыралася уніяцтва, што нават у складзе Расіі яно трымала шчыльную сувязь з усёй уніяцкай царквой, пра што яскрава і сведчыць прысутнасць смаленскага епіскапа на гэтым саборы.

Зразумела, што такую масавую веру, якой была уніяцкая, ліквідаваць за кароткі час было немагчыма. Гэтаму найперш перашкодзіла б і шматлікае уніяцкае духавенства. І таму галоўнай задачай ініцыятараў склікання гэтага сінода і было: не ліквідуючы уніяцкай царквы, прыдаць ёй найбольшае падабенства да каталіцкай царквы. Гэтаму і садзейнічалі прынятыя саборам новыя дагматы і абрады уніяцкай царквы. З іх галоўнымі былі: прызнаваць непагрэшнасць рымскага папы і маліцца за яго здароўе, верыць у наяўнасць не толькі пекла і раю, але і чысцілішча, адзначаць пакутніцкую смерць Іасафата Кунцэвіча, пасвячаць у святары толькі бязжэнных асобаў, апранацца уніяцкім святарам гэтак жа, як і каталіцкія ксяндзы і інш. Былі таксама ўнесены змены ва ўнутраным выглядзе уніяцкіх храмаў накшталт каталіцкіх касцёлаў.

Пацярпеўшы няўдачу ў пачатку 20-х гадоў XVIII ст. у ганенні праваслаўя дзякуючы заступніцтву за яго Пятра І, польска-каталіцкія колы пасля заканчэння Паўночнай вайны і асабліва пасля смерці Пятра І зноў пачалі гэту перарваную справу. Тым больш што ў гэты час для іх склаліся спрыяльныя абставіны. Рэч у тым, што зараз на расійскім пасадзе пры імператрыцы Анне Іванаўне вялікі ўплыў атрымаў немец Бірон, які дружалюбна адносіўся да Польшчы і таму не мог, як Пётр І, перашкодзіць яе вярхам праводзіць дыскрымінацыйную палітыку супроць праваслаўя. У гэтых адносінах асабліва вызначыўся сойм, які быў скліканы ў 1732 г. у Варшаве. Дарэчы ён, як і папярэднія, не абыходзіўся без сварак і боек паміж дэпутатамі. І спрэчкі на гэтым сойме найперш узніклі паміж дэпутатамі ВКЛ і Польшчы, паколькі сойм быў скліканы ў Варшаве, а не ў Гародні, дзе яму трэба было адбыцца па чарговасці. Дык вось гэтым соймам і была ўтворана так званая «Генеральная канфедэрацыя», абавязкам якой з'яўляўся перагляд усіх прывілеяў, якія мела праваслаўная царква ў Рэчы Паспалітай. Паводле яе рэкамендацый было забаронена выбіраць праваслаўных у соймы і розныя трыбуналы, склікаць якія-небудзь з'ез-



*Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Аўгуст III. З партрэта XVIII ст.*

ды і сходы, прымаць праваслаўных на працу ў ваяводствах, гарадах і замках. Апроч таго, і што самае агіднае, праваслаўным святарам нельга было праводзіць хрэсьбіны, шлюбы і пахаванні без дазволу ксяндзоў і без унясення ўстаноўленай імі аплаты. Дайшло да таго, што пахаванні адбываліся толькі ноччу. Пашырэнню каталіцтва садзейнічала і патрабаванне, каб дзеці ў выніку змешаных шлюбаў запісваліся католікамі. Усё гэта яшчэ раз засведчыла, што каталіцызм быў галоўнай дарогай польскай экспансіі на Беларусі, паколькі пашырэнне яго тут цягнула за сабою ўсё шырэйшую паланізацыю.

Гэты працэс не спыніўся і пры наступным каралі Аўгусце III, які ўступіў на каралеўскі пасад пасля смерці свайго бацькі Аўгуста II ў 1733 г. Паколькі уніяцкая царква ў выніку Замосцкага сабору была ў вялікай меры акаталічана, то зараз зноў набыў масавы характар перавод праваслаўных манастыроў і цэркваў ва уніяцкія. Толькі з 1732 па 1743 г. па Беларускай і Тураўскай епархіях такому пераводу падвергліся 128 манастыроў і цэркваў. Прычым усё гэта суправаджалася гвалтамі над насельніцтвам, забойствамі тых, хто супраціўляўся гэтаму.

Такое наступленне на праваслаўе не магло не выклікаць супраціўлення з боку паасобных дзеячаў царквы. Адным з іх і быў Г. Каніскі, дзейнасць якога была звязана з Беларуссю, калі ён узначаліў у 1755 г. Беларускую епархію (яе цэнтр быў у Магілёве). Ён арганізаваў у Магілёве духоўную семінарыю, чым значна павысіў адукацыю праваслаўнага духавенства,



*Георгій Каніскі*

якое вельмі адстала ў гэтых адносінах. Г. Каніскі арганізаваў архіў царкоўных дакументаў, што дало магчымасць выратаваць шэраг манастыроў і цэркваў ад перадачы іх уніятам, паколькі гэта часта рабілася пад выглядам адсутнасці дакументаў на валоданне землямі пад гэтымі манастырамі і цэрквамі. Але як раней праваслаўная царква ў Рэчы Паспалітай, так і Г. Каніскі ў справе абароны яе найперш арыентаваўся на дапамогу Расіі, і таму заўсёды паведамляў у Пецярбург аб усіх ганеннях на праваслаўе з боку каталіцтва і уніяцтва і прасіў аб заступніцтве, у чым яму не адмаўлялі, што толькі ратавала праваслаўе ад канчатковай пагібелі ў Рэчы Паспалітай.

Важнай і, магчыма, выключнай асаблівасцю часу караля Аўгуста III было тое, што з 1736 па 1763 г. Рэч Паспалітая абышлася без войнаў. Здавалася б, што ўсё гэта будзе выкарыстана для ўнутранага ўмацавання дзяржавы, чаго не толькі не атрымалася, але ў гэтым кірунку яшчэ больш пагоршылася. Перастаўшы быць полем бітваў, Рэч Пспалітая стала прахадным дваром для чужаземных армій. Асабліва ў гэтых адносінах цярпела Беларусь. Менавіта перш за ўсё праз яе тэрыторыю рухаліся расійскія войскі, якія ішлі на вайну з іншымі дзяржавамі.

Па-ранейшаму вялікім злом для Рэчы Паспалітай была барацьба паміж магнацкімі родамі за сваё першынство ў дзяржаве. І нездарма ж у беларусаў з'явілася з выпадку гэтага прыказка: «У Польшчы кожны большы». Сапраўды, кожная магнацкая група, паказваючы сваю сілу, імкнулася аслабіць сваіх канкурэнтаў і таму, сабраўшы з падуладнай ёй шляхты і чэлядзі войска, рабіла на іх так званыя «наезды», г. зн. рабаўніц-

кія напады. Як дзяржаўны сойм, так і павятовыя соймікі суправаджаліся вялікімі спрэчкамі, якія вельмі часта пераходзілі ў бойкі са смяротным зыходам, як гэта было ў Менску, Лідзе і іншых гарадах, дзе па загаду К. Радзівіла былі забіты некалькі няўгодных яму дэпутатаў. Магнаты нават не грэбавалі арганізоўваць казацка-сялянскія атрады, якіх накіроўвалі на разгром маёнткаў сваіх сапернікаў.

Але не абышлося і без самастойных сялянскіх антыфеадальных выступленняў. Асабліва вызначалася па сваім размаху Крычаўскае паўстанне 1743 — 1744 гг. ва ўладаннях Радзівілаў. У той час многія феадалы з мэтай больш хуткага атрымання так патрэбных ім грошай на раскошнае жыццё і арганізацыю наездаў, здавалі свае маёнткі ў арэнду багатым яўрэям. Тыя, у сваю чаргу, каб пабольшыць свае прыбыткі, узмацнялі эксплуатацыю сялян, абкладалі іх рознымі пaборамі, што выклікала вялікую незадаволенасць, якая і штурхала на масавыя выступленні. Менавіта гэта і адбылося ў Крычаўскім старостве[71]. Паўстанне ўзначаліў селянін Васіль Вашчыла, які ўжо раней вызначаўся як арганізатар сялянскіх выступленняў. У канцы 1743 г. паасобныя сялянскія хваляванні перараслі ў масавае ўзброенае паўстанне з дзвюма тысячамі ўдзельнікаў. Яно было накіравана супроць феадалаў, арандатараў, купцоў, ліхвяроў. Захопліваліся маёнткі і дзялілася іх маёмасць, знішчаліся судовыя і даўгавыя кнігі, у якіх былі зарэгістраваны бязлітасныя прысуды і невыносныя падаткі. Аднак з прычыны стыхійнага характару і слабай узброенасці паўстанне пацярпела паразу. У лютым 1744 г. войска, пасланае Радзівілам, разграміла яго спачатку каля Крычава, а пасля каля в. Царкавішча. Многія яго ўдзельнікі былі пакараны смерцю. Вашчыла, трапіўшы ў турму, захварэў і скора памёр. Усё-ж паўстанне, нягледзячы на паразу, мела і пэўныя станоўчыя вынікі. Радзівіл вымушаны быў пайсці на некаторыя ўступкі, у тым ліку не даваць свае маёнткі ў арэнду.

Для Рэчы Паспалітай з гэтага часу характэрна было і ўсё большае аслабленне каралеўскай улады, якая фактычна была намінальнай. У гэтых адносінах асабліва паказальны кароль Аўгуст III. Пазбаўлены магчымасці што-небудзь рабіць у кіраванні дзяржавай, ён аказаўся ў стане беспрацоўнага і таму ўвесь час жыў у Дрэздэне, прыязджаючы ў Польшчу толькі на паля-

ванне і на соймы. Там жа ён і памёр у 1763 г., дзе і пахаваны. Абраннем новага караля Станіслава Панятоўскага ў 1764 г. і адкрыўся час канчатковага распаду Рэчы Паспалітай і яе расцягвання суседзямі.

## БАРСКАЯ КАНФЕДЭРАЦЫЯ І ПЕРШЫ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Ужо папярэдні разгляд гісторыі Рэчы Паспалітай паказаў, наколькі моцны быў уплыў Расіі ў гэтай дзяржаве. Пасля смерці Аўгуста III у 1763 г. гэта яшчэ больш узмацнілася, найперш у выніку яе застарэлай хваробы — барацьбы паміж магнацкімі групоўкамі за большы ўплыў у жыцці краіны. Як і заўсёды, гэта барацьба абвастралася ў час абрання новага караля. Так было і зараз. За абранне на каралеўскі пасад гэтым разам найбольш вострым было змаганне паміж Чартарыйскімі і Патоцкімі. У Расіі ў гэты час была ўжо Кацярына II. Да яе і звярнуўся Чартарыйскі з просьбай прысланць ім на дапамогу рускае войска, у чым ім, зразумела, не адмовілі. Менавіта злучаныя сілы ВКЛ і рускага атрада ў чэрвені 1764 г. атрымалі перамогу над войскам аднаго з найбольш магутных паплечнікаў Патоцкіх — Караля Радзівіла, захапіўшы яго крэпасці ў Нясвіжы і Слуцку. А сам іх уладальнік схаваўся за мяжой.

Гэта перамога і дала магчымасць Чартарыйскім 7 верасня 1764 г. правесці на каралеўскі пасад іх пляменніка — 35-гадовага Станіслава Панятоўскага. Усё гэта адбылося пры непасрэднай падтрымцы Кацярыны II, якая асабіста ведала новавыбранага караля, бо ён некаторы час жыў у Пецярбургу пры яе двары і, магчыма, нават быў яе фаварытам. Для поспеху абрання С. Панятоўскага каралём мела і тое, што ў Варшаве ў гэты час стаяла расійскае войска. Такім чынам, абранне С. Панятоўскага канчаткова замацавала рашаючы ўплыў Расіі ў Рэчы Паспалітай.

Яшчэ перад выбраннем новага караля Чартарыйскія рашылі прыняць новыя рэформы, якія б умацавалі цэнтральную ўладу дзяржавы. І хоць на адным з соймаў у 1764 г. і было абмежавана права вета і прыняты рашэнні пра ўпарадкаванне фінансавай і судовай спраў, аднак гэта выклікала супраціўлен-



*Станіслаў Панятоўскі, кароль польскі і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага. З партрэта XVIII ст.*

не кансерватыўных колаў грамадства, найперш магнатаў і шляхты, якім і была выгаднай слабая дзяржаўная ўлада. Спачатку гэтыя рэформы падтрымала і Расія, бо яна мела ў сваіх руках Рэч Паспалітую і ёй было выгадней бачыць яе больш умацаванай.

Па-ранейшаму для большага націску супроць Рэчы Паспалітай выкарыстоўваліся рэлігійныя справы, тым больш што ў ёй прадаўжалася палітыка праследу некаталіцкіх канфесій. Па ініцыятыве Прусіі і Расіі быў прапанаваны праект ураўнення ў правах дысідэнтаў (пратэстантаў і праваслаўных) з католікамі, на што згаджаўся і сам кароль Панятоўскі, але чаго не ўхваліў сойм. А гэта, як і ў папярэднія часы, пацягнула за сабой прысылку войскаў у Рэч Паспалітую, а менавіта на тэрыторыю Беларусі, дзе ў кастрычніку 1765 г. расійскімі войскамі былі захоплены Слуцк і Нясвіж.

У мэтах абароны кожнай з гэтых канфесій пачалі ўтварацца канфедэрацыі: пратэстанцкая ў Торуне, праваслаўная ў Слуцку. Больш за тое, у Радаме была створана каталіцкая канфедэрацыя, якая ўзяла курс на саюз з Расіяй. І самае дзіўнае, што на чале яе стаў К. Радзівіл, які раней займаў процілеглую пазіцыю і ўладанні якога раней захапіла рускае войска. Відаць, гэтым самым ён і хацеў вярнуць сабе страчанае. У выніку дзейнасці гэтых канфедэратаў, якіх падтрымлівала 40-тысячнае рускае войска, сойм у 1768 г. і вымушаны быў прыняць пастанову аб ураўненні дысідэнтаў у правах з католікамі, у тым ліку — права займаць дзяржаўныя пасады. Але хоць засталіся некранутымі такія правы дзяржаўнага жыцця Рэчы Паспалітай, як ліберум вета, выбарнасць караля, недатыкальнасць шляхецкіх

прывілеяў — усё, што аслабляла краіну, тым не менш рэакцыйныя, асабліва каталіцкія, колы, незадаволеныя ўраўненнем з іх правамі дысідэнтаў і саюзам з Расіяй, у тым жа 1768 г. у Бары стварылі сваю канфедэрацыю. Праўда, склад яе быў неаднолькавы. Хоць у яе ўвайшлі і сапраўдныя патрыёты, што выступалі за незалежнасць Польшчы, аднак у ёй задавалі тон кансерватыўныя элементы, для якіх найперш важна было захаваць «залатыя вольнасці» шляхты і асабліва вяршэнства каталіцкай царквы, і тым самым захаваць нацыянальна-рэлігійны прыгнёт над іншаверцамі. Тое, што Барская канфедэрацыя выступала за захаванне шляхецкіх прывілеяў, можа тлумачыць, чаму ў яе было шмат прыхільнікаў і на Беларусі, асабліва ў Берасцейскім і Мсціслаўскім ваяводствах, у Ваўкавыскім, Ашмянскім і Браслаўскім паветах. Вось чаму дзеянні барскіх канфедэратаў перакінуліся і на Беларусь. Супроць іх і былі кінуты расійскія войскі. Менавіта ў кастрычніку 1768 г. яны разбілі канфедэратаў пад Дзярэчынам і захапілі Нясвіж і Слуцк. Аднак у наступным годзе берасцейскі атрад канфедэратаў на чале з самім кіраўніком усёй канфедэрацыі Юзафам Пуласкім разбіў рускія войскі пад Берастовіцай, Слонімам і Мышшу. Дзеянні Барскай канфедэрацыі на Беларусі яшчэ больш пашырыліся ў наступныя два гады, асабліва калі на яе тэрыторыю ўступіў атрад Ш. Касакоўскага, які складаўся ў асноўным з дробнай шляхты і дзейнасць якога прасціралася ад Мядзеля да Менска. Пад уздзеяннем гэтага зноў канфедэратыўны рух перайшоў на Полаччыну, Ашмяншчыну, Браслаўшчыну і Мсціслаўшчыну.

Паколькі канфедэратыўны рух непасрэдна пагражаў Расіі, то яе ўрад прыняў усе меры, каб яго задушыць, для чаго і былі кінуты новыя войскі, што і дало першыя вынікі. Пад Навагародкам быў разбіты атрад Касакоўскага. Асабліва вызначыўся ў задушэнні Барскай канфедэрацыі славуты А. Сувораў, які ў гэты час са сваім войскам знаходзіўся ў Польшчы. Менавіта ім быў разбіты трохтысячны атрад вялікага гетмана ВКЛ М. Агінскага пад Сталовічамі ў верасні 1771 г.

Расправа з Барскай канфедэрацыяй як у ВКЛ, так і ў Польшчы канчаткова наблізіла Рэч Паспалітую да яе падзелу. Праўда, ініцыятыва гэта ішла не ад Расіі, бо яе цалкам задавальняла існаванне гэтай слабой і таму бяспечнай для яе дзяржавы, якая да таго ж знаходзілася пад непасрэдным яе

ўплывам. Ініцыятыва падзелу зыходзіла ад Прусіі, якая не магла далей мірыцца з тым, што Польшча адгароджвала яе ад Усходняй Прусіі. Менавіта ад прускага караля Фрыдрыха II паступіла прапанова да Расіі, без удзелу якой не мог адбыцца падзел Рэчы Паспалітай. На гэта Кацярына II і дала згоду. У перамовы аб падзеле некалькі пазней далучылася і Аўстрыя. І вось 5 жніўня 1772 г. у Пецярбургу паміж гэтымі трыма дзяржавамі і была падпісана дамова аб падзеле Рэчы Паспалітай. У выніку гэтага Прусія атрымала заходнюю частку Польшчы, Аўстрыя — паўднёвую яе частку і Галіцыю са Львовам, да Расіі адышлі Інфляндскае ваяводства, усход Полацкага ваяводства ( па правым беразе Зах. Дзвіны), Віцебскае ваяводства (за выключэннем яго крайняй заходняй часткі), усё Мсціслаўскае ваяводства, а таксама ўсходняя частка Менскага ваяводства (з Гомелем, Рагачовам, Прапойскам і Чавусамі)[72].

Лёс гэтых адрэзаных ад Рэчы Паспалітай частак склаўся па-рознаму. Відаць, удалым быў для Галіцыі. Менавіта знаходзячыся ў складзе Аўстрыйскай імперыі, гэта частка Украіны мела пэўныя ўмовы для свайго нацыянальнага развіцця. У Аўстрыі існавала ўласна ўкраінская курыя, якая пасылала сваіх дэпутатаў у парламент, што падкрэслівала нацыянальную асобнасць украінскага насельніцтва і тым самым спрыяла росту яго нацыянальнай свядомасці. Гэтым і тлумачыцца, чаму тут найперш і зарадзілася новая ўкраінская літаратура, а таксама тэатр і друк. Тут прадаўжала існаваць уніяцкая царква, якая была нацыянальнай украінскай. Часамі аўстрыйскі ўрад выкарыстоўваў украінскае насельніцтва ў сваіх палітычных мэтах. Так, калі ў 1846 г. аўстрыйскія палякі (а яны галоўным чынам былі памешчыкамі) паднялі паўстанне за аднаўленне Польшчы, то канцлер Аўстрыі Мэтэрніх на задушэнне гэтых памкненняў не паслаў ніводнага салдата, а натравіў на паўстанцаў галіцыйскіх сялян, скарыстаўшы іх класавую нянавісць да сваіх паноў, і яны (сяляне) за адну ноч вынішчылі паўстанцаў. У свой час А. Герцэн назваў гэта галіцыйскай пугачоўшчынай.

У сувязі з больш-менш выгадным становішчам часткі Украіны ў складзе Аўстрыі выказваецца меркаванне, што калі б частка Беларусі (захад Віленшчыны і Гарадзеншчыны) трапіла ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай пад уладу Прусіі, то ў

ёй бы больш паспяхова, як у Галіцыі ў складзе Аўстрыі, ішло нацыянальнае развіццё. Але, напэўна, так не было б. Прусія са сваёй моцна цэнтралізаванай уладай далёка не была падобнай на Аўстрыю, у якой дапускаўся пэўны федэралізм, і таму наўрад ці змірылася б тут з беларускім нацыянальным рухам. Вось надзвычай яскравы прыклад. Калі ў 1918 г. адна еўрапейская дэлегацыя ў сувязі з аднаўленнем Польшчы як дзяржавы наведала Познаншчыну, г. зн. тую частку Польшчы, якая была пад Прусіяй, то была здзіўлена, што яе ўсе насельнікі, якія мелі польскія прозвішчы, гаварылі толькі па-нямецку, а не па-польску. Вось такі лёс, відаць, чакаў бы і беларусаў, калі б яны трапілі пад уладу Прусіі.

З забраных Расіяй усходніх беларускіх тэрыторый былі ўтвораны Пскоўская губерня (некалькі пазней яна была перайменавана ў Полацкую) з правінцыямі Пскоўскай, Велікалуцкай, Дзвінскай (раней Ліфляндскай), Полацкай і Віцебскай з цэнтрам у Апочцы і Магілёўская губерня з правінцыямі Магілёўскай, Аршанскай, Рагачоўскай і Віцебскай[73].

Адразу на ўключаных у склад Расіі землях Беларусі афіцыйнай мовай замест польскай была ўведзена расійская[74]. І, такім чынам, Беларусь адразу трапіла з агню паланізацыі ў полымя русіфікацыі. Праўда, першая з іх не адразу знікла і нават у першую трэць XIX ст. дасягнула свайго піку дзякуючы А. Чартарыйскаму, які, стаўшы прыбліжаным расійскага цара Аляксандра I і адначасова будучы папячыцелем Віленскай вучэбнай акругі, у якую ўваходзіла амаль уся Беларусь, стаў адчыняць тут паўсюдна польскія школы, якія садзейнічалі далейшай паланізацыі. Менавіта гэтым і тлумачыцца, чаму А. Міцкевіч, У. Сыракомля, С. Манюшка і іншыя беларусы сталі выдатнымі дзеячамі польскай культуры. Толькі пасля задушэння паўстання 1830 — 1831 гг. паланізацыя на Беларусі была канчаткова зменена на не менш небяспечную русіфікацыю.

Разам з расійскай мовай на тэрыторыі Беларусі пачалі ўводзіцца характэрныя для Расіі ўстановы, напрыклад: губернскія і правінцыйныя суды, устанаўліваецца падаткі, якія павінны былі плаціць сяляне, а таксама купцы і яўрэі[5].

Але асаблівая ўвага была ўдзелена царкоўным справам. Найперш пад абарону была ўзята праваслаўная царква. Былі ўтвораны Пскоўская і Магілёўская праваслаўныя епархіі.

Апошнюю, як і раней у складзе Рэчы Паспалітай, узначаліў Г. Каніскі.

Было надалей забаронена пераходзіць праваслаўным у каталіцтва і асабліва ва уніяцтва. Рэарганізацыі падверглася і уніяцкая царква. Была ліквідавана Смаленская епархія з прычыны малой колькасці ў ёй вернікаў-уніятаў, але пакінута Полацкая епархія з падначаленнем ёй уніятаў на ўсёй тэрыторыі забранай Беларусі. Уніяты не толькі заахвочваліся да пераходу ў праваслаўе, але і гвалтоўна заганяліся ў яго. Так, па Полацкай епархіі было перацягнута ў праваслаўе каля 130 тысяч уніятаў, а па Магілёўскай — каля 120 тысяч. Устанаўлівалася, што ўсе сыны ад змешаных шлюбаў павінны лічыцца праваслаўнымі.

Звернута была ўвага і на арганізацыю каталіцкай царквы, для кіравання якой у Беларусі была створана Магілёўская епархія. Поле дзейнасці ёй было прадстаўлена вельмі шырокае, паколькі ёй павінны былі падначальвацца ўсе каталіцкія касцёлы і манастыры ва ўсёй Расіі. Гэта і дало ёй магчымасць у далейшым ператварыцца спачатку ў архіепіскапію, а пасля і ў мітраполію.

З мэтай абароны праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай была ўтворана адмысловая праваслаўная епархія, месцазнаходжаннем якой быў г. Слуцк. Епіскапам у ёй прызначылі В. Садкоўскага. Гэта менавіта ён на Слуцкім царкоўным саборы пагражаў мясцовым святарам, якія ў сваім набажэнстве ўжывалі зразумелую вернікам беларускую мову: «Я скараню, знішчу, штоб і языка не было вашага праклятага літоўскага»[76]. Зразумела, што тут пад літоўскай мовай разумелася беларуская, і гэта яшчэ раз паказвае, што ў той час паняцці «Літва» і «літоўская» адпавядалі сучасным «Беларусь» і «беларуская». Як бачым, расійскі стаўленік В. Садкоўскі адразу прыняў непрымірымую пазіцыю да беларускай мовы. Але калі праваслаўны епіскап В. Садкоўскі ўсё рабіў для таго, каб перацягнуць уніятаў у праваслаўе, то уніяцкі мітрапаліт Рэчы Паспалітай Смаргжэўскі ўсё рабіў для таго, каб паболей акаталічыць уніятаў.

Як ужо вядома, Замосцкі сабор 1720 г. абавязаў уніяцкую царкву прыняць шэраг каталіцкіх абрадаў. Аднак, відаць, гэта патрабаванне не асабліва выконвалася. Тым больш што былі

уніяцкія іерархі, як полацкі біскуп Лісоўскі, якія супраціўляліся акаталічванню уніятаў. Вось чаму Смаргжэўскі рашуча патрабаваў ад уніяцкіх святароў прыняцця каталіцкіх абрадаў.

## ЧАТЫРОХГАДОВЫ СОЙМ І ДРУГІ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Аднак большая частка Беларусі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай заставалася ў складзе апошняй. Як жа развіваліся падзеі ў далейшым? Зразумела, што патрыятычныя колы Польшчы не маглі не зрабіць адпаведных вывадаў з таго, што прывяло іх дзяржаву да такога гаротнага стану. І таму былі зроблены спробы да пэўнага ўпарадкавання дзяржаўнага жыцця, вываду яго са стану магнацкай анархіі. Гэтаму ў некаторай ступені магло спрыяць утварэнне ў 1775 г. Пастаяннай рады, у склад якой уваходзілі кароль і па 18 прадстаўнікоў ад сената сойма. Больш шырокаму развіццю асветы ў краіне спрыяла ўтвораная ў 1773 — 1775 гг. Адукацыйная камісія. У выніку яе дзейнасці, у прыватнасці, на Беларусі было адчынена 20 акруговых і паўакруговых школ, з якіх тры былі акадэмічныя (у Берасці, Гародні і Наваградку)[77]. Але паколькі выкладанне ў іх вялося па-польску, гэта садзейнічала далейшай паланізацыі Беларусі.

Нягледзячы на неспрыяльныя палітычныя ўмовы, у дзяржаве тым не менш ішло прыкметнае эканамічнае развіццё. Менавіта ў гэты час прадаўжаюць дзейнічаць і засноўваюцца на Беларусі прамысловыя аб'екты. Сярод іх Слуцкая шаўковая мануфактура, дзе выраблялісся славутыя паясы, шкляная мануфактура ва Урэччы, суконная ў Бабоўні, металургічны завод у Вішневе, што працаваў на мясцовай сыравіне, здабываючы жалеза з балотнай руды, судна-будаўнічы завод у Крычаве, будаўніцтва каналаў: Агінскага, які злучаў басейны Нёмана і Дняпра, і Днепра-Бугскага, што злучаў басейны Дняпра, Буга і Віслы.

Значныя дасягненні ў культуры Беларусі могуць характарызаваць тэатры Радзівіла ў Нясвіжы, Агінскага ў Слуцку, Тызенгаўза ў Гародні, выданне ў 1667 — 1776 гг. «Гродзенскай газеты» (першай у Беларусі). Для развіцця медыцыны ў

Беларусі мела вялікае значэнне адкрыццё ў 1775 г. Вышэйшай медыцынскай акадэміі, а для развіцця аграноміі — закладка батанічнага саду там жа, у Гародні. Намнога ўзбагацілі архітэктуру Беларусі збудаваныя ў той час храмы ў в. Вольна (Баранавіцкі р-н), у Жарычах (Слуцкі р-н), у Будславе (Мядзельскі р-н), Каралеўскі палац у Гародні і інш.

На палітычнае жыццё тагачаснай Рэчы Паспалітай вялікі ўплыў аказалі падзеі Французскай рэвалюцыі 1789 г. Наколькі яе ідэі праніклі ў свядомасць перадавых людзей Беларусі, сведчыць гісторыя з мазырскім шляхціцам Іосіфам Яленскім. Калі ён у 1794 г. быў арыштаваны ў Пецярбургу, то ў яго знайшлі паперы, паводле якіх павінна было быць поўнасцю адменена прыгоннае права, уведзена свабода веравызнання, абвешчана роўнасць грамадзян. Быў таксама заклік да сялян і перадавых людзей сваёй дзяржавы выступіць супроць ворагаў[78]. Калі Кацярына II азнаёмілася з гэтымі паперамі, то прыйшла ў жах ад выказанага ў іх закліку да роўнасці.

Патрыятычныя колы Рэчы Паспалітай перш за ўсё бачылі неабходнасць умацавання дзяржаўнай улады. І вось на чатырохгадовым сойме (1788 — 1792) у гэтым кірунку былі прыняты некаторыя рэформы. У прыватнасці, былі ўнесены некаторыя змены ў адміністрацыйны падзел дзяржавы, у выніку чаго колькасць паветаў у Беларусі ўзрасла да дваццаці. Але найважнейшым вынікам яго дзейнасці было прыняцце ім 3 мая 1791 г. Канстытуцыі, якая для таго часу ўтрымлівала ў сабе важныя прагрэсіўныя моманты. Дзеля ўмацавання дзяржавы ў ёй адмянялася выбарнасць караля. Таксама адмянялася ліберум вета і забараняліся канфедэрацыі. Выканаўчая ўлада ў дзяржаве належала каралю і радзе, якая складалася з прымаса (галоўнага кіраўніка каталіцкай царквы ў Польшчы) і пяці міністраў. Захоўваліся ранейшыя прывілеі шляхты, але адначасова адзначалася неабходнасць яе збліжэння з ніжэйшымі класамі, у прыватнасці з мяшчанствам, дзеля чаго ёй дазвалялася займацца гандлем, што раней не дазвалялася і лічылася для яе ганебнай справай. Разам з гэтым і мяшчанам дазвалялася набываць зямлю і займаць дзяржаўныя і вайсковыя пасады. У склад сойма ўводзіўся 21 прадстаўнік ад мяшчан, але толькі з дарадчым голасам.

Але, маючы ў сабе прагрэсіўныя моманты, Канстытуцыя 3 мая ў той жа час абмяжоўвала правы паасобных пластоў грамадства. Так, хоць і ўлічваліся змякчэнні ў прыгонным праве, аднак па-ранейшаму яно захоўвалася, г. зн. галоўнае, на чым трымалася эксплуатацыя сялян — гэтай большай у той час часткі народа.

Але найбольшую пагрозу Канстытуцыя 3 мая несла далейшаму існаванню ВКЛ, а разам з тым і існаванню беларусаў, украінцаў і літоўцаў. Справа ў тым, што Канстытуцыя аб'яўляла Рэч Паспалітую адзінай унітарнай дзяржавай і ўсё яе насельніцтва адзіным народам. Зразумела, што гэта прывяло б да ўтварэння адзінай польскай дзяржавы, якая, абапіраючыся на далейшую ўзмоцненую паланізацыю, ператварыла б разнароднае насельніцтва ў адзін польскі народ.

Аднак не абмежаванасць Канстытуцыі 3 мая, а прагрэсіўныя яе моманты выклікалі супраціўленне ёй у першую чаргу з боку магнатаў, бо яна пагражала далейшаму існаванню іх анархічных дзеянняў. Паколькі Канстытуцыя 3 мая пазбаўляла беззямельную шляхту выбарчага права, то і яна апынулася ў адзіным лагеры з магнатамі і з'яўлялася для іх важным рэзервам у барацьбе з абвешчанымі новымі парадкамі. Добра разумеючы, што Канстытуцыя 3 мая і для расійскіх уладных колаў уяўляла яўную пагрозу, магнацкая верхавіна найперш і звярнулася да Кацярыны II па дапамогу і атрымала яе. Быў складзены ў Пецярбургу акт канфедэрацыі, які ўпершыню абвешчаны ў мястэчку Тарговічы (на Украіне) 14 мая 1792 г. У гэтым дакуменце яўна прызнавалася, што канфедэрацыя накіравана супраць Канстытуцыі 3 мая ў імя захавання ранейшых парадкаў, пры якіх па-ранейшаму было б вяршэнства каталіцкай царквы і былі б некранутымі ўсе правы і прывілеі шляхты. Былі сканцэнтраваны расійскія войскі, у тым ліку і на Беларусі, у раёнах Полацка, Талачына, Рагачова і Дзвінска, і ў хуткім часе яны рушылі на тэрыторыю Рэчы Паспалітай. Тое ж зрабіла і Прусія. Расійскія войскі, якія рушылі з Беларусі, без асаблівага супраціўлення захапілі гарады Браслаў, Бабруйск, Нясвіж, Наваградак, Гародню. Толькі ў канцы мая 1792 г. пачалося супраціўленне заваёўнікам спачатку каля Опчы (раён Браслава), пасля пад Мірам, Зэльвай, Мсцібавай і Берасцем, дзе войскі

ВКЛ цярпелі паразы і пасля апошняй адступілі за Буг. Усе гэтыя перамогі расійскіх войскаў адбываліся пры актыўнай дапамозе Тарговіцкай канфедэрацыі, да якой урэшце далучыўся і кароль С. Панятоўскі, што фактычна азначала заканчэнне вайны.

Узяўшы ў свае рукі кіраванне дзяржавай, Тарговіцкая канфедэрацыя, якая з верасня 1792 г. стала называцца Найсвятлейшай канфедэрацыяй двух народаў (мелася на ўвазе народаў Польшчы і ВКЛ), пачала адхіляць усё прагрэсіўнае, што прыняў чатырохгадовы сойм. Найперш была адменена Канстытуцыя 3 мая, якая гарантавала дзейнасць прынятых рэформаў.

Аднак, калі расійскімі войскамі была захоплена Вільня, Падолле і сама Варшава, то гэтым пытанне аб чарговым, другім, падзеле Рэчы Паспалітай было прадвызначана.

І ён адбыўся. Паводле яго, Расіяй была захоплена цэнтральная частка Беларусі (па лініі Друя — Нарач — Стоўбцы — Пінск) і Правабярэжная Украіна. Прусія ж захапіла Торунь і Гданьск з іх акругамі. Для надання законнасці гэтаму захопніцкаму акту быў скліканы ў Гародні сойм, які павінен быў пацвердзіць гэты падзел. Але калі ў адносінах тэрыторыі, якая адышла да Расіі, сойм не выклікаў асаблівых пярэчанняў, то ў адносінах да тэрыторыі, што адышла да Прусіі, сойм энергічна запратэставаў. І гэта зразумела, бо тут ішла гаворка аб захопе карэнных польскіх зямель. Калі дэпутаты, якія найбольш пратэставалі, былі арыштаваныя, сойм на прапанову згадзіцца на перадачу зямельПрусіі рашыў адмаўчацца. У выніку трохразовых такіх акцый і прагучала фраза, якая пасля стала славутай: «Маўчанне — знак згоды», што і вырашыла лёс згаданых польскіх зямель. Аўстрыя на гэты раз не ўдзельнічала ў падзеле.

Як пасля першага, так і пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай расійскі ўрад ва ўноў захопленых землях Беларусі пачаў заводзіць свае адміністрацыйныя парадкі. Так адразу была ўтворана Менская губерня. Гэтак жа надаецца вялікая ўвага царкоўным справам, сведчаннем чаго з'явілася ўтварэнне Менскай праваслаўнай епархіі, улада якой пашырылася і на ўкраінскія губерні — Валынскую і Падольскую. Яе ўзначаліў ужо вядомы нам В. Садкоўскі. Калі раней ён вызначаўся сваім імкненнем выкінуць беларускую мову з праваслаўнага наба-

жэнства, то зараз, стаўшы епіскапам, а пасля і архіепіскапам, усю сваю энергію і заўзятасць прыклаў да ліквідацыі уніяцкай царквы. І хоць яму ўдалося перавесці значную колькасць уніятаў у праваслаўе, аднак многія не пажадалі пакінуць сваю веру, і яны былі падначалены полацкаму уніяцкаму архіепіскапу Лісоўскаму, які пазней быў узведзены ў мітрапаліты.



*Тадэвуш Касцюшка*

## ПАЎСТАННЕ 1794 г. І ТРЭЦІ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Зразумела, што два падзелы і заключаны саюз з Расіяй, па якім яна магла бесперашкодна ўмешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, набліжалі апошнюю да палітычнай бездані. І гэта не магло не выклікаць трывогі ў патрыятычных колах. Аднак тарговіцкія канфедэраты, якія тады дарваліся да ўлады, стваралі ўсялякія перашкоды для іх дзейнасці, і таму многія з іх, каб пазбавіцца рэпрэсій, вымушаны былі эміграваць. І тым не менш гэта не магло перашкодзіць узнікненню падпольных груповак як у самой Польшчы, так і ў асяроддзі эмігрантаў за мяжой, якія ставілі сваёй мэтай не толькі бараніць Рэч Паспалітую ад далейшага развалу, але і вярнуць пад яе ўладу раней страчаныя тэрыторыі. Ставілася таксама і задача аднаўлення Канстытуцыі 3 мая і рэформаў, праведзеных чатырохгадовым соймам. Так на глебе дзейнасці рэвалюцыйных груп канчаткова выспела рашэнне аб неабходнасці паўстання. Кіраўніком яго быў прызначаны Тадэвуш Касцюшка, які дзеля гэтага прыбыў у Кракаў з Саксоніі, дзе ён быў у эміграцыі. Касцюшка не з'яўляўся прыродным палякам. Ён паходзіў з даўняй беларускай шляхты, што жыла на Берасцейшчыне. Вайсковую адукацыю ён атрымліваў спачатку ў Вар-



*Якуб Ясінскі*

шаве, а пасля ў Парыжы. Ён рана пранікся ідэяй свабодалюбства і таму, выехаўшы ў Амерыку, прыняў самы непасрэдны ўдзел у барацьбе Злучаных Штатаў за незалежнасць ад Англіі. Яго вялікая заслуга ў гэтай справе была адзначана наданнем яму генеральскага чыну і званнем ганаровага грамадзяніна ЗША. Такі багаты баявы вопыт і жыццёвая загартоўка і рабілі яго вартым узначаліць паўстанне. І ён адразу ў сваіх універсалах, разасланых па краіне, заклікаў да ўсенароднага паўстання, у якім бы прынялі чынны ўдзел усе саслоўі грамадства і ратавалі сваю бацькаўшчыну.

І паўстанне выбухнула спачатку ў Кракаве, а пасля ў Варшаве, дзе яно было асабліва паспяховым. Тут 6 кастрычніка 1794 г. паўстанцы амаль поўнасцю вынішчылі дзесяцітысячнае расійскае войска. З Варшавы паўстанне перакінулася на Літву і Беларусь, дзе яно атрымала таксама даволі шырокі размах. Але калі ў Польшчы кіраваў паўстаннем беларус, ці, як ён сябе называў (што ўсё роўна), ліцвін Касцюшка, то ў Літве і Беларусі паўстанне ўзначальваў паляк палкоўнік Якуб Ясінскі. Ён таксама быў прыхільнікам рашучых рэвалюцыйных дзеянняў. У пачатку красавіка паўстанцы накіравалі свой удар супроць расійскага войска, якое знаходзілася ў Вільні. Адна частка яго была знішчана і ўзята ў палон, а частка адышла ў Гародню.

23 красавіка ў Вільні быў аб'яўлены акт паўстання, а таксама ўтвораны рэвалюцыйны ўрад — Найвышэйшая Літоўская рада. У красавіку — маі паўстанне пашырылася на Заходнюю Беларусь, дзе паўстанцы захапілі ўладу ў Берасці, Слоніме, Ваўкавыску, Ашмянах, Лідзе. Націск паўстання быў настолькі моцны, што расійскія войскі вымушаны былі адступіць на мяжу, што была перад другім падзелам Рэчы Паспалітай.

Аднак імклівае пашырэнне паўстання на Беларусі вельмі ўстрывожыла царскі ўрад. 11 мая 1794 г. менскі генерал-губернатар звярнуўся да галоўнакамандуючага расійскай арміяй з просьбай прысланць дадатковыя войскі супроць мяцежнікаў[79].

Я. Ясінскі ў ліку іншых рэвалюцыйных змен аб'яўляў і аб поўнай адмене прыгоннага права. І гэта ў сваю чаргу прыцягвала ў шэрагі паўстанцаў многіх беларускіх сялян. Што так было, можа яскрава сведчыць «Песня беларускіх жаўнераў», у якой гаварылася аб тых бедах, якія ім прынесла расійскае войска, і гучаў заклік «ісці жыва да Касцюшкі», дзе «рубаць будзем маскалюшкаў». Вось чаму царскія ўлады са свайго боку, каб адцягнуць сялян ад паўстання, пачалі цешыць іх абяцаннямі, што ім будуць перададзены землі, адабраныя ад паноў-паўстанцаў. І гэта ў значнай ступені зменшыла прыток сялян у шэрагі паўстанцаў.

Нягледзячы на цяжкасці, паўстанцы пад кіраўніцтвам Я. Ясінскага прадаўжалі весці паспяховыя бaі з расійскім войскам, пра што красамоўна сведчыць іх перамога ў баі каля в. Паляны. І тым не менш Я. Ясінскім не былі задаволены ў Варшаве. Памяркоўных прыхільнікаў паўстання (а іх было нямала там) найперш не задавальнялі яго паслядоўныя рэвалюцыйныя погляды і дзеянні. Сапраўды, такое патрабаванне Я. Ясінскага, як адмена прыгоннага права, перш за ўсё пагражала магнатам. У гэтых адносінах лёс Я. Ясінскага нагадваў лёс пазнейшага К. Каліноўскага — кіраўніка паўстання 1863 — 1864 гг. таксама ў Беларусі і Літве. Менавіта сваімі рашучымі дэмакратычнымі дзеяннямі ён выклікаў незадаволенасць кіраўнікоў Варшаўскага паўстання і таму быў часова адхілены ад кіравання паўстаннем у Беларусі і Літве. Тое ж самае, толькі намнога раней, адбылося і з Я. Ясінскім, які 4 чэрвеня 1794 г. быў адклікаваны з Вільні (некалькі пазней ён загінуў у баі пад Варшавай). Была адначасова распушчана і Найвышэйшая Літоўская рада, і замест яе ўтворана Цэнтральная дэпутацыя ВКЛ.

Была спроба пашырыць паўстанне і на ўсход Беларусі. М. - К. Агінскі з гэтай мэтай са сваім паўстанцкім атрадам у сярэдзіне мая 1794 г. прайшоў праз Валожын і Івянец, але быў разбіты. Гэта не адштурхнула яго ад далейшай барацьбы. У жніўні ён з новым атрадам прайшоў праз Браслаўшчыну на Дзвінск з



*Міхал Клеафас Агінскі*

мэтай адцягнуць расійскае войска ад Вільні, да якой яно падступала і якую яно захапіла 8 ліпеня. Вялікі прастор Беларусі ахопліваў у другой палове жніўня трохтысячны паўстанцкі атрад С. Грабоўскага, хваля якога закранула мясцовасці Івянца, Ракава, Койданава, Пухавіч, Асіповіч, Бабруйска. Аднак у раёне Любані ён быў разбіты.

Захапіўшы зноў тэрыторыю Беларусі і Літвы і задушыўшы тут паўстанне, расійскія войскі рушылі на тэрыторыю Польшчы, дзе былі сканцэнтраваны галоўныя сілы паўстанцаў. У разгроме іх і адыграў галоўную ролю знакаміты А. Сувораў. З сямітысячным атрадам ён рушыў спачатку на Валынь, дзе патапіў у крыві паўстанне, затым пайшоў на Падолле і разбіў пад Берасцем паўстанцкі корпус Серакоўскага. Пасля гэтага для Суворава была адчынена дарога на Варшаву, куды ён і паспяшаўся, каб, злучыўшыся з другім расійскім войскам, захапіць яе. Вось гэтага злучэння, ведаючы, што пасля яго Варшава не выстаіць, Касцюшка і рашыў не дапусціць, спачатку разбіўшы адно войска, а пасля і другое. Аднак у бітве пад в. Мацяёвічы яго войска было разбіта, а сам Касцюшка, цяжка паранены, быў узяты ў палон. Пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць, у 1796 г. ён быў выпушчаны адтуль і далейшае сваё жыццё да смерці ў 1817 г. пражыў у эміграцыі.

23 кастрычніка 1794 г. Варшава была захоплена, што азначала канчатковы разгром паўстання 1794 г., а разам з гэтым і канец існавання Рэчы Паспалітай. 15 лістапада 1794 г. Станіслаў Панятоўскі адмовіўся ад каралеўскага пасада і адправіўся ў Пецярбург, дзе праз тры гады і памёр. Параза паўстання і прадвырашыла трэці і канчатковы падзел Рэчы Паспалітай. Спачатку 23 снежня 1794 г. урады Расіі і Аўстрыі аб'явілі дэк-



*С. Грабоўскі, кіраўнік паўстанцкага атрада на Беларусі*

ларацыю аб гэтым[80]. Паводле яе да Расіі пераходзілі Гарадзенскае, Віленскае і Ковенскае ваяводствы, да Прусіі — уся цэнтральная Польшча з Варшавай, да Аўстрыі — Кракаў з яго акругай[81]. Галоўнай прычынай такога развалу былі магнацкая анархія і палітыка рэлігійнай нецярпімасці. Буйныя магнацкія роды, прагнучы большай улады і ўзбагачэння, уцягвалі ў сваю ўзаемную барацьбу вялікую колькасць насельніцтва, а таксама і суседнія дзяржавы, што непазбежна вяло да ўнутранага аслаблення і знешняга ўмяшання. Гэтак жа сама і імкненне рэакцыйных колаў акаталічыць іншаверцаў, у першую чаргу праваслаўных і пратэстантаў, давала повад Расіі і Прусіі пад выглядам абароны сваіх адзінаверцаў уводзіць свае войскі на тэрыторыю Рэчы Паспалітай, што зноў-такі абяссільвала яе і ўрэшце прывяло да развалу.

Так закончылася існаванне нашай беларускай дзяржавы, гісторыя якой доўжылася звыш паўтысячагоддзя. Праўда, у довад, што гэта дзяржава была толькі літоўскай, а не якой-небудзь іншай, прыводзіцца тое, што ў ёй панавала літоўская княская дынастыя. Але такі довад гэтак жа абсурдны, як і тое, калі б мы Кіеўскую дзяржаву называлі варажскай на падставе толькі таго, што ў ёй панавала варажская дынастыя Рурыкавічаў. Гэтак жа сама, як варажскія князі былі выкарыстаны Ноўгарадам для ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы, так і літоўскія князі-перабежчыкі былі выкарыстаны Навагародкам для ўтварэння ВКЛ, першым крокам для чаго, як мы бачылі, было заваяванне Літвы. У апошні час з'явілася прапанова лічыць ВКЛ беларуска-літоўскай ці літоўска-беларускай дзяржавай, паколькі ў яе ўваходзілі і беларускія і балцка-літоўскія

землі. Аднак, напрыклад, Маскоўскую дзяржаву, у якую ўваходзілі і угра-фінскія землі, не называюць руска-угра-фінскай, а рускай дзяржавай. І гэта зразумела, бо угра-фінскія землі былі заваяваны і падначалены Маскве. Гэтак жа балцка-літоўскія землі былі заваяваны і падначалены Новагародку, і таму няма ніякіх падстаў лічыць ВКЛ беларуска-літоўскай ці літоўска-беларускай дзяржавай, бо яна была адметнай беларускай дзяржавай. Нельга адмаўляць называцца ВКЛ беларускай дзяржавай і таму, што ў яе ўваходзілі паасобныя рускія ці ўкраінскія землі. Тым больш, што яны знаходзіліся ў складзе ВКЛ толькі часова. Першыя з іх былі адваяваны Масквой, другія ў час Люблінскай уніі выйшлі са складу ВКЛ і аддаліся пад «Карону», г. зн. пад уладу Польшчы. І такім чынам у ВКЛ засталіся толькі беларускія і балцка-літоўскія землі.

Фактычна, разуменне ВКЛ як літоўскай дзяржавы ў сучасным значэнні гэтага слова трымаецца толькі на яго назве. Калі гэта дзяржава так называлася, то зразумела, маўляў, Літва была ў ёй пануючай. Але не заўсёды гэты стэрэатып так спрацоўвае. Так, буйнейшая нямецкая дзяржава са сталіцай у Берліне называлася Прусіяй, г. зн. назвай той зямлі, якая была заваявана, яе балцкае насельніцтва прусаў было асімілявана крыжакамі ў XI—XII стст., але якая сваёй назвы не толькі не страціла, але і пашырыла далёка на ўсход Нямеччыны. Дык вось як у Прусіі апроч назвы не было нічога першапачатковага прускага, так і ў ВКЛ апроч яго назвы не было нічога літоўскага ў сучасным значэнні гэтага слова. Гэтак жа сама як Прусія была заваявана немцамі, так і Старажытная Літва была заваявана Новагародкам. Але як Прусія, так і Літва пасля яе заваявання не толькі не страціла сваёй назвы, але і пашырыла яе на захад у сувязі з перанясеннем сталіцы ў Вільню на тэрыторыю сучаснай Літвы. І таму як нельга лічыць, што назва Прусія прыйшла з Берліна да Балтыйскага мора, бо ўсё было наадварот, так у і нельга лічыць, што назва Літва прыйшла з Вільні ў Беларускае Панямонне, бо ўсё, як адзначалася намі раней, было наадварот.

Аб выключным панаванні беларушчыны ў ВКЛ яскрава сведчыць і тое, што пасля страты сваёй дзяржаўнасці, пазбаўленыя сваёй асветы, друку, царквы, г. зн. усяго таго, пры дапамозе чаго найперш ажыццяўляецца асіміляцыя адным на-

родам другога, беларусы, не маючы ўсяго гэтага, тым не менш па інерцыі працягвалі «без шуму і гвалту», як трапна зазначыў А. Качубінскі (Журн. М-ва нар. просв. 1897. № 1. С. 66), асіміляваць летувісаў, у тым ліку і на тэрыторыі сучаснай Летувы. Гэта добра пацвердзіў перапіс насельніцтва ў 1897 г. Паводле яго ў Віленскім і Свянцянскім паветах беларусы складалі найбольшыя нацыянальныя групы, і іх вялікая колькасць была ў Троцкім павеце і іншых месцах Летувы (Ширяев Е. Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах. Мн., 1991. С.78—80).

Зразумела, не так лёгка пераадолець традыцыйную канцэпцыю ўтварэння далейшай гісторыі ВКЛ, якая звыш чатырох стагоддзяў пануе ў гістарыяграфіі дзякуючы таму, што яна найперш адпавядала інтарэсам Масквы, якая пад выглядам вызвалення адзінакроўнага і адзінавернага народа з-пад улады літоўска-язычніцкіх князёў ажыццяўляла сваю агрэсію супроць ВКЛ. Выкарысталі гэту фальсіфікацыю і жамойцкія феадалы, якія, прэтэндуючы на першынство ў дзяржаве, прыпісвалі сваім князям і справу стварэння ВКЛ. Гэту застарэлую версію ў мэтах падтрымання нацыянальнага гонару працягваюць сучасныя летувіскія даследчыкі. Каб упэўніцца ў гэтым, варта толькі прачытаць кнігу З. Кяўпа, Ю. Кяўпене і А. Кунцэвічуса «Гісторыя Летувы да 1795 г.», выдадзеную ў 1995 г. у Вільнюсе на летувіскай мове. У ёй, як і раней, шляхам замоўчвання важных гістарычных сведчанняў, як, напрыклад, аб заваяванні Міндоўгам і Войшалкам Літвы, прыпісвання ўсяго, што насіла назву Літвы і літоўскага, да сучаснай тэрыторыі Летувы, ВКЛ паказваецца выключна як летувіская дзяржава. Аднак гісторыю народа можна сказіць не толькі яе прыніжэннем, але і непамерным узвышэннем. Толькі праўдзівая гісторыя з'яўляецца сапраўдным духоўным здабыткам народа. Час міфаў беззваротна прайшоў. Сучасная гістарычная навука ўжо не можа з імі мірыцца. Шматлікія гістарычныя факты, прыведзеныя ў гэтай кнізе, адвяргаюць буйнейшую гістарычную фальсіфікацыю. Насуперак ёй яны паказваюць, што ВКЛ як па сваім утварэнні, так і па далейшым сваім гістарычным змесце была тыпова беларускай дзяржавай.

Яшчэ да афіцыйнага падзелу Рэчы Паспалітай, што было аб'яўлена 24 кастрычніка 1794 г., Кацярына II у маі гэтага года выдала ўказ менскаму генерал-губернатару аб прыняцці пры-

сягі ад насельніцтва далучаных да Расіі тэрыторый па гэтым падзеле[82]. Трэці падзел Рэчы Паспалітай азначаў і канчатковую ліквідацыю беларускай дзяржаўнасці, якая мела звыш тысячагадовую гісторыю. Спачатку ў форме племянных саюзаў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, пасля ў форме паасобных княстваў (Полацкага, Турава-Пінскага, Смаленскага, Новагародскага і Старажытнай Літвы), што ў XIII — XIV стст. аб'ядналіся ў ВКЛ, якое з'явілася вышэйшым этапам у развіцці беларускай дзяржаўнасці ў мінулым. Аднак, акружанае варожымі дзяржавамі, ВКЛ вымушана было пайсці ў выніку Крэўскай і іншых за ёй уній на злучэнне з Польшчай, што ў значнай ступені абмяжоўвала суверэнітэт ВКЛ, асабліва пасля апошняй Люблінскай уніі. Тым не менш Рэч Паспалітая была федэратыўнай дзяржавай, у якой ВКЛ не траціла дзяржаўных прыкмет. Яно мела свой дзяржаўны герб — «Пагоню», сваё войска, сваю грашовую сістэму і інш. Аднак усяго гэтага ВКЛ пазбавілася пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай і захопу ўсёй яго тэрыторыі Расіяй. Як ужо было бачна, адразу ўводзіліся расійскія адміністрацыйныя і прававыя парадкі. Ужо 14 снежня 1795 г. на тэрыторыі Беларусі, захопленай пасля трэцяга падзелу, былі ўтвораны Віленская і Слонімская губерні, якія праз год былі аб'яднаныя ў адну Літоўскую губерню, а раней далучаныя Полацкая і Магілёўская былі аб'яднаны ў адну — Беларускую губерню. (Гэта добра сведчыць, што ў той час разумелася пад Літвой і пад Беларуссю.) Але пазней гэтыя спрадвечныя для нас назвы ўласнай імператарскай рукою Мікалая I былі заменены на казённую мянушку «Северо-Западный край». Было забаронена ў юрыдычнай справе прымяняць Літоўскі Статут, а з гэтым пачалі нішчыцца многія прававыя нормы беларусаў. Зліквідавана была і уніяцкая царква, гвалтоўна аб'яднаная з праваслаўнай. Так закрэсліваліся рэшткі ўсяго, што вызначала беларусаў як асобны народ і што магло сведчыць аб іх ранейшай самастойнасці.

Адначасова з нацыянальным узрос і сацыяльны ўціск беларускага народа. Па-першае, далучэнне Беларусі да Расіі не вызваліла беларускіх сялянаў з-пад прыгнёту польскіх памешчыкаў. Кацярына II адразу паклапацілася пра апошніх, выдаўшы 3 снежня 1795 г. рэскрыпт аб вяртанні іх маёнткаў у Беларусі[83].І ў той жа час насаджала расійскіх памешчыкаў,

аддаючы сваім генералам і афіцэрам, якія ўдзельнічалі ў задушэнні паўстання 1794 г., буйныя зямельныя надзелы ў Беларусі[84]. Толькі А. Сувораву, гэтаму галоўнаму душыцелю паўстання, было аддадзена звыш 13 тысяч беларускіх сялян (увесь Кобрынскі павет). Такім чынам, беларускія сяляне (а яны тады складалі галоўную масу народа) у выніку далучэння да Расіі папалі пад двайны прыгнёт польскіх і расійскіх памешчыкаў, да якіх дадаліся і расійскія чыноўнікі.

Аднак і гэты страшэнны нацыянальны і сацыяльны ўціск не змог змярцвіць беларусаў як народ. Што ж, калі яны змаглі скласціся і вырасці на зямлі, дзе амаль бесперастанку лютавалі знішчальныя войны, то ўжо гэта характарызуе іх як выключна жыццяздольную нацыю. І таму яна змагла пераадолець і найцяжэйшыя выпрабаванні на сваім шляху ў XIX і XX стагоддзях, захаваўшы сваю адметнасць як народа і адрадзіўшы сваю дзяржаўнасць. Паслядоўнае адстойванне гэтага і з'яўляецца цвёрдым грунтам для далейшага паўнакроўнага гістрычнага жыцця беларускага народа.

---

[1] Акты Западной России (АЗР). Т. III. С. 162—163.
[2] Соловьев С. История России. Т. VI. М., 1960. С. 626.
[3] ПСРЛ. Т. XXXII. С. 117.
[4] АЗР. Т. III. С. 177—182.
[5] ПСРЛ. Т. XXXII. С. 117.
[6] Тамсама.
[7] АЗР. Т. III. С. 191—192.
[8] Тамсама. С. 198.
[9] Тамсама. С. 202—206.
[10] ПСРЛ. Т. XXXII. С. 117.
[11] Соловьев С. Указ.кн. С. 648.
[12] АЗР. Т. III. С. 209, 214, 219.
[13] Соловьев С. Указ. кн. С. 650.
[14] ПСРЛ. Т. XXXII. С. 118.
[15] Тамсама. С. 118—119.
[16] Соловьев С. Указ. кн. С. 658.
[17] ПСРЛ. Т.35. С. 129.
[18] Тамсама. Т. 32. С. 130.
[19] Тамсама. Т. 35. С. 128,145, 173,193,214.
[20] Тамсама. Т. 32. С. 18.

[21] Тамсама. Т. 35. С. 129

[22] БЭФ. Т. 1. Мн., 1959. С. 374—375.

[23] Тамсама. С. 369.

[24] Тамсама. С. 370.

[25] Мараш Я. Оч. истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. Мн., 1974. С. 226.

[26] ПСРЛ. Т. 32. С. 182.

[27] Гісторыя БССР. Т. 1. Мн., 1970. С. 242—248.

[28] Тамсама. С. 248.

[29] ПСРЛ. Т. 32. С. 188.

[30] Тамсама.

[31] БЭФ. Т. 1. С. 426—439.

[32] Брянцев П. История Литовского государства. Вильно, 1899. С.445.

[33] Советская историческая энциклопедия. Т. 8. М., 1965. С. 610.

[34] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мн., 1996. С. 479.

[35] Тамсама. С. 480.

[36] ПСРЛ. Т. 32. С. 195.

[37] Гісторыя БССР. Т. 1. С. 295.

[38] БЭФ. Т. II. С. 61—62.

[39] Тамсама. С. 30, 34, 35 і інш.

[40] Тамсама. С. 60.

[41] Исторические записки № 37. М., 1951. С. 133.

[42] Купала Я. Збор твораў. Т. V . Мн., 1962. С. 102—103.

[43] Акты изд. Виленской комиссией. Т. 34. С. 9.

[44] БЭФ. Т.II. С.113, 142, 165 і інш.

[45] Тамсама. С. 61, 65, 70, 81, 92, 100, 104, 114, 115, 124.

[46] Гісторыя Беларускай ССР (ГБ). Т. I. Мн., 1972. С. 311.

[47] БЭФ. Т.II. С. 69.

[48] Тамсама. С. 71.

[49] Тамсама. С. 85—86.

[50] Тамсама. С. 113.

[51] Тамсама. С. 118—119.

[52] Акты Южной и Западной России (АЮЗР). Т. XIV. С. 550.

[53] Тамсама. С.551.

[54] Сагановіч Г. Невядомая вайна. Мн., 1995. С. 39.

[55] БЭФ. Т. II. С. 138.

[56] Тамсама. С. 142.

[57] ГБ. Т. I. С. 324.

[58] Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательных местах Белоруссии. СПб, 1855. С. 161.

[59] Тамсама. С. 161—163.

[60] Живописная Россия. СПб, 1862. Т.III. С. 429 - 472.

[61] Образование СССР. М., 1949. С. 115.

[62] ГБ. Т.I. С. 328.

[63] БЭФ. Т. II. С. 358.
[64] Тамсама. С. 359.
[65] Тамсама. С. 376.
[66] Тамсама. С. 362.
[67] Беларускія летапісы і хронікі (БЛХ). Мн., 1998. С. 266.
[68] Тамсама. С. 267.
[69] Тамсама. С. 208, 424.
[70] БЭФ. Т. II. С. 364.
[71] Тамсама. С. 389.
[72] БЭФ. Т. III. С. 29.
[73] Тамсама. С. 25.
[74] Тамсама. С. 26.
[75] Тамсама. С. 32—35.
[76] Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 224.
[77] БелСЭ. Т. I. Мн., 1969. С. 132.
[78] Гісторыя Беларускай ССР. Т. I. Мн., 1972. С. 461.
[79] БЭФ. Т.III. С. 70—71.
[80] Тамсама. С. 72—74.
[81] Тамсама. С: 78—79.
[82] Тамсама. С. 78—79.
[83] Тамсама. С. 74—75.
[84] Тамсама. С. 79, 85—91.

# ЗМЕСТ

Уступнае слова ........................................ 3

## НОВАГАРОДСКІ ПЕРЫЯД (1246—1316)

ГІСТОРЫЯ ПЫТАННЯ ........................................ 7
ЦІ ТОЛЬКІ РАЗДРОБЛЕНАСЦЬ І СЛАБАСЦЬ? ........................................ 12
СТАРАЖЫТНАЯ ЛІТВА — ГІСТАРЫЧНАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСІ ........................................ 25
ЛІТОЎСКІЯ НАБЕГІ І СЛАВЯНСКАЯ КАЛАНІЗАЦЫЯ ........................................ 42
ДЛЯ КАГО БЫЛА БОЛЬШАЯ ПАГРОЗА ? ........................................ 56
ШТО Ж ЗАВАЯВАЎ МІНДОЎГ ? ........................................ 63
ПАЛІТЫКА ВОЙШАЛКА І ДРУГОЕ ЗАВАЯВАННЕ ЛІТВЫ ........................................ 74
ЧАС ТРАЙДЗЕНЯ ........................................ 94
ЗАНЯПАД НОВАГАРОДКА І НОВАЕ ЎЗВЫШЭННЕ ПОЛАЦКА ........................................ 106

## ВІЛЕНСКІ ПЕРЫЯД
## (1316–1385)

ВІЛЬНЯ ........................................ 129
ЯКОГА ЯНЫ РОДУ? ........................................ 133
ХТО ЁН, ГЕДЗІМІН ? ........................................ 136
ДЗЕ МІРНА, А ДЗЕ ПАД ПРЫМУСАМ ........................................ 139
АДНАЎЛЕННЕ ПОЛАЦКАЙ ПАЛІТЫКІ
Ў АДНОСІНАХ ДА ПСКОВА І НОЎГАРАДА ........................................ 141
ПЕРШЫЯ СУПЯРЭЧНАСЦІ З МАСКВОЙ ........................................ 143
УЗАЕМААДНОСІНЫ З РЫГАЙ І ОРДЭНАМ ........................................ 146
ПРА ШТО ПАСВЕДЧЫЎ ЛЕТАПІС ПАД 1326 г. ........................................ 148
І ХРЫСЦІЯНСТВА, І ЯЗЫЧНІЦТВА ........................................ 149
У ДУХУ ПОЛАЦКІХ ТРАДЫЦЫЙ ........................................ 152
САЮЗ З ПОЛЬШЧАЙ, ЯГО ПЛЮСЫ І МІНУСЫ ........................................ 155
БАРАЦЬБА З ЛІВОНІЯЙ ........................................ 159
СЫНЫ ГЕДЗІМІНА І ІХ УДЗЕЛЫ ........................................ 164
ВІЦЕБСКІЯ КЛОПАТЫ АЛЬГЕРДА ........................................ 167
АЛЬГЕРД СТАНОВІЦЦА НА ЧАЛЕ ДЗЯРЖАВЫ ........................................ 171
ПСКОЎСКІЯ І НАЎГАРОДСКІЯ СПРАВЫ
АЛЬГЕРДА ........................................ 177
З ПОЎНАЧЫ НА ЎСХОД ........................................ 179
АДНОСІНЫ З МАСКВОЙ ........................................ 183
З УСХОДУ НА ПОЎДЗЕНЬ ........................................ 188
АСОБА АЛЬГЕРДА ........................................ 194
ЯГАЙЛА І АНДРЭЙ ПОЛАЦКІ ........................................ 196
ЯГАЙЛА І КЕЙСТУТ ........................................ 202
ЯГАЙЛА І ВІТАЎТ ........................................ 207

## КРЭЎСКІ ПЕРЫЯД
## (1385—1569)

КРЭЎСКАЯ УНІЯ ........ 219
ЗНОЎ ПАЎСТАЕ АНДРЭЙ ПОЛАЦКІ ........ 224
ХРЫШЧЭННЕ ЯЗЫЧНІКАЎ ........ 227
ВІТАЎТ ПАЧЫНАЕ БАРАЦЬБУ І ПЕРАМАГАЕ ........ 231
У ЗМАГАННІ
З УДЗЕЛЬНЫМІ КНЯЗЯМІ ........ 235
ПАДНАЧАЛЕННЕ СМАЛЕНСКА І НОЎГАРАДА ........ 237
ПАХОД НА ТАТАРАЎ ........ 242
ЗНОЎ СМАЛЕНСКІЯ І НАЎГАРОДСКІЯ СПРАВЫ ........ 244
ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА:
ЯЕ ПРЫЧЫНЫ І ВЫНІКІ ........ 248
У АПОШНІЯ ГАДЫ ЖЫЦЦЯ ........ 254
СВІДРЫГАЙЛА І ЖЫГІМОНТ:
ІХ АНТАГАНІЗМ І ПАДАБЕНСТВА ........ 258
ДОЎГІ І НЯРОЎНЫ ЧАС КАЗІМІРА (1440—1492) ........ 263
НЕШЧАСЛІВЫ ЧАС АЛЯКСАНДРА ........ 271
КАРОЛЬ І ВЯЛІКІ КНЯЗЬ НОВЫ,
ПРАБЛЕМЫ РАНЕЙШЫЯ ........ 279
СТРАТА СМАЛЕНСКА ........ 283
АРШАНСКАЯ БІТВА І ПАСЛЯ ЯЕ ........ 288
ЗНОЎ НАПАДЫ І ПРЫМІРЭННІ ........ 297
ДЗЯРЖАЎНЫ І ГРАМАДСКІ ЛАД ВКЛ ........ 303
ЛІВОНСКАЯ ВАЙНА ........ 311
ЛЮБЛІНСКАЯ УНІЯ: ЯЕ ПАДРЫХТОЎКА,
ПРАВЯДЗЕННЕ І ВЫНІКІ ........ 317

## ПЕРЫЯД РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (1569—1795)

ЧАС БЕСКАРАЛЕЎЯ ..... 331
ПРАЦЯГ І ЗАКАНЧЭННЕ ЛІВОНСКАЙ ВАЙНЫ ..... 339
НАСТУП КАТАЛІЦТВА, ПАДРЫХТОЎКА І ПРАВЯДЗЕННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ ..... 349
КАЗАЦКІ АТРАД С. НАЛІВАЙКІ НА БЕЛАРУСІ ..... 361
І ГОЛАД, І ПАЎСТАННЕ ..... 365
ПАШЫРЭННЕ І ЎМАЦАВАННЕ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ ..... 367
ІЛЖЭДЗМІТРЫЙ І ВАЙНА ПОЛЬШЧЫ З РАСІЯЙ ..... 369
КАЗАЦКІЯ АТРАДЫ Б. ХМЯЛЬНІЦКАГА НА БЕЛАРУСІ ..... 373
ПАЧАТАК «ПАТОПУ» ..... 376
ХТО Ж ЁН, ПАКЛОНСКІ? ..... 380
ЯШЧЭ АДНА УНІЯ ..... 384
ВАЙНА ЗНОЎ РУСКА-ПОЛЬСКАЯ ..... 389
АПОШНЯЯ ТРЭЦЬ XVII СТАГОДДЗЯ ..... 395
ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА ..... 402
ПА ШЛЯХУ ДАЛЕЙШАГА ЗАНЯПАДУ ..... 409
БАРСКАЯ КАНФЕДЭРАЦЫЯ І ПЕРШЫ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ ..... 415
ЧАТЫРОХГАДОВЫ СОЙМ І ДРУГІ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ ..... 421
ПАЎСТАННЕ 1794 г. І ТРЭЦІ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ ..... 425

# CONTENTS

Preface ..........................................................................................................

## THE NOVAGARODAK PERIOD (1246–1316)

THE HISTORICAL BACKGROUND .................................................. 7
NOT JUST DISUNITY AND WEAKNESS .......................................... 12
ANCIENT LITVA AS A HISTORIC PART
OF BELARUS ........................................................................................ 25
RAIDS BY LITHUANIANS AND SLAVIC COLONIZATION .......... 42
WHO WAS IN THE GREATEST DANGER? ....................................... 56
WHAT DID MINDOUG CONQUER? .................................................. 63
VOISHALK'S POLICY AND THE SECOND CONQUEST
OF LITVA ............................................................................................. 74
THE TIME OF TRAIDZEN ................................................................. 94
DECLINE OF NOVAGARODAK AND
A NEW RISE OF POLATSAK ............................................................ 106

## THE VILNYA PERIOD
## (1316–1385)

VILNYA .......... 129
WHERE DID THEY COME FROM? .......... 133
WHO IS HE, GEDZIMIN? .......... 136
BY THEIR OWN WILL OR BY FORCE .......... 139
POLATSK RENEWS IT'S POLICY REGARDING PSKOW
AND NOUGARAD .......... 141
THE FIRST CONTRADICTIONS WITH MOSCOW .......... 143
RELATIONS WITH RYGA AND THE ORDER .......... 146
WHAT THE CHRONICLE OF 1329 NARRATED .......... 148
BOTH CHRISTIANITY AND PAGANISM .......... 149
IN LINE WITH THE TRADITIONS OF POLATSK .......... 152
THE UNION WITH POLAND, ITS ADVANTAGES
AND DISADVANTAGES .......... 155
STRUGGLE AGAINST LIVONIA .......... 159
GEDZIMIN'S SONS AND THEIR SHARES .......... 164
ALGERD'S CONCERNS OF VITSEBSK .......... 167
ALGERD BECOMES THE HEAD OF THE STATE .......... 171
ALGERD'S CONCERNS OF PSKOU AND NOUGARAD .......... 177
FROM THE NORTH TO THE EAST .......... 179
RELATIONS WITH MOSCOW .......... 183
FROM THE EAST TO THE SOUTH .......... 188
ALGERD'S PERSONALITY .......... 194
YAGAILA AND ANDREI POLATSKY .......... 196
YAGAILA AND KEISTUT .......... 202
YAGAILA AND VITAUT .......... 207

## THE KREVA PERIOD (1385–1569)

KREUSKAYA UNIA ........ 219
ANDREI POLATSKY REVOLTS AGAIN ........ 224
BAPTISM OF PAGANS ........ 227
VITAUT BEGINS A STRUGGLE AND
WINS A VICTORY ........ 231
WITH LOCAL PRINCES ........ 235
SUBORDINATION OF SMALENSK AND NOUGARAD ........ 237
CAMPAIGN AGAINST TATARS ........ 242
SMALENSK AND NOUGARAD CONCERNS AGAIN ........ 244
GRUNVALD BATTLE: ITS REASONS AND RESULTS ........ 248
THE LAST YEARS OF LIFE ........ 254
SVIDRYGAILA AND ZHYGIMONT:
THEIR ANTAGONISM AND SIMILARTY ........ 258
LONG-LASTING UPS AND DOWNS
OF KAZIMIR (1440—1492) ........ 263
UNHAPPY TIME OF ALEKSANDR ........ 271
NEW KING AND GRAND DUKE FACING
THE OLD PROBLEMS ........ 279
LOSS OF SMALENSK ........ 283
ARSHANSKAYA BATTLE AND THE TIME AFTER IT ........ 288
STATE AND SOCIAL SYSTEM
OF THE GREAT LITHUANIAN PRINCIPALITY ........ 303
LIVONSKAYA WAR ........ 311
LUBLINSKAYA UNIA: PREPARATION, CARRYING OUT
AND RESULTS ........ 317

## THE RETCH POSPOLITAYA PERIOD (1569—1795)


TIME WITHOUT A KING ............ 331
CONTINUATION AND END OF LIVONSKAY WAR ............ 339
ADVANCE OF CATOLICISM, PREPARATION AND CARRYING OUT
OF BERASTSEISKAYA CHURCH UNIA ............ 349
COZACS DETACHMENT OF S. NALIVAIKA IN BELARUS ............ 361
BOTH STARVATION AND REVOLT ............ 365
EXPANSION AND STREIGTHENING
OF THE CHURCH UNIA ............ 367
PSEUDO-DZMITRY AND THE WAR OF POLAND
AND RUSSIA ............ 369
COZACS DETACHMENT OF B. KHMELNITSKY
IN BELARUS ............ 373
BEGINNING OF «THE FLOOD» ............ 376
PAKLONSKY, WHO IS HE? ............ 380
ONE MORE UNIA ............ 384
RUSSIAN-POLISH WAR AGAIN ............ 389
THE LAST THIRD OF THE 7th CENTURY ............ 395
THE NORTH WAR ............ 402
ON THE WAY OF THE FURTHER DECLINE ............ 409
BARSKAYA CONFEDERATION AND THE FIRST DEVISION
OF RETCH POSPOLITA ............ 415
FOUR-YEARS SOIM AND THE SECOND DEVISION
OF RETCH POSPOLITA ............ 421
THE REVOLT OF THE YEAR 1794 AND THE THIRD DEVISION
OF RETCH POSPOLITA ............ 425

**Ермаловіч М.**

Е 72 Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. – Мн.: "Белліт-фонд", 2000. –448 с.

ISBN 985-6576-08-3.

Гэта — яго кніга жыцця. Мікола Ермаловіч (1921—2000), выдатны беларускі гісторык і пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, вярнуў нам нашу сапраўдную гісторыю, знявечаную, абылганую, адабраную ад нас лжэвучонымі і палітыканамі. Аўтар працаваў над ёй да апошніх сваіх дзён, паспеўшы ўнесці ў яе ўсе неабходныя праўкі і дапаўненні. Чытач упершыню мае магчымасць у поўным выглядзе пазнаёміцца з праўдзівай гісторыяй беларускай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага.

**УДК 947.6**

**ББК 63.3 (4 Бен) 4**

Выдавецтва «Беллітфонд»
шчыра дзякуе

**Грамадскаму аб'яднанню**
**«Беларускае таварыства інвалідаў па зроку»**
*(старшыня — Анатоль Іванавіч Нятылькін)*

**Фірме «Претти»**

**сп. Алесю Гуркову**

**сп. Алесю Галянтаву**

**сп. Вінцэнту Чорнаму**

**сп. Валянціну Макарэвічу**

**сп. Францішку Швайбовічу**

**сп. Сяргею Чыславу**

**сп. Уладзіміру Цярохіну**

за дапамогу ў выданні
гэтай кнігі.

*Навуковае выданне*

МІКОЛА ІВАНАВІЧ ЕРМАЛОВІЧ

БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА
ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

Рэдактар *І. Качаткова*
Карэктары *З. Губашына, А. Гава*
Камп'ютарны набор *А. Федарэнка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Вайчок*
Адказны за выпуск *М. Міхноўскі*

Падпісана да друку 17.03.2000 г.
Фармат 60x90 $^1/_{16}$. Друк афсетны. Папера афсетная.
Гарнітура Times New Roman. Ум.-друк. арк. 28,0.
Наклад 8500 паасобнікаў. Зак. 683.

**ГА «Беллітфонд»**
**220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5.**
**Ліцэнзія ЛВ № 364 ад 3.02.1999 г.**

**Пры ўдзеле МГА «Беларускі кнігазбор»**
**220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5.**
**Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.1997 г.**

***Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка***
***на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце***
***ВПП імя Я. Коласа.***
***220005, г. Мінск, вул. Чырвоная, 23.***